Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Эзэпа Драздовіча:
на 1-й стар.: «Над безданню», 1931 г.;
на 4-й стар.: «Пагоня», 1927 г.




Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.



Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.



Здадзена ў набор 20.06.2018 г. Падпісана да друку 30.07.2018 г.
Фармат 70x108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў.




№4 (95)
/ліпень-жнівень/ 2018

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Алена Брава



...нашыя джунглі захлынаюцца ад ціхага гвалту,
дзе кожны нішчыць слабейшага...

# Дзень забітых птушак

***Фрагмент з рамана "Садомская яблыня"***

## 1. Прапанаваныя абставіны

«Няўжо ты кінула пісаць, Інга?» – акругляючы вочы, пыталася старая выкладчыца літаратуры. Якая адбыла ў свой гістарычны рай і вось наведала пекла турысткай, – магчыма, каб вастрэй адчуць кантраст паміж новай радзімай і мінулым ізгойствам. Што ж, лепшага месца для аскетычнай экскурсіі (медыцынская страхоўка, віза, пашпарт!), чым барак, дзе я пасялілася з сынам, ва ўсім гарадку не знайшлося б. Халупа мясцілася побач з міліцыяй і мела панадворак – упрыгажэннем яго былі лужынкі памыяў, якія ніколі не высыхалі; у мінімалістычны антураж утапліваліся юныя стварэнні, пакідаючы аддзяленне з навюткімі пашпартамі ды ванільнымі надзеямі. Зрэшты, ванільныя надзеі па сваёй прыродзе такія, што да іх не пристае ніякі пабочны пах. Хто-хто, а я дык ведаю.

Пытанне выкладчыцы, якая выбралася ў госці да любімай вучаніцы, было ну акурат да месца: задраўшы прыпол стракатай замежнай сукенкі, настаўніца пераступала праз натуральную перашкоду ў выглядзе майго суседа Сцёпы, спадчыннага алкаголіка, што ляжаў на лесвіцы ў лужыне ўласных фізіялагічных вадкасцяў. Калісьці педагагіня падарыла гітару дзесяцікласніцы, якая складала песні, пісала апавяданні на роднай мове («Цікава, што з цябе атрымаецца?» – тэлевядоўца атрымалася, кажуць, ад бога, вось толькі якога: фараонавай улады Хора? бога хора?). А цяпер выпускніца педінстытута, якую кінуў муж, каб ажаніцца з яе лепшай сяброўкай (так я, хітрамудрае стварэнне, казала цікаўным – зрэшты, гэта нельга было назваць няпраўдай), паднесла да вачэй наіўнай рэпатрыянткі пасведчанне мясцовай газеты, у якім было напісана: «КАРЭСПАНДЭНТ».

І не тое каб я прагнула напіцца з ракі на імя Факт, ад веку заражанай крываўкай ды халерай рэчкі. Але тыя, хто маштабна і канструктыўна, у тэорыі ды на практыцы, з бацькоўскім клопатам, у поце чала свайго, з верай у светлую будучыню, дзённа і ночна, з вялікай прыроднай мудрасцю, стратэгічна і тактычна... уххп, стамілася пералічваць, – ну, тыя самавітыя мужчыны, рэктары-міністры-дэпутаты, што клапоцяцца пра нас, «дарагіх сваіх выпускнікоў», не прадугледзелі для майго дыплома адной дробязі – магчымасці на яго пражыць. А ўдваіх з сынам і пагатоў. *Так нам гвалтоўна ласку зрабіць моцныя свету імкнуцца.* Пафігізм дэміургаў, у прынцыпе, зразумелы, бо факультэт дзявочы, а жанчына атрымлівае адукацыю, ясная рэч, каб знайсці мужа, вось толькі мне давялося паскоранымі тэмпамі ператварацца ў «супермужыка». Каб аплаціць заканурак ля сметніка, ежу, лекі й візіты да асклепіяў, якія не грэбавалі неафіцыйнымі ганарарамі. Бо ўлоў, незнарок здабыты праз *вуджанне*, дарагі ўлоў, выкліканы з донных глыбіняў, не павінен быў пакутаваць праз маю творчую ломку: ён на гэты сметнік не прасіўся.

Не прасіўся – а ўсё ж, прываблены вільготным шумам і варушэннямі, кінуўся цікаўным мальком – і трапіўся, і трапіліся рыбакі. Хто вінаваты, што народны кантрацэптыў – аварыйны лімон – быў з'едзены галоднымі студыёзусамі яшчэ ўчора? А знаёмая акушэрка, якая дзённа і ночна, у поце чала свайго, стратэгічна і тактычна – ну і г.д. – крала патрэбныя ампулы, каб у цеснай змычцы з галоўурачом заганяць такім, як я, залётным, аказалася ў адпачынку? Пытанні, якія васемнаццацігадовая цяжарная сабе задавала, мелі, між іншым, правільны адказ: вінаватая жанчына, а не той, хто п'яны ў хлам прыперся з бібліятэкі... вой, з дыскатэкі, дзе мацаў... ды не мудрасці свяшчэнныя сасуды, мацаў першакурсніц і распаліўся... не-не, нічога асабістага, толькі прырода. Вінаватыя прырода і жанчына: за цяжарнасць заўжды адказваюць двое! Потым не родзіш, прашыпелі ў кансультацыі, і мне зрабілася вельмі, вельмі страшна, бо я ўжо ведала ад добрага дарадцы ўсіх дзяўчат – тэлевізара – слова «прызначэнне», цымбальнае, як пабразгванне кольцаў на капоце шлюбнай «Волгі». Так на мяне надзелі ганаровы вянец мацярынства, хоць я тады мела іншыя планы на сваё жыццё. Праўда, мець *сваё* жыццё мне дазвалялася кароткі прамежак часу: ад школьнага выпускнога балю да той жаночай кансультацыі.

Мне лёгка даваліся літаратура і мовы. У мяне быў абсалютны слых: за тыдзень асвоіла самавучыцель ігры на гітары. Складала песні. Мае п'ескі ставіў школьны тэатр. Педагогі прадказвалі мне дзівосную будучыню ў

мастацтве. Калі муж нас кінуў, майму сыну Антону споўнілася тры гады. Дзіця было хваравітае і патрабавала ўвагі. Мяне ўзялі ў раённую газету кур'ерам; праз год перавялі карэспандэнтам.

У цудоўным выданні мне не раз давялося прайсці праз інтрыгі калег, вартыя лаўрэата сталінскай прэміі, – і цераз вуліцу яго, лаўрэата, імя (вуліца вядзе ў галоўны будынак на плошчы!). Хутка высветлілася: сыпаць моўнай пацярухай недастаткова, вырашальным з'яўлялася ўменне дагаджаць начальству і абараняць адваяваную тэрыторыю ад заўжды галодных канкурэнтаў. Мне ўдалося супрацьстаяць «падседжванню» з боку ўцякачкі з суседняй дзяржавы, дзе тая засядала ў ЦК; перш чым накрыцца медным тазам, ЦК паспеў, па гістарычнай традыцыі, пагуляць у салдацікаў (пад гусеніцамі танкаў) – і даме давялося даваць адтуль дзёру. Беглую партыйку, мордай падобную да ратвейлера, але ў бурштынавых пацерках (сантымент на адрас пакінутай радзімы), якая курыла «Беламор» і чытала газету «Камрад», укараніў у рэдакцыю нашай раёнкі адзін з яе заснавальнікаў, сам з «камрадаў». Мне ўдалося заехаць старой стукачцы дзвярыма па фізіі, калі тая падслухоўвала ля замочнай шчыліны. Складаней было з іншым засланцам заснавальніка, уцекачом з азіяцкай рэспублікі. Выкінуты нацыянальнай рэвалюцыяй з крэсла ў міністэрстве, ён прызямліўся ў нашым гарадку, куды плыла навалач з усіх канцоў пабуранага «адзінага, магутнага», і распачаў сваю дзейнасць з опуса «Нужна ли нам "мова"?». Неўзабаве ўпаў у маразм, дзе зрабіўся не часова, а заўсёды недаступны, у тым ліку для сябе самога.

Мне ўдалося процістаяць сільфідам, якія абслугоўвалі патрэбы рэдактара і бачылі ўва мне прэтэндэнтку на ягоны чэлес; процістаяць самому рэдактару, які бачыў ува мне прэтэндэнтку на ягонае крэсла. Паправіць здароўе сына. Выбрацца з барака ў наступнае інфернальнае кола – рабочую "абшчагу"; прайсці праз яшчэ восем колаў, гнюсных здымных кутоў. Удалося... Зрэшты, пераможны мартыралог маёй сцярвознасці, выбіты на гранітнай пліце, пад якой пахавана мая маладосць, складае хроніку, стандартную для правінцыі краіны, дзе я, Інга Куродым, нарадзілася і пражыла бязвыезна сорак два гады. Пазіцюйск – так я называю наш цудоўны гарадок, насельніцтва якога напалову складаецца з нашчадкаў мясцовых аграрыяў, напалову з прыезджых вайскоўцаў былой Чырвонакачаннай імперыі; населены пункт намёртва ўвабраў смурод алкагалізму і дзедаўшчыны. Жывую гаворку маіх продкаў цяпер толькі ўзгадваю.

І не толькі яе.

Напачатку я яшчэ наведвала фестывалі бардаў (сын начаваў у прадлёнцы, сустракаў мяне з сінякамі, у мокрых штоніках і заходзячыся ад плачу, нібы пасля ўікэнда ў турме) – і не запомніла, калі ўнутры мяне сціхла музыка, а гітара апынулася на антрэсолях. Нейкі час працягвала пісаць апавяданні «з жыцця» – іх ахвотна друкаваў сталічны часопіс. Аднак гэтае самае жыццё патрабавала ад мяне ўсё большых высілкаў, а праца і мацярынства – нястомных клопатаў. Мітусня, якая звалася кар'ерай, прыносіла плады з прысмакам попелу, якога я старалася не заўважаць. Я пачувалася ўсюдыіснай і ўсёеднай, як таракан «мёртвая галава». Інга Мёртвая Галава.

Свайго бацьку я не ведаю. Маці была харэографам. Сапраўдная прыгажуня, як абавязкова дадалі б мае калегі. Помню яе ў чырвоных каралях,

са стужкамі ў русых косах, у андараку і чырвоных боціках. Яна працавала ў мясцовым Доме культуры, танчыла ў народным ансамблі, размаўляла па-нашаму. Жылі мы на здымных кватэрах. Заезджы рэжысёр, у якога маці ў нядобры час закахалася, паклікаў яе з сабой на Усход, паабяцаў творчую кар'еру, магчымасць зарабіць на жытло. Мне тады споўнілася дзевяць гадоў. Маці я ніколі больш не пабачыла. Ад яе мне засталіся каралі ды андарак.

Выгадавала мяне цётка. Пры кожнай нагодзе сваякі не пераставалі казаць пра жудасны, неверагодны ўчынак той, якая мяне нарадзіла. Кінуць дзіця! Мярзотніца, лярва! Ды за такое трэба расстрэльваць! Разадраць, як жабу! Я была добрай і мяккай дзяўчынкай, але на мяне глядзелі як на дурное семя, ад якога невядома чаго чакаць. Загадзя перавыхоўвалі, як перавыхоўваюць малалетніх злачынцаў, хоць я не паспела зрабіць у жыцці нічога дрэннага. І, канечне, з маленства я ненавідзела жанчыну, якая мяне кінула. Цягнучы вазок з сынам у паліклініку, да хабарнікаў у белых халатах, я думала (ці паўтарала з чужога голасу?): мая маці – гадаўка, рабіла, што хацела, якое яна мела права *хацець*, займеўшы дзіця? Затое я, такая самаахвярная і праведная, ужо амаль навучылася хацець таго, чаго *павінна*. Асабліва важным мне здавалася не быць падобнай да той, якая нічым дзеля мяне не ахвяравала.

На трэці год маёй працы ў рэдакцыю, дзе я канвертавала ў сціплую колькасць грашовых знакаў прадукцыю свайго дысцыплінаванага мозгу, прыйшоў вялікі, увесь у замежных штэмпелях, канверт.

## 2. Інвазіўная мова

Чую стук кійка, і ўва мне ўзнімаецца хваля раздражнення. Пажылы мужчына, падобны да напаўзадушанага гобліна, чыкільгае наўпрост да здымачнай групы з відавочным намерам перашкодзіць запісу – і зусім не рэагуючы на люты твар, які робіць Яраслаў з-за камеры. Стоп, знята – сінхрон на тле білетных касаў і цягніка, дзякуй богу, адтрубадурылі, гераіня, пажылая касірка з зацкаванымі вачыма, адсакатала на «пятлічку» завучаны тэкст – «Я прысвяціла сябе высакароднай справе якой аддаю сябе без астатку ўжо трыццаць восем год дрыжанне зямлі і вібрацыя сцен сталі неад'емнымі атрыбутамі майго доўгага шчаслівага жыцця!» – яшчэ адна шчаслівіца, як жа. Гоблін вярзе лухту пра жонку і сабаку, якіх прывучыў танчыць пад гармонік. Сямейны дуэт не ведае стомы – спакой ім толькі сніцца! – і абавязкова прыме ўдзел у конкурсе, так-так, паважаная Інга Аляксандраўна!

– Наш пазітівный праект прынясёт зарад апцімізму, неабходзімы насяленію горада ў наша сложнае урэмя! Прыглашаць сюда артыстау са сталіцы непатрыяцічна! Чужымі рукамі мы сваё гарадское шчасце не пастроім! Пасля нашых выступленняу на заводах атмечэн усплеск прадукцыі! Толька творчэская жылка нашых жыцілей, якую мы праяулялі, праяуляем і упрэдзь будзем праяуляць, спасобна стаць нашым хлебам насушчным!

А таксама гідраўлічным штурхачом і цэнтрабежнай помпай, ага. Вісклівыя крыкі асяняюць уцягнутую ў плечы «гордую» галаву. «Падзельнік муз» (так ён адрэкамендаваўся) распаўсюджвае вакол сябе амбрэ нервова-паралітычнага адэкалону. Пачынаю задыхацца, а гоблін падступае ўсё бліжэй, яго вялікія валасатыя вушы драпежна варушацца. Калі

прадэманструю «негатыўнае мысленне», ёлуп запатрабуе нашу Галоўную Сакральную Кнігу. З’едліва цікаўлюся, ці не ўтварыліся ва ўсіх тут балячкі на языку ад прыказкі «ў наш складаны час», якую я чую ўжо гадоў дваццаць пяць. Гоблін паказвае мне ружовы язык – чысты, без болек! – і пачынае дэкламаваць сваю паэму. «І дзе б мы ні блудзілі па чужбіне, аб прэдках слауных памятка жыва!» А вось духоўны хлеб на кожны дзень: «Глядзіце на жызнь пазітывна, і свята на вуліцу вашу прыдзёт!».

Рэдакцыя тэлеканала «Суперпазітыўнае тэлебачанне», дзе я, медыясірэна мілагучная, вяду праграму «Шчаслівыя жанчыны рэгіёна», знаходзіцца на дзявятым паверсе Дома быту, самага высокага будынка на праспекце Чырвонай рэвалюцыі. Вокны нашага з Яраславам кабінета выходзяць на помнік Правадыру, увасобленаму ў звычным абліччы: у пінжаку, крысы якога нібыта развявае вецер вялікіх здзяйсненняў. За манументам – будынак штаба арміі, пампезнае ілжэбарока; калісьці белыя, яго калоны зрабіліся колеру пракураных зубоў, тынк месцамі абваліўся, дэманструючы карыёзную падкладку. Недалёка гіганцкім крабам застыў раённы Палац культуры. Архітэктурны ансамбль вывучаны мной да найменшых падрабязнасцей, але сёння мяне па-новаму ўражваюць яго карыкатурная ўрачыстасць, правінцыйная фанабэрыя. А чалавек, што шкрабецца ў кабінет, выклікае проста-такі гідлівасць.

Ветэранка-настаўніца, якая разкарламарксілася, аправаславілася, а нядаўна ўсвядоміла сябе «праваслаўнай казачкай», навалілася на мой стол. На маім твары пырскі чужой сліны. Пухлыя чырвоныя ручкі пхаюць мне альбом з вымпеламі ды анёлкамі на вокладцы. Адмовіць – значыць, асудзіць сябе на відовішча ператварэння анёла ў д’ябла, а я занадта стомленая для такой сцэны.

– У рамках конкурсу пазітыву традыцыі казацтва ўнясуць унёсак у нашу агульную справу выхавання маладога пакалення і лягуць у аснову шэрагу канструктыўных ініцыятыў, закліканых сумеснымі намаганнямі вырашаць праблему ў галіне адсутнасці духоўнасці! Ідэя пазітыўнага праекта лунала над горадам доўгія гады, саспела і звалілася на наш агульны дом у выглядзе пераспелага плада! – шпарыць «казачка», як на мітынгу.

Гэтая мова – інвазіўная расліна і пустазеллем буяе ў галовах абарыгенаў, якія дня пражыць не могуць без свайго ўлюбёнца, тэлевізара. Разам з калегамі я сею атрутную мову з экрана. Насенне ўкараняецца ў баразнах і майго мозгу, хоць я спадзяюся абараніць сябе, апранаючыся ў гідракасцюм іроніі. Я кплю з усяго, што ненавіджу. Кплю, калі сорам выядае мне вочы. Кплю з мёртвай тэлемовы. А назаўтра іду карміць сваёй крывёю, сваім мозгам жалезныя раты «развіцця», «прагрэсу» і, ясная рэч, «упэўненасці», якая жыве тут сумесна з «заўтрашнім днём». Пасмяротныя маскі зніклых сэнсаў, чучалы са шклянымі вачыма, словы грымяць сухімі гарошынамі ў бычыным пузыры, вырастаюць тэрыконамі шлаку на лузе жывой мовы. Усмоктваюцца ракавай пухлінай у мозг. Абараніцца ад тэлемовы немагчыма: мадыфікаванае хітрай інжынерыяй тэлевядоўцаў-піяршчыкаў слова мацнейшае за жывое.

Маёй хітрай інжынерыяй.

Але сапраўдную прагу забойства адчуваю, калі ў кабінеце з’яўляецца мясцовы вар’ят па прозвішчы Пукала. Выгляд у мужчыны феерычны: з

ног да галавы ён абвешаны флікерамі, быццам саньясін – пацеркамі. Спадзяецца аднойчы адлюстравацца *цалкам* і ператварыцца ў слуп святла, як нейкі ёг. Пукала прайшоў курс навучання ў гуру з Масковіі, «прасвятлеў» і называе сябе Светланосным. У поўню Шызаносны выганяе са свайго жытла васіліскаў, якія спяваюць (пачвараў ніхто не бачыў, што зразумела). А ў чырвоныя дні календара здзяйсняе рытуал «утаймавання эга»: абыходзіць смеццевыя кантэйнеры, збіраючы выключна бутэлькі, якія не бяруць у пунктах прыёму шклатары; бадзягі адносяцца да высокадухоўнага канкурэнта паблажліва.

Сёння Флікераносны ў кампаніі заўзятаркі, якая мае не толькі ўзнёслую душу, але і востры зрок, бо здольная разглядзець геніяў у тутэйшых алкаголіках. Жанчына пачынае дэкламаваць свае «кааны»; міжволі адзначаю ў яе роце дзіркі – вынік траўматычна элімінаваных чарговым сужыцелем зубоў. Але горш за ўсё важкі рукапіс, які Пукала спрабуе мне ўперці – на конкурс! Казань пра хуткае прышэсце васіліскаў, хто б сумняваўся. У выпадку адмовы ён запатрабуе Галоўную Сакральную Кнігу ўстановы, куды запіша сваю скаргу! Ацаніўшы працоўныя выдаткі, з ледзяной усмешкай (якая дэманструе стоадсоткавую наяўнасць разцоў ды іклоў, бо ў мяне няма палюбоўніка) прымаю неахайны сшытак з намаляванай на вокладцы тлустай зялёнай цыкадай.

Звоніць мабільнік. Пачынаецца чарговы этап конкурсу пазітыву, квохча работніца Палаца культуры, ай-ай-ай, хто асветіт мерапріятіе? Я гатовая адказаць, што мой працоўны дзень скончаны, аднак замест словаў выходзіць ціхае шыпенне: гэта канчаткова села батарэйка-энерджайзер, зараду якой хапіла на дваццаць год, даволі доўга, але ўсё ж не вечны рухавік. У кабінеце карэспандэнтаў – нікога, здымачная група з ветрыкам памчалася на акцыю па працаўладкаванні. На экране кампутара мігціць фраза, з якой заўтра пачнецца рэпартаж: «Беспрацоўе ператварылася ў працу і кінулася ў лес хутчэй за воўка». Хутчэй за воўка перабягаю праспект і вось ужо сяджу ў першым радзе, гляджу на танцораў, усміхаюся сябрам журы (калі ўвесь час насіць усмешку тэлевядоўцы, можна з'эканоміць на флікеры!) і працягваю ненавідзець сябе.

«Конкурс пазітыву» – дзецішча майго шэфа, Ягора Зізюновіча, генія розных блазенскіх шоў і конкурсаў. Так што ў мяне апошнім часам пабольшала абавязкаў («праектаў»), хоць і старыя ніхто не адмяняў. Справа ў тым, што прыватны тэлеканал «Аракул», які ўзначальвае вораг Зізюновіча – Швабрын, імкліва павялічвае колькасць сваіх абанентаў і рэкламадаўцаў. У барацьбе з канкурэнтам шэф выкарыстоўвае цяжкую артылерыю нацкоўвання, размазвання і шальмавання, але забаўляць тэлегледачоў таксама неабходна. Для гэтага прыдуманы «конкурс пазітыву». Адстаўнікі, якія адточваюць набытыя на палігонах навыкі ў скандалах на глебе надыходзячага маразму, заклікаюць мяне абудзіць у сабе «духоўнасць»; паэткі, у чыіх торбах пабразгваюць бутлі з *лякарствам* для каханага, дэкламуюць вершы, дзе «свечы» абавязкова рыфмуюцца з «плячамі»; ветэраны КПСС, эксгумаваныя кіраўніцтвам з невядомымі мэтамі, цягнуць мне свае «мемуары». Уся гэтая плойма мехам ляснутых угрызаецца дрылем тэлефонных званкоў у свой бетонны час, драпае яго пазногцямі; не здолеўшы паваліць тую камлыгу, адпраўляецца па рэдакцыях, бо лічыць: заклікі дыктараў «Заставайцеся з намі!» трэба разумець

літаральна. Ідэі гэтых людзей патрабуюць публічнасці – альбо, прынамсі, аднаго чалавека, які з прыязнай усмешкай выслухоўваў бы *дарагіх тэлеглядачоў*. Генератар падсправаздачнага аптымізму, гейзер цыркулярнай радасці, ветлівая нікчэмнасць, пасаджаная тут, каб атрымліваць пляўкі ў твар, – гэта я і ёсць.

### 3. Галава і шыя

Зваротны адрас – «Royaume de Belgique. Commissariat General Aux Refugies et Apatrides»[1] – прачытаць не здолелі ні рэдакцыйныя машыністкі, ні сам рэдактар, колькі ні вылупліваў на канверт пукатыя вочкі з бялкамі колеру старой газетнай паперы. Ліст на ангельскай ветліва прасіў паведаміць, ці з'яўляюцца копіі нумароў «Пазіцюйскага весніка» імі насамрэч. «Копіі» – на іх стаяла наша гербавая пячатка – выявіліся хітрамудрай фальшыўкай: замест інтэрв'ю пра спосабы ахаладжэння спермы быкоў біў па вачах опус «Заказное забойства». Яго ў газеце зроду не бывала, і вось, прамыйце вочы марганцоўкай і прачытайце пра бізнесоўца Л., якога задушылі дротам. Аўтар артыкула, аглядальнік Аляксеенка (звольнены з рэдакцыі за паўгода да з'яўлення канверта), звязваў дзёрзкі крымінал з палітычнай дзейнасцю ахвяры. У наступным ілжэнумары была выдрукавана нататка, якая абвяргала палітычную матывацыю забойства так непераканаўча, каб кожнаму – а галоўным чынам замежным камісарам па ўцекачах – стала зразумела: гэта казка, расказаная вам на палітычную ноч. Якая будзе цягнуцца вечна. Далей ілжэнататка – падпісаная, між іншым, прозвішчам рэдактара – спалохана паведамляла, што журналіст Аляксеенка звольнены з газеты «за некампетэнтнасць».

Шэф, ясная рэч, паплакаўся ў браніраваную камізэльку органам, і тыя высветлілі: забойства бізнесоўца Л. у Пазіцюйску не рэгістравалася, бо дадзены Л. ніколі не існаваў. Чаго яны не высветлілі, дык гэта таго, што дапамагла звольненаму Міхалу Аляксеенку згламэздаць «копіі» я, Інга Куродым. А менавіта – перадала яму гербавую пячатку, якая лічылася згубленай. Заяўляць аб прапажы не сталі, бо якраз памяняўся герб, а разам з ім пячаткі: рэдактар радасна пляскаў у лускаватыя экзематозныя далонькі. Пячатка з выявай вершніка валялася ў сметніцы – я ўзяла яе на памяць. Навошта? Сама не ведаю. І вось вершнік паспрабаваў прабіць Міхалу шлях на Захад. Потым быў выклік у асабнячок у натуральнай маскіроўцы ліп і клёнаў, дзе мяне дапытваў маладзён з бясколернымі вачыма і такі бялявы, што быў амаль нябачны на тле белай сцяны.

Чым скончылася гісторыя для Міхала, які недаацаніў педантычнасць іміграцкіх службаў – мо жахамі дэпартацыі? – я так і не даведался, бо з рэдакцыі мяне культурненька выперлі (на ўсякі выпадак). З Міхалам мы працавалі ў адным аддзеле, некалькі разоў ён праводзіў мяне дахаты. Скарчанелыя птушачкі, адна з птушанём, над якімі ўжо згушчалася ноч, – вось кім мы былі. Зрэшты, пра ноч – гэта былі Міхалавы словы. Мяне палітыка не цікавіла. Мая «палітыка» спала ў раскладным фатэлі, у халодным куце чарговай здымнай хаціны, і мне было няўцям, чым заўтра тую

---

[1] Royaume de Belgique. Commissariat General Aux Refugies et Apatrides (*франц.*) – Каралеўства Бельгія. Генеральны камісарыят па справах уцекачоў і асоб без грамадзянства.

«палітыку» карміць. Менавіта – заўтра, а не ў нейкім светлым будучым, якое ўсе яны, палітыкі, абяцалі. Карміць тры разы на дзень, здабываць лекі, адзенне, абутак, пасцельную бялізну і шмат чаго яшчэ.

Знайсці новую працу і рабіць яе добрасумленна, добрасумленнасць – галоўны козыр жанчыны ў барацьбе за працоўнае месца. Такое я прыняла рашэнне, выціраючы слёзы і зацягваючыся першай у жыцці цыгарэтай.

Зрэшты, працоўным энтузіязмам так званая жыццёвая мудрасць не вычэрпвалася. Прыстойныя, «правільныя» пазіцыйчанкі, можна сказаць, Сінкліт Мудрых жанчын гарадка (мудрыя, ясная рэч, шчаслівыя па змоўчанні – бо дакладна ведаюць рэцэпты шчасця!), пільна сачылі за выкананнем Жаночых Запаветаў. Згодна тым свяшчэнным Запаветам, мне належала верыць у мужчыну, якога трэба ўсяго толькі правільна падабраць па фасоне, і тады мужчына вынясе на сабе жанчыну з агню, хоць часам для яго з'яўляецца праблемай данесці вядро да смеццеправода. Мой муж, ясная халера, быў «няправільны», вяшчала спачувальная бабская арда, але ёсць жа іншыя! Пашукай вунь за той ёлачкай, мо і зловіш зайчыка. Стрэмкай у мазгах дваццаціпяцігадовай дурніцы сядзела мантра, якую я чула разоў пяцьсот, без сакральнай канстатацыі не абыходзіўся ніводны юбілей (не кажучы ўжо пра вяселлі): «МУЖЧЫНА – ГАЛАВА, ЖАНЧЫНА – ШЫЯ!».

Расціскваючы недапалак у сподачку, я глядзела на сына, які бясклапотна спаў, і залівалася слязьмі бездапаможнасці, і адчувала сябе шыяй, якая вымушана гнуцца і ўбірацца ў плечы.

Ці магла я тады пабачыць у сваім звальненні знак нябёсаў, гэткі куст незгаральны, вогненны дарожны паказальнік – памяняй лёс! Вох, калі б так. Рашучасць не была маёй моцнай рысай, як і вера ў свае сілы.

І тут у гарадку адкрыўся тэлеканал «Аўгур».

Наш старшыня выклаў няслабыя бюджэтныя грошы за магчымасць красавацца на экране сем дзён у тыдзень, што і пачаў рабіць разам са сваёй світай, хворай на *піярэю* (імкненне гэтых людзей да самапіяру часам нагадвае хваробу, хіба не?). Узначаліў тэлеканал *чыйсьці сын* – пэтэвэшнік па адукацыі, алкаголік па прызванні, затое *свой*. Перадусім я бачыла будучага начальніка на нейкім фэсце, паназірала, як ён бяжыцьПерадусім я бачыла будучага начальніка на нейкім фэсце, паназірала, як ён бяжыць, як гыркае нейкай кабеціне побач: «Чо дурку гоніш?! Я це, каза, чо грыл?!» Куды зручней яму было б пагрозліва ашчэрыць пашчу і, распырскваючы сліну шаленства, ператварыцца ў злоснага дварняка. Куды зручней яму было б адкінуць дарагую цацку, пагрозліва ашчэрыць пашчу і, распырскваючы сліну шаленства, ператварыцца ў злоснага дварняка. Працаваць пад кіраўніцтвам такога суб'екта не хацелася, але... да мяне ён можа паставіцца цалкам прыязна... жанчына да ўсяго прыцерпіцца... ну, што там яшчэ казаў сабе мой выкрутлівы розум?

З «барматухай» пэтэвэшнік завязаў (кадзіраванне), але набыў іншыя мілыя звычкі. Персанал на студыю падбіраўся малады, даўгалыгі, бо журналіста, як ваўка, ногі жывяць. Дзяўчатам доўгія ніжнія канечнасці патрабаваліся для гуллівых мэтаў. Праходзячы па калідоры, я чула, як дырэктар узбуджана гарлаў у слухаўку: «Сёння прыняў на працу дваццацігадовы набор дзірак – капыты адкінеш!!!» Да таго ж, шэф пакутаваў на комплекс непаўнавартасці, які прымушаў яго даказваць усім і кож-

наму: вышэйшая адукацыя – дурнота, не толькі бескарысная, але прама шкодная для розуму. У пацвярджэнне, касавурачыся на мяне, прыводзіў званкі ў рэдакцыю – нам штодня тэлефанавалі «неравнадушные зрыцелі». «Позірк Куродым, напрауленый у нашэ светлае заутра, – верашчалі яны, – какойта не наш: не акрашэны у асобенна цёплыя тана чылавечаскага участія па атнашэнію к прошламу і не помніт меры сваей атветственнасті перыд нашым будушчым. Нам такое прадалжэніе нашых долгіх лет жызні не нужна!». Я старанна папрацавала над сваім позіркам – і навучылася задавальняць патрэбы *дарагіх тэлегледачоў*.

Ішлі гады; ззяла сонца, ішоў дождж. Ішлі наведвальнікі. Аднойчы на мяне прыйшла скарга ў выканкам. Скаржнік, шматдзетны бацька, захацеў сказаць у пытанні нараджальнасці сваё важкае слова. На жаль, сказаць слова ён захацеў у мой мікрафон. Ён атакаваў здымачную групу на палях, але не дэмаграфіі – на сельгаспрадпрыемстве «Мірнае поле», дзе мы рабілі рэпартаж пра пасяўныя работы. Для аграрыя мужчына быў дэкарыраваны надта ўжо нясумна: на галаве цюбецейка, у руцэ стос уласнаручна накрэмзаных графікаў, побач – «лицо, заведомо беременное», кажучы мовай пратакола, – сведчанне таго, што эмпірычны досвед для даследчыка не менш важны, чым кабінетныя вышукі. Прамоўца палка даводзіў: рэзервы палавой энергіі нацыі не павінны спусташацца марна! Папаноўваў аздаравіць грамадства натуральным шляхам: забараніць аборты. Аднак «бюракрацiха» Куродым не дала герою слова ў эфіры, чым – ні многа, ні мала – учыніла перашкоды дэмаграфічнай бяспецы краіны. Тэлеканал быў пахаваны пад тлумачэннямі, якія даводзілася пісаць у розныя інстанцыі ў адказ на такое жахлівае абвінавачанне, атрымліваць адказы, адказваць аб прапрацоўцы адказаў у інстанцыі, вышэйстаячыя для папярэдніх інстанцый, перапраўляць адказы на адказы на адказы ў інстанцыі, якія кантралююць папярэднія інстанцыі, а копіі адпраўляць ніжэйстаячым інстанцыям... і хоць скончылася ўсё добра, пэтэвэшнік мне не дараваў. На Дні горада тэлеаператар Ярык Трацэвіч быў нападпітку, з-за *высокай паруснасці* карцінка са старшынёй, генералам ды моладзевым актывістам гайдалася, і гайдаўся над імі помнік Правадыру. «Аракул» здзекліва абвясціў пра адсутнасць стабільнасці ў гарадской палітыцы, пасля чаго звольнілі не аператара, а мяне: з вышэйшай адукацыяй, і да таго ж – баба. Няхай ідзе, падымае дэмаграфію!

Гэтым разам нябёсы прынялі аблічча чыгуннага балвана, гатовага раздушыць мяне, як мыш. Загадзя мокрую ад страху беспрацоўя – і нікольк не ўдзячную ветру перамен, які зноў падзьмуў у мае ветразі!

Пераадолеўшы звычныя разгубленасць і паніку, я патэлефанавала сяброўцы студэнцкіх год Марыне. «Канечне, прыязджай!» – узрадавалася Марына, супрацоўніца незалежнай газеты «Дзея».

Лёгка сказаць – прыязджай. Чатыры гадзіны ў дарозе штодня, а ў сына пераходны ўзрост. Тым часам мяне паклікаў вярнуцца на тэлеканал яго новы дырэктар: пэтэвэшнік *расшыўся*, напіўся, кагосьці збіў – і быў заменены.

Так я ў другі раз уладкавалася на тэлеканал «Аўгур» – цяпер ён называўся «Суперпазітыўнае тэлебачанне». Уладкавалася з надзеяй хутка яго пакінуць. Няхай толькі Антон скончыць гімназію, і вось тады...

Выплачу крэдыт за кватэру, а ўжо тады... Не, я не збіралася чакаць пенсіі ў гарадку, дзе будучае загадзя вядомае, дый няма ніякага будучага. Атрымліваць букеты на юбілеі, цярпець паляпванні па спіне, якая, вой, ужо не ўлазіць у амаль новую блузку... назіраць, як плеснеюць мае мазгі, якія былі калісьці такім гнуткім інструментам, што я абыгрывала хлопцаў у інтэлектуальных конкурсах... усімі зубнымі пратэзамі трымацца за крэсла дробнай служачай – ну, гэта калі не з'ездзіць, пакуль зубы яшчэ свае, у горад-пабрацім з уплывовай дэлегацыяй. Як зрабіла адна з гераінь майго эфіру пра шчаслівых жанок, Мінерва Кувырчык, загадчыца секцыі ўнівермага «Вясна». І вярнулася з той паездкі яго дырэктаркай, бо «завязала кантакты» з кімсьці Вельмі Уплывовым – на бягу, у падсобцы рэстарацыі, паміж другой падачай гарачага і клазетам. «Перэдавым опытам» яна чамусьці не дзеліцца перад камерай.

Апавяданняў я больш не пісала, літчасопісы прыбрала з вачэй – так пазбягае кіроўца вяночка на прыдарожным слупе, дзе пакінуў збітага ім пешахода. Толькі ў маім выпадку кіроўца і мёртвы пешаход – адна і тая ж асоба.

Неўзабаве Антон паступіў ва ўніверсітэт, а я запланавала паставіць у кватэры металічныя дзверы. Зірнуўшы ў краме на «бляшанкі», што стаялі ля сцяны ў рад, уразілася таму, як нагадваюць яны века труны.

Выйшла на вуліцу.

Запаліла.

Рукі ў мяне дрыжэлі.

## 4. Закон Вузкакалейкі

*Перад змярканнем дзень падобны да забітай птушкі.* Так пачыналася адна з маіх юнацкіх песень. Колькі птушак забіта на паляванні, якое ты вядзеш на сябе самую? Якое вядуць на цябе. Сёння трафей забяспечыць табе сціплую вячэру, а заўтра зноў трэба ісці забіваць.

«Праваслаўная казачка», жыватворна перахрысціўшыся, сышла.

Адправіўся на прасветленую рэвізію смеццевых кантэйнераў Пукала.

Адчыняю акно, запальваю цыгарэту.

Ненавіджу сваю працу да самых пячонак. Я перакавала сябе з хатняга арала на публічны меч – баба-і-мужык, два ў адным, заўжды са зніжкай, затое з даважкай. У мяне вельмі прыстойны *для жанчыны* заробак. За дзесяцігоддзі маё «аўтарскае мыла» не змылілася.

Са злосцю шпурляю недапалак у вакно.

На маім стале – натанік з лагатыпам тэлеканала. На планёрках у шэфа работнікі «Суперпазітыўнага тэлебачання» не падымаюць галоў ад сваіх запісаў. Аднойчы я выпадкова пабачыла, што менавіта строчыць з сур'ёзным выглядам вядучая дзіцячай праграмы: на зваротным баку службовага штодзённіка яна выпісвала каліграфічным почыркам выдатніцы мацернае слова. Пад рознымі нагодамі я зазірнула на *начны* бок нататнікаў калег і каляжанак. Акрамя мацюкання – вычварнага, бруднага – мае саслужыўцы любяць маляваць карыкатуры на шэфа. Эх, зрабіць бы выставу тых карыкатур! Мы спазналі б нешта новае пра сябе – ціхмяных, памяркоўных насельнікаў краіны ва Усходняй Еўропе. Найбольш уразіла мяне серыя коміксаў, дзе шэф спароўваецца з пад'ёмным кранам.

Дальбог, азалаціцца той, хто запатэнтуе выпуск двайных нататнікаў

(штодзённік пераварочваецца – і лёгкім рухам рукі ператвараецца ў *што-ночнік*!) для служачых нашых установ. На вокладцы са зваротнага боку раю выцiснуць: «ШТО Я ДУМАЮ НАСАМРЭЧ».

Двайнога дна няма толькі ў маім нататніку. На першых яго старонках перапісаны тэлефоны Патрэбных Людзей і Вельмі Патрэбных Людзей. Імя, імя па бацьку, прозвішча, пасада. Тэлефон гарадскі, тэлефон мабільны. Гэта службовы штодзённік кемлівай, стараннай жанчыны-працаўніцы, якой дораць на чарговы юбілей кухонны камбайн і ўзнагароджваюць ганаровай граматай за шматгадовую самаадданую працу.

Тым часам гнеў унутры мяне не знаходзіць, куды выплюхнуцца, і ператвараецца ў каменны плод – літапедыён.

Вось што я нашу ў сваім чэраве.

А мае калегі ды каляжанкі са сваімі брутальнымі карыкатурамі ўяўляюць сабой прыватны выпадак Закона Вузкакалейкі.

Што, дарэчы, за Закон такі?

Навуковы факт: ніхто з нас не здольны думаць некалькі думак адразу. Нават сэрца-дранік з вунь таго білборда, які я бачу ў акно, не прымусіць каціць па рэйках мозгу паравозікі розных ідэй адначасова. Сапраўднае ратаванне для людзей, якія ўсвядомілі: жыццё яны праводзяць не ў садзе багіні Амрыты, за чыёй хадой вырастаюць лугі шафрану і зямля набывае пах ладану, а зусім у іншым месцы. У кратавіне, напрыклад. Існаваць у кармавых хадах крата, без святла і паветра тым людзям (да якіх і я належу) з нейкіх прычын «жыццёва неабходна». Думаць пра гэта агідна, непрыемна дый проста шкодна для здароўя, а каб не думаць, трэба заняць розум чымсьці іншым. Пусціць па рэйках вясёлы курортны трамвайчык.

Да адкрыцця Закона Вузкакалейкі мяне прывялі не толькі «тэрапеўтычныя» карыкатуры маіх калег – гэта было б замала для такога кшталту абагульнення. Да адкрыцця Закона мяне прывялі шырокамаштабныя эмпірычныя назіранні, падмацаваныя грунтоўнымі доследамі ў статыстычна перараканаўчай выбарцы.

Я назірала за жанчынамі – гераінямі маіх сюжэтаў. Шчаслівіцамі з сумнымі вачыма. О, для нас «жыццёвая неабходнасць» – не пусты гук! А таму берагіні заводаў, ферм, школ, офісаў і, безумоўна, хатніх ачагоў даволі вынаходліва *забываюцца на жыццё*. Між іншым, гэты тэрмін таксама належыць маёй рэспандэнтцы, шчаслівай пані №1. Па-за эфірам я даведалася: кабета цярпець не можа сваю працу; такі стан рэчаў яна лічыць цалкам нармальным і агульнапрынятым. Забыць пра агіду да сябе, вымушанай хадзіць на ненавісную працу, ёй дапамагае развядзенне пекінэсаў. Шчаслівай пані №2 – у юнацтве яна марыла стаць акцёркай – празмернае спажыванне салодкага і тлустага. Трэцяя – яна мела талент маляваць – забываецца з дапамогай алкаголю. Чацвёртая кабета займела калекцыю фалаімітатараў, якім дала імёны ў гонар порназорак і стрыптызёраў. Пятая – гэтых «пятых» абсалютная большасць – падсела на тэлевізар. Тэлевізар, як вядома, найлепшы антыдэпрэсант – толькі не для мяне, тэлевядоўцы. Ёсць яшчэ шостыя, тыя дакладна самыя шчаслівыя, бо забываюцца ў каханні – яны заслугоўваюць асобнай гаворкі.

А цяпер – увага. Чалавек, які ў невыноснай сітуацыі *забываецца*, здольны трываць тую сітуацыю да бясконцасці. Ты ўпрыгожваеш сваю

турму, атрымліваеш палёгку ад карыкатур альбо сіліконавых сябручкоў (каму што больш даспадобы!), а цягнік твайго зямнога часу працягвае нязмушана ляцець пад адхон.

Мне сорак два; *забывацца на жыццё* я больш не хачу. Памяняць жыццё – вось мая мэта. Праўда, у мяне кантракт. Скасаваць яго па ўласным жаданні не атрымаецца, на амністыю ў выглядзе «пагаднення бакоў» шэф не пойдзе: як ні дзіўна пры такой колькасці шчасця, у нас кадравы голад. Штогод на тэлеканал дасылаюць свежых дзяўчат (хлопцаў разбіраюць сталічныя працадаўцы, што натуральна: хлопцы не цяжараць) – дасылаюць свежых дзяўчат – тут да месца будзе параўнанне з нейкім усходнім дэспатам, які рэгулярна абнаўляе свой гарэм, – так, накіроўваюць маладых спецыялістак з кузні кадраў журналістаў і піяршчыкаў. Адбыўшы сваё прымусовае размеркаванне-пакаранне (строгага рэжыму), дзяўчаты збягаюць, каб бачыць наш тэлеканал адгэтуль толькі ў начных кашмарах.

А тых, хто застаецца, прымусова робяць шчаслівымі.

Вось як гэта адбываецца.

Та-та-та-там. Добры Лекар у бахілах і з вялізнай іголкай крывымі шыўкамі сшывае – без наркозу, але вам не балюча! – ваша «я», бо яно расшчапілася, калі вы прыйшлі сюды працаваць. Столькі пазітыўных людзей з вамі ў студыі – яны любяць родны горад, сваю працу, а таксама свае маленькія хобі. Сапраўдны горад шчаслівых людзей! – думаеце вы. Потым ідзеце ў краму, паліклініку, сядаеце ў аўтобус – і не бачыце навокал ніводнага ўсмешлівага твару. У вас пачынаецца небяспечнае раздваенне асобы. І тады на дапамогу прыходзіць Добры Лекар. Сшывае ластаўку з вужакам (яны хутка ператворацца ўнутры вас у *неіснуючую жывёліну* з тэста на шызафрэнію, жывёліну, ад якой разбегліся б псіхіятры – а можа, радасна віталі б?). І вось вы ўжо нагадваеце рэкламную выяву, вы – пляскатая фігурка, укрыжаваная на фасадзе тэлецэнтра, залепленая жуйкамі ды аранжавымі цэннікамі з суседняй крамы. Развітайцеся, дзеткі, з норнай Скульд, а лепш запрасіце яе на тэлеперадачу «Госць праграмы», няхай апякунка будучыні даведаецца, якая высокая філасофія быцця хаваецца за гэтымі белымі дзвярыма з ПВХ, такімі простымі з выгляду, хоць тут працуюць сапраўдныя чарнакніжнікі пазітыву. Няхай яна пабачыць людзей, якія ідуць шляхам прагрэсу і росквіту, калі толькі не стануць маяком бытавога і вытворчага алкагалізму. Пасля чаго Скульд пакіне сваё дрэва Ігдрасіль і папросіцца да нас у Пазіцюйск: вырошчваць нашы яблыні.

Нялёгка вытрываць працу на «Суперпазітыўным тэлебачанні».

Я працую тут даўжэй за ўсіх, абскубаная сірэна.

Але цяпер дакладна звольнюся: Антон скончыў чатыры курсы ўніверсітэта, хутка атрымае дыплом. Працу ён знайшоў яшчэ год таму, пра што абвясціў мне па новенькім мабільніку, які набыў на першы заробак кампутарнага дызайнера: «Можаш больш не даваць мне грошай, мама». Канечне, я працягваю даваць яму грошы. За рашэнне звольніцца мяне асуджаюць пазіцюйскія дамы з Сінкліта Наймудрэйшых, бо «мы жывем дзеля дзяцей», «маладым трэба дапамагаць». А я вырашыла адключыць дарослага сына ад плацэнты маіх заробкаў, сысці ў нікуды, каб жыць нейкім незразумелым сваім жыццём – ды якое «сваё жыццё» ў саракагадовай кабеты?! «Хутка ўнукі пойдуць»! Горш за ўсё, што я сама пачуваюся вінаватай перад Антонам.

Сёння – шаснаццатае снежня. Да трынаццатага сакавіка, дня заканчэння майго службовага кантракта, засталося два месяцы, тры тыдні, пяць дзён.

Спрабую засяродзіцца на тэлеанонсах.

У кабінет уваходзіць мой калега, той самы Яраслаў Трацэвіч. Чамусьці ўзгадваецца ягоная даўняя мянушка – Гарыбальдзі: у маладосці Ярык насіў чырвоную кашулю і белыя нагавіцы.

– Шоў мыльных бурбалак скончылася, усё мыла выйшла! Акцыя «Нарадзіўся сам – дапамажы іншаму!» перанесена на нядзелю! – радасна рапартуе ён, закідвае ногі на стол і тэлефануе сваёй маладзенькай палюбоўніцы.

Ляпаю па клавіятуры: выпстрыкваю мыльныя бурбалкі анонсаў. Што паглядзець на «Суперпазітыўным ТБ» у бліжэйшы тыдзень?

***Аптымістычны банкір:*** Каб не было лыжкі дзёгцю ў салодкіх радасцях, даверцеся крэдытам ад «Яма-банка»!

***Суворы вадалаз:*** Водная стыхія даўно стала маім жыццёвым шляхам, па якім я іду цвёрдымі ўпэўненымі крокамі!

***Шчаслівая пераможца конкурсаў па педыкюру:*** Чырвонай ніткай догляду за пятачнымі шпорамі з'яўляюцца травяныя ванначкі, але не трэба трымаць у іх ніжнія канечнасці да пасінення скуранага покрыва!

***Шчаслівая пенсіянерка:*** каб захаваць добрую хуткасць крыватоку ў целе і не перашкаджаць страваванню, рэгулярна глядзіце па тэлебачанні толькі добрыя навіны!

Банкіру належыць быць аптымістычным, вадалазу – суворым, а жанчынам, ясная рэч, шчаслівымі, бо для іх у нас створаны сапраўдны рай!

– Табе яшчэ на планёрку, спачуваю. А я да Васіліны, у ложачак... нарадзіўся сам – перашкодзь іншаму, га? Ха-ха-ха! Ага, ледзь не забыўся. На шоў мыльных бурбалак бачыў Маць. Прасіла, каб ты ёй прывітальнае слова да конкурсу накрэмзала, яна потым нам на камеру начытае. Сама, тыпа, ведаеш, што.

– Тыпа, ведаю. Колькасць і якасць ва ўпартай барацьбе робяць нас дастойнымі прадаўжальнікамі высокіх вынікаў. Лепш за ўсё мне падышла б праца стыльрэдактара пахавальнай канторы, не знаходзіш?

– Што з табой сёння? Пээмэс?

– Ідзі да д'ябла. Я звальняюся.

– Чаго?!

– Надакучыла.

– Што?

– Гэта.

– А, гэта... Што зробіш, такая прафесія. Мы – прафесійныя прафесіяналы, эрудзіраваныя эрудзіты, канкурэнтаздольныя канкурэнты, якія выконваюць такія задачы ў мірным эфіры – непасвячонаму воку і няўцям.

– А я больш не магу. І не хачу.

– Зможаш. І захочаш. Есці, у сэнсе, захочаш. Ну, куды ты пойдзеш? Бабе ў тваім узросце працы не знайсці. Так што забей. А тое ад'едзеш. У сэнсе, у дурку. Бяры прыклад з мяне: прыйшоў з працы, схапіў дзеўку за азадак, аддупліў. І – усё цудоўна. Во, я знайшоў прычыну твайго дэпрэсняку. Баба ж існуе, каб трахацца!

Апошнія словы ён кажа з-за дзвярэй, і нездарма: услед дарагому калегу ляціць кубак, атрыманы бытавікамі да 100-годдзя Правадыра, кубак, які служыць нам попельніцай.

Во, цяпер яшчэ давядзецца падлогу падмятаць. Не мужчыну ж, ясная рэч, гэта рабіць.

## 5. Этапы Вялікай Дрэсіроўкі

А сапраўды – як у вас з «асабістым жыццём», пані тэлевядоўца?

Калі мне споўнілася трыццаць два гады, я зрабіла адкрыццё, якое тут жа і сфармулявала – тая фармулёвачка бліскуча прагучала б у тэлеперадачы «Анатомія праблемы» (калі б старшыня рэгіёна не патрабаваў ад аўгураўскіх паталагаанатамаў іншых фармулёвак): тутэйшая жанчына памірае двойчы. Упершыню гэта адбываецца, калі калега (раней ён вымаўляў тваё імя без дапамогі лагапеда) пачынае зваць цябе «Ляксанна». Адчуванне, якога не дадзена зведаць ураджэнцы, прыкладам, Нямеччыны ці Францыі, дзе жанчыны і ў семдзесят застаюцца *проста Марыямі,* Барбарамі, Маргарытамі, няхай сабе з кіндэрамі ды ўнукамі. А ў нас? Яшчэ ўчора ты была Каця-Юля-Наталка, і раптам ператварылася, незалежна ад твайго знешняга выгляду, у безаблічную, бясполую, ніякую – альбо, наадварот, па-хатняму свойскую, але ўсё адно мегеру: Васільну ці Ляксанну. Уласны рот (губы, як заўсёды, нафарбаваныя) здаўся мне тады ротам бабулькі, якая забылася ўставіць штучную сківіцу.

Страта ўласнага імені была трагедыяй не меншай, чым гітара, якая ўжо рассохлася на антрэсолях, – хацця, безумоўна, усё ж такі мяшчанскага жанру. Памада закацілася пад стол; дзіўна, але я яе потым так і не знайшла. Цыліндрык, падобны да залатой кулі – асабліва калі ўлічыць, колькі я за яе адваліла! – яшчэ адна куля ў чарзе стрэлаў, на якія жыццё, зларадна ўсміхаючыся, абвяшчае: «У “малако”!»

Калі жывеш у такім горадзе, як Пазіцюйск, і маеш дакучлівую ідэю, каб мужчынскія нагавіцы ў шафе віселі, падрыхтуйся накідваць іх уладальніку на пысу хустку і абражаць свой слых імбецыльнай лагарэяй. Да таго ж, мясцовыя сеньёры ўвіваюцца за малалеткамі, узяць хаця б Ярыка, які пакінуў сям'і двухпавярховы катэдж (гандлёвыя аперацыі на «неасноўнай працы»), зняў кватэру і атрымлівае асалоду з дзявуляй, маладзейшай за ягоную дачку. Кабеты за сорак у паніцы амалоджваюцца: садысцкія дыеты, пластычныя аперацыі, штаны ў абліпку, абцасы-шпількі на нагах з набрынялымі венамі, маркоўны колер валасоў алімоньваецца з хуткасцю светлафора – і ўсё для таго, каб ім уставіў які-небудзь менеджэр, што ўяўляе сябе Чакам Норысам.

Неўрозу дакучлівых станаў, які прынята называць каханнем, у мяне даўно не назіраецца.

Як і недахопу ў паклонніках (што заканамерна). На свяце Ураджаю маёй увагі дамагаўся загадчык свінафермы: мірны аграрый палка дыхаў перагарам, уціскаючыся ў мой азадак сярод хлебных караваеў, якія чамусьці нагадвалі бутафорыю. А я не магла нават павярнуцца і сказаць вырадку пару ласкавых, бо на нас нацэльвалася птушынае вока тэлекамеры, у якую трэба было ненапружана пасміхацца. Аднойчы на мяне паклаў вока дырэктар заводзіка пладова-ягадных вінаў, нешматслоўны, як майстар дзэн: верагодна, з-за бесперапыннай прасветленасці ён паўтараў загад-

кавую мантру «ну гэт ну». Мая адмова яго моцна шакавала, бо ён быў шчыльна абкладзены пладова-ягаднай гніллю пераспелых палюбоўніц з роднага прадпрыемства і нават з іншагародняга філіяла і лічыў сябе проста падарункам да Жаночага дня. Седзячы на нарадах у адміністрацыі, я разглядвала тлустыя спіны, мясістыя шыі мясцовых начальнічкаў, адчувала іх ліпкі, моташны страх перад начальнікамі вышэйшымі. Кандыдатамі на іншы, лепшы партфель – вось кім яны былі, тыя «рэгіянальныя кадры»; пакарыстаўшыся маімі паслугамі (не інтымнымі, барані Бог), яны хуценька перадыслацыраваліся ў сталіцу з жонкамі ды палюбоўніцамі, дзецьмі жонак і палюбоўніц, катамі ды сабакамі жонак і палюбоўніц. Далейшы шлях да ўлады ім усцілалі сабой іншыя медыясірэны, сталічныя. У выніку барацьба з цялесным нізам – і наркатычнымі мроямі, якія ён праецыруе, – давалася мне, у прынцыпе, без цяжкасцяў. Правільней сказаць, тыя чароўныя мроі – пры адсутнасці герояў, што іх узбуджаюць, – у маіх мазгах проста не ўзнікалі. Не, на адну мрою ўсё ж дурноты хапіла.

А потым я пачала працаваць пад кіраўніцтвам Зізюновіча, якому аўгураўцы адразу ж далі мянушку Шалёны, і зрабілася ўвогуле не да мрояў. Неверагодна, але экзерсісы выпускніка «хабзы» (так пэтэвэшнік з гонарам сябе называў) у хуткім часе здаліся нам дбаннем анёла над калыскай немаўляці. Пачаўся новы этап Вялікай Дрэсіроўкі. На тэлеканал прыйшлі іншыя людзі – шэф прывёў Сваю Каманду. І ўсё ж нешта неаспрэчна радніла новых работнікаў з папярэднімі: цнатлівасць мазгоў – і воз працы, які даводзілася за іх цягнуць. Сярод прыхадняў была *правая рука* Шалёнага – ягоная намесніца Светачка. Акрамя бязглуздых патрабаванняў, Светачка вызначалася тым, што перажывала кожную абноўку на каляжанках як асабістую смяротную крыўду. Жаночая частка тэлеканала хутка сцяміла: належыць поўнасцю стушавацца на тле гэтай гарпіі. Інакш працы па выходных будзе хоць адбаўляй. І да бабулі не хадзі, менавіта выскачак у кароткіх спаднічках адправяць на нядзельнае пасяджэнне клуба «Бабулькі рэгіёна» ў вёску, дзе на два дзясяткі жыхароў, у тым ліку адно немаўля, прыпадае сорак тры літры алкаголю (столькі штодня прадае мясцовая крама). А мінулы візіт здымачнай групы скончыўся ўцёкамі па датэрмінова зжатай ніве ад сякеры і белай гарачкі героя працы, пра якога патрабавалася наваляць бравурны сюжэт. Каляжанкі са стогнам улезлі ў пінжакі з падбітымі паралонам плячыма, туфлі на трывалых, як іх рэпутацыя, абцасах. Гэткія «бабулькі рэгіёну» з апярэджаннем графіка. Спадарыні Паслужлівасць і спадарыні Пунктуальнасць, выбітныя ўдзельніцы тараканавых марафонаў, конкурсаў па далёкіх палётах сярод бройлерных курэй. Да моднага прыкіду я была абыякавая, затое ў тараканавых бягах трымала бясспрэчнае лідэрства.

Жыў, паводле легенды, такі Гермес Трысмегіст, які адкрыў галоўны прынцып светабудовы: *наверсе – як і ўнізе*. О, гэты тройчы алхімік дакладна мог бы працаваць на тэлеканале, дзе я і мае калегі рачкуем, не складаючы асноўнай сваёй зброі – светлых усмешак (застаецца толькі зразумець, кожны з нас ужо легенда ці яшчэ стане ёю). Што-што, а наконт верху і нізу, ранжыраў і рангаў на «Суперпазітыўным ТБ» ведаюць усё! Наш тэлеканал сапраўднае гняздо гаргон, якія ўмеюць адзіным позіркам тэлекамеры ператвараць у камень чужыя кар’еры.

Але мы, здаецца, пра асабістае жыццё?

Альтэрнатыўным яго варыянтам падзялілася са мной (не для эфіру) шчаслівая жанчына №4 (гл. спіс). Якая абзавялася арміяй фалаімітатараў, каб не губляць час на *жывых* («Гэта, глядзі, Фрыц з Мюнхена... надзейны, як палена... Рока, італьяшка, ну выліты... акцёр спецыфічнага жанру... Вунь той – парыжанін, капрызлівы чорт, імя яшчэ не прыдумала...» – «Назаві Мішэлем. А капрызлівы таму, што малалетак яму падавай. Лічыць, што жыццё ў жанчыны заканчваецца ў сорак і здзіўляецца, чаму ты дагэтуль не ўсыпала сабе ў каву пачак рагіпнолу». – «І чаму ты такая з'едлівая? Ну хош, прывязу табе Мамбу з Уганды? Безліч аргазмаў!» – «Сабе вязі»). Дама сцвярджае, што такім чынам эканоміць час, нервы і здароўе, бо пазбягае дэпрэсій, залётаў ды венерычных хваробаў – эканомнага (з трох кветак), але разам з тым празмерна шчодрага букета, які дарылі ёй былыя мужы. Зэканомлены час яна траціць на вядзенне «калонкі» ў газеце для падлеткаў, дзе падстрыгае пад нуль мазгі сваім юным чытачкам. Гоніць дзяўчатак у карак, не даючы затрымацца на сунічнай палянцы пад назвай Дзяцінства. (Пра тое, што іх прызначэнне – сям'я, малыя даведваюцца, калі яшчэ гуляюць у лялькі.) «Я г...а наелася – дык няхай і яны жаруць!» – кажа кабета. Галоўны рэдактар «калонку», натуральна, ухваляе.

Крый Божа ад шлюбу з тутэйшым мірным аграрыем (лепш ужо штучны чэлес, дальбог). Сям'я ў нашым гарадку яшчэ мацней склейвае цябе з масай замарожаных рыбінак у наледзі ўласнага соку. Тым не менш я – частка масы: мая прафесія патрабуе, каб мой голас у агульным хоры не адрозніваўся ад іншых галасоў.

## 6. "Птушка Алканьюс"

Інспектар пажарнай часці запрашае на выезд. Прапіярыцца хочуць усе, у тым ліку ратавальнікі. Набіраю нумар Яраслава: нарадзіўся сам – ішач на іншага!

...Бадзяга пралез у люк цепласетак, уцягнуўшы туды матрац; калі яму стала горача, працягнуў руку да засаўкі – і адключыў ацяпленне ў цэлым мікрараёне. Тэлефон у дыспетчарскай хрыпеў і пляваўся атрутнай слінай, аднак дзяжурныя сантэхнікі праз алкагольнае ап'яненне не здолелі выявіць прычыну казусу. Гонар камунальшчыкаў выратавала здарэнне: бадзяга, здолеўшы расслабіцца пры камфортнай тэмпературы, заснуў з цыгарэтай, матрац пад ім загарэўся. Пасля ліквідацыі ачага ўзгарання цвярозыя, а таму пахмурныя пажарныя выцягнулі наверх матрац, закурадымлены і чорны, нібы першародны грэх (віноўнік паспеў самаэвакуіравацца). Сантэхнікі, змацюкаўшы адзін аднаго, надвор'е і кіраўніцтва, па чарзе спускаліся ў пекла, адкуль вылазілі разгарачаныя, мурзатыя, у шмацці белай пажарнай пены, якая надавала ім выгляд дробных кацельных чарцей, што здзекліва прыкідваюцца анёламі.

Зазняўшы працу ратавальнікаў (матрац – буйным планам), вяртаемся на «базу». Ярык мацюкаецца, але да віртуозаў каналізацыі яму далёка. Мат – мова, якую я чую ў сваім жыцці нашмат часцей, чым «дзякуй», «калі ласка». Калега скідвае з камеры матэрыял, а мяне выклікае шэф.

Малюю ў натаніку сябе белай чайкай (гештальттэрапія для масмедыйных вераб'ёў), не забываючы захоўваць на твары маску аптымістычнай

дзелавітасці, якую пабочны назіральнік лёгка прыняў бы за вынік анестэзіі стаматалагічнай прыроды. Сапраўдны подзвіг для мімічных цягліцаў, бо «пяцімінутка» цягнецца ўжо больш за гадзіну. Раблю выгляд, што канспектую глыбокія думкі шэфа. Калі б я сабралася насамрэч іх запісаць, гэта было б не лягчэй, чым лавіць блых на сабаку, які знаходзіцца ў буйнай фазе шаленства: думкі Зізюновіча бязладна скачуць з аднаго на другое. Агрэсіўнае невуцтва нашага стырнавога расквітнела ў імперыі Чырвоных Качаноў, дзе прайшла ягоная маладосць. Сваё чырвонакачаннае хамства Шалёны перанёс у вольную ды незалежную.

Мае калегі, якія і без таго не могуць пахваліцца фактурнай знешнасцю, уціснуліся ў крэслы, нібы стараюцца паменшыцца да памераў тараканаў і запаўзці ў шчыліны мэблі. Рэгулярна назіраю дадзеную метамарфозу (нябозе Грэгару і не снілася): пры ўваходзе ў кабінет шэфа – у некаторым сэнсе людзі, пры выхадзе – расціснутыя абцасам членістаногія. Яны прыніжана атрасаюцца, адхарквваюцца, паспешліва распіхваюць свае вантробы па кішэнях і партфелях, каб пазней акуратна раскласці ў належным парадку, і накіроўваюцца ў свае аддзелы, дзе энергічна месяць падначаленых, ператвараючы ў тое, у што нядаўна ператварылі іх саміх. Павышаючыся па службе, чалавек атрымлівае і новыя трэнажоры для біцця. Па сутнасці, галоўная розніца паміж начальнікам і падначаленым у тым, хто куды злівае злосць: той, хто не мае пад сваім кіраўніцтвам нават прыбіральшчыцы, адыгрываецца на дарагіх палавінах і дзецях. Але гэтую прыемнасць яны будуць меці крыху пазней, а пакуль неарыгінальная думка кожнага напісана на ягоным «сацыяльным твары» і супадае з думкай вязняў канцлагера, выгнаных на паверку перад чарговым распылам: «Толькі б не мяне!»

Я даўно зразумела: шлях да найбольш разбэшчанага праяўлення інстынктаў кіруючай чалавекажывёліны (а заадно – і да росквіту арганізацыі, такі вось сціплы пабочны эфект) ляжыць праз спасціжэнне Вышэйшага Адміністрацыйнага Запавету (ВАЗ – не блытаць з маркай аўто). Той сакральны ВАЗ Шалёны спасціг яшчэ ў туманным юнацтве, а можа, нарадзіўся з ім, закладзеным так званай эвалюцыяй у адзіную звіліну ягонага мозгу, якая адказвае за выжыванне. Сутнасць Запавету простая, як незабыўны наш «зайчык»: даведзеныя побытавымі цяжкасцямі ды самотным мацярынствам да поўнай размазанасці жанчыны, а таксама мужчыны-алкаголікі, «сталыя прафесіяналы», чые ўласнаручныя заявы на звальненне (без даты) захоўваюцца ў кадравіка, ёсць той незаменны кантынгент, які трэба прымаць на працу. За выключэннем маці, чые дзеці часта хварэюць: такія нікому не патрэбныя. Названыя катэгорыі можна беспакарана выкарыстоўваць у якасці памыйнага вядра: зліваць у іх раздражненне, а таксама «сардэчнае» трындзенне, народжанае з алкагольных пароў. Патрабаваць звышурочнай працы. Выціраць аб іх ножанькі пасля таго, як вышэйстаячыя выцерлі свае аб цябе самога. Канечне, нават залежных трэба зрэдчас прыкормліваць, і тады яны яшчэ будуць удзячныя. Два віды адказна-безадказных, фантастычна зручных, да агіды інтэлігентных досыць часта сустракаюцца, у гарадках накшталт нашага – проста масава, бо асаблівага выбару катавальнай камеры тут няма.

– Вось ты, я да цябе звяртаюся, – зенкі Шалёнага, у якіх не начавала ніводная думка, акрамя народжаных, як цнатліва выказаўся паэт, каханнем альбо голадам, вадзяніста-блакітныя яго зенкі спыняюцца на спецыялісце

па Запуску Паветраных Шарыкаў (чыя заява на звальненне без даты захоўваецца ў сейфе – да чарговага запою). – У «Аракула» ёсць праграма «Дык паядзім!» – бяры прыклад!

Заснавальнік тэлеканала «Аракул» Швабрын двойчы на тыдзень наведвае якую-небудзь з гарадскіх кавярань, дзе замаўляе фірменную страву і есць перад камерай. Жарэ буйным планам. Дзея транслюецца ў простым эфіры і мае вялікі поспех: ежа-пітво, дача-сад-гарод ды яшчэ рамонт у кватэры – улюбёныя тэмы нашых гледачоў.

Спецыяліст апраўдваецца. Потым чарга даходзіць да мяне.

– Куродым, галоўурач твой апошні сюжэт «ЗБЖ» не завізіраваў. Пра гэтых тваіх... ну, што на вуліцах «хуткая» падбірае... казаў жа: не трэба негацівнага! Галоўурач ужо атчытаўся наверх: бадзягаў у нашым горадзе няма, і кропка.

– А ў пажарных бадзягі – ёсць! – адказваю я трыумфальна. – Пажарныя па-іншаму «атчыталіся». Мы з імі толькі што з люка выкурвалі – як думаеце, каго?

– А был лі бомжік? – бляяе спецыяліст па Запуску Паветраных Шарыкаў, і навокал разыходзіцца пах перагару.

– Галоўурачу дык увогуле сорамна, – працягваю. – Хто ля бальніцы ў закінутым будынку морга жыве, хіба не Мікола? Санітаркі яго падкармліваюць. Ды Міколу ўвесь горад ведае, уся краіна. У яго нават замежныя карэспандэнты інтэрв'ю бяруць, і Швабрын браў.

– Хопіць дыскутаваць, тут вам не Еўрапарламент, – адразае шэф. – Куродым, як у першы раз жывеш. Галоўурач сказаў – няма, значыць, няма. І канцоўку аптымістычную трэба – не пра Юзіка бухога, што ў прыёмным пакоі аба...раўся, а пра барацьбу з алкагалізмам. З сюжэта слова «бомж» – прыбраць. У закадравым назваць яго «чалавекам часова без прапіскі» альбо «грамадзянінам, які злоўжывае спіртовымі напоямі».

– Прабачце, – дарэмна кіпячуся, толькі агонь на сябе зараз выклічу. – А чаго ён тады ў люк палез «злоўжываць»? Экстрэмальны спорт такі, ці што?

Шэф не ўганароўвае мяне адказам. Зрэшты, усё зразумела. Узгадваю той адрэзак часу, на працягу якога наш Пазіцюйск пératварыўся ў Негацюйск па прыхамаці новага мэра. Які распачаў сваю кар'еру з крытыкі ўсяго, што рабіў, а галоўным чынам, не рабіў ягоны папярэднік – за гэта старшыня праславіўся як *барацьбіт з балячкамі соцыуму* і *адкрыты для дыялогу*. Тэлеканалу «Аўгур» была афіцыйна дадзена каманда «фас!». З ранку да прыцемкаў мы гойсалі па сметніках і прытонах, выкопваючы на свет божы такую чарнуху ў баклажанава-чорных танах тлення, што «Аракул» зайздросліва глытаў галодную сліну. Шлі годы, бурь парыфф мятежный развеял, і цяпер зрываць эпалеты за сметнік на могілках ці бадзягаў на вуліцах даводзілася ўжо з новага старшыні. Калі да яго гэта данеслі (тыя, хто мае *доступ да цела*), Негацюйск зноў стаў Пазіцюйскам, а з тэлеэкрана паваліла спрэс локшына з амброзіяй. А наш тэлеканал перайменавалі ў «Суперпазітыўнае тэлебачанне».

Рымскі стоік Зянон, зламаўшы нагу, убачыў у тым знак багоў і парэзаў сабе вены. Колькі разоў мне варта было скончыць з жыццём, атрымаўшы чарговае ідыёцкае «указаніе»? Вой, здаецца, зараз атрымаю: ініцыятыву перахоплівае Светачка, якая мяне люта ненавідзіць. За што б гэта, га? Я ні ў чым не перайшла ёй дарогу. А з «жаночай салідарнасці».

– Інга Ляксанна, Ягор Ягоравіч да ўсіх, между прочым, звяртаецца, і

да вас персанальна! Дзе вашы планы на наступны год – бягучы і перспектыўны? Я жа прасіла вас пакласці мне планы на стол да панядзелка! Нам у аддзел трэба здаць тэрмінова! Нам ізвесна, што вы не плануеце працягваць кантракт, аднака планы вашай работы на наступны год усё раўно павінны быць зацверджаны! – зенкі ў зялёных стрэлах утаропліваюцца ў мяне, барвовыя губы пагардліва выгінаюцца. – І кстаці. Што наконт верша нашай паэтэсы, га? Прадумалі, як зрабіць на яго аснове задні фон? Трэба асвойваць новыя, сучасныя тэхналогіі!

– Нічога ана не думала! Цыцкамі трэсла па кабінетах! – гаўкае Шалёны.

Кожная з жанчын, што працуюць на тэлеканале, чула падобнае не раз. Ніхто не абураецца ўслых. Не адказвае хаму. Усе моўчкі глытаюць крыўду. І я маўчу. Мой маўклівы гнеў жывіць каменны плод ува мне.

А што ж так узлавала нашага Вялікага Хама і ягоную *правую руку*? Тыдзень назад Светачка запрасіла мяне да сябе, карыкатурнай царэўнай Лебедзем выхапіла (з рукава?) пакамечаную паперку, з выразам прачытала:

Горад мой, ты ў баях не прапаў!
А на пенсію рана, радзімы!
Ты пад'ёмный кран пакахаў.
Пакахаў гарачо, як мужчыну!

«Душэўна шчодрыя такія сціхі, – яна торкнула мне паперку. – Пульхерыя Гнілазубава даслала на наш конкурс пазітыўных праектаў. Блізка і панятна каждаму. Я думаю, эті сціхі выіграют первае места. Я лічна буду за іх галасаваць. Прадумай, як нам эта напісаць на задніку». – «У апошніх двух радках можна знайсці некаторую двухсэнсоўнасць...», – маё дарэмнае каўканне. – «А ты не ішчы! *Нашы* людзі іскаць не будуць!» – прадказальны адказ. І цяпер Светачка ў натуральнай для яе ветлівай, чуйнай манеры цікавіцца выкананнем адказнага даручэння.

Ты раздумваеш, на што табе хацелася б патраціць астатак жыцця. Калісьці ты выпалала ў сабе разнаквецце рыфмаў і мелодый, засеяла раллю пустазеллем. Крыніца музыкі ў табе перасохла разам з тваёй душой. Літаратура... не, не цяпер, кажаш ты сабе, выдатна разумеючы, што гэтае «цяпер», хутчэй за ўсё, не настане ніколі, бо твая творчая энергія выпарылася. Ты – пустая, як пасля выкідышу.

А між тым трэба тэрмінова шукаць працу – ды не тут, дзе варыянтаў лёсу не больш, чым у недапалка ў попельніцы, а ў сталіцы. У цябе няма ілюзій: у сталіцы тая самая інвазіўная мова, тыя ж словы-падманкі, сталіца не вырашае праблем, затое пашырае кола магчымасцяў.

Усе навокал даводзяць, што ў сорак год сышоў твой «апошні вагон». Ты не знойдзеш працы, палохаюць яны. Трымайся за месца зубамі, пазногцямі, абцасамі, бо ты нікому не патрэбная, даказваюць яны. Ты распачынаеш пошукі працы і ўпэўніваешся: так яно і ёсць.

Працу, Госпадзі! А хоць бы і часовую, нейкі транзітны порт, бо калі скончыцца кантракт, трэба не спакусіцца надзейнасцю і абароненасцю маёй цяперашняй турмы. Па выходных, седзячы за кампутарам, я асвоіла некалькі сучасных спецыяльнасцяў. У маіх папках спасылкі на дзясяткі вакансій, знойдзеных на сталічных інтэрнэт-парталах. Я гатовая разглядзець і прапановы мясцовай службы занятасці.

...«Узрост?» – «Сорак два». – «Выбачайце, вы нам не падыходзіце».

– «Добры дзень. Вам яшчэ патрэбна сакратарка?» – «У нас коллектив молодой и озорной. Средний возраст 25. А вам сколько?» – «Вітаю! Вы шукалі кантэнт-менеджэра для інтэрнэт-крамы?» – «Я прадаю тавары для немаўлятаў, мне патрэбны рэрайтар. Вось тэставае. Першы ключ: *чаму дзіця ходзіць на дыбачках*. Другі ключ: *дзіця баіцца гаршка, што рабіць*. Трэці ключ: *дзіця смокча палец, што рабіць*». Ура! Мне далі працу! Няхай сабе ўсяго трыццаць цэнтаў за 1000 знакаў без прабелаў, але ж трэба з чагосьці пачынаць. Чытаю сертыфікаты на прадукцыю – толькі не рабі выгляд, быццам верыш, што яны сапраўдныя. Пішу, адсылаю. Працадаўца знік, аплаты няма. Мае артыкулы вісяць на сайце, упрыгожаным мульцяшнымі коцікамі. Што ж, прынамсі, я зрабіла добрую справу для немаўлятаў, якія ўпарта ходзяць на дыбачках, смокчуць палец і катэгарычна не жадаюць какаць у гаршчок.

...«Добры дзень, завод па вытворчасці лекаў? Скажыце, калі ласка, вам яшчэ патрэбна гардэробшчыца?» – «Без шкодных звычак. Узрост да сарака». – «Ой, вы ведаеце, мне ўсяго сорак два і мне вельмі патрэбна праца...» – «Жэншчына, вы што – глухая?! Вам жэ рускім языком сказалі: да са-ра-ка!!! Але можам узяць у віварый». – «Ккккуды?» – «Не, ана точна па-рускі не панімает. У віварый, кролікам клеткі чысціць. Заробак очэнь харошы, тры мільёна. Тока учціце: там з гавном работаць нада. І ані дохнут». – «Ой, а... навошта трусы? Для сталовай? Я не разумею...» – «Жэншчына, вы местная ілі с Луны? Да к нам устроіться – очэрэдь вон стаіт! А я вам, первай устрэчнай... Лякарства на ніх іспытывают, панятна? Уколы дзелают. Патаму ані дохнут». – «Не, я не змагу. Мне будзе шкада трусоў».

...«Добры дзень, гэта фірма “Ораст”? Вам яшчэ патрэбна прыбіральшчыца?» – «А ты хххxто?» – «Прабачце...» – «Я ця, сука, спрашываю: ты вaааще – хххxто??? Ты чё сюда, б...дзь, званіш???!» (*Гукі ветлівай барацьбы, слухаўку яўна ў кагосьці адбіраюць. Гучна, з істэрычным уздымам):* «Девушка, у нас очэнь харошые условія труда!!! Зарплату вы нігдзе такую не палучыце!!! *(Паспешлівым шэптам).* Я вам чэсна ат душы скажу, у нас хазяйка п’юшчая, ну нікто не задержівается... вот вы мокрай трапкай па морде давно палучалі?» – «Ды неяк... не даводзілася...» – *(Гучна, з трыумфам)*: – «А у нас точна палучыце!!!»

...«Хэло, Фрыц. Вашаму бацьку яшчэ патрэбна сядзелка?» – «О, ко мне уже ездит один девушка из Вайсрусланд, очень хороший, йааа, приезжает раз месяц, вы тоже может приезжать, платить я много не могу, дорога за свой счёт...» – «А ваш бацька? Колькі яму год?» – «К сожалений, мой отец умер десять лет назад. Но вы с той девушка может приезжать даже вместе, йааа, это будет интересный и приятный времяпроект для всех нас втроем...»

...«Вітаю. Я атрымала ад вас ліст з прапановай працаваць у вас журналістам. Хто вы і як мяне знайшлі?» – «Миня зовут Одисей Мидис, я иметь бизнес Россия и жить Греция. Нашел вашу резюме в интернет». – «У чым заключаецца праца?» – «Писать статьи. Когда можете начинать?» – «Якія артыкулы, для каго?» – «Насчет денег плачу харошо. И практически работа у нас постоянная, на следуюшие 20 лет». – «Што за сайт?» – «Главное бы писала». – «Назавіце сайт, Адысей». – «50 долларов за статью». – «Мне важна, чым я буду займацца». – «Модификция новостей и писать». – *(Пра сябе: “мадыфікцыя” – хм, дрэнны знак.)* «Сайт, назавіце сайт». – «Смотри-

те: eurasiregionalum.com». *«Белорусские “свядомые”облажались со своими молчаливыми акциями...» «Маразм для отвернувшихся от великой России стал нормой жизни...»* ...тааак, прыплылі. «Адысей, я не здолела дачытаць спіс вашых караблёў. Нават да сярэдзіны». – «Что? Какой корабль?» – «Я не з герояў і ваяроў, але плыву іншым курсам».

...«Прывітанне, Марына». – «Вітаю, Інга». – «Ты ўсё там жа?» – «Так, у “Вольным свеце”. А ты?» – «Звальняюся». – «Можа, давай да нас?» – «Не, вы пра палітыку пішаце. Я пазбягаю палітыкі». – «Усё, што робіць цябе слабай і залежнай – палітыка». – «Мо і так... я падумаю».

– Інга Аляксандраўна, ну што ж вы? – нечакана прыходзіць мне на дапамогу вядучы Эфіру Дапушчальнай Крытыкі, падобны да вампіра, змярцвела бледны, з яйкападобнай галавой і мокрымі чырвонымі губамі. Сёння адбылася падзея, якой ён напружана чакаў, не спаў начамі: яго нарэшце перамясцілі з кута за шафай, дзе ён паныла квасіўся, за прыстаўны стол, бліжэй да начальства, – такі грандыёзны іерархічны прарыў нават монстра можа ненадоўга зрабіць чалавекам, хаця б у аспекце праяўлення гуманізму, у прынцыпе яму не ўласцівага. – Вы жэ так красіва расказвалі пра ваш крэатыў.

Так, расказвала Ярыку – у калідоры, на перакуры. Але гэта быў жарт! А можа, пракоціць і ўсур’ёз? І я натхнёна апісваю, як можна танна і сярдзіта зрабіць новы задні фон для студыі на аснове старога (пад’ёмны кран з фалічна ўзнятай дагары стралой, паверхі новабудоўляў). Трэба ўсяго толькі дадаць скрутак пергаменту з вершам Пульхерыі Гнілазубавай.

– Как-та... мммм... занадта проста, ээээээ? – броўкі Светачкі паўзуць дагары, вочкі касавурацца на шэфа: што ён скажа.

Шалёны ўхвальна агаляе жоўтыя іклы, і Светачка навешвае на твар крывадушную ўсмешку.

Цяпер добрасумленнай служачай, то бок мне, належыць надаць твару выраз шчанячага энтузіязму плюс намаляваць на гэтай частцы цела, якая даўно і паспяхова дубліруе маё ж сядалішча, сверб дзелавіта-радаснай заклапочанасці. А, ледзь не забылася: у мяне павінны *гарэць вочы*. Ад гэтага патрабавання Шалёнага, якім заканчваецца кожная планёрка, не адзін супрацоўнік «Суперпазітыўнага ТБ» падхопліваецца ўначы, канвульсіўна торгаючыся і хапаючыся за сэрца. А потым ён падхопліваецца ад будзільніка – гонга, што адмярае раўнды, у ходзе якіх яго, служачага, зневажаюць па правілах, замацаваных у працоўным кантракце, і проста так, дзеля задавальнення.

Гэтым разам мне не ўдаецца ператварыць свае органы зроку ў пражэктары непераходзячай пазітыўнасці. На шчасце, Светачка, як згаладнелая ведзьма ў апавяданні ўкраінскага класіка, ужо прысмакталася да наступнай ахвяры. Мне дазволена сесці.

Ды якая я белая чайка? Я – задзяўбаная птушка Алканьюс на райскай яблыні пазітыву. У гэтай птушкадзевы, у адрозненне ад яе цёмнай сястры Сірын, ёсць рукі, у іх яна трымае скрутак з праграмай тэлеперадач!

## 7. «Французскае каханне» як альтэрнатыва Красавіцкім тэзісам

Каб не слухаць Светачку з Шалёным (яны крычаць цяпер дуэтам), перачытваю выразкі з часопіса нашых сяброў-пабрацімаў. Першая нататка – пра перфоманс «Помнік дурніцы», яго зладзілі піцерскія феміністкі:

з каструлямі ды іншымі прычындаламі хатняга побыту замерлі пасярод вуліцы. Другая – апытанка, з яе, уласна, трэба было пачынаць: нейкі *носьбіт свядомасці* дзеліцца ўяўленнем пра ідэальную жонку. Ад якой патрабуецца ўсяго дзве рэчы, лічыць рэспандэнт: дасканала валодаць тэхнікай аральнага сэксу і добра смажыць мяса. Значыцца, калі б ты ў маладосці штудзіравала навуку «французскага кахання» замест Красавіцкіх тэзісаў рускай рэвалюцыі, была б, дарагая кабета, *у шакаладзе*.

А зрэшты, ці ёсць розніца, пад каго прагінацца, калі ўсё роўна даводзіцца гэта рабіць? Большасць жанчын лічыць: пад уласнага мужа лепей, чым пад усіх сваіх начальнікаў, як тая прастытутка, – пад кліентаў. Хоць траўка, ясная рэч, зялянейшая за чужым плотам. Цётка, якая мяне выгадавала, отчэнна зайздросціла ўсім «трудзяшчым жэншчынам». Нарадзіла траіх, аніводнага дня не працавала. Сюды б яе, наіўную дурніцу, умомант вылечылася б ад працоўнага энтузіязму. Пры тым яна лепш за малітву ведала: галоўнае для «деушки» – удала пабрацца. Бабы ў такіх вось мястэчках свайго родненькага вылюдка, як водзіцца, «разумеюць» – затое муж, калі ён сапраўдны альфа-самец, абароніць сваю бабу ад усіх астатніх вылюдкаў. Ну-ну.

У нататцы напісана, што жанчыне трэба выйсці з хатняй турмы, але – куды? На наш рынак працы – спадчыну мінуўшчыны праклятай? Начальніку права абражаць цябе належыць афіцыйна, як мужу – права абражаць жонку. З іншага боку, добранькі хатні тыран можа аднойчы павыбіваць табе – выключна ў выхаваўчых мэтах – зубы, і гэта ты яшчэ лёгка выкруцішся. Кінуць яго не зможаш, бо жывеш з ім і дзецьмі на адной «жылплошчы», а плоцяць табе, «настаяшчэй тружэніцы», капейкі. Жанчыны тут усё церпяць, бо няма куды падзецца з таго «шчасця», якое яны ядуць вялікімі лыжкамі. І няма за што. Трапіліся.

– Ад гультайства не ведаеце чым заняцца!!! Думаеце, знайшлі сабе куратараў, дык на двух крэслах усядзіце?!! – укліньваецца ў мае думкі дзікі роў Шалёнага. – Глядзіце, яйцы сабе часам не зашчаміце!!! Цібя, Куродым, эта тожэ касаетца!!!

У маладосці наш шэф ганяўся за жонкай з сякерай па бульбяным палетку, дзе начаваў у баразне, каб родны брат не выкапаў ягоную бульбу.

– Кстаці, Ляксанна. Звяжыся з маёрам Падасінавікам, дагаварыся насчот залы ў вайсковым Доме культуры, – дае мне даручэнне Светачка. – Там мы правядзём урачыстае падвядзенне вынікаў тэлеконкурсу. Толькі глядзі, не пераблытай: не Падбярозавік. Пакрыўдзіцца, адмовіць.

Папраўляю на твары маску «адданага сваёй справе працаўніка лепшага ў вобласці тэлеканала». І працягваю раздумваць над дылемай: што лепш – мець над сабой аднаго хама, мужа, або кодлу хамаў – начальнікаў? Ад якіх ты, «эканамічна незалежная», залежыш аніколькі не менш, чым якая-небудзь хатняя гаспадыня ад свайго карміцельца. Мой экс-муж хамам, безумоўна, не быў, затое быў «нехарошым чалавекам». Ажыццявіў выгаднае ўкладанне свайго адзінага, але канверсоўнага капітала – спермы – у амерыканскі банк: ажаніўся з грамадзянкай ЗША і разарваў усе ранейшыя кроўна-роднасныя і грамадзянска-працэсуальны сувязі. «Нехарошыя» жывуць у сваё задавальненне, а «харошыя» – дзеля іншых, а як жа. Самаадрачэнне тут выпадае жанчынам – ну, гэта *by default*. Я і была па змоўчанні маўклівай, зарабляла паперкі, у абмен на якія мне давалі хлеб і лекі для дзіцяці. Дбайна мясіла пілавінне арэны гэтага цырка, да атупення

бегаючы па коле. Здзіўлялася калегам: у якіх універсітэтах выкладаюць курс дэкаратыўна-прыкладнога інтрыгапляцення? Дзе вучаць віртуозна хлусіць у вочы і за вочы, нашэптваць, падстаўляць, інтрыгаваць, крывадушнічаць, прагінацца – захоўваючы пры тым выраз твару «сумленнага, прыстойнага чалавека»? Майстэрства, за якое варта даваць медалі, – і даюць!

Трэба сказаць, сапраўднай сцервы з мяне не атрымалася. А вось дамы, якія атачаюць мяне, далёка не «мілыя». Нашыя джунглі захлынаюцца ад ціхага гвалту, дзе кожны нішчыць слабейшага. Зайздрошчу старым на «заслужанай» свабодзе (а «незаслужаная» свабода бывае? вось проста – па праве нараджэння?). Які ж гэта кайф: пляваць на ўсе «сацыяльныя кантакты». Смерці, каб дабрацца да цябе, зусім не патрэбны ліфт, а больш у такім узросце жанчыне чакаць няма каго. Ну, хіба каго-небудзь з тых вар'ятаў, што ходзяць па горадзе з сектанцкімі часопісамі ды звоняць у чужыя кватэры, пакуль іх не спусцяць з лесвіцы. Да свабоды «адпрацаванага матэрыялу» мяне чакае яшчэ доўгае зняволенне.

Хвіліначку, ці не ты сама калісьці пажадала знайсці сабе месца сярод гэтых чалавекаімітатараў? Няўжо нельга было проста ўзяць ды збегчы да тых, хто падобны да цябе? Па-першае, я была маладзенькай гаротніцай з дзіцём на руках, якая хацела стаць «як усе нармальныя людзі». Па-другое, адкуль мне было ведаць, хто гэта – я?

Ну, а потым? Няўжо і потым – не ведала? Як здарылася, што ты ператварылася ў помнік дурніцы – з апалонікам у адной руцэ, з тэчкай «На подпіс» у другой?

Сяджу ў кратавіне.

Дваццаць год.

Святая Інга.

Іона вытрымаў унутры кіта тры дні, дый кіт быў жывы. Але Іона быў мужчынам.

Мо я нейкая эксклюзіўная пачвара? Тады ўсё было б нашмат прасцей.

Азіраюся на каляжанак, што панурылі паслухмяныя галовы, рыхтык у школьным класе, баяцца, каб да дошкі не выклікалі. Затурканыя птушкі. А як там, дарэчы, суседачкі па выпускным альбоме, дзе медальёны з чорнабелымі фота нагадваюць надмагільныя? Ва ўсіх адно і тое ж: мужы, якіх хацелі б кінуць, але трываюць, нелюбімая праца, якую мараць памяняць, але працягваюць ударна рачкаваць дзесяцігоддзямі. А потым ад нуды плятуцца ў божы храм, тэрапеўтычную групу альбо вінна-гарэлачную краму. Мне не схавацца ад сябе ні сярод паломнікаў да Матроны Маскоўскай (з заездам у гіпермаркет – запрашаюць мясцовыя турфірмы!), ні на дне бутэлькі. А жучкаватых менеджэраў з дыпломамі псіхатэрапеўтаў, якія вучаць «хацець таго, чаго патрабуюць абставіны», я і сама магла б павучыць гэтаму ўменню. Той, хто абдурыць мяне, мусіць умець хлусіць больш натхнёна і праўдападобна, а такія ў нашым безаблічным гарадку наўрад ці знойдуцца, іх адразу пакідаюць у буйных тэлекампаніях.

Разглядваю фота ўдзельніц перфомансу. Адна зашмаргу на шыю накінула, на грудзях плакат: «Без мужа жыццё скончана». Ведаю адну такую кабету ў Пазіцюйску... вой, не адну... Мала каму ўдалося «закасіць» ад Вялікага Жаночага Абавязку (як хлопцам – ад арміі). Аднак і такія ёсць. Свяшчэнную навуку смажання мяса разам з тэхналогіяй здабычы соку з дрэва жыцця (не бярозы) яны мэтанакіравана праігнаравалі. А ты? Улілася ў шэрыя шэрагі працоўнага фронту (абточвала тэлеснарады, сточвала

душу) і не заўважыла, як стала безаблічнай «Ляксаннай». Вось і сядзі цяпер, глытай фекаліі чужога розуму, ды інтэлігентна глытай, не крывіся.

Праз два месяцы я стану свабоднай.

Як гэта – быць свабоднай?

Задумваюся.

Чамусьці ўзгадваецца дырэктарка школы (яна вяла сходы для дзяўчынак у старэйшых класах, хлопчыкаў прасвятляў ваенрук), падобная да вучэбнай мадэлі танка ў чахле, да якога збоку прышпілена мядалька. Нацэльваючы палец у столь (імітацыя жэста помніка на плошчы), дырэктарка дзяўбла: «Вы нарадзіліся ў свабоднай краіне! Вы павінны быць шчаслівымі!».

Не, быць свабоднымі нас дакладна не вучылі.

Ёсць, канечне, кнігі пра свабоду, галоўныя героі ў іх мужчыны, звычайна без дзяцей, а калі дзеці ў наяўнасці, героі жывуць высокімі мэтамі, да ўласных атожылкаў ім справы няма. Дзеці – бабскі клопат, ясная рэч.

А што мы, дарэчы, пачытвалі ў школе? Ну, прыкладам, «Як гартавалася сталь». «Жыццё даецца чалавеку адзін раз...» – на памяць завучвалі! – а потым нам урачыста, пад аксамітным-пераходзячым уручалі такія жыцці, што трэба было альбо забыцца на вывучанае, альбо звар'яцець ці забіць сябе.

Ведаю толькі адну жанчыну, якая адчувае сябе свабоднай: мая сяброўка Марына. Цяпер яна працуе на інтэрнэт-партале «Вольны свет». Прычым вольная яна не таму, што працуе там. Усё наадварот: яна працуе там, бо пачуваецца вольнай. Марына была такой са студэнцтва. Чытала кніжкі на замежных мовах, бегала па нейкіх семінарах. Высновы, якія каштавалі мне змарнаваных гадоў, Марына зрабіла на чацвёртым курсе ўніверсітэта! А я тады глядзела на яе, як на іншапланетніцу. Шкадавала. Дзівілася.

І вось прайшло дваццаць год, і табе брыдка азірацца на сваё жыццё.

Дакладней, на чужое жыццё, якое ты пражыла.



Васіль Зуёнак



...Не бяры боскі груз на плечы, –
Бог і ёсць бясконцасць у вечным...

# На ўсе часы...

* * *

У кожнай усмешцы, у дотыку рук,
У слове з пяшчотай каханаю,
У ранку, дзе песню ўзвышае жаўрук,
І ў ночы з душой непадманнаю;

У кожнай сцяжынцы з надзеяй дарог,
У светлай крынічцы прыветлівай,
У божай кароўцы, што кліча ў мурог
Коніка – свята адлетаваць;

У кожнай травінцы, у кроплі расы,
У першай дажджынцы гарэзлівай –
Са мной, без мяне – і на ўсе часы:
І вечнасці дар, і паэзія...

## *ТРЭЦЯЯ СТРАФА*

Як Ахматава вучыла,
Дзве страфы – і кропку стаў:
Лішніх слоў без дай прычыны
Верш сапраўдны не пластаў.

От і я даверыў мерцы
З той класічнае графы,
Ды бяда: таго, што ў сэрцы,
Не ўмяшчае дзве страфы!..

Ну, газелі там, ну, “хокі”...
Дык і я ж прашу крыху –
Ды з падзякаю за ўрокі:
Дайце трэцюю страфу!..

* * *

І што са мной адбываецца?
Часцей і часцей здараецца,
Што добрае забываецца,
А помніцца ўсё благое,
Нібыта ў выявах Гойі.

Звыш дадзенага не мудрэю,
І памяццю не хварэю, –
Адна толькі дробязь: старэю.
А гэта – а гэта і значыць,
Што час рабіць справаздачу.

## *ВЕРТЫКАЛЬ*

Закаваны ў кайданы арбіт,
Як у нерухомасці, Сусвет
Рухаецца – вечны маналіт, –
Так трымае Бог аўтарытэт.

Ну, накшталт, як во цяпер у нас,
Скажам па-зямному, “вертыкаль”:
Бог адзіны – ад імя ўсіх мас –
Правіць па-нябеснаму амаль.

З гэтым і зжываемся ўжо мы
І, крый Бог, гатовыя паверыць:
Лом – ды вертыкальны! ды прамы! –
Пойдзе пад вянец любая “сфера”!..

А як паразважыць – акурат
Выйдзе ўсё зусім наадварот:
Што ёсць “вертыкальны апарат”,
Што сусветных сфер свабодны ход...

Вертыкаль: унізе ўсё маўчыць
Ці мычыць, калі няма надзеі,
Верх – як нізу добра, верашчыць
І якія зверху дабрадзеі...

Знакам: “хоры стройные светил” –
Лермантаў Сусвету лёт памеціў,
Дзе няма ні “за”, ні “супраціў”:
Еднасць, сэнс і лад – тварэння дзеці...

Гэтакая ў Бога вертыкаль...

От у нас – не гэткая, на жаль...

## ІНТЭЛІГЕНТЫ

Інтэлігент з веку ў век грашыў:
Не ішоў з уладаю на барышы.
А наш безграхоўнік ад інтэлігенцыі
За таго вымольвае індульгенцыю.

* * *

Свечкі хрышчэнне,
Воску свячэнне –
І матылёк:
Сеў, аднакрылы, –
Знакам магілы
Сэрцы апёк.

Мілыя воблікі
Зніклі, як воблакі
Ў цемры начной.
Неба з зямлёю
Дзеляцца – двое –
Смерцю маёй...

## ДАР

Жыцця няпрошаны дар –
Напой, завараны крута:

Мінулага весні нектар
І сённяшняя атрута...

## КЛІЧНІКАМ КРОПКА ГАНДЛЁВАЯ…

Сонца Усходам хмурыцца
На Захад, што ноччу прамок.
Ева цыгаркаю курыцца,
Будзіць у краму замок.

Клічнікам кропка гандлёвая
Кліча запойны хаўрус, –
Хто тут каго пераплёўвае:
Еўра- ці хеўра-саюз?!

Пэўна, не знае й Амерыка:
Хто пазычае ў каго.
А круцялём быць намерыўся –
Іншых шукай берагоў.

## І…

Прыўладна, парадна,
Указна-скрыжальна,
Нязгодна-саджальна,
Кайданна-прыводна,
Высочна-пужальна
І пагражальна.
Ахоўна-паротна:
Павертыкальна.
І прываротна-
Электаральна:
Колькі заўгодна –
Столькі і ўхвальна
І кандыдатна,
І дэпутатна, –
Спрэс і нязводна:
Дзяржаўна-прыватна,
Падлізна і мёдна,
Харызма-вар’ятна –

І ўсенародна!..

## ШЫШЫ

Замаркоціцца душа:
Ні шыша і ні граша...

Я скажу такой душы:
– Дарагая, не грашы!

Мы з табою спарышы,
І – як я харошы –
То грашы выпрошвай.

А што гэткае *шышы*? –
Тут мазгой паварушы!..

## МАСКВА І НАЧА

*(На правах этымалагічнай версіі)*

Дзве рэчкі ёсць: Масква і Нача, –
Цячэ гісторыі вада,

А карані не перайначыш –
Ідзі ў глыбіні па слядах.

Якія зніклыя плямёны
Далі найменні – знае час:
Як мовы іхняй абарона –
Дайшлі – трывушчыя – да нас.

Перадалі далёкі голас
Яшчэ жывых – да нас, жывых.
Не, не было абшараў голых:
Да нас тут абжывалі іх.

Няважна – балты, угра-фіны –
Бялявыя ці ў чорны тон:
Паўстаў тут продак наш ліцвінам,
Каб кроў не папсаваў тэўтон.

Зрадніўся з балтам – і пабачыў:
Не марна йшоў сюды здаля,
І зразумеў тутэйшых: “Нача” –
То значыць: “плодная зямля”.

Спыніўся – і багам падзякваў,
І хтосьці з іх як перадаў:
Ні кроку дальш, – там “моск...” ці “...аква” –
“Твань”, значыць: “тухлая вада”...

## *АПРАЎДАННЕ*

Мне сказалі: а што з блакнотаў
Дні старыя выцягваеш ты?
Дні, як пні, – карчавання самота, –
Быццам ты ў тым часе застыў...

Ці ўжо што – спісаўся дарэшты,
Падмятаеш засекаў куткі?..

Ах, які, сапраўды, я грэшны,
Калі вам развязаць языкі...

Прыхавайце насмешак джала –
Ёсць і сёння радкоў спаўна.
Толькі ж вытрыманых – не заляжалых –
У віна гатункаў цана.

То й праверым: ці сонечнай моцы
Не растраціла ў сховах яно,
Ці дарэшты пайшло на воцат, –
Хоць надзея была на віно...

Б'ецца ў сэрца струмень старога, –
Як вясной з-пад снегу трава.
Ад няспелага ж, ад маладога,
Толькі й клёк, што баліць галава...

## *ЛІХА*

Не чапай ліха,
Покуль ліха спіць ціха.
О як ліха прачнецца –
Тады ліха пачнецца!..

## *ЗБРОЯ*

І шлях прыспешваў,
І час круты.
І лёс не цешыў –
Ды ўсё ж з сакрэтам
Ён даў мне зброю:

Не стаў я грэшным,
Не стаў святым,
Не стаў я гэтым,
Не стаў я тым –
Застаўся я самім сабою.

## ЛІЧБЫ Ў РЭЖЫМЕ

Не, не віна ў тым арыфметыкі,
Што бэсціўся класічны лад,
Як ставіліся лічбы метамі
На дзеях д'ябальскіх улад.

І тое аддзяленне Трэцяе,
І гэты N-ны пададдзел –
Трагедый колькі засакрэцілі
Аб тых, хто знік, і хто сядзеў.

Злачынных лічбаў строй парадкавы
Спрадвек таемна службу нёс
І меўся ўсіх трымаць за кратамі,
Чый вальнадумствам лёс прарос.

І сейфамі нумераваліся
Да скону веку змагары,
І ў папках злых ператвараліся
Жывыя людзі ў нумары...

Кагорты лічбаў у рэжыме, –
Прагрэс шляхоў вам не скрывіў:
Для арыфметыкі чужыя,
Для службаў – дзеці па крыві.

Наробак вымярае колькасна
Сядзельцаў новых чарада...
Маўчаць завалы пратакольныя, –
Няўжо да Страшнага суда?..

* * *

Дзе травы яшчэ не пахілыя
І сняць паплавы сенакос,
Стракозы анёлакрылыя
Нябесняць люстраны плёс.

І позірк мой, нібы каменьчык,
Шпурнуты на ўлонне вады,
Скача, і кожны праменьчык
Ляціць светлячком праз гады.

І памяць, як гэтая роўнядзь,
Як гэта люстэрка, маўчыць.
Спыніся – і слухай бязмоўе:
То шэпча яно, то крычыць...

### *НЕ БЫВАЕ...*

Дарога: ідзе ці ляціць,
Наўпростая ці крывая, –
Хацелася б вечна жыць,
Ды толькі таго не бывае.

Недзе ж той будзе супын –
І ён ужо не за гарамі.
І лёс, на зямлі скупы,
Не стрэне на небе дарамі.

І не зламае крыло
Вечнасць у перапудзе, –
І як мяне не было,
Гэтак мяне і не будзе...

### *НЯЎЖО...*

Няўжо, няўжо ніхто нас не пачуе, –
Адыдзем з роднай мовай да дзядоў,
І толькі пералётна заначуе
Стамлёны птах над памяццю гадоў...

Інакш чаму ж у беларускім свеце
Не так, – не так, як у людзей, на жаль:
Мы прамаўляем словы, як на вецер, –
Нікому не патрэбныя. Амаль...

### *HOMO SAPIENS*

Хто б яго паўтарыў? –
Вечнасць ломіць ілбы.
От жа цуд
Бог стварыў!..

Кім ён толькі ні быў:

Вызначальнік багоў,
Велічальнік багоў,
Выпрамляльнік багоў,
Вылічальнік багоў,
Тлумачальнік багоў,
Выпраўляльнік багоў,
Нізвяргальнік багоў,
Узнаўляльнік багоў,
Раздзяляльнік багоў,
Вызваляльнік багоў,

Вынішчальнік багоў,
Завяшчальнік багоў... –

А ўсяго?
А ўсяго:
Ці ён верыў, ці не –
Бог
Пражыў без яго.

І – дальбог! –
Пражыве!..

## НЕ ТУДЫ...

Эпоха нас па лабірынтах водзіць,
І хтосьці нітку Арыядны ўкраў.
А з тупікоў з усіх бакоў свабодзе
Вястуюць шлях з прысмакам райскіх страў.

А той, хто ўкраў, сіпіць: “Канец блуканням!
Украдзеную нітку мы знайшлі!..”

Тады, напэўна, й зразумела стане,
Што выйшлі мы. І не туды прыйшлі...

## ТРЭБА ЎЖО СЁННЯ...

Ну хто паніхіду закажа
На пахаванне эпохі,
Калі ў труну яна ляжа,
Сабраўшы парэшткаў крохі?

Калі на памінкі стагоддзяў –
Перад касою вострай –
На раду: хто болей нашкодзіў? –
Збяруцца ўсе яе сёстры.

Якая мелодыя грымне,
Хто рэквіем гэтакі створыць
Самай на ліха нястрымнай
З усіх чалавечых гісторый.

І чым, і як славасловіць
Прэм’ерку ў крывавых скоках? –

Трэба ўжо сёння замовіць
Яе песнярам і прарокам...

## ГЭТАК І Ў НАС…

Як і вароне: дай крылы арлíныя,
А не ўзляцець ёй вышэй за хлявы;
Як і шакалу: дай грыву ільвіную,
Ды не патрапіць шакалу ў ільвы;
Як і драчу: дай сады салаўіныя,
А драч будзе горлам драць паплавы, –

Гэтак і ў нас: лаўровай галінаю
Крылаў не ўзвысіш размах крыжавы;
Гэтак і ў нас: не заменіш чупрынаю
І не аздобіш пустой галавы;
Гэтак і ў нас: слоў залевай няспыннаю
На песенны дар не прыдбаеш правы...

## РАЗНАРАДКА

*Куды ні глянеш – людзі, людзі,*
*Куды ні глянеш – шэльмы, шэльмы,*
*Куды ні глянеш – б'юцца ў грудзі,*
*Што значыць: правільныя вельмі...*

**Янка Купала**

Што было на прыцэле ў паэтаў,
З чым змагаліся, што праклíналі,
Зноў вылазіць з падвальнага свету,
Каб узвысіцца на п'едэстале.

Зноў грабе ненажэра-ўласнік
Пад сябе з адгаворкаю – бізнес!..
І цікуе: з улову ці плясне
І яму што – чыноўны бамбіза...

Зноў мяжа: бядняк і эліта,
І няма на разборку Ісуса, –
Толькі свечкі ў руках прагавітых –
Апраўданне грахоў і спакуса.

І блукае Муза па выдмах
Слова- і сл*а*ва-блуддзя пустога
З разнарадкаю: як бы выдаць
Ім "Вайну і мір". І Талстога...

І маўчыць, як на сходзе калгасным,
Дзе актыў прамаўляе лозунгі:
Што "вайна" – дык яно быццам ясна,
А вось – "мір"?.. ды калі па-цвярозаму...

І ўяўляе, як "па" на пальчыках
Па-балетнаму, перад багамі
Барышоў, Караткевіч з Панчанкам
У шоў-бізнесе выдыгаюць...

Не, крый Божа!.. Ратуйцеся, людзі
(Ратаваліся ж "пры камунізме"!..):
І "Вайна і мір" – у аблудзе, –
Толькі вэрхал на песеннай трызне...

Дык давайце ж наіўнымі трошкі
Станем – праўдзе зірнём у вочы:
Пазарасталі сцежкі-дарожкі,
Дзе Муза хадзіла, ды мусіла збочыць...

## ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ

Галасы прагучалі:
Расейцы крычалі,
Немцы тупа вяшчалі,
Англічане мычалі,
Беларусы... маўчалі...

## НІХТО...

Не сумняваўся ніколі я:
Замест мяне на сугрэў
Кожны сто грамаў адолее, –
Ды замест – ніхто не памрэ.

Такая ў жыцця паласа:
Аднойчы – і толькі сам.

## РАВЕСНІКІ

Днём смутак прадуць,
Як гуляе мяцеліца,
А ў спёку ідуць
Кваском абнядзеліцца.

Кавенькі рыпяць
Вянцом геаграфіі...

Начамі... не спяць –
Па ўласнаму графіку...

### *А ХТО Б СКАЗАЎ...*

А хто б сказаў: які б абрынуў
З душы сваёй ты груз цяжкі,
Калі б чырвоныя сцяжкі
(Нібы на ловах) – успаміны –
Зрэдзьчас звальнялі ад правіны
Лічыць грахі, збываць грашкі...

Дык не – аблога! І ўсё тая:
Лаўцом сам за сабой сачу.
– Чаму маўчу? Чаму маўчу?.. –
Як двайніка сябе пытаю.

– На ўсё, на ўсё адказы маю,
Таму й адказваць не хачу.

### *ПРОСЬБА*

Зямныя грахоўныя крокі,
А тояць жаданне сваё:
О Божа, Божа высокі,
Пабачыць царства тваё.

Здагадку маю: пакутна
Людскія грахі лічыць.
Ды веру ў тваю прысутнасць
І ў волю – дапамагчы.

Даруй, калі дзе памылюся,
Ды лёгкіх шляхоў не масці.
Даруй – я пакутна вярнуся,
Каб шлях пакутны прайсці...

* * *

А ноч – як рэха дня –
Не спіць, бунтуе думы,
А мроі, сноў радня,
Шчадруюць свой ладунак.

І што прыносіць ён
І мэта ў тым якая:
Жыццё тваё – праклён,
Што ў марнасцях блукае,
Ці ты абраннік сфер
З аздобай чалавечай –

I ўчора, і цяпер,
I ў будучыні вечнай?

Тады чаму, скажы,
Такім даецца коштам
Выпадак гэты: жыць, –
Каму? калі? навошта?..

## *НАД РЭЧКАЮ МАЎЧАННЯ…*

На ліпах жоўты ліст
Запальвае сігнальчыкі:
Зялёны вакаліз –
I сонечныя зайчыкі.

Без развітальных слоў
Гучыць вясны мелодыя,
А восень – без паслоў
Ідзе сваёй валодаю.

Ідзе крадком, цішком,
А мроіцца: гучанне
Ступае беражком
Над рэчкаю маўчання...

## *НІБЫ Ў ХОВАНКІ ГУЛЯЕМ…*

А здзіўляцца вам не раю:
I грыбы, і грыбнікі
Па сабе ўсё выбіраюць –
Хто дубняк, хто сасьнякі.

Так і ў нас: хаджу, таўкуся –
I ў абход, і напрасткі, –
Дзе ж грыбы мае? – злуюся,
Дзе вы, дзе, баравікі?!

Можна ж так і лес з прылессем,
Вас шукаючы, прайсці.
А наўкол – як цуд, як песня –
Столькі зваблівых мясцін!

Ну, няўжо не даспадобы
Гэты верас вам і мох?
Ці ў вас густ які асобы,
Пра які я знаць не змог?

Нібы ў хованкі гуляем:
Знойдзе хто ці ашукае?..
Толькі хто каго шукае?
Хто каго і дзе чакае?..

Ці на жарт крывое люстра
Нам падсунуў лесавік,
Каб дзе густа, а дзе пуста,
Зрок адводзіў баравік?..

Ну скажыце, дзе маглі б вы
Месца лепшае знайсці?
Хоць вазьмі ды замест грыба
Сам садзіся і расці!..

Як пачуў пра кут лацвейшы
І што я займу яго,
Раптам крыкнуў Цар Святлейшы –
Баравік: – Не дам свайго!

І адкуль ён толькі ўзяўся?
І са схованкі якой
На мяне паход узняўся
Ўсёй грыбною талакой?

От і дзякуй, абаронцы!
Падыходзь! На ўлік бяром!..

Меў мой кош пустое донца –
Зараз – поўны, з каптуром!..

### НЯБЕСНАЕ ЛЕТА

*...зоркі Геркулеса...*
*Да іх ляціць наша сонца,*
*І нясецца за сонцам зямля...*

**Максім Багдановіч**

Нябеснае лета шматзорнае,
Загадкі блуканняў начных,
І меч Геркулеса – паўтораны
Антычных шляхоў ускалых.

Сузор’е не з самых прыкметных,
А нам дарагое яно,
Бо першаю зорка ўсё лета
Да нас зазірала ў акно.

Ці наша з унукам абранніца,
Ці ў зоркі абраннікі мы,
А з намі ўсе ночы да раніцы
Яна ад вясны да зімы.

Святлінкаю ціхай і шчыраю
І мроі прыносіць, і сны,
Як песня, вярнуўшыся з выраю
На крылах шпачынай вясны.

І мудрую казку расказвае,
І велічнасць зорных былін
Даносіць, і тайны развязвае,
Калі з ёй адзін-на-адзін.

Адно толькі трэба даверыцца
Сусветнай яе глыбіні.
Насустрач адкрытаму сэрцу
Ляціць яна, – бачыш? – зірні!..

Даўно мы вось гэтак сябруем...
Ва ўнука ўжо свой інтарэс,
А я ўсё сустрэчы святкую
Штоночы з табой, Геркулес.

Табе мая ўдзячнасць зямная,
Што ў зорны бярэш мяне круг, –
Тым больш: наша зорка – двайная,
Пароўну з унукам на двух.

Прамудрасцю энцыклапедыі
Я досведны ўзброіў запас,
А так бы жылі і не ведалі,
Якая абранніца ў нас!..

Ды толькі штогод з катастрофай
Касмічнаю знаюся я,
Якую ўчыняю самохаць, –
І ў тым і бяда ўся мая.

Кватэра абжытай планетаю
Бяззорнае дорыць акно:
Нябеснае лета адлетаваў –
А ў горадзе зор не відно...

## КРЭСЛА

Крэсла ўладнае – магніт
І жыццё халяўнае:
Эрудыт – у крэдыт,
Невук – за наяўныя.

## КАЎЧЭГ

Хрост перад вечнасцю кладу,
Як перад аналоем.
Плыву, плыву ў патопе дум
Новапатопным Ноем.

А думы ўсё: жыцця каўчэг,
Куды мяне нясеш ты?
Які яшчэ, скажы, мне грэх
Пакінуў лёс на рэшту?..

Як абысці яго, калі
Наўкола столькі звабаў
На нашай сённяшняй зямлі, –
Не, гэта не для слабых...

Каўчэгу раб я ці ўладар?
Ці мы з ім знелюдзелі?
І што ратуем: боскі дар
Ці д'ябальскае зелле?..

## СПЫТАЦЦА Б...

Вечна: зоры, сузор'і, сусветы.
Заўтра вечнае, вечнае ўчора.
А далей? Што далей за гэтым?
Зноў – сусветы, сузор'і, зоры?..

Вельмі просценькае пытанне:
Ну адкуль гэта ўсё ўзялося?
Бог стварыў? – хто спрачацца стане!..
Толькі д'ябал прэ без запросін:

"А бясконцасць? – якое ж тварэнне?!
Гэта ж нуль абсалютны, – ні-чо-га..."

Як жа й чым аспрэчыць глумленне? –
Мне б таксама спытацца ў Бога.

О нябога! –

Не бяры боскі груз на плечы, –
Бог і ёсць бясконцасць у вечным.

### *ЧАКАННЕ*

Ідзе, ідзе навальніца!
Ноч закрывае паспешна
І форткі, і аканіцы –
А я пазіраю пацешна.

А мне адна насалода
Завабіць у хату стыхію,
Абвесніць імем прыроды
Жытла закуткі глухія.

Маланка п*а*дае строма,
Пакінуўшы ў небе цемень,
І ад удару грома
Трапеча фіранка ўсім целам.

Хутчэй, хутчэй, навальніца –
Ты ж бачыш, як душна, як цесна, –
Абмый і мяне, і дурніцу –
Душу вадою нябеснай.

### *ЗНАК*

Яшчэ адно жыццё заямлена,
Падсумаваў рахункі жвір,
І крыж зямны – як знак не яўлены:
Анёл ці ў пекла канваір?..

### *ПРАДВЕСЦЕ*

Цішыня маўчання зорнага,
Што ж ты сёння так гняцеш?
Бездань часу ілюзорная,
Дзе тваіх пытацца меж?

Знічка ніткай абрываецца
Ад касмічнага вузла, –
Недзе ў свеце нараджаецца
Вестка заўтрашняга зла...



проза

Уладзімір Сцяпан



...варта зірнуць на чалавека з нязвыклага,
з нечаканага месца, –
адразу бачыш яго недахопы...

# Букет

***Мініяцюры***

### Немка

У 1970 годзе я вучыўся ў пятым класе і быў упэўнены, што жыць у Савецкім Саюзе лепш чым дзе. І нават у шостым яшчэ верыў, але веры той крыху паменела. Была ў тыя школьныя гады мода сярод гэпэшных дзяцей перапісвацца з аднагодкамі з іншых краін. Дзе мы бралі адрасы, як знаёміліся – не памятаю. Я перапісваўся з дзяўчынкай з польскага партовага горада Гдыня. Мой сябар – з дзяўчынкай з Чэхаславакіі. Фоткі з замежжа прыходзілі ў дзіўных канвертах, адказы ляцелі ў яркіх канвертах “АВІА” па сем капеек за адзін. Старэйшая сястра маёй аднакласніцы Томкі Шаўцовай – Любка перапісвалася з дзяўчынкай з ГДР. І вось за месяц да зімовых вакацый стала вядома, што тая нямецкая дзяўчына прыязджае да сястры маёй аднакласніцы на дзесяць дзён.

Аднакласніца мая жыла ў суседнім доме, у адным пакоі трохпакаёвай камуналкі, на першым паверсе. Бацькі працавалі на шклозаводзе. За два тыдні да вакацый пачаўся неверагодны рух. Дзве сям'і з той камуналкі некуды перасялялі. Прыйшлі будаўнікі і пачалі фарбаваць падлогу і падваконні, паклеілі яркія шпалеры, розныя ва ўсіх пакоях. Адрамантавалі прыбіральню і душавы пакой, пабялілі столь і пафарбавалі пад'езд. Завезлі новыя шафы, вялікую лядоўню, два тэлевізары, кніжкі розныя. Найбольш усіх здзівілі вялізныя бурачковыя дываны ў кветкі і акварыум з рыбкамі. Посуду рознага навезлі, пераапранулі ўсю сям'ю ў новае. Час ад часу побач з пад'ездам спыняліся легкавікі, і мужчыны ў шэрых паліто хутка заходзілі ў пад'езд.

І дарослыя, і дзеці шукалі нагоду, каб зазірнуць у кватэру Шаўцовых, але не ўсім шанцавала. На дзвярах з'явіўся званок, і не ўсім Шаўцовы адчынялі. Некалькі разоў я прапаноўваў аднакласніцы паднесці партфельчык, яна не адмаўлялася. І толькі за дзень да вакацый Томка сказала, што я ёй зусім не падабаюся і сябраваць са мной яна не будзе.

Немка выглядала звычайна. Шэрае паліто, швэдар, шалік, вязаная шапка, акуляры... Немку штодня вазілі ў Гомель: музеі, тэатр, кіно, каток, лыжы (канькі і лыжы прывезлі новыя).

Томка хадзіла па гэпэ важная, не падысці. Немка з'ехала. Мэблю з камуналкі вывезлі, канькі і лыжы забралі, суседзі вярнуліся ў два чысценькія пакоі.

## Вуліцы і людзі

Дзядзька Юзік-сталяр вучыў свайго сына Вітальку лічыць... Пальцы няспешна свае загінаў. Спачатку на левай руцэ – пяць. Потым на правай – тры... Пяць на левай, на правай – тры.

Мой аднакласнік Віталька толькі восем і скончыў, а потым – турма. Столькі ж пальцаў было ў Куцапалага Юзіка.

## Бэз Элеаноры

Язерская шырока сядзела на лаве, побач са Свіслаччу, побач з будынкам тэлебачання. Яна млела і абмахвалася яркай спадніцай. Быў спякотны травень 1999 года. Тэлевежа бялела і чырванела, насоўвалася бэзавая хмара, але і сонца пякло. На лаве стаяла пляжная валіза. У валізе сядзеў белы кот і стомлена каўкаў. Валізу ўпрыгожвалі каляровыя каменьчыкі, кавалачкі люстэрка, ракаўкі. Мы з дачкой прыселі побач. Дачцэ было гады чатыры, і яна дзівілася на белага ката, на яркую разамлелую жанчыну.

Пагаварылі пра нешта малазначнае – тэлевізійнае. Сабраліся сыходзіць. Элеанора падалася да прыступак, перайшла вуліцу, потым, напрасткі, па траве да вялізнага куста і пачала ламаць бэз. Наламала вялікі букет. Мне зрабілася няёмка ад яе нахабства, але змаўчаў. Элеанора з букетам падышла і сказала: “Валодзя, хіба я не заслужыла?.. Я столькі гадоў гэтаму тэлебачанню аддала”.

Пра каменьчыкі і кавалачкі люстэрка на валізе з катом успомніла дачка.

Я згадаў бэз, які яшчэ добра не расцвіў.

Той куст і сёння ў кветках, але ў звялых, іржавых, якія памалу асыпаюцца, абцярушваюцца...

## Гена Ха

Гену Хацкевіча ведаў з 1976 года. Апошні раз сустрэліся 22 красавіка 2014-га, на адкрыцці выставы ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Было тлумна, раптам пачуў голас Гены: “Сцепаненка, здароў!” Гена падышоў, на ім была чырвоная куртка, пацiснуў маю руку. Убачыў, што я з жонкай, і сказаў: “Сцепаненкі, пайшлі да мяне, я торт куплю, пасядзім, пагаворым... Няма тут чаго глядзець, а я вам свае новыя карціны пакажу...” Калі мы сыходзілі, то Гена стаяў побач са сваім палатном і даваў інтэрв’ю.

Сёння пра сваю апошнюю сустрэчу з Генам расказаў і Валера Шкаруба. Ён сустрэўся з Хацкевічам 23 красавіка, на плошчы Якуба Коласа, на адкрыцці наступнай выставы. Гена яму сказаў: “Шкаруба, што ты ўсё восень малюеш... Напішы лепш вясновы сад, у кветках белых...” Валера памаўчаў, а потым дадаў: “Каб Хацкевіч быў жывы, то прапанову з садам я і забыўся б, а цяпер не магу... Думаю пра той яго белы сад”.

## Мона

Днямі знаёмы лаяўся, калі расказваў пра спатканне з жанчынай. Казаў, што бачыў сотні яе фотак, відэа, а калі першы раз сустрэліся, то не ведаў, як хутчэй развітацца.

У траўні 1974 года, здаецца, была пятніца, я трапіў з дапамогай шэранькага пасведчання навучэнца мастацкай вучэльні імя Глебава ў Пушкінскі музей. Не давялося стаяць у даўжэзнай вулічнай чарзе. Там паказвалі “Джаконду”, карціну, якую бачыў да таго дня толькі ў выглядзе паштовак, чорна-белых і каляровых рэпрадукцый... Мне хапіла часу, пакуль чарга набліжала і падштурхоўвала да невялікага палатна ў цьмяна-бліскучай раме. У мяне добры зрок, і я разгледзеў самы знакаміты партрэт. Гэта было неверагоднае расчараванне, амаль да слёз, але я тады не прызнаўся нікому ў сваім расчараванні...

## Тры вуліцы

Яна кароценькая – вуліца Кастрычніцкая. Яна пачынаецца ад плошчы, а заканчваецца возерам. За вадой поле, за ім дрэвы, вёска. Ідзеш па Кастрычніцкай ад плошчы – праваруч паркан сталоўкі, жалезная чорная брама, потым чырвонацагляныя гаражы, школьны двор, а за ім аднапавярховая школа. Потым зноў гаражы і возера. Калі быў школьнікам-пачаткоўцам, то Кастрычніцкая здавалася доўгай і шырокай. На ёй стаіць чатырохпавярховік, дзе я жыў. З вокнаў кватэры школу відаць. На вялікім перапынку прыбягаў дамоў перакусіць, пераапрануцца...

І вуліца Першамайская пачынаецца з плошчы. Як ідзеш па ёй, то леваруч “хабза”, далей лазня, кацельня, гаражы, дрывотні, паркан, баракі, дамы-дамы-дамы, а насупраць дамоў школа, потым дзіцячы садок, а потым дом, дзе жыве мама... Першамайская нашмат даўжэйшая за Кастрычніцкую. Так мне здавалася. Прайсці ад возера да канца Першамайскай – сапраўдная вандроўка, на якую можа дзень сысці.

Першамайская ўпіраецца ў вуліцу Лебядоўскага. Яна пачынаецца ад шашы. Калі па ёй ісці, то выйдзеш да поля, на ім дрэвы, кусты. Гэта могілкі. Каб не дом на Першамайскай, то са спачывальні можна было б могілкі бачыць.

Сёння ўсе тры вуліцы майго гэпэ падаюцца вельмі кароткімі, асабліва тая, што вядзе да могілак.

## Сустрэчы на пахаванні

Выкрышыліся, прапалі, зніклі з майго жыцця... Іх тэксты і фотаздымкі засталіся адно ў старых растрыбушаных часопісах. На зрудзелых старонках газет, якія цяпер не выдаюцца.

У калектыўных зборніках яны маладыя, усмешлівыя і змрочныя, як сапраўдныя паэты. Але іх няма ў інтэрнэце...

Пра некаторых думаў, што яны даўно памерлі, адляцелі хмарамі, сплылі крыгамі... Імёны пазабываў, прозвішчы не мог згадаць. А на пахаванні Барадуліна, яны падыходзілі да мяне, віталіся, паціскалі руку і казалі: "Вось яно як..." Некаторыя фатаграфавалі мяне, фатаграфаваліся са мной, уздыхалі і шапталі ўзбуджана, незнаёмымі галасамі: "А памятаеш, Валодзя?.."

Я вяртаўся з пахавання дамоў і спрабаваў згадваць імёны, прозвішчы. Злаваўся на сябе, але ўсміхаўся.

## Мароз і сонца!

Як шпарка ідзе гандаль пляскатымі пляшачкамі гарэлкі, яркімі і звонкімі, як елачныя цацкі. Мужчынская чарга рухаецца хутка, а стомлены грузчык не паспявае прыносіць запаяныя ў цэлафан блокі гарэлкі, празрыстасцю падобныя да кавалкаў лёду... Пляскатыя пляшачкі датыкаюцца адна да адной, як цалуюцца на развітанне. Успомнілася яркае і выразнае, хоць і напаўзабытае слова – "чакушка".

Мароз і сонца!

## І ты, Брут

Раніца. У краме, у аддзеле бакалеі, побач з прылаўкам цётка ў памаранчавым адзенні. Пры яе нагах круціцца кудлаты цуцык. Цётка штурхае яго нагой, скідае капюшон, узіраецца ў недалёкі шэраг рознакаліберных пляшак і кажа ўпэўнена: "Дай-ка мне, Марына, адзін брут! Галава баліць...", падае картку. Прадавачка задуменна ставіць бутэльку шампанскага. Цётка спрактыкавана набірае код, хавае бутэльку з бліскучым коркам у маленькую торбу, картку ў кішэню, спахопліваецца і просіць аднаразовы кубачак. Посуд атрымлівае, як бонус, задарма.

Разам з цуцыкам і брутам выходзіць з крамы.

## Сны

Некалі чытаў, што прысніць можна толькі тое, што насамрэч бачыў у жыцці. Але ў мяне бываюць сны, у якіх бачу абсалютна незнаёмых мужчын і жанчын. Там, у снах, з імі знаёмлюся, размаўляю. Потым праходзіць час, месяц, год ці два, і той сон забываецца, як і не было яго. І раптам, вось як заўчора, еду ў метро. У вагон, на "Усходзе", заскоквае мужчына. Глядзіць на мяне зацікаўлена і крыху спалохана. Пачынае расшпільваць паліто, толькі верхні гузік паспеў расшпіліць... А я ведаў, што пад паліто – белы швэдар з чырвонымі аленямі, а пад аленямі – тры тонкія чырвоныя паскі... Так

і аказалася. Ён сеў насупраць і ўсё паглядаў на мяне, а я на яго аленяў. А яшчэ я ведаў напэўна, што ў правай кішэні цёмна-сіняга паліто – тры каштаны і маленькі ліхтарык...

Я не даехаў два прыпынкі.

Мужчына запытальна глядзеў мне ўслед.

## Горад

Ёсць і ў мяне ў Менску: любімая вуліца, месца, будынак... А яшчэ ёсць любімае дрэва – дуб, побач з домікам 1-га з'езда. Я гляджу на яго зімой, калі ён засыпаны снегам, вясной і летам. А найбольш ён мне падабаецца позняй восенню, калі толькі на ім і шуміць калянае рудое лісце...

Мне здаецца, што гэта важна, мець такое дрэва. Любімае.

## Партрэт і ўзрост

Мне тады было гадоў дзесяць, калі я ўбачыў сябе дарослым. Не на пяць, не на дваццаць гадоў старэйшым, а значна больш. У падлеткавым узросце, у юнацтве думаеш пра сябе дарослага, але думкі тыя, як і выявы тыя – расплывістыя, неакрэсленыя, размытыя, але ім верыш. Тады, паміж зімой і вясной шэсцьдзесят восьмага, мой настаўнік папрасіў пасядзець мяне пару гадзін нерухома і напісаў акварэльнымі фарбамі мой партрэт.

Я сяджу на казённым крэсле з жоўтай дыктавай спінкай. У шэрым швэдры з расцягнутым каўняром, у карычневых штанах і кірзавых ботах. Мода такая была ў гэпэ на кірзавыя боты, але яны засталіся ненамаляванымі. Нейкі я на тым партрэце засяроджаны, цельпукаваты, з чырвонымі вуснамі і цёмным чубам, вушы ружовыя, а вочы каштанавыя. Гляну ў я на той партрэт, на чатырох кнопках, і ўбачыў сябе дарослым...

Мама той партрэт схавала ў шафу. Ён і сёння там ляжыць, на ніжняй паліцы, па-над ім, на старамодных плечках, вісяць плашчы, паліто, сукенкі... Ляжыць ён пад светлым кардонам.

Гляджу на сябе ў люстэрка і бачу, што пакуль яшчэ не падобны я на сябе дарослага, на таго, раптам убачанага скрозь малюнак, зроблены празрыстымі фарбамі на шурпатай паперы. Можа, яшчэ не сышоўся сёняшні я з тым, якога ўбачыў тады. Суцяшаюся думкай, што калі выявы супадуць, то і пачну лічыць сябе старым, дарослым, як лічыш скончаным малюнак.

*Снежань 2013*

## Паліто

Быў у майстэрні мастака. Даўно не бачыліся, шмат гаварылі. Пілі гарбату са шкляных тонкіх кубкаў. Мастак паказваў карціны.

Рамы на палотнах з гадамі робяцца ўсё лепшыя і лепшыя, а творы горшыя і горшыя. Мяне гэтае назіранне напалохала, яго і вынес з той светлай майстэрні.

Згадаў кароткае драпавае паліто на вацінe, якое вісела пры дзвярах, на цвіку, у інтэрнацкім пакоі, па вуліцы Сурганава, на другім паверсе... Гэта было ў васьмідзясятым годзе.

Цяпер у майстэрні, на плечках, вісіць скуранае паліто з каўняром з выдры. Пад ім новыя цёплыя чаравікі, чорныя, як жукі...

## Анёл

Цырульня. Усіх цырульніц ведаю. Яны збегліся да хлопчыка, які прыйшоў з маладой бабуляй. У хлопчыка неверагодныя валасы: доўгія, на плячах ляжаць, кучаравыя, залатыя, як салома жытняя. І цырульніцы, і бабуля пачалі ўгаворваць дзіцё толькі крышку падкараціць валасы, падраўняць. Хлопчык тупнуў і сказаў, што хопіць, што яму надакучыла быць анёлам, што ён хоча быць звычайным, як Сенька з Ромкам, а таму трэба ўсе валасы адрэзаць. Паглядзеў на мяне і сказаў, каб і яго так пастрыглі. Цырульніцы павагаліся, яшчэ трохі паўгаворвалі малога. Эдзіта пачала пстрыкаць нажніцамі. Два разы чыкнула па кончыках валасоў – нажніцы разваліліся... "Мой «Золінген» – сто дзесяць даляраў..." – разгубілася цырульніца.

Калі я выходзіў, то малога анёла яшчэ стрыглі. На падлогу падалі, як залатыя спружыны, доўгія валасы. Але ўсмешка ў хлопчыка заставалася самаўпэўненай – анёльскай.

## Геній

Толік з’яўляецца ў горадзе восенню, нечакана. Апрануты не па надвор’і, занадта лёгка. Заўсёды ў адным і тым жа шэрым, некалі фарсістым, а цяпер зношаным, пінжаку з жалезнымі гузікамі. Толіку не бывае халодна. Ёсць два месцы ў Менску, дзе мы сустракаемся, але нават і не вітаемся. Першае – побач з Вайсковымі могілкамі, а другое – побач з кінатэатрам "Мір".

Бачу, як ён ідзе ўздоўж чорнай агароджы могілак. Правая рука ў кішэні, а ў левай вялікая тэчка. Толік можа спыніцца, стаць побач з графічнымі жалезнымі прутамі і пачаць маляваць. Будзе ехаць доўгі трамвай па вуліцы Даўгабродскай. Будуць спяшацца людзі, бо пачынаецца дождж, будуць ірвацца з рук рознакаляровыя парасоны, а ён будзе маляваць. І ні адна кропля дажджу не ўпадзе на шэрую паперу, на рукі мастака...

Ён шмат разоў спрабаваў паступіць у тэатральна-мастацкі інстытут, але яго не бралі, не бралі, не бралі...

А яшчэ, гэта побач з кінатэатрам "Мір", Толік можа доўга стаяць і глядзець на будынак. Бо менавіта для фасада кінатэатра ён цэлы год рабіў доўгае пано. Маляваў з такой упартасцю, што засынаў апрануты і ляжаў на інтэрнацкім ложку, як нябожчык, а яго пінжак вісеў на спінцы крэсла. І яно нагадвала чалавека побач з ложкам хворага. Вакол насыпана паперак, як лісця пад дрэвам. Гэта вялікія і зусім дробныя малюнкі, ёсць пакамечаныя і падраныя... Аднойчы, ветраным лістападаўскім днём, побач з кінатэатрам, яго тэчка выслізнула з азяблых рук, раскрылася, і малюнкі паляцелі, закруціліся па вуліцы... Толік стаяў і глядзеў, а потым пачаў збіраць. І тады яго ледзь не збіла машына, бо ён не чуў і не бачыў яе... Ён не сабраў усе выхапленыя ветрам эскізы і накіды, а пайшоў адтуль, пабег, нават не азірнуўся, бо яму было сорамна.

У 73-74 годзе я жыў з Толікам у адным пакоі, на чацвёртым паверсе інтэрната архітэктурна-будаўнічага тэхнікума. Я – першакурснік, ён – дыпломнік.

Не ведаю, ці жывы мастак Толік Вераб’ёў?

*Лістапад 2013*

## Яблык

Дачка доўга прымерваецца, каб падзяліць яблык на тры роўныя часткі. Сабе і бацькам.

Забіраю нож. Рэжу яблык напалам. Палову даю дачцэ, а другую дзялю зноў напалам.

І жонка так робіць. І бацькі, і дзед з бабай так дзялілі яблык.

## Натуршчыца 1978

Сюжэта ў гэтай гісторыі няма.

У жанчыны быў выразны маршчыністы твар. Яна пазіравала два сеансы. Усяго двойчы яна сядзела на крэсле, глядзела, куды ж яна глядзела?

Пра гэта я здагадаўся потым. Яна пасміхалася сваім думкам. Рукі, рукавы кофты закасаныя, трымала на каленях. З усёй групы толькі я і Валодзька Мохаў малявалі яе. На трэці дзень і на чацвёрты натуршчыца на заняткі не з'явілася. Драбнатвары і драбнацелы мужчына, які загадваў натуршчыкамі, даў яе адрас, бо каб ведаў тэлефон, сам бы ўсё і высветліў.

Мы з Мохавым паехалі даведацца, чаму яна перастала прыходзіць. Натуршчыца жыла на Камсамольскай, у дварах. Той двор мы адшукалі хутка. Вокны пачыналіся адразу ад зямлі. На падваконнях кветкі ў вялізных, абгорнутых для прыгажосці шпалерамі кансароўках. Бялізна сушыцца. Кастрычнік, але цёплы, а можа мне гэта здаецца, бо спяшаліся і нам зрабілася горача... Падняліся на другі паверх па драўлянай лесвіцы. Дом здаваўся пустым, і пахла дзіўна, па-вясковаму. Пагрукалі ў дзверы, пачакалі, пагрукалі яшчэ. Валодзя пацiснуў плячыма і сказаў, што ў кватэры ціха. Я прапанаваў напісаць запіску і запіхнуць пад дзверы. Але дзверы адчыніліся. Бліснуў ланцужок. На нас пытальна глядзеў мужчына. Мы пачалі тлумачыць, што шукаем натуршчыцу, назвалі прозвішча, сказалі, што мы – мастакі. Ён гукнуў у цемру: “Мама, гэта да вас... Мастакі... Прайдзіце”. Наша натуршчыца ляжала на канапе. У нагах руды кот, але ён адразу збег.

Натуршчыца сказала, што не прыйдзе да нас, бо захварэла. Побач з канапай стаяў зэдлік, а на ім бутэлечкі, лыжка, шклянка з вадой, яблык і высокі крыштальны келіх. “Гэта віно... Думала, што яно смачнае і салодкае, а яно кіслае. Я піла яго даўно, з жаніхом...”, – патлумачыла натуршчыца і нават паспрабавала засмяяцца. Але закашлялася, пачырванела.

Прыйшоў яе сын і прынёс кубак з цёплым пітвом. Натуршчыца глынула і перастала кашляць. Побач з канапай стаяла чорнае піяніна. На ім кардонка з цукеркамі, кожная ў бліскучай фользе, як елачная цацка. Натуршчыца папрасіла, каб я падаў цукеркі, а сын наліў віна маладым мастакам. Сын яе просьбу выканаў. Ён усё рабіў з хуткай пакорлівасцю, спрытна, па-жаночы. Мы выпілі, з'елі па дзве цукеркі. Тое віно мне не падалося кіслым. Жанчына расказала, што быў у яе жаніх-мастак. Ён яе маляваў фарбамі, на палатне, але партрэт не захаваўся, бо была вайна.

“Я прыйшла пазіраваць, каб яго згадаць. А глянула на вашы малюнкі – і ўбачыла, якая я старая і ўся зморшчаная, як тая жаба...” – сказала яна з разгубленай усмешкай.

Яе сына звалі Эдзік, і ён правёў нас да дзвярэй. Мы пачулі, як пстрыкнуў замок. Бразнуў ланцужок. У двары я закурыў. Пахла вільготнай бялізнай, дымам, старым Менскам і хлебам.

Ні прозвішча, ні імя той жанчыны не запомніў, а вось па бацьку яна была – Вісарыёнаўна.

*Кастрычнік 2013*

## ...Як падлеткі

Сёння бачыў, як немаладыя мужчына і жанчына стаялі ў аўтобусе і трымаліся за рукі. Шчыра, як падлеткі.

Зялёная "сотка" ехала, а потым раптам тарганулася і спынілася...

Мужчына з жанчынай паляцелі, паваліліся на падлогу...

Але працягвалі трымацца за рукі.

## Стары вакзал

На старым вакзале пахла чыгункай, прыбіральняй, хлёркай і буфетам... А яшчэ нямытымі пасажырамі, якія нагадвалі чамаданы, клункі, торбы, валізы... Да чыгуначнага вакзала было бліжэй, чым да аэрапорта, а на трамвайны прыпынак бліжэй, чым на тралейбусны.

Я сядзеў і маляваў пасажыраў, якія спалі ці здранцвела сядзелі. Абуджаліся яны адно ад гучных і хрыпатых абвестак, але толькі на адно імгненне, потым ізноў рабіліся нерухомымі. Здаралася, што да мяне падыходзілі міліцыянеры і даводзілася паказваць шэранькае пасведчанне навучэнца мастацкай вучэльні. Міліцыянеры глядзелі дакумент, няскончаны накід, зроблены алоўкам, крыва пасміхаліся і сыходзілі. На вакзале маляваць мне падабалася, бо там па начах шмат нерухомага, запаволенага, спыненага. Застаецца толькі перанесці абрысы на паперу і паставіць дату. Але тады, у 73-74 гадах, я не падпісваў свае накіды, не захоўваў іх. Быў упэўнены, што намалююцца лепшыя, такія, што і падпісаць будзе не сорамна.

Часам я спыняюся на плошчы і гляджу на вакзальныя вежы, якія адлюстроўваюцца, рассыпаюцца і наноў збіраюцца ў нерухомай паверхні шкла... Ні разу не бачыў, каб у новым вакзале нехта старанна і самааддана маляваў.

## Хвалі

Можа, гэта засталося яшчэ з тых часоў, калі быў падлеткам. Калі ў цемры паварочваў круцёлку радыёпрыёмніка, а часам і сам прыёмнік, нацэльваў бліскучы пруток антэны ў розныя бакі, трапляў: то на музыку, то на чужую мову, потым на іншую мову, але зноў чужую... А вось музыка не здавалася чужой, ні джаз, ні песні, ні класіка... Можа, гэта толькі мне радыё падаецца таемным, загадкавым, чароўным...

У радыёстанцый ёсць адлегласці, перашкоды, якія замінаюць. Калі атрымлівалася праз тыя перашкоды, трэск-піск, прабіцца, калі музыка, галасы пачыналі гучаць чыста і ярка, то я радаваўся... У інтэрнэце вандруеш хутка, адлегласць не адчуваецца зусім.

## Дворнік

Наш двор прыбірае дворнік Міця і яго жонка Тамара. Міця робіць цяжкую праца, а яго жонка тое, што лягчэй. У Міці ёсць стары сабака. Філя,

які ходзіць за гаспадаром і ведае ўсе яго звычкі. Ніколі не бачыў, каб Міця вадзіў свайго сябра на шворцы. Гэта і не патрэбна, бо Філя дробны, ціхамірны і нават не брэша. Усе да Філі прызвычаіліся, як да нечага нязменнага, што ёсць і будзе. А сёння мне сказалі, што на Міцю завялі крымінальную справу, бо яго Філя некага пакусаў... Усе суседзі ўспрымаюць гэтую навіну з усмешкай, бо ўсе ведаюць, што Філя бяззубы... Міця ходзіць сумны, з суворым і рашучым тварам. З такім жа суворым тварам ён толькі што браў у гастраноме бутэльку гарэлкі. Нават не ўсміхнуўся, як звычайна.

### Кума

Калі быў дома, то да мамы прыйшла кума. Яны сядзелі на канапе, на сцяне кілім. Карцінка над якой любяць блогеры смяяцца, і гаварылі пра тое, што жыць цяпер добра, але здароўя няма... І ўсе, хто стараецца, нават у гэпэ, то жывуць спраўна. Пачалі пералічваць знаёмых, якія памерлі апошнім часам... Мама з 30-га года, кума з 41-га... Гаварылі-гаварылі і сышліся на тым, што ўсё добра, і галоўнае, каб вайны не было... Можна было б і ўсміхнуцца, але я стрымаўся. Потым наша кума сказала, што вайны не будзе, таму што ляціць нешта з космаса і ўдарыцца ў Зямлю. Усе загінуць. Мама завойкала, а кума дадала, што загінуць усе і адразу, а таму баяцца няма чаго, спалохацца не паспеем...

Потым яны пайшлі піць чай з зефірам. Пра страшнае больш не гаварылі.

### Ніхто

Побач з аўтобусным прыпынкам п'янтос біў сабаку, якога вёў на белым капронавым шнуры. Біў нагой за тое, што сабака схапіў недаедзены і выкінуты бяляш. Людзі за сабаку заступіліся, п'янтосу надавалі кухталёў і выспяткаў, павалілі. Руды і віславухі сабака спалохаўся, кінуўся ўцякаць, ледзь пад машыну не трапіў. Колы легкавіка праехалі па белым шнуры... Гэта было дзён восем таму.

Учора, у дзіцячым парку, у дзіцяці выпаў з рукі банан, які яно ела.

Маладая маці пачала дзіцё біць па плячах, спіне, па твары і цягнуць за руку. Дзіцё крычала, як рэзанае. Ісці не хацела. Побач праходзілі парачкі з букецікамі кляновага лісця, пенсіянеры, праязджалі маладзёны на роварах. Свяцілі ліхтарыкі. За дзіцё ніхто не заступіўся.

### Ліхтарык

Ад мужчыны ў скуранцы моцна пахла віном. Ён стаяў на прыпынку і глядзеў у цемру, чакаў аўтобус. Пад празрыстай сцяной прыпынка сядзела чацвёра: дзве цёткі і два дзядзькі. Побач стаялі торбы з яблыкамі і кветкамі. Мужчына ў скуранцы выцягнуў з кішэні ліхтарык і пачаў свяціць сабе на руку, на красоўкі, на торбы, на расклад, на камель дрэва. Потым пачаў свяціць у твары. Спачатку адной цётцы – бліснулі жалезныя зубы, потым дзядзьку – ён прыкрыў вочы рукой, потым наступнай цётцы, якая войкнула і адвярнулася. Калі ж ён зрабіў крок і пасвяціў у твар яе суседу, то бліснула бутэлька. А дзядзька падхапіўся і ўрэзаў ліхтаршчыку па галаве. Ліхтарык выпаў, але не патух. Мужчыну ў скуранцы пасадзілі на лаву пад празрыстую сцяну і запіхнулі ў кішэню ліхтарык.

Пад’ехаў аўтобус. Прыпынак апусцеў. Калі аўтобус ад’язджаў, то мужчына заваліўся набок, а ліхтарык выпаў яму пад ногі, у лісце.

Жанчына з жоўтымі хрызантэмамі і жоўтымі зубамі сказала сяброўцы: “А н...й свяціць было...”

## Падарожнае

А запомніўся хлопчык.

Ён сядзеў на лаве побач з цагляным дамком чыгуначніка. Ён паклаў на калені галаву, абхапіў ногі рукамі. Ён глядзеў на імклівы і магутны цягнік, які на момант закрыў нерухомы восеньскі краявід. Хлопчык у балоневай куртачцы, у гумовых сініх ботах. Ён сядзеў на шэрай лаве, пад рудым дрэвам (здаецца, клён).

Бачыў яго імгненне, але запомніў і пазайздросціў яму...

## Грошы

Калі б чырванатвары мужчына трымаў у руках кнігу і хутка (вельмі хутка) перагортваў старонку за старонкай, то наўрад ці пяцёра пасажыраў плацкартнага вагона, глядзелі б на яго рукі так бессаромна. Але ў руках была не кніга. Дужыя пальцы хутка-хутка перагіналі буйныя зеленкаватыя банкноты па дзвесце тысяч. Усе пяцёра сачылі аддана. І маладзён, і жанчына за сорак, і пенсіянер з крыжаванкай, і мужчына з другой паліцы... Гаспадар пералічыў грошы, перагнуў, схаваў у кішэнь кашулі, гузік зашпіліў, апрануўся, падхапіў заплечнік і пайшоў да дзвярэй. Цягнік спыніўся ў Пухавічах.

Усім, хто глядзеў, як чырванатвары лічыў грошы, зрабілася ніякавата, быццам іх заспелі за непрыстойным.

## Аблокі

У жніўні, штодня: плылі, стаялі, ляцелі, сунуліся – неверагодныя аблокі. Я іх спрабаваў намаляваць, але не атрымлівалася нават наблізіцца да таго, што адбывалася на небе, што бачылі вочы. Некаторыя аблачыны нагадвалі лапікі на злінялай джынсе. Неба, некаторыя кветкі, людзей, фантастычных рыб і птушак, а некаторыя нічога не нагадвалі. Сплывалі, як сны, і нават згадаць якія яны былі, не магу.

## 1965 год

У кабінеце дырэктара сярэдняй школы ў Слуцку, на цвічку, вісела форма нямецкага афіцэра і мандаліна. Навошта мандаліна – не ведаю. А вось навошта форма – раскажу. У мундзір эсэсаўца штогод, на дзень Перамогі, апранаўся настаўнік фізкультуры. У сутарэннях школы, на галінках бярозавых венікаў, распускалася клейкае і яркае лісце. Школа рыхтавалася да свята. Па вуліцах будзе ехаць грузавая машына. На кузаве будзе стаяць шыбеніца. Настаўнік фізкультуры, апрануты ў мундзір афіцэра, будзе накідваць на шыю дзесяцікласніцы, яе рукі звязаныя за спінаю, вяровачную пятлю... Дырэктар школы абавязкова праверыць, ці

надзейна прыбілі-прымацавалі да дошак кузава табурэтку. Містэрыя пад умоўнай назвай "Зоя" паўтаралася на вуліцах Слуцка не адзін год. Зоя заўсёды заставалася маладой, а вось кат-афіцэр – старэў.

Другая сярэдняя школа ставіла іншы гераічны спектакль. На кузаве машыны ехала дыктавая Брэсцкая крэпасць, якая абаранялася і абаранялася....

Але мяне хвалюе мандаліна на цвічку...

## Кальварыя

Па сцежцы, на Кальварыйскіх могілках, ішоў чорны кот. Ён трымаў у пашчы шэры аксамітны мяшэчак – крата.

Чорны кот прайшоў побач са мной і пралез праз агароджу да помніка ўсмешліваму Пятру Мікалаевічу Лаўрэцкаму. Там, у высокай траве і здзічэлых кветках, кот і пачаў трыбушыць сваю здабычу. Пётр Мікалаевіч на фотаздымку заўсміхаўся яшчэ весялей.

## Цыганскі дождж

Ёсць моманты, калі жанчына робіцца неверагодна прывабнай...

На балконе сохне бялізна. Вялікі цёмна-сіні абрус, белая прасціна, і яшчэ адна колеру жаўтка, а можа і гэта – вялікі святочны абрус. Палова неба цёмная, а другая чыстая. Пачынаюць ляцець зіхоткія кроплі дажджу. Вецер хістае бялізну. На балкон выбягае жанчына. Яна хапае бялізну, прыўстае на дыбачкі, выструньваецца, спяшаецца. Сцягвае цёмна-сіні абрус, потым жоўты... Вецер вырывае з яе рук белую прасціну ў цёмных плямах кропель, але яна яе ўтрымлівае... Вецер аблеплівае жанчыну вільготнай сляпуча-белай тканінай... Па паўнаватых плячах збягаюць кроплі. Жанчына знікае ў кухні.

Яна сядзіць і ўсміхаецца. На каленях сіняя, белая і жоўтая тканіна, якая ад сонечнага дажджу зрабілася мяккай... У прастакутніку расчыненых дзвярэй стаіць дождж. Такі шчыльны, што здаецца залатым. Ён расчэсвае таполі і каштан, ясень і акацыю... Ён хутка скончыцца.

## Лілеі

Учора бачыў у вагоне метро жанчыну сталага веку, якая трымала ў руцэ букет лілеяў. Кветкі вялікія, белыя, як штучныя. Сцябліны доўгія з акуратнымі лісцікамі. І яшчэ быў цяжкі водар, такі шчыльны, што, здавалася, у паўпустым вагоне не стае звычайнага паветра.

Для мяне лілеі пахнуць смерцю, развітаннем з нябожчыкам, задухай і безвыходнасцю...

Можа, праз сваю пахавальную прыгажосць і цяжкі пах гэтыя кветкі так падабаюцца жанчынам сталага веку.

Але і анёла, які з'явіўся да Марыі, заўжды малююць з лілеяй...

## Зайздрасць

Чэзлыя пад'ездныя кветкі глядзяць у двор. Там шуміць моцны дождж, палівае вялікія зялёныя дрэвы.

На вуліцы спёка.

Чэзлыя вялікія дрэвы глядзяць на пад'ездныя кветкі, якія палівае жанчына з 81-й кватэры.

А вось кветкі, якія стаяць на балконе, палівае і гаспадыня, і дождж.

## Голас

Я не бачыў яго, чуў толькі ягоны голас. Бачыла дачка, яна і адчыніла дзверы, калі ён пазваніў.

Дачка і дала яму мой тэлефонны нумар, бо пра суседзяў, якія жылі побач з намі на лесвічнай пляцоўцы сорак гадоў таму, нічога сказаць не магла.

Ён патэлефанаваў. І я пачуў яго голас. Спакойны, далікатны, не вельмі гучны, упэўнены і напружаны адначасова.

Мужчына распытваў пра тых, хто жыў у кватэры нумар 97. Згадваў стогадовую бабульку, у якой настаўніца здымала пакой, пад'езд і кветкі на лесвічных пляцоўках...

Потым я распытаў у дачкі, як выглядаў той мужчына. Дачка сказала – добра, гадоў шэсцьдзесят пяць, ветлівы...

Ён гаварыў і гаварыў, называў прозвішчы суседзяў па пад'ездзе, а найчасцей гучала прозвішча Косаравы.

Не ведаю чаму, не магу зразумець, што падказвае, але мужчына шукае сваё былое каханне...

Нават не верыцца ў такое. Але яго голас...

Такія бываюць і ў кватэрных махляроў-аферыстаў.

## Расчараванне

У людзях расчаравацца лёгка, у сабаках цяжка.

На аўтобусным прыпынку, побач з цыркам, бегае худы шэры цуцык. Худы, як лінейка. Ён падыходзіць да людзей, тыцкаецца ў ногі, абнюхвае торбы. Вочы карычневыя, поўныя сабачага гора. І да мяне гэты шэры бадзяга падыходзіў, глядзеў чакальна. Але не было ў мяне ежы, каб даць яму. Учора выйшаў з пад'езда, бачу, круціцца сабака на прыпынку. Зайшоў у краму, купіў каўбасы і – на прыпынак. А цуцык адбег на газон, што побач з цыркам, на траву лёг, галаву на лапы паклаў. Падыходжу, даю яму ежу, а ён і глядзець на мой пачастунак не хоча. Думаю, што можа захварэў цуцык, зайшоўся ад голаду.

Пра людзей пачаў я кепска думаць. А потым бачу, што паблізу, на траве, і мяса вэнджанае, і булка, і бутэрброд пакусаны, і каўбасы розных гатункаў...

Карацей, расчараваўся я, але не ў людзях.

## Прымерка

Раніцай, у ГУМе, дзве маладыя жанчыны папрасілі мужчыну, які здаваў штаны, каб ён памераў цёмна-сіні пінжак. Мужчына пагадзіўся, пасмяяўся, але жанчынам падалося, што выглядае гэты пінжак змрачнавата... Прынеслі наступны – шэры. Мужчына памераў і яго. Жанчыны засмуціліся, сказалі, што гэты глядзіцца добра, але занадта сціпла, а хацелася, каб... Мужчына здагадаўся, што купляюць пінжак нябожчыку... Ён так спалохаўся, што збег і забыўся на свае штаны.

Жанчыны паглядзелі на мяне, але я не падыходзіў па камплекцыі...
На вуліцы сонечна, свежа і лёгка дыхаецца...

## Вушацкая гісторыя

Жнівень 42-га года. Мястэчка Вушачы. Немец капае ямку. Няспешна, па-нямецку акуратна. Кіцель павесіў на плот. Да немца крыху палахліва наблізіўся Антон Дзярыбка (мянушка ці прозвішча – не ведаю, не спытаў). Немец капае, а Антон яму расказвае, як нацярпеўся ад Саветаў, як пры бальшавіках было кепска. Немец капае, зрэдку глядзіць і ківае. Гаваркі Дзярыбка пачынае расказваць далей, а немец капае ямку. Дзярыбка зусім асмялеў, так падыходзіць, каб не ў спіну немцу гаварыць, а ў твар. Немец вылез з ямкі, паглядзеў на Дзярыбку, паківаў, на рукі пахукаў, рыдлёўку перахапіў і ўдарыў Антона па галаве. Спіхнуў у ямку, а закопваць не стаў. Надзеў кіцель і пайшоў.

## Рэлігійнае

Кожны год, у першыя дні траўня, чую мантру беларускую: “Трэба ехаць дамоў – бульбу садзіць!” Едуць лірыкі з фізікамі, мужчыны і жанчыны, бо калі не паехаць – без бульбы застанешся... Едуць у вёскі і на лецішчы. Садзяць... Хоць даўно палічылі і ведаюць, што купіць будзе танней. Але тут справа глыбінная, рэлігійная, тут культ бульбы.
Хаця ведаю беларусаў, якія бульбу не ядуць...

## Бэз

Яны сварыліся, як сварацца маладыя ва ўсе часы. Ён застаўся стаяць, а яна пайшла, але спачатку нагой тупнула, а ён галаву апусціў. Яна сыходзіла, не азіралася. Хлопец схамянуўся, агледзеўся і...
У двары, побач з буданом ахоўніка, расце куст. Хлопец хутка адламаў колькі галінаў з цёмнымі гронкамі. Выскачыў ахоўнік з лыжкай у руцэ. Хлопец дагнаў дзяўчыну і стаў перад ёй з букетам. Ахоўнік, сталы пенсіянер, вылаяўся, а потым сказаў: “А няхай бы ішла – каза дурная!”
Плюнуў, апусціў шлагбаўм і пайшоў даядаць кашу.
А я падняў адламаную гронку і сабе ўзяў...

## На дыктафоне ёсць такая гісторыя

...Мы гулялі ў парку, побач з палацам. Там мосцікі, возера, альтанкі мармуровыя, лебедзі плавалі, а мы, дзеці, там гулялі. Нас было ці то пяцёра, ці то чацвёра. У нас былі прыгожыя сукенкі. Заўсёды з намі хадзіла дзяўчынка. Ёй было гадоў сем, а з выгляду толькі пяць. Ножкі, як нітачкі, голас ціхі-ціхі, амаль шэпт. У яе быў вялізны жывот, такі, што сукенка трашчала. Яна, гэтая дзяўчынка, была “рахіткай”. Мы ёй і мянушку далі “Рахітка”. Аднойчы нехта сказаў, што калі “рахітку” скінуць у возера, то яна не патоне. Будзе плаваць, як мячык. Мы спіхнулі “рахітку” з мосціка, а яна патанула...
Нас потым дарослыя пабілі. Гэта было побач з Франкфуртам-на-Одэры, летам 45-га, а ўсе дзеці былі з розных канцэнтрацыйных лагераў...

*Запіс, чэрвень 2012*

## Са мной так бывае…

Едзеш на ровары і бачыш вузенькую сцежку, якая бяжыць ад дарогі на пагорак з кустамі. А за пагоркам поле, а далей цёмны лес... Магу і спыніцца, бо ўзнікае жаданне паехаць па той сцежцы. Хоць і не ведаю, куды яна прывядзе, дзе скончыцца. Пастаю, памару, сам сабе скажу, што калі-небудзь, другім разам, павярну і паеду па гэтай дзіўнай сцежцы... Калі-небудзь, потым... А цяпер мне трэба круціць педалі і ехаць па іншых справах, па грыбы.

А другім разам, праз дзень ці год, убачу тую ж сцежку, а жадання ехаць па ёй – няма.

## Народныя песні

*Сцяпан Антонавіч Ляйчонак*

Туманны і цёплы жнівеньскі ранак. Яшчэ й не снедалі. З дрэва пры хаце падалі важкія, пераспелыя, як васковыя, дулі.

З туману выехала на вузкую вуліцу шэрая машына з будкай – “чорны воран”. Сабака забрахаў і змоўк. Машына ціха ехала-ехала праз вёску і раптам спынілася. З кабіны выскачыў афіцэр: галіфэ, боты чорныя бліскучыя, фуражка, партупея, наган. Ён пашыбаваў да хаты, спыніўся побач з плотам, кабуру паправіў. Паглядзеў на дрэвы, на сад. Убачыў гаспадара. Сцяпану Ляйчонку ў жніўні трыццаць сёмага было трыццаць два...

Ён ішоў да афіцэра, а ногі не слухаліся, не йшлі.

– Грушi сматру у вас красівые... Вкусные?

– А, што, дулі... Салодкія, як мёд!

– Можэт угасціш, хазяін?

Сцяпан Ляйчонак кінуўся да дрэва, пачаў збіраць дулі, абрываць, складаць у вялікі кош.

Афіцэр выбраў з дзясятак лепшых, пераклаў у фуражку, адну кусануў, пажаваў і ўсміхнуўся.

– Твая праўда, как мёд.

Шэрая машына паехала па вузкай вуліцы на той канец вёскі. Брахалі сабакі. Калацілася сэрца.

Дзед не мог есці і піць да наступнага дня.

А пераспелыя дулі падалі, падалі, падалі.

## Спадчына

Васіль Пятровіч у свой час быў вялікім партыйным начальнікам. Разбіраў скаргі, даносы, ананімкі, дакладныя. Даваў вымовы, выключаў з партыі. Ніколі ад яго і слова прамоўленага па-беларуску не чуў. Гаварыў падкрэслена па-руску, пісаў без памылак. Вельмі пісьменны і адукаваны партыйны функцыянер. Але аднойчы суворы і жорсткі Пятровіч плакаў. Чытаў на памяць верш і плакаў. Я нават спужаўся, што выпадкова стаў сведкам чалавечай слабасці. А чытаў Пятровіч “Спадчыну”. Слёзы паліліся пасля таго, як ён выдыхнуў з сябе: “...паміж сваіх і чужакоў яна мне ласкай матчынай...”

Я і раней ведаў, што гэты верш – большы, чым верш, а Купала большы, чым паэт...

Васіль Пятровіч на мяне зірнуў і папрасіў “освободіть кабінет”.

## Гісторыя

Чалавек выйшаў з дому, каб набыць паштовую марку. Канверт з лістом ляжаў у кішэні. У лісце чалавек выказваў нязгоду з тым, як яму налічылі пенсію.

Чалавек выйшаў з дому раніцай і не вярнуўся. Яго ніхто не шукаў...

Адказ пра пералік пенсіі ў бок павелічэння на 7,5 працэнта прыйшоў праз дзесяць дзён. Канверт праляжаў у паштовай скрыні год.

## Зачараваны лес

Аднаго разу мы пайшлі з бабай у лес, каб нарэзаць папараці і свінням паслаць. Баба несла вялікую посцілку і серп, а я кіёк дзедаў. Хадзілі "ў берагу" лесу, пад дубамі. Баба папараць рэзала і са мной гаварыла. Прасіла, каб далёка не адыходзіў. А я ў гушчар лез, у сасоннік, што за грабняком цёмным. Тады і пачуў гісторыю пра зачараваны лес.

"У нашым лесе ёсць балота. На тым балоце непралазным востраў вялікі. На востраве лес высокі, сосны і асіны старыя. А там пад соснамі: што грыбоў, што ягад, што звяроў, што птушак. Але ўсе, хто да вострава дайшлі, – дамоў не вярнуліся". "Што, дарогу дамоў знайсці не могуць?" – пытаў я сямігадовы.

Баба рэзала папараць і складала на посцілку.

Яна расказала, што на тым востраве людзі сядзяць, ходзяць пад вялікімі дрэвамі, плачуць, а ўспомніць, што ім дамоў трэба, то і не могуць. І дзеці, якія ў лесе згубіліся, і дарослыя – усе чыста на тым востраве ў тым лесе зачараваным.

"Баба, а хто лес зачараваў?"... "Смерць і зачаравала той лес, і дзяцей, і дарослых", – адказала баба, звязала краі посцілкі і закінула за плечы.

Мы ішлі дамоў праз светлае поле.

Я нёс востры бабін серп, а яна дапамагала сабе дзедавым кійком.

## Назіранне

Стары чамадан выглядае і змястоўна, і паэтычна, але ідзеш і набываеш новы.

## Слоік

У Менску, на Ленінскім праспекце, у краме "Садавіна-агародніна" стаяў на паліцы трохлітровы слоік з гуркамі і памідорамі. Аднойчы, у 1975 годзе, мы з сябрамі хацелі тыя гуркі-памідоры купіць на закуску. Але не хапіла капеек дваццаць. У 1976 мы зноў наважыліся тыя гуркі-памідоры купіць і з'есці, але перадумалі, узялі яшчэ дзве пляшкі віна. І ў 1977 не купілі, усё той жа слоік, бо паленаваліся несці – вялікі і цяжкі, рукі занятыя, а мы падпітыя. У 1978, калі я вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце, трохлітровы слоік усё яшчэ стаяў на паліцы. Я паказваў яго сябрам-графікам і расказваў, як хацеў яго купіць у 1975-м. У 1980 слоік яшчэ стаяў... Памідоры нагадвалі ківі, а гуркі – кавалкі гумы балотнага колеру.

А ў мастацтве, не трэба нагаворваць, у тыя гады "застою" не было. А трохлітровы слоік быў, на паліцы стаяў.

## Санкі

Здаецца, з 1976 на 1977 год, ноччу, кампаніяй будучых жывапісцаў і графікаў мы выйшлі з інтэрната і рушылі на плошчу. Ніколі потым жадання пайсці да елкі не ўзнікала...

Вясёлых людзей на заснежаным праспекце хапала. Па дарозе сустрэлі кампанію мужчынаў і жанчын. Яны ішлі на плошчу, цягнулі за сабой санкі. Мне падалося, што на тых санках, захутанае ў коўдру, спіць дзіця. Аказалася, што пад коўдрай едуць скрыня гарэлкі і каструля з цёплымі катлетамі. Мы пілі халодную гарэлку з кубкаў з недарэчнымі склізкімі вушкамі-ручкамі, закусвалі катлетамі і смяяліся, штурхалі жанчын у сумёты. І гарэлка, і катлеты былі смачныя. Побач з елкай мы згубілі новых сяброў – кампанію маладых інжынераў з нейкага мінскага НДІ.

Учора ішоў з крамы, нёс хлеб і згадаў тую дзіўную ноч.

## Саступі

Вузкая і глыбокая сцежка ў снезе, гурба на два бакі. Я паварочваю ў двор свайго дома. З-за рога выходзіць жанчына. У яе птушыны твар і чорныя круглыя вочы, футра наросхрыст, у правай руцэ доўгія чорныя пальчаткі. Паміж намі крок, і яна кажа: “Саступі!” Праходзіць побач, гляджу ўслед. Яна выходзіць на чорную дарогу, па якой імчаць машыны. Але яна на іх не зважае – ідзе. Машыны бібікаюць, вадзілы лаюцца... Яшчэ імгненне, і жанчына будзе пад коламі...

Але яна перайшла Купалаўскую і рушыла ў парк.

Думаю пра гэты выпадак, пра слова “саступі”, прамоўленае сухім, як дзюба птушкі, ротам.

## Размова ў музеі

“Паслухай, што ты гэтых рэстаўратараў хваліш?! Каб іх не было, то столькі б месца ў музеях вызвалілася. І цэрквы з касцёламі можна было б наноў параспісваць... Усім нам была б капейчына! Праўда?” – пачуў ад знаёмага жывапісца.

## Першы лёд

“Калі я азірнуўся, то снег, лёд і дрэвы белыя на тым беразе возера бачу, а цябе няма. І я тады закрычаў, як звер...”, – так расказваў сябар дзяцінства Валодзька пра той выпадак.

А я ў той час, калі Валодзька крычаў, як звер, быў пад лёдам... І мне здаецца, што голас яго чуў. А можа, мне гэта падаецца... Тое, як канькі па лёдзе цокалі, скрыгаталі – дакладна чуў, памятаю. І бурбалкі запомніў. Я ўвесь быў аблеплены бурбалкамі... Цёмна пад вадой не было, і гукі ўсе чуў, быццам мой сябар побач стаіць... Толькі голас яго ціхі, як у сне, як праз падушку да мяне даходзіць...

Потым я вынырнуў, а Валодзька мне дапамог выкараскацца на лёд.

На возера мы выйшлі першымі. Цёмны лёд зіхацеў, а снег сляпіў вочы. Нагойстраныя канькі рэзалі лёд. Мы імчалі напрасткі да таго берага. Лёд прагінаўся і звінеў... Я трапіў на крыніцу... І праваліўся пад лёд.

Голас помню. Ціхі, як у сне.

## Рукапісы

Пра тое, што рэдакцыі рукапісы не вяртаюць, усе чулі. Так было, але цяпер у аўтара застаецца электронная копія.

Рукапісы прыносілі ў трох асобніках, надрукаваныя праз пэўны інтэрвал, з пэўнай колькасцю знакаў у радку.

Рукапісы, каб не згубіліся, укладалі ў папку, падпісвалі.

Некаторыя аўтары прыносілі свае творы ў дзіўных папках. Чырвоных, скураных, аксамітных... На тых папках золатам было адціснута "дэлегату пленума ЦК камсамола БССР", "дэлегату Рэспубліканскай партыйнай канферэнцыі" і гэтак далей...

А бывалі папкі сціплыя, шэрыя, кардонныя з матузкамі. Надпіс – чорнымі літарамі – "Дело №", "Асабістая справа". Апошнія прыносілі аўтары, якія і працавалі ў адпаведных установах.

Звычайна выклікалі мяне да начальства і давалі такую кардонную папку. У ёй рукапіс з бездапаможнымі вершамі, ці сцэнарый пра шпіёна, прабачце, разведчыка, нашага земляка, і тэлефонны нумар.

Добра, што цяпер рукапісы па электроннай пошце перасылаюць. Без матузкоў.

## Былая супрацоўніца

У краму зайшла жанчына. Стаіць, азіраецца, выцягнула з кішэні жменю дробязі, пачала пералічваць. Доўга пералічвала.

Я пазнаў жанчыну, хоць алкаголь яе моцна змяніў. Некалі яна працавала на тэлевізіі. Гучна смяялася, хутка рухалася, адказная была супрацоўніца. Гадоў на пяць маладзейшая за мяне. Цяпер яна выглядала кепска. Вельмі... А яшчэ і гэтыя акуляры з разбітым шклом, якія ледзь не зваліліся, ледзь паспела прыціснуць да твару... Падышла да прадавачкі і купіла дзве пляшкі самага таннага віна. Зірнула на мяне і галаву апусціла. І я зрабіў выгляд, што яе не пазнаў.

Побач з крамай таптаўся мужчына з цёмным, спітым тварам. Яна адразу ўзяла яго пад руку, як ведала, што я гляджу, але торбу з бутэлькамі несці не дала.

Жанчыны-алкагалічкі выклікаюць большую гідлівасць, чым мужчыны, але і шкада іх больш.

## Сёння

Ён трымаў цупкі бела-сіні пачак цыгарэт на адлегласці, колькі дазваляла выцягнутая рука. Узіраўся ў чорныя літары. Пасміхнуўся крыху разгублена, а потым прачытаў уголас надпіс: "Курыльшчыкі паміраюць маладымі".

Дзеду восемдзесят чатыры гады, а з папяросамі-цыгарэтамі ён не развітваўся больш за шэсцьдзесят гадоў.

Старэчая ўсмешка была прыязная і ласкавая... Яна мяне і ўразіла.

## Кампазіцыя

*Жончына бабуля расказвала*

Позняй восенню 1943 года прыйшлі ў хату партызаны. Чацвёра, са

зброяй. Пабралі не толькі цёплую адзежу, але шаўковы халат, хустку прыгожую летнюю. Яе муж і яго малодшы брат былі на фронце. Потым трапілася партызанам пад рукі “Біблія”. Яны кніжку падралі, старонкі па хаце параскідалі, пайшлі задаволеныя...

Усе чацвёра праз пару гадзінаў узарваліся на міне.

Бабуля расказвала гэтую гісторыю, каб паказаць, што нельга са святыняў здзеквацца.

А мне бачыцца іншая логіка. Каб яны не падарваліся, то з падранай кнігай іх ніхто б не звязаў у адзіную кампазіцыю...

### Тэстамент

Заўчора патэлефанаваў знаёмы рэжысёр. Расказаў, што праз пару дзён кладзецца на цяжкую і складаную аперацыю.

Ведаю, што ён тры гады таму склаў тэстамент. Тады я пацiснуў плячыма і хмыкнуў. Цяпер пажадаў, каб усё абышлося, уздыхнуў.

У яго ўсё спарадкавана з нейкай педантычнасцю, якая ўсе восем гадоў нашага знаёмства мяне напружвала і палохала.

Можа, ён ведаў наперад пра выпрабаванні?

### Галіфэ

Дзеці, старэйшаму адзінаццаць, сядзелі ў сталоўцы, што на плошчы. На вуліцы, пад вокнамі, стаяла колькі грузавых машын і дзве вялізныя фуры. Шафёры з фураў палуднавалі, каб ехаць у Ленінград. Раптам з’явіўся дзядзька ў хромавых ботах і галіфэ. На ім быў чорны кіцель, а кепку дзядзька ў руцэ трымаў. Ён папрасіў у касіркі шклянку звычайнай вады. Яго можна было зразумець – прыбіральня ў сталоўцы не працавала. Віталік раптам падхапіўся і пайшоў са сталоўкі на вуліцу. Мы засталіся чакаць украінскіх шафёраў, якія кампот дапівалі, каб этыкеткі са скрыначак з запалкамі памяняць. Мода такая была ў гэпэ. Шафёры падаліся на вуліцу, а падшыванцы следам. Пачалі этыкеткамі мяняцца. Потым і дзядзька ў ботах выйшаў. Азірацца спалохана пачаў. Крычаць. Людзі сабраліся.

У дзядзькі ўкралі ровар.

І праз гадзіну той дзядзька сядзеў на цэментавым ганку сталоўкі, і праз дзве сядзеў. Відаць, думаў, што дзеці пакатаюцца і вернуць яго чорны ровар з парай боханаў хлеба на багажніку.

### Катэр

У восемдзесят сёмым, на пачатку лета, знаёмы гомельскі мастак купіў танна шыкоўны катэр. Мы імчалі на тым катэры па сонечнай рацэ Сож. Гупаліся на хвалях. Вецер дзьмуў у твар, задзіраў кашулі. Мастак мружыў вочы і крычаў, што яму пашчасціла з катэрам, што яго мара здзейснілася. Што цяпер ён будзе ганяць па рацэ, ладзіць пікнікі. Што сёння ў горадзе можна танна купіць машыну, кватэру, бібліятэку, лецішча ў Клёнках... Што ўсе габрэі ўцякаюць, бо баяцца Чарнобыля, прадаюць маёмасць, і вось ён займеў гэты катэр... Мастак шчасліва смяяўся, быццам не верыў сваім словам.

У тыя ж дні я сустрэў сумную аднакласніцу. Яна з'язджала з бацькамі ў Амерыку. Ехаць Галя не хацела. Але бацькі-дактары настойвалі. Яна сказала, што калі б я прыехаў на тыдзень раней, то яна б аддала мне некалькі дарэвалюцыйных кніжак...

У Гомелі заставалася яе бабуля Роза, якая адмовілася ехаць, бо хоча ляжаць побач з мужам, яе месца тут.

## Певень

Побач з Камароўкай стаяў маладзён. Можа, гадоў сямнаццаць яму, а можа, на год болей. Звычайны, невыразны. Убачыш і забудзеш. Але гэты мяне ўразіў. Ён трымаў у руках, знізу за лапы, зверху за спіну, не даваў крылам раскрыцца, чорна-рудога пеўня, з малінавай каронай-грабеньчыкам. Ён прадаваў таго залатога пеўня. А каб людзі спыняліся, то маладзён сціскаў пеўня. Залатая шыя выцягвалася, грабеньчык калаціўся, певень кукарэкаў. Чыста, гучна, рэзка... Людзі спыняліся. Гэта нечакана – крык пеўня ў горадзе. Мне хацелася падысці і заехаць маладзёну ў пысу. Чаму такое жаданне ўзнікла?

Ноччу мне прысніўся той чорна-залаты певень...

## Гук летняга вечара

У нядзелю, увечары, пасля дажджу, засвяціла сонца. Вокны адчыненыя, чытаю "Макулатуру" Букоўскага.

А потым гэты мярзотны гук: скрыгат, трэск, удар, шоргат шкла... Быццам варанае яйка і шклянка з лыжачкай упалі на кафляную падлогу. Не першы раз пад вокнамі, на скрыжаванні вуліцы Купалы з праспектам, аварыя. Гэтым разам доўгі легкавік наляцеў на гранітны слупок, звярнуў яго... З машыны выкараскаліся людзі. Жанчына і трое мужчын. Яны стаялі побач з разбітай машынай і спрабавалі прыкурыць, усе разам ад адной запальнічкі...

Ледзі Смерць, на тонкіх абцасах, перадумала, а можа папярэдзіла...

## Шкадаванне

У мастака Мая Данцыга ці не самы вялікі збор альбомаў па мастацтве. Кніжкі займаюць цэлы пакой. Гэта ён расказаў, што ў пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя ў маскоўскіх букіністычных крамах можна было купіць любую кніжку. Тады ж, у тых жа кнігарнях, прадавалася графіка нямецкіх, французскіх, італьянскіх і рускіх мастакоў. На свае вочы Данцыг – студэнт інстытута імя Сурыкава, бачыў афорты Джавані Баціста Піранэзі, акварэлі Урубеля, Дабужынскага... Ён доўга пералічваў прозвішчы славутых мастакоў і расказваў, як танна можна было набыць тую графіку... "Але набыць не мог, бо на ежу не хапала... Цяпер так шкадую... Так шкадую...", – казаў стары мастак і пагладжваў слізкую вокладку альбома.

## Кошт

Пераважную большасць кніжак дачытваю да канца. Да назвы выдавецтва, да накладу, да цаны... Дачытаў раніцай і кніжку "Макулатура"

Чарльза Букоўскага. Дачытаў да назвы выдавецтва, да спісу выдадзеных кніжак. Наклад не пазначаны, як і кошт.

## Недахоп

Я стаяў на балконе, на сёмым паверсе. А на балконе шостага курылі мужчына і жанчына. Ён ёй нешта расказваў, а яна смяялася занадта гучна. На ім белая, у абліпку, саколка і чорныя шорты. Яна ў сіняй сукенцы. У мужчыны непрыгожая лысіна, мне зверху добра відаць, а жанчына з цыгарэтай смяецца і лысіны свайго кавалера не бачыць.

У мяне з валасамі поўны парадак, за гэта можна парадавацца.

І тут я зразумеў, што варта зірнуць на чалавека з нязвыклага, з нечаканага месца, – адразу бачыш яго недахопы.

## Род

Расказаў сусед. Калі яму было гадоў адзінаццаць, то памерла ў Краснаполлі цётка Ева. На пахаванне сабраліся ўсе сваякі. Усё было ціхамірна і ўрачыста. Селі за стол. Мужчыны п'юць гарэлку, жанчыны віно. Потым і мужчыны, і жанчыны пілі і віно, і гарэлку. Потым сварыліся, згадвалі даўнія крыўды і пры гэтым пілі. Потым біліся, потым пілі і зноў біліся, сварыліся, абражалі. Пра цётку Еву ўсе забыліся.

А што пра яе згадваць. Яна і так добра пажыла. Каб яшчэ год, то дажыла б да васьмідзесяці сямі.

Хлопчыкам мой сусед убачыў сваякоў, тых, пра якіх толькі чуў, якіх ставілі яму ў прыклад.

## Нага

У Каталоніі, паміж Барселонай і Тарагонай, ёсць маленькі гарадок Кама-Руха. Там вялізны пляж, доўгі і светлы, як летні дзень. Уздоўж пляжа, праз дарогу, старыя вілы. Яны за парканамі, за каменнымі і жалезнымі агароджамі. Некаторыя глядзяць на мора выбітымі вокнамі. Мне падабалася хадзіць і разглядаць тыя вілы. Тынкоўка аблупілася, фарба, раней яркая, пааблазіла, сонца, вецер і час сваю справу робяць... Жалезныя брамкі есць іржа, нават керамічныя шыльдачкі з рамантычнымі назвамі тых вілаў патрэскаліся, а кобальт зліняў на блакіт. Вакол будынін старыя дрэвы: кедры, пальмы, платаны з плямістымі камлямі. Я пацікавіўся, хто гаспадары старых, недагледжаных, а некалі шыкоўных будынкаў, якія патанаюць у рудым і вохрыстым лісці? Мне сказалі, што палкоўнікі, адвакаты, суддзі і пракуроры, якія працавалі на генерала Франка.

Аднойчы бачыў, як у двор выйшла сівая бабуля з алюміневай місай. Паглядзела на мяне і выліла брудную ваду побач, пад сцяну. Доўга зачыняла, ляпала, рыпела і бразгала рассохлымі дзвярыма. У двары гайдаўся дзіравы гамак.

Пры другім доме, вокны за аканіцамі, дзядок сухі і лёгкі, як сасновая трэска, трымаўся за граблі, спрабаваў чысціць дарожку да дзвярэй. Пад кедрам, на здзьмутых колах, побач з занядбаным домам, іржавеў чорны аўтамабіль. Ён нагадваў выкінуты чаравік...

Дзядок-трэска на мяне не глядзеў, а ўпарта і бедапаможна зграбаў лісце, шышкі, іголкі...

Дзе тая Калумбія?

Але Маркес быў тут, у гэтых аблупленых вілах з незашклёнымі вокнамі, у чорным аўтамабілі, які нагадваў ампутаваную нагу. У салёным паветры гарадка, побач з віламі, плаваў фантомны боль.

## Кроў

Напрыканцы траўня бачыў, як дзядок доўга вылазіў з аўтобуса. Пастаяў, аддыхаўся, агледзеўся і зашоргаў непаслухмянымі нагамі, зацокаў кавенькай. Светлы палатняны пінжак, пакамечаная кепка, штаны з кароткімі калашынамі, акуляры на ўскінутым твары з сівой бародкай...

Калі быў студэнтам, то ніколі не рыхтаваўся да іспытаў па гісторыі мастацтва. Мог пагартаць кніжкі, але толькі каб на карцінкі падзівіцца. Прозвішчы, імёны, даты, тэрміны, назвы, падзеі і шмат іншага трымаліся ў памяці. Я прыйшоў здаваць гісторыю рускага мастацтва. Выцягнуў паперку з пытаннямі, прачытаў – усе ведаю. Але выкладчык у цёмным касцюме загадаў сесці і падумаць, падрыхтавацца. Яго акуляры бліснулі злавесна, ён паправіў модны гальштук. Я сеў і зразумеў, што не ведаю НІ-ЧО-ГА... Ні імён, ні назваў, ні дат, ні тэрмінаў, ні падзей... Спужаўся пустаты. Сядзеў за сталом і глядзеў на белы экран за спінаю выкладчыка. На рукі, пакладзеныя на стальніцу, упала кропля крыві. Я прыціснуў насоўку, закінуў галаву. Не ведаю, колькі я так сядзеў. Потым пачуў сваё прозвішча. Падышоў да стала, сеў і пачаў адказваць. Калі пытанні да мяне скончыліся, з носу палілася кроў...

Дзядок, які разгублена шоргаў нагамі побач з аўтобусным прыпынкам, быў тым самым выкладчыкам, які прымаў іспыт па гісторыі рускага мастацтва. Прозвішча Петэрсан. Ён і тады, амаль сорак гадоў таму, шоргаў нагамі.

Што тады са мной адбылося, чаму палілася з носу кроў?

## Шкло

Я люблю шкло. Можа таму, што нарадзіўся і вырас побач са шклозаводам. Штодня чуў размовы пра тое, як яго вараць, студзяць, рэжуць, грузяць, вязуць...

Кватэра высока, вокны вялікія, жонка мыць іх баіцца. Вокны мыю я. Дома шмат розных "прымочак" у яркіх бутэльках, усе яны для шкла, але я імі амаль і не карыстаюся, бо не давяраю. Ведаю, шклу падабаецца вада. А яшчэ яму падабаецца скамечаная газета.

Вільготнае, каламутнае ад вады шкло трэба церці і паліраваць газетай. Найбольш мне падабаецца самы апошні момант мыцця вокнаў. Той, калі шкло і газета пачынаюць рыпець, а потым спяваць. Вільгаць знікае, з'яўляецца зіхценне, туманныя плямкі робяцца меншымі, а потым сыходзяць, быццам распускаюцца.

І раптам вакно перастае існаваць. Розумам ведаеш, што шкло ёсць, а зрокам яго не бачыш. Бо няма на ім нават рыскі, кропкі, якія могуць пацвердзіць, што яно стаіць, існуе паміж мной і небам.

Не, ёсць кропка! Бачу! Хапаю скамечаную газету, пачынаю церці, знішчаць. Але кропка адно большае. Разумею, што гэта цёмная кропка на небе, што гэта – птушка.

## Дзядзька

Ходзім з жонкай па Камароўцы. Раптам я спыняюся, не магу з месца крануцца. Гляджу і гляджу. На сціплы букет ружовых півоній, якія ён трымае аберуч, на яго рабы карычневы пінжак, на акуляры, на кепку знаёмую, шэрую ў дробныя пасачкі, на спакойны выраз твару... Дзядзька з кветкамі так падобны да майго бацькі, што мне падысці захацелася, павітацца, абняць...

Але з месца не мог крануцца...

## Водар

Іду побач з гандлёвым домам "Няміга". Людзей шмат, стаяць, спяшаюцца, на месцы топчуцца, марозіва ядуць, гамоняць... Раптам трапляю ў хвалю водару. Яркі, пранізлівы і знаёмы водар, нават хаду прыцішыў, спыніўся на імгненне... Пайшоў, зноў у хвалю трапіў. Паперадзе мужчына з лысай патыліцай, у светлай тэнісцы. Абмінуў яго, водар зрабіўся шчыльнейшым, ярчэйшым. Жанчына ідзе з часопісам. Яе абыйшоў, водар не знікае. Маладзён з тэлефонам, да вуха прыціснутым, па-ангельску размаўляе. Крочу побач, прынюхваюся. Водар зусім яркі, намацвальны, здаецца, і дакрануцца да яго можна – даланёю, шчакой. Задумаўся, ледзь на цётку сталага веку не наляцеў. Яна спынілася, хацела насварыцца, але стрымалася. Паставіла да ног валізу, папраўляць узялася. А валіза яе поўная ландышаў.

Ішоў, пра яркі водар успамінаў...

Калі праз паўгадзіны вяртаўся, то тая цётка хадзіла з букецікамі паміж столікаў "Макдональдса", прапаноўвала свае ландышы і насцярожана азіралася, ці не ідзе міліцыянер.

## Сігналізацыя

Паскардзіўся немалады вартаўнік аўтастаянкі, што сённяшняя ноч выдалася для яго тлумнай і клопатнай, што давялося тры разы прахопліваццца. На старым вялізным каштане, поўным белых кветак, пасярод двара, пасяліўся салавей. Пачынаў спяваць ціхенька, а потым раптам гучна шчоўкаў, свістаў пералівіста і пранізліва, аж заходзіўся. Аўтамабілі на стаянцы адказвалі на спевы маленькай пташкі выццём сігналізацыі.

На трэці раз вартаўнік не вытрымаў і паспрабаваў прагнаць спевака. Але каштан вялікі, лісце густое, і колькі вартаўнік ні біў па камлі палкай, колькі ні сварыўся і ні кідаў палку, а рады спеваку не даў. Адно палка – ножка ад крэсла, захрасла ў лісці каштана.

Цэнтр горада, двор, салавей...

Я весяліўся, калі слухаў скаргі, але выгляд захоўваў сур'ёзны.

## Купала і Лао-цзы

Слухаў, як чытае верш Купала, і ўвесь час баяўся, што паэт саб'ецца, спатыкнецца...

А ўчора знайшоў такое: "Выдатны прамоўца падаецца заікастым". Гэта напісаў кітаец Лао-цзы прыкладна 2500 гадоў таму.

*Запіс ад 27 траўня 2015*

Фелікс Баторын



...Як жа доўга я жыў! Як жа мала я жыў!
Як у свеце мне многага мала!..

# Як будзе

* * *

Што помню я, што я забыў,
Чаго забыць не змог, –
Любы і кожны лёсу звіў
Рубцом на сэрца лёг.

Ніць пуцяводную здалёк
Было вачам відаць,
Ды сэрца – як рубцоў клубок,
Які не разматаць.

*2017*

* * *

Няголены-нямолены,
У дачнай апранасе –

Я болей не зняволены
У цеснасценным часе.

Наглядчыкаў не маю я,
Не ведаю рэжыму,
І больш не напінаю я
Ў самім сабе спружыны.

Не надта шчодрай пенсіі
Мне аж занадта досыць.
Усё складаю песні я,
А іх ніхто не просіць.

Штодня расце й не меншае
Дамашняя аптэка...
Ці ж нешта ёсць страшнейшае
За дажыванне веку?

*2017*

## ЯК БУДЗЕ

Калі крыху падпіты далакоп
Рыдлёўкаю пастукаецца ў дзверы,
Скажу яму: “Не мне чарга. Паклёп!
Шаноўны, ты даеш дарэмна веры.

Я не збіраўся вечна жыць, але
Не ўсё, што мной пачатае, я скончыў.
Ты бачыш стос паперы на стале?
Глядзі, як я ў алоўка дзюбку стончыў!

Калі спішу я гэты й іншы стос,
Пакрэслю і перапішу начыста,
Сам падніму я развітальны тост.
Тады ты й папрацуеш, мой плячысты”.

Ён здзівіцца: “Няўжо я не ў пару?
Ох, падвялі мяне анёлы й чэрці...
Але ж я сам састаруся й пamру,
Пакуль ты ўрэшце згодзішся памерці!”

*2017*

* * *

У кожнага чалавека
Свой Светлы Ерусалім,
Свая Запаветная Мека
І свой непаўторны Рым.

Там трэбы быць ветлівым госцем.
Там можна быць толькі такім,
Каб не абразіць кагосьці
Ў яго пачуванні святым.

*2017*

* * *

Прыхінулася бярозка да клёна.
Прытуліўся клён да белай сіроткі,
І не слухаюць яны ні праклёну,
Ні злавесна-ядавітае плёткі.

Трэпле вецер ім галіны і лісце,
Падмывае карані ім залева.
Каранямі і сукамі спляліся –
Не зламаць іх навальнічнаму гневу.

Ставіць многа для вачэй нашых метак
Наймудрэйшая матуля-прырода.
Дык чаму ж мы адхінаемся гэтак
Ад людзей крыху інакшай пароды?

*2017*

* * *

*Сведчыць вясны нараджэнне вішнёвая квецень.*
*Першай сняжынкай ляціць*
*Хрызантэмы апошняй пялёстка.*

З японскай паэзіі IX ст. Імя аўтара не захавалася

Ад вішні да хрызантэмаў,
Ад хрызантэмаў да вішні
Не вычарпаць усіх тэмаў,
Што нам дасылае Ўсявышні.

Мы ў нашых бясконцых спрэчках
Прыходзім да розных высноваў,
Каб на шляхах супярэчных
Спрачацца пачаць нанова.

Між спрэчкай і бойкаю часам
Няўгледна мяжа знікае.
Сыходзяцца праўды сам-насам,
А ісціна прэч уцякае.

*2017*

* * *

Ёсць патрэба шчэ ў адной саеце,
Колькі тых саетаў ні ніжы.
Колькі ні жыві на белым свеце,
А ўсё роўна нібы і не жыў.

І нашто базмежна мудры Творца
Прагу неспатольную нам даў?
Нейк у багаслова я ў гаворцы
Гэта, не стрымаўшыся спытаў.

І мудрэц задумаўся. Пакутна
Слоў шукаў і з іх вязьмо вязаў.
Варушыў ён вуснамі нячутна –
І нічога ўрэшце не сказаў.

*2017*

## НАТАТКІ З БАНКЕТНАЙ ЗАЛЫ

Густое цёмнае віно
Пілі вясёлыя грузіны
За Гіві, Каху і Вано,
За бізнэс і за лімузіны.

Яны спявалі й рэй вялі
На вечнай мове Руставелі.
Усмешкі на губах цвілі,
Ад шчасця шчокі ружавелі.

А ў той жа зале ў той жа час
Спявала й танчыла вяселле, –
Народ тутэйшы – што анфас,
Што ў профіль, што па дозах зелля.

Вяселле шумнае было
І шчодра тосты рассыпала.
Тут слова Пушкіна жыло
І ў рот вады набраў Купала...

*2017*

* * *

Нагоніць ветру восень ад душы.
Не хопіць фетру на капелюшы:
Яны зляцяць чародамі, як гусі
Далёка па-за межы Беларусі.

Ды лепш было б, каб здзьмулі вы, вятры
Гнілы менталітэт былой пары,
Чужыя звычкі і чужыя словы.
Прадзьміце ўрэшце нашыя галовы!

*2017*

## СПЫТАЎ СЯБЕ

Спытаў сябе, што значыць шчасце,
І ўцяміў: тое, што было
І ў тую ж хвілю, як пачацца,
У быль і небыль адышло.

Спытаў сябе, што значыць гора,
І ўцяміў, тое, што было,
Калі за пушчы і за горы
Раптоўна шчасце адышло.

Спытаў сябе, што значыць вечнасць,
І зразумеў: яе спазнаць –
Сваю мізэрнасць, недарэчнасць
Сабе самому паказаць.

Спытаў сябе, што ёсць каханне,
І зразумеў, што для дваіх
За шчыт і меч яно ў змаганні
За вечнасці салодкі міг.

Спытаў сябе, а хто я ў коле,
У быстрацечнай змене дзён,
І зразумеў: бы ветру ў полі,
Шукаць адказу мне па скон.

*2017*

* * *

На вабны тыл сучаснасці пажадліва глядзеў
І спакусіць, і закахаць, і апладніць хацеў.
Ды выпадкова свой пагляд туды, дзе твар, узняў, –
І з той хвіліны ўжо навек бясплодным старцам стаў.

*2017*

## ВАНДРОЎНІК

Іду дарогай з неба я,
Дзе не бываў ніколі.

Адпачываць не грэбую
Ані ў хляве, ні ў полі.
Я снедаю-абедаю
Дарункамі зямлі.
Куды дайду, не ведаю,
Не ведаю, калі.

Начамі зоркі жменяю
У кайстру я ссыпаю.
Іх нада мной не менее,
А кайстра ўсё пустая.
Вядром з рачулкі з поўняю
Зачэрпну шчупака.
Яму імя напомню я
Ямелі-дзівака.

Але зубастай пашчаю
Прахаўкае мне рыбіна:
“Вандроўніку прапашчаму
Любы набытак – злыбеда!
Таму, хто звык вандроўнаю
Дарогаю хадзіць,
З замоваю чароўнаю
Няма чаго рабіць!”

Іду дарогай з неба я,
А можа быць, і ў неба.
Як чараваць, не ведаю,
Ды мне таго й не трэба!
Закладнік быстрацечнасці,
З якой мінаюць дні,
Я па дарогах вечнасці
Раскідаў камяні.

*2017*

### *АДБЫВАЕЦЦА ТАК*

Абліччы слоў – як твары ў цёмных шыбах.
Іх галасы – як водгулле вятроў.
Баляць цяглiцы, як варочаў глыбы
Ці напілоўваў кубаметры дроў.

Спісаны аркуш – як крысо ў задрыпы:
Накрэмзана й пакрэслена мана.
Маснічны рып, задушлівыя хрыпы
Кладу ў радкі – і песні ўсё няма.

Хоць і благае сэрца, не пяецца,
Як я ні дзьму то ў дудачку, то ў рог,
І цемрыва па-дябальску смяецца,
І ў бездані халоднай плача Бог.

Ды нежывое раптам уваскрэсне
І асляпляльным выбухне агнём,
І пацячэ ў працяг жывая песня,
І ноч глухая стане ясным днём.

*2017*

* * *

Не мог рабіць таго, чаго хацеў.
Што мог рабіць, таго было не трэба.
Штохвілі пачуваўся ў духаце
Нат там, дзе толькі шлях пусты ды неба.

Так перабыўшы лепшы час жыцця,
Дарваўся да жаданае свабоды.
А на стале – жалобная куцця
І аж цабэрак дзёгцю ў лыжцы мёду.

Усю душу абгрызлі пацукі,
Нібыта я пазначаны сурокам,
А ўжо за крок той небакрай, які
Пралёг мяжой паміж святлом і змрокам.

*2017*

## ДАКТЫЛІЧНЫ САНЕТ

Піша дожджык свае мемуары,
Ды зліваюцца разам радкі,
І спрабуюць дарма тратуары
Разабрацца, які з іх які.

І гісторыя шэрае хмары
Застаецца для ўсіх на вякі
Таямніцай, якую ў абшары
Панясуць па рыштках раўчукі.

З той нагоды ніякага жалю
Альбо радасці ў сэрцах людзей,
Бо запоўнены часу скрыжалі
Апісаннем значнейшых падзей.

Раўнадушна знядбана людзьмі,
Што той дождж быў маімі слязьмі.

*2017*

## ПОЎНЯЮ

Памацае поўня, ці ложак мой мяккі,
Ці ўзбіта падушка як след,
Палічыць шпалераў чырвоныя макі,
Ацэніць і коўдру, і плед.

На крэсле пінжак мой пагладзіць па спіне,
А потым – маю сівізну
І ўляжацца ціха ў люстэрка глыбінях,
Чакацьме, пакуль не засну...

*2017*

## ДЗЕНЬ СЁМЫ

Рэчаісныя жахліўкі
З думак вытрасем на дол.
Арабінавай наліўкі
Ты графін пастаў на стол.

Зарумяняцца кілішкі,
Разрумяніцца душа,
І забудуцца інтрыжкі,
І развеецца імжа.

Запануе ў цёплым доме
Першабытнасць хараства.
Мы жывыя. Мы не ў коме.
І ў кароне галава.

*2017*

* * *

Як жа доўга я жыў! Як жа мала я жыў!
Як у свеце мне многага мала!
Як жа блізка да самай апошняй мяжы,
Што мяне ад народзін чакала...

Назапашаны там ужо мармур і медзь,
А памежніцай там непазбежнасць.
Я на тую мяжу не жадаю глядзець.
Я гляджу за яе – у бязмежнасць.

*2017*



Іван Клімянкоў



...Інтэлект усюды ў пашане.

У вёсцы – найбольш, чым дзе...

# Мажорны фінал

***Аповесць***

Ранішні аўтобус з райцэнтра, у якім я быў адзіным пасажырам, на поўнай хуткасці ўкаціўся ў вёску, пранёсся па яшчэ пустой, вільготнай пасля начнога дажджу вуліцы, узляцеў на пагорак да будынка сельсавета, дзе яго ўжо чакалі з дзясятак вяскоўцаў. Мімаходзь вітаючыся са мной, яны жвава, з тлумам, падаліся ў салон, і толькі Цімошык, мой аднагодак і сябра, затрымаўся. Моцна паціскаючы маю руку, з блазнаватай усмешкай пахітаў галавой.

– Цябе – што міністра... Адзін на цэлы аўтобус.

– А ты думаў! Ведай нашых...

– Ды ўжо ж... Як не ведаць? – І прыязна, весела ўсміхнуўся. – Надоўга?

– Паглядзім. Тыдні на два. Можа, і на болей.

– Выдатна! – Вочы яго заблішчэлі. – Значыць, пагуляем?

– Значыць, пагуляем. – Я ледзь стрымаў усмешку. – Уволю.

Фанатычна ўлюблёны ў шахматы Цімошык, як часта надараецца, быў неважнецкім шахматыстам, выйграваў у мяне рэдка, больш праз маю нядбайнасць, затое радасці ад перамогі яму хапала надоўга.

– Вечарам у клубе, – ужо з акна крыкнуў ён. – Не глыні лішку.

– Гэта як выйдзе. За сабой прыглядвай. Непітушчы...

Кіроўца між тым зачыніў дзверы, адпусціў тормаз, аўтобус паціху, бязгучна, пакаціўся з гары, таргануўся, завуркатаў, выехаў на дарогу і неўзабаве знік за паваротам. Я застаўся адзін. Раніца толькі ўбіралася ў сілу. З комінаў у засланае светла-шэрымі хмарамі неба самавіта ўздымаліся сіняватыя слупы густога дыму, рыпелі вароты, чулася бразгаценне вёдзер, мычэнне кароў. Звонка і хвостка стрэліў бізун, раскаціста прагучэла загадна– уладарнае: „Выганя-яй!“. Апусціўшы на траву сумку, нейкі час я стаяў нерухома, зачараваны і расчулены, глыбока ўдыхаў такі родны пах дыму, сырадою. Лёгкая спазма на момант сцяла горла, соладка зашчымела ў грудзях.

“Аднак”...

Пакпіўшы з сябе за нечаканую чуллівасць, я закурыў, глыбока зацягнуўся, і ўжо збіраўся ісці, як раптам пачуў за спіной нейкае варушэнне, глухі кашаль і, азірнуўшыся, на шыракаватай лаве крытага ганка-веранды ўбачыў скурчаную істоту ў чорнай ватоўцы і даўно не ваксаваных кірзачах. Не цяжка было здагадацца, што ёй не ўпершыню даводзіцца начаваць не дома і не пад дахам. Уціснутая ў каўнер ватоўкі галава, калені падцягнутыя ледзь не да падбародка і ўшчэмленыя між імі далоні – класічная поза спячага бяздомніка альбо лагерніка: так лягчэй захаваць цяпло. Суняўшы кашаль, ён сплюнуў на падлогу, панура зіркануў на мяне, хрыпла хутчэй загадаў, чым папрасіў:

– Закурыць дай.

– Так ужо і адразу? – “уразіўся” я. – А далікатней нельга?

– Што табе... – вяла натапырыўся ён. – Далікатнік...

– Можа і далікатнік.

Шчаслівы чалавек – добры чалавек. Дастаўшы з сумкі пачатую бутэльку каньяку, добра глынуў з яе сам, працягнуў рэшту яму.

– Лячыся.

Дробны, абцягнуты цёмна-жоўтай скурай яго твар з вузкай, нібы прыклеенай палоскай чорных вусоў, імгненна ажыў, невялічкія, колеру выспелага арэха вочы недаверліва і прагна заблішчэлі. Намагаючыся захаваць годнасць, ён няспешна сеў, быццам з неахвотай узяў бутэльку, адкінуў галаву, прагна зрабіў глыток-другі, глыбока, на поўныя грудзі ўздыхнуў.

– Палягчэла? – Я паклаў на лаву цыгарэты. – Дапівай, куры.

І, накінуўшы на плячо пасік сумкі, няспешна падаўся дадому, а да светлай радасці хуткай сустрэчы з бацькамі прымяшалася і нясціплая задаволенасць сабой: ашчаслівіў гаротніка. Хто ён, чый і адкуль з’явіўся? Хутчэй за ўсё прыхадзень. І ведама ж, з тых... Тут цяжка памыліцца. Турма і зона навечна кладуць сваё пякельнае таўро на душы, а яшчэ выразней, на твары сваіх “заўсёднікаў...”

А вечарам, у клубе, шчыльна атуленыя заўзятарамі, якія навісалі над сталом, мы з Цімошыкам зацята вялі паядынак за шахматнай дошкай. І я з прыемным здзіўленнем адзначыў, што за апошні час ён ніштавата падкаваўся ў тэорыі. Пазіцыя яго ў сярэдзіне партыі была ніколькі не горшая,

чым у мяне. Моцна ўзрушаны, расчырванелы, ашчаперыўшы кудлатую галаву, Цімошык падоўгу думаў над ходамі, то цягнуўся да фігуры, то, нібы апёкшыся, адхопліваў руку, нервова цёр скроні.

– Цішэй, цішэй, – ледзь не маліў ён заўзятараў, якія няспынна давалі парады, крычалі і спрачаліся. – Сам усё бачу. Дагуляю без падказак.

Аднак дагуляць не давялося. Нечакана з грукатам расчыніліся насцеж дзверы, і ў клуб, што зграя шаленцаў, з рогатам і крыкам ваваліўся мо тузін падлеткаў, падпіхваючы перад сабой майго ранішняга знаёмца. Старанна паголены, у блакітнай, з цёмна-сіняй палоскай уздоўж грудзей тэнісцы, з дурнаватай фанабэрыяй на твары, цяпер ён нічым не нагадваў нягеглага беспрытульніка. Левая рука яго была без кісці; як і правую яе спрэс пакрывала татуіроўка. Трохкутнік грудзей, што віднеўся праз расшпіленую тэніску, таксама быў сіні. Пагардліва зірнуўшы на нас з Цімошыкам, ён спыніўся каля стала, скептычна зірнуў на дошку, потым няўцямна ўтаропіўся ў мяне.

– Гэта і ёсць ваш Фішар? – недаверліва, быццам яго бессаромна і нахабна ашукалі, аднарукі павярнуў галаву ў бок падлеткаў. – І ходы можа ведае?

Рабром далоні ён рашуча ссунуў на стол фігуры, бесцырымонна папхнуў у плячо Цімошыка, нецярпліва загадаў:

– Ану, звальвай. Рассеўся...

На маё здзіўленне той без знаку пратэсту ці абурэння і, як мне падалося, нават з гатовасцю, узняўся, адступіў ад стала. "Сінюшнік" хіснуўся, шлэпнуўся на яго месца, закурыў, пачаў выстройваць у шэрагі фігуры. І зноў вырачыўся на мяне.

– Чаго чакаеш? Расстаўляй давай. Гросмайстар...

– Хворы на галаву? – Я грэбліва пасміхнуўся. – З якога перапалоху?

І прыўзняўся, каб адыйсці.

– Стой! – з непакоем тарганууся ён. – Куды? Матч з двух партый. На чэмпіёна вёскі.

– І болей нічога? А не пайшоў бы ты...

– Што, збаяўся? – з пагардай ашчэрыўся ён. – Слабо?

– Угадаў. Што яшчэ?

І тут Цімошык яшчэ раз здзівіў мяне – прытрымаў за локаць, пачаў палка ўгаворваць:

– Ды згуляй, што ўжо табе? Нейкія дзве партыі...

– Дужа трэба...

– Згуляй, згуляй! – наўзахваткі закрычалі з усіх бакоў падлеткі. — Накруці яму хвост. Каб ведаў...

Стала зразумелым: тут нешта не так, не проста. Магчыма гэты залётнік нядрэнна гуляе, і, пэўна, на кон сапраўды пастаўлены гонар вёскі, ды і мой, як шахматыста. Хаця без майго ведама і згоды... Але адмаўляцца ўжо не выпадала. Апроч таго, паліла праведнае абурэнне за яго нахабнасць і абразы.

"І гэта пасля майго пачастунку?"

Я сеў з намерам гуляць абачліва і асцярожна. З невядомым праціўнікам можна лёгка напароцца на непрыемнасць. Нічога, што ён добра падпіты. Для некага гэта той жа допінг.

Толькі асцярога была залішняй... Гуляў аднарукі, калі гэта можна назваць гульнёй, горай нельга: перастаўляў фігуры без роздуму, абразліва пасміхаўся з кожнага майго ходу, хутка трапіў у немудрагелістую пастку, страціў ферзя, і ўслед атрымаў мат.

Хвіліну ён утароплена глядзеў на дошку, азірнуўся па баках, грукнуў кулаком па стале,

– Зявок! Гэта не ў лік.

Яго ніхто не слухаў. Падлеткі вішчэлі, цюгукалі, хтосьці далонню шмуляваў яму нос: “naціраў сліву”.

Ён шчэрыўся, бэсціў іх абр*а*замі і мацюкамі, нервова расстаўляў фігуры. Аднак, і другая партыя была нядоўгай, скончылася з тым жа вынікам. І зноў усчаўся шабас. Ухапіўшы няўдаліцу пад пахі, баламуты з рогатам, што чэрці грэшніка ў пекла, пацягнулі да дзвярэй. Той упіраўся, выкручваўся, помсліва мне гразіў:

– Пачакай, мы яшчэ згуляем. Насапраўдкі. Я разнясу цябе, падла буду!

– Будзеш, будзеш, – цягнулі яго дурасліўцы. – Ужо згуляў. На ўсе тры булі.

– Амнісціруйце, падлы. Сёння я не ў форме, – неслася ўжо з вуліцы. – Неданоскі!

Услед за імі ўсе, хто быў у клубе, таксама падаліся вонкі. Я няўцямна паглядзеў на Цімошыка.

– Не зразумеў... Што за цырк? Можа, патлумачыш?

– Цырк і ёсць, – сумнавата пасміхнуўся ён. – Адно слова – шалапуты. Ім толькі б дурэць ды выскаляцца. Пайшлі.

– Куды? Што, урэшце, адбываецца?

– Ідзем, убачыш.

Ён замкнуў клуб, павёў мяне да драўлянага будынка былой школы, дзе каля занядбанага калодзежа тоўпіўся ладны гурт, чуўся ўзбуджаны гоман, воклічы і рогат. Куксаты, толькі ў трусах, сядзеў на заімшэлым зрубе, звесіўшы ў калодзеж ногі, круціў галавой, прасіў без усякай надзеі:

– Душу памейце, воўкі. Людзі вы ці сукі?

– Сукі, сукі, – чулася ў адказ. – Давай, не цягні гуму.

Яму падалі вядро, прымацаванае да ланцуга калаварота, ён апусціў у яго ногі, стаў, трымаючыся рукою за нацягнуты ланцуг.

– Казлы потныя!

– Во-во, і пот змыеш...

Хлапцы, што трымалі корбы калаварота, паціху пачалі адпускаць яго. Ужо толькі галава з узнятым да поўні перакошаным тварам віднелася звонку.

– Адумайцеся, вырадкі!

– Два-тры! – выгукнулі блазаны, выпусцілі ручкі і спрытна адскочылі назад.

Калаўрот шалёна загрукацеў, закруціўся, драўляныя слупкі на якіх ён трымаўся, пагрозліва завібравалі, здавалася, зараз трэснуць.

– Бля-а-а, – глуха, нібы з прадоння, данёсся насычаны жахам і адчайнай зухаватасцю крык і сціх, захліпнуўся пасля моцнага ўсплёску.

Мёртвая цішыня запанавала там і наверсе.

– Круці назад, – затрывожыўся нехта. – Чаго добрага...

– Цэлы будзе, – няўпэўнена запярэчылі яму. – Там па бараду, не болей.

– Але ж маўчыць...

– Азавецца... Нідзе дзенецца...

– Выцягвай, – пачуўся нарэшце знізу сіплаваты, як з пераціснутага горла, голас. – Круці хутчэй!

– А-а, жывы, – нахіліліўся адзін з хлапцоў над калодзежам. – Як вадзічка? Піць можна?

– Падымай, свалата. Уходаю!

– Уга, настрашыў! Адмякні, астынь...

– Мужыкі, досыць, – ужо лагодней, амаль дагодліва запрасіўся пакутнік. – Зледзянеў зусім. Каюк зараз...

– А-а, во тое ж... Адразу б так.

Калаўрот ляніва зарыпеў, ланцуг напяўся, і праз хвіліну вонкі высунулася галава з дзіка акругленымі вачамі, цінай на галаве і твары.

– Што сталі, – сіпеў ашчэраны рот. – Падымай, казлы... Сканаю зараз.

– Мы табе сканаем! А яшчэ два булі? Забыўся?

– Віра, підары! Круці!

– Во як? – пераглянуліся тыя, што трымлі корбы. – Підары? Ну дык ляці не підар. Раз-два...

– Стой!– перахапіў я корбу.– Зусім з глуздоў з'ехалі?

– А што? Прайграў, няхай плоціць, – вінавата пачалі апраўдвацца свавольнікі. – Як дамаўляліся. Дамова – закон.

– Цягні давай, законнікі. Саміх бы туды...

– Добра ўжо, – літасціва абвясцілі яны пакутніку, – лічы скасцілі.

І паднялі вышэй вядро:

– Куляйся, апалонік.

Той кулём зваліўся на зямлю, ускочыў, заруціўся ваўчком, затупацеў, расціраючы грудзі і сцёгны далонню.

– Ну, сяўкі, ну тхары... Прыпомню, пеўні затраханыя.

– Глядзі – ён прыпомніць? І гэта заместа дзякуй?

– Глынуць дайце, недалугі... Лёд у кішках.

– Захацеў чаго... А вады з калодзежа?

А двое падшыванцаў заўзята, з імпэтам сцёбалі яго галінамі, наламанымі з куста бэзу – парылі. Ён, у дагоду, курчыўся, гучна крактаў, падахвочваў:

– Парку! Парку падкіньце, басата. Дубарына!

– Добра ўжо, грэйся...

Яму працягнулі бутэльку з самагонам, ён выхапіў яе, нават не каўтануўшы, выліў гарэлку ў гарляк, затрос галавой:

– Кайф! Кайф!

Відовішча было тужлівае і брыдкае.

– Ідзем, – пацягнуў я за рукаў Цімошыка, і, калі крыху адышліся, з прыкрасцю спытаў:

– Што за здзекі? За што яго?

– Ды праз цябе, калі хочаш. Можаш лічыць сябе яго хросным.

– Які яшчэ хросны? Нельга прасцей?

– Можна. Заспрачаўся з гэтымі бэйбусамі на тры "фаўсты" вермута, што "зробіць" цябе два – нуль. А не – тры "булі" ў калоддзежы. Як у час хрышчэння. Віно авансам выпіў, цяпер разлічваўся.

– Ён што, добра гуляе? Па-сёняшняму – не скажаш...

– Хто ведае, ні з кім тут ён не гуляў. Я колькі разоў прапаноўваў – адно адмахваўся. З фанабэрыяй нават.

– Звычайны самахвал. Ёсць і такія.

– Але ж у майстра выйграў.

– У майстра?

– Прыязджаў адзін з Гомеля ў цэнтр саўгаса, даваў сеанс. Чалавек дваццаць сабралася. З райцэнтра аматары былі. Усіх пад нуль, а ён выйграў.

– Дзіўна... Вось не падумаў бы.

Але і нічога дзіўнага. Сеанс – ёсць сеанс. Тут усё магчыма: і прагляд, і пралік, нават імгненны мат.

– А хто ён? Адкуль сюды занесла?

– А ты не пазнаў хіба? Хаця дзе там... Камбед.

– Хто-хто?

– Ну, ці Гэчка. Сонін сын.

– Пятро? Лот?

– Ён. Успомніў?

Успомніў. Як не помніць... Быццам на экране, яскрава і выразна, да драбніц, уявілася ўсё, што адбылося ў той вясновы, ласкавы дзень, можа самы светлы і самы шчаслівы дзень у маім жыцці...

Была ціхая велікодная раніца – сонечная, лагодная. Зелянела трава і лісце на дрэвах, пеніліся бела-ліловай квеценню кроны яблынь калгаснага саду, на ўскраіне якога ў святочныя дні збіраліся ці не ўсе мужчыны з вёскі. Падзяліўшыся на купкі, яны рассаджваліся пад дрэвамі, гулялі ў карты, пілі віно, балазе, крама была побач. Сюды ж збягалася тады і дзятва. Ёй асабліва цікава было ашывацца каля дзецюкоў, якія звычайна месціліся пад старым разгалістым клёнам, слухаць гісторыі, што некалі адбыліся з тым ці іншым, і асабліва пра любоўныя прыгоды вясковых памаўзліўцаў.

Прыбегшы тады да клёна, я, шасцігадовы хлопчык, доўга стаяў знямелы і нерухомы ад цуду, якое там убачыў, і ніяк не мог паверыць, што гэта не сон, што мне не здаецца. Непадалёку ад клёна, пад якім бавілася моладзь, красаваўся, зіхацеў на сонцы ярка-зялёны, зусім новы матацыкл з люлькай, а воддаль, гэтак жа зачараваныя, як і я, стаялі дзеці. Падыйсці бліжэй нікому не ставала адвагі. Не было яе і ў мяне. Але нешта мацнейшае, чым страх перад немінучым пакараннем за правіну зусім пазбавіла волі, і, няздольны працівіцца нястрымнаму жаданню, павольна, як не сваімі нагамі, я падступіўся бліжэй да матацыкла, пакратаў далонню рубчастае кола, глыбока ўдыхнуў незнаёмы, прыемны пах гумы, свежай фарбы і шчасліва засмяяўся, забыўшыся пра ўсё на свеце. Агаломшаныя і абураныя такой дзёрзкасцю хлапчукі глядзелі на мяне, як на асуджанага. А таемная сіла ўжо ўладна прымусіла мяне стаць босай нагой на зіхотную падножку, легчы жыватом на край люлькі, кульнуцца ў яе духмянае нутро, на нагрэтае сонцам пругкае скураное сядзенне. Учапіўшыся рукамі за краі люлькі, я сядзеў, перапоўнены шчасцем, і, зледзянелы ад страху, узіраўся ў далячынь. І нечакана матацыкл ажыў, бязгучна пакаціўся-панёсся туды, дзе неба сыходзілася з зямлёй, да засмужанай сіняй палоскі далёкага лесу. Ад вострай радасці і захаплення я зрабіўся легкім, што пярынка, сэрца зашчымела, захапіла дыханне. Раптам неба хіснулася, знікла, мільганула перад вачамі прытаптаная трава, жорстка апякла твар і грудзі. Старэйшы з хлапчукоў падбег да матацыкла, выхапіў мяне з люлькі, моцна даў нагой пад срачку. Я зайшоўся няўцешным плачам, і не толькі ад болю. У гэты момант я ўсвядоміў цяжар свайго злачынства і дранцвеў ад страху, што зараз з'явіцца гаспадар матацыкла і яго пакаранне будзе горшым, чым гэта. І ён з'явіўся. Дужыя рукі ўзялі мяне падпашкі, узнялі, паставілі на зямлю.

Сэрца маё моцна заклацілася, галава ўціснулася ў плечы. Я адхіснуўся, паглядзеў угару, убачыў дробны хударлявы твар і цёмна-карыя вочы, якія глядзелі на мяне спачувальна і з непакоем.

– Балюча? – спытаў ён і гнеўна зірнуў на майго крыўдзіцеля. – Ты за што яго?

– А навошта ён у люльку залез?

– І што? Твой гэта матацыкл? Знайшоў па сіле?

І пагладзіў мяне па галаве.

– Не плач. Мужчыны не плачуць. Хочаш пакатацца?

І зноў узяў мяне падпашкі, пасадзіў у люльку.

Невысокі, шчуплы, але ён мне здаваўся асілкам, хлопец сеў за руль, і матацыкл паважна завуркутаў, лёгенька задрыжэў.

– Едзем? – усміхнуўся ён мне, нібы пытаў дазволу, і дамы, дрэвы, небакрай пачалі насоўвацца на нас, спачатку павольна, а потым усё хутчэй і хутчэй, а я захлынаўся ад захаплення, якое дапаўняў успамін пра зайздрасць, бачаную на тварах дзяцей у садзе. Мы праехалі праз усю вёску да самай рэчкі, развярнуліся і хутка зноў апынуліся ў садзе. Мой абаронца, якога я абагаўляў, высадзіў мяне з люлькі, пакудлаціў мой чубок.

– Добра было?

Я заківаў галавой.

– А цяпер гуляй. І нікога не бойся. Калі што – бяжы да мяне.

Рот мой расцягнула дрыготкая ўсмешка, удзячнасць лілася з вачэй, распінала грудзі, а я не ведаў, як выказаць яе, нясцерпна пакутаваў ад гэтага, і толькі здолеў, што вымавіць:

– Дзядзя-я...

Ён, крыху здзіўлены, пільна паглядзеў мне ў вочы, учуў і зразумеў, што рабілася ў маёй душы, збянтэжана адвярнуўся. Засунуўшы руку ў кішэню скуранкі, дастаў адтуль пачак, на якім быў намаляваны прыгожы сіні коннік і гара, расчыніў яго, высыпаў папяросы сабе ў далонь, працягнуў пачак мне.

– Трымай.

Я ўвесь сцяўся ад гэткага багацця, прыціснуў падарунак да грудзей і стрымгалоў пабег дадому, каб расказваць маці пра пра цуды, якія адбыліся са мною, пахваліцца дзівосным набыткам.

– Ніколі я не быў гэтак шчаслівы. Ніколі...

– Ты пра што?

Я схамянуўся, разгублена паглядзеў на Цімошыка.

– Так, ні пра што... Як ён змяніўся...

– Лот? Ды ўжо ж... Пакруціла яго доля. – Цімошык уздыхнуў, памаўчаў, дадаў з скрушным змірэннем. – Лёс не адолееш. Як ні пніся, а будзе па ім.

Я змаўчаў. Цімошык быў скончаны фаталіст, а я лічыў, што кожны чалавек – сам сабе гаспадар, і свайго жыцця, і свайго лёсу. Аднак, калі меркаваць з таго, што бачыў каля калодзежа, праўда нібыта была не на маім баку...

– Даўно ён тут?

– Каля паўгода.

– А жыве дзе?

– Прыстаў да Хадоркі-красатулі. Можна сказаць – дома.

Хадорка-красатуля, адзінокая жанчына, таксама прышэліца, з Смаленшчыны, працавала ў калгасе нарміроўшчыцай, і напачатку не мела свайго кутка, вандроўнічала па людзях. А калі загінула Соня, пасялілася ў яе хаце, пакуль не вернецца Лот. Яна так і жыла ў ёй адна, ніколі не была замужам, але калі некаму з мужчын д'ябал неспадзеўку "уядаўся ў рабро", то ён заўсёды знаходзіў у яе надзейнае, безадмоўнае лекаванне.

– Недзе працуе?

– Нідзе. Нешта даюць па інваліднасці, а так – Хадорка корміць.

– Вось не падумаў бы...

– Ну а чаму? – не пагадзіўся Цімошык. – Хата ж яго. І па гаспадарцы крыху варушыцца. Хадорка таксама задаволеная – усё ж з мужчынам... Вось толькі ў вёсцы яго не любяць. І сам ён да ўсіх воўкам.

– А ты як хацеў? Праз каго ён такі?..

– І то праўда...

– Адно не ўцямлю – чаму валэндаецца з малечай? І гэтае яго крыўлянне..

– З малечай... А з кім жа яшчэ? Не сядзець жа ў хаце. І паважаюць яны яго, хаця і пацвельваюцца. Зэк, лагернік. Шмат зведаў і ведае. Да такіх у хлапчукоў сваё стаўленне. А наконт крыўляння, годнасці... Я сам думаў пра тое. Тут здаецца... Калі страчана галоўнае, то астатняе ўжо не мае ніякага значэння. Адсюль і блюзнерства. Яно ж і выклік, знявага ўсім: было б перад кім выпінацца.

Нешта падобнае прыходзіла і мне ў галаву, калі глядзеў на яго скокі пасля купання ў калодзежы.

Мы развіталіся і разышліся па хатах. Я доўга не мог заснуць, успамінаў, што ведаў і чуў пра гэтага нешчаслівуца, параўноўваў між сабой прыгожа апранутага, упэўненага ў сабе хлопца, які катаў мяне на матацыкле, з тым, якога бачыў сёння, і здавалася неверагодным, не месцілася ў галаве, што гэта – адзін і той жа. А ўслед падумалася, што погляды Цімошыка на жыццё не такія ўжо і бязглуздыя. Няўжо і сапраўды яно заквашана на прадвызначанасці, наканаванасці? Смешна і забабонна, але калі прасачыць ліхоты гэтага пакутніка, то ...усё ж у тым нешта ёсць.

"Безумоўна ёсць".

...Мянушкі "Гэчка", "Камбед" дасталіся яму ў спадчыну ад бацькі, цыгана-мяшанца, які ў часы калектывізацыі прыбіўся да Соні-байстручкі, што жыла з маці Агатай у старой, але моцнай яшчэ хаце з тоўстых бярвенняў. Соня і не сніла пра такое шчасце. Ніколі да гэтага ў яе не было кавалера, хаця і выглядала яна нікольні не горш за іншых вясковых прыгажунь. Усё праз сваю маці...

Агата з'явілася ў вёсцы за год да першай сусветнай – зграбная, добра апранутая і цяжарная. Хадзілі чуткі, нібыта яна рабіла пакаёўкай у знатнага вяльможы ў Маскве, ад якога зацяжарыла, і ён развітаўся з ёй, шчодра надзяліўшы грашамі, за іх яна і купіла тут хату. Яшчэ казалі, быццам чужаніца была ў той жа Маскве прастытуткай. Апроч таго, невядома адкуль і з чаго ўзнікла пагудка, быццам сама яна без роду і племя, падкідыш, выхоўвалася і гадавалася ў прытулку. Можа і так: дыму без агню не бывае.

І без таго вабная, нарадзіўшы дачку, Агата зрабілася яшчэ прыгажэйшай, але на людзях нязменна была ціхмяная, з апушчаным долу позіркам. І ўсё адно, хутка яе ўзненавідзелі ўсе жанчыны ў вёсцы. Не без прычыны. Да прышэліцы неадольна, нібы магнітам, цягнула мужчынаў – жанатых і халастых. І ніхто з іх не быў абдзелены яе, як самі яны казалі, вядзьмар-

скімі, вытанчанымі пяшчотамі. Не за так, вядома. Відаць, не надуманымі былі чуткі пра яе колішні грахоўны занятак...

Ужо ў шаснаццаць гадоў Соня нагадвала саспелую жанчыну – ёмкую, з высокімі грудзьмі, і была да кроплі падобная да маці. Ніхто не сумняваўся, што і ў іншым між імі не будзе розніцы. І ўжо больш чым на Агату зазіраліся на яе неўтаймоўныя юрліўцы, аднак усе іх заляцанні яна нязменна абсякала пагардлівым позіркам, грэблівым выгінам вуснаў. Гэта бянтэжыла і абурала, успрымалася як бунт: "Што яна пра сябе думае? Забылася чыя і хто такая? Якога роду?"

А неўзабаве яна ўсчала вайну супраць маці, бесцырымонна вытурвала з хаты яе залётнікаў лаянкай, абразамі, нават пагрозамі. Такое, безумоўна, не магло даравацца. І не даравалася. Аднойчы, калі Соня збірала ў лесе ягады, на яе раптоўна напалі ззаду, каб нікога не пазнала, нацягнулі на галаву спадніцу, моўчкі і доўга гвалцілі. Маці, калі яна распавяла ёй пра гэта, толькі змірэнча і скрушна стуліла вусны, наказала нікому не скардзіцца: ніхто не стане шукаць вінаватых. Соня не паслухалася, схадзіла да ўчастковага Лямца і пашкадавала пра тое. Камлюкаваты, тоўсты, на якім ледзь не трэскалася міліцэйская форма, участковы выпытваў пра здарэнне ўсё да драбніц, што-ніштo прымушаў пераказаць яшчэ раз, і па яго затуманеных, прымружаных вачах, юрлівым твары яна здгадалася, што той смакуе ўчыненае над ёй, адчула – пра ўсё яму, як і кожнаму ў вёсцы, добра вядома, ведае і тых глумліўцаў. Аднак ніхто не падумае заступіцца. Так і сталася. Усё выслухаўшы, участковы набраў у грудзі паветра, надзьмуў шчокі, працяжна выдыхнуў. І не столькі тлумачыў, колькі патрабаваў, загадваў, што лепш будзе не даваць справе ходу, змаўчаць. Гвалтаўнікоў яна не бачыла, а ягаднікаў ды грыбнікоў з розных вёсак у лесе без ліку, і выявіць злачынцаў проста немагчыма, як ні старайся. І зноў за гэтым стаяла, што ўсе тут свае, сябры ды родзічы, усе адзін за аднаго. Пасля таго яна не сварылася з маці, ды гэта не ўратавала. Ноччу, у павеці, дзе яна звычайна спала летам, з ёй зрабілі тое ж, што і ў лесе. На гэты раз яна нікому нічога не сказала. Нават маці. Але ў павеці больш не начавала.

Неяк, калі яна ішла з райцэнтра дадому, яе дагнаў на брычцы ўчастковы, прыпыніўся, ласкава прапанаваў пад'ехаць. Ёй зрабілася страшна, было нядобрае прадчуванне, але адмовіцца не асмелілася, села ў вазок. Дарога была праз пералесак, там Лямец звярнуў убок, пагнаў каня між дрэў, спыніў у густым малінніку. Крыва ўсміхаючыся, скоса паглядзеў на яе, запэўніў, што ніхто яе ніколі не кране, калі яна зараз пагодзіцца...

І сапраўды, больш яе не чапалі, участковага баяліся, ведалі, чыя яна цяпер. І тыя, што наведваліся да маці, перш-наперш імкнуліся ўлагодзіць дачку, каб дала на тое дазвол, не паказала на дзверы.

На вёсцы Соня з'яўлялася рэдка. Хаця з яе адкрыта ніхто не кпіў, але здзеклівыя, абразлівыя ўсмешкі і позіркі былі красамоўней за словы. І нават у краму яна выбіралася выпадкам, звычайна хадзіла маці.

Усё змянілася ў час калектывізацыі, за адзін вечар, калі ў вёску разам з агітатарамі прыехала і група самадзейных артыстаў. Пасля сходу яны выступалі з канцэртам. Праграма была разнастайная: спявалі песні, чыталіся вершы і байкі, выступалі танцоры. Найболей запомніўся стрункі смуглявы прыгажун год дваццаці пяці – чарнавалосы, белазубы, з раскошнымі вусамі. Ён і спяваў – ажно займала дыханне, граў на гармоніку, сыпаў жартамі, віхурна танчыў "Лезгінку", "Яблычка", "Малдаўскі джок"... Нічога

падобнага тут не бачылі. Дзяўчаты проста млелі ад яго. Пасля канцэрта кожная толькі і марыла патанчыць з ім. Аднак, на здзіў усім, Ромусь, так звалі хлопца, абраў Соню, якую ўгледзеў у куце, дзе цесніліся дзятва, ды пажылыя кабеты, увесь вечар танчыў з ёй адной, а пасля танцаў правёў дадому, застаўся ў яе начаваць. Раніцай, калі развітваўся, паабяцаў хутка вярнуцца назаўсёды. Пра тое, няведама адкуль, адразу ж дазналася і загаварыла ўся вёска – са здзекам, зларадна: дадумацца да такога! У яго гэткіх Сонь... Ці можа забылася, хто яна такая? І ўсё ж праз колькі дзён Ромусь сапраўды правёз да яе свае небагатыя манаткі – сумкі з адзеннем і бялізнай, гармонік – і застаўся жыць. Быў ён адзінокі, сірата з маленства. У гэтыя краі яго занесла ў час грамадзянскай вайны, і чамусьці ён усе ніяк не мог выбрацца на радзіму, у Малдавію.

Соня не магла паверыць свайму шчасцю. Не хацелі верыць у тое і вясковыя нявесты, асабліва іхнія маці. Крыўдзіла, як жорсткая несправядлівасць, што ўпадабаў ён не дзяўчыну з прыстойнай сям'і, а байстручку, дачку прастытуткі. Тое ж уводзілася і ў вушы Ромусю, з надзеяй, што ён адумаецца, зробіць належны выбар. Нічога з таго не атрымалася, і тады пачалі ганіць і ганьбіць самога Ромуся. А каго яшчэ мог абраць цыганбяздомнік, валацуга, апроч гэткай жа, усімі занядбанай распусніцы? І які з яго гаспадар? Адно і здольны – граць ды спяваць. Пра гаспадарку не дбае, цвіка не заб'е. Плот валіцца, дах на хлеве працякае, а яму хоць бы што...

Яму сапраўды было "хоць бы што". Калі нехта з мужчынаў нагадваў пра той жа дах і плот, ён толькі пасміхаўся: "Гэ! Паспееца". Гэтае "Гэ", перайначанае ў "Гэчка", зрабілася яго новым, завочным імем.

Калі ў вёсцы пачаў ствараццa калгас, Ромусь стаў зацятым актывістам, выступаў на кожным сходзе, а потым раскулачваў заможнікаў, узначаліў камітэт беднаты. У гэтую каламуць ён уцягнуў і Соню. Яна ўступіла ў камсамол, уладна пазірала на іншых, таксама раскулачвала і непахісна верыла, што калгас усіх ашчаслівіць, зробіць роўнымі і багатымі. Такога не адбылося. Заможныя, праўда, пабяднелі, але і бедныя зрабіліся яшчэ бяднейшымі. І само шчасце Соні было нядоўгім. На адной з гулянак на сваю злыбяду Ромусь праспяваў складзеныя ім жа прыпеўкі пра вясковага крамніка Іосіфа Шлега, які абліччам нагадваў крыху Сталіна, меў гэткія, як і ён, вусы і ганарыўся сваім падабенствам з правадыром.

"Вось вам песня без канца пра Іоську прадаўца", – такімі радкамі ўсчыналіся частушкі, у якіх выкрывалася і абсмейвалася Шлегава скнарнасць, ахвота пажывіцца за кошт працаўнікоў-пакупнікоў. Трапна і смешна гаварылася і пра яго знешнасць, пра вусы, рабы твар. Нехта давёў гэта да адпаведнай установы, як сатыру на самога генсека. У адзін вечар каля Сонінай хаты спыніўся легкавік, двое цывілных падаліся ў хату і праз колькі хвілін выйшлі адтуль з Ромусем. Больш яго ніхто не бачыў. Соня схадзіла ў раён, каб хоць нешта ўведаць, але вярнулася ні з чым. "Ён там, дзе яму належыць быць", – такі нібыта быў ёй адказ начальніка міліцыі.

Ніхто Ромуся не шкадаваў, Соню – тым больш. Родзічы раскулачаных, высланых у Сібір, у вочы і за вочы праклінaлі яе, грaзіліся жыўцом спаліць, разам з маці, у іхняй жа хаце.

А ў хуткім часе стала бачна, што яна цяжарная..

Хлопчыка, які нарадзіўся, Соня назвала Пятром.

Грахі бацькоў кладуцца на дзяцей. Яшчэ ў мацярынскім чэраве ён быў асуджаны на мянушку "байструк", а потым ужо на "Гэчка", "Камбед". І на

кожную напачатку гатоўна адгукваўся. Калі падрос, перастаў адказваць на такія поклічы дарослых, з-пад ілба апякаў іх зненавідным позіркам і адварочваўся. А на аднагодкаў, і нават на шмат старэйшых за сябе, імгненна і з такой лютасцю кідаўся з кулакамі, што тыя забываліся бараніцца, спалохана адступалі ці зусім кідаліся наўцёкі.

– Змеянё, – уражана, але не без павагі круцілі галовамі мужчыны, і пасміханні, кпіны чуліся ўсё радзей, а неўзабаве іх і зусім не стала. Звалі Петракам, а найчасцей Пецькам. Аднак знак заганнасці, што дастаўся яму ад маці і бабы і карані якога хаваліся недзе ў глыбінях іх радаводу, і тое, што ён байструк, нават дзецям з бедных сем'яў надавала перакананасці сваёй перавагі над ім.

Не ратавала і тое, што ў школе Лот быў лепшым вучнем, выдатнікам па ўсіх прадметах. Яго паважалі за "башкавітасць", кемлівасць, але гэта павага была перамешана з зайдрасцю і крыўдай на вышэйшую несправядлівасць, якая найболей даймала дзяцей з заможных семяў. Тут бачылася парушэнне непахіснай высновы, што заганнае дрэва можа даваць толькі заганныя плады, і наадварот. Услых такое ніхто не выказваў, бо ўсе ў класе карысталіся яго ведамі. Ён нікому не адмаўляў, даваў перапісваць хатнія заданні, перадаваў шпаргалкі ў час кантрольных. Але такая "дабрачыннасць" толькі ўзмацняла непрыязнасць, бо рабілася гэта высакамерна, з адценнем свае перавагі: плата за зняважлівасць да свае маці, да сябе. Зносіць такое дзецям было прыкра, а бацькам яшчэ болей болей. Асабліва калі на бацькоўскіх сходах настаўнікі і сам дырэктар ставілі ім у прыклад выдатніка Пецю Лота. Пры тым абавязкова падкрэслівалі, што найпершая ў тым заслуга яго маці, якая хаця жыве бедна і без мужа, робіць усё, каб сын яе і вучыўся на выдатна, і паводзіў сябе добра. Гэта выклікала ў бацькоў не меншую чым у дзяцей крыўдлівасць і абурэнне за парушаную вышэйшаю справядлівасць, і дома многія лупцавалі сваіх абібокаў, нагадваючы пры гэтым, што нейкі галадранец, сын распусніцы разумней за іх, дзяцей з прыстойных сем'яў і годных бацькоў.

Затое Соня на гэтых сходах дзіўна мянялася. Знікала яе звычайная зацятасць, яна, здавалася, падрастала, з ганарлівасцю азірала прысутных, моцна сціскала вусны, каб стрымаць шчаслівую ўсмешку.

Сямігодку Лот скончыў на выдатна. Настаўнікі, асабліва матэматык, угаворвалі яго працягваць вучобу ў дзесяцігодцы, якая знаходзілася ў цэнтры суседняга калгаса, за восем кіламетраў, каб пасля яе паступіць у інстытут. Ён не захацеў сядзець на шыі ў маці, здаў экзамены ў будаўнічы тэхнікум. Скончыўшы яго, працаваў на будоўлі майстрам, а потым прарабам. У вёску прыязджаў не часта, але заўсёды шыкоўна, з "іголачкі" апрануты, з дарагім і прыгожым гадзіннікам на руцэ, і між вясковых дзецюкоў, у іх мехаватым адзенні, выглядаў панічом. Курыў толькі "Казбек", карыстаўся не сернікамі, а прыгожа аздобленай запальнічкай, зробленай пад дамскі пісталет. Трымаўся заўсёды стрымана, сціпла, можа залішне сціпла. Бо многія лічылі (ды так яно і было), што тым самым ён нібыта робіць ласку, раўняючы сябе з імі. Раздражняла і будзённая абыякавасць, з якой ён расказваў, нібы пра нешта нязначнае, дробязнае, што ў хуткім часе купіць матацыкл з люлькай. Яго слухалі, ухвальна ківалі галовамі, але не асабліва хавалі паблажліва-іранічныя ўсмешкі: хлусі-хлусі, маўляў, а мы прыкінемся, што верым. Нават веласіпед у вёсцы на той час лічылі амаль за цуд... Тым больш агаломшыла і пранізала душы многіх зайдра-

сцю, калі Лот сапраўды прыехаў у вёску на светла-зялёным матацыкле з люлькай, апрануты ў скураную карычневую куртку.

Не забываў і пра маці. Летам з брыгадай будаўнікоў прывёз на грузавіку дошкі, шыфер, фарбу, і за два дні перакрыў на сваёй хаце дах, ашаляваў яе, пафарбаваў у зялёны колер, і тая зрабілася што новая. Соня цяпер апраналася, як ніхто з жанчын у вёсцы. Летам хадзіла ў прыгожых, "гарадскіх" сукенках, зімой у драпавым паліто з футравым каўняром і зграбных, расшытых стракатым арнаментам ботах са скуры аленя, якія, казалі, носяць на Далёкай Поўначы. А галоўнае – у позірку, на твары яе бачылася адчуванне сваёй годнасці, перакананасці, што яна не горшая за іншых, што і яна – чалавек.

Але і на гэты раз шчасце яе было нядоўгім. На аб'екце, які вёў Лот, загінуў чалавек, загінуў па сваёй неабачлівасці, выпадкова, аднак нехта павінен быў несці за тое пакаранне. Крайнім вызначылі Лота і асудзілі на два гады турмы.

– Не вінаваты ён, – ці не кожнаму даводіла Соня. – Яго ж у той дзень і на рабоце не было.

Яна адразу ж змарнела, высахла, хадзіла што ў сне, ледзь перастаўляла ногі. Яе нібыта шкадавалі, спрабавалі суцяшаць, а за вочы не без зларадаснасці заўважалі, што абое яны, і маці, і сын, атрымалі чаго вартыя: уявілі сябе няведама кім, а жыццё ўсё ставіць на месца. "Цяпер "Казбек", пэўна, не курыць, махорцы рады, – пачуў я аднойчы гаворку дзяцюкоў. – Распанеў, бачыш... Пасядзі на баландзе гадкі два".

Але праз год Лот трапіў пад амністыю, вярнуўся ў тое ж ПМК, на тую ж пасаду. Ды ненадоўга... У ПМК рэвізія выявіла вялікі недахоп будматэрыялаў, і зноў яго зрабілі вінаватым, асудзілі да пяці гадоў зняволення з адбыццём у калоні строгага рэжыму. І зноў адурэлая, схуднелая ўшчэнт Соня намагалася даказаць кожнаму, што Пеця яе ні ў чым не вінаваты.

– Ні за што! Ні за што, – з роспаччу ў голасе даводзіла неяк яна ў краме ўсім, хто стаяў у чарзе па хлеб. – Ён жа трэскі чужой не возьме. Нехта краў, а яго пасадзілі. Ні за што.

І абводзіла гаротным позіркам ці не кожны твар – шукала падтрымкі. Усе з ёй пагаджаліся, згоднаківалі галовамі, але адводзілі вочы, сумнеўна паціскалі плячыма.

Я таксама стаяў у чарзе і чуў, як жанчыны і мужчыны нягучна перагаворваліся між сабой, скептычна зазначалі, што проста так не садзяць, у судзе не дурні засядаюць. Адно – трэска, а тут тысячы...

Соня адчувала гэты недавер, зніякавела, нібы яе ўлічылі ў нечым ганебным, апусціла вочы. Нягучна, з дакорам прамовіла:

– Бога не падманеш. Бог усё бачыць.

Словы яе спраўдзіліся. Сапраўдныя злодзеі ў хуткім часе папаліся на чарговым крадзяжы, мусілі прызнацца і ў тым, за які адбываў пакаранне Лот.

– Я ж казала! Ёсць на свеце Бог! Ёсць! – усюды паўтарала і паўтарала Соня. – Яго не ашукаеш.

Аднак і д'ябал не з тых, хто дрэмле. Не прайшло і года, як Лот у чарговы раз страціў волю, і ўжо надоўга. На маіх вачах, цяпер я ў тым перакананы, вершылася наканаванае. Прынадай, што зацягнула яго тады ў вызначанае яму рэчышча, была абрана легкадумная гарэзніца Любка Царкова, дачка калгаснага землямера. Яна была адзінае дзіцё ў бацькоў, і тыя нічога для яе не шкадавалі. Пухленькая, з круглымі, заманліва-хітраватымі вачамі,

Любка заўсёды мела шмат залётнікаў, але ў апошнія часы ніхто з хлопцаў не адважваўся не тое, што праводдзіць яе дадому, а нават патанчыць у клубе запрашалі з апаскай. Ужо які месяц за ёй улягаў сын дырэктара МТС Хведзька Кердус, бамбіза пад два метры ростам, з тоўстымі ружаватымі шчокамі, самаўпэўнены і недалёкага розуму. Ён ужо сватаўся да Любкі, але бацькі яе адмовілі, спаслаўшыся, што дачцэ рана яшчэ замуж, а на самой справе праз тое, што сама Любка яго не хацела бачыць.

Змірыцца з гэтым Кердус не мог і прыгразіў, што калі нехта пачне да яе заляцацца... Кожны ведаў – гэта не пустая пагроза, на распрву Кердус быў хуткі і сілу меў неймаверную. Ведаў пра тое і Лот, які на тыя Каляды прыехаў да маці, аднак штовечар танчыў з Любкай, праводзіў з ігрышчаў, і пайшлі чуткі, што ён сватаўся да яе, і бацькі не супраць, каб яны пабраліся. Кердуса на той час дома не было – дапамагаў брату, які жыў у суседнім раёне, ставіць зруб на хлеў, аднак павінен быў вось-вось паявіцца, і ўсе з трывогай чакалі непазбежнага. Прадчувалі – ні Лоту, ні Любцы не мінуць ліха.

У той вечар у клубе было надзвычай весела, тлумна і неяк па-асабліваму хараша. Кожны з замілаванасцю назіраў за Любкай і Лотам —шчаслівымі і закаханымі. Гарманіст іграў вальс, пасярод залы кружыліся Лот з Любкай, не зводзячы адно з аднаго вачэй, а іншыя пары, каб не замінаць ім, трымаліся бліжэй да сцен і, пэўна, зайдросцілі іх шчасцю. Нават мяне, адзінаццігадовага хлапчука, шчымліва кранала велічнасць іх пачуццяў і сціскалася сэрца ад тужлівага ўсведамлення недаступнасці для мяне такой радасці. Але калі насцеж, рэзка, расчыніліся дзверы і ў іх праёме з'явілася шырокая, у чорным расхінутым кажусе, постаць Кердуса, унутры ў мяне ўсё сцялася, цела налілося гарачай млосцю.

Упёршыся рукамі ў касякі, набычыўшы ўскудлачаную галаву з адвіслай сківіцай, п'янымі вачамі Кердус няўцямна глядзеў на закаханых, нібыта не верыў таму, што бачыў. Нейкі час яго амаль ніхто не заўважаў, гармонік задушэўна іграў, імпэтна кружыліся пары, але паступова ў клубе рабілася ўсё цішэй, танцоры, убачыўшы Кердуса, пераставалі танчыць, ціснуліся да сцен, і неўзабаве толькі Любка і Лот засталіся пасярод залы. Нарэшце і гарманіст заўважыў Кердуса, гармонік раптоўна сціх, захліпнуўся, і тады Кердус павольна, што мядзведзь на задніх лапах, падаўся да сярэдзіны залы, дзе стаялі Любка і Лот, неўразумела пазіраючы на гарманіста, не маглі ўцяміць, што да чаго. Потым твар Любкі збялеў што снег, яна сцялася, адхінулася ад Лота, кінулася ў кут.

Перавальваючыся з нагі на нагу, Кердус падышоў да Лота, пяцярнёй ухапіў за куртку на грудзях, раз'юшана ўталопіуся ў яго твар, замахнуўся кулаком.

Лот спрытна ўхіліўся, нырнуў пад яго руку, паставіў падножку і пхнуў у грудзі. Кердус што куль грымнуўся на падлогу, шырока раскінуўшы рукі.

– Пятро, уцякай! – крыкнуў нехта ад дзвярэй, але Лот стаяў нерухома, напружана сачыў, як цяжка і злавесна падымаецца Кердус.

– Раздаўлю!

Кердус зноў рынуўся на Лота, і зноў кулак яго праляцеў міма. Ухіліўшыся, Лот сам паспеў двойчы, з левай і правай, стукнуць яго ў сківіцы і спрытна адскочыў. Кердус нават не пахіснуўся. Нібы бяздумная, беспачуццёвая пачвара, няспынна махаючы кулакамі, ён працягваў наступ. Прыгнуўшы галаву, Лот адскокваў, ухіляўся, раз-пораз пацэльваў у твар

ворагу, зноў адскокваў. Вочы Кердуса дзіка варочаліся, з носу і разяўленага рота цякла кроў, і твар яго быў ад гэтага яшчэ страшнейшы.

Хударлявы, ніжэй сярэдняга росту Лот у параўнанні з Кердусам выглядаў, што дзіця. А той шчэрыў зубы, раз'юшана рыкаў, усё намагаўся прыціснуць яго да сцяны, у кут. Усім, мне таксама, было зразумела – бясконца доўжыцца такое не можа. Варта Лоту адзін раз схібіць... Так і выйшла. У нейкі момант ён спатыкнуўся, прамарудзіў, і кулак Кердуса, што гіра, абрынуўся на яго грудзі. Лот мячыкам адляцеў да грубкі, стукнуўся аб яе спіной, асунуўся на падлогу. Кердус, што гара, няўмольна насоўваўся на яго, каб прыдушыць, раструшчыць. Тое б і было, але ў апошні момант Лот ачуняў, ускочыў, схапіў цяжкую жалезную качаргу, прыстаўленую да грубкі, наводмаш выцяў ёй па галаве Кердуса. Той у другі раз распластаўся на падлозе, ды так і застаўся ляжаць, што мёртвы. Я і лічыў яго мерцвяком і зусім не шкадаваў. Верыў – Лоту за тое нічога не будзе, бо Кердус сам вінаваты

Нехта пабег у канцылярыю, выклікаў па тэлефоне "хуткую дапамогу". Кердуса, які ўсё яшчэ быў непрытомны, адвезлі ў раён, у бальніцу, дзе выявілі ў яго пралом чэрапа і моцнае страсенне мозгу. На Лота завялі крымінальную справу, забралі ў КПЗ. На судзе (ён быў выязны, праходзіў у клубе) ўсе сведкі сталі на бок Кердуса. Ніхто з вяскоўцаў не хацеў псаваць адносінаў з яго бацькамі і шматлікімі родзічамі, з якімі іх цесна звязвалі жыццёвыя штодзённыя стасункі. Ды і хто былі для іх Лот і Соня? Прыхадні, чужынцы. Прыпомнілася і калектывізацыя, раскулачванне. А найболей, як мне здавалася, калі ўжо быў дарослы, пераважала патаемнае жаданне выправіць жыццёвую анамалію, што парушала спрадвечную заканамернасць і парадак, памылку Лёсу, які неабачліва спагадваў не таму, каму трэба.

Любка, хаця і нічога не казала супраць Лота, але, застрашаная Кердусам і наказам сваіх бацькоў, на ўсе пытанні адваката і пракурора адказвала, што нічога не ведае, нічога не бачыла.

Лоту далі чатыры гады. Соня не дачакалася яго, памерла дзесь праз год пасля суда. Зімой падалася з санкамі ў лес па голле, каб паліць у печы, і не вярнулася. Толькі на наступны дзень, пад абед, спахапіліся яе, падаліся ў лес на пошукі. Шукалі нядоўга. Яна сядзела на санках з галлём нежываая, скалелая. "Села адпачыць, заснула, і змерзла", – адназначна казалі пра яе смерць у весцы, а таксама следчы з раёна. Я ведаў, што гэта не так, што яна памерла ад гора. Бо ўжо да гэтага была што прывід – скура ды косці, і не зусім пры розуме.

...Першае, што пачуў я той раніцай, ледзь толькі прачнуўся, было дзелавіта-заклапочанае ракатанне матацыкла, якое паступова набліжалася, мацнела, а потым пачало ціშэць, аддаляцца. І адразу яго змяніў шматгалосы птушыны гоман – бязладны, узнёслы. У салодкай паўдрымоце я слухаў вясёлае шчабятанне, у якое ўсё яшчэ ўпляталася ледзь чутнае вуркутанне матацыкла, і невыразны, затуманены ўспамін пра нешта велічнае і светлае лашчыў душу, поўніў замілаванасцю і пяшчотай. І хацелася, каб гэтая мілата не знікала, не счэзла, доўжылася бясконца... Нарэшце я сеў у ложку, спусціўшы ногі на падлогу, але ўсё яшчэ не расплюшчваў вачэй, не хацеў страціць такое рэдкаснае, невядома ад чаго, праз што, апанавалае мяне пачуццё гармоніі і прадчуванне нечага значнага, што неўзабаве павінна адбыцца са мной. Дарэмна баяўся. Яно не знікла, не развеялася, а

толькі памякчэла, зрабілася не такім пранікнёна-вострым, А калі агледзеў заліты зіхотным ранішнім сонцам пакой, засланы беласнежным абрусам стол у куце пад абразамі, з светла-карычневым боханам пасярэдзіне, усё стала зразумелым.

“Вялікдзень! Сёння ж Вялікдзень!”

Апрануўшася, я выйшаў у пярэдні пакой, які служыў і кухняй, і сталоўкай. Там ужо быў падрыхтаваны святочны стол, застаўлены рознымі стравамі, таксама з караваем пасярэдзіне. Памяць імгненна перанесла ў незваротнае, святое маленства, калі яшчэ задоўга да гэтага свята мы, дзеці, толькі і гаманілі пра яго, пра тое, колькі ў гэты дзень маці напячэ і наварыць прысмакаў, і што есці можна будзе колькі пажадае душа. Гэта расквечвала, рабіла цяплейшымі паўгалодныя пасляваенныя дні...

Памыўшыся, я збіраўся выйсці на двор, пабачыць дзе, чым занятыя бацькі, але яны самі ўвайшлі ў хату – па святочнаму апранутыя, са строгай урачыстасцю на тварах.

– Хрыстос уваскрэс! – сцішана, у адзін голас, як нешта несумніўнае, неаспрэчнае вымавілі яны.

– Сапрўды ўваскрэс, – сугучна ім адказаў я.

Яны распрануліся, маці дастала з шафы і паставіла на стол бутэльку гарэлкі і бутэльку віна.

– Са святам вялікім. Садзімся, будзем снедаць.

І, нясмела паглядзеўшы мне ў вочы, папрасіла:

– Ты перксціся, сынок. Вялікдзень жа....

– Добра-добра, – я паблажліва пасміхнуўся. – А то як жа.

Каб дагадзіць, суняць яе неспакой за мяне, я ўзняў твар да абразоў Хрыста і Багародзіцы, пад якімі, як і ў святліцы, цеплілася лампадка, і, па меры таго, як узіраўся ў аблічча Збаўцы, сама па сабе сыходзіла з твару паблажлівасць да набожнасці маці, свядомасць пранікалася адчуваннем чагосці велічна-таемнага, перад чым мізэрнела ўсё зямное, што здавалася ці не самым важным, чым узвышаў я сябе ў сваіх вачах. Здавалася, не выява Бога, а Яго Дух, Сам Ён выпрабавальна глядзіць у маю душу, нечага чакае ад мяне. Зноў шчымлівая расчуленасць і мілата перапоўнілі сэрца. Быццам і не было пражытых гадоў, а перад іконай стаяў не шмат чаго зведалы ў жыцці і добра-такі пакамечаны ім мужчына, а, як дваццаць з нечым гадоў таму, маленькі хлопчык, перапоўнены бязмежнай пашанай і любоўю да Божанькі, верай у анёлаў, у зіхатлівы рай, куды ён абавязкова некалі трапіць. І нібыта як і тады рука маці злучыла ў адно тры пальчыкі і па тры разы паднесла іх да лобіка, грудзей, правага і левага плечукоў. Я збянтэжана страсянуў галавой, каб вярнуць сябе ў рэальнасць; падумалася, што можа і сапраўды, як недзе чуў ці чытаў, часу, як такога, не існуе, мяняюцца толькі формы...

Апоўдні, крыху захмялелы і ў добрым настроі, я падаўся да старога саду. Надвор’е стаяла цудоўнае. Мякка-блакітнае неба шчодра абдорвала зямлю цеплынёй і сонечным святлом. Урачыстая сцішанасць панавала наўкол. Зноў пачулася вуркатанне матацыкла, і зноў страцілася адчуванне часу, рэальнасці, і я на момант перанёсся ў той далёкі ранак... З-за паварота, насустрач мне, на ярка-зялёным “Іжы” выехаў калгасны аграном Міцяй, малады таўстун, прывітальна ўзняў руку, шырока ўсміхнуўся, пранёсся міма.

У садзе, як і меркаваў, было шматлюдна, пад дрэвамі балявала з паўдзясятка гуртоў, адусюль чулася ўзбуджаная гамана, смех. Пад старым

клёнам, як і некалі, сабралася моладзь, а крыху збоч ад гурта з шахматнай дошкай сядзеў, чакаў мяне Цімошык. І ледзь мы распачалі гульню, як ці не ўсе перамясціліся бліжэй да нас, атулілі шчыльным колам, з усіх бакоў пасыпаліся парады, ухвальныя і расчараваныя ўсклікі. Мы згулялі адну партыю, пачалі другую. Гледачоў паступова болела, вэрхал мацнеў, і мы з Цімошыкам ва ўнісон агульнаму настрою імкнуліся ператварыць паядынак у відовішча, шоу, азартна перастаўлялі фігуры, кпілі і пасміхаліся адзін з хадоў другога, болей думалі, як пацешыць гледачоў, чым пра вынік Але неўзабаве шум пачаў слабець, заціхаць, чуліся толькі рэдкія воклічы, а потым і зусім усталявалася поўная цішыня, быццам усім адняло мову. Здзіўлены, я ўзняў галаву, агледзеўся – што да чаго? – і за шчыльным атачэннем заўзятараў убачыў Лота, зусім цвярозага, у лёгкай, шэрай вятроўцы, пад якой была ўсё тая ж тэніска, з сіняй палоскай уздоўж грудзей. Усунуўшы скалечаную руку ў кішэнь вятроўкі, злёгку схіліўшы набок галаву і кпліва падтуліўшы вусны, ён іранічна, з лянотай назіраў за двубоем. Позіркі нашыя сустрэліся. Вочы яго ўспыхнулі пякучай непрыязнасцю і адразу ж патухлі, зрабіліся халодна-абыякавымі, соннымі.

Не толькі я, усе глядзелі на яго – заінтрыгавана, напружана. Усе нечага чакалі. Адзін Цімошык нічога не заўважаў, атуліўшы далонню сківіцу, засяроджана думаў над ходам, уздыхаў, нарэшце, зрабіў яго, з выклікам зірнуў на мяне і, прасачыўшы мой позірк, таксама ўбачыў Лота. Рот яго расцягнуўся ў шырокай усмешцы.

– Пятро! Хрыстос уваскрэс! – выгукнуў ён, і нібы сонечны зайчык слізгануў па яго твары. – Са святам!

– Ы-ыгы, – невыразна азваўся той, нядбайна кіўнуў галавой. – Уваскрэс.

– Дык што? Можа згуляеш? – няўпэўнена, як папрасіў, прапанаваў Цімошык. – Возьмеш рэванш? – І паглядзеў на мяне. – Ты – як?

Я няпэўна пацiснуў плячамі, крыху памарудзіў.

– Як хоча. Мне што?.. Можна.

А сэрца ліхаманкава закалацілася: “Вось яно! Здзяйсняецца. Сапраўды, ёсць на свеце Бог!” Зрабілася ясным і абгрунтаваным прадчуванне нечага важнага для мяне, што цешыла і турбавала сваёй неразгаданасцю з самай раніцы. Яно не было выпадковым, бо нічога выпадковага і беспрычыннага не бывае ў жыцці. Даўным-даўно была задумана і спланавана *звыш* цяперашняя сустрэча, вызначана гэта хвіліна. І тое, што мяне перад гэтым, як ніколі раней, цягнула ў вёску, хаця і не вельмі даўно гасцяваў у бацькоў, і прыкры матч у клубе, і купанне ў калодзежы – ні што іншае, як прадвесце, прэлюдыя да таго, што павінна тут адбыцца. Зараз хоць нечым, няхай да мізэрнасці меншым, чым хацелася б, я аддзячу яму за яго спагадлівасць і шкадобу да безабароннага, жорстка пакрыўджнага дзіцяці, за зіхотны ўспамін, які грэе і лашчыць маю душу ўсё жыццё. Гэтак жа будзе грэць яго і тое, што адбудзецца зараз.

Імгненна з’явіўся і сцэнар, згодна якому здзейсніцца тое, дзеля чаго я пакліканы сюды, і назва для яго – “Мажорны фінал”. Зладзіць мажорны фінал! Гэта найлепшае. Ведама ж, ён добра начуты пра мяне, як пра шахматыста, ведае, што сам гуляе непараўнальна слаба, і нічыю, як і кожны тут, успрыме за перамогу. Само па сабе гэта надасць яму ўпэўненасці, і ён, хутчэй за ўсё, запатрабуе згуляць яшчэ. Няхай. Другая таксама скончыцца мірам. А потым спаслацца на занятасць і пайсці, папярэдне выказаўшы збянтэжанае захапленне. Шахматны рэйтынг яго ўзляціць вельмі высока.

У шкоду майму, вядома. Не бяда. Затое такі зыход надасць яму павагі. Інтэлект усюды ў пашане. У вёсцы – найбольш, чым дзе. Для яго цяпер гэта не так і мала...Толькі б пагадзіўся!

Зрабіўшы прыкрую міну, нібы яму навязвалі нешта непрыемнае, нецікавае і непатрэбнае, Лот быццам з неахвотай заняў Цімошыкава месца, па-турэцку падкруціў пад сябе ногі, панура буркатнуў:

– Жрэбя.

Я ўзяў дзве рознакаляровыя пешкі, завёў рукі за спіну, працягнуў уперад кулакі.

– Якая?

– Гэтая, – скасіў ён вочы на левую.

Я распрастаў далоні.

– Чорныя, – роблена заспачуваў яму адзін з падшыванцаў. – Кірдык табе, Пецік. Труба.

І дурасліва пацёр далонню яго макаўку.

– Глухні, чмо! Шалудзяк. – Лот адкінуў руку блазнюка, ваўкавата, з-пад ілба зірkануў на мяне. – Твой ход.

Я пераставіў каралеўскую пешку на два полі, не без цікаўнасці чакаючы адказу: першы ход скажа многае... Ён хвіліну марудзіў, вагаўся, уцягваў і выпінаў вусны і, урэшце, няўпэўнена пасунуў на адно поле ферзевую. У душы маёй варухнулася спачуванне і шкадоба: было зразумела, што ён не меў ніякага ўяўлення пра тэорыю. Хаця...

“Абарона Пірца-Уфімцава? Не смешна... Адкуль яму? Добра, калі чуў пра дзіцячы мат”.

Наступны яго ход з а7 на а6 развеяў усе сумнівы.

“Чайнік, адназначна. Так не ходзяць і пачаткоўцы”.

Зрабілася няёмка. Тузацца з супернікам, які не ведае прасцейшых канонаў гульні, гонар невялікі. Выцягнуць яго на нічыю, каб ні ён і ніхто іншы не прыкмеціў фальшу, будзе не проста. Адзінае, што застаецца – загнаць сябе ў кут, у цяжкое становішча, каб потым самому шукаць паратунку...

“Хіба што...”

У гэты раз Лот не спяшаўся, сядзеў нерухома, прыкіпелы вачыма да дошкі, падоўгу думаў нават над вымушанымі хадамі. Узяўшы фігуру, запаволена падносіў яе да абранай клеткі, нейкі час усё яшчэ раздумваў, уціскаў у дошку, коратка, нібы джаліў, аблізваў вусны і камянеў у чаканні адказу.

Я таксама імітаваў заклапочанасць, хмурыўся, час ад часу збянтэжана хітаў галавой, а на самой справе без роздуму, інтуітыўна, рабіў шаблонныя хады, і вельмі ўразіўся, калі раптам заўважыў, што чорныя стаяць выдатна, не проста лепш, а, лічы, на выйгрыш.

“Нічога сабе... Вось табе і “чайнік”.

Усё ж ён разыграў абарону Уфімцава-Пірца, праўда, з адхіленнямі і перастаноўкай хадоў. Думка, што ўсё гэта атрымалася спантанна, выпадкова, адразу ж падалася недарэчнай. Такое немагчыма.

“Не тупы. Кеміць... І хітры. Ход а7-а6 – падманка. Прыкінуўся баранам. Збіты прыём, а спрацавала... Але ж тады, у клубе?.. Нічога не азначае... П’янае ачмурэнне. Палічыў за лоха. Пракалоўся, як зараз я. Не бяда, страхі не вялікія”.

Па сутнасці, усё ішло згодна сцэнару.

“Кепская пазіцыя? Не катастрофа. Сам хацеў. Затое без маны. Будзе сумленны паядынак. Не лёгкі. Тым лепш. Давядзецца напоўніцу ўключыць

“цяму”. Найпершае зараз – выраўняць пазіцыю. І галоўнае – не спяшацца. Нахрапам не выйдзе, не той выпадак. Думай, шукай... Ціхі ход ферзем? Бадай што. Найлепшае. Зрабіць неадкладна. Пешка застаецца пад боем? На добрае здароўе. Няхай забірае. Палічыць за прагляд. А ў адказ – напад на слана, потым шах, ход ладдзёй. Вертыкаль – мая. І ўжо чорным гаркава. Не вельмі каб, але...”

Як і меркаваў, ледзь я пахадзіў, ён імпульсіўна памкнуўся па пешку, амаль крануўся яе, але ў апошні момант тарганууся, рука з растапыранымі пальцамі застыла, потым павольна апусцілася. Ішлі хвіліны, а ён, ссунуўшы бровы, усё думаў, раз-пораз усмоктваў і выпінаў вусны. Гэта пачынала раздражняць.

“Нібы трусік... І што марудзіць? Пешку ўсё адно забярэ. Адназначна. Заўважыць наступствы ахвяры няпроста. Не для яго...”

І сам, ад няма чаго рабіць, зноў пачаў аналізаваць становішча на дошцы – уважліва, грунтоўна, і дзівіўся неспакою, які нечакана пачаў прасочвацца ў душу. Не дарма... Абсалютна перакананы, што супернік непазбежна “клюне”, я не стаў асабліва турбавацца пра пабочныя варыянты, а яны былі зусім несуцешныя. Для мяне. Калі чорным не браць пешку, напасці на каня, адціснуць і “замарозіць” яго на краі дошкі, рушыць пешку f і стаць канём на e4 – мой каралеўскі фланг заціскаецца намёртва, злашчасная пешка гіне без усялякай выгоды, і ў чорных прамая атака на караля. Неадольная. Быў бы я на яго месцы...

“Суйміся... Усё так, але ён не ты”. Штосілы я намагаўся захаваць на твары бестурботнасць. “Возьме, нідзе не дзенецца. За мілую душу... Згодна свайго інтэлекту”.

Лот нібы пачуў гэта, кпліва скрывіў рот, нетаропка, бы нехаця, зрабіў ход, якога я больш за ўсё баяўся. Цела маё абмякла, аднак, на твары заставалася ранейшая ўпэўненасць і поўны спакой. Нядбайна, нібы ўсё было прадугледжана, я адступіў канём, унутрана напяты, усё яшчэ з надзеяй, што ён паквапіцца на пешку. Тым больш, што з усіх бакоў няспынна крычалі-загадвалі:

– Пешку, пешку хапай!

Не спраўдзілася. Ён без замінкі і бездакорна разыграў увесь варыянт, пагібельны для мяне, і ўжо на яго твар набегла нудота, быццам гуляў з дылетантам, які адно і ўмее – соўгаць фігуры.

Непрыязнасць, блізкая да нянавісці, моташнай хваляй накацілася на мяне, унутры ўсё завібравала. Усё ж я здолеў суняць дрыготку, прыцішыў роспач і надоўга задумаўся. Кепска толькі – усе роздумы непазбежна мелі адзіны вынік: параза. Паратунку не было.

А наўкол усталявалася напятая цішыня. Усе адчулі – адбываецца незвычайнае і нечаканае, і зыход гульні вызначаецца не толькі перамогай ці паразай. На кон пастаўлена штосьці непамерна большае.

“Астынь, супакойся. Яшчэ не вечар, зусім не вечар. – Было адчуванне, што я ўгаворваю дзіця. – Не ўсё так змрочна. Кепска, але не болей за тое. Пазіцыя пройгрышная, але гульня ёсць гульня. Шахматы – трагедыя аднаго ходу. Ісці ва-банк. Ускладніць, заблытаць... Палавіць рыбу ў каламуці. Ахвяраваць яшчэ адну пешку і кінуцца на яго караля? Без падтрымкі тылоў? Вар’яцтва, чыстай вады. А што застаецца? Усё будзе на грані фолу. Для абодвух. Нехта аступіцца, схібіць... Несумніўна, ён. Не мае вопыту, маёй практыкі... Адпітыя мазгі дадуць збой. Рана ці позна... Узяў пешку?

Цудоўна, гэта ўжо нешта. А што на гэта? Ход ладдзёй? А дзе дзенешся – даводзіцца... Шах ферзем... Адступіў. А зараз канём на g5... Быццам напад на пешку. Ладдзя застаецца пад боем. Бярэцца чыста. І ніякіх каверз з боку белых. Нібыта... Толькі б узяў... Тады – конь шахуе на f7, потым конь h6 – зноў шах, ахвяра ферзя на g8, і конь f7 – мат. Спёрты мат! Надзіва прыгожа і надзвычай эфектна. Пазбегнуць яго лёгка: не браць ладдзю. Пешка h7 на h6 –і ўсё разбураецца, атака тухне, а белым кепска, вельмі кепска... поўны швах... Даволі! Не памірай, пакуль жывы. Спёрты мат немагчыма заўважыць, калі не ведаеш, што гэта за яно. І заманухa спакусная – чыстая ладдзя. Тут не хочаш – паквапішся".

Я глыбока ўздыхнуў. "Гульня скончана. Праўда, мата не будзе. Абыдземся вечным шахам. Нічыя. Шкада, вядома..."

Ад уяўлення, як агаломшыла б усіх праведзеная мной камбінацыя, на якую б вышыню ўзнёсся я як шахматыст у вачах гледачоў, соладка зашчымела ў грудзях.

"Што ж... За ўсё даводзіцца плаціць. За той ранак таксама. Ён варты таго. І больш за тое"...

Узняўшы галаву, я няспешна агледзеў заўзятараў, і на кожным твары бачыў пахмурны выраз горкага расчаравання. Зусім не таго чакалі яны. Кожнаму мроіўся разгром, учынены ў клубе, і ўсе прагнулі яго паўтору. Каб дарэшты зганьбаваць скончанага нікчэмніка, ізгоя, які нешта ўяўляе з сябе. Апроч таго (ці гэта было маім хваравітым уяўленнем?) амаль усе тут усведамлялі сваё дачыненне, няхай праз бацькоў, родзічаў, да яго паламанага лёсу і зацята прагнулі кары, за тое, што заявіўся ў вёску, наважыўся напомніць пра гэта. Я іх падводзіў, не спраўджваў жаданага, і гэта наклікала ўжо на мяне помслівую прыкрасць і асуджэнне.

"Што ж, пачакайце... убачыце... Хаця відовішча не атрымаецца. Камбінацыя абарвецца напрыканцы, на самым цікавым месцы. Як ні сумна..."

Пасля шаха ён адступіў на h8, але з ходам канём варта было памарудзіць. Не грэх вялікі падстрахавацца, замаскіраваць пастку, найпраўдзівей імітаваць зявок. Нетаропка закурыўшы, я спытаў, колькі часу, соладка пацягнуўся, уздыхнуў на поўныя грудзі, і потым нібы спахапіўся, успомніў, што мне хадзіць, мітусліва пераставіў каня на g5, зноў пацягнуўся – і скамянеў; роспачная грымаса сказіла твар, бездапаможна апусціліся рукі.

І ў тое ж імгненне ўсчаўся гармідар, прыкрыя выкрыкі, спачуванні.

– Перахадзі! – ледзь не галасіў хтосці. – Турка гіне!

– Што нарабіў!

– Гэта трындзец!

Гэчка ўражана і зларадна зіркануў на мяне, на дошку, зноў на мяне...

Сцяўшы вусны, я глядзеў убок – расціснуты, паніклы...

Аднак, ён не памкнуўся, як усе, а найболей я, чакалі, хапаць ладдзю; упёршыся рукой у калена, збянтэжана нахіліўся над дошкай, надоўга задумаўся, і паступова зларадная неўразуменне пачало сыходзіць з яго твару.

– Што думаць? Ладдзю хапай, пута! – ужо як абурэнне на мяне за маю лаханутасць, неслася адусюль. – Даюць – бяры!

Гэта не крыўдзіла.

"Дайшло б толькі да Бога!"

Не дайшло. Узняўшы галаву, Лот пільна, не без павагі, паглядзеў на мяне, павольна павёў галавой, пахадзіў пешкай на h6, скрыжаваў на грудзях рукі, зноў узвёў на мяне вочы: "Не атрымалася?"

Не атрымалася... Чорнай смугой зацягнула неба, і ўсё пацямнела навокал. Наіўным і смешным падаўся мой намер ашчаслівіць нягеглага алкаша, мая ўзрушанасць на пачатку гульні, як і палкая ўдзячнасць за яго колішняе заступніцтва: “Падумаеш...” Я з жахам адчуў, што мая непрыязнасць да яго нястрымна ўзрастае, перайначваецца ў крыўдлівую раззлаванасць, і скалануўся ад сваёй пачварнасці. Аднак варта было ўявіць, як ён пасля сваёй перамогі зняважліва пасміхнецца, моўчкі падымецца і моўчкі пойдзе прэч, з ганарыста ўзнятай галавой, засунуўшы ў кішэнь вятроўкі руку, нібы і не пачуе маёй прапановы згуляць яшчэ, змрочная варожасць імгненна адольвала нанова.

Без роздуму, быццам рады, што ён прамаргаў удачу, я адступіў канём, ладдзя трапляла пад яго ахову, рабілася недатыкальнай. Затое апошні шанец быў страчаны, катастрофа стала немінучай. Матавая атака чорных раскручвалася сама па сабе, а ў тым, што правядзе ён яе бесхібна, сумніву ўжо не было.

– Прыдурак! Ладдзю чаму не біў? – роспачна лямантаваў нехта. – Задарма ж.

– Крот сляпы...

– Упусціў перамогу... Дундук!

– Сапраўды, Пятро, – з далікатным дакорам запытаў школьны фізрук. – Чаму было не забраць? Ніякага ж страху...

– Так думаеш? – Лот іранічна скасавурыўся на яго. – А гэтага не хацеў?

Ён паставіў майго каня на ранейшае месца, а таксама і сваю пешку, пабіў ладдзю, у тэмпе “пракруціў” усю камбінацыю, зноў паглядзеў на фізрука.

– Бачыў? Разумнік...

На нейкі час усе знямелі.

– Во-ось яно што... – засаромлена працягнуў фізрук. – Але ж угледзеў!

І ўсе раптоўна загаманілі, узбуджана, захоплена, глядзелі на яго, нібы бачылі ўпершыню.

– І ўбачыў жа...

– І пралічыў усё...

– Галава!

– А з выгляду не скажаш...

– Малаток, Пятро, – шкадлівы падлетак зноў пацёр яму далоняй макаўку. – Хвалю!

– Псік. – Лот зноў адкінуў яго руку, на гэты раз нямоцна, без злосці.

Пра мяне зусім забыліся. Ніхто не ўзгадаў, што гэта я, а не ён, задумаў гэтую камбінацыю, хаця і разгадаць яе таксама было ганарова. Выходзіла дзікая недарэчнасць: сваімі высілкамі я ўзвышаў яго і ганьбіў сябе. Я амаль фізічна адчуў, як меншыцца, драбнее мая асоба ў вачах заўзятараў, блякне аўтарытэт шахматыста. Не толькі шахматыста... Сусветная катастрофа здавалася смехатворнай драбязой у параўнанні з той трагедыяй, што так неспадзеўна абрынулася на мяне.

Нясцерпная крыўда едка разлілася ў грудзях, зрабілася прыкра і брыдка, калі фізрук і той баламутны хлопец, пстрыкнуўшы запальнічкамі, гатоўна паднеслі агеньчыкі, варта было Лоту дастаць цыгарэту.

“Што ж: ”Кароль памёр – няхай жыве кароль”. Закон быцця. Плебс прагне зменаў. Куміры прыядаюцца. Ім любяць пакланяцца, а найболей – іх руйнаваць. А ён? Такая празорлівасць, глыбіня разліку... Як і мая выкрутлівасць. Адкуль гэта?”

На момант падалося, што не мы, а нехта праз нас гуляе гэтую партыю, праз нас вядзе нам незразумелае жорсткае змаганне, адстойвае свае намеры.

"Глюкі. Усё нашмат прасцей. Ён моцны шахматыст. Некалі быў ім. Здольнасці не прап'еш. Нешта ж засталося..."

Лот узнавіў пазіцыю, два разы запар шмаргануў носам, няўважна, як на ўжо адоленага, зіркнуў на мяне, суха буркатнуў:

– Твой ход.

Здрыгануўшыся, я імпульсіўна пераставіў фігуру, прыкусіў ад прыкрасці губу і ў думках аблаяў сябе казлом. Не за ход – добрых ужо не было – за спешную дагодлівасць, з якой гэта было зроблена, за сваё бязвольнае падпарадкаванне.

"Каму?!"

На мяне пазбягалі глядзець, а калі нехта незнарок сустракаўся са мной позіркам, імгненна бянтэжыўся, ніякавеў, таропка адварочваўся. Такое ўспрымалася як самая подлая здрада, і неўзабаве я амаль ненавідзеў усё і ўсіх: і бела-ружовую квецень сада, і блакіт неба, а найболей – гледачоў і Лота.

Толькі Цімошык амаль не зводзіў з мяне вачэй, якія свяціліся захапленнем і замілаванасцю, і яшчэ бачылася ў іх незразумелая і зусім недарэчная ўдзячнасць. Гэта раздражняла, ледзь не гнявіла.

"Чаго гэта ён? Я што – ікона?.."

А фінал з кожным ходам злавесна насоўваўся. Мажорны для яго, для мяне – пахавальны. Лот пальцам нядбайна папіхнуў ферзя з адной клеткі на другую, абыякава адвёў позірк убок.

"Гэта канец".

Здалося, не сам падумаў, а нехта вынес прысуд. Наступным ходам чорныя ставілі мат. Ратунку не было. Узбуджаны гул пракаціўся між гледачоў, і зноў настала мёртвая цішыня. Усім усё было ясна, усе напружыліся ў чаканні ракавога моманту.

Знешне я нічым не выдаў таго, што рабілася на душы: удумліва глядзеў на пазіцыю, быццам не было нічога дрэннага для мяне, і ледзь стрымліваўся, каб адным разам не змесці з дошкі фігуры, падняцца, ні на кога не зірнуўшы, пайсці прэч. Даць яму прылюдна заматаваць майго караля і ўзнесціся на вяршыню свайго трыумфу праз маё ганьбаванне было звыш сілы. Аднак і вымавіць ракавое "здаюся" ніяк не мог. Горла нібы сціснула. І, як ні дзіўна, недзе ў глыбіні свядомасці трымцела зусім беспадстаўнае, бязглуздае спадзяванне на нешта, нібыта можна было пазбегнуць непазбежнага. І ўзнікла яно не проста так, не на пустым месцы, а, як здвалася, выцякала з сутнасці і логікі быцця, з яго законаў, увесь час скіраваных дагэтуль на тое, каб даць упартаму нябогу зразумець марнасць яго пратэсту, змаганняў супраць наканаванага, давесці, што лёс належыць прымаць пакорліва і змірэнча, інакш ён напоўніцу дасць зведаць сваю бязлітасную жорсткасць. Калі не так, то навошта тады было яму здзеквацца з гэтага непакоры доўгія гады, нявечыць яго жыццё, каб напрыканцы даць пераможна зазірнуць мне, а найперш самому Лёсу ў вочы, пасміхнуцца знішчальнай усмешкай пераможцы? Бо колькі б нягодаў ні пасылала нам жыццё, адна апошняя хвіліна поўнага, глыбокага і бязмежнага шчасця скасуе і апраўдае любыя пакуты і нягоды, якія толькі могуць напаткацца на шляху, узродзіць пачуцце ўдзячнасці за пражытыя, няхай і змрочныя, дні. Менавіта такой, па маім цяперашнім перакананні, і будзе для яго гэтае імгненне, варта мне толькі зрабіць адзін ход. І думкі гэтыя зусім не здаваліся няўцямнымі.

– Здаецца, белым пара здавацца, – мімавольна скаламбурыў нехта, каб неяк прыспешыць мяне, абарваць цяжкае, прыкрае чаканне.

Лот толькі пасміхнуўся.

– Яму відней.

– Але і Пятро... Хто б мог падумаць? – учуў я прыцішанае гаварэнне. – А калі б не піў?

“Калі б не піў?”

Набрынялы непадуладнай волі і розуму прыкрасцю, якую ў разы памнажала пачуццё поўнай сваёй бездапаможнасці, я з намаганем узняў галаву, каб абвясціць нарэшце, што прайграў, і большай пагарды, знявагі да мяне, да ўсіх, хто быў тут, якой палалі вочы Лота, нельга было ўявіць, а твар свяціўся непрыхаванай радасцю ад споўненай помсты. За ўсё.

І ўсё было справядліва. Нібыта... Але чаму менавіта я аказаўся ахвярным казлом адпушчэння? І менавіта праз мае душэўныя пакуты вершыцца, няхай і праведны, суд? А ў глыбіні свядомасці вібравала недарэчнае, крыўдліва-абуральнае: “А што лёс? Ці не ён жа і д’ябал? Не ў яго звычцы выпускаць абраную ахвяру. Хаця... Вялікдзень жа... Пэўна, не дазволена яму ў святы дзень чыніць ліхое”.

І зноў перакурчыўся ад грэблівасці да сябе.

“Ужо і д’ябла сюды... А што яшчэ застаецца?.. Паверыш у што хочаш. І ў д’ябла. І душу прадасі... І прадаў бы. Чаго яна вартая ў параўнанні з тым, што мяне чакае... зараз адбудзецца?”

Тупат капытоў, конскае іржанне і маладзецкі посвіст, а ўслед ўхвальна-вясёлае: “Гуляем, саколікі?!”, прыцягнуў увагу да конніка, які імчэў па дарозе збоч саду. Намеснік старшыні калгаса, смуглявы кубанец Кіба ўзняў чорнага жарабка на дыбкі і панёсся, што віхор, далей, пакінуўшы негустое воблачка пылу. Невысокі, жылісты, некалі ён працаваў жакеем і тут не прызнаваў ні матацыкл, ні машыну.

– Чорт! – захоплена вымавіў услед яму фізрук. – Самы што ні ёсць!

– Казак, – удакладніў конюх Касёма. – На Кубані яны ўсе коннікі.

“Конь... Коннік... Траянскі конь... Што за лухта лезе ў галаву? Аднак, хопіць. Здавайся. Галоўнае – захаваць прыстойнасць. Няпроста гэта...”

І ўжо распасцёр далонь, каб павіншаваць зненавіднага суперніка з перамогай, і здзівіўся, калі на траву з яе выпаў белы конь. Калі і навошта я прыхапіў яго? Пэўна, ад хвалявання, неўсвядомлена... І быццам агонь апраметнай шугануў мне ў твар, а ў грудзях зрабілася млосна і пуста. Здалося – выпала сэрца.

“Не можа быць. Правер яшчэ... уважліва, вельмі ўважліва... Так! Усё так! Усё стане на месца. Як і належыла быць. Згодна паслядоўнасці быцця”.

Зларадна-пераможны рогат раптоўна заклаў мне вушы, скалануў цела, і мо праз хвіліну я здагадаўся, што смех сыходзіў знутры мяне. Аказваецца, і ў вялікія святы д’яблу не забаронена чыніць свае вераломствы... Інакш як раслумачыць неспадзеўны, па-д’ябальску выкрутлівы паратунак, што асяніў мяне? І зноў зрабілася шкада зацкаванага жыццём і лёсам гаротніка. Выходзіла, і ўзнёслыя хвіліны святкавання сваёй перамогі прызначаліся для таго, каб наймацней і вастрэй пранізаў душу боль і горыч паразы. Паразы ва ўсім. І зрабіць яшчэ больш нясцерпным дажыванне...

“І зноў я прылада, зноў праз мяне... Насланнё, сапраўды – чартаўшчына”.

А ён, нічога не ведаючы, сядзеў, атулены аўрай усіхняй павагі і

здзіўленасці, ганарлівы і ўзнёслы, перапоўнены трыумфаваннем, якое не мог схаваць. І я нічога не мог зрабіць, каб уберагчы яго ад крушэння.

“Прапанаваць нічыю? Палічыць за абразу. Іншыя – таксама... Тады – што? Д’ябальская пастка. Нячысты ўмее сваё даводзіць да канца”...

“Але ён нічога не можа сам. Не дазволена. Толькі праз некага”.

“Д’ябал, чорт, нячысцік... Зусім ужо...”

“І ўсё ж, што далей? Дзе выйсце?”

“Даволі. Прэч развагі. Гульня – ёсць гульня. Я нічога не парушаю. Прынесці сябе ў ахвяру? Не, я не Хрыстос”.

І паставіў пешку на апошнюю гарызанталь. Лот лянотна ўзяў свайго ферзя, запаволена перанёс яго праз усю дошку, уціснуў у патрэбную клетку, кпліва і помсліва зірнуў на мяне.

– Мат! – выгукнуў нехта з заўзятараў. – Крута...

– І прыгожа.

– Скажы хто – не паверыў бы...

Але пакрысе гоман пачаў сціхаць, усіх бянтэжыла мая заспакоенасць, іранічная ўсмешка і тое, што я нават не памкнуўся павіншаваць Лота з перамогай. Замест таго я, гэтак жа няспешна, паставіў яго ферзя на ранейшае месца, узяў белага каня і чамусьці паглядзеў у блакітнае, без адзінай аблачынкі неба.

“Не трэба!” – перада мной паўстаў шасцігадовы хлопчык з умольнымі, поўнымі роспачы вачамі. – Не трэба...”

“Глюкі”.

Я страсянуў галавой, замяніў пастаўленую толькі што пешку на каня, бясстрасна, як нешта нязначнае, абвясціў:

– Шах каралю.

То быў смяротны шах. Пад удар трапляў і чорны ферзь. Белыя не толькі пазбягалі мата, а заставаліся з лішняй фігурай. Ды якой!

Лот, як і ўсе іншыя, агаломшаны, яшчэ няздольны ўсвядоміць, што адбылося, няўцямна глядзеў на дошку, перавёў позірк на мяне, зноў на дошку, і на яго шчоках пачалі з’яўляцца чырвоныя плямы.

– Ты што гоніш? – нягучна, нібы яго душылі прахрыпеў ён. – Што гоніш? Не ляпі гарбатага. Стаў ферзя.

І, скінуўшы каня, паставіў ферзя.

– Так лічыш? – Я зноў паставіў каня. – Ставіцца любая фігура. Па жаданні.

– Каго разводзіш? – шалёна бліснуў ён вачамі. – Толькі ферзь!

– Так? – павярнуўся я да Цімошыка. – Толькі ферзь?

– Можна любую, – адвеў ён вочы.

– Лухта! – яшчэ болей ашчэрыўся Лот. – Сам не ведаеш! – Але ў наступнае імгненне неяк абвяў, зніякавеў, вочы, што ўсё яшчэ палалі гневам і абурэннем, пачалі бляknуць.

– Гэта нічога не азначае, – ужо не так упэўнена, квола, працягваў пярэчыць ён. – Пазіцыя твая прайграная. Пры любым раскладзе.

– Мне так не думаецца.

– Я проста не ўлічыў... не ведаў... выпусціў з-пад увагі.

– Твае праблемы. Гуляем далей?

– Але пачнем адсюль... – Ён паставіў маю пешку на перадапошняе поле, замест свайго хода ферзем пахадзіў каралём, пазбягаючы шаха. – І што цяпер?

– У шахматах не пераходжваюць.

– Ты прайграў. Сам ведаеш. Нішто не ратавала..

– Я наўмысна ішоў на гэтую пазіцыю. Рызыкаваў дзеля эфекту. Усё прадбачыў наперад.

– Сяўка! Нічога ты не прадбачыў. У апошні момант надумаў.

– Няхай сабе. Дагульваць будзем?

Ён упіўся ў мяне гнеўным позіркам, потым нягучна, але было чуваць усім, прамовіў:

– Гніль.

– Падбірай словы!

– Гніль і падла.

І цяжка, быццам нешта ціснула яму на плечы, узняўся, нейкі час змрочна глядзеў на дошку, пакутна, як ад болю скрывіўшы рот, стукнуў па ёй абцасам чаравіка. Пачуўся сухі трэск, пырснулі ў бакі фігуры. Сціснуўшы кулак, Лот агледзеў усіх ненавісным позіркам, потым рука яго бязвольна, нібы бізун, павісла, ён павярнуўся, соўгаючы падэшвамі, падаўся прэч.

– Шахматы пры чым? – журліва, без сярдзітасці вымавіў Цімошык, збіраючы раскіданыя фігуры. – Во, дошку раструшчыў...

Усталявалася цяжкое, непрыемнае маўчанне.

– Але гэта фокус – каня, а не ферзя! – зазначыў хтосьці, і ўсе захоплена загаманілі пра маю вынаходлівасць, пра тое, што не нейкаму шалапуту і тулягу гуляць са мною. Але ўсё ж ухваленні гучалі не зусім шчыра, на тварах і ў вачах чыталася няёмкасць. Нешта раптоўна перавярнулася ў маёй душы, і я спаўна ўсвядоміў, што ўчыніў нешта жахліва-брыдкае, недаравальнае і непапраўнае, і гэта не будзе даваць мне спакою да скону. З'явілася гнятлівае прадчуванне, быццам сённяшняя драма яшчэ не скончана, абавязкова будзе мець свой працяг, і марна намагаўся ўскласці гэта на маё абвостранае ўяўленне, хворую фантазію. Адчуванне сваёй непамернай злачыннасці і непазбежнасці яе наступстваў не знікала.

Праз нейкі час усе пачалі разыходзіцца, і хутка пад клёнам засталіся толькі мы з Цімошыкам. Склаўшы фігуры ў паламаную дошку, Цімошык падняўся.

– Ты куды цяпер? – спытаў я.

– У клуб. Занясу шахі.

Я пайшоў поруч з ім, па дарозе гаварыў нешта бесклапотнае, нязначнае. Аднак размова не ладзілася. Цімошык болей маўчаў, толькі зрэдку ківаў галавой, альбо адказваў коратка, аднаскладова. Твар яго быў пахмурны, адлучаны.

– Я зрабіў нешта не тое? – нарэшце не вытрымаў я. – Нешта не так?

– Ты пра што? – нібыта нічога не зразумеў ён.

– Не круці. Ведаеш пра што. Бачу, не ўхваляеш.

– І што з таго?

– А як па-твойму было трэба? Я хацеў на нічыю, думаў вечным шахам усё скончыць – не атрымалася. Ён жа ўсё і разбурыў. Выйшла як выйшла.

Цімошык прыпыніўся, сумна паглядзеў на мяне.

– А я думаў, ты наўмысна яму паддаешся. Дзівіўся, як натуральна ў цябе гэта выходзіць...

– Ён моцны шахматыст. Я легкадумна пачаў партыю.

– Выходзіць, калі па сапраўднаму, ён...

– Што замаўчаў? Гавары.

– Ды так, нічога.

Цімошык збочыў на дарогу ў клуб, я накіраваўся да родзічаў, якія ўчора запрасілі на пачастунак.

Вечарам у клубе Лота не было. Дадому мы з Цімошыкам вярталіся апошнімі. Калі міналі Хадорчыну хату, з яе расчыненага акна чулася гучная п'яная лаянка Лота, яго пагрозы спаліць вёску разам з свалатнымі яе людзьмі, і жалобныя ўгаворы Хадоркі.

– Пецечка, ну супакойся. Ды што найшло на цябе? Ты ніколі ж такім не быў.

– Пусці! Пусці, сука! Пазабіваю!

– Трэба суняць яго, – няўпэўнена прапанаваў я.

– Разбяруцца, – махнуў рукой Цімошык. – Сапраўды, дзіўна. Ніколі ж да гэтага не бузіў...

– Глынуў лішку, – патлумачыў я і адчуў, як гарачыня залівае твар.

Назаўтра раніцай я ад'язджаў, і па дарозе да аўтобуснага прыпынку сустрэў Лота. Ён цягнуўся некуды паніклы, апусціўшы галаву, магчыма і не заўважыў мяне, а можа хацеў размінуцца моўчкі.

– Здароў, Пятро, – бадзёра аклікнуў я, нагнаўшы на твар вясёлы выраз.

Ён прыпыніўся, цяжка і змрочна паглядзеў на мяне, пануры, пасунуўся далей.

У наступны раз у вёску я прыехаў праз год з лішкам. Як заўсёды, аўтобус прыпыніўся каля сельсавета, і сярод тых, хто чакаў яго, быў і Цімошык. На гэты раз ён нікуды не выпраўляўся, праводзіў сястру, што жыла ў Гомелі. Аўтобус у хуткім часе ад'ехаў, мы засталіся ўдвух. Я азірнуўся на веранду, на лаву, на якой некалі ўпершыню ўбачыў Лота, спытаў Цімошыка.

– Як там Пятро? Не-не ды часам успамінаецца.

– Дзіва што... – сумна паківаў галавой Цімошык. – Няма Пятра. У магіле. Восьмы месяц ужо...

– Вось як? Што з ім, праз што?

– Самазабойства. Застрэліўся...

Чамусьці гэта мяне амаль не здзівіла і не ўразіла. Нібы і чакаў нечага падобнага. Толькі горача запылалі шчокі і прыкрая млосць на момант знясіліла цела.

– Застрэліўся? З чаго?

– Многа розуму не спатрэбілася. Закляпаў канец трубкі, у другі набіў пораху і шроту, прымацаваў закляпаным канцом да камфоркі газавай пліты, сеў на пекуленае вядро...

– Зразумела. І чаго ён, праз што?

– У яго спытай. Нібы хто ведае. З ім пасля таго Вялікадня быццам што здарылася, – з сумам апавядаў Цімошык. – Ціхі зрабіўся, маўклівы. Не піў, нешта рабіў па гаспадарцы. Плот новы паставіў. Магілы маці і бабы давёў да ладу, і вакол іх...

– Рыхтаваўся, відаць...

– Можа, – кіўнуў Цімошык. – Хадорка нарадавацца не магла. Звала ўжо толькі Раманавіч, а больш – "Мой гаспадар". Неяк сярод дня іду па вуліцы – Хадорка з хаты выбягае. З крыкам, у слязах. Я да яе: "Што? Што такое?", а яна слова сказаць не можа. Толькі на хату сваю паказвае: "Там..." Кінуўся ў хату – гляджу Пятро на падлозе ляжыць. У руцэ

цыгарэта дыміцца. І порахам пахне. Падумаў што п'яны, а прыгледзеўся – кроў са скроні цячэ. Камфорка на газавай пліце гарыць, не патушаная. А да яе трубка адным канцом прымацаваная...

Да драбніцы, выразней, чым магло быць на яве, я ўбачыў, як ён сядзіць, прыціснуўшыся скроняй да смертаноснай прылады, курыць, чакае і ўспамінае. Кажуць, у такіх выпадках усе пражытае да самых нязначных дробязяў паўстае перад вачамі. І, пэўна ж, наш двубой таксама... Думаць пра гэта было пакутна.

– Пахавалі дзе? У якім месцы?

– Побач з маці.

“І тое... Дзе ж яшчэ?”

– Я крыж паставіў жалезны. Пафарбаваў у сіні колер

У той жа дзень, пад абед, я пайшоў на клады. Цімошык не ўсё мне сказаў – ён паставіў не адзін, а тры крыжы, і зрабіў просценькую агароджу з прутоў арматуры, адну на ўсе тры магілы. Іншыя магілы месціліся адна паблізу другой, а вакол гэтых бліжэй чым на тры крокі ніхто не быў пахаваны. Успомнілася, што жыццё, па вялікім рахунку, справядлівае, бо праз смерць ураўноўвае ўсіх. Гледзячы на тры самотныя грудкі, якія выглядалі маленькім астраўком сярод мноства іншых, з гаркавасцю падумаў, што і ў гэтым ім нехта намагаецца адмовіць...



Людміла Паўлікава-Хейдарава



...і плешчацца агонь

у водах жыцця...

# Вечаровае веча

***Урыўкі з кнігі іцзін-секстэтаў***

Народы не тояць сваёй мудрасці, яны жывуць у ёй і жывяцца ёю, перадаюць у паданнях, былінах, казках, міфах – жывым словам, гульнёй, абрадам, малюнкам, а іншым разам і цэльнай сістэмай светасузірання, да якой належыць кітайскі Канон Перамен, або Кніга Перамен якую яшчэ называюць Чжоу або І-Цзін. Толькі пісьмовы век гэтай мудрасці налічвае каля 5000 год. Магчыма, яна і захавалася дзякуючы мудрасці таго, хто прыстасаваў яе для гадання, бо ведаў мудрэц неўміручую цікаўнасць чалавека да сваёй будучыні.

І-Цзін – сістэма ведаў, якая апісвае эвалюцыйныя плыні падзей і перамен светабудовы. Яе філасофіі і тэкстам, па меншай меры, абавязаны даасізм, канфуцыянства, Фэн-Шуй. Кітайская навука, дзяржаўныя інстытуты, паўсядзённае жыццё падпарадкаваныя прынцыпам Інь-Ян – мужчынскаму і, адпаведна, жаночаму пачаткам, на якіх базуецца І-Цзін. Яна даўно выйшла за межы Кітая. Многія вучоныя мінулага знаходзілі ў ёй свае ідэі, як, да прыкладу, прынцып узаемадапаўняльнасці, абгрунтаваны Нільсам Борам, або *прынцып васьмярычнага шляху* з фізікі мікрасвету,

абгрунтаваны Гелл-Маннам і Нейманам. І сёння да сістэмы сімвалаў Інь-Ян звяртаецца палітыка, лінгвістыка, медыцына, матэматыка, стратэгія, тэорыя жывапісу, музыкі, увогуле мастацтва... Зразумела, што гэта жыццядайная крыніца ведаў.

Неяк, разглядваючы ўзоры гексаграм[1] (ад грэч. *hex* – шэсць), складзеных з шасці *суцэльных* (Ян – *мужчынскіх*), *перарывістых* (Інь – *жаночых*), або змяшаных рысаў, я выразна ўбачыла рыфмічныя малюнкі шасцірадковых вершаў, якія называюцца секстэтамі (ад лац. *sex* – шэсць). Вядома, што рыфмы ў іх маглі быць толькі дзве – мужчынская (націск на апошнім складзе) і жаночая (націск на передапошнім складзе). Калі ўсе ведаюць, што такое вянок санетаў, дык бінарную аперацыю з дзвюма рыфмамі ў шасцірадковым вершы наўрад ці хто браў за мэту ў паэзіі. Падлік даў сакральную лічбу 64. Яе сакральнасць добра ілюструе гульня ў шахматы, дадзеная людзям богам Вішну (у славянаў гэта бог духоўнага развіцця Вышань, у хрысціянстве ўмоўна адпавядае Хрысту). Паколькі шахматная дошка, як вядома, падзелена на 64 клеткі, то і рух чалавека на Зямлі абмежаваны 64-ма напрамкамі. Значэнне шахматных фігур і іх руху глыбока сімвалічнае. У Вавілон шахматы прыйшлі з Індыі. Белы кароль – гэта Армузд. Чорны кароль – Арымана, і на прасторах Зямлі разыгрываецца бясконцая вайна паміж Святлом і Цемрай. Пераможцу партыі дастаецца чалавечая душа. Цікава, што агульная колькасць кадонаў генетычнага кода чалавека таксама 64. Не дзіва, што ўсіх магчымых секстэтаў пры пераборы дзвюх рыфмаў у шасці радках атрымалася роўна столькі, колькі і саміх гексаграм у І-Цзін – 64. Я іх так і назвала іцзін-секстэтамі. Так атрымалася поўная кніга іцзін-секстэтаў "Вечаровае веча", асобныя вершы з рукапісу якой прапануюцца ў гэтай публікацыі. Такую назву кніга атрымала, дзякуючы вечарніцам, якія штодня шчыравалі на захадзе за маім акном. Яны ўяўляліся мне пісьмёнамі нябёсаў, а я сама – усяго іх летапісцам...

### ***3. У ГЛЫБІНЯХ ЖЫЦЦЯ,***
### ***або СВЯТЛО НАРАДЖАЕЦЦА Ў ЦЕМРЫ***

Яшчэ нябёсы не падгрэблі жар,
яшчэ на вуснах не застыла слова,
а свет ужо раджаецца нанова.
І ўсё так зыбка, плытка і часова
тут, дзе святлом пазначаны абшар
і цемра праступае, як аснова.

### ***12.***
### ***СХОЎ ЗАНЯПАДУ,***
### ***або У БЕЗНАДЗЕЙНАСЦІ І ЧАКАННЕ БЫВАЕ НАДЗЕЯЙ***

Пагасне дзень. І са сваіх бяздонняў
узыдзе цьма – як дух без абалоні,
празрыстыя халодныя далоні
на лоб зямлі ўраселы пакладзе,
астудзіць жар і думкі адвядзе...
А дзе выток, дзе схоў яе?.. Нідзе...

[1] У адпаведнасці з рыфмай у прыведзеных гексаграмах ян (суцэльная рыса) адпавядае мужчынскай рыфме, інь (перарывістая рыса), адпаведна, – жаночай. Сама гексаграма (шэсць рысаў) складаецца знізу ўверх, таму ніжняй рысе ў гексаграме адпавядае верхні радок іцзін-секстэта.

### *13. ЗГОДА,*
### *або НАВАТ ЗЯРНЯТКА Ў ГЛЕБЕ ВЕДАЕ, ДЗЕ НЕБА*

Цямнее дол. І крадуцца шумы
і шолахі старожкія. Пагасла
свяціла дзённае. І хмары, што дымы
над вогнішчам зямнога дня. І мы
спяшаемся ва ўласныя дамы
да роднага агменю... як і цьмы.

### *14. ПОЛЫМЯ ЗОР,*
### *або АД ЛЮБОВІ БОГА І МАЦІ – НЯМА СХОВУ*

Не дакрануцца і не параўнаць...
Усё, што ёсць, прасякнута да дна
агнём нябёс, і без агню – мана
асновы, далі, высі – як адна! –
бо ён Любоў, якой бы мы жадалі,
калі б не спапяляла нас яна...

### *15. ЖЫЦЦЁ НА РАЎНІНЕ,*
### *або СЦІПЛАСЦЬ НЕ РАТУЕ АД ВЯЛІКАЙ НОШЫ*

Душа прасветлена. Сагрэты плоць і семя.
Маю зямлю цалуе сонца ў цемя,
сядае сонца над маёй зямлёй,
даруючы святло заходнім землям...
...Але ж і мы святла свайго бярэмя
нясём, каб узысці – над цемрай.

### *17. ЗАКОН ПАДЗЕННЯ Ў НЕВЯДОМАСЦЬ,*
### *або НАВАТ БЫЛІНКА ВЕДАЕ СВАЕ КАРАНІ*

Празрысты вечар, дрогкі, як струмень,
шчымлівы – нібы слёзка на далоньцы
дзіцячай, быццам шлях – бясконцы,
дзе свет, як дом, і ў ім гарыць агмень
і адлятае ў будучнасць прамень,
але... не адрываецца ад сонца.

### *21. ПРАДВЫЙСЦЕ,*
### *або ЯК ВОРАГА НЕ БАЧНА, ТО ВАРТА ПАШУКАЦЬ ЯГО Ў САБЕ*

На зайсці сонца – далечаў другіх
святло кранаецца... А тут, дзе вецер носіць
агонь па хмарах і жывое просіць
жыцця – ужо дымяцца берагі
рэк і азёр і хутка хлынуць росы,
як слёзы абмыцця з вачэй сухіх.

### *22. ВЫТАНЧАНАСЦЬ, або НЯМА ЛЕПШАГА ЎПРЫГОЖВАННЯ, ЧЫМ ВЫСАКАРОДНАЕ СЭРЦА*

Так нечакана далі расцвілі! –
Як матылі, святло іх аблятае.
Па кветцы ў кожнай хмаркі на брылі.
Сядае сонца – быццам прарастае
сярэдзіна нябёсаў залатая
да залатой сярэдзіны зямлі.

### *23. РАСКЛАДАННЕ СВЯТЛА, або КОЛЬКІ НІ ЗМЕШВАЙ ФАРБЫ – БЕЛАЙ НЕ АТРЫМАЕШ*

У цішыні задумлівага логу
паўстаў туман. І цемра з асцярогай
ідзе па следу сонца на аблогу
шляхоў зямных. І ноч – не за парогам,
калі ўспаміны, прывіды былога,
запоўняць дом, пакінуты святлом.

### *28. БОЛЕЙ НЕАБХОДНАГА, або РАКА ПАДЧАС ПАВОДКІ НЕ ЛІЧЫЦЦА З БЕРАГАМІ*

Яшчэ на травах не паспелі росы,
яшчэ звіняць на лузе кавалькі,
гамоняць птушкі, кветак пах такі –
што ажно галаў кружыцца цяжкі...
А ўжо за спінай – цемра з-пад рукі
глядзіць на захад мякка і цвяроза.

### *29. ДОТЫК ГЛЫБІНЯЎ, або ШТО МОЖА БЫЦЬ ГЛЫБЕЙШЫМ АД НЕБА?*

Заваражыла мроі вечарніца.
І думкі ўсе – лятуць за небакрай.
Але ж і тут, на кожным кроку жыцця,
пад нашымі нагамі – не зямліца,
а край зямлі, як і нябёсаў край.
На ім парой так проста аступіцца.

### *30. ЧАС ЗЗЯННЯ, або ДЗЕ ХАВАЦЦА ЦЕМРЫ, ЯК НЕ Ў СВЯТЛЕ?*

Быў фэст святла, здавалася, і вось –
у бляску промняў сонечнае світы,
якая днём даводзіла да слёз,
нібы з гары, скаціўся сонца воз...
Усё аднойчы коціцца з зеніту
і ўсё ў свой час спускаецца з нябёс.

### *31. НАВУКА ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯ, або І Ў ГАРАХ МОЖНА ТРАПІЦЬ У БАЛОТА*

Віхурай хмар замецена дарога
святла. Але... Як глянуць строга,
і ў нас бывае жыцця круцізна,
калі не ў лёт зрываемся – да дна.
Ды ў бездані ёсць бездань не адна
і прорва міласэрнасці – у Бога.

### *33. ПАГОНЯ, або НА РОЗНЫХ ВЫШЫНЯХ ПАНУЮЦЬ РОЗНЫЯ ВЯТРЫ*

Да згаслага кастрышча небакраю
імчацца хмары выцягнутай зграяй
пацэлена, як воўчая гайня.
Ды што з таго? Агністага каня
ім не здагнаць. Агністага каня
ім не загнаць. Не тая вышыня.

### *35. САПРАЎДНАСЦЬ СВЯТЛА, або ПОСПЕХ НЕ ЎМЕЕ ЧАКАЦЬ*

Пакуль яшчэ святло не патушылі
на захадзе нябёсы. Грай птушыны
яшчэ не сціх... Ды што б мы ні вяршылі,
нібыта сонца наша, дзень пры дні,
каб пакарыць наступныя вяршыні,
бяжым з палону ўзятай вышыні.

### *36. ХТО Я? або ШЧЫТ СВЯТЛА ГАРТУЕЦЦА АДЗІНОТАЙ*

Памалу аплывае, што свяча,
зара. Ужо мацнее вецер.
Навошта боль на свеце і адчай?
Навошта самі жыцці, самі смерці?
А можа быць, як гэта робяць дзеці,
дух вывучае цьму на гэтым свеце?

### *37. СВЕТ – ЯК ДОМ, або ЛЮБОЎ – УЗОР АДЗІНСТВА СВЕТУ*

Размыты межы, далі і куты,
трымцяць на ветры дрогкасныя ніці
святла вячэрняга. Хвалююцца жыты.
І плешчацца агонь у водах жыцця.
І мроіцца – у німбах залатых
усё, што ёсць, і цэлы свет – святым.

### *38. АДЗІНСТВА СУПРАЦЬЛЕГЛАСЦЯЎ,*
### *або ДУМАК ШМАТ, А ГАЛАВА АДНА. НЕ БУДЗЬ СЦІПЛЫМ, ВЫБІРАЙ ЛЕПШЫЯ*

Не радуе пагляд аблога хмар.
Так хочацца ў жыцці дзівосных чар
святла, яго імклівых гульняў,
сноў каляровых і празрыстых мар!
Хаця... парой і ў цемры – так утульна!
Хаця... і ў цемры – шматаблічны твар.

### *42. УСВЕДАМЛЕННЕ СЯБЕ,*
### *або НЯМА БОЛЬШАЙ СВАБОДЫ, ЯК СВАБОДЫ АД САМОГА СЯБЕ*

Праходзяць дні зямныя чарадой
і туманы над рэкамі і росы...
У зорнай кнізе вогненных нябёсаў
гартаюцца старонкі нашых лёсаў,
напісаныя божышчнай рукой,
дзе кожны з нас і аўтар і герой...

### *43. ПРАРЫЎ У НЕБА,*
### *або УЗЯТАЯ ВЫШЫНЯ НЕ ЗАБЯСПЕЧВАЕ БЯСПЕКУ*

Куды ні кінеш позіркам – наўсцяж
таўкуцца хмары, душацца, ляцяць...
Няўжо нябёс нямераны прасцяг
таксама цесным можа быць? Хаця,
калі спусціцца на зямны абсяг –
і нас не густа на зямных вышынях.

### *46. НА ТРОНЕ АБЛОКАЎ,*
### *або У МЕСЯЦА ДВА БАКІ, АЛЕ Ж ТЫ НЕ МЕСЯЦ, БУДЗЬ ЦАЛКАМ СВЕТЛЫМ*

Калі зара згасае за курганам,
згасае дзень – звычайны Божы Цуд,
нябыту зыб праходзіць па жыццю,
і галаву туманіць дурнап'янам,
і на душы – вялікасным падманам
смыліць нябёс аголеная рана.

### *48. КРЫНІЦА ЖЫЦЦЯ,*
### *або ПОБАЧ З БЕЗДАННЮ І ПАГОРАК – ГАРА*

Ля вогнішча нябёсаў не сагрэцца.
У холадзе зямным на схіле дня
душы здаецца, што яна адна,
зусім адна на гэтым стылым свеце.
І пуста – цераз край, як і да дна,
і ад сябе няма куды падзецца.

### *49. ПАРАДАК РЭЧАЎ,*
### *або КВЕТКІ НЕ ЦВІТУЦЬ ПАД ЗЯМЛЁЙ*

Надзённы хлеб спажыты. На спачын
параісці. Даверлівае неба
разнасцежыла марам далячынь.
А там ужо за засланку начы
сядае сонца новы дзень спячы,
сядае ў печку новы бохан хлеба.

### *50. ТАЯМНІЦА СПАКОЮ,*
### *або ЎСЁ МАЕ СВАЁ МЕСЦА НА КОЛЕ ЖЫЦЦЯ*

Гарацьпісьмёны вогненных разлогаў –
нябёс вячэрніх патаемны сказ.
Не ўчуць, не разгадаць яго падчас.
Каму ён? Што ў ім? Жальба ці наказ?
О, як жа зразумець патрэбна многа,
каб нехта потым зразумеў і нас.

### *51. НАТХНЕННЕ НЕ ЧАКАЕ,*
### *або НОВАЯ КАРЦІНА ПАЎЗВЕРХ СТАРОЙ*

Нябёсы, дол – усё было ў агні.
І вось зара на самым небакраі
ціхутка жар астатні падграбае.
Што ж, і душа з такое вышыні
зрываецца парою, што, бывае,
ужо не разбіваецца – згарае.

### *56. АСЦЯРОЖНАСЦЬ ВАНДРОЎНІКА,*
### *або НАВАТ ШЛЯХ ДАДОМУ БЫВАЕ НЕЗНАЁМЫМ*

Вячэрні баль святла ужо збірае
паломнікаў сваіх, ужо іграе
сівая далеч вогненны матыў
і танчаць, як асеннія лісты,
аблокі, а на пласе небакраю
складае сонца голаў залаты...

### *57. ЗГОДА,*
### *або ВЯЛІКАЯ РАКА ЎТВАРАЕЦЦА МНОСТВАМ МАЛЕНЬКІХ*

Вятрыска сціх. Ні гуку і ні руху.
Душа нябёс, расцятая між нас,
прабіта сонцам. – Дзень амаль што згас.
Гарыць Зямля ў сваім гарэнні духу.
І цішыня гучыць – як Божы Глас.
Прамень апошні – як Апошні Час...

### *59. ВЕТРУ Ў ВЕТРАЗІ! або КАЛІ ВЕРЫШ У БОГА, ДЫК ВЕР І ЯМУ!*

Ад горычы ці ад нязбыўнай прагі
спаўзла з нябёс агністая сляза
на край зямлі... А, можа – край адвагі?
Ці слова край? Ці край той раўнавагі,
дзе ўсё на коне – свет і драбяза?
Жыццё жыве – на вастрыі ляза.

### *60. ЗЯМНЫ ПОЗІРК, або БЯЗМЕЖНАЕ ЛЁГКА АБМЕЖАВАЦЬ ПУНКТАМ ПОЗІРКУ*

Не прычакаць, калі на схіле дня
спадзе блакіт і неба глыбіня
праявіцца за вогненным разлогам.
Бліжэе ноч і зорная дарога –
святла і цемры новая гульня
з адвечным зманам позірку зямнога.

### *61. ВЕРА Ў СЯБЕ, або ХІБА ІСЦІНА МОЖА БЫЦЬ ЗНЕШНЯЙ?*

Стаміліся і цемра, і святло.
І шарая гадзіна, што жытло
без чалавека: ні часоў, ні слова,
дзе ўсё – нібыта праўда напалову,
дзе ўсё без моцы – і дабро, і зло,
дзе ўсё было... Але не так было.



Вольга Бабкова



...нашыя кантакты з людзьмі –

як падарожжы на чужыя землі...

# Палата №10

***Апавяданне***

*З найніцы*
*на лепшыцу.*
*З лепшыцы*
*на найніцу.*

**Марыя Вайцяшонак**

Людзі – што дрэвы. Стаяць паблізу, але не робяць ані кроку насустрач. Хіба некаторыя карэннем сплятуцца ці галінамі дакрануцца. Але гэта на волі. У шпітальнай палаце – усё іначай. Ужо праз пару гадзінаў невыразныя жаночыя цені набываюць імёны і абрысы, а пад вечар падрабязныя гісторыі хваробы з кожнага ложка трывала сплятаюцца ва ўсеагульную павуту яднання і трывання.

Палата – замкнёная прастора. Гукі тут рушаць ад сцяны да сцяны. Часам сустракаюцца ў кутах, бывае, правальваюцца ў галасавыя калодзежы. Калі гаворыш

звыкла – ніхто не пачуе. Голас патанае, распускаецца, сплывае... Кожны – у сваім гукавым арэоле. Хваравітасць і нямогласць чалавека падкрэсліваюць ягоныя запозненыя рэакцыі на больш здаровых – ён кліча, звяртаецца да іх, а тых ужо няма побач – паспелі сысці. Парад спінаў за доўгі дзень. Не патрапляюць хворыя ў рытмы дужых. Кожную з нас у палаце хапае адно на сваю тэрыторыю. У кагосьці яна звужаная да памераў падушкі. У палаце – шэсць ложкаў. Я ляжу пасярэдзіне другога шэрагу. Дыханне аскетычнай Фролаўны з ложка нацянькі па дыяганалі чую кожную ноч зусім побач, бы ляжым на адной пасцелі. Віры ды хаос замкнутай начной прасторы. Самая блізкая сяброўка ў палаце – усё ж падушка. У падушкі таксама ёсць вушы. Адна ісландская спявачка сказала пра сябе: *Я – фантан крыві ў форме дзяўчыны*. Якое феерычнае вызначэнне і адначасова такое шпітальнае! Тут у палаце было шэсць фантанаў крыві ў выглядзе дзяўчынкі з аранжавымі валасамі, бабулькі, дзвюх кабет, мяне і Зоні.

Зоня – з вёскі. Зоня і я – антыподкі. І мне цяжка будзе забыцца на яе. Памятаю яе першае з'яўленне ў палаце. У пярэстым крымплене і з перманентам на жорсткіх валасах. Памятаю, як прыкрывала сіняватую лысіну пасля галення і смяялася залатымі зубамі з самой сябе. І як распранулі дагала і пасадзілі ў фатэль, каб адвезці ў аперацыйны пакой. Смуглявае, моцнае цела, як у курганнага татэма. Вочы ў Зоні, як масліны. Яна – з Берасцейшчыны. Глядзіць адначасова недаверліва і весела. Калі пачынае распавядаць, рагочуць усе, прытрымліваючы свежыя швы. А калі папросяць паспяваць, бо ўмее, іншыя зазіраюць з калідора. Стары фальклор не спявае, але бабак у вёсцы слухала з захапленнем, адно што кажа, паўтарыць за імі ўжо немагчыма. Калі Зоню адвозілі на каталцы, лысую і загорнутую ў прасціну, вялікую і манументальную, нягледзячы на карычневыя шурпатыя ступакі з-пад белага крыса, яна раптам пачала касавурыцца, гледзячы ў нікуды і адначасова з выразам поўнай абыякавасці (нават языком пад шчакой прыцмокнула), усім сваім выглядам паказваючы, маўляў, *можа я і давала на гэта згоду, але цяпер гэта не я і гэта адбываецца не са мной*... Пасля даведаліся, што ў аперацыйнай хірург прымусіў Зоню зняць заручальны пярсцёнак, бо апаратура рэагуе на метал. Зоня кінулася ў паніку, бо абручка была царкоўная, атрыманая падчас шлюбу. Хірург моўчкі зняў яе сам, адышоў ад знямелай Зоні, а пасля павесіў ёй на шыю суворую нітку з прывязаным і загорнутым у марлю пярсцёнкам. Маўляў, *не лемантуй, цётка, я ж усё разумею*... Зоня доўга адыходзіла пасля аперацыі. Я нават сказала б, туга. Цела сцэментавалася і не хацела за кароткі час адпусціць усю тую непатрэбшчыну, якая туманам увайшла ў цела падчас аперацыі і цяпер муляла, прасілася навонкі і не выходзіла аніяк... Мне спатрэбілася сем гадзінаў, каб свет убачыць ясна. Зоня пакутавала двое сутак. Чамусьці згадаўся магут-мурын з *Зялёнай мілі*, які, высмактаўшы з хворай яе немач, сам ператварыўся ў цяжкую руіну. *Дзеўкі, вам не расказаць*... – толькі і прамовіла Зоня, як адышла ад чмуру, а калі згадвала пра абручку ў марлечцы, употай плакала. Больш не спявала. Штоночы клала на падушку пад парэзаную галаву махровы хатні ручнік. Хоць штосьці сваё ад родных сценаў прыкласці да балючага месца, каб гаілася хутчэй.

Ля вакна "жыве" Васілеўна. За першы дзень у шпіталі давялося пазнаёміцца з усімі сваякамі сваёй нотнай суседкі. Яны прыходзілі па чарзе на кароткі час, выкладалі сваю ношку, шамацелі пакецікамі і моўчкі

сыходзілі. Размоваў амаль не было. У Васілеўны капрызлівы голас, калі яна бярэцца распавядаць пра здароўе, сны ды надвор'е. Пачула ад яе шмат забабонаў, напрыклад, пра мяса і боль. *Калі яно сніцца*, – казала Васілеўна і шчыльней зацягвала баваўняную хустку на галаве, – *лепш сустрэць наступны дзень ва ўзбраенні. А яшчэ лепш проста не ўставаць з пасцелі. Бо гэта даецца ў знакі заўсёды. Мяса ў сне – да болю. Да хваробы. Ён прыходзіць заўсёды, гэты боль – галавы, ног, спіны, зубоў... Прыкладам, ялавічына з крывёй і шматок сала – да розных боляў у целе*. Васілеўна амаль заўсёды сядзіць на ложку. У Васілеўны вялікія грудзі пад сінім халатам з буйнымі ружамі. Ёй заўсёды горача. Кабетам з такімі грудзямі рэдка калі бывае халодна. Вось у чым сакрэт. Вось чаму часта мёрзну. Якую ж душэўную дакуку выклікала ў мяне відзежа сінтэтычнага пледа, які аднойчы прынеслі Васілеўне з дому. Ад пледа слупом падымаўся пыл на сонцы. Задушлівы, нежывы пыл чужога побыту... Не памятаю яе імя. Проста – Васілеўна.

Мяне прынялі ў сапраўдную школу выжывання. Я не падавала заявы, не здавала тэстаў і вусных іспытаў, проста аднойчы зразумела, што заняткі ўжо распачаліся. За кароткі час навучылася есці левай рукой, больш чуйна прыслухоўвацца да свайго цела, дапамагаць яму ў самых неспрыяльных умовах. Знайшла агульную мову з хрыплагалосай санітаркай Ганнай Іванаўнай, у якой цень ад Беламора на вуснах не знікаў нават у кварцаваным пакоі. Яшчэ я навучылася спаўзаць з высокага ложка такім адмысловым чынам, якому вучаць менавіта тут. Пасля зноў навучылася хадзіць. Гэта было не вельмі складана. Страшнейшымі былі думкі. Яшчэ раней, пакуль не пачала хадзіць, вучылася ў кавалку вакна, занавешанага прасцінай ад пякучага сонца, бачыць значна больш за тое, што мажліва было ў ім разглядзець. Аблокі плылі па-над горадам, нібы дым за цягнікам. Той ужо даўно там, за пагоркам, за мяжой. А пара-кіпень яшчэ тут. На ўспамін. Што я дакладна развучылася, дык гэта чытаць. Словы і літары разбягаліся са сказаў, а пасля заскоквалі не на свае месцы. Поўны гармідар. Трэба было чакаць аўтара, які б вярнуў мне любоў.

Што дазваляе, прачнуўшыся ў палаце сярод ночы, вызначыць яе глыбіню ўдоўжкі і ўшыркі? Цішыня і цемра, амаль нямота ўсяго. Да ранка яшчэ не блізка? Ці гэта жнівеньская падманка? Ранак – вось-вось, проста цяпер пазней святлее, бо лета ўжо на сыходзе... Не хочацца глядзець на гадзіннік і ўтыркаць у ноч лічбу, хочацца іншым чынам даведацца пра яе таямніцу. Можа быць, я і сама ведаю адказ, ці яго ведае маё цела? Так, цела. Унутры ж яго таксама пануе цемра, там, напэўна, абсалютная непрагляднасць, хіба можа які-сьці орган здольны фасфарыцыраваць, бы плывец ў вераснёвым Крыме, і цішком, як з-пад карэння, асвятляць цёмна-чырвоныя нетры. А можа я – марская ўпадзіна, а можа – велізарная рыба, а можа Ёна, якога яна заглынула і не заўважыла? Ноч. Першая ноч без болю? Боль за доўгі час настойваецца, выцягвае сокі, працінае, жыве заўсёды побач. Боль не ведае, што такое сон, ён проста на хвілю заплюшчвае вочы. А так праз увесь час глядзіць не міргаючы. Боль у нябачным заплечніку заўсёды поруч. Калі раней мяккае цела было зручным медыумам паміж мной і ім, то цяпер гармонія парушылася. Збіліся вагі. Хтосьці косткай кашчавага пальца цюкнуў па стрэлцы шаляў, і яны завагаліся.

Худзенькая бабулька ў ложку насупраць – Фролаўна. Рух галавы ў вакно – рэзкі паварот назад. Што зачапіла вока мімаглядам? Складкі

века гарызантальнай палоскай ад ілба. Нервовы рух. Востра заточаны носік-дзюбка. На сківіцах рабацінне, як на маленькіх яйках з гнязда. Валасы заторкнуты за вушка, як жмуток травы ў падстрэшшы. Рух улева, у вакно. Рух управа, у бок суседкі. А наўпрост не глядзіць, прамінае. Голас слабы, негі. За вясковай традыцыяй шанаваць у людзях паўнату, лічыць мажнае цела прыгожым, мажліва хаваецца боязь перад смерцю. Лядашчая голая чалавечая лытка страшыць і выклікае агіду. Фролаўна нагадвае мне *Касцяную кабету*, якая час ад часу прыходзіць ў мае сны і відавочна дасылае знакі, якія я пакуль не расшыфравала. Раніцай Фролаўна першая варушыцца ў пасцелі – лежачы, робіць у паветры рухі танклявымі нагамі і рукамі. Вельмі нервова і мітуслівa. Усе яшчэ спяць у прыцемку. Лепш заплюшчыць вочы.

Тамаграфія – *тамака штосьці пішацца*. Клаўстрафобія – *Клаўс, які баіцца зорак.* Я не пакутую на боязь замкнутай прасторы. Але ж які дзіўны досвед! Ногі боўтаюцца на волі, іх нават абдзьмувае ветрык, а астатняе цела загнанае ў цесную прастору. А калі б я была мажная, месца засталося б яшчэ менш? Жах. Першае кідаецца ў паніку дыханне. Пасля пачынаеш звыкацца і нават прыдумляеш гульню. Напрыклад, гэтыя касмічныя гукі, што бамбуюць тваё цела, можна накласці на пэўныя словы, і тады, праз імгненне, нейкі інфернальны голас будзе бубніць табе на вуха (праз навушнікі) любую недарэчную фразу тонам, які ты сам мадэлюеш у сваёй свядомасці. Можна ўявіць, што цябе атакуюць тысячы і тысячы аскепкаў старых планетаў, але ты нават не зважаеш, бо твае агромністыя памеры робяць іх нашэсце амаль незаўважным. А пасля – дробны шрот, які ўжо нагадвае салдата ў акопе. Свіст і трэск, але галаву прыгінаць не варта па любому. Цікава, што ратуе і наладжвае дыханне ў гэтай трубе згадка пра неверагодныя формы аблокаў гэтага лета. Відзежа аблокаў халодзіць гарачы твар. Мокрыя пасмачкі ліпнуць да скроні, але слёз больш няма, толькі пачынаюць палаць жарам і пульсаваць крылы носа. Нібы на ім, на самай высознай бакшце цела, вывешваецца сцяг роспачы. Пакуль што гэтая “труба” тваё самае вузкае месца для горкіх слёз.

Як вызначыць колер шпітальнай сцяны? Шэра-блакітны? Не. Шэра-зеленкаваты? Таксама не. Шэра-бела-зеленкавата-блакітны з жаўцізной? М-м-м. Таксама няпэўна. Нейкі медыкаментозны. Цікава, якога веку быў той хлопец (чамусьці пэўная, што менавіта хлопец), які над ліфтам, пафарбаваным у шэры колер, амаль такога самага адцення, як і сцены змрачнаватага шпітальнага аддзялення, напісаў размашыстым почыркам сінім маркерам: *Далоў шэрыя сцены!* Свядомасць зрэагавала імгненна. Сцены сталі нябачнымі, асыпаліся, на краяглядзе з’явілася відзежа лесу, грудзі напоўніліся свяжэйшым паветрам і захацелася крочыць наперад у гурме класных валацугаў і, каб – вецер у твар!

Не пазнаю сябе ў люстэрку, расцягваю пальцамі твар ва ўсе бакі, углядаюся ў змрочныя рысы, змушана ўсміхаюся і... губляю рэзкасць. Твар – голы. І, як любая галізна, ніякавее пад чужым вокам. Маё вока таксама чужое. Яно не ў стане растапіць зацятасць твару, разняволіць яго. Яго можа вызваліць шчаслівая думка, свабода гэтай самай думкі. Але я цяпер адчуваю, што цяжкія думкі сабраліся недзе каля вачэй і ціснуць на іх, робяць балеснымі і цьмянымі. Не можа твар развіхнуцца і запраменіць. Ад цяжару думак рысы камянеюць, а вочы хочацца прымружыць. Але што ёсць тваё вока? Што ёсць тваё вуха? Нос? Гэта вокны да Бога. Калі пра-

вільна глядзець, то яго можна пабачыць і пачуць паўсюль, – казаў мудры Ашо. *Птушкі спяваюць мантры. Дрэвы чытаюць пропаведзі ў цішыні... Усе гукі належаць яму, усе формы належаць яму...* Таму я, пачаўшы хадзіць, павольна іду ўздоўж шурпатай зялёнай шпітальнай сцяны да тэлефоннага апарата, каб пачуць Марыю. Кожнага разу Марыя чытае свае вершы. Слухаўка ў руцэ робіцца гарачай, вуха набывае форму марской ракавіны. Тое, што яно чуе – большае нават за акіян... Хірургі, палатныя лекары і сястрыцы, што праходзяць побач па доўгім калідоры, нават не ўяўляюць, які працэс адлёту ад хваробы адбываецца ў душы іх няпростай пацыенткі са слухаўкай у руцэ. За ім проста не ўгнацца...

Калі ты ўздрыгваеш,
пачуўшы стук
яблыка
аб зямлю
ў садзе,
калі, гледзячы ў
люстэрка,
ты не пазнаеш сябе,
бы стоячы на беразе
каламутнай
вады,
калі выходзіш на ганак
у споднім
і дзівішся
свайму голасу:
“Якая ноч!”
Гэта яшчэ
не старасць.
Вярніся ў дом,
сабяры на падлозе
іголкі – шаршаткі,
выцягні ніты
з месячнага
прадзіва
і пераліцуй
сваю сукню
Ты яшчэ паспееш
пабачыць
на досвітку
самы дзівосны
сон.
Коціцца на зямлю
яблык
з райскага саду.

Век жанчыны. Час страты бацькоў і нараджэння ўнукаў. Раскоша жарсцяў. Упадабанні, любасці, сімпатыі. Крохкасць і моц. Сумневы і страты. Навобмацак. Цемра. Усплёскі. Боль. Недавер і давер. Жаданні. Спадзеванні. Напрасліца. Дарэмніца. Рахункаводка. Вар’яцтва. Пяшчота. Вышыня зроку. Хтосьці пасяліўся ўнутры. Маўчанне. Страх нетраў і люстра. Абагаўленне. Усмешка. Самота. Блізкая восень. Важны перыяд. Неабходны сезон. Сезон на беразе самога сябе...

Бясконца доўгі званок на сястрынскім пасту. Ніхто не здымае слухаўкі. Тэлефонны званок манатонны, настойлівы і бессэнсоўны, гучыць на адной адчайнай ноце. Гук адбіваецца ад сценаў, вокнаў, вуркатлівых лядоўняў. Навокал пустыннага вестыбюля столькі рук, якія маглі б падняць тую

слухаўку, але яны адрэзаныя ад чорнага апарата дзвярыма палат, цяжарам нерухомых целаў. Тут – цяжкае аддзяленне. Гук у тэлефона трывожны. На тым баку дрота, відаць, вельмі ўстурбаваны і расхваляваны чалавек. Можа быць, у яго замест голасу трымцяць рукі.

Туманным цёмным ранкам дарога з Мінска да Бараўлянаў выбрукаваная спадзяваннямі. Акурат у гэтым накірунку адбываецца куламеса, у якую патрапляюць і час, і прастора. У той момант, як машына імкліва вязе цела праз сігнальныя агні наперад, ты са значна большай хуткасцю праз мігатлівыя агеньчыкі, якія са свістам праносяцца міма, уцякаеш назад. Гэткая гульня навыперадкі. Ці перацягванне каната. Ці бег па рухомай дарожцы ў нікуды, але ў розныя бакі. Хто паспее першы, той і выйграў. Дзяўчынку з аранжавымі валасамі прывезлі з бараўлянскага шпіталя. Два гады таму ў яе была аперацыя. Яна паспела адрасціць валасы, адвучыцца два курсы на мастачку і вось ізноў – праверка, удакладненні, паўза ў жыцці. Але ж Памаранчык не любіць паўзаў. Яна жыве так, нібы тое, што перажыла і тое, што, магчыма, яшчэ давядзецца перажыць – недзе там, на маргінэзе жыцця, на далёкай утравелай узбочыне, якую не ўбачыць няўзброеным вокам. Галоўнае – сябры, якія пчоламі раяцца побач. Мама, якая прыносіць кнігі, вышыванне, фламастары, нататнікі, яркі лак для пазногцяў. Пабачыўшы букет на маёй тумбачцы, прынесла ў палату пышную галінку лілеяў. Калі маці сышла, Памаранчык вынесла вазон з белай кветкай туды, дзе раз-пораз звінеў чорны тэлефон. Несла, закрываючы твар ручніком. Даўкі водар каралеўскай лілеі быў узгадаваны садоўнікамі для палацаў і замкаў, але не для зморaных жыхароў шпітальнай палаты.

Калі правальваешся ў сон, маючы вялізную тэмпературу цела, то апошняя думка ці відзежа маюць здольнасць затапляць свядомасць і прымаць рэалістычныя формы. Сон мае здольнасць вяртаць у мінулае, кідаючы ў яго ніц, усім тварам. Такія сны прыходзяць звычайна пад раніцу. Сергіюш Пясецкі пісаў, што сон для псіхалагічнага здароўя чалавека ёсць тым, чым, напрыклад, пот для фізічнага здароўя. Сапраўды, сны пакідаюць цені. У сне магчыма быць пачутым на вялізарнай адлегласці. Кажаш штосьці нягучнае таму, хто стаіць ля далёкага пагорка, і чуеш выразны адказ. Паветра пераносіць галасы, ці хутчэй ягоная адсутнасць? Дзея адбываецца нібы на іншай планеце. За месяц у шпіталі прыснілася шмат рознага. Аднойчы – быццам трэскай падаю ўглыб Эйфелевай вежы, лячу, нібы лісцік, нібы лёгкая стрэмка. Кружляю, але не стукаюся, чапляюся, але не затрымліваюся. А пасля новае. Цяпер адчуваю, што ўнутры мяне ляжыць нейкая стрэмка-трэска-голка-стрэлка, якая патрапіла ўсярэдзіну незразумелым чынам. Я ведаю, што можа быць балюча. Чакаю болю, але яго няма. Сон можа прапанаваць новае адчуванне, нечаканае перажыванне, калі бачыш істоту, якая дзіўным чынам спалучае рысы дзвюх тваіх дачок. І ты ўжо не можаш іх падзяліць. Яны злітыя ў адно. Амаль перамешаныя. І вось з гэтага перамяшання паўстае трэцяя постаць, у якой, як у featurerознакаляровым пластылінавым шарыку няможна аддзяліць наслойванні фарбаў. Тут юлёвы наплывае на вохрысты, белы змешваецца з сінім і ўтварае новае адценне.

На кончыках веяў відзежа твару, як карцінка, як паштоўка, як партрэт, што выпраменьвае цяпло. Але ж вейкі міргаюць, і відзежа адлятае імгнення, а пасля зноў пасяляецца тут, ля веек.

Можа быць, набліжэнне ці прадчуванне смерці праяўляецца ў тым, што чалавек усё часцей пачынае бачыць сябе звонку на адлегласці, і гэтая адлегласць усё больш павялічваецца.

Банкірка з Маладэчна можа ляжаць пакуль толькі на жываце. Яе муж у разгубленасці стаіць перад ложкам, апусціўшы галаву і звесіўшы вялікія рукі. Ён зноў памыліўся і прынёс не тое, што яго прасілі. Мажны, нязграбны тупатун пераступае з нагі на нагу, пацее, маўчыць і відавочна моцна хоча курыць. Так бы і зацягнуўся дымам, каб уратавацца ад навалы. Жонка пакрыўджана адвярнулася да сцяны. Уся палата маўчыць таксама, крыху спачуваючы небараку. Усім давялося выслухаць столькі крыўдных, абразлівых словаў. Хвароба часам выстрэльвае бязлітасна па безабаронным. Пасля сыходу мужа жонка разгаварылася. Застарэлыя крыўды восамі джалілі яе памяць ды выцягвалі адтуль самае балючае. Колькі год таму муж сышоў з сям'і, пасля вярнуўся, а яе боль тут, у шпіталі, ізноў вярнуўся ды агаліўся. У поўнай цішыні, ажно калідорныя гукі зніклі на час, казала-казала і не магла спыніцца. Нібы ўсе мы ляжалі ў цеснай купэйнай прасторы цягніка, а агні мільгатлівых паўстанкаў за вакном крэслілі на нашых тварах і руках, выцягнутых уздож коўдры, вострыя палосы святла. Апошняй адгукнулася Фролаўна. *У снах пасля смерці адзінага любага мужа я часта сніла пра ягоную здраду, якой насамрэч не было, пра жанчын чужых каля яго... Рэўнасць перамагае смерць...*

Час лепіць фігуркі з былых эмоцыяў.

Калі з пісьмовых зваротаў знікае імя – знікае сувязь. Тонкая сувязь чалавека з чалавекам. З'яўляецца расколіна ў дачыненнях. Чалавеку, якога "пазбавілі" імя, трэба як мага мацней трымацца ў гэты момант. Пазбаўленне ад імя – замах на асабовасць. Ментальны ўдар навылёт. Без імя чалавек на імгненне губляе родавую ахову, застаецца без магічнага кола навокал сябе. Але ж – *Ніколі нічога не бойся, калі ты адзін. Запомні.*

Нашыя кантакты з людзьмі – як падарожжы на чужыя землі: пералятаем на незнаёмую тэрыторыю, усталёўваем раўнавагу на выспе, асвойтваемся, усмоктваем новыя веды, колеры, смакі і звычкі. Узбагачаемся. Кожны – востраў. Нават камяністая, парослая мохам ды калючкамі выспа чакае на цёплы прыветны дотык.

На развітанне ўсе пяцёра панеслі з сабой кроплю водару падараваных мне духоў *Жанчына ў чырвоных джынсах*. Нават Фролаўна. Засталіся галасы, але і яны правіслі пад жыватамі паветраных мастоў. Сцішыўся гуд у гукавых калодзежах. Рэха паступова растала ў раптоўна спусцелай прасторы, прасачыліся ў шчыліны вокнаў, сценаў, дзвераў, ва ўсе чатыры бакі шэрага пакоя. Некаторыя галасы затрымаліся ў расколінах пад алейнай фарбай, у адтулінах разетак і пад замаляваным дротам ад старых апаратаў для дыхання. Сцены раптам пашырыліся і сталі пустыя і агромністыя. Самы час казаць адно аднаму: *Сустрэнемся на рагу!* Засталося шмат пустых паверхняў, як пляскатых аэрадромаў у чаканні новых пасадак. Хутка высадзяцца новыя людзі і заваляць гэтыя голыя паверхні сваімі целамі і трантамі. А пакуль толькі паверхня маёй тумбачкі кідае выклік парадку і аскезе: пушачкі, акуляры, тэрмометр, мабільнік з sms-камі, нож, відэлец, лыжка, асадкі ў адным шкляным слоіку, вільготныя сурвэткі, нататнік, белы духмяны гарошак Дзімы (Дзіма – самы нечаканы складальнік букетаў. Ягоныя карлікавыя гладыёлусы разам з палявым крываўнікам – кветкі, якія раслі на волі, пакуль мы былі замкнёныя тут). Рэчы на тумбачцы

складана назваць маўклівымі ў гэтай вялізарнай, знячэўку апусцелай прасторы. Калі канцэнтруешся на чымсьці і адпускаеш галаву – раптам! прыадчыняецца цудоўны і прытульны свет гаваркіх рэчаў.

Заплюшчваючы вочы і амаль засынаючы, адчула раптам прысутнасць роўнага мяккага ўнутраннага свячэння, нібы хто невядомай рукой зачапліў начнік. І ўсё раптам убачылася з неверагоднай рэльефнай падрабязнасцю. Якое невымернае мора ўсяго! Веі ж па-ранейшаму баранілі вочы ад цемры і пляскатасці вонкавага свету.

Вецер прынёс з форткі пах дыму ад вогнішча. Якое смелае і бязважкае ўварванне. Усе шпітальныя пахі пачынаюць сутаргава, хто як, падаць долу, забівацца ў шчыліны. Яны пераможаныя. На час. Бо салодкі дым волі як кароткае прывітанне ад дарагога госця. Пагасцяваў і знік. Яго ўжо няма. З закаморак выпаўзаюць звыклыя шпітальныя *духмянасці* – хлору і ёду, валяр'яну і галечы... Раўнавага адноўленая. Звыкласць вярнулася на свае месцы. Усе заслужылі адпачынак. Дым прыцягнуў за сабой успамін, проста паклікаў і забраў з сабой.

Начны сон у апусцелай палаце сведчыў на добрае. Мне прыснілася кропельніца з запацелай празрыстай колбачкай, праз якую паволі кропаў мядова-залацісты Такай. Прачнулася з усмешкай і салодкімі вуснамі ў нязвыкла маўклівай палаце. Як змяняецца прастора, пакінутая людзьмі! Робіцца важкай, гулкай. Прысутнасць мяне і маіх пярэстых рэчаў у гэтай прыспустошанай палаце нічога не змяняе ў яе шэра-малочнай строгасці. Палата пакрысе ператвараецца ў кабінет, бібліятэчную залу, месца для малітвы... Нібы адмыслова перад хуткай выпіскай з'явілася рэдкая магчымасць азірнуцца, пасумоўнічаць... з маёй госцяй *Касцяной кабетай*?

Звычкі, якія пераходзяць да нас з дзяцінства, якія накінутыя на нас выхаваннем, памяццю крыві і каляплодных водаў ад нашых продкаў, як нерат, як вопратка, якую немажліва скінуць, нават калі хочаш распрануцца, калі яна замінае, калі неабходна замяніць яе на больш зручную, сучасную, больш адпаведную абставінам новага жыцця. Як чароўная камізэлька, кожнага ранку яна на тваім аголеным целе, выцягнутая з нябачнай шафы, накінутая бязважкай рукой. Бяжыш, пятляючы па жыцці, як заяц, каб ухіліцца, скінуць на хаду рысу-апранаху, а насамрэч імчышся наканавана ў святле фараў па дарозе, не збочваючы ды не губляючы аніводнага даўняга каўнерыка, аніводнай цыраванай панчошкі...

Спалох чалавека ў момант ягонага раптоўнага абуджэння палягае найчасцей у тым, што адбываецца ўварванне ў патаемныя думкі, якія ў гэты момант панавалі і вялі рэй, нібы чужанцы нахабна ўвайшлі ў ванны пакой, у прыцішаную спальню, да ложка паміраючага...

Сумятня, якая ўсчалася раніцай на калідоры перад палатай, раптоўна ўварвалася ў палату. Медсёстры і санітары ўцягвалі ў разнасцежаныя дзверы каталку з новай пацыенткай. Сёмай. Яе выкулілі побач на ложак маладзечанскай банкіркі, ціха лаючыся і не падбіраючы словаў. Направілі жалезную перакладзіну ўздоўж ложка, каб мажная хворая не змагла сама ўстаць і, груба цыкнуўшы, выйшлі з палаты. Кабета ўвесь гэты час мыкала і адмахвалася рукамі. На ёй былі яшчэ не апрацаваныя раны ад збіцця. На твары, руках і нагах. "Аргамака раённая" – пагардліва сказаў, выходзячы, санітар. Кабета знерухомела, утаропіўшыся ў адну кропку. Гэта была сапраўды дзікая жанчына. На яе плячы да свежай раны была прылеплена пракладка, якая нагадвала генеральскі пагон. Так, у яе дзікасці

была нейкая непадуладная сіла. І ў яе маўчанні таксама. Некалькі разоў у палату заходзілі санітарка і медсястра, намагаліся штосьці высветліць, але напорваліся на глухую нямоту. У напружанай цішыні прайшла гадзіна, і раптам мая незвычайная суседка павярнулася да мяне і звыклым лагодным голасам запыталася пра час. У адказ падзяквала, кіўнуўшы. Калі я з рэчамі выходзіла з палаты на волю, спынілася каля кабеты-генерала, пра якую на калідоры пайшла пагалоска, што прывезлі вар'ятку, пажадала хутчэй паправіцца. Кабета праз спіны медсёстраў, што перавязвалі ейныя раны, згодна хітнула галавой.

Пакуль мы жылі ў чатырох сценах палаты, перажываючы боль, страх, роспач, радасць, удзячнасць, здзіўленне, у вялікім свеце скончалася лета, недзе на поўдні ішла вайна, цягнуліся ўгару дрэвы і карлікавыя гладыёлусы, людзі плакалі і ўсміхаліся. Уяўныя сцены гэтага свету губляліся недзе за небакраем.



Крысціна Бандурына



...бывае,

што трэба любіць...

# Геаграфія, арыфметыка і трошкі любові

* * *

іх зашывалі пад скуру
пры нараджэнні
эксперыменты прыроды
спачатку выбухнуў рэактар
агрэсіі
пасля мы боўталіся
у брудных калюжынах
абыякавасці
халодныя спіцы
прабівалі косткі

пакуль мы старанна
імітавалі гармонію
гулялі ва ўзорныя мадэлі грамадства
і прыкрывалі п’яныя драмы
халяўнымі пледзікамі з гуманітаркі

дзецям актыўна зашывалі пад скуру
сурагатныя гены любові
і гэтыя рудыментарныя часцінкі
ад кожнага ўдару
прарасталі
ўкараняліся
і згнівалі ўнутры
маленькіх паддоследных

па затопленых вуліцах гэтага горада
плыве генетыка страху
ўва мне паміраюць хірасімы і нагасакі
і халодныя вострыя спіцы
вытыркаюцца вонкі
перашкаджаюць адчуваць
цёплыя ногі
зямлі

## *ГЕАГРАФІЯ, АРЫФМЕТЫКА І ТРОШКІ ЛЮБОВІ*

### *I*

На беразе Атлантыкі
у маленькіх рыбацкіх доміках,
закатаваныя пеклам дня,
спяць старыя і дзеці.

Чатыры вятры па чарзе
гартаюць зацёртыя псалмы і соннікі,
ірвуць старонкі, пяшчотна кранаюцца літар,
і цішыня ад трэску паперы
разрываецца на тысячы сноў
і запаўзае ў вушы
стомленых рыбакоў.

У бухтах застыў кайназоем
прахалодны і хісткі час.
Неба заблыталася ў сетках і водарасцях.
І чаўны ўсё часцей цяпер
вяртаюцца пустыя.

Там, у нуары неспакойных сноў,
старыя абдымаюць сваіх дзяцей –
тых, хто сышоў
вучыцца хадзіць па вадзе.
А дзеці размаўляюць з рыбамі,
і рыбы расказваюць ім
пра чатырох вершнікаў,

якія прыйдуць аднойчы
дастаць неба з сетак
і навучаць цішыню гаварыць.

***II***

На беразе Індыйскага акіяна
мёртвымі пластамі скуры
ляжаць тоны марской солі.
Нікому не патрэбная,
яна слепіць вочы нябёсам,
і тыя змываюць сваімі слязьмі
чырвоныя плямы з зямлі...

...На пяску сядзяць двое.
Адзін, апусціўшы рукі долу,
моўчкі ўглядаецца ў гарызонт,
а другі малюе рыб на бліскучых сумётах.

– Яны не могуць забіць мяне, –
кажа першы. – Двойчы
так не памыляюцца.
– Яны заб’юць цябе, – кажа другі.
Нішто іх не вучыць.

– Ведаеш, не так далёка ад нас
ужо ёсць чырвонае мора.
Навошта ім яшчэ адно?
Калі заб’юць, не ператварай кроў у соль.
З такіх цудаў не будзе свабоды.

– Кажуць, там можна хадзіць па вадзе.
Калі заб’юць, мы пойдзем разам.
Я таксама не хачу памыляцца двойчы.

– Тады ўсё будзе марна, мой дружа.
Твае белыя рыбы не павінны маўчаць.
Дай ім зноўку прайсці гэты шлях,
дай ім захлынуцца чырвоным морам.
Але не стварай яшчэ аднаго ў адказ...

...Гучнымі стрэламі
па Індыйскім акіяне
распаўзаецца цішыня.

***III***

На беразе Ціхага акіяна,
дзе дагэтуль лунаюць водгаласы хірасім,

нябачныя свету дырыжаблі надзеі
чакаюць Другога Прышэсця Свабоды.

Там, дзе поўдзень перацякае ў поўнач
і таталітарнасць з'ядае волю,
на самай мяжы цвярозасці і вар'яцтва
самотныя закаханыя
вядуць свае памерлыя цені
да шляху ўваскрэслых.

Усё вернецца
пасля Другога Патопу.

Яны нясуць на сабе расцяжкі і транспаранты:
"Каханне не мае рэлігіі"
"Каханне не мае расы"
"Каханне не мае полу"...

..."Каханне не мае смерці"...

Пакорлівы статак
ідзе да сваёй Галгофы.
Яны ведаюць: недарэмна чакаюць
дырыжаблі надзеі.

І цішыня ідзе разам з імі.

***IV***

На беразе Паўночнага Ледавітага акіяна
цішыня.

## *ДА ЖОНКІ НАГЛЯДЧЫКА ЗААПАРКА*

Мы ледзь навучыліся
не задыхацца снамі.
Лавілі ў незашклёныя вокны
паўночных ластавак снегу,
глядзелі, як яны дагараюць
у халодным Марсавым полі,
і прагна жэрлі іх попел.

Салёныя матылькі
трашчалі на вуснах
і вырываліся вонкі,
забівалі горла,
запаўнялі крыламі лёгкія.

І чырвоныя бомбы
крычалі
ў начной цішыні:
“Памятай!
Памятай!
Памятай!

Ты не маеш права забыць”.

Мы хадзілі па кавалках
выбітых вокнаў,
па запаленых свечках,
па пустых успамінах
і збіралі
халодны пот
з раскрытых далоней.

А заапаркі людзей
працавалі ў святочным рэжыме,
і мы кармілі іх
сваімі самымі страшнымі снамі,
глыталі салёныя кроплі поту,
каб можна было
ўдыхнуць паветра,
закрыць вушы
мокрымі далонямі
і пайсці далей
па разбураных вуліцах,
якія немагчыма забыць.

* * *

Мы елі Менск лыжкамі:
яго праспекты й завулкі,
туманную заслону сонца
і стомленыя трамваі –
кожная са свайго канца горада.

У прасветах марозных узораў
на шыбах шклопакетаў
віселі кавалкі зорнага неба
і абыякавая поўня
спрачалася з ліхтаровым клінам.

Першы месяц яна трымалася лёгка.
Распалены агмень яе далоняў
гарэў спакойна і ціха,

бы ў бясконцую майскую ноч
на Плошчы Перамогі.

А пасля яна пачала згасаць,
і другі месяц
іскра за іскраю,
імпульс за імпульсам
тлеў цяжар яе цела.

Яна знікала так хутка,
што не было аніякай магчымасці
заглушыць невыносны
да скрыгату сківіц
голад.

Калі на трэці месяц
я сказала ёй: “Заставайся”,
яна мяне не пазнала,
і схілы, рэкі, і нават расталы снег
акамянелі ад вусцішы.

Мы елі гэты горад,
гарачае сочыва дзён.
Горад з’еў нас.

## *НЕ ПРАХОДЗІЦЬ*

Бывае, што ночы стамляюцца піць віно,
калі ранкі прыходзяць як белая смерць.
Бывае, што мора ў вершы – абавязкова з дном,
падвоеным ці патроеным...
Бывае, што трэба верыць.

Рэжаш вусны і нёба жорсткасцю языка,
эфемернасцю слоў заліваеш драпіны і разломы.
Бывае, калі завісае рука –
як над бязмежнай пустыняй радка –
над чужой галавой...
Бывае, што трэба помніць.

З верша ў верш паўтараеш, як мантру, пра мора і пра яе,
пра тысячы рэчаў, якія не можаш забыць.
Шукаеш адказы: “за што”, і “навошта”, і “чаму не мяне”,
і дзесьці далёка, на самым глыбокім дне...
Бывае, што трэба любіць.



Адам Глобус



…хай і пра мяне нехта жорсткі скажа,
добра было б, каб і Глобус
свае дзённікі спаліў…

# Таня

***Словы пра паэтку Таню Сапач***

## Сыс і Ксавэрый

Першы раз я пачуў вершы Сапач у выкананні Сыса. На паседжанні "Тутэйшых" Анатоль Сыс урачыста абвясціў, што ў Гомлі жыве выдатная паэтка, якую мы проста абавязаны залічыць у свае змагарныя шэрагі. Каб ніхто не засумняваўся, што гомельская паэтка мае добрыя вершы, Сыс пачаў іх чытаць...

Прыходзьце, калі сцямнее,
ці свята будзе, ці будзень,
калі ў азалелых прысадах
прачнуцца на ноч ліхтары...

Сыс так чытаў вершы Сапач, так стараўся, так выкладаўся, што ў нейкі момант я быў падумаў: ніякай Тані Сапач няма, гэта Сыс такім экстравагантным чынам прэзентуе сваю новую паэтычную падборку пра Ксавэрыя... Пасля таго эфектнага чытання, я доўга не мог прывыкнуць да вершаў Тані ў аўтарскім сціплым і крыху



*Тацяна САПАЧ. (Фота Адама ГЛОБУСА).*

занудлівым выкананні. Дарэчы, я так і не прывык да яе чытання ўласных вершаў, бо Анатоль Сыс і Кася Камоцкая рабілі гэта значна лепш за аўтарку.

## “Песняры”

Журналістыка – складаны занятак. Шмат хто з маіх калег – пісьменнікаў і журналістаў – адчуваў і адчувае на сабе чужую нянавісць і грэблівасць. Здаецца, што пішаш праўду і паказваеш аб’ектыўны малюнак, а людзі, пра якіх гаворыш, лічаць твае словы кепскімі, ілжывымі і нават абразлівымі. З пэўнай доляй грэблівасці пра журналістку Таню Сапач казаў мне знакаміты музыкант з легендарных “Песняроў” – Улад Місевіч. Якубовіч і Місевіч запрасілі мяне выпіць з імі шклянку віна. Было тое ў рэдакцыі шматтыражнай газеты “Знамя юности”. Выпіць з песняром я палічыў за гонар. Мы пілі недарагое віно і размаўлялі пра паэзію, пра тэксты для песень. Спявак заўсёды дбае пра рэпертуар, яно і зразумела. Місевіч распытваў пра маладую паэзію. Якія вершы варта прачытаць? Якія, на маю думку, добра пакладуцца на музыку і праспяваюцца. Я назваў Анатоля Сыса і Таню Сапач. Лепей бы я назваў аднаго Сыса, бо Місевіч зрабіўся злы. Ён спытаў, ці не працавала паэтка Сапач журналісткай ў Гомелі. Таня працавала журналісткай у Гомлі, і падманваць Місевіча я не стаў. “Прыйшла да нас перад канцэртам такая сціплая шэрая мышка. Мі-мі-мі... Пазадавала пытанні дзіцячым галаском. Паўсміхалася. Развіталася. Напісала ў газету, што мы не гаворым між сабой па-беларуску. Маўляў, «песняры» мала любяць і шануюць беларускую мову. На сцэне адно, а за сцэнай іншае. У артыстаў заўсёды на сцэне адно, а за сцэнай іншае. Мы ўсё жыццё паклалі на прапаганду і падтрымку беларускай мовы. Мы шмат пацярпелі ад абвінавачванняў у нацыяналізме. Мала пацярпелі! Не на той мове ў грымёрцы жартуем! Не шчырыя мы людзі. Падманшчыкі...” Якубовіч супакоіў Місевіча. Мы выпілі за мір і пачалі разважаць пра паэзію Караткевіча... Ідучы дамоў, я думаў, што “Песняры” не будуць выконваць песні на вершы Сапач, ні праз год, ні праз два, ні праз дзесяць гадоў...

## Прышчэпка

Тэлемайстрыца Сапач, ідучы па сонечнай Вільні, скардзіцца: “Я тваёй жонцы распавядаю, што ў дзяцінстве перажывала за свой шырокі нос. Каб ён стаў вузейшы і прыгажэйшы, насіла прышчэпку. Тады я закахалася ў Васю Бычка, а той любіў толькі пінг-понг. А я ж думала, што ён з-за шырокага носа на мяне ўвагі не звяртае. Вось такая я была табурэтка з прышчэпкаю. Нос пасля экзекуцыі рабіўся сіні, як сліва. Жонка твая «ага-ага» і ўсё фатаграфуе. Ёй мой нос з прышчэпкаю нецікавы...” – “Ёй нецікавы, а мне цікавы”, – суцяшаю Таню, якая некалі даўно-даўно друкавала вершы, а яшчэ даўней кахала пінгпонгдзіста Бычка.

## Лішні

У Тані Сапач быў даволі дзіўны падыход да кахання. Калі ёй нехта з мужчын

падабаўся, яна не звярталася да таго мужчыны наўпрост. Яна прасіла сяброўку, каб тая цішком распавяла мужчыну пра гарачыя пачуцці Сапач. Шмат каго з мужчын напружваюць і нават палохаюць падобныя захады. Не дарма людзі кажуць, што ў інтымных адносінах трэці лішні. Таня адразу ўблытвала ў любоўныя адносіны гэтага лішняга, чым моцна шкодзіла найперш сабе. Раней я проста не разумеў падобных паводзін; цяпер разумею, што Таня проста баялася пачуць адмову з вуснаў дарагога ёй чалавека.

## Пачуццё

Да мяне ў рэдакцыйны кабінет часопіса “Крыніца” прыйшла Кася Камоцкая. У нейкія моманты спявачка Кася рабілася зусім простай. Тады быў якраз такі момант яе дзіўнаватай простасці: “За крамай, што пад шпілем, на дзіцячай пляцоўцы цябе чакае Таня Сапач. Хоча пагаварыць. Здаецца, у яе да цябе пачуццё!” – “Думаеш, мне варта ісці?” – “Схадзі... Чаму не пайсці, калі цябе чакаюць?” – “Ты са мной пойдзеш?” – “А што мне там з вамі рабіць?” – “Можна якога віна ўзяць і выпіць”. – “Сёння выпівайце без мяне”. Я пайшоў у суседні двор, дзе на дзіцячай пляцоўцы сядзела паэтка Таня Сапач. “Кася сказала, што ў цябе да мяне пачуццё. У мяне простая прапанова, а давай мы нічога не будзем рабіць з тваім пачуццём. Давай мы лепш зробім кніжку тваіх вершаў. Ты збярэш лепшыя вершы, я зраблю вокладку. Якога колеру ты хочаш вокладку сваёй першай кніжкі?” – “Кніжку? Вокладку? Колер? Няхай яна будзе такая, як і твая першая кніжка вершаў «Парк» – аранжавая”.

## “Менск-Мінск-Minsk”

З рэжысёркай Зояй Катовіч здымаў фільм пра Мінск. У тым фільме я нават зняўся ў эпізодзе – выступіў у ролі паэта Глобуса. Так што музыка для фільма не магла быць песняй на мае вершы, бо гэта выглядала б нахабным пераборам. Але ж хацелася, каб у нашым фільме пра Менск-Мінск-Minsk гучала песня, адпаведная тагачаснаму гораду. Мы выбралі рок-паэта, які быў максімальна падобны да мяне, выбралі рок-гурт, які выконваў песні і на мае словы. Можа, некаму гэты выбар падасца дзіўным, але ў фільме прагучала песня “Новага Неба” на верш Тані Сапач.

Мы – дзеці чорнага горада,
мы выйшлі з ягонага чэрава,
мы сталі ягоным голасам,
а голас не мае цэну.

Мы – дзеці бацькоў памерлых,
мы носім чорныя строі,
і нашыя грубыя рукі
павек не адмыць ад работы.

Мы – дзеці шалёнага места,
мы жыць выходзім апоўначы,
і ты, выпадковы вандроўнік,
як трасцы, баішся нас.

Мы – дзеці мінулага часу,
мы носім пад чорнай вопраткай –
пад робамі і бразготкамі,
пад сэрцамі з дроту і кратаў,
на белых, бы аркушы, душах
чырвонай крывёй красьлёнае –
ад нас адмыслова хаванае –
вашай радзімы імя.

Дзякуючы кіно, я пабачыў, пачуў і адчуў, што самы блізкі мне рок-паэт у нашай беларускай рок-тусоўцы не Лявон Вольскі і не Фелікс Аксёнцаў, не Ігар Бабкоў і не Зміцер Лукашук, не Міхал Анемпадыстаў і нават не Анатоль Сыс, а Сапач.

## Ліхтары

Правілы, правілы, правілы... Так трэба пісаць! Не так, а гэтак. За жыццё таты ягонае імя трэба было пісаць пяццю рознымі правільнымі варыянтамі. Правілы... У таты складанае імя – Вячаслаў. Больш простае – Таня, мовазнаўцы таксама некалькі разоў трансфармавалі. То два "цэ" ў ім пісалі, калі Таццяна, то адно – Тацяна. Можа таму паэтка Сапач для мяне назаўжды засталася Таняй. Нават калі карэктар і выпраўляе яе поўнае імя і касуе адно "цэ", яна для мяне застаецца Таняй з двума калядными ліхтарамі...

Сканчаўся 1994 год, я сустрэў Таню на мінскім праспекце напярэдадні Калядаў. Яна запрасіла мяне ў Вільню, і каб я абавязкова прыехаў з дачкою, бо ў яе ёсць два ліхтары. Адзін ліхтар для маёй Ядзі, другі – для яе Адэлі. Нашы дзяўчаты запаляць ліхтары і пойдуць па вечаровай святочнай каляднай Вільні. Мы пойдзем за імі і будзем любавацца нашымі дзецьмі, святочнымі ліхтарамі і каляднай Вільняй. Нешта ў мяне тады не склалася. Не паехаў я тады з дачкою ў Вільню. Шпацыр з ліхтарамі адклаўся на год, і яшчэ на год, і назаўжды.

## Муж

Каб напісаць яшчэ нешта новае пра Таню Сапач, варта падумаць пра яе мужа. Ён так шмат разоў напісаў, што любіць мыць вокны. Ажно я падумаў: так яно і ёсць. Ён сам мыў вокны ў кватэрах, дзе жыў з Таняй. Яна – паэтка, і вокны не мыла. Яна любіла змятаць пыл. Муж мыў шыбы, а жонка выцірала пыл. Так і жылі. Так яна і казала: "Зараз пабягу і да вашага прыезду пазмятаю пыл..."

## Спустошанасць

Складзеную з аповесцяў кнігу "Толькі не гавары маёй маме" я друкаваў фрагментамі ў тыднёвіку "Наша Ніва". Былі тыдні, калі Таня Сапач вычытвала карэктуру. Калі выйшла кніга, Таня, якая старанна прачытала ўсе мае аповесці, сказала, што так пісаць нельга. "Чаму нельга?" – запытаў я ў старannай карэктаркі. "Калі так пісаць, нічога не застанецца ў душы. Будзе пуста ў душы. Ты выпішаш усё чыста і застанешся з пустатою сам-насам. Ты не баішся застацца са спустошанай душой?" – "Не баюся. Нават, калі я выпішуся да поўнай спустошанасці, новы дзень прынясе мне новыя ўражанні, і зноў будзе пра што падумаць і напісаць... Ну і ўспамінаў у мяне столькі, што іх хопіць на тры пісьменніцкіх жыцці". Адным словам, я тады не прыняў заўвагу карэктаркі Сапач наконт маёй шчырасці і аголенасці ў літаратуры. Не прыняў тады, не прымаю і цяпер.

## Захіхікванне

У Тані Сапач ёсць верш "Адам Глобус" – адзін з найлепшых маіх партрэтаў. Зрэдзьчасу вяртаюся да яго і перачытваю. Згадваю нашы адносіны. Задаю сабе пытанні без адказаў... Чаму ў літаратурнай спадчыне Тані няма верша верша "Алесь Астраўцоў" ці "Леанід Галубовіч"? Чаму нашы з ёй адносіны склаліся выключна ў літаратуры, а ў жыцці былі прахалоднымі, напружанымі, а пазней і кепскімі? Я не хацеў здымацца ў яе тэлесюжэтах. Лічыў і казаў, што яе мітуслівая праца каля

тэлекамеры – марнаванне часу і сілаў, бо акрамя халтуры дзеля жменькі рублёў нічога вартага тамака не зробіш. У адказ чулася какетлівае пахіхікванне. Такое кплівае пахіхікванне вечна чуецца на тэлевізіі, дзе халтуршчыкі і халтуршчыцы лічаць сябе разумнейшымі за паэтаў. Таня захіхікала сябе як паэтку.

## Паслядоўнікі

У паэткі Сапач паслядоўнікаў не было і няма. Яна засталася самотнай на шырокім полі беларускай паэзіі. Ёсць прыхільнікі яе паэзіі, а вось паслядоўнікаў не выгадавалася. Мне заўжды хацелася паўтараць і паўтараць, што Таня шмат часу змарнавала на журналістыку, на радыёжурналістыку, на тэлежурналістыку. Пагатоў, я нават казаў ёй пра гэтае марнатраўства часу, здольнасцяў і сілаў. Нават пісаў... Нават адмаўляўся здымацца ў яе тэлесюжэтах. Толькі напісаць пра малапатрэбнасць яе журналістыкі не выпадае, бо менавіта там і знайшліся ў яе паслядоўнікі. Асабліва мяне здзівіла Таня Поклад, якая навучылася гаварыць у мікрафон голасам Тані Сапач. Нейкі час я нават думаў, што ніякай радыёжурналісткі Поклад і няма, што гэта Сапач выступае пад вясковым псеўданімам. Так што наяўнасць такой паслядоўніцы-двайніка пераканала мяне ў вялікіх здольнасцях Сапач-журналісткі. Але я ўсё адно шкадую, што Сапач-паэтка мела зусім мала часу на творчасць.

## Галубовіч

З паэтам Галубовічам згадвалі добрымі словамі нашу Сапач, якая так заўчасна і так страшна пакінула свет. Ён успомніў даўнюю начную гулянку ў Доме творчасці “Іслач”. Зладзіў банкет драматург Асташонак, за стол, акром яго, паселі: Сапач з мужам, перакладчыца з Балгарыі Зоя Васільева і сам Галубовіч. Пілі тады шмат. Напіліся ўсе, акрамя Галубовіча, ён быў у мёртвай завязцы. Муж Тані сказаў, што “Іслач” з банкетамі яму надакучыла, выйшаў на шасейку і на папутцы з’ехаў у сваю любую Вільню. Алесь Асташонак некуды звёў балгарку. Галубовіч з Таняю палеглі спаць на розныя ложкі. “Чую, яна не спіць. I я не сплю. Калі не ўстану, падумае, што я не мужык. Калі ўстану, як потым глядзець у вочы яе мужу? Так мы і праляжалі да раніцы. Калі крышку развіднела, я ціхенька ўстаў, падышоў да вакна і стаў глядзець на лес. Таня таксама ўстала, падышла да мяне і пачала глядзець на сосны. Я набраўся смеласці і зірнуў на яе, а яна зіркнула ў адказ і пачала смяяцца. Яна так смяялася, што і мне зрабілася весела і лёгка. Мы насмяяліся да слёз...”

## Грошы

Аднекуль з іншасвету, аднекуль з недасяжнага здалёк пачуў голас нябожчыцы Тані Сапач: “Навучы майго мужа грошы зарабляць...” Гэтае ж яна казала на віленскай вуліцы Піліма. Адказваў, што немагчыма навучыць яе мужа грошы зарабляць. Тады мы смяяліся, бо на сям’ю зарабляла Таня.

## Згадкі

Розныя людзі згадваюцца ў розны час. Некаторыя, як мая маці, часцей згадваецца адразу пасля навагодніх святаў. Нехта згадваецца на традыцыйныя Дзяды. Тацяна Сапач прыходзіць у мае ўспаміны напярэдадні Калядаў, у час, калі ўсе займаюцца выбарам і набыццём падарункаў. Некалькі гадоў запар я сустракаў Таню ў розных крамах, дзе яна выбірала навагоднія і калядныя падарункі ды пачастункі для сваіх

самых дарагіх людзей – дачкі і мужа. “Гэта для Адэлі!” – Сапач паказвала мне яркі ружова-бэзавы каляндарык. “Гэта для Сярожкі майго!” – Таня дэманстравала бутэльку моцнай бурштынавай настойкі “999”, і нешта яшчэ для Адэлі, і нешта нейкае для святочнага стала.

## Сантока і Сыс

Брат працуе над кнігай перакладаў з лірыкі Танэда Сантока. Ёсць сярод ягоных хайку і такія радкі:

Спаліў дзённікі,
шэрае папялішча,
увесь успамін.

Прачытаў і падумаў пра пасмяротныя зборнічкі нашых лепшых паэтаў, пра кнігі Анатоля Сыса і Тані Сапач. Мне падаецца, каб яны спалілі свае юначыя практыкаванні, было б лепей. Сам я вершы і дзённікі паліць не буду. Прынцыпова. Так мяне вучылі разумныя выкладчыкі ў інстытуце – нельга знішчажаць свае творы. Вучылі і навучылі. Хай і пра мяне нехта жорсткі скажа, добра было б, каб і Глобус свае дзённікі спаліў, як той Танэда Сантока.

## Ліпа

У красавіку на маёй вуліцы Чырвонай абразалі ліпы. Галіны рэзалі не шкадуючы. Краявід з абрэзанымі ліпамі набыў канструктыўны і агрэсіўны выгляд. У траўні дрэвы зазелянелі, але не ўсе. Ліпа каля ўваходу на дзяржаўнае радыё засохла. Сам я тое радыё не слухаю. А хто слухае?.. Мне згадалася нававіленская кватэра Тані Сапач, у якой несупынна балбатала беларускае дзяржаўнае радыё. Падобным чынам яно некалі балбатала ў вясковых хатах. Вёска змянілася. Няма з намі Сапач. Ліпа засохла. Чорнае дрэва яшчэ не спілавалі. Чакаюць... Мо збярэцца з сіламі і зазелянее?

Яўген Бяласін



...мы цалуемся,
мы ацаляемся,
мыстановімсяцэлым...

# Відзежы і ўспрыманні

### *ВІДЗЕЖ, ЕДУЧЫ НА РОВАРЫ*

Пабачыў на вуліцы
глыбока-сіняе
з пурпуровым.
Натхнёны (вясной?) тварык.
Яскравая,
адкрылася пялёстачка –
хоча кахання.
Няўжо не будзе ёй годзіць?

* * *

Папіў кавы.
Чыабата
было
цвердаватай.
Смылелі вусны.

Доўгая ў іх памяць.
Вось як ты мяне
                    цалуеш,
булачка майго жыцця.

* * *

Дні ды тыдні лета,
зыркага ці ў роснасці начэй,
аб'яднаныя суладна, бо сагрэты
цеплынёй
тваіх
вачэй.

### *АЦАЛУНАК*

я
п'ю цябе,
ты
п'еш мяне –

мы  цалуемся,
мы  ацаляемся,

мыстановімсяцэлым.

* * *

Твой ордэн збліжэння
і мой аддалення медаль.

### *ХАДЖУ-І*

Хаджу па дні, збіраю стому,
нібы той раб на кош каменне,
усю яе нясу дадому,
каб споўніць ночнае здарэнне,
калі нябачна ночы рукі,
што ці не Богам скіраваны,
той стомы дзённае, прынукі
за каменем здымаюць камень.

### *ХАДЖУ-ІІ*

Хаджу, прымаю роды ў зямлі:
        то белага праўдзівіка-сынка,
                то рыжую дачку-лісічку.

### *ХАДЖУ-III*

*Іранічнае беларускае хоку*

Хаджу,
хістаюся пад цяжарам грыбоў.

Мех поўны.

### *ХАДЖУ-IV*

*Двайное іранічнае беларускае хоку*

Хаджу лесам,
абрываю
фінішныя стужкі павуты.
Усцешна:
да мяне нікога не было тут,
значыць.

### *ХАДЖУ-V*

*Двайное неіранічнае беларускае хоку*

Хаджу лесам,
пераступаю ды абыходжу
шлагбаўмы ўпалых дрэваў.
Японцам бы ўнадзіцца
ў занядбаны гэты
к-рай.

### *ВЁСКА*

Восень –
аршыткі дамоў апусцелі.
Золка.

## *У вянок маме*

### *СТРАХІ СЭРЦА*

Апошні год прыходзілі маме раптам страхі.
“А куды ж ты... ці надоўга? ...а як ты там будзеш?..” – і засцеле мне, перш чым пайсці спаць, ложак.
“А як жа ісці на прыём без флюараграмы?!”
І хоць няма той пухліны на шыі, з балеснымі ўспамінамі з сельсаветаўскага ФАПа, як выдушвалі з яе пад енкі гной, –

тры месяцы як няма, адшастаў яе за пяць хвілін тутэйшы хірург, – усё адно адчувала фантомнае смыленне і шукала-шукала нейкія драбніцы, нейкія малыя маласці яе слядоў. Захутвала ў хусткі, спавівала павязкамі. “Базаліёма не дае метастазаў”. “Але ўчора кропелька выступіла паранні”.

“Як бы хутчэй... бо сказалі!..” – і вось ужо расстаралася на нейкі шклапосуд у лабараторыю. А дахаты ж сёння ніхто па аналізы крыві не паедзе, – хіба заўтра зрання.

Як пойдзе доктарка так, без адзнакі?? “Вазьміце ...вось, чаю”, – і бярэ левай з абсяжнай тумбачкі пачак “20 пакетов”, прыўздымаецца і працягвае маладой доктарцы наўздагон. Ды коле яе боль, абсядае з ім у абдымку...

Ад-чай, гэта ад чаю.
Таго мала-чаю.
Сэрца сігналы раз-пораз дае:
па-
мі-
раю.

## ЛАСТАЎКАЙ...

Ластаўкай тройчы ў веранду ўлятала
свае роднай хаты
смерцю зляканая
мкнулася ў тлумны з труною пакой
душа твая,
мама.

* * *

Мама яшчэ раз прыйшла мне ўва сне
не ў бальніцы
ў мяне на руках каб памерці.

* * *

Жоўта
 ірдзее воск пальцаў тваіх,
заклікае, каб раставалі свечкі.
Нібы палае,
 ды горыч у іх,
састарэлых, –
 спатолі няма.

Гэта не зыркая восень
 вядзе з сонцам спрэчкі,
Гэта халоднае смерці
 глухая й нямая зіма.



Вітаўт Чаропка



…калі няма кароны на галаве,

дык і не зваліцца яна долу…

# Гэты свет не для мяне…

***З нізкі “Запасная кніжыца жыцця” – 2003–2017 гг.***

У вечназялёным раі, у светлым пакоі сабраліся госці невядома на якое свята. Не пазнаю я іх, хто яны такія. За сівымі барадамі мужчынаў хаваюцца іх гады, а барозны зморшчынаў апялялі твары жанчын. Чаму і навошта яны тут? Ажно бачу сваіх дзядулю і бабулю. Можа, госці сабраліся адзначыць стагоддзе іх вяселля?

Толькі пустуе другі стол – чакае гасцей. То, пэўна, спазняецца моладзь: каго затрымаў зямны клопат, хто не нацешыцца зямнымі асалодамі, хто не пражыў наканаванага, хто не дабярэцца да нябёсаў, хто ў чысцілішчы ачышчае душу, а хто проста не спяшаецца. Вось адзін я прыпёрся раней за ўсіх маладых, і цяпер мяне чакае такая самота са старымі.

Падымаецца дзядуля і прапануе выпіць за стагоддзе. І галасы загучалі, а голас крыві абуджае ў памяці забытыя воблікі родных, сваякоў, сяброў і знаёмых. Шкада, што ў раі няма люстэрак, каб убачыць, як я выглядаю на ўсе сто, калі яшчэ лічу сябе маладым.

Толькі не чую голасу матулі, значыць, яна і ў раі хварэе, прыкутая да клятага ложку небыцця.

Усё ж небяспечна падарожнічаць у снах. Не пазнаваць сваіх у раі і, крый Божа, пазнаць іх у пекле.

*2003 г.*

У адчаі невымоўнасці знямелых вуснаў не пачуў свайго голасу і ўбачыў нябачнае. У ачмурэнні надзей на прывіднае крозы выпіў трунку для палёгкі жыцця. Абвастрыўся зрок, прыглушыўся слых. Убачыў спакуслівае, не пачуў голасу перасцярогі. Пазнаю невядомае, а вядомае не ведаю, разумею незразумелае, а зразумелае не разумею, адчуваю патрэбу, а патрэбы няма. Хочацца ў палёт, і падняўся на крыло. Усё ж прыцягненне зямлі пераадолець мне трэба. Калі наканаванасць кліча, то не чуеш голасу перасцярогі, бачу толькі спакуслівае, здаецца, прывабнае ўжо ад нараджэння. Закруцілася зямля перад вачыма, сцішыўся ў вушах спеў палёта. У святло ўвасоблены свет, а святло – у салодкі сон. Не ўгледзеў, як у павуцінне памылак трапіў, і ліпкія шчупальцы кроз аблыталі крылы. Бачу, як павуком крадзецца сон наталіць крывёю маіх слоў сваё галоднае натхненне. Не бачу выратавання, але пачуў крык ажылых вуснаў. Ударыў крык у вушную мембрану, пракаціўся рэхам аж да донца душы. “Чым табе дапамагчы?” – пытаецца нехта. Але чаму не чуюць мяне? Бачаць нябачнае, а не чуюць чутнае. І ляціць у пустэчу сусвету маё раскаянне “SOS”.

*2005 г.*

Можна ўявіць маё адчуванне, калі я трапіў на бамонд, ад імён зорак кружылася галава, ад ззяння іх яскравасці рабацела ў вачах. Я, выпадковы госць на гэтым свяце, забіўся ў куток і назіраю крадком за зорным зіхаценнем, якое асвятляе залу. Каму са знаёмых маіх скажу, што я быў побач з зоркамі, не паверацъ мне. А чаму не апаліўся аб іх, чаму няма ніякага знаку ад іх ззяння на табе? Не паверацъ, ды й сам я з цяжкасцю веру, што побач са мною зоркі.

І раптам да мяне падыходзіць вечна прыгожая жанчына і запрашае на вальс. Чаму мяне, непрыкметнага і невядомага, выбрала яна, не магу даўмецца. Няўжо, яна сама цуд, дорыць мне цуд? Я танчу з ёй, а яна надзіва такая мініяцюрная, як дзяўчо; крохкая, як птушачка. У разрэзе яе спадніцы мільгае вострае каленца. Гады захавалі яе постаць, і яе твар гарыць маладым запалам, страсць рухае яе. А мне здаецца, што я тапчуся на месцы, і ад сораму бачу толькі падлогу, затое адчуваю нямыя погляды зорак.

Пасля танца я ціха вымаўляю: “Дзякуй”, удзячны ёй за цяпло яе славы, у якім сагрэўся я. Значыць, я нешта значу, калі зоркі падаюць мне ў рукі. І, абнадзеяны, я ў безразважлівасці прашу яе: “Цудоўная, дазвольце мне пацалаваць вас”. – “Цалуйце”, – смяецца яна. Я трапяткімі вуснамі дакранаюся яе гарачай шчакі. А яна мне: “Я табе ўдзячнасцю таксама адплачу”, – і цалуе сваімі салодкімі вуснамі мяне ў вусны. І, здаецца, парушыўся прывычны закон непарушнага існавання зорак, яны патускнелі і прымоўклі, нават зямля, здаецца, сышла з арбіты, бо ў мяне падкасіліся ногі і закружылася галава, пераняўся дых. Сама багіня бамонду аднаўляе раўнавагу ўладарным воклічам: “Годзе мілавацца, яшчэ не час!” Ад гэтага воклічу я прачнуўся і сумна ўсміхнуўся. Так і не даведаўся, што было далей. Пэўна, зоркі выгналі

чужога і невядомага мяне ў шэрую рэчаіснасць. А, можа, пачуццё самазахавання разбудзіла мяне, не даўшы спакусіцца ззяннем блудных светлячкоў.

*30.11.2011 г.*

Маленькія чалавекі з цікавасцю ўглядаюцца ў наш свет. Усё ў ім захапляе іх наіўныя вочы, усё вабіць іх дзіцячыя душы і да ўсяго хочуць яны дакрануцца маленькімі далонькамі. Што падумаюць маленькія чалавечкі, калі пасталеюць і стануць дарослымі людзьмі? Які ім пакінулі мы свет? Ці не захочуць яны перайначыць наш свет: стварыць сваіх багоў, як некалі мы расчараваліся светам дарослых, калі зразумелі, што яны стварылі хімеры з боскімі імёнамі – Ідэал, Мудрасць, Каханне? Тады мы і перайначылі свет на свой капыл і стварылі сваіх багоў, назваўшы іх Ісціна, Сяброўства і Справядлівасць! Ці вырастуць маленькія чалавекі з нашымі багамі? Або выхаваем мы сваіх катаў?

*08.06.2012 г.*

Хто такі Зеўс, а хто Апалон ці Дыянісій або Гефест і іншыя валадары Алімпа? Яны жывіліся слабасцю элінаў, пацяшаліся з іх дурноты, а самі ж у сваёй дурноце не разумелі кволасці сваёй. Наляцелі Юпітэр, Марс і Бахус і з імі розныя багі, сагналі іх з вышыняў Алімпа і запанавалі над зямной айкуменай, і славілі іх самі імператары Рыма. А дзесьці наўскрай айкумены стомлены за дзень цесля глядзеў на заснулае на каленах маці дзіця і дзівіўся. Як з такога крохкага дзіцяткі вырасце чалавек, добра, калі добры, а калі злыдзень? Неверагодна было простаму цесляру паверыць у такое, каб нявіннае дзіцятка ператварылася ў пачвару. І нікому не паверыў бы, што магутныя багі зваляцца долу перад кволасцю яго, хоць і пакараюць яго як зладзея.

*14.08.2012 г.*

Калі ў старазапаветныя часы анёлы, каб не будзіць сон Якава ўзмахамі крылаў, сышлі да яго па нябеснай лесвіцы перадаць Божыя словы, дык людзі, прачуўшы пра гэта, даўмелі, як можна лёгка знайсці свой шлях да Бога, і пачалі ладзіць лесвіцы ў нябёсы, каб зрабіцца роўняй самому Пану-Спадару, не залежаць ад ласкі яго, забыўшыся аб Божым гневе на дойлідаў Вавілонскай вежы. Аплялі людзі нябёсы павуціннем лесвіцаў. І вось душы, як птушкі, трапляюць у сіло прыступак і, як вязні, канаюць, не могучы вырвацца з-за кратаў лесвіц. Не даляцець ім да Бога, не падняцца да аблокаў аж. Бог грымотамі і пярунамі разбівае прыступку за прыступкай, але замест іх кладуцца новыя прыступкі. Здаецца, ноччу ў цішы чуюцца адчайныя крыкі спадзеву асуджаных на звядзенне душ і ціхі іх плач перад сконам, страціўшы спадзеў на няўміручасць. Толькі душы дзяцей неяк могуць прашмыгнуць праз сіло павуціння, сплеценае хцівасцю іх бацькоў.

*24.03.2013 г.*

Пеніцца радасцю віно ў келіхах, да краёў налітых. Як добра на беразе ракі пад срэбны шолах хваляў з усмешкай прыгадаць мінулыя нястачы. Такімі недарэчнымі яны былі і нікчэмнымі ў параўнанні з гэтым днём, аблашчаным сонечным святлом. Не ўсё так кепска, калі мы пацяшаемся з мінулага свайго. Ах, як хораша сядзець на беразе ракі і ўспамінаць мінулыя дзянькі. Усё пераблыталася ў іх, як у снежным коме, што коціцца з гары: бялюткая бель, што іскрыцца на сонцы, і пажоўклая трава засохлай восені, і чорная

зямля са сцертымі слядамі істот, – усё ў ім злучылася ў адно, і нам цяпер не разабрацца ні ў радасцях сваіх і ні ў смутку, не адрозніць зачараванне ад расчаравання, не ўбачыць сябе сярод постацей людзей, не вызначыць свайго я сярод агульнага мы – усё пустое і пацешнае цяпер, калі мінула і прайшло, надаўшы толькі вопыту зямнога.

Вось у сябра, субутэльніка майго, заплятаецца думка на языку і хмель зваліў яго на дол. Як каханую, абняў ён зямлю, прытуліўшыся да яе грудзей, і, шчаслівы асалодай сну, засоп. А мне цяпер няўцям, як дацягнуць яго да хаты, каб не валяўся ён на смех людзям і не паганіў краявід, пакуль мянты не падбяруць яго, стомленага выпівоху. Як неўзабаве радасць змянілася самотай, нібыта на промень сонца сеў цень начы. Не верыцца, што ў нейкі светлы час мы і з гэтай пацешымся нястачы, абы мінуў вось гэты дзень і час узнёс яго ў прыцемкі былога. І, можа, узгадаю гэты дзень на беразе Леты.

Жыццё ўявіцца ў светлых фарбах, і не дакрануся да яго горкім успамінам, каб не сапсаваць завершанае палатно жыцця фарбай чорнай. Дачакаюся і цябе, мой сябар. Ну вось і ты, дзе ж цябе насілі недарэчныя сны? Ты трохі прытаміўся і адпачыў на беразе ракі, і апрытомнеў вось цяпер. Пахмяліся з бадуна. Не ўсё я выпіў за сябе, пакінуў глыток і для цябе. Уяві, што мы багі, і пахмяляемся амброзіяй. Усё ж мы вартыя глытка вечнасці, дабраўшыся да мяжы паміж былым і небылым. Вось тут, у водах Леты, хай кануць на дно ўсе нашыя расчараванні і будзем мы зачараваныя хмяльным жыцця напоем, настоеным на сонечным святле ўсіх нашых светлых дзён. Гордымі і шчаслівымі, п’янымі, якім мора па калена, пяройдзем мутныя воды на вачах здзіўленага Аіда і гучнымі галасамі пабудзім змрочную цішу. Мы прынясем жыццё туды ў нашых галасах, што рэхам пракоціцца пад спляценнямі пячор і святлом вачэй мільгнем па людскіх ценях. Калі нам з імі быць, дык хай ведаюць, што скончыўся іх спакой. Не забіцца ім у шчыліны, не схавацца нікуды ад нас. “Гэй, хто там спакой парушыў?” – гукне нас, можа, самы дзёрзкі цень, і Цэрбер зальецца брэхам нябачаным. “А гэта мы, дурынды! І мы і там святым не даражылі, з г...м яго мяшалі, бо саміх нас, чыстых і святых, у гноі абмазалі і толькі ў водах Леты абмыліся ад зямнога бруду. Але ў вас такі смурод ад слізкіх душ, і так смярдзіць нягодніцтвам агідным, што задыхаешся”. Што ў апраўданне скажуць цені нягоднікаў і ліхадзеяў? Прынеслі смурод са свайго смярдзючага жыцця, нават пад зямлю.

Дык не будзем спяшацца на той цьмяны бераг Леты, пасядзім яшчэ на гэтым светлым свеце і з усмешкай што-небудзь нагадаем, пакуль пасланец наш, кульгавы Пан, не вернецца з Алімпа са збанам паўнюткім амброзіі нектарнай. Мы будзем піць, з усяго і ўсіх смяяцца і паціху забывацца, дзеля чаго прывалакліся да берага апошняга водападзелу. І толькі не напамінайце: “Памёр вялікі Пан!” Усё роўна адшукаем мы яго сярод гнілых Аіда ценяў, і падымем, і хай зноў сыграе музыку нябесных сфер, каб у прыцемках зайграў ружовай фарбай наш апошні дзень.

*22.01.2014 г.*

Да скону веку не ведаў, хто ён такі і навошта жыве. Хадзіў па свеце і наракаў на лёс і людзей, бліжэйшых праклінаў, а далёкіх ганіў – усе вінаваты, што ён не такі і яны не такія, як ён. Кожнаму гатовы быў на галаву нагадзіць, абы ўсцешылася яго дзіравая душа, прапаленая да донца гаручай жоўцю крыўды. Хай абдараць яго ўсімі шчадротамі і аблашчаць усімі даб-

ротамі – ўсё роўна крыўдаваў бы нават на Бога, бо нябесны ягамосць мае больш, чым ён на зямлі.

Ён улюблёны ў сваю крыўду, як Сізіф у свой камень, і як Сізіф, прыкуты да сваёй пакуты. Забяры ў Сізіфа камень, і ён будзе непатрэбны ні людзям у навуку, ні багам на пацеху. І вось бразгае сваёй крыўдай, як пакутнік вярыгамі, па свеце. Пашкадавалі яго людзі і падаравалі абы-што. Прысеў, глуздамі раскінуў: навошта яму абы-што, як ім скарыстацца, за што ганьбіць і дакараць, і вырашыў абы-каму падараваць. “Бяры, дружа, ад шчырага сэрца, можа прыдацца і табе абы-што”. Усміхнуўся вандроўнік і адказаў: “Няўцям табе, што без абы-што ты па-ранейшаму нішто, бо крыўда твая – усё тое ж нішто, непатрэбнае нікому, як Сізіфава праца, ні людзям на патрэбу, ні багам у пацеху. Нельга крыўдаваць на абы-што, якое мае свой неспазнаны сэнс, калі табе яго даюць спазнаць”.

*26.11.2014 г.*

Гэтай ноччу мне пашчасціла нарэшце, як ніколі і нікому дагэтуль. Знайшоў я скарб – паўнюткі мех грошай. Так вырашацца ўсе мае клопаты. Забытае ўзгадаю, пражытае зноў перажыву, зніклае ўбачу і пачую галасы, змоўклыя даўно. Ах, які жаль! Грошы папяровыя, памятыя чужымі рукамі, прыхаваныя на чорны дзень. Пэўна, не надышоў гэты дзень, мінуў час, мінула эпоха – і новыя грошы вырашаюць наш лёс. Не патрэбны старыя грошы ні ўладам, ні людзям, і мне не патрэбны. Не прынеслі яны нікому радасці, не ашчаслівілі і сваіх скнар – гаспадароў. Хай бы далі каму на патрэбу, ці самі сабе на задавальненне іх пусцілі. А кажуць, шчасце ў грошах, а яны нікога не ашчаслівілі сваёй усемагутнай шчодрасцю. У руках нежыўцоў і грошы робяцца нябожчыкамі, папяровымі адзнакамі іх марнасці.

Вось насмешка лёсу – збылася мара ідыёта – процьма грошай, а толку ад іх няма, нават дзеля пацехі не варта падымаць гэтае смецце. Пайду сабе без лішняга цяжару, лёгка, як воблака над зямлёй, як вольны птах у паветры палячу, не клапоцячыся пра заўтрашні дзень без гроша ў кішэні.

*19.04.2015 г.*

У левую кішэню схаваў маленькае кацяня, а ў правую – крохкае мышаня. Падабраў іх на дарозе, каб не згубіліся за так у бязмежным свеце. Кацянё драпаецца, енчыць, просіцца на волю і цягне да яе вусатую пыску, ды і мышаня валтузіцца ў сваёй нары, грызе тканіну кішэні, намыліўшыся адтуль даць стракача. Не сядзіцца ім спакойна, і дапяклі мяне, ажно дасталі гэтыя гады. Выняў з кішэні катка і апусціў яго на зямлю. Вось табе воля-вольная, бяжы і радуйся ёй! А ён, збянтэжаны невядомай прасторай жыцця, жаласліва замяўкаў, нібыта дзіцё заплакаў, і нагнаў страху на мышаня, і прыціхла яно, толькі сэрцайка б’ецца ў такт сусветнаму пульсу. Падабраў я катка, і той у кішэні прыціх, напоўніўшы яе санлівым муркатаннем. Куды страшнейшая за цьмяную і цесную кішэню невядомая вольная воля, дзе ты сам па сабе, сам-насам з бязмежнай свабодай, і не ведаеш, навошта яна такая табе падаравана.

*03.02.2016 г.*

У мяне на плячах пагоны, а на пагонах вялікія зоркі. Я не генерал і не маршал, а просты прапар. Пад маім кіраўніцтвам бяссонне, я загадваю сном, вяду дакладны ўлік і раблю ўсялякі пералік. Без майго адабрэння не кранецца нават шолах і не зрушыцца з месца час. А калі скончыцца порах, калі расстраляюць патроны і лягуць на полі навабранцы, вінаватым будзе прапар. Нібыта не генералы і не маршал, а менавіта ён распрацоўваў планы, вызначаў манеўры і аддаваў загады. А бязвінныя маршал і генералы з кальсонаў вытрасалі вошай і праганялі клапоў – ачысцілі кашары для прызыву новых лохаў, абяцаючы ім перамогу, толькі не падвёў бы зноў прапар. Ну, канечне, вінаваты будзе прапар, бо ў яго на пагонах вялікія зоркі і адказнасць за ўсё ляжыць на яго плячах. За бяссонныя ночы, за пералік без уліку, за гучны шолах, недахоп патронаў і залішак вошай і клапоў, за памылкі генералаў, за свае вялікія зоркі – за ўсё адкажа прапар, за ўсё нясе ён віну перад маршалам і перад самім сабой, перад тварам навабранцаў, пасылаючы іх на смерць па загадзя прыдуманым плане, па вызначаным манеўры, у прызначаны час. А калі ўсё роўна не хопіць патронаў узяць вышыню з якой так блізка да неба падняцца душы, дык яе абараняў гэта прапар.

*27.04.2017 г.*

Як ні намагаліся, як ні ішлі – рассыпаліся па хвалях караблі. Не пракласці шлях, не вызначыць маршрут, не сабраць іх у адну эскадру, не адкрыць запаветную зямлю. На дне згінула “Санта-Марыя”, пазбавіўшы надзеі на Боскую літасць. Але, як галодны звер на пах крыві, прабіваюцца праз туманы караблі. Замест багоў на бераг зямлі на крывавы покліч жрацоў сыдуць адважныя мараходы. У адной руцэ – крыж, у другой – меч. Вось кавалак дзікай зямлі, дзе не ведаюць існага Бога і, калі крыж у руцэ, дык ахрысцяць кожнага дзікуна ў ягонай крыві. Хай збаўца ўзнясе свае ўладарныя рукі, і над гэтай убогай краінай і да ног яго ўпадуць залатыя колы часоў.

*19.05.2017 г.*

Усё спакойна, спадар вялікі Вітаўт, у нашай краіне. Але здрада ўжо чакае цябе. Гэтая здрада даўно звіла сабе гняздо ў нашых злахітрых сэрцах, і да пары да часу тоіцца яна ў глыбінях нашых двурушных душ. Мы называем сябе рыцарамі, мы называем сябе князямі, а ваявалі заўсёды за спінамі ваяроў, падстаўляючы іх пад смяротны бой. І пад нашыя прыгожыя словы аб гонары і Радзіме яны ішлі паміраць. Так вось мы і ваявалі. Вялікасветлы спадар, о мой вялікі князь, хай жа здрада праявіць сябе, хай б’юць кінжаламі і мячамі ў спіну браты і нашы жанчыны, як міласэрнасць прымем мы гэтую здраду, калі мы сябе не можам абараніць, калі няма каму быць смелым. А калі пашкадуюць, калі жалем захлынуцца іх сэрцы, хай нас знішчыць вораг – усіх да аднаго, каб і памяці ад нас не засталося, каб вецер разнёс нашыя імёны, а хіжыя крукі выдзяўблі нашыя вочы. Вось такі нам прысуд, бо здрада ў нашых сэрцах і мана на языках! Такімі мы сталі, рыцары і князі, і хто народзіцца ад нас? Яшчэ чорныя пачвары, якія абгадзяць нашыя магілы і разбураць нашыя храмы. Хай мы загінем ад здрады, калі баімся загінуць у баі, адкрыта гледзячы смерці ў вочы, і хай мы не будзем бацькамі іудаў і хамаў, хай нашы ворагі паважаюць нас за наш горкі выбар, хай наша зямля стане ім Радзімай, і тады іх нашчадкі ўсхваляць нас у сваіх паданнях і легендах.

*04.07.2017 г.*

Анёлы захацелі пагуляць з зямнымі распусніцамі і заклалі крылы ў нябесным ламбардзе. На радасцях хлопцы так пагулялі, што пыл засціў зоры і здрыгануўся сусвет ад рогату п'яных. Расхітаная зямля сарвалася з арбіты. Зноў зрабіўся хаос, і Богу давялося выходзіць на працу, і аж цэлых шэсць дзён прыводзіць да ладу сваю запаветную зямлю. І калі ачах чад, і зямля выраўняла ход па арбіце, бяскрылыя анёлы, праклятыя Богам, у поце сваім здабываюць капейкі, каб выкупіць крылы з ламбарда. Але тэрмін мінуў, і крылы пайшлі за бясцэнак розным спрытнюгам, якія цяпер у высокіх анёльскіх чынах служаць у Бога на пабягушках. А найбольш практычныя бізнес-анёлы падаліся ў самаволку, і цяпер людзей спакушаюць захапляльным палётам да зор ці проста забавы дзеля вымалёўваць колы на палетках, збіваючы людскі розум з панталыку. Добра, калі ёсць крылы за спінай і ў цябе ёсць час зматацца туды-сюды, каб не ўбачыў Бог.

А дзеці бяскрылых анёлаў з агідай і нянавісцю глядзяць на рубцы на спінах сваіх бацькоў і наракаюць на іх. З-за іх бязглуздай юрлівасці самі не толькі пазбавіліся прывілеі на палёт, але і свой род асудзілі на бяскрыласць. Хоць можна набыць новыя пластмасавыя крылы самай лепшай фірмы, імі махаць нават не трэба – самі нясуць у палёт. Але ўсё роўна сумна, бо штучныя крылы ніколі не заменяць жывыя, і ніколі ўжо не паляціш у самастойным палёце да зор.

*07.08.2017 г.*

Мне дадзены незвычайны дар чуць галасы ўсіх паэтаў. Чуць іх недасказаныя словы пра непражытыя іх драмы і пачуцці, пра існае, што адкрылі яны для сябе. І на ўбогай беднай мове, абмежаванай колькасцю слоў, я на шматках выпадковай паперы запісваю іх пазыўныя ратавання душ, не ведаючы, ад каго і адкуль, з якога глухога кутка сусвету даляцеў да мяне сігнал іх галасоў. І пераводжу гукі я ў словы без рыфмы, без сістэмы і стылю, расшыфроўваю іх галасы. Сам прарываюся да галавакружэння да зорных вышыняў і ўпісваю там адкрыцці вечнай існасці на простай маёй беларускай мове, каб ведалі, каб не забылі...

І з вышыні нябеснага палёту не бачу свайго жыцця, і ўсё былое, і сённяшняе – усё здаецца неістотным. Мусіш ці не мусіш, калі ёсць пакліканне, дык, калі ласка, выканай яго.

Не наракай на лёс, на людзей не наракай і на сябе не злуйся. Выканай прызначэнне і не ўцякай у пустэчу быцця, у п'янай эміграцыі не згібей, на парнасайтах не забывайся і ў іншых сферах забыцця не хавайся. Заўсёды будзеш чуць іх галасы і весці з душамі размовы, як вечнае пакаранне за сваю загубленую душу.

*19.08.2017 г.*

Не спаць, не спаць! Не засынай, каб не трапіць у лабірынт дарог, дзе заблукаеш для людзей. Паглядзі на твары людзей, на сотні твараў людзей. Я гляджу на гэтыя сотні твараў, скалечаных, пабітых лёсам людзей і не бачу ніводнага жывога, незабыўнага, падобнага да яе. І нікому цяпер я не скажу: “Прабачце, вы чароўныя. Я хацеў бы вас кахаць, проста, ціха кахаць, дык будзьце маім натхненнем”.

Я не сплю. У мяне ў руках пляшка гарэлкі, я прыеду дадому і вып'ю адзін, расхіну душу ўшыркі да безабароннай прастаты. Ніхто не прыйдзе да мяне, а з нябожчыкамі не навучыўся я размаўляць. Але ўсё-роўна ведаю,

моўчкі твая душа сядзе мне на калені і прытуліцца да маёй душы. І нічога яна мне не скажа. Толькі нямы дакор будзе выядаць сумленне маёй душы.

І прыслухаюся я, каб пачуць на даляглядзе гадоў нашыя галасы. Не спаць, не спаць, не спіце і вы. А я не сплю. Колькі ўжо не сплю. Калі драталі, крышылі тваю душу і цела, калі ў слязах паміралa ты, калі ап'янелая звярыная хцівасць ірвала ўсё, што ёсць у чалавеку, калі тваё святое цела апаганілі, згвалцілі і выкінулі ў брудны вадасцёк, калі душу тваю душылі пад п'яны рогат людзей, я спаў, я праспаў, калі цябе забівалі. І цяпер я не сплю, я ніколі не сплю і, калі на імгненне часу я спачываю, нікога блізка да сябе не падпускаю, каб і ў сне не аднялі цябе ў мяне.

Я не магу размаўляць з нябожчыкамі, і не магу сказаць – даруй, што не абараніў цябе, але каторы раз паўтару: даруй, што сказаў, не бойся людзей, даруй, што кахала мяне і ехала да мяне ў тую зламысную ноч, даруй, што хацела быць са мной, даруй, што не дачакаўся і заснуў. Цяпер я не сплю.

*09.08.2017 г.*

Нічога ўжо не значаць магічныя словы мальбы. Не адчыняць паветраныя дзверы з цёмнае каморы ў светлы рай. Не разжаляць закарэлыя сэрцы людзей на зямлі. Не расчуляць да горкіх слёз чуллівыя душы на нябёсах. Не вымаляць нават сняжынкі ў завірушнай зімы. Нібыта зрабілася незразумелым яно – спрадвечнае "Калі ласка", нібыта гучыць, як ганьба з вуснаў жабрака, нібыта яно зневажае сябе прыніжэннем перад уладарнай сілай.

Неўразумела дзівяцца людзі: калі, дык тады, калі будзе патрэба, а ласка тут ні прычым. Ну, а калі будзе патрэба, калі прымусіць нягода, зняважыўшы свой гонар і кволую моц, забыўшыся пра фальшывы сорам, папрасі не дзеля сябе, не дзеля мяне ці іншага кагосьці, а дзеля ласкі папрасі дапамогі і спагады. Папрасі, і будзе дадзена і табе дзеля ласкі – Ласка.

*11.02.2014 г.*

Свой набытак аддамо часу пад варту, а калі раптоўна вернемся, не пазнаюць нас, нашы імёны вецер па свету разнёс і пустым гукам адышлі яны ў нябыт. І наша ўжо не наша, а чужое. Не сустрэнемся мы на пройдзеных дарогах і не прывітаемся: "Прывітанне, да цябе я іду", і не скажам слоў кахання, бо нічога не значаць яны. Хаджу і шукаю знаёмых, хаджу і нікога не знайду, толькі вось старая баба каля крамы на лёс наракае: "Чакаю, чакаю, а нікога няма. Усе, бля, з раніцы ўжо набраліся", не ведаючы, што ўсіх іх яна паражыла, вечная Ева, і ніхто яе, апроч мяне, не пачастуе "агдамам".

*4.11.2015 г.*

Мы закохваліся ў сваіх аднакласніц і яшчэ ў каго-небудзь хацелі закахацца мы, але баяліся кахання.

Мы шукалі забаваў, а нарываліся на прыгоды, аж адымала мову, і ў жаху хаваліся хто куды.

Мы кідалі выклік лёсу і не вытрымалі яго іспытаў.

Мы заблукалі ў часе на гады, мы разгубіліся па жыцці, мы трапілі ў палон юнацкіх кроз назаўжды.

Гэта мы – худаногія, кульгавыя на абедзве нагі, крывабокія і задакволыя, карабатыя і блазнаватыя, выгінаемся, круцімся, як шнуры ад токаў зямлі.

Матляемся маятнікам туды-сюды, сюды-туды, наперад-назад. Не ідзем, не паўзем, а існуем на адной вызначанай нам прасторы, на адным і тым жа месцы. Ні на кога не наракаем, вінавацім толькі саміх сябе. І хай наш злашчасны лёс сцеражэ нас да скону веку.

Мы, як чарвякі, не ўсведамляем відавочнасць сусвету, не разумеем бязмежнасці межаў, не ведаем свайго прызначэння, хаваемся ад святла ў чорную цемень і выпаўзаем на свет пасля асвяжальнага дажджу – вось так падтрымліваем сувязь з жыццём.

*26.05.2016 г.*

Не ведаеце, што за таямніца, дзе яе вытокі, адкуль яе прычыны і якія яна мае падставы. Схавай яе ў кішэню і, як візу, пакажы на мяжы недазволенага, хай прапусцяць цябе ў нязведаны край, адшукай яе вытокі, спазнай яе патаемную прычыну і зразумей яе важкія падставы, сутнасцю яе стань, зрабіся нябачным без адлюстравання ў вадзе, шкле і люстэрку, і ў нябёсах парай растань. Не смуткуй і не наракай, калі не адчуюць людзі адсутнасць таямніцы, калі не хочуць яе спазнаць, калі няма каму яе адкрыць – не наракай і не плач. Захавай таямніцу ад усіх, ад сябе схавай яе, самім сабой з таямніцай зрабіся, каб нікому яе не спазнаць.

Мы прыдумваем імёны, нам даюць мянушкі, мы адгукаемся на звычайныя словы, на знаёмыя гукі імён і прозвішчаў адклікаемся, мы, як сфінксы, маўкліва-гаваркія, ніхто нас не распазнае, ніхто не адчуе сутнасці нашых трывог. Мы хаваемся ад саміх сябе, нас няма ў люстэрку і нас увогуле няма, і толькі не можам сэрца стрымаць перад любімым голасам, і вось тады нарэшце таемнае зробіцца відавочным.

*29.03.2017 г.*

Ад важнасці пухір надзьмуўся і ў імгненні палёту ён, лёгкі і празрысты, вясёлкай адліваў на сонцы. Якая прыгажосць! Радаваліся дзеці. І ад захаплення самім сабой пухір радасна ўсклікнуў “Я!” і лопнуў.

“А я прамаўчу, – падумаў другі пухір. – І ціха далячу ў свой пухіровы рай”. Ды толькі дакрануўся да яго ветрык, і ён таксама разляцеўся ў нішто.

“Крычы ці маўчы, а ўсё адно вызначана наша доля – мы знікнем без сляду, – падумаў трэці пухір. – А ўсё ж якія прыгожыя мы былі і прынеслі сонца на зямлю! І гэтае кароткае імгненне і ёсць наша прызначэнне і само нашае жыццё!”

*29.08.2017г.*

Даводзіцца праўду трываць, падлагоджвацца пад яе, хоць яна не корміць і не грэе. Калі нават паставіць на ўсіх дарогах праўдзівыя знакі з указаннем месцазнаходжання праўды і паказаць да яе шлях, дык мала хто пойдзе туды. У кожнага свая праўда, якой апраўдвае свой прызвычаены падман. І на хісткіх нагах хлусні наша праўда вандруе па людскіх вуснах, абрастаючы арэолам плётак. І падобна яна ўжо не на праўду, а не непахісную ісціну, яна ўжо прэтэндуе на сакральную тайну, яна прагне крыві і ахвяраў пакутнікаў за веру ў сябе. Ці ёсць каліўца праўды ў нашай праўды? Не разабрацца, дзе сама праўда, а дзе яе падман. І навошта такая праўда, калі няма лепш за падман, з якім так проста глядзець праўдзе ў вочы?

*19.06.2017 г.*

Адкуль бяруцца дзеці? Дзеці адкажуць нам, што тата і мама набылі іх у дзіцячай краме ці бусел прынёс іх у падарунак на вяселле бацькоў, ці проста знайшлі іх у капусце. А то і завумна: мікроб трапіў маме ў рот, і я ў жывоціку яе вырас.

Розныя прыдумваем мы паказкі, хаваючы святасць зачацця, якое здаецца грахом, бо і было грахом першаісна, грахом асалоды. Адкуль бяруцца дзеці, ведаюць іх маленькія кволыя душы, што не змаглі даляцець да раю, бо зямное прыцягненне не адпускала іх у вечнасць: трагізм і забойства, дзіцячыя слёзы, нечаканы віраж непражытага лёсу, гільяціна аборту не адпускаюць дзіцячую душу за мяжу нашага свету, і вяртаецца яна ва ўлонне новага зачацця пад стогн сляпой страсці, каб ажывіць са слізі насення крохкі расток эмбрыёна і, калі варухнецца ў ім душа, то і з'явіцца на свеце дзіця. Вось адкуль бяруцца дзеці: з трагедый і шчаснасці. Не таму, што іх маці заляцелі, а таму што да іх прыляцела чыясьці дзіцячая душа ў пошуках працягу жыцця, таму і жывём мы і за таго некага, хто ахвяраваў нам сваю душу.

*04.08.2017 г.*

Мільгаюць цені людскіх постацяў, іх твары змучыў клопат, а пот выступае з глуздоў. І ўсё адно: як уладкавацца, як прыстасавацца, як прыладзіцца, як прымазацца да жыцця. Вось аднойчы знойдзецца самавук і ўсміхнецца, нібыта ён зразумеў, як усё гэта зрабіць. І нічога ўжо яго не ўстрывожыць, не спакусіць. Скамянела яго сэрца, і ўсмешка тайнай Сфінкса знерухомела на яго вуснах.

Пройдуць стагоддзі, і нечы гучны смех разбудзіць яго скамянелае сэрца.

– Я вольны ад усялякага клопату!

"А навошта мне адзінота сярод адзіноцтва адзінокіх? Няўжо, каб адзінота паяднала мяне з клопатамі адзінокіх?" – падумае ён і ўсмешкай Сфінкса зноў усміхнецца, і навечна скамянее яго сэрца.

*2005 г.*

Пераадолей сваю боязь, не бойся будучыні, бо ад цябе ўжо нічога не залежыць. Што змог, ты зрабіў, і цяпер іншыя вырашаць, як з табою быць. Ці ўславяць цябе, ці аплююць пад зняважлівыя крыкі: "Ён абакраў нас, абрабаваў нас... Што ён нам даў? Дзе яго запавет?"

А што ты можаш адказаць? Што абрыдла жыць чаканнем абяцанак. Што з лёгкім сэрцам ад іх пойдзеш... Але ніхто цябе не пашкадуе, бо ты тварыў для ўсіх, і цяпер нікому не патрэбны. Магчыма, пашкадуе толькі той, каму дастанецца твой запавет, у якім спадчыны няма, бо нічога табе твайго не належыць. Дык памры для ўсіх, для сябе ствараў сваё, пакуль у светлым раі не адшукаецца месца і для цябе.

*2006 г.*

Прыснілася, што я цалуюся з каханай. У далёкай маёй маладосці засталася яна, і вось на старасці год вярнулася да мяне. Такая ж юна-чароўная ў дзявочым сваім харастве. Ніколі не адчуваў я такой асалоды ад пацалунку, калі нашыя самлелыя ад вечнага чакання вусны злучыліся ў пяшчоце. Як было радасна на сэрцы, як было соладка на душы.

Я не расчараваўся, калі прачнуўся, бо адчуваў сябе шчаслівым. Мы зноў разам, хоць не на яве, а ў сне мы ашукалі злахітрую змову лёсу.

*19.10.2011 г.*

Ну нічога сабе, як ляціць час! Здавалася, нядаўна, ледзь не ўчора прыснілася мне, што цалаваўся з каханай ў вечным мінулым. А вось, прыдаўшы той сон, здзівіўся: мінула аж пяць гадоў! Мінула, як адзінае імгненне, асветленае сонечным яе пацалункам!

*10. 02.2016 г.*

Няма даўніх сяброў, а новых завесці не тое што час, а расклад гадоў па жыцці не дазваляе. Быў час, калі распісвалі свае вехі па гадах: школа, тады – дыплом, а пасля – кар'ера, а тады ўжо – каханне і шлюб, і потым – дзеці, і потым дасягнуць добрай пенсіі, і можна лічыць, што жыццё ўдалося.

Дзесьці там, на стыках вехаў, губляліся сябры, раставалі ў заслонах памяці і сыходзілі некуды назаўжды. Можа, у старым даведніку знайсці іх імёны, адшукаць каардынаты іх жыцця, хто памятае цябе маладым і дурным, але ці прызнае ён цябе, ці не стане вам сумна нагадваць былыя страты, як двум адстаўнікам? Дзіўна, аднойчы мімаходзь убачыш былое сваё каханне, і сэрца ўсхвалявана пагоніць растрывожаную кроў, аж захочацца падбегчы, абняць і пацалаваць. Былое не такое і сумнае, яно па-ранейшаму хвалюе. І нават не расчаруешся, што гэта не яна, а нехта падобны на яе маладую, як вобраз, што не згас у сэрцы. Толькі шкада, што яна не стане тваім сябрам.

*03.04.2017 г.*

У касмічным пыле заблукалі дзве планеты, як непаслухмяныя дзеці згубіліся сярод жыта. Збіліся яны з арбіты і рух іх настолькі разбіты, што ў пустэчу працягнутыя рукі не схопяцца далонямі адна за адну. Парушылася нешта ў светабудове, і дзве планеты адыходзяць ў далёкую бясконцасць. На адной планеце – Ён. На другой засталася Яна. І няма справы законам светабудовы, што Ён і Яна ўжо ніколі не сустрэнуцца, нібыта для суладнай пабудовы сусвету менавіта і патрэбна вось гэтае недарэчнае расставанне, вось гэты боль, што жывой часцінкай сардэчнай вібрацыі праціне навылёт увесь сусвет.

*02.07.2017 г.*

Падаюць уначы яблыкі ў садзе, з хрумсткім гукам б'юць па паверхні зямлі, і нервовымі дрыжыкамі прабег імпульс па ўсіх рачных венах зямлі, да кожнай яе клетачкі дабраўся, і ўстрапянулася яна ад начнога сну. Дзесьці забурапенілася вада, выдыхнулі чорны чад вулканы, разваліліся дарэшты горы і адбыліся іншыя катаклізмы... Ачмурэлых ньютанаў азарыла думка аб новай знішчальнай бомбе – яблыку. А ў хаце на ўскрайку зямлі прачнулася немаўля і вітае ранак плачам. "Люлі-люлі", – спявае яму маці, і люлька сама гойдаецца у такт разгойданай зямлі.

*09.09.2016 г.*

Цяжка не ўзяць на душу грэх, калі такая салодкая спакуса. І вось у асалодзе спакусы падзялілі мы грэх адзін на дваіх. Як птушкі, трапілі ў прывабныя цянёты кахання. Трапяталіся, ірваліся і заблыталіся, асудзілі сябе на расплату. Разважаюць нашыя анёлы паміж сабою: "Падзялілі яны між сабою грэх, і цяпер пакараныя на вякі. Яна кахаць яго не будзе, але ніколі не забудзе той спакусы асалоды, а ён у горкім раскаянні наракаць будзе на сябе. Як даўся ў грэх, спакусіўшыся на яе юную вабнасць, і спакусіў яе словамі кахання. Божа, памілуй іх. Не дай ім расчаравання ад свайго граху".

*2010 г.*

Бывае, лянота падняць вочы і ўбачыць зоркі на небе, бо прызвычаіліся да іх і не натхняюць яны цяпер.

Бывае, лянота схіліцца і падняць з дарогі падкову, бо расчараваліся ў шчасці, ведаючы, што яно не для нас.

Бывае, лянота і жыць, бо і жыццё надакучыла і нішто ў ім не выклікае захаплення і жадання, нават спакусы, грашыць.

Бывае, што самі сабе абрыдлі, а людзі тым больш...

І мы робімся падобнымі да ценяў жывой мінуўшчыны ў часе, які спыніўся, толькі чуваць з вечнай ракі ўсплёскі вёслаў ад нечага чоўна.

*02.05.2004 г.*

Якая пекная яна! Недаступная яе Прыгажосць, недасягальная яе Пеката для мяне. Я гляджу, як пульсуе жылка на яе пяшчотнай шыі – трапяткая жылка жыцця. Здаецца, такая крохкая і кволая гэтая Прыгажосць, што, як кветка, завяне ў непагадзь. Як шкада, што я толькі выпадковы яе спадарожнік на вызначаным лёсам кароткім імгненні жыцця. Выйдзе яна на прыпынку і знікне назаўжды. Не для мяне яе Пекната, недаступна яна да розуму мне, ненаглядная яна для маіх вачэй. Яна для іншага, які натхніцца яе чароўнасцю і навучыцца ладзіць прыгожыя словы ў мілагучныя вершы, а можа проста будзе чалавекам з прыгожым сэрцам, каб абараніць і захаваць яе. Такая вось сіла ў Прыгажосці, што чарадзействам сваім адных палоніць і няволіць, а ў іншых абуджае светлую смуту.

*03.06.2016*

Твае сны пераблыталі мне дні і, як высветлілася, я апярэдзіў час на некалькі дзён. Выбраўся ў свет па справах, і няўцям, што я ў іншым вымярэнні часу. На парозе сустрэў мяне сябра, у прыцемках пад'езда яго я не пазнаў. Няўжо ён так змяніўся, так апусціўся да нікчэмнасці? А гэта п'яны мужык. Сябра тут даўно не жыве.

Пайшоў у бібліятэку, а яна зачыненая на сандзень, калі павінна працаваць па маім календары. Што за хрэнь такая: ці я дзяўбануты, ці кнігі збеглі ад мяне з бібліятэчных паліц? Мне растлумачылі, што сёння не шостае, а толькі другое, прыходзьце заўтра – трэцяга. Значыць, сапраўды апярэдзіў я час. Вось што ты нарабіла са мной сваімі снамі, збіла мяне з панталыку. Цэлы дзень згубіў, каб высветліць, які сёння дзень у календары, я нават баюся пытацца, які сёння год і якая эпоха. Але ж няма ліха без дабра: я ў будучыні пабываў і паспеў там заблукаць. Не гуляй са мной у снах, калі не хочаш мяне згубіць на ростанях часу.

*03.06.2016 г.*

Ён ляжыць на цёплым асфальце, задаволены-задаволены, яму так прыкольна-прывольна, што ён не баіцца людзей. Круціць галавой павольна наўкол. Ён мышэй не ловіць, ён цікуе за ценямі. А яны хаваюцца ад яго, ды толькі ён чуе іх асцярожныя крокі побач са мной. Ён няўцямна глядзіць на мяне, пэўна, хоча папярэдзіць: “сцеражыся ценяў”. А я лавец здзічэлых жывёл. Глядзім адзін на аднаго, і кожны ведае, што рыхтуе яму лёс, а свой не прадбачыць. Зрэшты, я апускаю сачок-душахват і праганяю катка. Прэч, не давярайся нікому і бойся-бойся людзей без ценяў.

*13.06.2016 г.*

Калі няма кароны на галаве, дык і не зваліцца яна долу, калі ўхілішся ад прамога ўдару мяча ці плазам упадзеш на зямлю, падмануўшы палёт стралы, калі прытоішся ў траве вужакай, слухаючы пагрозлівы тупат імклівай пагоні за сабой. Трэба, пэўна, забыцца пра ўладу і пасад, пра Вялікае княства ад мора да мора, калі гэты народ не варты мець уладара. Хай бярэ жабрацкую торбу і падаецца ў свет. Хай у шурпатую далонь падаюць шэкелі – талеры – дукаты – баксы – усё будзе дарэчы і мала будзе для дзіравых кішэняў і бяздомных торбаў. "У нас нічога не было і нічога ў нас няма! Дайце-дайце, Хрыста дзеля, дайце яшчэ хоць што-небудзь, дайце!" Калі не было, калі няма, дык і не будзе! Ды і адкуль жа быць, калі кароль прамяняў карону і ад расплаты схаваўся ў траве, а раптам і на гэты раз пранясе – не знойдуць яго ваяры, не затопчуць коні, дзікія зверы не разарвуць, і крумкачы небяспеку не прывядуць, і вецер не бразне ў званочкі блазнавага каўпака.

*30.06.2016 г.*

Не мая, не мая, а без Вас гэты свет не для мяне. Адчуваю Ваш боль, як баліць Ваша сэрца, адчуваю такую самоту, але я не суцешу Вас. Я ўжо так далёка. Як далёка наша маладосць, я так далёка, што вярнуцца не магу назад да Вас. І Вы не мая, не мая, і Вы не для мяне. Калі я далёка ад Вас, а Вы далёкія ад мяне, такія далёкія, аж нябачныя ўжо, аж ценем слізгаеце па зямлі і хаваецеся ў змрок. Не запаліць мне зоркі, каб яна святлом ліхтароў заліла свет, каб светла зрабілася, як удзень, каб кожны твар убачыць ясна і пазнаць Вас, не абазнацца ў які раз, каб ведаў, што Вы яшчэ жывыя і рана Вас пахаваў у памяці сваёй. Ажывайце і выходзьце са змроку, вяртайцеся, пакуль яшчэ можна вярнуцца назад да сябе, і хай Ваш смех напоўніць могілкавую ціш нашых душ. Вяртайцеся, будзьце маладой і прыгожай, не памірайце раней за свой час, калі ён яшчэ не падышоў і не прагучаў апошні званок збіраць манаткі і правальваць пад смех і ўлюлюканне новага пакалення ў свой аблюбаваны змрок, адкуль Вас ужо ніхто не пакліча.

*15.07.2016 г.*

Былыя героі року – задаволеныя і сытыя ветэраны пратэсту, дзе ваш малады запал, куды падзеліся заклікі барацьбы, на што прамянялі свой змагарскі дух? Горка глядзець на вас, хоць вы смешныя, як скамарохі, даводзячы, што вы па-ранейшаму героі року, а за апошнія дзясяткі гадоў вы проста маўчалі, хоць і нешта ціха спявалі. Хваліцеся, што вашыя лецішчы большыя за дамы, дзе раней жылі, большыя за школы, дзе вучыліся, даяце мудрыя парады, засядаеце ў журы і вырашаеце, як некалі ваш, нечы лёс, падаліся ў суддзі. Няма больш чаго сказаць? Няма дзеля чаго жыць? Рок прамянялі на эстраду, пратэст на маўчанне, жабрацтва духу на сытасць жывата?

Дык разбіцеся, як Цой, захлыніцеся, як Кабэйн, адсячыце свой грэшны язык, калі развучыліся спяваць, заліце горла смалой, калі страцілі голас барацьбы. Застаньцеся для нас героямі року і змагарамі пратэсту. А калі не можаце, калі і гэтага палохаецеся, дык спявайце ціха пра каханне, бо ваша вайна ўжо скончылася і вы ўжо пенсіянеры мяцежнага духу, але не будзьце пасмешышчам для дзяцей на "Камеды-клаб".

*06.06.2016 г.*

Наракаем на злахітры лёс, дакараем сябе за кволасць душы, клянем няшчасны выпадак і заракаемся: ніколі-ніколі, ні пры якой нагодзе, ні за якія

ўгаворы і бабкі, нізавошта, а вось як надарыцца нагода ці выпадзе шчаслівы квіток – і пайшло-паехала, забыўшыся пра зарок да чарговага "Аз воздам" за грахоўную спакусу. Вось гэтак і жывем, і не можам іначай, нават святым праведным ужо не зайздросцім. Наракаем, дакараем, клянём, выракаемся, заракаемся да новага "Аз воздам", каб зноў каяцца... Так пішам сваю запасную кніжыцу жыцця!

*20.07.2013 г.*

Адны выказваюцца з матэматычнай дакладнасцю па завучаных формулах правілаў, сухой мовай законаў кажуць, і ўсё так відавочна і зразумела, што апраўдвае кожны рух і кожнае памкненне душы. Іншыя выказваюцца мовай пачуццяў, што робіць нас чалавекамі. Паспрабую выказацца і відавочна, і пачуццёва.

Калі я буду пісаць пра вас, о мая мілая Багіня, не забуду згадаць вашыя вочы, як ласкава глядзелі яны на мяне, не забуду. О, Божа, чаму я не маг, каб падначаліць іх сабе, каб шукалі яны заўсёды і ўсюды мяне ў кожнай постаці мінака, што, як гады, праходзяць каля вас, каб чакалі мяне адусюль, нават адтуль, адкуль вяртання няма.

Калі я буду згадваць пра вас, о добрая мая Багіня, згадаю і вашыя валасы, што хвалямі сцякалі з маёй далоні. Я ўзгадаю вас і вашае харАство, о, мая незабыўная Багіня, толькі не буду называць вашае імя, не таму, што не памятаю, а таму, што яно належыць толькі мне, нешта ж павінна застацца і мне на ўспамін пра вашыя цноты і прывабы.

Час расставіць па месцах усё як мае быць і пакажа, хто чаго варты: каму ўзвышацца на недасягальнай вышыні Боскасці, а каму самотным вернікам да веку чакаць Боскай ласкі,

А хтосьці не вытрымае і, як вецер, пабяжыць насустрач, прымаючы падман за шчырасць. А хтосьці куміраў багамі назаве і ў шматбожжы згубіць сябе. Але ў хвіліны прызвычаенага бязвер'я, самотнай скрухі душы, калі вось-вось сарвецца з вуснаў горкі плявок на засмечаныя жвірам успаміны – і тады я ўдзячна згадаю вашае імя, адзіная мая Багіня, і шэптам на ўвесь сусвет "Дзякуй" скажу, каб і вы пачулі яго.

*13.04.2017 г.*

Валерый Ягораў



...я для цябе любімы парасон
забыты дома ў дажджлівы дзень...

# Горкая ўсмешка ветру

*1*

Белае воблачка гуляе з ветрам
Бруд прыліпае да ног
Хіба сон лепшы час жыцця?

*2*

Хто не быў першым не будзе і апошнім
Горы не мераюцца сілай з рэкамі
Я здаецца разумею ўсіх – акрамя цябе

*3*

Крумкач быў нахабны
Возера вабіла прахалодай
Мяне растварыла сонца

***4***

Вечар апускаўся па промні позняга сонца
Сад замёр у чаканні ночы
Што можа быць лепшым ад радасці сустрэчы?

***5***

Белы матылёк цэлы дзень б’ецца ў шыбу
Раніцай ён нарадзіўся
Увечары ён памрэ

***6***

Кляновы ліст выправіўся ў падарожжа
Восеньскі вецер наводзіў свой парадак
Дворнік забыўся на запалкі

***7***

Кветкі ў нашым садзе любяць фатаграфавацца
Чмялі занятыя толькі сабой
Лета зноў праляцела – як думка пра яго

***8***

Сонца адпачывала
Першы снег схаваў зямлю
Ува мне сустрэліся ноч і дзень

***9***

Поўня ў чорным халодным небе
Салодка-горкі пах восені
Калі я плакаў, дык  хто ж смяяўся?

***10***

На дрэвах з’явіліся пупышкі
Восень была незвычайна цёплай
Пасткі любяць мышэй

***11***

Самая смачная страва – тая, якую не спрабаваў
Самая цікавая ідэя – тая што яшчэ не з’явілася
Сустрэча з цудоўным – напярэдадні смерці

***12***

Я ўспамінаю тое, што хацеў забыць
Я забываю тое, што хацеў помніць
Час падарожнічае ўва мне, але дзе гаспадар?

*13*

За акном было незвычайна ціха
Снег падаў і раставаў
тысячагоддзе сыходзіла

*14*

Халодным восеньскім ранкам сонца засланілі чорныя хмары
«Можа, не варта прачынацца?» – задумаліся кветкі ў садзе...
Пакуль не прыйшла гаспадыня

*15*

Мне здаецца
Я для цябе любімы парасон
Забыты дома ў дажджлівы дзень

*16*

У начным небе зіхацелі велізарны Месяц і чырвоны Марс
У суседнім двары спалохана забрахаў сабака
Мне ўсміхнулася вечнасць

*17*

Снег падаў вялізнымі шматкамі
Ля дарогі ляжаў брудны дварняк
Калі гэты свет прыдумаў я, то чаму ён такі?

*18*

Горкая ўсмешка ветру
Які раздзімае вогнішча
Дзе згараюць словы кахання

*19*

Вясёлыя гракі заклапочана ходзяць па даху
Апошні снег сыходзіць з палёў пад пяшчотным красавіцкай сонцам
Што можа растапіць лёд у тваім сэрцы?

*20*

Халодным красавіцкім вечарам я бег па беразе ракі
Цікаўны месяц слізгаў за мной па вадзе
Упершыню я з ім памяняўся ролямі

*21*

Вясновым вечарам я ішоў уздоўж рэзідэнцыі прэзідэнта
Ліхтары паблажліва глядзелі на мяне з-за калючага дроту
Дурныя! Што з іх возьмеш?

***22***

Мне здаецца ўсё прыгожае на Зямлі
чалавек прыдумаў
узіраючыся ў зорнае неба

***23***

Зямля – гэта проста месца ссылкі
але гэтая ссылка становіцца раем
калі побач каханы чалавек

***24***

Аднойчы ў сне я лётаў у міжзорнай прасторы
Зямля была прыгожая, але не хацелася вяртацца
Навошта? Калі цябе ніхто не чакае...

***25***

Пах першых пупышак
Ружовы снегапад адцвітаючых вішань
Горыч страт як прадвесце вечнасці

***26***

Я прачнуўся раніцай шчаслівым
Мне прысніўся сон
У якім мне было пяць гадоў.

Сяргей Вайніцкі



...лепшае

мае звычку сыходзіць хутчэй...

# Ліхтар

***Аповед***

*Таму, каго няма*

Кажуць, у адной вельмі старой к*а*ртавай калодзе ёсць цікавая карта з выяваю старога ў плашчы. У залежнасці ад густаў эпохі той стары мае розны выгляд. Часам ён карпач, часам – высокі і мажны. Бывае, твар яго адкрыты, часцей – захінуты капюшонам. Розняцца тло, колер адзення, дэталі. Нязменнае толькі адно – яго паднятая рука, што трымае ліхтар. Запалены ліхтар, старанна схаваны крысом плашча.

***

Звычайна я карыстаўся трамваем. Чакаць парою даводзілася доўга, ці не з паўгадзіны, прыпынак за гэты час паспяваў палуднець і абязлюдзець неаднойчы. Зрэшты, чаканне не стамляла, у тым было нават штосьці атмасфернае і сімвалічнае, у настойлівым пільнаванні, падчас якога

сярод безаблічных падарожных выяўляліся некаторыя – адзін, два, тры, не болей, – хто чакаў той самы, што і я, рэдкі, нікому іншаму не патрэбны нумар. Цяжкавата бывала хіба ўзімку, у лютаўскую непагадзь, калі сівер прадзьмуваў вялізны пляц, выстуджаючы рэдкія дрэвы, брук і цяжкія каменныя вежы з сілумінавымі гігантамі па рагах.

Я адкрыў яе амаль выпадкова, дзякуючы нейкаму артыкулу, здаецца, у «Нашай Ніве». Нататку складалі невялічкі тэкст і тры фотаздымкі. На здымках – старая, не бачаная раней камяніца з брунатнай цэглы. Ганак з парэнчамі, тры высокія вакны. Чыйсьці ровар пры ўваходзе. І белы, амаль некрануты снег наўкола. Мінімалістычны, амаль калядны сюжэт, і зусім фламандскі з выгляду, з дадаткам лёгкага, ледзь адчувальнага ценю – ці так толькі здавалася. Мо праз кантраст паміж снегам і цэглай, што выглядала мала не чорнай на тле зімовае белі.

Акурат штосьці такое і было мне патрэбнае, і вось нарэшце знайшлося.

Трамвай звычайна прыходзіў згодна з прымацаваным да слупа раскладам. Часам на якую хвілю пазней, ніколі – раней. У гэтым можна было быць пэўным, як, бадай, няшмат у чым тут, у маім родным месце, разлеглым, зменлівым, дзе-нідзе прывідным. Расклад быў амаль нечытэльны, надрукаваны дробненькімі лічбамі. Даводзілася прымружваць вочы, прыглядацца так і гэтак. Неўзабаве я проста завучыў яго, дзеля зручнасці. Памяць і дагэтуль захоўвае сёе-тое: *16.40*, *17.17*, *17.59*, *18.35*... Пасля заставалася адно ўзірацца, паперамення – то ў даўжэзную хвілінную стрэлку, што паволі паўзла па цыферблаце на вежы, то ў цень пад мостам леваруч, чакаючы, як штосьці заварушыцца нарэшце там, кранецца, і летняе сонца заскача па металёвым даху і шкле вокнаў, ці калі ў няпэўнай зімовай смузе з’явіцца раптам зыркая жоўтая фара – з’явіцца і нібыта завісне да часу ў прасторы, павольна павялічваючыся і ярчэючы... Халоднай парою яго з’яўленне асабліва ўражвала. Паволі, быццам наўмысна марудзячы, з лязгатам, якому заўжды папярэднічала свярблівае перарывістае шапаценне ў кантактным дроце, вузкі й доўгі, падобны адначасна на цягнік і на карабель, несумнiўна рэчыўны, і ўсё ж крыху нерэальны, ён рассоўваў сабою сцюдзёнае, з лёгкім пахам вугалю паветра. Абабіты металам зялёны корпус, вялізныя сталёвыя колы – толькі па рэйках, толькі так, дакладна тут – ён цяжка падвальваў да прыпынку. Нічым неадрозны ад іншых, апрача шыльды з чорнай, бачнай здаля двойкай за лабавым шклом – вялізнай, несумненнай, як ён сам. Нарэшце. Дзверы рассоўваліся, адкрываючы доступ да сходаў – на колькі кароткіх імгненняў, іх акурат было дастаткова, каб выхапіць з натоўпу нешматлікіх абраных, хто ведаў, навошта ім гэты, не іншы, нумар. На тое, каб яны паспелі ўскараскацца па прыступках у салон, учапіцца ў астылыя парэнчы, – адзін, два ці тры, рэдка больш. І я сярод іх.

Узімку тут было не цяплей, як на дварэ. П*а*ра з рота. Скразняк з усіх шчылінаў, асабліва калі машына набірала хуткасць. Ледзяны дэрмацін крэсла апякаў холадам праз нагавіцы – ацяпленне, здаецца, не працавала ніколі, бо, лічы, не было для каго на гэтым рэдкім, найкарацейшым з усіх, мала каму патрэбным маршруце.

Нячастыя выпадковыя пасажыры былі відаць амаль адразу. Занадта мітуслівыя. Шумлівыя, з валізамі, торбамі. Не паспеўшы як след уладкавацца, кідаліся да кампостэра – ім было няўцям, што кантралёры прапускаюць гэты нумар, прапускаюць свядома. Папрабіваўшы свае квіткі, яны сядалі па крэслах, але не супакойваліся, працягвалі гаманіць, шамацець, перашкаджаючы мне засяродзіцца на перажыванні дарогі. Без сумневаў,

яны збіраліся ехаць доўга. Я ж чакаў. Мае спадзяванні хутка мусілі быць узнагароджаныя. І насамрэч, сапраўдная мітусня, нават паніка пачыналася ўжо неўзабаве, у тым пункце, мала не сакраментальным, што розніў гэты маршрут ад усіх астатніх, радыкальна і ў нагэтулькі каштоўны для мяне спосаб. Спусціўшыся згары да прыпынку побач са стадыёнам, трамвай спыняўся. Аўтаматыка тут ніколі, на маю памяць, не працавала спраўна. Кіроўца – заўжды адна й тая ж гаваркая жанчына сярэдняга веку (адзінокая маці, сын вучыцца ў Акадэміі мастацтваў, пад'ём а палове чацвёртай раніцы, змена да дзясятай вечара і г.д.), накінуўшы на плечы памаранчавую камізэльку і прыхапіўшы адмысловы кій, выскоквала з кабіны. Стрэлку трэба было пераводзіць уручную – бо ў ранейшы стан яна вярталася ўжо аўтаматычна, не інакш, як з ахвотаю. Так было заўсёды, у дождж, у снег, шторазу. І ўдавала на знак. Найбольш кемлівыя з выпадкоўцаў ужо тады, бывала, пачыналі нервавацца, але астатнія сядзелі яшчэ спакойна. Занадта няўважлівыя, праз меру пэўныя – відавочна, ім было не месца тут. Адплата за легкадумнасць наступала хутка. Дзверы зачыняліся. Паволі, скрыгочучы па рэйках, трамвай пачынаў разварот, ягоны корпус цяжка, быццам праз сілу, збочваў управа, сыходзячы з прывычнай і знаёмай усім лініі, адзіна магчымай, як ім дагэтуль здавалася. І вось тады паветра кранаалі роспачныя ўздыхі, стогны здзіўлення, часам былі чуваць і гучныя пратэсты, сёй-той нават ускокваў, цягнучы свае валізкі да зачыненых дзвярэй. Позна. Яшчэ праз момант усе яны сцішваліся і адно з тугой і разгубленасцю ў вачах узіраліся праз шкло ў незнаёмы, чужы ім краявід, бадай, клянучы ў думках уласную неабачлівасць – прынамсі, ніводнага задаволенага твару мне ў тых варунках не трапілася. Паварот ставаўся для іх нечаканкаю, яны не былі падрыхтаваныя да яго, ім не хапала ані разважлівасці, ані моцы ўяўлення, каб ацаніць яго належным чынам, аддацца прыхамаці лёсу і не супраціўляцца. Каб проста рызыкнуць – не жыццём, адно якімі хвілінамі, – а мо там, далей, іх чакае штосьці хаця й нябачанае ніколі, але, магчыма, цудоўнае, нязвыклае, новае?.. Не, ніводзін не наважыўся, ніхто, наколькі я мог бачыць, не быў на вышыні гэтага павароту, і мост, на які выязджаў трамвай, – бо ён тутсама пераязджаў цераз раку, з аднаго берага на другі – азначаў для іх толькі адно: перашкоду, недарэчнае аддаленне ад загадзя вызначаных мэтаў, якія яны лічылі слушнымі, жаданымі. Вартымі іх часу, іх высілкаў.

Так і мусіла быць, думаў я, адчуваючы ў сабе мала не задавальненне. Яны выходзілі, ледзь дачакаўшыся бліжэйшага прыпынку, і беглі – я назіраў праз акно – беглі назад, шкандыбалі, цягнуліся, залежна ад таго, на што былі здатныя іх ногі... Так і мусіла быць. Няўклюдная назва прыпынку – «Гарадок Белдзяржуніверсітэта» – не лучылася ні з чым тут, апроч паспешлівых рухаў гэтых мітуслівых ног. Яна была відавочна чужою мур*а*м тамтэйшае вінніцы па левым баку, старасвецкім, чырвоным, з белымі сандрыкамі, чужою іхнім неагатычным і паўцыркульным аркам у левым крыле, лучковым пасярэдзіне, чужою вузкім ходнікам абапал дарогі. Яна належала таму, іншаму берагу, думаў я, і там мусіла б заставацца – за ракою, у больш натуральным для яе тлумным і будзённым свеце. Я ж мусіў ехаць далей. Яшчэ прыпынак, а мо й два, ці нават тры, залежна ад настрою, бо ўжо па другім трамвай, апісаўшы кола і счакаўшы крыху, вяртаўся назад.

Зрэшты, дабірацца можна было й іншым чынам, гэта канечне. На метро, напрыклад, ці тралейбусам. Пехам, уздоўж ракі. Нават цягніком. Можна

было, але ніводзін з гэтых спосабаў не адпавядаў у поўнай ступені мясціне, у якую я меўся патрапіць, не пасаваў крывізне вулкі, старым камяніцам, тамтэйшым гукам, пахам, тамтэйшаму небу. Ніводзін з іх – а машына і пагатоў, – не быў дастаткова інтымны, прыватны, свойскі. І ніводзін, мушу таксама зазначыць – ні тралейбус, ні цягнік, – не быў такі зручны і ласкавы, каб, давёзшы дакладна да месца прызначэння, спыніцца не на прыпынку, але акурат пры дзвярах, і адно для таго, каб мне было зручней выйсці, асабліва ў дождж. Проста так, без маёй просьбы... Ніводзін, бо ўсе яны былі недзе там, на шырокіх гасцінцах, мелі іншыя маршруты і прызначэнне, і адно трамвай быў тут. Быў, дзе мусіў быць – рэдкая, амаль нечуваная ўдача. Увогуле, усё тут было ўдачаю.

Тым часам ён кранаўся, каб прабегчы астатак шляху. Каб, неўпрыкмет пазбыўшыся вагі, падняцца ў паветра... Мне так заўжды здавалася – гэта разбег перад узлётам. Дарога йшла ўгару, хуткасць большала, жоўты двухпавярховы будынак наперадзе дзякуючы тутэйшаму рэльефу губляў ніжні паверх і, здавалася, самое неба набліжаецца, амаль яднаючыся з зямлёю.

Прыпынкі, як і паўсюль, абвяшчаў мяккі мужчынскі голас у запісе. Наступны меў назву «Завод Кастрычніцкай рэвалюцыі». Голас прамаўляў яе, мне здавалася, з ледзь прыхаванай весялосцю, трохі недарэчнай, амаль урачыста, быццам стараўся прыцягнуць да яе ўвагу. Напраўду, назва складзена дзіўнавата, калі разабрацца. І пагэтуль не ведаю, што там вырабляюць насамрэч. Але, думалася мне, як на хлебзаводзе рабілі хлеб, а на дражджавым – дрожджы, так, згодна з логікай, завод кастрычніцкай рэвалюцыі мусіў вырабляць кастрычніцкую рэвалюцыю. Ён, бадай, і вырабляў, вырабляў і пакаваў у прыгожыя, пэўна, штораз ярчэйшыя пакункі: сінія для мужчын, ружовыя з карункамі і стразамі – для жанчын, цёмныя, з залатой тасьмой – для арганізацый і працоўных калектываў, – і адпраўляў некуды. Ці не тут, блізка, за плотам, хавалася крыніца і прычына нашых сумных прыгодаў апошніх ста год, у гэтым бесперастанным і нястомным, упартым прадукаванні? Не ведаю... Зрэшты, і не было, магчыма, нічога ўрачыстага ў голасе, мо, рэч тут адно ў самым гучанні, у адмысловым спалучэнні фанемаў, якое і дагэтуль так спраўна кладзецца на наш язык. Будучы азнакаю часу, які тут нібыта спыніўся, паяднанае з усім, што было відаць з акна, гучанне мела ў сабе нешта прыглушана-архаічнае, накшталт пацiны на срэбры, і праз гэта дзіўным чынам ачалавечвалася. Змененая такім спосабам, амаль пазбаўленая першапачатковага сэнсу назва не выклікала ўжо звыклай агіды, стаўшы чымсьці накшталт іерогліфа, каларытным штрыхом да загадкавай, ва ўсім нешараговай мясціны.

Тут было ціха. Рэдкія мінакі, рэдкія машыны, найчасцей, грузавыя. Недагледжаны асфальт, дрэвы, не папсаваныя нічыім навязлівым клопатам. Ніхто асабліва не рупіўся пра выгляд фасадаў, сям-там былі відаць бітыя шыбы, сцены, фарбаваныя ў некалі розныя колеры, імкнуліся да шэрага – з рознай ступенню настойлівасці і розным вынікам, залежна ад матэрыялу і ўзросту. І ўсё наўкола, колькі хапала вока, было нібы аддадзенае самому сабе, уласнай натуры і лёсу. З кожным наступным будынкам па правым баку вуліцы адценні рабіліся цямнейшыя, гусцелі, кантраст паміж сценамі і цёмнымі пыльнымі вокнамі паступова меншаў.

Добра памятаю, як я ўбачыў яе ўпершыню. Яна з’явілася на даляглядзе адразу па апошнім павароце. Цёмная камяніца, здаля адметная хіба колерам і прапорцыямі. Нечакана высокая і вузкая, быццам сціснутая з абодвух бакоў, хоць, здавалася, не было чым, яна нават тут, на гэтай дзіўнаватай,

адмысловай вулцы выглядала крыху нетутэйшаю, хоць лепшае месца для яе складана было б уявіць. Адзіная выразная вертыкаль, нечаканая цёмная рыска сярод паноўнае гарызанталі – вузкія вокны, па тры на кожным з трох паверхаў, трохкутны франтон на фасадзе. Не хапала толькі, хіба, дыму з коміна (пазней знайшоўся і комін – даўгі і тонкі, ён хаваўся крыху далей і ззаду, – і нават палоска шэрага дыму, ірваная, дрогкая).

Пастаяўшы крыху на процілеглым баку, я перайшоў цераз рэйкі і, абмінуўшы шэрыя сумёты, паволі падняўся на ганак. Муроўка звяртала на сябе ўвагу – надзвычай якасная, з тонкімі рэльефнымі швамі, з якіх толькі сям-там павывальваліся кавалкі цэменту, найчасцей ля самай зямлі, дзе вільгаць спрыяла гэтаму. Сцены мелі вельмі адмысловы, цёмна-барвовы, з выразным дамешкам дыму, колер, фарбаваныя зверху данізу, да чорнага моху, без жаднага вынятку, так, што барва здавалася прыродным тонам самое цэглы. Вузкія ваконныя праймы, цесны высокі ганак. Выразныя роўныя плашчыні сценаў. Рэдкія адтуліны між цаглін, глыбокія і цёмныя, нібы закурэлыя – падобна, сляды даўніх шыльдаў, – былі дзе-нідзе рупліва закладзеныя кавалкамі спарахнелага ўжо дрэва. Усё тут стварала адчуванне грунтоўнасці, нішто не было выпадковым. Старая камяніца падавалася нібы занадта рэальнаю, рэчыўнай. Яе выгляд, прапорцыі, захаванасць і нават месца ў атачэнні іншых будынін, ствараючы ўражанне напятасці, унутранай напругі, мелі на сабе адбітак яшчэ нечага, што я па тым часе, інтуітыўна і недакладна, вызначаў як гвалтоўнасць – адбітак даволі цьмяны і цяжкавытлумачальны. Зрэшты, такое ўражанне магло мець прычынаю што заўгодна і ўсё разам: настрой, надвор'е, нязвыклае наваколле, нават той самы колер сценаў, дзіўны, насычаны, падобны да колеру запеклай крыві. І словы «дзіўны», «нязвыклы» тут, бадай, галоўныя.

Цяпер здаецца, што нам было наканавана стаць часткамі адно аднога. І хоць думкі такога кшталту з'яўляюцца ці не заўжды, як сплыве час, а самая наканаванасць патрабуе пэўнае веры ў яе ці, прынамсі, прымхлівасці, гэта ані не робіць адчуванне кону менш праўдзівым, не прымяншае ягонае выразнасці, глыбіні, ягонага сэнсу, няхай часам і прывіднага. І адчуванне гэтае настолькі ж моцнае, наколькі выразны след у мінулым пакідае па сабе сустрэча. Пагатоў, калі след гэты – даўжынёю ў паўтара гады. Падаецца, што я адпавядаў гэтаму месцу, такому, якім яно было тады, перадусім жа – гэтай цёмнай цаглянай камяніцы, частцы старое, пачатку мінулага стагоддзя гамарні. І яна цалкам, без сумневаў адпавядала мне. Як мала што іншае ў родным горадзе. Гэта была выразна *мая* мясціна. Так яе й называцьму.

А за тым, першым часам я нават не адразу пазнаў яе. Чаго я чакаў? Бадай, чагосьці больш звыклага, стандартнага, лягчэйшага, мусіць. Я тады быў таксама непадрыхтаваны, нічым не лепшы ад іншых. І наўкола ўсё выглядала зусім не так, як на газетных здымках: неба было шэрае, снег – брудны і вільготны, сцюдзёны вецер і імжа.

Дабраўшыся сюды, што ўпершыню, што пазней, я звычайна ніколі не падымаўся адразу на ганак, не спяшаўся ўвайсці – хіба падчас залевы. Асяроддзе быццам схіляла да ўважлівасці і нетаропкасці, і ўвесь парадак маіх дзеяў з часам набыў рысы рытуалу. З адным адрозненнем хіба: хоць праз пэўны час усё тут стала больш-менш знаёмым, але не ўзнікала пачуцця звыкласці. Амаль штораз, стоячы тут, сам-насам з камяніцаю, дакранаючыся да цаглін, гледзячы з-за яе рога ўздоўж вуліцы на далёкія дамы за чыгункай ці ў неба, што адбівалася і драбілася ў трох высокіх вокнах, я дзівіўся адчуванню, быццам бачу ўсё гэта, як тады, упершыню.

Усярэдзіне было ціха і цёпла і пахла свежай кавай. І ніводнага наведніка. Я зрабіў замову, знайшоў сабе месца, не перастаючы аглядацца. Чаму? Там было нейк дзіўна. Крыху цемнавата, але ўвадначас вельмі светла – ад вокнаў, можа, якія адсюль здаваліся напраўду вялізнымі... Не, бадай, не так. Не светла – там было ясна. Рэчыўнасць, уласцівая камяніцы звонку, не абмінула яе і ўсярэдзіне. Яснасць – вельмі адмысловая якасць, з'ява, што сустракаецца зрэдчас, дзякуючы збегу цэлага шэрагу акалічнасцяў, – паравіны года, гадзіны дня, асвятлення, кантрасту колераў, кантрасту святла і ценю. Яна дазваляе ўбачыць кожны прадмет нібыта асобна ад астатніх, і кожны з іх – так здаецца – раскрываецца тады ў сваёй сутве, набывае асаблівую, яму аднаму ўласцівую важкасць і значнасць. Дзіўна, але – ці то першае ўражанне наклалася на ўсе пазнейшыя, ці то законы оптыкі былі да гэтага мейсца больш лагодныя – памянёная мною яснасць тут амаль не залежала ад знешніх умоваў і трымалася заўжды, ад пачатку і да канца, быццам стаўшы рэальным, урэчаўлёным складнікам асяроддзя. Нароўні з пахамі, гукамі, колерамі.

Здаецца, нават і па сёння часам можна адшукаць тут яе рэшткі, яе празрысты, як вада, прывідны цень.

Калі я выйшаў вонкі, вецер ужо аціх. Марознае паветра было нерухомае, а з аблокаў вызірала сонца, завіснуўшы нізка над трамвайнымі рэйкамі. І самыя аблокі, і сцены навокал, цагляныя, а дзе й тынкаваныя, убраліся ў зусім нечаканы тут бледна-ружовы колер. Такі зімовы, такі халодны, такі пяшчотны...

Была трэцяя гадзіна пятніцы 30 снежня 2011-га. Апошняй пятніцы цяжкога года. Відаць, шчаслівая зорка свяціла тады над гэтай вулкай, нябачная, недзе там, у светлым яшчэ перадвечаровым небе. Наступны год абяцаў быць зусім новым.

На справе ён – не каляндарны, лепш назваць яго экзістэнцыйным, – расцягнуўся нават больш як на паўтара года, цягам якіх гэтая схаваная ад усіх мясціна, нібы ліхтар, свяціла мне зблізу й здаля, пульсавала цьмяным святлом, надзейна і неадменна, пасярод шэрага мора штодзённасці, адным сваім існаваннем перамяніўшы звыклую датуль сістэму каардынатаў, ментальных і геаграфічных, і стаўшыся іх цэнтрам – таемным, ціхім, багатым на сэнсы.

З часам я вывучыў яе даволі добра, каб стаць тут зусім сваім. Шматлікія дробязі, незаўважныя спачатку, паступова рабіліся арганічнаю часткай свядомасці, набывалі значнасць – тую, якою былі поўныя адпачатку і якая цяпер раскрывалася праз мяне.

Узімку трамвай, бывала, захрасаў тут, між высокіх, амаль у паверх вышынёю сумётаў, якія навальвалі сюды з усёй вуліцы, і машын, якім не было дзе прыпаркавацца. Тады марна было чакаць яго на прыпынку, там, на вялізным, сіверам прадзьмуваным пляцы. Не часта, але здаралася, калі яго не было – дзесяць хвілінаў, і яшчэ дзесяць, – то я ведаў: гэта праз снег. Снег быў тут не проста прыроднаю з'явай, хутчэй дзейнай асобаю, сумоўнікам дахаў і сцен, прыгодай, здольнай змяняць тутэйшае жыццё на свой лад і густ. Стаўшы ля ржавага рыштока падчас снегападу, можна было доўга сачыць яго рух, такі выразны на брунатным тле цэглы, пакручаста-складаны ў вецер, ці зусім просты ў заціш, нетаропкі, зверху ўніз, ад трэцяга паверха да першага.

Увесну з-пад гары, ад горада сюды далятаў вецер, мяккі і крыху вільготны, пяшчотны, асабліва пад вечар, калі сонца фарбавала ўсё ў пама-

ранчава-жоўты колер, і крыкі кірляў у небе – белых кірляў на глыбокім сінім тле – мацавалі пачуццё, быццам там, унізе, за сценамі стадыёна, хаваецца мора. Мне і па сёння так здаецца часам.

Улетку зусім іншы вецер, гарачы і моцны, падымаў тут віхуры пылу – сумесь пяску і солі, якою цягам зімы густа пасыпалі ходнікі, і нават моцныя злівы не маглі даць ёй рады. Цвілі ліпы.

Надыходзіла восень. Лісце клёна пры ўваходзе пакрысе засыпала мокры асфальт. Я глядзеў у высокае акно. Удалечы чырванелі муры вінніцы, рэдкі парасон прапаўзаў кудысьці. Меншаў паволі і губляўся недзе пад гарой, знікаў з вачэй. Пачалі рабіць глінтвейн, запахла цынамонам і гваздзікам.

І зноў зіма, і з ёю снег.

Наваколле пачало мяняцца спакваля. Перадусім, на процілеглым баку, за сто метраў, раптам паўстала нейкая будоўля. Хутка пачалі казаць, што гатэль. Навошта, чаму менавіта тут, у гэтым закінутым на водмель часу месцы?.. Між тым звыклая ціша цяпер парушалася недарэчным грукатам забіваных паляў і іншымі прыемнасцямі, што суправаджаюць будаўнічыя працы. Новы будынак вырастаў досыць хутка, паступова перасягаючы вышыню другога, трэцяга, чацвёртага паверха, вышэй і яшчэ вышэй, пачаўшы, урэшце, засціць далягляд. Чыёй воляй ён сюды ўплішчаны, я не ведаў, але тое, што воля гэтая пагражала персанальна мне, было відавочна. Заставалася цешыць сябе спадзевамі, што гэты меркаваны гатэль апынецца чарговым даўгабудам, што нешта там не заладзіцца, шчаслівым выпадкам збанкрутуе, і недабудаваны гмах будзе кінуты на волю лёсу, прыпадобіцца да руіны, а ўласцівая любой руіне меланхолія пераменіць яго на дадатак да старой забудовы – непатрэбны, канечне, але хоць бы ціхі і больш-менш маляўнічы. Прынамсі, у такім сцэнары не было б нічога звышнатуральнага. Але ж дабудавалі, і цяпер мейсца неба над нізкімі, зялёнымі ўлетку пагоркамі заняла глухая бетонная сцяна, вышынёю ў шэсць паверхаў і даўжынёю ў цэлы квартал.

Час бег. Праўдзівей, тут ён звыкла марудзіў, пазначаючы сябе толькі рэдкімі варыяцыямі ў карце напояў і зменай тэмпературы на дварэ. Але паўсюль – бег, і гэта пакідала замала шанцаў для шчаслівага выніку.

Наступны акт нішчэння меў іншы сюжэт, тым разам пацярпеў трамвай. Ужо й не прыгадаць цяпер, з якой прычыны – ці то праз падаражанне электрычнасці, ці дзеля скарачэнняў на тамтэйшых заводах, ці яшчэ чамусьці. Зрэшты, гэта неістотна, важны быў вынік. Мяркую, што сцверджанне, быццам гэтая прычына была вынайдзеная адно каб пазбавіць вуліцу, а з ёю і мяне, надзвычай істотнай часціны, аднаго з прынцыповых складнікаў, – было б справядлівае не менш за якія-кольвек іншыя.

Так ці йнакш, расклад трамвая змяніўся кардынальна. Перадусім, ён быў абсечаны з двух бакоў. Ад таго часу было ўжо нельга скарыстацца ім, як звычайна бывала, калі ўвечары ён заязджаў сюды ў апошні раз, па аднога мяне. Няможна цяпер, думаў я ў скрусе, з'язджаць адсюль, спусціўшыся ў горад, наўздагон сонцу, у залацістае мроіва прасякнутага промнямі паветра, па нібы расплаўленых, ператвораных у дзве зіхоткія ручаіны рэйках, ці ўзімку – стомлена занурыцца, пераехаўшы замерзлую раку, у мора ліхтароў, фар, сігнальных агнёў, у грукат і шум, дзе трамвай, з цяжкасцю выехаўшы на галоўную лінію, спрабаваў прыкінуцца сваім, звычайным, сарамліва мяняючы шыльду з гордай двойкай на надпіс «У дэпо»... Няхай – з гэтым льга было б змірыцца. Але галоўнае – з раскладу пазнікалі й дзённыя гадзіны. Такім чынам, мне пакінулі адно некалькі цыклаў, і ў найменш зручны час: крыху ранкам, крыху па абедзе. Гэта

выглядала на знак. *Так* я расчытваў тыя змены. Змены прадказальныя – высокую ноту адчужанасці, якая гучала тут адпачатку, відаць, немагчыма трымаць доўга.

Далейшыя падзеі былі адно лагічным працягам, паступовым, але няўхільным разбурэннем, якое, аднойчы пачаўшыся, не мусіла спыніцца. Я ўсведамляў гэта. Нягледзячы на адсутнасць іншых зменаў, усё тут для мяне было цяпер быццам асветленае гэтым усведамленнем, падфарбаванае ім – цёплым і скрушным, памаранчавым святлом блізкага заняпаду.

На процілеглым баку паадчыняліся новыя ўстановы з ежай і пітвом, спачатку адна, затым яшчэ. Паболела легкавікоў паабапал дарогі. І адчувальна паболела людзей. Праўда, да дзвярэй на гэтым баку вуліцы яны яшчэ не даходзілі, губляліся недзе на подступах, але кірунак і характар зменаў быў зразумелы і ўжо не пакідаў ілюзій. Прыкрая рэчаіснасць падступала, насоўвалася з таго берага ракі, імкнучыся запоўніць сабою – не толькі тут, зрэшты, але па ўсім месце – тое, што з розных прычынаў змагло дагэтуль ацалець. Прастора інакшага, вольнага ад чужое цікаўнасці, дзельніцтва, шараговасці працягвала імкліва сціскацца, і толькі цёмныя цагляныя сцены стаялі яшчэ непахісна, стрымліваючы сабою плынь часу. Ліхтар майго маяка працягваў пульсаваць, зрабіўшыся яшчэ зырчэйшым, быццам наастачу. За дзвярыма панавалі ранейшыя яснасць і засяроджанасць, прадметы гэтак жа, як і раней, нібыта ціха ўзіраліся адзін у аднаго, раскрывалі ўласную існасць, адно тканка тутэйшага часу, што йшоў тут не так, як паўсюль, тканка празрыста-шэрая, дрогкая, зрабілася цяпер больш адчувальнаю, амаль рэчыўнаю, нібы рыхтуючыся перайсці мяжу паміж уяўленнем і фізічнай рэальнасцю.

Надыходзіла лета, і з ім – апошняе, канчатковае разбурэнне. Яно прачылася ўсярэдзіну, у самую нутрыну – прыйшло, пасялілася тут і жыло, набрыньваючы сабою, да пары незаўважнае чужому воку.

Быў гарачы пыльны ліпень, калі мэблю павыносілі, а дзверы надзейна замкнулі. Ліхтар патух. Як выявілася, назаўжды. Я ведаў ужо за колькі дзён, таму не быў заспеты знянацку.

Што праўда, спачатку ішлося адно пра рамонт і частковую рэканструкцыю. Але я ўжо меў, натуральна, пэўныя сумневы, і досыць адчувальныя. Мала што добрае ў нашай частцы свету мае даволі моцы, каб трымацца дастаткова доўга. Пагатоў, гэта ўвогуле ёсць азнакай і характэрнай асаблівасцю рэчаў напраўду каштоўных: няздатнасць альбо нежаданне супрацьстаяць сіле, ці то будзе сіла часу, ці – чалавечай разважлівасці, з яе аб’ектыўнымі і бесстароннімі патрабаваннямі, якія гэтак часта тоесняцца з пошласцю і дрэнным густам.

У верасні дзверы адчыніліся, але гэта было ўжо зусім іншае месца, з іншымі ўладальнікамі, сваімі парадкамі і вялізным асартыментам моцных напояў.

Яшчэ праз паўгода ранейшая ўладальніца, зусім маладая дзяўчына, пасля працяглай хваробы адышла, казалі, у лепшы свет.

І толькі раз-пораз, на вуліцах ці ў раскіданых па горадзе кавярнях, сустракаўся сёй-той са знаёмых барыстых, што знешне былі такія самыя, што й раней, здавалася, але пасталелыя, з новымі, зусім чужымі мне клопатамі і планамі на жыццё. Потым пазнікалі і яны.

Я нярэдка звяртаюся думкамі да тае смерці. Мяне дзівіць яе амаль дэманстратыўная недарэчнасць. Мяне дзівіць яе натуральнасць ці, дакладней, прыкрая прадказальнасць – бо занадта лёгка ўклалася яна ў агульны лад

рэчаў, які ўжо і на той час не выклікаў залішняга аптымізму: лепшае мае звычку сыходзіць хутчэй. Прынамсі, гэтак ужо столькі разоў ставалася – у розных формах і з розных нагодаў, – што казаць пра просты збег абставінаў, бадай, не выпадала. Так і тут, агульны кірунак зменаў, іх лёгіка, адпачатку давалі падставы чакаць, што і яшчэ адно трапнае пачынанне, губляючы частку за часткай, рассыплецца, сыдзе ў пясок. Адзінае, пра што не думалася, як не думаецца амаль ніколі, – што фінал будзе аж настолькі фатальны. Што ідэя, увасобленая гэтак удала, вычарпаўшы сябе, забярэ з сабою жыццё. Не пакінуўшы жаднае надзеі на аднаўленне.

Некаму збоку магло б, бадай, падацца, што я вымяраю факт чалавечае смерці магчымасцю добра пабавіць час. Мяне гэта не бянтэжыць. Я ведаю гэтаксама ясна, як ведаў і тады: ідзецца пра зусім іншае – пра азыль, прыстанак, пункт супынку, роздуму і збірання сябе з частак у цэлае, карацей, пра рэч гранічна важную, датычную мала не самое тканкі і сутвы жыцця. Пра матэрыю, непараўнальна вышэйшую ад забаў і прыемнасцяў пасляпрацоўнага адпачынку.

Пароюю здаецца, што да па-сапраўднаму значных з’яваў, рэчаў, людзей – кожны вызначае іх для сябе па-свойму – цяжка падысці проста так, лёгка і нязмушана. Што яны маюць нешта накшталт імунітэту ад чужое цікаўнасці ці любові, нейкую адмысловую абарону. Яна можа складацца з зусім розных кампанентаў, звычайна даволі простых і відавочных, і дастаткова бывае нават павярхоўнага аналізу, каб вылучыць іх, зразумець іхнюю прыроду. Чалавек можа мець невыносны характар, ідэя – быць празмерна жорсткаю, рэч – задарагою ці занадта крохкаю, мара – залішне фантастычнаю, насуперак здароваму сэнсу, і так далей. Кампаненты і іх спалучэнні розняцца, але выяўляюць, зазвычай, дзве характэрныя рысы: унутраную супярэчлівасць і неадменнасць, якія, злучаныя разам, надзяляюць уладальніка трывожнай двухсэнсоўнасцю, неадназначнасцю, здольнымі лёгка паставіць пад сумнеў і самую сутву прадмета, якім былі народжаныя і які цяпер, атачыўшы, пільна ахоўваюць. Цудоўная ва ўсім ідэя, бывае, прад’яўляе найцяжэйшыя патрабаванні да яе прыхільнікаў, найкаштоўную рэч нельга памацаць рукамі, не нарабіўшы ёй шкоды, найвыбітная асоба падчас блізкага знаёмства выклікае агіду, а найпрыгожая мара вымагае немажлівага... Тут няма, падобна, ніякай навіны, але з часам гэтая звыклая ўвогуле з’ява набывае рысы амаль міфічныя, утвараючы ва ўяўленні назіральніка штосьці накшталт перашкоды, дрогкага вогненнага кола, якое з усіх бакоў атачае прадмет ягонай інтымнай цікаўнасці; кола, абмінуць якое немагчыма, і дзеля якога сам прадмет робіцца амаль недасяжны або, прынамсі, цяжкадаступны.

Празмерныя патрабаванні, агіда, залішняя крохкасць, гранічная супярэчлівасць, брак здаровага сэнсу... Усе яны – перашкодамі, так. І ўсё ж яны прынамсі пераадольныя, кожная па-свойму, з большымі ці меншымі стратамі. Але смерць – што можна сказаць супраць яе, што супрацьпаставіць? Усё было б у межах мажлівага, каб не яна. Тлустая кропка, крэс – несумніўны, падведзены раз і назаўжды пад усім, што да астатняга моманту было яшчэ магчымым, яшчэ вераемным. І адразу, без найменшага перапынку – незваротныя змены, што пачынаюць множыцца, множыцца проста на вачах, з кожным новым імгненнем, быццам на здзек, спяшаючыся, здаецца, адным сваім лікам замацаваць неабарачальнасць часу і ўласную неадменнасць.

Міналі месяцы, цягам якіх тутэйшыя мясціны на ўсе лады рэкламаваліся ў прэсе. То там, то тут з’ўляліся прапановы, што да «раскрыцця іх

турыстычнага патэнцыялу», штораз больш віртуозныя, вядома ж. Потым тутсама, у суседнім будынку, займела пляцоўку вядомая культурніцкая ўстанова. Страўні насупраць імкліва набывалі папулярнасць. Сцены наўкола пачалі пакрывацца графіці.

Бо прыйшлі *яны*, нарэшце, сотнямі. Сотнямі, асабліва ўвечар і ў выходныя.

І жыццё, як кажуць, завіравала.

Часам я ўяўляю сабе, што было б, каб яны йшлі сюды моўчкі. Шоргат соцень ног, паспешлівых, мітуслівых. Тых ног, што раней, выпадкова сюды патрапіўшы, беглі прэч адгэтуль...

А наступным летам канчаткова знялі трамвай, дзеля будавання метро. 2-гі маршрут перастаў існаваць. Толькі рэйкі зарасталі пяском.

Што ж, для мяне вуліца была страчаная. Мясціна, што колькі часу была прыстанкам, каштоўным набыткам, зрабілася цяпер страчанаю, здавалася, для ўсіх – бо галасныя бяседы, падчас якіх за рогатам і бомамі з дынамікаў было не чуваць пранізлівых крыкаў кірляў, называць набыткам не выпадала.

Хоць, зрэшты, гэта пытанне густу.

Заўважныя змены, канечне, напаткалі багата якія месцы, перадусім самы цэнтр – Траецкае, Ракаўскае, Замчышча. Паркі – шмат якія з іх упарадкавалі: замест старых вузкіх сцежак з’явіліся новыя, шырокія, у значна большай колькасці, выкладзенныя бетоннай пліткай, са шматлікімі лаўкамі паўсюль, рознымі памерам і выглядам. Зноў жа – адмысловыя роварныя дарожкі, якіх хутка болела. На правым беразе ракі, на месцы закінутага, са старымі таполямі лапіка зямлі была збудаваная «пад старызну» адмысловая вуліца для радасцяў і турыстаў. Проціleглы бераг чакала штосьці падобнае.

Неяк з акна тралейбуса, што кіраваўся паўз Оперу да Нямігі, я зірнуў – і не пазнаў краявід. Збудаваны за Саветамі корпус 2-й бальніцы ляжаў друзам, недзе за плотам. Цяпер будынкі старога манастыра былі відаць у зусім нязвыклым для мяне ракурсе. А за імі адкрывалася не бачаная ніколі раней перспектыва Верхняга Горада. Дзіўна. Гэта было ўпершыню, раней я не мог глядзець на яго адсюль. Інакш кажучы, гэтага ракурсу для мяне дагэтуль проста не існавала. Не было. Разам з тым мае вочы ў той кароткі момант сузіралі, з вялікай імавернасцю, тую прыблізна карціну, якую маглі ці не штодня бачыць мае продкі, што цягам пакаленняў жылі ў родным месце. Гэты факт нараджаў пэўныя пачуцці, змушаючы да развагаў...

А тым часам набярэжныя абкладалі адшліфаваным да люстранога бляску мармурам, аздаблялі каванымі металёвымі дэталямі. Паўсюдна з’яўлялася тое, што называюць малымі мастацкімі формамі, – яны былі, бадай, недастаткова малыя. Бетон, мармур, шкло і крыху металу. І яшчэ чысціня. Здавалася, ідзе да таго, каб у хуткім часе ўскраіны зрабіліся ўтульнейшыя за гістарычны цэнтр, больш захаваныя, трывалыя і цэласныя, арганічней паяднаныя з наваколлем.

Ці магчліва было ўсяго гэтага ўнікнуць? А іначай – ці былі і ці ёсць натуральнымі гэтыя змены? Бог ведае.

Часта кажуць, што, не маючы сілаў змяніць рэчаіснасць, трэба мяняць стаўленне да яе. Відаць, слушна, пагатоў, нічога іншага ў такіх выпадках не застаецца. То хоць бы нервы, прынамсі, застануцца цалейшыя.

Змены, што паўставалі тут, у маёй мясціне, не былі ўсё ж да такой ступені драматычныя, як у іншых. Графіці на сценах выглядалі маляўніча, часам

проста цудоўна, што б хто ні казаў часам. Дый люд, хаця і ў небяспечнай колькасці, быў тут нашмат цікавейшы, ніж у іншых частках горада, больш разнастайны і прыемны выглядам. Амаль кожны з іх – гэта было відавочна – меў пэўную цікаўнасць да тутэйшых мясцін адчуваў іх прыцягальнасць, пачуваўся тут добра. Што ж, гэтая чалавечая цікаўнасць, заснаваная на чымсьці прыватным, індывідуальным, пра што я мог толькі здагадвацца – яна выклікала павагу. І я працягваў бываць тут. Можа, таму, што прывязваюся да месца хутчэй і лепей, як да людзей. Прыязджаў, заходзіў, пісаў ці размаўляў, спакваля спрабуючы адшукаць рэшткі таго, што раней утварала цэласць. Цешыўся, знайшоўшы нейкія азнакі мінулага, раздражняўся, калі штосьці ў тым перашкаджала. Зрэшты, многае па-ранейшаму было на сваім месцы, перадусім – самыя сцены, іхны выгляд, што звонку, што з сярэдзіны. Але багата што й памянялася. Перадусім, канечне, людзі. Алкаголь, якога раней не было, заўважна пашырыў і змяніў склад наведнікаў, з іх манерамі, выхаваннем, якасцю маўлення. Усярэдзіне з’явіліся нізкія, амаль пры падлозе, чорныя канапы, абабітыя штучнай скурай, з такімі ж падушкамі – даўгія і глыбокія, на іх можна было лягаць пры ахвоце. Побач з імі – нізкія чорныя столікі. Стойка была цёмна-зялёнаю – лічы, таксама чорнаю, у тутэйшым заўсёдным паўзмроку, з ліпкай стальніцай. Чорнаю стала і столь. Само памяшканне пабольшала, дзякуючы таму, што разабралі нейкую перагародку. Цяпер з’явілася месца для сцэны. Праз пэўны час на ёй сталі ладзіць вечаровыя і начныя імпрэзы, і тады, загадзя – за паўгадзіны ці гадзіну – уваход пачыналі вартаваць ахоўнікі. Назва таксама змянілася, вядома, і шкада, што на зусім выпадковую. Вакно, праз якое я звыкшы быў глядзець удалеч, седзячы за пісьмом, хутка закрылі адмысловай прыбудовай. Пазней, увесну, да прыбудовы дадалі крытую тэрасу, шырокую і даўгую, праз сярэдзіну якой, нібы аточаны з усіх бакоў, праходзіў камель старога клёна. Тут хораша было стаяць у залеву. Гумовы дах бразгаў на ветры, клён рыпеў камлём па дошках, а вада, вiруючы, сплывала па ходніках улева і далей, пад гару, у бок няіснага мора. У прыбудове напачатку меўся быць гардэроб, але потым пачалі прадаваць фалафель. А калі фалафельня ці то збанкрутавала, ці то пераехала, вярнуўся гардэроб. З цягам часу адрамантавалі другі і трэці паверхі камяніцы, якія датуль былі нежылыя. На другім, па-мойму, мелі намер гатаваць вегетарыянскія стравы, але потым перадумалі, абсталяваўшы там памяшканні для living кшталту імпрэзаў. На трэцім пачалі выкладаць ёгу, і цяпер безупынна маладыя дзяўчаты, зазвычай вельмі худыя, не асабліва клапоцячыся пра тое, каб вітацца, прабягалі сюды і туды цераз залу, цягнучы на сабе дыванкі для практыкаванняў і страшэнна заклапочаныя нечым маладыя тварыкі. Ніколі не думаў, што ёга ёсць нагэтулькі адказным і цяжкім заданнем...

Найзручней – ці найменш нязручна – было цяпер сядзець пры стойцы. Лепш удзень, горш – увечары, бо наведнікі, ахвочыя перадусім да «Лідскага вішнёвага», сабраўшыся ў дастатковай колькасці, пачыналі крычаць замовы проста праз галовы тых, хто сядзеў спераду. Інакш і не было б чуваць, ад заўжды гучнай музыкі – тут, збольшага, любілі электронную, з ейнымі бясконцымі паўторамі і тэмбральнымі зменамі.

Узімку, калі дзверы найчасцей былі прычыненыя, а людзей набівалася шмат, музыка і праўда рабілася праз меру навязліваю. Вушы мусілі адпачыць, і я выходзіў. Спускаўся. Глядзеў на снег. Тым разам было таксама... Штосьці заварушылася ў падсвядомасці. Зараз гэта цяжка аднавіць... Заняты думкамі, я не скеміў спачатку, што да чаго. Не загучалі

фанфары, грымоты не ўдарылі – панавала нязвыклая ціша. Толькі лёгкі шум за дзвярыма.

Мае вочы глядзелі на снег. І нарэшце я ўбачыў яго, свежы снег, убачыў там, дзе нядаўна была яшчэ тая недарэчная тэраса. Але, бадай, не гэта ўразіла найболей, не гэта змусіла штосьці ўсярэдзіне сціснуцца раптам.

Снег падаў рэдка, нібы наўмысна марудна, каб не паспець схаваць ад мяне штосьці, чаго я б дакладна не пабачыў, каб быў снегапад – стары асфальт са знаёмым малюнкам расколінаў, пахаваны дагэтуль пад тэрасай. Стары асфальт і крыху пазалеташняга лісця.

Той самы.

Па ім ніхто не хадзіў акурат з тых, даўніх часоў.

Яго не кранаўся снег, не мачыў дождж. Ён два з паловай гады не бачыў сонца.

А зараз на ім ляжаў і лашчыў яго аблічча свежы снег. Як і мусіла быць. Асфальт, сцены над ім нібы зірнулі на мяне ў той момант, і я *разгледзеў* іх раптам, быццам плеўка спаўзла з вачэй, амаль такімі, якімі ўпершыню ўбачылі іх мае зрэнкі некалі, у той дабраславёны, далёкі ўжо зімовы дзень. І выгляд іхні быў, быццам ціхае прывітанне, на якое ўжо не чакаў, на якое не спадзяваўся больш, якога не мусіла быць, і аднак – сталася.

Неўзабаве разабралі і прыбудову. І ўсё паўтарылася, бо – гэтым разам знутры, апоўдні – я ўбачыў сонца і вуліцу ў маім, тым самым акне, што згасла, здавалася, назаўжды.

І зноў гэтая яснасць, прызабытая, нібы саснёная некалі, ці з іншага жыцця; забытая, але раптам зноў вярнуўшыся, як упершыню – бо яна заўжды такою, – як споўненае прароцтва, спраўджанае абяцанне.

Яснасць. Поруч – шчымлівая сумесь радасці, шкадобы й ціхай пяшчоты. Кожнае з гэтых пачуццяў добра знаёмае і паасобку, і ў суплёце.

Але было і яшчэ штосьці, таксама знаёмае, але йначай – як бывае знаёмым даўні сон, забыты адразу па абуджэнні, ці дотык – чыйсьці, аднекуль, з празрыстай цемры часу, так, што й не прыгадаеш, чый і калі. Ніякіх абставінаў, ніякай канкрэтыкі – толькі самое гэтае *штосьці*, неназванае, але жывое і несумнеўнае, тут і цяпер. Штосьці, у чым лучацца ў роўных прапорцыях, у нейкай дзіўнай падвойнай оптыцы прыпамінанне і прадчуванне, аднолькава пэўныя і выразныя. Цікава: у момант, калі яно з'яўляецца, заўжды раптоўна – правільней было б сказаць «абуджаецца», – ніколі, бадай, не паўстае пытанняў, што да ягонай прыроды, настолькі яно недвухсэнсоўнае і яснае. Калі ж час мінае, і перажыванне ператвараецца ва ўспамін, усё больш цьмяны, то знікае і глеба для абагульненняў, для аналізу, нібыта разам з інтэнсіўнасцю пачуцця сыходзіць у нябыт і самая яго сутва. Яно чарговага разу пачынае здавацца чымсьці амаль няісным, прыдуманым ці, прынамсі, ненаўмысна перабольшаным. І ўсё ж яго настойлівасць, а найперш зырчыня і ўзрушальная моц дазваляюць падазраваць, што яно невыпадковае, змушаючы прыглядзецца да яго пільна і ўсур'ёз. Якімі ёсць ягоныя складнікі? Мо одум? Ці радасць? Туга, сум? Пэўна, усё гэта разам, як ні дзіўна, але і яшчэ нешта, што за адсутнасцю лепшага слова я ўмоўна называю «адчуваннем конадня». Гэтае адчуванне м*а*е найбольшае падабенства з тым, якое часам выклікае гучанне *дамінантсэптакорда* – гарманічнай функцыі, якая звычайна імкнецца да развязання, распушчэння ў асноўнай гармоніі. Да заспакаення. Але тут распушчэнне не надыходзіць ніколі, усё завісае ў гэтай скрушнай празе, у чаканні. І змаўкае.

Што б то мусіла быць?

Падазраю, што тут ідзецца пра адну даўнюю, сівую мару, якая ў такі спосаб нагадвае пра сябе раз за разам, невытручальная, несмяротная, нягледзячы на ўсе высілкі розуму і здаровага сэнсу. Часам яна падаецца мне найбольшаю з усіх, што калі-кольвек нараджаліся ў чалавечым уяўленні, большаю – і больш інтымнаю – за мроі пра несмяротнасць і пазасветнае жыццё. *Apokatastasis* – так, здаецца, называлі яе раней. Я называю яе мараю пра вялікае аднаўленне.

Яе прыроду можна тлумачыць па-living рознаму. Праз незадаволенасць наяўным, да прыкладу, ці праз сентыментальнасць, хаця апошняя належыць да сферы эмоцыяў, у той час як апакатастазіс – да свету ўяўлення і мыслення; адрозненне часам няўлоўнае, але істотнае – і мысленне, і ўяўленне патрабуюць адчувальнага ўдзелу волі... У паважным веку яна найпрасцей тлумачыцца сумам па маладосці, шкадобаю аб страчаным незваротна і, магчыма, змарнаваным на дробязі часе.

Варыянтаў шмат, а выбар, бадай, ёсць пытаннем густу і, не ў апошнюю чаргу, узросту.

Але менавіта густ змушае мяне ўтрымацца ад празмернага занурэння ў аналіз. Густ і досвед, які сведчыць вымоўна: тлумачэнне здольнае разбурыць мару, пазбавіць яе ўлады, здольнасці надзіць, захапляць – карацей, таго, чым яна каштоўная.

Вядома, што адчуванне, перажыванне таямніцы, якая не мае відавочнага развязання, часам больш каштоўнае за тлумачэнне. Пытанне, завіслае ў паветры, мае зусім адмысловы кшталт – яно вярэдзіць, тамуе, кліча, і цішыня, што атачае яго, цішыня, якую розум імкнецца парушыць як найхутчэй, па край поўніцца свабодаю – магчымасцю адказаць ці змаўчаць, даць такі адказ ці інакшы. Не самімі адказамі, адно магчымасцю іх, і перажыванне гэтай магчымасці, гэтага «конадня адказу», тоеснае перажыванню свабоды, кону, лёсу, што можа неўзабаве стацца, уісніцца праз імгненне. Ці не будзе гэта злачыннай неабачлівасцю: дазволіць розуму пабурыць гэты крохкі, далікатны стан, пазбавіць сябе – свабоды, а ўласнае ўяўленне – моцы?

Між іншым, у навязлівым імкненні розуму ўсё вытлумачыць ёсць штосьці безгустоўнае. Яно адтуль, з таго берага ракі, з якога я стараўся пры першай нагодзе ўцячы, і там мусіла б заставацца. Да таго ж знешняя пераканаўчасць тлумачэнняў стварае ілюзію, быццам сутва загадкі і адказ на яе – у прычынах, якімі яна ўтвораная і трымаецца. У той час, як усё, здаецца, роўна наадварот: не так загадка вынікае з нейкіх прычынаў, як прычыны – адно падпоркі, мыліцы, на якія загадкавая з'ява абапіраецца ў часе сталення, і якія яна, сфармаваўшыся, вольная адкінуць.

Відаць, таму я, часам, лякаюся патрэбы тлумачыць, спрабую ўнікнуць роўнага святла таго, што завуць здаровым сэнсам, святла без ценяў: для яго ўсё аднолькава роўнае, у аднолькавай ступені падлягае аналізу, ён прапануе мне адказы – чужыя адказы, – не пытаючыся, ці яны патрэбныя мне. Я падазраю яго ў замаху на маё права ўяўляць – у дзёрзкасці, якую цяжка дараваць.

І таму, адмовіўшыся ад тлумачэння, я адно нагадаю самому сабе, яшчэ раз, такія дарагія мне рысы маёй мары.

Выявіўшы сябе аднойчы, яна ўжо не знікае. Яна прачынаецца, калі бярэцца ў квецень бэз, калі пахне дажджом прыбіты да зямлі пыл, калі кірлі крычаць у вечаровым высокім небе. Яна мацуецца сонечным святлом, што ціхім ранкам кладзецца на пакрытае снегам галлё дрэваў, нават беллю сценаў, простых тынкаваных сценаў на тле бяздоннай сінечы. Яе можа

абудзіць рыпенне аканіцы на зарослым павуціннем акне вясковага дома, а можа – карынційская капітэль, чый завіток завіс на краі неба, у светлай бязгучнай пустэчы... Спосабаў шмат. Відаць, усё залежыць ад чалавека.

Абудзіўшыся, яна абуджае памяць. Яна выдатная мастачка. Карціны мінулага паўстаюць і патрабуюць, прагнуць аднаўлення. Зрэшты, яны тут супольняцца з маім нясмелым жаданнем. Не ўсе, вядома. Толькі некаторыя, найдаражэйшыя... І яна абяцае аднаўленне. А я веру, згаджаешся – з радасцю, як згаджаюся з усім, чым можа быць пасаромлены здаровы сэнс. З усім, што вызваляе з яго сталёвых абцугоў.

У ёй, напэўна, мала супольнага з *apokatastasis*'ам хрысціянскіх мысляроў, больш – з вешчаннямі старых грэкаў. Але – і гэта галоўнае – карціны, якія яна малюе майму ўяўленню, увогуле мала тычыцца лёсаў свету. Што я магу ведаць пра чаканні, мары ці пахацінствы іншых? Не, аднаўленне, якое час ад часу мроіцца мне, выключна мяне й датычыць. Мяне і тых паасобных рэчаў, якія падаюцца істотнымі мне сённяшняму – бо і за сябе будучага я не магу адказваць упэўнена. Усё тут даволі хісткае і няпэўнае, і толькі маё прадчуванне, ці мара, калі яна на момант вяртаецца, пярэчыць гэтай няпэўнасці, змятае яе. Толькі на імгненне. Але яго, кароткага, няўлоўнага, хапае, яно не вымяраецца часам, адно ярчынёю і моцай. І тады я бачу, не – прадбачу. Выразна. Ясна.

Будзе сцюдзёны зімовы дзень. Час – дзесьці па абедзе, ранні́м надвячоркам.

Сівер звыкла прадзьмувацьме вялізны пляц.

Я прыйду да прыпынку загадзя, хвілінаў за дзесяць, каб прачуць гэты холад, надыхацца пахам снегу і вугалю, але не паспець яшчэ дарэшты змерзнуць. Ён запозніцца, толькі на хвілю: заварушыцца, кранецца штосьці пад мостам злева, і сонца заскоча раптам па шкле. Ён пад'едзе, з глухім грукатам, халодны, металёвы, цяжкі. У расчыненыя на колькі секундаў дзверы заскочаць, ускараскаюцца па прыступках нямногія, адзін, два ці тры, не болей. І я буду сярод іх. І мо апроч нас, яшчэ колькі, з торбамі і валізамі – тыя, каму не трэба сюды, – і іхнія твары будуць мне незнаёмыя. Холад сядзення апячэ ногі – бо ацяпленне тут не працуе. І ўсё мяне цешыцьме – скалелыя ногі, холад парэнчаў і седзіва, скразняк, няўтульнасць салону.

Пасля яны выйдуць, канечне, выйдуць, як бывала заўсёды – сюды ім не трэба, – але я пастаўлюся да іх лагодна, без здзеку. А можа, мне папросту не будзе і справы да іх – тут я яшчэ не вызначыўся. *Там* дакладна будзе відаць... Яны выйдуць і годна, без спеху, пойдуць прэч, па сваіх справах, канечне, важных, канечне, вартых. А я паеду далей. І двое ці трое – разам са мной.

Ён пераедзе мост. Лёд пад мостам будзе чорны, тонкі. Перад апошнім прыпынкам, адразу па павароце, ён разгоніцца раптам, і мне падасца, што мы зараз адарвемся ад рэек, падымемся ў паветра.

Ён спыніцца дакладна насупраць, і гаваркая жанчына пасміхнецца, зірнуўшы з кабіны.

Праз расчыненыя дзверы я паволі спушчуся да высокіх брудных сумётаў. Сонца, чырвонае, блізкае да гарызонту, працінаючы марознае паветра, аслепіць на момант правае вока. Трамвай прагрукоча за спінай і аціхне, а снег паглыне рэха. Я падыйду блізка да цёмных сценаў. Марудна, наўмысля стрымліваючы крок. Фарба ўсё ж палупілася сям-там, але не моцна. Вецер будзе студзіць твар. На вузкім драўляным ганку, нядаўна падмеценым, але ўжо ўсланым тонкім свежым снегам – нешматлікія сля-

ды. Хтосьці заходзіў нядаўна. Падняўшыся, я зірну яшчэ раз на зыркае зімовае сонца. Потым пацягну на сябе дзверы.

Знутры дыхне раптоўнай цеплынёй, водарам кавы і цынамону. Я ўвайду, і ў ясным, знаёмым святле раптам убачу ўсё – гэтыя сталы, грубыя, квадратныя, белыя, збітыя з фарбаванага дрэва, высокія, такія ўстойлівыя, усланыя прастакутнымі кавалкамі шэрай грубай тканіны з лёну, прыемнай навобмацак, і белыя крэслы, жорсткія, з простымі і высокімі белымі спінкамі. Насупраць – белую стойку з выстаўленым посудам, мядзяным і парцалянавым, які так выгодна глядзіцца на тле адкрытай чырвона-жоўтай муроўкі.

Іх будзе некалькі – даўно знаёмыя твары ўжо паспелі крыху прызабыцца, але я памятацьму кожнага. Усе пры сваіх занятках. Дзве сталага веку кабеты ціха сумоўнічаюць за другім столікам ад праходу, акурат ля манекенаў, што ў выстаўленай на продаж аўтарскай вопратцы. Мажны мужчына, у навушніках, цемнавусы, кароткабароды – ён універсітэцкі выкладчык і заўжды нагадваў мне С. Х., – апрануты ў камізэльку і з хусцінай на шыі, вядзе звыклыя перамовы з кімсьці ў Ізраілі, праз скайп у маленькім чырвоным ноўце. Ён за першым столікам злева, адразу пры ўваходзе. У прасценку між вокнаў, ля знешняй сцяны – яшчэ нехта, і пара чалавек пры стойцы – дырэктарка, таксама за ноўтам, толькі белым, з правага краю, як звычайна, а па цэнтры фацэт гадоў дваццаці пяці, у паласатым швэдры і штанах з вельвету пясочнага колеру, – агульны ўлюбёнец і сябар усіх барыстак. І адтуль, канечне, нізкі, мужчынскі ўжо голас і ціхі дзявочы смех у адказ.

Музыка нягучная, з ёю тут заўжды ўсё ў парадку. Гэтым разам штосьці меланхалічна-мінорнае – нібы наўмысна запаволеная, збудаваная на паўтарэннях і варыяванні адной фразы мелодыя ў фартэпіяна, і мінімальнае, амаль пуантылістычнае суправаджэнне – гук тут, два там. Бліжэй да вечара, як звычайна, надыдзе пар*а* джазу, я ведаю. Джаз чаканы – я, праўда, зусім не аматар яго, таму ўспрымаю яго выключна ўтылітарна: будучы ў не занадта вялікай колькасці, ён супакойвае нервы.

Мой улюбёны столік побач з уваходам, пры вакне, вольны. Гэта й не столік насамрэч, а частка швейнай машыны, з понажжу і прымацаваным да яе колам. Ногі можна ставіць проста на понаж, гэта зручна, а ціскануўшы, у хвіліну здумення ці проста сабе на забаву, можна прывесці ў рух кола, яно не абы як раскруціцца з часам, гучна і жаласліва скрыгочучы, і тады мужчына ў навушніках адарвецца на момант ад экрана, зірне няўхвальна. Раней я б сумеўся, але гэтым разам мяне цешыцьме ягоны позірк; пазнавальны, ён выдатна ўкладаецца ў звыклую мне карціну тутэйшага жыцця – ну, натуральна, мусіць жа быць ціха...

Я замоўлю, як звычайна, амерыкана, мігдалавае печыва і шклянку цёплай вады, і хутка мне прынясуць – каву ў квадратнай філіжанцы, кукіс на белым сподку, белую цукарніцу з рафінадам, маленькія абцужкі да яе і танкасценную невысокую шклянку, па край поўную.

Я раскладу паперы, дастану аўтаматычны аловак у сіне-чорным корпусе, гумку. Падняўшы вечка цукарніцы, з цяжкасцю ўхаплю абцужкамі па адным два кавалкі. І буду глядзець, як маленькія бурбалкі падымаюцца на чорную, з пенкамі па краёх паверхню. Можна не размешваць – тутэйшы рафінад распушчаецца дарэшты, без найменшага ўдзелу лыжкі, – але я размяшаю, адно каб пазнаць гэты, нідзе больш не чуты, дзвон.

Адна са знаёмых дзяўчын, за размовай, акурат пачне мыць посуд.

Недзе тут, у шчыліне між цаглін пад вакном, я пакінуў некалі шматок паперы з парай літар, бо манетаў тады не было, – няблага было б зараз знайсці.

Але я лянуюся. Ці проста не хачу засмуціцца, калі раптам не знайду.

Ціха пагойдваючы нагою понаж, я глядзецьму праз высокае акно ўдалеч, у спакойную, сінюю смугу.

Потым запаляць святло.

Я буду пісаць. Тут заўжды гэтак добра пішацца. Як нідзе і ніколі. Нота пры ноце, радок за радком.

Калі зусім звечарэе, а шостай, я на колькі хвілінаў выйду вонкі, адпачыць. Выйду ў марозную цішу. Дзверы звыкла бразнуць на спінай. Вецер ужо аціхне. З чорнай пашчы неба падацьме снег. Святло з дзвярэй, праз шкло, будзе цьмянымі жоўтымі квадратамі класціся на збялелы ганак, на рэдкія сляды чыіхсьці ног – а, так, гэта ж мае. Амаль не відаць ужо... Я ціха спушчуся на ходнік, да дрэваў. І смутны неспакой, які зноў, як даўней, абудзіць ува мне выгляд гэтых знаёмых, на памяць вывучаных сценаў, роўныя лініі ваконных проймаў, выразны нават у паўзмроку малюнак муроўкі і чорнае, недзе там, па-над мурамі, па-над снегам неба – гэты неспакой будзе мне па-ранейшаму салодкі, па-ранейшаму шукацьме выйсця, і зноў не знойдзе. Бадай, я буду шчаслівы тым часам. Задраўшы галаў, глядзецьму ўгару, на рэдкі снег у святле ліхтара над прыступкамі, і буду сачыць, як ён п*а*дае, балазе, яго будзе добра відаць на фоне цёмных цагляных сценаў.

Потым, зрабіўшы некалькі крокаў вакол ганка, я звыкла, і разам з тым, нібы зноў упершыню, зазірну за рог і ўбачу знаёмыя, нізкія, усланыя беллю пагоркі і ўжо яснае неба над імі, чорнае, зорнае.

А пасля вярнуся да ганка і без спеху, даючы сабе дарэшты праняцца холадам, падымуся па ладна пазбіваных прыступках. Чорная, з аблезлай сям-там фарбай парэнча апячэ счырванелую ад марозу далонь. Рыпне малады снег пад ботам. Я пацягну на сябе дзверы і ўвайду ў цяпло...

...Бздура, скажа здаровы сэнс. Магчыма, і так. Прынамсі, я не стану пярэчыць. Спрачацца са здаровым сэнсам – адно нервы псаваць. Я прамаўчу.

Але ведацьму адно.

Калі штосьці, укладзенае ў дзіўны, незразумелы спосаб у самае нутро маёй натуры – штосьці трывожлівае, шчыльна павязанае з памяццю і фантазіяй, – час ад часу заклікае да пільнага ўзірання ў рэчаіснасць, у пошуках адзнакаў даўняга, шчаслівага часу, калі ёсць найменшая мажлівасць, хоць бы ва ўяўленні, дазволіць нечаму, лепшаму ўваскрэснуць на момант, пражыць яшчэ некалькі імгненняў жыцця, то ці не варта рызыкнуць? Адсунуўшы ў бок здаровы сэнс, паверыць і даверыцца гэтаму ледзь чутнаму, але выразнаму і настойліваму поклічу, захаваць надзею...

Каб не толькі штосьці, найбольш каштоўнае з захаванага ў памяці, мела шанец аднавіцца і хоць бы на час увайсці ў моц, але каб і тое, чаго няма, – і тыя, каго няма – займелі б магчымасць быць, зноў і зноў, гэтак жа яскрава і пераканаўча, як і раней – а мо і йначай, на свой густ і паводле ўласнага жадання.

## СіДзі Райт



...унутры мяне
чужаніца сцірае калені
аб частакол маіх рэбраў...

# Уяўны жнівень

*СіДзі (Кэралайн) Райт нарадзілася ў 1949 годзе ў горадзе Маўнтын-Хоўм, Арканзас. Яна выдала больш за дзясятак кніг вершаў. Перад тым як у 1983-м перабрацца на Роўдайлэнд, Райт правяла значны час у Нью-Ёрку і Сан-Францыска, дзе выкладала ва ўніверсітэце Браўн. Разам з мужам, паэтам Форэстам Гандэрам, яна заснавала невялічкае выдавецтва Lost Roads Press і больш за 20 гадоў кіравала ім. У 2013 годзе яна была абраная рэктаркай Акадэміі Амерыканскіх Паэтаў.*

*Кэралайн Райт была ганаровым паэтам на фестывалі ў Славеніі, куды я таксама была запрошаная. Там мы і пазнаёміліся. Лета, віно, паэзія, паэзія, паэзія...*

*У лютым 2016 года я напісала Форэсту, мужу Кэралайн, паколькі мы дамаўляліся абмеркаваць пераклады маіх вершаў. Ён адказаў, што цяпер не лепшы час, бо ў студзені Кэралайн памерла. У гэта было цяжка паверыць, яе смерць стала нечаканасцю для ўсіх.*

*Таму сёння для мяне вялікая адказнасць прадставіць вершы Кэралайн.*

**Вольга ГАПЕЕВА**

*Пераклад з ангельскай Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

*Фота Форэста ГАНДЭРА.*

## ПОЛЫМЯ

| | | |
|---|---|---|
| подых | дрэвы | мост |
| шлях | дождж | бляск |
| подых | лінія | скура |
| вінаграднік | агароджы | нага |
| вада | подых | зрух |
| валасы | машына | плячо |
| подых | сцежка | штрых |
| падкладка | гадзіна | прычыны |
| імя | адлегласць | подых |
| водар | сабакі | цьмянасць |
| лёгкія | подых | пяльчатка |
| сігнал | паварот | патрэба |
| крокі | святло | дзверы |
| рот | язык | вочы |
| апёк | апячы | апячыся |

## СТАРЫ З САБАКАМ

ідзе на пагорак
у цяжкім паліто
да дому састарэлых
прычасаць белыя пасмы
жонкі,
бурчыць,
72 гады,
не тое, на што
разлічваеш
праз 72 гады.
Есць каля пліты
у сваім цяжкім паліто.
Глядзіць тэлевізар.
з сабакам.
72 гады
на вяршыні
гэтага чортавага пагорка.
72 гады
ён цікавіцца ўголас:
Што мне рабіць?
Як мне жыць?

## ВЕРШ НА НАДЫХОД ВЕЧАРА

сабака прыходзіць да брамы
другі дзень запар
на фоне бруднага персікавага неба
самотная  машына  калываецца ў бок сонца

* * *

Мэк злавіў павука
Пасадзіў у слоік з-пад перцу
Назваў яе Айрыс
Карміў спайманымі прусакамі
Ён любіў Айрыс
Калі Айрыс памерла
Ён напісаў ёй ліст

## *ЗА НОЧ ДА ВЫКАНАННЯ ПРЫСУДУ*

жанчына едзе ў аўтобусе
на каленках мех з чорнымі яблыкамі.

Аўтобус буксуе на затоцы.
Яна выцягвае з меха нож, кідае яго ў ваду
напалову раскрытым

як вочы адваката
які месяц быў у запоі.
Больш за месяц.

Ён праплывае ў сваім чоўне.
І калі ачуньвае, возера –
чужы гарнітур, у гаманцы –
здымак чужой жонкі.

Жанчына чакае пакуль усе выйдуць
перад тым як выйсці самой.
Яна прыбірае валасы шпількамі.

Асуджаны расцірае рукі
думаючы пра тую
з якой быў калісьці жанаты.
Пад койкай рукой ён намацвае халодны дрот.

Яна падымаецца атрэпваючы адзенне,
мех прарываецца.
Рассыпаныя ў праходзе яблыкі яна не збірае.

## *УТОПІЯ*

Унутры мяне
сабораў няма
нават у скляпеністых калідорах
дзе ты думаў сустрэць
нейкую благаслаўлёную душу

вызваляючы клетку з галубамі
ёсць адно скляпеністыя калідоры.

Унутры мяне
час бруду,
з брудам з’яўляюцца мухі і жамяра
за якімі – час пякельнага сонца;
з сонцам з’яўляецца прахалодны пакой
дзе з мэблі – падлогавы вентылятар, друкарка.
Пакуль не зайшло сонца я пішу потым хаджу
часта падоўгу
шукаючы схаваныя крыніцы, лекавыя зёлкі
або не шукаючы бласлаўлёнае нешта.

Унутры мяне
чужаніца сцірае калені
аб частакол маіх рэбраў
нехта, хто мог быць народжаны няўдахам,
валацуга згорбіўшыся над пенаблокам
кідае камень у кучу смецця,
нехта хто мог злавіць і парвацца
як пластыкавы пакет на драцяной агароджы

Але за межамі гэтай зоны
з кучы пакрышак і жалезных бочак
паляна прымае ў госці самотнае дрэва;
там дзе ты думаў, што натрапіш на
лёзы сталёвага святла або там дзе
ты думаў будуць галубы збірацца
глебы хапае і крыві дастаткова
і насення хопіць толькі для аднаго дрэва.

### *УЯЎНЫ ЖНІВЕНЬ*

Калі стаяць нерухома. Нават у тагачасныя гадзіны
марнення. Валасы дасюль. Жывым і ціхмяным.
Можна забыцца пра сабе. Забыцца тое,
што ніхто нават не пазнаваў.
Лютаваць. Падсвядома. Можна
выбіраць шчыглікаў
і жалобніц сярод памерлага цыб’я сусвету,
а праз роў шэрых сцёкавых вод якімі арашаюць
могільнік, малады чалавек пад дрэвам
што квітнее так позна
фатаграфуе нас.



пераклады

Ежы Плютовіч



...не варта
будзіць памерлых...

# Бяссонне

* * *

восень восень чую праз сон
ноч цёплая як камяністая дарога
прысутнасць – мая прафесія
тут нікога няма хто гэта ніхто

адна стужка паветра на гартані
хто гэта ў люстры праз сон
адзін ліст адно вока ў супе
адзін дом у небе адзін чалавек

гэтая гульня як байка
у чатырох сценах смерць народзіць яйка
паветра поўнае іржы на вуснах
паветра поўнае сну ў лякарствах

* * *

Мястэчка, напрамак, бяздонне. Ціша перад бурай.
Не пабачыш святла. Яно з лёду. Вакол лёд.

Не пабачыш ценю. Усюды вугаль.
Вугаль з затопленага лесу.

Вецер гуляе з зялёным лісцем. Белы голуб
віруе на даляглядзе.

Разразае крылом неба.
Прачынаешся ў глыбокай прорве.

* * *

усё гэта сон
і ключ да парога і акно без ключа
і святая праўда ў кепскі сезон прыліву
кожны спаліць у сабе раманычны вузел
кожны чалавек нараджаецца ў гэтую хвіліну

яшчэ урна каб зачэрпнуць крыху памяці
або жанчына
з вейкай у воку і граніцай смерці
з халоднай вячэрай як медыум

і гэта простая справа
быць гэта значыць вокам свяціць
і нічога не праспана
усё ёсць на час

* * *

Не знаеш свайго часу. Называеш прадметы,
выклікаеш святло, я бачу твой знак.

Гладзіш валасы, люстэрка ўцякае з далоні,
забываеш адрас, імя, знішчаеш фатаграфію.

Сляды зараслі ценем. Мястэчка лунае
ў хвалях вечара. Попел у вачах. Смерць.

Праспаць сваю смерць. І прачнуцца
пад новым небам. Дачакацца твайго вяртання з пекла.

* * *

Ад’еду, каб ніколі не вяртацца
укіну ў агонь ліст і шыфр.

Святло прыкрыю мёртвым ценем,
разаб’ю люстра, знішчу ўсё.

На грэбені зайграю танга. Зачыню акно,
дзверы, схаваю ўсё. Пекла.

І расплывуся ў імгле, і троп згублю.
Калі хочаш, выратую цябе. Падарожжа ёсць карай. Сном.

І прыйдзе маўчанне глыбокае, як сон, сон сноў
залатое маўчанне, блакітнае, зіхоткае.

Павуцінне невідочна расшпіленае паміж абсалютным змрокам
і тваім ценем, ценем, жэстам, тваёй згодай.

А мо гэта ўсё мяжа святла, месца ўцёкаў
твайго нясмелага позірку. У святле, пад святлом

мо гэта будзе яснасцю, можа думкай,
ляцелай у агонь. Домам, дымам, попелам, іржой.

*Пераклала з польскай мовы Надзея АРТЫМОВІЧ.*

## *БЯССОННЕ*

Сон пра скананне свету ў доме, які збудаваны
з ценю, які збудаваны з чыстай ідэі, да якога

вядзе сцяжына, стромая сцежка прошлага часу.
Які збудаваны пад небам, дзірванам, нябеснаю пусткай.

Камень, а можа крышталь, кімсьці, без твару,
без імені, кінуты ў шыбу акна, начнога акна. Што

робіць лямпа? Яна асвятляе выспы змроку, асвятляе
крыло ценю, якое кружыць над домам. Начны

смак вады з-пад крана. Нібы тая ртуць з разбітага
градусніка, распад, іржа. Так, быццам гадзіннік разрэзаў

валокны часу. Так, быццам у вока да прышлага трапіў
быльнёг.

### ДЗЯЦІНСТВА, ДЗЯЦІНСТВА

Абудзіла нас рыпенне сходаў на страсе
– нібыта спускаўся па іх валадар месяца.

Алфавіт сну ясны й звязны, быццам прысуд. Вечна
вяртацца. Дом, збудаваны з плачу. Колькі трэба

заходаў, каб захаваць мелодыю – музыка быццам
вострая брытва... І мы агалялі целы, і мы стваралі

свет у чыстым небе. І пісалі вершы
ўзвеямі дыму ў ветры. Мы існавалі...

### ЯРМО

Тут будзеш вечна адкідваць пасму
з ілба і вывучаць адбітак у люстры.

Гэта той самы дом, той самы свет. Гаспадарка
нязносна рэальная. Яе напаўняе галас, шолах

знакаў. Шуфляда стала, такая прыдатная для
захавання скарбаў думкі, скарбаў часу.

Тыя самыя дзеі, якія ўгадаеш у гульнях
ценяў. Усё нерухома, нібы й нарадзіўся, каб

ярмо валачы – ярмо арлекіна, ярмо дурня,
ярмо самоты.

### ЗАДУШКІ

Спынішся ў цэнтры мястэчка. Свята
памерлых. Як ціхутка сцелецца дым. Раптам

забываеш думку. Цікуеш за белым птахам,
які ляціць, абганяючы хмары. Святы птах.

Думаеш пра вандроўку, якую зладзілі дзеці
– пацешныя й грэшныя – вандроўку ўглыб прыроды.

Не варта будзіць памерлых. Вось чалавек у масцы,
што прырасла да твару. Вось свята.

### СТЭРЭАМЕТРЫЯ

Рэзкае святло – прыкладзі да вока вільготную
Хустачку. Так, нібы разышлася зямля,

Нібы аддзялілася банальная рэч ад яе люстравання
ў вядры з вадою. Як быццам лопнула лінія

перспектывы – фатальнае вынаходніцтва Рэнесансу.
Запомні прыгожы шар, што з’явіўся

з мораку стэрэаметрыі, пырснуў, як мыльная
бурбалка. Так, нібы ўгледзеў садовую

сцежку, якою пойдуць нашы памерлыя; нібы
адчуў трымценне ідэі ў кожнай цягліцы

і ў кожнай костцы. Хто сыпануў жменю жвіру
ў фортку: блазан, паліцыянт, выкрадальнік часу?

### СВІТАНАК ПЕРАД АД’ЕЗДАМ

Спознішся на цягнік. Валіза раскрытая, як
чорны туліпан. Чуеш скрозь сон, як па

лінолеуме ў кухні прабягае голы сынок,
ці то мыш, ці то промень святла, ці то

чорт, чорцік. Гэты дом, падобна, не для
жыцця. Калі жыццё — лёгкае, як адбітак

у люстэрку безназоўнага свету, як дотык
пасмы валасоў. Як палёт мятліка — да

язычка свечкі. Як пытанне, на якое
хочаш пачуць адзіны ў свеце адказ.

Калі кожная рэч, складзеная ў валізу, займае
сваё дакладнае месца. Каб тое месца страціць.

### У ПАЎДЗЁННЫМ СВЯТЛЕ

У паўдзённым святле просіш спакою,
хоць бы для гэтай пары старых, што на

лаўцы па сонечным баку, для гнязда
варон на дрэве без лісця. Пад шатамі дрэва

стаіўся злосны сабака. Паспешліва абмінаеш
кола, выведзенае на сцежцы ў пяску,

нібы цыферблат, якім вымяраюць
атручаны час. Прыслухоўваешся: гэты ўзвей

ветру, гэтае слова з гучаннем разрыву
паперы. Гэты твар, што высунуўся нібыта

з горшай нейкай прасторы, а не з акна
на паверсе. Тое, што ўдыхаеш, ёсць паўдзённым

паветрам, а можа, эфірам, што ўначы
напаўняецца пусткаю космасу. Гэтыя людзі

пачуваюцца атручанымі. Атручаныя чым,
калі не знішчальнай ідэй, чым, калі не

танцам смерці?

*Пераклаў з польскай мовы Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ.*



Язэп Драздовіч



...раблю гэта не дзеля забавы...

а дзеля навукі...

# Касмічная адысея Язэпа Драздовіча: малавядомыя тэксты

*Падрыхтоўка публікацыі – Ліі КІСЯЛЁВАЙ.*

*Захаваныя ўсе моўныя і асноўныя арфаграфічныя асаблівасці арыгінала.*

*Язэп Драздовіч вядомы перадусім як мастак, ягоная літаратурная спадчына засвоена значна менш. Многія тэксты дагэтуль не публікаваліся і вядомыя хіба спецыялістам. Тое тычыцца, напрыклад, некаторых рукапісаў Драздовіча, якія захоўваюцца ў Вільні, у бібліятэцы Акадэміі навук Літвы (у зборах Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча). Сярод іх вылучаюцца некалькі сшыткаў і дзве адмыслова аформленыя Драздовічам самаробныя кніжкі (з прыгожымі, выкананымі ў стылістыцы дыванoў-маляванак пераплётамі), дзе апісаны яго «начныя візіі» – «самнамбулістычныя» (як ён іх называў) падарожжы ў космас.*

*Гэтыя рукапісы датуюцца 1932–1933 гг. У той час Драздовіч пасля звальнення з Наваградскай беларускай гімназіі жыў у Вільні. Сталай выкладчыцкай працы, на якую ён спадзяваўся, тут не знайшлося, толькі зрэдку ўдавалася крыху падзарабіць на афармленні кніг і часопісаў. Але, як гэта часта здаралася ў*

*лёсе Драздовіча (і не толькі ў ягоным, між іншым), цяжкія жыццёвыя варункі далі надзвычайны творчы плён. Беспрацоўны Драздовіч меў цяпер дастаткова часу, каб нарэшце заняцца тым, што здавён вабіла, зачароўвала яго. Ён распачаў сваю вялікую касмічную Адысею.*

*Цэлымі днямі Драздовіч сядзеў у бібліятэцы, занурыўшыся ў кнігі па астраноміі, пісаў тэарэтычныя працы (накшталт «Нябесных бегаў», якія ён здолеў выдаць), дзе выкладаў уласныя, часам даволі экстравагантныя, касмаганічныя гіпотэзы. А начамі абстрактныя тэорыі і гіпотэзы ўвасабляліся ў яву-сон. Са свайго цеснага няўтульнага пакойчыка на паддашку Драздовіч выпраўляўся ў далёкія падарожжы – на Марс, Сатурн і Месяц, дзе бачыў чароўныя краявіды, разглядаў неверагодныя расліны, жывёл, наведваў нязнаныя краіны, гарады і назіраў жыццё тамтэйшых жыхароў.*

*Пасля ён скрупулёзна фіксаваў усё ўбачанае: запісваў і замалёўваў. Драздовіч не сумняваўся ў абсалютнай рэальнасці сваіх «візіяў». Вяртаючыся з начных касмічных вандровак, ён перагортваў кнігі па астраноміі – шукаў і ў большасці выпадкаў знаходзіў там пацвярджэнне ўбачанаму ў снах. Ягоныя тэксты – не навуковая фантастыка з выдуманымі дзівоснымі персанажамі і захапляльнымі сюжэтамі, а дэталёвая дакументацыя яго астральных экспедыцый. Драздовіч надаваў сваім замалёўкам і нататкам з касмічных падарожжаў не толькі (і нават не столькі) мастацкую значнасць, але перадусім навуковую. Ён пісаў: «Раблю гэта не дзеля забавы... а дзеля навукі. Хто гэтаму не верыць, хай праверыць праз тэлескопы, і я пэвен, што бальшыну таго, што мной апісана, убачаць як на далоні». Сапраўды, няхай тыя, хто не давярае Драздовічу, поркаюцца з тэлескопамі, а мы можам проста пабачыць космас вачыма мастака.*

**Лія КІСЯЛЁВА**

# Жыцьцё на плянэце Сатурне

## Самнамбулістычна-тэлевізійныя[1] эскізы

***Урыўкі з рукапіснай кнігі***

## Жыцьцё на асяродкавым кружніку Сатурна

***На Брылявіку[2]***

...У старане, на ўсход сонца ад мяйсцовасьці з «чырвонай абсэрваторыяй», я апынуўся ў нейкай будоўлі, нутро якой прастаўляла зь сябе, як па ўсяму відалася, нейкую, бадай што, хімічную фабрыку.

Вузкаватая, зь белымі мураванымі сьценамі. У канцы гэтага памяшканьня – вялікае квадратовае акно. У правай сьцяне ўваходныя дзьверы. А левая сьцяна ўся спрэс глухая і занятая нейкімі сівымі мэталёвымі, як бытцам цыноўнымі[3], дудкавымі трубамі. Зьнізу, каля падлогі, у сьцяне відаліся ўпраўленымі ў яе нейкія кавальскія горнавыя мяхі. Крыху вышэй, як у аршын ад падлогі, у некалькі мяйсцох на аднолькавай вышыні вытаркаліся са сьцяны канцы таўстых труб, як у пядзю перак[4] таўшчынёй, з каленамі, ад якіх расходзіліся і ўдоўж, і ўвыш сьцяны, аж пад столь, нейкія нятоўстыя, як у цэўку рукі таўшчынёй, зь сіваватага нейкага мэталу, круглыя трубкі, якія перахадзілі [ад] аднаго да другога калена таўстых труб ложма. Але бальшына зь іх узьнімаліся па сьцяне стоць[5] угору, дзе, загнуўшыся каленам, ухадзілі ў сьцяну.

Жывых істот, працуючых тут, пры гэтых снасьцях, я ня бачыў. Па сьвету з вакна адчувалася, што ўжо вечарэіць.

***

А празь некаторы час я апынуўся яшчэ недзе, у нейкім муры, які як бытцам знаходзіўся дзесь непадалёку «чырвонай астранамічнай абсэрваторыі» і замыкаў у сабе як бытцам нейкую ці то наглядную, як для глуханямых, прадметавую школу, ці то проста дом нейкіх рамесьленых майстровень.

***I***

Перш-найперш я апынуўся ў нейкім як з добрую хату велічынёй, з рудымі, знаць, аблепленымі глінай сьценамі памяшканьні. Тры сьцяны гэтага памяшканьня былі безваконны, толькі адна з чатырох, правая, сьвяціла двума шырокімі вокнамі. Кругом памяшканьня каля самых сьцен прахадзілі нейкім прымуркам аршыновай вышыні і шырыні гліняныя лавы. Насупраць аднаго з вакон у пярэрве гэтай рудой глінянай лавы стаяў цёмнамэталёвы з гладка-бліскучаю паверхняй нейкі куб, у родзе нейкага кавадла чыста кубічнай формы аршыновага памеру.

Сьцены гэтага памяшканьня былі высокі і ўтваралі зь сябе ўгарэ нейкае купалавастае скляпеньне, з асяродку якога зьвешаваўся агромністы чорны навес, які ў нас бываець над вялікімі кухоннымі печамі.

А пад тым навесам нанізе – як нешта страшэннае, сажнёвай даўжыні і паўсажнёвай шырыні ды каля аршына глыбіні прастакутная агнявая яма з жарам ды з поламем агню на асяродку.

А кругом гэтай агнявой ямы невысокая, але шырокая рудая гліняная лава з прыступкам.

А на гэтай лаве стаяў нейкі чалавек у даўгой цёмна-сіняй палатнянай кашулі, з падалом ніжэй кален і са швамі на грудзёх, плячах і рукавах у дробныя заборачкі, сшытай «пад гестку».

Адабы[6] гэтага чалавека дэтальна разгледзець не давялося, але ягоныя белазагарнага колеру ногі і рукі выразна разгледзеў.

Ён стаяў на шырокім прыступку тэй глінянай лавы, што акружала агняную яму, і трымаў у сваіх цянклявых даўгаватапалых руках нейкі даўгі круглы шост і напякаў яго ў поламі агню. Шост гэты, як аказалася па выгляду ягоных канцоў, пазагінаных у калены, быў дудкаватым і прадстаўляў зь сябе цынавастага выгляду, з раней бачаных, мэталёвую трубку ад нейкага перагоначнага апарату.

З-пад падала ягонай цёмна-сіняй кашулі відаліся ступні босых ног, якія зусім мала чым розьніліся па выгляду ад ступнёў нашага зямнога чалавека. Уся іхная асаблівасьць хіба толькі ў тым, што яны абладалі пры пласкаватай падашве шмат больш выцягнутыя цянклява-даўгавацейшыя, як у нас, пальцы, а асабліва большы. А рукі з худашчавейшымі далалёвымі часьцямі ды як быт[ц]ам з даўжэйшымі пальцамі, як у нас.

Ягоныя рукі і ногі зусім ня сьведчылі аб тым, што я бачу, знаходзячыся дзесь на іншай плянэце, а не на нашай зямлі. Але, прыгледзеўшыся добра да твару другога чалавека, які тут жа, у гэтым самым памяшканьні, зьявіўся і заняўся, як відалася, цісканьнем паддувальнага гарнавога кавальскага меху, прыстроенага на нейкіх рамах угарэ каля ваконнай сьцяны, – я перакана ўся, што ўсё тое, што я тут бачыў і бачу, у запраўднасьці ж ня нашае зямное.

Чалавек гэты быў апранут у такую ж самую цёмна-сінюю кашульную блюзу, як і папярэдні. Ростам ён быў невысок, але грудзіст і досыць плячыст. У паўнаватым, безмаршчлявым, з акругленымі шчокамі, белазагарнага колеру твары сваім меў нешта агульна свойскае, эўрапейскае. Нос меў і не даўгі, і не кароткі, умяркована акруглены. Чало высокае, выпуклястае і ўгору як бытцам крыху шырэйшае, чымсь у аснове. Надброўныя дугі палукругамі, вусны ўмяркованыя, валасы, якія былі падстрыжаны па каўнер, і барада зь не курчавістага, а гладкага воласу, да паўгру[д]зей,



*Фантастычная кампазіцыя. 1930-я. З серыі «Жыцьцё на Месяцы». Палатно, алей. 70x115,5*

былі сьветлымі, як добра адбелены лён, а вочы – вочы зусім нянаськія, буйнаватыя, круглыя, круглаарбітныя, як бытцам зусім безрухомых да сплюскаваньня павек і безь ніякіх прызнакоў кругом каляровай вясёлкі бялкоў, – як бытцам савіныя вочы. Але выраз гэтых ягоных воч, як і выраз міны цэлага твару ягонага, быў ня толькі ня страшным, ня дзікім, не адпіхаючым, але нават прыемна-сымпатычным, дабрадушным, вясёла-жыцьцярадасным, ад якога веяла шчырай прастадушнай дабратой і бадзёрасьцю духа.

Яшчэ адна дэталь – побач зь ягонай досыць рослай барадой, бадай што, зусім ня мелася вусоў, а калі яны і былі, то вельмі слаба прыкметнымі, вырастаючымі толькі з-над куткоў проразі губы, і то малазначна.

Бачыў, як ён работаў, – то ўніз, то ўгору ўзьнятымі рукамі, учапіўшыся імі за нейкія прыробленыя да кавальскіх мяхоў рукаяткі, мяхі ўверсе, якія былі падобны да мяхоў гармоніка, то падымаліся, то апускаліся, а ягоныя рукі так лёгка і хутка хадзілі, што аж мігцелі. А на твары ягонай малявалася нейкае радаснае маральнае самазадаволеньне ад гэтых праворных рухаў у працы.

На твары ягонай адбіваліся ад вакна сьветла-жаўтавыя ці нават зелянькавыя плямы сьвету, а ад гарнавога агню – чырвоныя.

А па-за ягонымі плечмі ў глінянай сьцяне рысаваліся раней не заўважаныя мной дзьверы з шырокімі шэрымі вушакамі, на якіх былі выразьбаваны рэльефам нейкія загадковыя тры ўмоўныя знакі, адзін пад другім[7], як нешта ў родзе літар.

***II***

На парозе тых дзьвярэй зьявілася досыць стройнай будоўлі цела, цянклявая, цыблястая, круглалікая і цёмнавокая, убраная ў чорную сукенку з рэдкімі вузенькімі белымі адвеснымі палоскамі на ей, – нейкая, як відалася па ейнаму выгляду і рухах, дарослых лет дзяўчына. Яна з жывымі элястычна-лёгкімі рухамі адчыніла гэтыя дзьверы і сама зьнікла за імі, пазастаўляючы іх адчыненымі, празь якія відаўся нейкі сьветлы беласьценны пакой, асьветлены вялізным квадратовым вакном з правага боку.

І адчувалася, што і я таксама сьледам за ўвайшоўшаю ў гэты пакой – таксама апынуўся ў гэтым пакоі і пачаў яго аглядаць. Усе сьцены гэтага пакою былі завешаны квадратовага фармату, велічынёй як у аршын, белафоннымі, рознакалёрнымі, асаджанымі ў вузенькія (ценкія) рамы, – нейкія палыскуючыя[8] малюнкі.

Сярод пакою стаяў невысокі, як у мэтар вышынёй, чалавечы шкілецік, а каля яго – такой жа самай вышыні фігуры людзей, бяз скуры, з чырвонымі цягнічамі ды бледнымі сухажыльлямі, адзін зь іх стаяў перадам, другі – задам, а трэцьці – бокам. Але, калі я іх пачаў з усіх бакоў аглядаць, то ўсе яны аказаліся ценкадошкавымі манэкенамі, малёванымі з двух бакоў. З аднаго боку выпілаваны

з дошкі шкілет вымаляваны з выглядам пераду, а з другога боку – з выглядам ззаду. З аднаго боку чалавек бясскуры перадам, а з другога боку – у раскроі, з усімі нутрамі і г. д.

А на тых малюнках, якія былі на сьценах, відаліся гладка вымаляванымі на белым фоне пааддзельныя анатамічныя часьці чалавечага арганізму, зь якіх асабліва кідаліся ў вочы колер і форма ў павялічаным выглядзе чалавечага сэрца.

Малюнкі гэтыя, як відалася, былі, бадай што, ручной гладкай работы на гладкіх ценкіх дошках і эмалёвымі палыскуючымі фарбамі.

Доўга не затры[м]ліваючыся ў гэтай салі[9] анатоміі чалавека, не даўгэй як на чвэрць мінуты, – я апынуўся па суседзтву, празь сьцяну, у другой.

***III***

Наступная невялічкая саля мела нейкага папялятага колеру сьцены, столь з мураванага скляпеньня са стаўпавымі мураванымі падпорамі. А паміж гэтых падпор стаялі нейкія не высокія, але шырокія (вышынёй каля мэтру, а шырынёй каля трох), папялятыя, валавяністага выгляду мэталічныя бляшаныя засланкі.

Адну з такіх засланак нейчая вузкадалоністая ценкапальчатая рука адсунула ўбок і адсланіла перада мной некалькі даўгіх, каля сажню даўжынёй, шкляных скрынь. Скрыні гэтыя складаліся са сьцен і века з агромнага вітражнага шкла, змацаванага ў кантах валавянымі рамамі.

А нутро гэтых скрынь было напоўзапоўнена празрыстаю вадой, у якой плавалі рыбы.

У аднэй з далейшых скрынь відалася, як краталася, плывучы, трымаючыся дна скрыні, нейкая шэрая, непрыгожая, тупамордая, як сом, даўгая і касматая, як кітайскі дракон, рыба аршыновай даўжыні.

Але ў пярэдняй скрыні плавалі адна за аднэй кружка дзьве рыбіны велічынёй зь ляшча – вельмі ж прыгожыя. Па форме складу цела, агулам, яны прыпаміналі нашага рачнога акуня, але ў дэталях яны мелі свае асаблівасьці. На сьпіне іхнай, як на піле, прахадзілі ад галавы аж да хваста нейкія ружовыя зубцы, а на баках блішчэла буйная луска, яка[я] пры паваротах да сьвятла мянялася ў сваіх колерах і здавалася то ружовай, то чыста залатой.

***IV***

Скрозь адчыненыя дзьверы, мімаходам, відалася нейкая як бытцам майстроўня, ці то пральня, ці то ткальня нейкая, у якой відалася мількам некалькі асоб, седзючых каля вакон, з-пад рук якіх сноўдаліся наніз нейкія ніткі.

***V***

Апынуўшыся ў салі нейкай, асьветленай зь левага боку вокнамі, я зьдзівіўся: усе сьцены гэтай салі былі ці то абцягнуты, ці то ўвешаны разнакалёрнымі, з прыгожай, не геамэтрычнай, а крываконтурнай арнамэнтацыяй, дыванамі.

Падлога, на якой заўважаліся нейкія прыступкі бытцам нейкай эстрады, таксама былі ўсланы гэтымі дыванамі з аксаміцістай паверхняй.

Колер у арнаментацыях гэтых дываноў складаўся пераважна з чырвона-вішняватых, чырвона-аранжавых, індзігаваста-сініх, цытрынова-жоўтых плям ды выкрывястых палосак бяз строгага парадку.

На асяродку салі тэй зьявіўся нейкі цянклявы высакаватага стройнага росту чалавек, апрануты ў чорную кашулю з вузкаватымі рукавамі і даўгім падалом ніжэй калень. У твары, якога не давялося дэтальна разгледзець, толькі агулам, быў сухарляў і даўгаваталікі. У рухах сваіх ён быў элеганцен. А на цянклявых руках ягоных кідаліся


*Цырк Платона. Гара Сігнал. 1932. З серыі «Жыццё на Месяцы». Папера на кардоне, туш, пяро. 16,4х19,1*

ў вочы надта ж даўгія да палавіны загарнага, а ў канчатках белага колеру вастравыя пальцы. Але, прыгледзеўшыся добра да ягоных рук, аказалася, што ягоныя пальцы не былі ўжо так доўгі, а звычайнымі, як і ў нашых людзей, толькі даўжылі іх доўгаадрошчаныя белыя, чыстыя, роўныя і гладкія вастракаватыя пазногці.

Чалавек гэты ўстанавіўся на асяродку ўсланай дыванамі салі, разьвёў выцягнутымі ў бакі сваімі цянклявымі даўгаватымі рукамі, бытцам паказаваючы імі на завешаныя дыванамі сьцены, а пасьля гэтага бытцам паказаваючы недзе нешта некаму на мігі, абертануў некалькі раз у паветры рукой каля рукі, бытцам зьвертаваючы нешта плоскае ў трубку, і бытцам некуды зьнік, а на падлозе і з прыступкаў, якія вялі да нейкай катэдры, пацягнуліся, папаўзьлі багатаўзорыстыя аксаміцістыя дываны ў бок сьцяны з вокнамі, дзе, як відалася, нехта пачаў іх сьцягваць і, знаць, зьвертаваць іх у трубы.

На гэтым віджанае мной і закончылася.

А аб усім віджаным у гэтым доме і аб прадназначэньню гэтага дому хай паважаныя чытачы судзяць самі.

## Жыцьцё на верхнім кружніку Сатурна

### *На Брыжавіку*

У адказ на маю зацікаўленасьць: «Ці ёсьць на гэтай дзіўнай міжпропаснай[10] зямлі, апрыч чалавека, хоць якая ды небудзь жывёла?» – мне здалося, што як бытцам я знаходжуся ў адным з прыгародных дамоў таго надпропаснага вялікага гораду, які абнесен ад пропасьці бесканечна даўгой чырвонай сьцяной, ды й бачу, перш-найперш бачу пры нейкім бытцам месячным з вокан сьвятле абстаноўку гэтага дому – нізкаватыя цёмна-чырвоныя сталы і зэдлі. Сталы блішчэлі нейкім глянсам, а формы іхнага выгляду былі зусім непадобныя да нашых, яны не былі ані квадратныя, ані прастакутныя, ані круглыя ці накаліста[11] акруглястыя, а ў розных напрамках з рознымі выкрайкамі, так, каб пры сяданьні за стол можна было за ім на розныя позы выбраць сабе мейсца ў ягоных выкрайках.

На адным з такіх сталоў стаяла нейкае цёмна-чырвонае глязурованае, знаць, глінянае начыньне, нешта ў родзе нашых конавак, глякоў ды цукерніц – з рознымі на іх фалдованымі водціскамі форм дзеля прыгажосьці. А паміж гэтым начыньнем на адным стале стаяў, мабыць, тамтэйшы іхны глёбус або гадзіньнік – двухкружніковы, з двума пласкаватымі абадамі адзін пад адным ложма, – нейкі прыбор зь белага мэталу з падзеламі на тых кружніках, якія, як здавалася, былі ў гэтым прыборы між сабою рухомы.

У суседняй бакоўцы, побач з гэтым памяшканьнем, была зложана нейкая дзераўляная банд[а]рскай работы круглая пасуда, змайстрованая таксама, як і нашая, са склёпак з абручамі.

Церазь бераг на дно нейкай шырокай балеі поўз нейкі руды і касматы зьвярок, малагаловы, кароценьканогі паўзун, плоскі і даўгі, як лента. Ён поўз цераз рабро берагу судна і перахіляўся на ім, як лента, а поўз, бытцам прыліпшы грудзьмі і брухам да плазу гладкіх склёпак.

Нос, вочы і невялічкая галава гэтага зьвярка – як у нашага вожыка, а шэрсьць на ім – як у лісіцы. У шырыню як у два далані, у даўжыню, магчыма, што каля мэтру. А ў таўшчыню зусім плоскі, як шаль з кунічай скуркі.

У наступны я раз бачыў, але караценька, мількам і не пры поўным сьвятле, дзесь далей ад тамтэйшага чырванасьценнага гораду, дзьвюх жывёл, адну як нешта сярэдняе паміж канём і ласём, а другую як нешта сярэдняе паміж стравусам і флямінга.

Першы з тулава свайго быў падобен да лася, з шыі – да каня, але бязгрывага, з галавы ж – да бязрогага лася. Ён стаяў і паматаваў сваёй гарбаносай галавой, бытцам адганяючы ад сябе нейкіх мошак. А рост ён меў, гэты шаравой масьці канялось, як самага буйнога росту нашыя ласі.

Другі меў высокія тоўстакасьцістыя, паросшыя дробным густым шэрым пухам, пласкаватыя, як у аленя, ногі. Меў агромнае птушынае тулава, абросшае шырокім шэрым пер'ем, шмат падобнае да тулава нашай дзікай гусі, толькі ў шмат разоў большае за тулава апошняй. Меў даўгую круглую цянклявую, узьнятую ўгору, гібкую сьветла-папялятую шыю, прыпамінаючую шыю флямінга або нашага жораўля, зь невялічкай галавой і пласкаватай недаўгой дзюбай.

Вышыня ног ягоных разам з тулавам – каля паўтара мэтра, а мо й вышэй.

Даўжыня шыі ягонай, гэтага бегуна, – таксама каля паўтара мэтра.

А велічыня тулава – як пяць ці шэсьць гусіных тул у масе.

На тулаве быў замецен, ня так, як у стравуса ці эму, а як у гусі, шыракапёрысты шэры хвост, ды і прызнакі невялікіх скрэдал[12] таксама заўважаліся.

А ногі ягоныя былі па выгляду шмат сільнейшыя за стравусавы, а як у нейкага цыблястага аленя ці нават лася, таўстакасьцістыя і пласкаватыя.

А якімі былі гэтыя дзьве жывёлы – канялось і бягуналёт, – ці то дзікімі, ці то свойскімі, трудна сказаць, бо бачыў іх у нейкім напоўзакрытым сьвятле, ні то вячэрняю і начною парой дзесь на лоне прыроды, ні то ў заперці нейкай цьмянай будоўлі.

***

Высокая роўнасхонавастая шырокая гара. А па ўзбоччу тэй гары кубавастага выгляду бледна-шэрыя пласкаверхія муры нейкіх будоўляў.

А паміж тымі будоўлямі ўзьнімаліся прыступкавастыя сьцегі на тую гору. А на вяршаліне гары тэй узвышалася сіваватаю плямай таўстая й высокая сьцяна палукругам, амфітэатрам, так што абодвы рабры ейных канцоў віdаліся як бытцам у раскрої нейкага агромністага цырку. Сьцяна гэтая, як відалася, была гладкая і роўная ў тоўшчы сваёй аднізу аж даверху і ня мела ў сабе ні дзьвярэй, ні вакон, ані якіх прабоін.

А насупраць сьцяны тэй, у палукругу, узвышалася ня надта высокай пірамідай, як у поўсьцяны тэй вышынёю, нейкая круглая, бледна-сызага, папяляцістага колеру будоўля, магчыма, што нейкая нейчая тамтэйшая сьвятыня або мейсца ўрачыстага зборашча ці то памятнік нейкі, да якога на адведзіны сьцякаюцца тамтэйшыя людзі, якія, як відалася па іхнаму сьвяточнаму ўбранью, то сходзілі, спускаліся з гэтай гары, то ўсходзілі на яе невялічкімі групкамі па некалька асоб, між якімі відаліся і мужчыны, і кабеты, і нават падросткі.

Перад зрокам маім прайшло ўважнаю нясьпешнаю хадой шмат людзей, ад якіх павявала пачуцьцём настрою нейкага сьвяточнага сама-задаволеньня, настрою дабрадушнага супакою. Між якімі ўдалося выразна аглядаць групку жанчын, якія былі прызастановіўшыся.

Групка гэтых жанчын складалася з чатырох асоб, дзьвюх дарослых і дзьвюх падуросткаў-дзяўчынак. Усе яны былі круглалікі, цёмнатвары, у цёмнакалёрыстых, з узорчатых тканін, вопратках і зь беласьнежнымі абмоткамі на галовах.

Ростам дарослыя жанчыны былі невялічкі – каля двух аршын. У прапорцыях жа агульнага складу будовы цела нічым ня розьніліся ад нашых зямлянак.

Тыпам свайго чарнявага, безь ніякіх шакалядных ці то каштанаватых водценяў, як бытцам апыленага чорнаю сажай беласкурага твару прыпаміналі сучасных круглалікіх, пульхнашчокіх, кругланосых, з умяркованымі вуснамі і досыць буйнымі чорнымі белкаватымі вачамі, нашых палуднёвых зямлянак-брунэтак белай расы, як арабкі, бэдуінкі, фэлашкі, ды ціхаакіянскай расы жанчын, як самоанкі, тагалкі і маарыткі з Новай Зэляндыі.



*Пешая дарога па дне расшчэліны ў сцяне цырка Платона. 1932. З серыі «Жыццё на Месяцы». Папера на кардоне, аловак, акварэль, туш, пяро. 24x14,8.*

Вопратка іхная, як відалася, складалася галоўным чынам зь беласьнежных даўгіх кашуль і чалмавастых на галаве намітак. А паверх кашулі цёмнакалёрная (шэра-зелянькавая) спадніца з падалом аж да долу і даўгі, з поламі ніжэй калень, цёмнакалёрысты з буйнаўзорыстай тканіны кафтан зь нешырокімі спусклястымі рукавамі. Асноўны колер лісьцяста-віцёлістых узораў тканіны кафтана – цёмна-папяляты, зь цёмна-зялёнымі, вішнёвымі і аліўковымі дысэнямі[13] на ім уперамежку.

У рухах гэтых жанчын адчувалася нейкая бесклапотлівая нясьпешнасьць, павольнасьць і плаўная элястычная лёгкасьць. А ў выразах міны – супакойная бесклапотлівасьць і дабрадушны жыцьцярадасны настрой.

Дзяўчаткі ж падуросткі, ростам як нашыя сямілеткі, былі апрануты ў такія ж самыя касьцюмы, як і дарослыя, і вялі сябе зусім таксама, як і дарослыя. Яны ня бегалі, не падскакавалі, не рабілі парывістых рухаў, не пабалтовалі галавой і рукамі, і адрозьніць іх ад дарослых можна было хіба толькі па іхнаму шмат меншаму росту, па буйнаце галавы прапарцыянальна іхнага росту.

Яны прызастановіліся і, прызастановіўшыся, супакойна пачалі пазіраць у мой бок, як бытцам я там быў і яны мяне загледзелі, пазіраючы мне проста ў вочы. Пры гэтым уваччу дарослых адчувалася нейкая супакойная зацікаўленасьць, а ўваччу падуросткаў – бытцам нейкае надзвычайнае зьдзіўленьне.

*Вільня, лета 1932 г.*

## У чорным лябірынце (у цясьнінах цырку Плятона[14])

1. Травяністае ўзьбярэжжа нейкай прасторнай нізіны, затопленай цёмна-калерыстаю, як дзёгаць, вадою.

Зьлева досыць высокі, прыткі, абрывісты, скалістага характару ўзвал з тэрасаю. Справа ж шырокая й далёка адыходзячая ў нейкую падгорную цень чорна-сызаватая раўнядзь вады, пакрываючай дно прасторнай міжгорнай даліны.

А перада мною, насупраць, у бок поўначы – ярка асьветленае сонцам падузвальнае ўзьбярэжжа, паросшае густою жаўкляваю травою, а правей, у бок вады – нізкарослымі дробналістымі кустамі невялічкага ценкагалістага шэракорнага дрэўца, падобнага да нашай лазы.

2. Імкнучыся далей па ўзьбярэжжу на поўнач уздоўж тэрасістага чорнага стромкасьцяністага ўзвалу, які штораз, чым далей, рабіўся вышэйшым і страмчэйшым, я ўспаў[15] на штучна праложаную на тэрасе гэтага ўзвалу нешырокую, але гладкую дарогу, якая таксама, як і сам узвал, штораз, чым далей на поўнач, тым вышэй паднімалася над берагам, паросшым травой і кустамі, таго возера чорнай вады.

3. У вадным мейсцы на гэтым беразе відалася шмат нейкага абросшага мохам каменьня, а між гэтым каменьнем цемнавацела штучна выкапаная, бо мела квадратную форму, запоўненая вадою сажалка, знаць, дзеля браньня вады, бо само возера, як відалася па зарасьлях балотнага характару травы і кустоўя, ня мела чыстых прыступістых да вады берагоў.

4. Возера гэтае, як пазьней аказалася, было ня чым іншым, як ціхацечнаю росшыр’ю глыбокадалíннай ракі, якая брала першыя пачаткі свае на дне агромністага чарнасьценнага горнага цырку, з-пад гары кратэру, які знаходзіўся на асяродку дна гэнага цырку. Адкуль, пралажыўшы сабе шлях скрозь расшчэліну высокіх і таўшчэзных, каля вярсты таўшчынёю, чарнамасавых сьцен гэнага цырку, выплывала гэтая рака ляніва-бясшумнымі вадападамі ў ня надта спачатку шырокае, але чым далей на паўдзён, тым шырэючае, глыбокае стоцьсьценнае[16] чарнамасавае ўшчэльле цыркавога адгор’я.

А пабапал яе, гэтай дзіўнай ракі, па штучна абладжаных тэрасах у стоць адвесістых чорных сьценах ейнага ўшчэльля, прахадзілі віхлявымі сьцегамі дзьве дарогі, якія вялі на арэнную даліну цыркавага дна, на асяродку якога ўзвышалася высокая, круглая, крутасьценная, з роўна ўцятай аб’іневацелай вершалінай гара-кратэр.

А цяпер, ахарактарызаваўшы ў агульных рысах мяйсцовасьць вытокаў гэтае ракі, – хай пазволяць мне дарагія чытачы апісаць абразкі таго, што я бачыў з жыцьця на Месяцы ў чарнасьценных лябірынтах глыбокай цясьніны гэтай лунвай ракі, якая, як мне здаецца, і была ня чым іншым, як адною з тых – шматлікіх на лунвай паверхні – «бяздонных» лунных лопавак.

Дарога, якая вяла ў лябірынт, да магутных чорных сьцен горнага цырку, праходзячы тэрасаю ўздоўж левай, заходняй, сьцяны глыбокай і штораз вузеючай цясьніны, была мейсцамі віхлявай, а мейсцамі простай, роўнай, гладкай, нешырокай сьцягою, каля трох-чатырох мэтраў шырынёю. Сьцены гэтай цясьніны, якія зьверху стоць навісалі, а ўнізе таксама стоць спускаліся ў глыбокую пропасьць, былі гладкі, суцэльнамасіўны, бясслоісты, а колерам чорны, калі ня як асфальт, то як аселкавы камень або графіт. У ценях яны былі чорны, як смоль, а на сонцавым сьвятле чорна-сызаватымі, як бытцам зьлёгка апыленыя пылам сіваватага попелу.

Дасягнуўшы магут высокіх чорных сьцен горнага цырку, глыбокая цясьніна ракі як бытцам спынялася, а ў запраўднасьці рабіла нейкае калена павароту, відочна ўправа к усходу, да скрозьсь[ц]еннага пралому, празь які і выцякала з нутрацыркавай арэннай даліны ў гэтую цясьніну цэлая рака вады. Тут жа ў калене,



*Цырк Платона. Горная тэрасавая веранда ратунку. 1932.*
*З серыі «Жыццё на Месяцы». Папера на кардоне, аловак, туш, пяро. 15,5х23,2*

ля цыркавай сьцяны заканчвалася і правабярэжная заходнясьценная шляхавая тэраса, пераходзячы безь ніякіх кален і зваротаў проста ў скрозьсьценную просталінейную вузкакалідорыстую цясьніну-лопаўку, якая, перасекшы сабою калявёрстную тоўшчу гіганцкай сьцяны горнага цырку, пракладала сабою праход з гэнай тэрасы проста на цыркавую арэну безь ніякіх значных зьмен у пазёме[17] свайго дна, якое знаходзілася, бадай што, на аднэй роўні пазёмаў шляхавой тэрасы і самога цыркавога дна-арэны.

5. Не даходзячы да самага канца шляхавой заходнясьценнай тэрасы, на якой я знаходзіўся, я раптам апынуўся ў нейкай цьмянай чарнасьценнай чатырохкутнай пяшчэры і пачаў яе аглядаць. Справа ў чорнай сьцяне ад цясьніны сьветлавацела адтуліна невялікага вузкаватага стоць чатырохкутнага бязрамнага вакна.

А насупраць на роўнай гладкай чорнай падлозе ціха пасіджвала сямейка неапранутых, зусім голых бела-чырванаватаскурых лунідаў.

Большасьць гэтай, як відалася, небагатай, убогай сям'і складалася зь невялічкіх ростам – знаць, дзяцей і падуросткаў, якія, паашчэпліваўшы голымі рукамі сабе голыя калені, знаходзіліся правей у пацёмку, і каб разгледзець іхны выгляд падробна, – не давялося.

Удалося разгледзець выгляд толькі аднаго, большага, знаць, старэйшага, ростам мала меншага за сярэдняга росту зямлян, які сядзеў на асьветленым праз вакно мейсцы сярод хаты.

Па агульнаму свайму цялеснаму складу, на першы погляд, ён, бадай што, нічуць ня розьніўся ад нашых беласкурых паўнакроўных, але хударлявых зямлян.

Цела чыстае, белае, паўнакроўнае, але надта ж хударлявае, са слабаразьвітай мускулятурай.

Скура гладкая і, як відалася, далікатна-ценкая, празь якую прасьвечвалася кроў, – а праз гэтае ён і выглядаў на паўнакроўнага.

Сядзеў ён, абярнуўшыся ка мне левым бокам, ашчапіўшы сваімі худымі цянклявымі рукамі свае таксама худыя прыкорчаныя аж да падбародку калені.

Профіль галавы і твару ягонага паказаўся мне на першы пагляд зусім свойскім, зусім не такім адлюдным[18], як амфас, які мне давялося пабачыць пазьней, у часы майго зьвяртаньня з цырковай арэны, напаткаўшы, калі не мылюся, яго на шляхавой тэрасе.

Чало меў досыць высокае, адсядзістае назад.

Форма галавы пацяглавастая, адсядзістая ў патыліцу.

Вочы невялічкія, з касаватымі проразямі нарозбач, але ня кверху, як у манголаў, а, наадварот, кнізу.

Пераносіца ўгнутая. Нос караткаваты, трохкутнікам.

Вушэй, валос і шчакавых скул добра не заўважыў. Толькі адно, што добра заўважыў, што мне рэзка кінулася ў вочы, чаго нідзе ніколі ня бачыў у нашых зямлян, ані ў аднэй расе, – гэта адсутнасьць у паднасовай часьці твару губы (роту).

У гэтага ж – знаць, выключнай, асаблівай расы чалавека-луніда не відалася губы. А замейсц губы з вуснамі ў ягоным падносьсі апускалася ўніз на даўгі, клінаватай формы падбародак роўна-гладкае мейсца безь ніякіх прызнакаў ані вуснаў, ані бязвуснавай губавой проразі.

А ягоны даўгі, роўны, безь ніякіх заметных выпукласьцяў, клінаваты падбародак спускаўся данізу, як бытцам нейкая надточка да звычайнага падбародку.

Як бы ні дзіка, ні адмоўна, на наш зямны погляд, яны тут не выглядалі, аднак жа, усё ж ткі яны людзі. Людзі тутэйшага самабытнага луннага міру, якія тут, магчыма, што таксама, як і мы, зямляне, белыя, чарнявыя, жоўтыя, бронзавыя, чырвоныя, карычневыя ды чорныя, – таксама дзеляцца калі не на каляровыя, то на разнародныя, разнавыглядныя расы.

6. Прабыўшы ў гэтым людзкім пяшчэрным сховішчы ад даўганочных халадоў ды даўгадзённых пякот не даўжэй як чвэрць мінуты, я ўзнова апынуўся на чарнасьценнай шляхавай тэрасе, якая тут жа ўпіралася сваім канцом у магутную чорную адвесную сьцяну, пераходзячы ў вузкаватую паўтарасажоннай шырыні чарнасьценную роўную, просталінейную расшчэліну запраўднай скрозьгорнай лопаўкі, якая прыпамінала даўгі вузкаваты гладкасьценны бясстольны калідор са страшна высокімі стоць адыходзячымі ў неаглядную выш сьценамі.

У супрацьлежным канцы гэтага ня так цёмнага, як чорнага даўгога калідору дзесь далёка-далёка серабрылася вузка-роўная, са слабапрыкметнаю росшыр'ю кверху, выхадная шчэль зь дзённым просьветам пагоднага луннага неба.

Дно гэтага калідору было роўным, як вымашчаным.

Па леваму прысьценьню гэтага дна праходзіла гладка вытаптаная сьцега, шыр[ы]нёй як у сажань. А па праваму падсьценьню цягнулася вузка-чорнаю стужкай, не адбіваючай сьвету, нешта ў родзе неглыбокай вадасточнай канавы-рынштоку.

Даўжыня гэтага калідору, – судзячы па пэрспэктыўнаму зьмяненьню воддалі з выхадным просьветам, – паказалася мне не даўжэй аднаго кілёмэтру.

7. Затрымаўшыся на агледзінах гэтага калідору каля чвэрці мінуты, я апынуўся ў супрацьлежным ягоным канцы, які выхадзіў, перасекшы сабою магутна-масіўную сьцяну горнага цырку, на цыркавую арэну.

Як былі высокі сьцены гэтага цырку, аглядаць не давялося. Толькі помню, што сьцяна тая, у цяні якой я знахадзіўся, адкідала ад сябе досыць далёкую цень, як на чвэрць кілёмэтра.

Арэннае дно цырку было роўным, і, апрыч невялікіх бугроў ад паросшага жоўтым мохам ды пажоўклай травою каменьня, не відалася аніякіх заметных лагчын ды ўзгоркаў.

З прыхаду ў зацені тарчэла некалькі невысокіх кустоў нейкай чахлай зжоўклалістай расьліны.

А наводдальлі, па-за ценьню, дзе ўжо сьветлавацелі сланэчныя плямы, нешта паціху плыло, краталася, робячы рух зьлева направа, як бытцам фалюючыся[19].

8. У тую хвіліну, калі я пачаў узірацца на арэнную даліну гэтага горнага цырку, як зараз аднекуль згары, ад поўначнага боку, нешта бліснула, зазіяла ярка-ясным серабрыстым праменьнем – раз па разу тры разы, як бытцам нейкі сыгнал праз штучна наведзеныя на сонца люстэркі. А ад яснасьці блеску таго аж замільгацела ясна-серабрыстым сьвятлом па падгорнай тэй зацені, у якой знахадзіўся пад гэтую хвіліну.

9. Не адчуваючы, як бесьцялесны, ад гэтага трывожнага знаку-сыгналу аніякай трывогі, я супакойна пачаў прыглядацца туды, адкуль гэтае загадкавае сьвятло мільганула, і ўбачыў высачэзную, беласьнежнага колеру, крутую акруглястую, з уцятым шоламам верху, адзінотную гару, якая па сваёй форме выгляду прыпамінала вялізарных памераў чыгуннаплавільную печ-гуту.

Уся вяршаліна гэтай вялічэзнай адзінотнай гары была ўсаджана аграмаднымі, пацяглаватай данізу формы, белымі гузамі, на якіх выразна маляваліся з бледнаватымі рознакалёрнымі водценямі блеску граняvastыя крыгі крышталаў.

А па-за гарою дзесь далей малявалася таксама высока беласьнежная грыва шырокай гары – знаць, вяршаліны горнацыркавых сьцен.

А на паўдзённым баку гэтай велічавай адзінотнай гары, уверсе, у самай кароне, цемнавацела пацяглаватаю плямай данізу як бытцам нейкая шчэрба, і якраз у тым пункце, у якім засьвяціўся тройчы, бліснуў ярка-ясным праменьнем той таямнічы «сыгнал».

10. Нябаўна[20] па гэтым сыгнале я апынуўся на шырокім прасторы цыркавай пласкаватадоннай арэны ля нейкага плітавастага камяністага ўзьбярэжжа нейкай тэрасістадоннай ракі, якая шырокаю лаваю зь невыразнымі берагамі вады плыла з-пад гэнай «сыгнальнай» гары ў бок зацені ад цыркавых сьцен.

Перада мною плыла зьлева ўправа досыць шырокая, як у некалькі дзясяткаў сажон шырынёю, цёмнадонная лава вады зь няроўнаю фалістаю паверхняй з аднэй тэрасы на другую, штораз то ніжэй. А плыла яна так ляніва, так памалу, як бытцам нейкая клейка-цягучая жыдкая маса, на якой не відалася ані брызг з плёскатам, ані пены, ані нават бурбалак.

Пералівалася яна з пліты на пліту, з каменя на камень, з парогу на парог, з уступу на уступ – ня так, як нашая вада зямная: з шумам, з плёскатам, з брызгамі ды пенай, – не. А проста ляніва, безь ніякай жывасьці, як бытцам нейкая цягучая жыжа сыропу, пакосту ці проста жыдка разваранага сталярскага клею.

У праўднасьці ж гэта была самая звычайная, як і кожная наськая зямная жыдкая чыстая, празрыстая вада, празь якую наскрозь відаліся цёмныя крыгі камяністага дна з уступамі, па якіх яна і плыла ляніва-нясьпешнымі бясшумнымі вадападамі.

Наводдальлі, пабапал гэтай зь невыразнымі берагамі ракі, відаліся парасьнікі зь нейкага цёмна-зялёнага, а мейсцамі жаўклявага, кустоўя.

11. Па аглядзінах гэтай арэннай ракі я перанёсься праз той скрозьгорны даўгавузкі калідор на цыркавае пазасьценьне і прызастанавіўся ля самага ягонага вылёту на шляхавую ценявую тэрасу ды загледзеўшы на цыркавым прысьценьні нейкі асьветлены сонцам жалабаваты адкос, па якому, як відалася, сачылася з гары нейкая сырасьць. Бо кругом страмчэйшыя адкосы чорнай сьцяны былі сухі і мелі выгляд не зусім ужо так чорны, а крыху папяляцісты. Жалабаваты ж адкос быў чарней вугаля, на якім відалася некалькі плямак зеленкава-жаўклявага моху і сівога звычайнага лішайніку, які ў нас на карэ старых дрэў расьцець.

Пастаяў, паглядзеў, падзівіўся, што і тут, на такой гладка-голай пустыннай скале, пры дапамозе вады, цяпла і сьвятла жыцьцё не папусьціла свайго і заснавала, запачаткавала сваю калёнію флёры – оазку першай расьліннасьці – з трывала пераносячага ўсялякія кліматычныя зьмены моху.

12. А калі я стаў аддаляцца ад калідорнага скрозьгорнага вылету і апынуўся ўжо над пропасьцю рачной цясьніны, – у гэтую хвіліну я заўважыў на правабярэжнай ценявай шляхавой тэрасе нейкі рух. Зь цясьніны скрозьгорнага калідору выбегла на тэрасу пападсьценнай дарогі некалькі чалавечых фігур, якія па агульнаму свайму выгляду былі надта ж падобны да нашых зямлян, ростам невялікія, але стройныя, цянклявыя, даўгаватаногія. З галоў круглагаловыя, цёмнавалосы. Толькі з твару – мільгам добра не прыкмеціў, – здаецца, што таксама круглатварыя.

З вопратак выглядалі на лёгка апранутых турыстаў, кароткія, да поясу, цёмныя курткі, а на нагах вузкаватыя, па ступні, навыпуск, сьветла-шэрыя нагавіцы.

А ўзьбегшы на дарогу пападсьценнай тэрасы, яны прапёрліся, праняcьліся міма мяне, як перапуджаныя сарны, – бягом навыскачку, – робячы паўтарасажонныя крокі, адзін перад адным, як бытцам на нейкіх выперадках.

У рухах бегу свайго яны былі лёгкі, элястычны, а заадно і асьцярожны. І кожны зь іх, скачучы, трымаўся як найбліжэй пападсьценьня, як найдалей ад брыжу тэрасы. Бо кожны безуважны такі крок на гэтай вузкаватай тэрасе, а асабліва на ейных паваротках, мог лёгка здрадзіць скакуна і скінуць яго празь лёгкі неразьлічаны скок па-за брыж тэрасы, у глыбокую чорную пропасьць.

Прабеглі і панясьліся ўдаль, зьнікаючы за накалам[21] чорнай скалы.

А ад іхняга бегу павеявала нейкай трывогай.

13. А зьвярнуўшыся ў адваротны бок і глянуўшы на супрацьлежную асьветленую сонцам старану рачной цясьніны, удоўж якой таксама прахадзіла шляхавая тэраса, я ўбачыў і на тым баку, бадай што, тое самае, што й на гэтым, – беглі...

Тэраса гэная, на левым баку рачной цясьніны, была нашмат шырэйшай, але й нашмат ніжэй паложанай за гэтую, правую, на якой я знаходзіўся. Толькі ў адным мейсцы, правей, дзе яна пераходзіла з адкрытай тэрасы ў недаўгую высечаную ў выступе чорнай адсьценнай скалы крытую, са скалавым навесам цяністую вэранду, узвышалася нашмат вышэй ад гэтай, правабярэжнай.

14. Па гэнай тэрасе, са стараны горнага цырку ў бок гэнай вэранды беглі і беглі нейкія досыць прыгожа зложаныя людзі.

Па руху свайму і зь фігур яны яны нічым ня розьніліся ад папярэдніх. Толькі вопратка іхняя была крыху адменнай – ня чорнай і шэрай, а спрос галубой.

Яны беглі, ці, падабней кажучы, ляцелі, робячы сажнёвыя крокі.

І кожны зь іх сьпяшаўся, каб як найхутчэй дабегчы да гэнай цяністай высока ўзьнятай вэранды. Толькі апошнія зь іх, дабегшы да гэнай вэранды, узыйшлі на яе па прыступках зусім супакойна.

А пад засеняй чарнаскальнага навесу на гэнай вэрандзе, якая прадстаўляла зь сябе нізкавата-пацяглаватую шасьці- або васьмікубовай прапорцыі выемку ў выступе чорнай сьцяны, відалася поўна людзей, якія, там сабраўшыся, стаялі ды пазіралі ў бок горнага цырку, як бытцам чагосьці адтуль наджыдаючы.

Што іх устрывожыла, што іх пабудзіла й заставіла зьбегчыся сюды і сабрацца тут, пад сеньню апекі гэтай штучна абладжанай высокай чорнай скалы?..

Мо ваяўнічы напад варожага племя? А мо катастрофа якая?..

15. Праз хвіліну часу пасьля віджанага я паплыў па-над ярам цясьніны ў бок горнага цырку і натрафіў на абраз наступнага зьместу.

Наводдаль адыходзілі высокія стоць стромкія чорныя сьцены глыбокага і досыць шырокага яру, скрозь які малявалася на сызым стальным фоне луннага неба велічавая беласьнежная карона «сыгнальнай» гары, гары-кратэру.

А на ўзбліжжу, з правага боку, высока, на шырокай скале відалася досыць прасторная, крыху схонавастая тэраса, якую акружалі з двух бакоў, ад цырку, стацявыя аборвы, а ў супрацьлежных баках акружалі яе кутам высокія чорныя сьцены, якія навадзілі на гэтую тэрасу змраковага характару цень.

Першае, што востра кідалася ў вочы на гэтай тэрасе, – гэта ейны абросшы

нізкарослым кустоўем карніз і нейкія бледна-чырвоныя пацяглаватыя данізу жывыя рухомыя плямы на цёмна-папяляцістым, шэрым фоне гэтага кустоўя.

Бледна-чырвоныя рухлівыя гэтыя плямы мелі выгляд калі не эліпсавастую, то ўцюгавастую форму выгляду, угору крыху шырэйшыя і зьверху акруглястыя, а данізу паволі спусклястыя, вузеючыя, як напаўэліпсы, а некаторыя зь іх у самым нізе завастраваліся, сходзючы на ўцюгавасты клін – клін, прыпамінаючы форму дна ісподу кравецкага прасу, уцюга.

А прыгледзеўшыся да гэтых жывых плям бліжэй, – яны аказаліся досыць буйнымі, пласкаватымі, даўгалікімі тварамі жывых чалавекападобных істот, якія, магчыма, што, або седзячы, або лежучы ў густых нізкарослых, прынізістаняхацістых кустах нейкай шэрай расьліны, высоўвалі свае галовы з-пад кустоў гэтага парасьніку на край тэрасы, каб цераз брыж карнізу скалы, аглядаючы, бачыць, што дзеецца на нізах, у яры, на даліне.

А на іхніх бела-чырванаватых плоскіх і аж да полыску[22] гладкаскурых тварах, апрыч пары невялічкіх акруглястых воч, ніякіх іншых рысаў падмеціць не падалося.

Даўгалікія і пласкатварыя гэтыя чалавекападобныя істоты, як відалася і адчувалася, – таксама, як і папярэднія, тыя, што зьбегліся на скалавую вэранду, – цярпліва і не без трывогі чагосьці наджыдалі і з зацікаўленьнем кулялі, паварочвалі то ўлева, то ўправа, то ўніз свае шчытавастыя пласкія твары, прыглядаючыся.

Што іх змусіла, што іх заставіла ўзабрацца тут на гэтую высокую скалу і абсэрваваць[23] глыбокі яр гэтай чорнай горнацясьніннай даліны рачнога лаўжа?..

16. Адчаліўшыся думковым зрокам ад гэтае высокай тэрасістай скалы з пласкатварымі лунідамі і перанёсшыся на супрацьлежную старану яру гэтай цясьніны, я апынуўся якраз у тым мейсцы на тэрасе, дзе раней перад гэтым бачыў уцякаючых з калідорнай цясьніны круглагаловых.

А зрабіўшы рух даўжом гэтай тэрасы, я напаткаў і тут яшчэ аднаго пласкатварага.

Ён стаяў, акрыўшыся нейкім шэрым (сівым) плашчом, ды, як перапалоханы, са зьдзіўленьнем кругом сябе аглядаўся, як бытцам шукаючы прычын свайго перапалоху.

З агульнага выгляду свайго чырванаватага плоскага твару ў амфас ён нічым ня розьніўся ад тых пласкатварых, якіх я толькі што перад гэтым бачыў на высокай чатырохкутнай тэрасе.

Прыгледзеўшыся добра да ягонага плоскага твару ў амфас, я заўважыў невялічкія круглаватыя бязбровыя вочкі; ня так высокае, як шырокае чало; нос кароценькі, ценкарысісты. Падбародак жа разам з падносьсем даўгі, плоскі, шчытавасты, як іспод кравецкага прасу. А між падбародкам і носам было гладка і не відалася ані вуснаў, ані прарэзі губы (роту).

Але, глянуўшы на ягоны дзівачны даўгі і плоскі твар збоку, у профіль, я прыкмеціў, што прорэзь губы знаходзілася ня сьпераду між падбародкам і носам, у падносьсі, а зьнізу, у рабры даўгаватага і пласкаватага зьвісаючага падбародку, які прыпамінаў сваім выглядам, як па колеру, так і па форме ў профіль, гусіную дзюбу.

А глянуўшы на профіль ягонага караткаватага носу, «трохкутнікам», з угнутай пераносіцай, – я пазнаў па ім таго пяшчэрнага жыхара-луніда, якога я перад гэтым бачыў разам зь ягонаю сям'ёю, дзецьмі, у штучна абладжанай пяшчэры пры ўваходзе ў калідорыстую цясьніну скрозьгорнай лопаўкі, выводзячай на арэну горнага цырку.

Ён прадстаўляў сабою нейкую адасобленую, відочна, халоднакраінную, одрубную[24] паўночную расу людзей тутэйшага луннага міру, якія па агульнацялеснаму складу і колеру скуры, апрыч свайго беспадбародкавага даўгаватага плоскага твару, бадай што, нічым ня розьніліся ад нашых беласкурых паўночных жыхароў Эўропы. Але зь невідочнаю губай твар ягоны, які з амфасу быў падобен на паўдзённую часьць

Афрыкі або на Індастан, а з профілю – на паўдзённую Амэрыку з Аргентынай і Чылі, у сківіцах губы, вытвараў уражаньне на мяне сваім «бязгубым» тварам – такое, якое мог бы вытварыць на кожнага з нас твар белага чалавека-зямляніна з гладка апунтырованым[25] носам. Адным словам, бязносы.

Што да геаграфічнага мейсцазнаходжаньня апісанага мною тут горнага цырку і ягоных цясьнін-лябірынтаў, магу дадаць толькі адно – што знаходзяцца яны, як мне адчувалася, на паўночнай паўкулі Месяца, непадалёку асяродкавага мэрыдыяну, на поўнач ад экватару, на абернутай да нас старане.

*Вільня, студзень 1933 г.*

---

[1] Тэлевізійны – ад лац. *televisio* – далёкабачанне.

[2] Хаця яшчэ ў XIX ст. было даведзена, што кольцы Сатурна не з'яўляюцца суцэльнай паверхняй, а складаюцца з мноства паасобных дробных часцінак, Язэп Драздовіч прытрымліваўся іншага меркавання. Ён лічыў, што ў кружніку Сатурна ёсць і «суцэльнацелыя абручы», і «разрозненацелыя».

У сваёй кнізе «Нябесныя бегі» Драздовіч надаваў «суцэльнацелым абручам» адмысловыя назвы: «Для нутранога, найбольш шырокага, брылявастага, – Брылявік; для вонкавага, брыжавастага, – Брыжавік, а для ягонага агбавога, абадавастага брыжу, Абадніца, або проста Брыж».

Драздовіч лічыў, што на гэтых, суцэльнацелых, кольцах Сатурна можа – і нават павінна быць – «нармальнае жыццё, шмат чым падобнае да нашага зямнога».

[3] Алавянымі.

[4] Упоперак.

[5] Вертыкальна.

[6] Аблічча.

[7] Тут у рукапісе ёсць цікавая праўка. Пасля слоў «пад другім» закрэсленыя радкі: «...па дзьве і па тры сукосных палоскі з надстройкамі, прыпамінаючыя скандынаўскія, вараскія ды вікінгаўскія родавыя знакі тамтэйшых кэнінгаў».

[8] Бліскучыя.

[9] Зале.

[10] Міжпрорвавай.

[11] Вуглавата.

[12] Крылаў.

[13] Узорамі, арнаментамі.

[14] Цырк Платона – буйны (больш за 100 км у дыяметры) пласкадонны кратар на бачным з Зямлі баку Месяца.

[15] Натрапіў.

[16] З вертыкальнымі, стромкімі сценамі.

[17] Ва ўзроўні.

[18] Тут – у значэнні «дзікі», «нялюдскі».

[19] Хвалюючыся.

[20] Неўзабаве.

[21] Кутом.

[22] Бляску, глянцу.

[23]Назіраць, цікаваць.

[24] Асобную.

[25] Ампутаваным.

*Публікацыя ажыццёўлена ў межах праекта «Марсіянскія хронікі Язэпа Драздовіча».*

*Фундатар – Павел БЕРАГОВІЧ.*



Таццяна Кабржыцкая



…ні ў беларускім, ні ва ўкраінскім літаратуразнаўстве даследавання тэмы "Вацлаў Ластоўскі і Украіна" не існуе…

# Пратуберанцы творчых арбіт адраджэнца Вацлава Ластоўскага

## *Украінскі кантэкст жыццёвага і творчага шляху*

Вацлаў Ластоўскі – адзін з апосталаў беларускага адраджэння першай трэці XX ст., харызматычны рухавік цэлай кагорты нацыянальных "мяцежных геніяў". Сёлетні 2018 год – юбілейны для Ластоўскага ў шматлікіх выявах яго жыцця і літаратурнай дзейнасці. Найперш гэты год пазначаны святочным фактам 135-годдзя з дня нараджэння В. Ластоўскага: ён нарадзіўся 8 лістапада 1883 г. Калі ж закранаць творчую біяграфію пісьменніка, то і тут убачым некалькі важкіх лічбаў. Роўна 110 год назад, у 1908 годзе, газета "Наша Ніва" змясціла першы допіс В. Ластоўскага. І роўна 90 год назад, у 1928 годзе, В. Ластоўскі быў абраны акадэмікам Беларускай Акадэміі навук. Яшчэ адна юбілейная лічба з жыццяпісу знакамітага беларуса, на гэты раз сумна-трагічная. 80 год назад абарвалася жыццё Вацлава Ластоўскага. У 1938 годзе па беспадстаўным абвінавачанні ў "контррэвалюцыйнай дзейнасці" і іншых "злачынствах" паводле прысуду Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда СССР беларускі адраджэнец Вацлаў Ластоўскі быў расстраляны ў Сараджаве,

паводле іншых сведчанняў – загінуў у Магадане. Акрамя таго, яшчэ некалькі юбілейных дат звязаныя з Ластоўскім: у 1958 годзе, а затым яшчэ і ў 1988 годзе ён як грамадзянін, пісьменнік, палітык быў поўнасцю рэабілітаваны...



*Вацлаў ЛАСТОЎСКІ.*

Новае прачытанне, перажыванне, адчуванне атмасферы беларускага адраджэння першай трэці XX ст. з сённяшніх пазіцый абавязвае даследчыкаў не толькі да ўсебаковага асэнсавання адметнасцей уласна нацыянальных працэсаў часу, але і да высвятлення пытанняў шырэйшага сацыякультурнага міжнацыянальнага кантэксту. Беларуская нацыянальная літаратура ў гэты перыяд заяўляла пра сябе як *неад'емны складнік гісторыі цывілізацыі*. Духоўнае жыццё беларусаў характарызавалася як нацыятворчымі інтэнцыямі, так і фарміраваннем уласнай нацыянальнай мадэлі творчасці, выпрацоўкай найноўшай тэхнікі эстэтыка-мастацкіх здзяйсненняў прыгожага пісьменства з улікам агульнаеўрапейскіх дасягненняў.

Паводле выказвання знакамітага ўкраінца Івана Франко, не толькі тытана пісьменніцкай працы, але і даследчыка розных форм інтэлектуальнага жыцця чалавека, у канцы XIX – на пачатку XX ст. надыходзіў час “цілковитого чоловіка”, час цэласнай асобы. Імя Вацлава Ластоўскага ўпісваецца ў ганаровы шэраг менавіта такіх апантана “цэласных” дзеячаў на ніве роднай культуры.

На пераломе стагоддзяў Беларусь была скіравана адначасова і на вырашэнне нацыянальных праблем, на вывучэнне, захаванне, мастацкую інтэрпрэтацыю этнакультуры ўласнага народа, і на засваенне, творчае асэнсаванне сродкамі беларускай мовы чужаземнага вопыту. Галактыка суверэннага нацыянальнага мастацтва слова складалася з зорных шляхоў многіх самаахвярных творцаў. Аднак працэс выпрацоўкі актуальных крытэрыяў развіцця пісьменства быў для некаторых мастакоў новай фармацыі вельмі складаны. Перад літаратурай узнікла дадатковая задача: збліжэнне з сусветнымі тэндэнцыямі абнаўлення методыкі фарміравання літаратурнага працэсу. Пісьменніцкія дыскусіі, супрацьстаянне палярных творчых ідэалогій, што былі характэрнымі для заходнееўрапейскай культуры, узнікалі, працягваліся, вырашаліся і ў Беларусі, выяўляючы як свае нацыянальныя асаблівасці мышлення, так і сувязі з міжнароднымі культурнымі арыенцірамі.

Сёння агульна прызнана, што кожная літаратура не можа існаваць у самаізаляцыі, яна заўсёды мае судакрананні з іншымі літаратурамі. Метады, кірункі, плыні творчасці валодаюць здольнасцямі да хуткай “вандроўкі” ад аднаго нацыянальнага мастацтва слова да іншага. Іншаземныя дасягненні адначасова і ўзбагачаюць суверэннае мастацтва, і дапамагаюць увыразніць у ім сваё, самабытнае.

У выяўленчым кантактным полі беларускай культуры асаблівыя ўзаемадачыненні фарміраваліся з украінскай культурай. Праблема нацыянальнага адраджэння народамі-суседзямі – украінцамі і беларусамі – вырашалася з пазіцый “сумеснага лёсу”, “падобнай гісторыі”. Творчыя арбіты ўкраінскіх і беларускіх адраджэнцаў пазначаны тыпалогіяй арыенціраў у сучаснасці і ў будучыню. Вядома, што вялікія зоркі час ад часу выпраменьваюць святло асаблівай магутнасці, такія ўспышкі атрымалі назву “пратуберанцаў”. Энергіяй пратуберанцаў былі насычаны многія выявы творча-ідэалагічнага збліжэння ўкраінскага і беларускага адраджэння першай трэці XX ст. Энергія пратуберанцаў украінскага адраджэння асвятляла шлях асобы такога буйнога маштабнага вымярэння, як Вацлаў Ластоўскі. Праз комплекс цывілізацыйна-культуралагічных пошукаў “цэласнага чалавека” Вацлава Ластоўскага, беларускага празаіка, крытыка, навукоўца, грамадска-палітычнага дзеяча, выразна адлюстроўваецца падабенства ўкраінска-беларускіх падыходаў

да вырашэння задач агульнанацыянальнай значнасці, іх балючыя кропкі, узлёты, паражэнні і эпахальныя дасягненні.

Нашая зацікаўленасць да высвятлення ўкраінскага кампанента ў творчай і навуковай дзейнасці В. Ластоўскага абумоўлена яшчэ і тым, што ні ў беларускім, ні ва ўкраінскім літаратуразнаўстве даследавання тэмы "Вацлаў Ластоўскі і Украіна" не існуе. Гэтая публікацыя пабудавана на дадатковым фактаграфічным матэрыяле, што падаецца з улікам тыпалогіі ўніверсальных тэндэнцый развіцця літаратур. Многія факты кантактных сувязей беларускага пісьменніка з украінскімі дзеячамі культуры ўвогуле раскрываюцца ўпершыню, тыя ж, што ўжо ўведзены ў навуковы ўжытак, падаюцца з новымі ўдакладненнямі і адпаведнымі культуралагічнымі каментарыямі.

Звернемся найперш да гістарычных вытокаў і філасофскіх урокаў мінулага, асэнсаванне якіх актуальна і сёння. Сацыяльна-грамадскія, эканоміка-культурныя варункі расійскага жыцця пачатку XX ст. былі абумоўлены хвалямі рэвалюцыйных уздымаў 1905 – 1907 гг. Аднак у хуткім часе палітыка Дзяржаўнай Думы і ўраду Расіі была скіравана на новыя антыдэмакратычныя акцыі; з новай сілай узмацнялася і рэакцыя супраць правоў "нацыянальных меншасцяў", украінцаў і беларусаў.

Паказальнымі для агульнай характарыстыкі адносін імперскага цэнтра да "нацыянальных акраін" Расіі з'яўляюцца выступленні вядомага расійскага філосафа, гісторыка, публіцыста П. Струвэ. У часопісах "Русская Мысль", "Утро России" і інш. Струвэ выказваў занепакоенасць спробамі культуралагічных паралеляў паміж рускімі, украінцамі і беларусамі. Яго абурала згадванне "маларускай" і "беларускай" літаратур у адным шэрагу з "велікарускай". Ён з жахам прагназаваў перспектывы адраджэнцкага руху ўкраінцаў і беларусаў. Стварэнне школ на роднай мове народаў можа прывесці да такіх "культурніцкіх злачынстваў", калі адбудзецца "раздваенне" ці "растраенне" велікарускай літаратуры. «Ад уласнага буквара "іншародцы" захочуць перайсці да стварэння "агульнай паталогіі" і "крысталаграфіі", адштурхоўваючыся ад народнай песні, яны могуць звярнуцца да перакладаў з Авідыя, Гётэ, Верлена ці Верхарна! А гэта пагражае тым, – папярэджваў расійскія ўлады гэты палітычны дзеяч, – што "маларуская" і "беларуская" нацыі ў далейшым заплануюць суадносіцца з "велікарускай" так, як чэхі з немцамі ці аўстрыйскія "ўкраінцы" з палякамі» (Русская Мысль, ч. 1, 1911, с. 184-186).

Як бачым, пэўная логіка ў разважаннях П. Струвэ прысутнічае. Гістарычная заканамернасць станаўлення нацыянальных культур прадвызначыла менавіта такія перспектывы. І ўкраінцы, і беларусы сапраўды ўсведамлялі неабходнасць мэтанакіравана паскорваць працэсы развіцця літаратурнай нацыянальнай мовы, стварэння нацыянальнага пісьменства. Што ж датычыць апеляцыі П. Струвэ да імёнаў Авідыя, Гётэ, Верлена, Верхарна, то і тут ён, як гаворыцца, трапіў у самае сэрца сваіх "супраціўнікаў": і ўкраінцы, і беларусы ў гэты час шчыра працавалі над тым, каб узмацніць статус роднага слова, каб на іх роднай мове загучалі шэдэўры еўрапейскага мастацтва. Вартыя ўвагі, да прыкладу, сінхронныя па часе творчыя здзяйсненні Максіма Багдановіча з яго асваеннем сусветнай літаратурнай класікі. Дарэчы, у допісах М. Багдановіча сустракаюцца ўпамінанні П. Струвэ. Сваімі арыгінальнымі творамі, мастацкімі перакладамі М. Багдановіч даў годны адказ П. Струвэ, усім яго прыхільнікам і апалагетам.

Агульны пафас выступленняў П. Струвэ прасякнуты вялікадзяржаўнай шавіністычнай катэгарычнасцю: адзіна прыймальны для іх гістарычны пастулат – гэта "гегемонія рускай культуры ў Расіі", іншых культур у межах Расійскай імперыі "не было, няма і быць не можа", кожная спроба іх стварэння патрабуе барацьбы "без усялякіх двухсэнсоўнасцяў і выключэнняў". Аднак, як паказала жыццё, шматлікія рэпрэсіі не здолелі зламаць прагрэсіўны рух гісторыі, спыніць энергію недзяржаўных народаў на шляху развіцця іх нацыянальных культур...

Украінскімі кузнямі творчых ідэй і талентаў, рупарамі ўкраінскага адраджэнцтва

сталі цэнтральныя кіеўскія ўкраінскамоўныя выданні “Рада” (1906–1914) і “Українська Хата” (1909 – 1914). Калыскай новай беларускай літаратуры па праву лічыцца “Наша Ніва” (1906–1915). Рэалізацыя кантактаў паміж ініцыятарамі нацыянальнай прэсы адбывалася найперш дзякуючы пасярэдніцкай місіі Сяргея Палуяна (1890–1910). Ва Украіну Палуян прыехаў увосень 1908 г. Праз год ён выехаў на некалькі месяцаў на радзіму, быў у гушчы культурна-літаратурнага жыцця “нашаніўцаў”, а потым ізноў вярнуўся ў Кіеў. “Тут у вас багатая культура, – гаварыў ён сябрам-украінцам. – Перайму яе і павязу да сваіх”. У 1909 г. адказным сакратаром “Нашай Нівы” становіцца Вацлаў Ластоўскі. Як паказвае само выданне, менавіта з гэтага часу тэма Украіны арганічна і трывала ўпісваеццца ў творчую стратэгію першага беларускага штотыднёвіка.

Паказальна тое, што Сяргей Палуян і Вацлаў Ластоўскі супрацоўнічалі і з першым, і з другім кіеўскімі выданнямі. Газета “Рада”, часопіс “Українська Хата” ажыццяўлялі ўкраінска-беларускія кантакты ў найбольш выразнай канкрэтыцы: друкаваліся інфармацыйныя допісы пра беларускае адраджэнне, шырэйшыя агляды культурна-літаратурных працэсаў, змяшчаліся пераклады беларускіх аўтараў. Менавіта гэтыя выданні былі шырока адкрытыя для беларусікі, з імі наладжвала сувязь “Наша Ніва”.

Пісьменства ўкраінцаў і беларусаў, народаў, што не мелі сваёй дзяржаўнасці, мова якіх ва ўмовах царскай Расіі знаходзілася пад забаронай, вызначаліся агульнымі адметнасцямі развіцця. У адрозненні, скажам, ад польскай літаратуры XIX ст., якая поўнілася ўсхваленнем магутнасці сваёй колішняй дзяржавы, нацыянальна-вызваленчыя імкненні ўкраінскага пісьменства выяўляліся праз тэму служэння інтэлігенцыі народу: гучаў заклік так званай “сплаты доўгу”. Як заўважае ўкраінскі літаратуразнаўца П. Федчанка, “менавіта гістарычныя абставіны грамадскага жыцця народа прымушалі ўкраінскую літаратуру – магчыма, у большай ступені, чым літаратуры дзяржаўных нацый, – ісці шляхам сацыяльнай крытыкі і нацыянальнага выхавання”. У той жа сітуацыі знаходзіліся і беларускія пісьменнікі.

Сённяшняя навука адкінула афіцыйную савецкую трактоўку “Нашай Нівы” з абвінавачваннямі ў “буржуазнасці” і “нацдэмаўшчыне”. Неаспрэчныя заслугі “Нашай Нівы” – выхаванне ў чытачоў усведамлення грамадзянскай і нацыянальнай годнасці, павышэнне агульнага ўзроўню культуры (адукацыйны пласт: вядзенне гаспадаркі, школа, бібліятэкі, тэатральныя выставы і інш.), актывізацыя развіцця прыгожага пісьменства, станаўленне літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі. Прызнанне вялікага ўкладу “Нашай Нівы” ў развіццё беларускай культуры засведчана ажыццяўленнем у апошні час факсімільнага перавыдання ўсіх яе нумароў.

Падобны лёс напаткаў і згаданыя кіеўскія выданні. Падшыўкі газеты “Рада”, часопіса “Українська Хата” да апошніх дзесяцігоддзяў XX ст. надзейна захоўваліся ў спецфондах як выданні “нацыяналістычнага” ці “ліберальна-буржуазнага” кірункаў. На мяжы XX і XIX стст. ва Украіне пачынае здзяйсняцца шырокамаштабны і аб’ектыўны перагляд падобнага роду клішэ. Як выказаўся знакаміты ўкраінскі пісьменнік Алесь Ганчар, “названыя выданні ў перыяд нашай бездзяржаўнасці дапамагалі ратаваць інтэлект нацыі”. Паколькі ў Беларусі чытачы яшчэ слаба азнаёмленыя з новымі падыходамі да асэнсавання гісторыі ўкраінскай журналістыкі, і менавіта тых выданняў, што спрыялі станаўленню беларускай прэсы, ахарактарызуем іх месца ў нацыянальна-вызваленчым руху пачатку XX ст., звярнуўшыся да вызначэння як агульнага, так і адметна адрознага, што мелі месца ў функцыянаванні газеты “Рада” і часопіса “Українська Хата”.

Галоўнае ў характарыстыцы газеты “Рада” тое, што яна з’яўлялася органам народніцкай крытыкі, у неанародніцкім кірунку развіваючы ідэалогію арганізацыі “Просвіта”. Адзіная на той час штодзённая ўкраінскамоўная газета імкнулася асвятляць такія тэмы, як федэрацыя і аўтаномія, адукацыя і права на родную мову,

зямельнае пытанне і жыццё вёскі, земскія праблемы, царкоўныя справы, выбары, дзейнасць Думы і інш. Не заяўляючы выразна сваю палітычную платформу, як з цэнзурных меркаванняў, так і па прычыне арыентацыі найперш на праграму "дробных, малых спраў", газета пры гэтым актыўна і паслядоўна выконвала культуралагічную місію. Прыярытэтнай для яе была абарона ранейшых арыенціраў роднага пісьменства, выпрацаваных яшчэ ў папярэднім стагоддзі, – стаўка на побытава-этнаграфічны рэалізм, на выразны нацыянальны каларыт твораў, што выяўляўся праз фальклор, на абарону сялянства як носьбіта народных маральных каштоўнасцей.

Найбольш радыкальна настроеныя колы нацыянальнай інтэлігенцыі лічылі, што этнасамазахаванне, на якое скіроўвалі сваю дзейнасць украінскія народнікі і як працяг – выдаўцы газеты "Рада", станавілася анахранізмам, паколькі "млявае хатняе культурніцтва" не выводзіла народ на шырокі тракт агульнаеўрапейскіх пошукаў у галінах мастацтва, літаратуры, культуры, а было па-ранейшаму зарыентавана на "хутаранскае асветніцтва". Народніцтва, дэмакратычнае ў сваёй сацыяльна-палітычнай скіраванасці, станавілася тормазам на шляху да прагрэсу, калі адмаўляла мастакам у праве на пошукі, эксперыменты, якія напоўніцу характарызавалі замежную заходнееўрапейскую творчую атмасферу.

Часопіс "Українська Хата" кіраваўся іншымі прынцыпамі. "Хацяне" найперш арыентаваліся на абнаўленне нацыянальнага мастацкага пісьма – на палітычным, эстэтычным, моўным, жанравым узроўнях, у галіне выяўленчых сродкаў. Прыярытэтнымі для іх былі не інтарэсы толькі вёскі, ці пралетарыяту, ці буржуазіі, ці інтэлігенцыі, – а ўсёй нацыі. Нацыя, як і культура, на думку тэарэтыкаў-ідэолагаў часопіса, патрабавала моцных асобаў, правадыроў, якія маглі б кансалідаваць яе, узначаліць у барацьбе, выпрацаваць палітычную тэорыю. Паказальна, што ідэю разбудовы нацыі і нацыянальнай культуры "хацяне" звязвалі з філасофіяй Ф. Ніцшэ: творчы калектыў часопіса бачыў сваю задачу ў выхаванні індывідуальнасці, чалавечай адзінкі, якая пазней змагла б змяніць жыццё грамадства.

Паміж "радзянамі" і "хацянамі" выбухнуў востры дыялог, які меў працяг і ў наступныя дзесяцігоддзі, у 20-30-я гг. XX ст. паміж прадстаўнікамі пісьменніцкага "левага" і "правага" франтоў. За "радзянамі" была памяркоўнасць, талерантнасць пазіцый папярэднікаў-народнікаў. "Українська Хата" заявіла пра сябе як "штомесячнік маладых сіл", што імкнуліся заняць "выразна радыкальныя пазіцыі". У палемічным дыскурсе нарадзіўся асобны тэрмін *"хацянства"*. У яго ўкладаўся ідэалагічны змест, які пад пяром апанентаў і крытыкаў часопіса "Українська Хата" доўгі час атрымліваў палітычна, этычна, эстэтычна негатыўныя ацэнкі.

Сёння ўкраінскія даследчыкі працуюць над новымі падыходамі да гісторыі нацыянальнай журналістыкі, выверанымі развіццём гісторыі і прафесійнай аб'ектыўнасцю. Так, у вучэбным дапаможніку А. Жыватко "Історія української преси" (К., 1999) адзначаецца наступнае: "Хацяне" патрабавалі ад грамадства пакончыць з украінафільскім лібералізмам, прыстасаванствам, спадзяваннем на чужыя сілы. Ідэал "хацян" – барацьба ў кірунку сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення. Іх светапоглядная канцэпцыя – адраджэнне Украіны праз "сінтэз сацыялізму з індывідуалізмам". С. Паўлычка ў грунтоўным даследаванні "Теорія літератури" (К., 2002) вылучае асобным падраздзелам праблему «"Українська Хата" як етап у модернізації культури». Даследчыца лічыць, што найбольшую рацыю "хацяне" мелі, калі аспрэчвалі культурніцкі ўтылітарызм, культ практычнага розуму. Бо менавіта гэтыя эстэтычныя пастулаты адмаўлялі мастаку ў яго праве на пачуццёвасць, інстынкт, інтуітывізм, містычнасць, несвядомасць творчага працэсу, на выяўленне прыватнага "я", на мадэрнізацыю думкі эстэтычнай, на выпрацоўку новых крытэрыяў мастацтва. Аднак, як заўважае С. Паўлычка, натхнёныя ніцшэанскім антыўтылітарызмам, «тэарэтыкі "Хати" трапілі ў чарговую пастку вузкатэндэнцыйнасці»: украінцы паўставалі супраць украінцаў.

У артыкулах А. Кобынец, прымеркаваных да 100-гадовага юбілею ўкраінскамоўнай прэсы ва Усходняй Украіне (2006), палеміка паміж выдаўцамі, рэдактарамі газеты "Рада" і часопіса "Українська Хата" трактуецца як традыцыйны і спрадвечны канфлікт "бацькоў і дзяцей", абумоўлены найперш звычайнай канкурэнцыяй. Крытычныя выпады, "калючкі" з боку больш спрактыкаванага калектыва газеты "Рада" на адрас маладых "хацян", як лічыць журналістка, мелі нават пазітыўныя вынікі, што пазначылася на якасці і самога штомесячніка, і газетнага выдання. Зрэшты паказальны той факт, што з цягам часу некаторыя "радзяне" пачалі супрацоўнічаць з часопісам "Українська Хата". Сярод іх і добра вядомы ў Беларусі Дзмітро Дарашэнка, украінскі аўтар знакамітага даследавання "Нацыянальнае адраджэнне Беларусі" (1908), і выдатны празаік Уладзімір Віннічэнка, і многія іншыя. Усіх іх яднала агульная барацьба за адзіную ўкраінскую літаратуру пад сцягам нацыянальнага адраджэння Украіны.

Мяркуем, што за сумарнай характарыстыкай згаданых украінскіх выданняў выразна праглядаецца настрой "нашаніўскіх" творчых спрэчак адносна тых задач, якія павінны былі вырашацца дзеячамі беларускай культуры. У апошнім акадэмічным выданні "Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя" (1999) М. Мушынскі выказвае неспадзяваную думку пра тое, што знакавая "нашаніўская" дыскусія 1913 г. была свядома "справакавана" В. Ластоўскім і што рознапалярныя палажэнні дыскусіі ("тэзіс" і "антытэзіс") могуць належаць аднаму і таму ж аўтару, менавіта Ластоўскаму. Пагодзімся з М. Мушынскім. Лічым, што знакамітыя "нашаніўскія" артыкулы 1913 г. "Сплачывайце доўг" Ю. Верашчакі і "Чаму плача песня наша?", якія падаваўся як "Адказ Ю. Верашчаку" пад подпісам "Адзін з парнаснікаў", з'явіліся на свет у выніку "сублімацыі" ўкраінскага вопыту. Вядома, што подпісамі "Ю. Верашчака", "Влас" – як псеўданімамі – карыстаўся В. Ластоўскі. Адказны сакратар "Нашай Нівы" трымаў руку на пульсе мастацкага жыцця ўкраінцаў. Засвойваючы складаныя ўрокі "ўкраінскай школы", ён, па прыкладзе калег-пабрацімаў з кіеўскіх выданняў-канкурэнтаў, імкнуўся "ў завостранай форме палемікі ўзбуйніць балявыя кропкі развіцця нацыянальнай літаратуры, прыцягнуць да іх асаблівую ўвагу" (М. Мушынскі). Выявы беларускага творчага "разнагалосся" тыпалагічна блізкія тагачасным дамінуючым украінскім канцэпцыям разнавектарных шляхоў развіцця нацыянальнай літаратуры.

Такім чынам, супастаўляючы творчыя платформы кіеўскіх выданняў "Рада" і "Українська Хата", можна з упэўненасцю сцвярджаць, што "Наша Ніва" арыентавалася ў сваёй дзейнасці як на першае, так і на другое выданне. Тыя ж культурніцкія прарывы, што здзяйсняліся ва Украіне калектывамі "радзян" і "хацян", у Беларусі ажыццяўляліся сіламі аднаго выдання – газетай "Наша Ніва". Фактычна "Наша Ніва" за кароткі час свайго існавання, шукаючы новыя шляхі развіцця роднай літаратуры, дапамагаючы аўтарам у выпрацоўцы ўласнага творчага почырку, не толькі засвоіла набыткі сваіх нацыянальных папярэднікаў, але і акумулявала, асэнсавала, перапрацавала больш як стогадовы вопыт новай украінскай літаратуры, яскрава адлюстраваны на старонках газеты "Рада", часопіса "Українська Хата". Гэтыя высновы пацвярджаюць думку М. Багдановіча пра дынаміку мастацкага працэсу пачатку XX ст., выказаную ім у 1914 г. у артыкуле "Забыты шлях": за восем-дзесяць гадоў існавання "Нашай Нівы" беларускае пісьменства прайшло шлях гістарычнага развіцця, на які еўрапейскай літаратуры спатрэбілася сто гадоў і болей.

Адказная і складаная місія "нашаніўскага" навігатара і каардынатара ў гэтым працэсе належала В. Ластоўскаму. І заслугі яго цяжка пераацаніць. Бо ахарактарызаваныя зрухі ў сферах культурнага жыцця і ўкраінцаў, і беларусаў мелі каласальнае прагрэсіўнае значэнне, паколькі абгрунтоўвалі правы мастацтва быць самім сабой. Новыя канцэпцыі ламалі стэрэатыпы, вызвалялі творцаў ад

догмаў, папярэдніх канонаў ва ўсіх сферах інтэлектуальнага быцця грамадства, у тым ліку і ў тэхніцы мастацкай творчасці...

Украінская і беларуская нацыянальная прэса, што была каталізатарам адраджэнскіх працэсаў пачатку XX ст., усведамляла кожную літаратуру як эстэтычны феномен. Пры гэтым шлях да суверэннасці роднага пісьменства выданні прыкладалі ва ўзаемнай падтрымцы. Іх яднанне раскрываецца праз змястоўную напоўненасць тых матэрыялаў, якія вызначалі агульны характар сацыяльна-палітычнай лініі. Збліжала выданні выпрацоўка дэмакратычнай парадыгмы нацыянальнай ідэі. Ідэалагічныя, эстэтычныя, выхаваўчыя магчымасці прыгожага пісьменства дапамагалі перыядычным выданням фарміраваць чытача, супольнасць, нацыю.

Можна прасачыць і структурнае падабенства разглядаемых выданняў – на ўзроўні ўвядзення пэўных раздзелаў, рубрык, выкарыстання адпаведных часу публіцыстычных жанраў. Так, у газеце “Рада” шырокай папулярнасцю карыстаўся журналісцкі жанр “ліст”. Допісы ў “Нашу Ніву” Сяргея Палуяна з Кіева спрыялі ўзнікненню рэдактарскай калонкі “З нашага жыцця”, якая ўзнікла пад подпісам “Власт”. Паводле ўзору карэспандэнцый Васіля Даманіцкага ў “Раду” з Польшчы, якія падаваліся як “Лісты з-за граніцы”, В. Ластоўскі аформіў матэрыялы, што прыходзілі з Кіева, найчасцей ад Сяргея Палуяна, як “Лісты з Украіны”. Каб залучыць шырэйшае кола чытачоў, украінцы падавалі ў сваіх інфармацыйна-аналітычных выданнях культуралагічную інфармацыю пра славянскі свет. У прыватнасці, “Рада” друкуе артыкул “Словаки”, “Українська Хата” – “Угорська Русь” і інш. Гэта ініцыятыва была адразу падхоплена і “нашаніўцамі”.

Украінцы ўжо на пачатку XX ст. маглі ганарыцца сваім напрацоўкамі па ўсходнезнаўству: у друку з’яўляліся і артыкулы пра “экзатычныя краіны”, і мастацкія пераклады. “Наша Ніва” смела ўзялася вырашаць падобнага роду задачу, на яе старонках нараджалася беларуская арыенталістыка. Ёсць усе падставы лічыць, што менавіта дзякуючы В. Ластоўскаму па-беларуску загучалі шэдэўры кітайскай класічнай літаратуры, казкі-навелы Пу Сунліна, рускамоўную апрацоўку якіх падрыхтаваў для “Нашай Нівы” В. Аляксееў. Паколькі афіцыйна пазначана, што Ластоўскаму належаць асобныя “нашаніўскія” пераклады з Мультатулі, можна меркаваць, што з-пад яго пяра выйшаў і пераклад “Казкі аб японскім каменшчыку”. На жаль, заслугі В. Ластоўскага ў галіне мастацкага перакладу застаюцца дагэтуль належна не ацэненымі. Перакладаючы, нашаніўскія аўтары і самі фарміраваліся як пісьменнікі. Сінкрэтызаваная міфалогія, згушчаная фантастыка, іранічная падсветка, уласцівыя ўсходняму пісьменству, дапамагалі беларускім аўтарам у пошуках новых форм засваення народнай мудрасці. Варта згадаць тут алегарычнасць “народных сказаў” самога Ластоўскага, яго апавяданняў-абразкоў, прытчавую кампазіцыю, філасафічнасць “Казак жыцця” Якуба Коласа, “Казак” Змітрака Бядулі...

І яшчэ адна цікавая паралель. У 1908 г. у Пецярбурзе выходзіць кніга Міколы Аркаса “Історія Україні-Русі” – “перше видання української історії, у викладі, доступному широкому загалу”. А ў 1909 г. у красавіцкім выпуску газеты “Рада” аўтар-кампазітар тлумачыў мэту сваёй працы наступным чынам: «Виступаючи з першим виданням, я хотів подати тільки зразок такої історії, якої нам справді бракувало, щоб воно хоч трішки збудило нашу спочиваючу в довжелезному сні людяність. Я не спеціаліст історик, а тільки люблю свою Україну і всім серцем хотів допомогти рідному людові уявити собі “Що ми і чиї ми діти”». Паказальна, што выдавец “Ради” Я. Чыкаленка кнігу М. Аркаса “Історія Україні-Русі” прыстасаваў як дадатак да газеты з мэтай яе папулярызацыі. Згаданая “Історія...” блізкая – і па мэтах, і па сутнасці матэрыялу, і по форме яго рэалізацыі – да створанай В. Ластоўскім “Кароткай гісторыі Беларусі”...

Звернемся ж да больш шырокага панарамнага агляду ўкраінскага складніка жыццёвай і творчай біяграфіі Вацлава Ластоўскага.

Вядома, як вучоны В. Ластоўскі гучна заявіў пра сябе ўпершыню ў 1910 г. нарысам "Кароткая гісторыя Беларусі". Тэкст і гэтай працы, і тэкст кнігі М. Аркаса былі апублікаваны без навуковых спасылак, мелі ў пэўнай ступені кампілятыўны характар. Аднак, пры ўсіх крытычных заўвагах, абодва выданні атрымалі шмат гарачых прыхільнікаў. Найперш зацікаўленых чытачоў узяў у палон выразны канцэптуальны падыход аўтараў да нацыянальнага мінулага ўласнага народа. І сёння праца В. Ластоўскага цэніцца за тое, што ў ёй па-наватарску рабіўся акцэнт на беларускім характары Вялікага Княства Літоўскага, развіваўся тэзіс пра тоеснасць крывіцкай і беларускай дзяржаўнасці. Даследаванне Ластоўскага, нягледзячы на яго папулярызатарскі характар, адрасаванасць шырокаму колу простых чытачоў, характарызуецца сучаснымі даследчыкамі як "досыць дасканалае" (А. Грыцкевіч).

Падобны погляд на працу В. Ластоўскага выказаў яшчэ ў 1910 г. украінскі гісторык Восіп Гермайзе. У біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" пазначана: "Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910 / Пад псеўд. Власт. Рэц.: Гермайзе О. // Укр. хата, 1910, № 10" (Т. 4, с. 17). Язэп Янушкевіч у манаграфічным аглядзе пра творчасць В. Ластоўскага, змешчаным у акадэмічным выданні "Гісторыі беларускай літаратуры", звяртаецца да вызначэння месца "Кароткай гісторыі Беларусі" ў тагачасным літаратурным працэсе, аднак думка ўкраінцаў адносна "Гісторыі..." даследчыкам не ўлічана. Восіп Гермайзе – адзін з паплечнікаў Сяргея Палуяна, сябар перыяду кіеўскага жыцця славутага беларускага літаратара. Мяркуем, што менавіта пад уплывам Палуяна Гермайзе звярнуўся да беларусікі, зацікаўленасць да якой працягваў выяўляць да канца свайго жыцця.

У 1930-я гг. прадстаўнікі розных афіцыйных органаў упісваюць імёны В. Гермайзе і В. Ластоўскага ў лік многіх іншых адраджэнцаў, несправядліва абвінавачваючы іх у "антыдзяржаўных настроях". В. Гермайзе становіцца ахвярай – па сфабрыкаванай ДПУ версіі – як член Саюза вызвалення Украіны, В. Ластоўскі звінавачаны па выдуманай справе Саюза вызвалення Беларусі. Апынуўшыся пад татальным ціскам цэнзуры, украінскія і беларускія творчыя колы трапляюць у сітуацыю трагічнага падабенства: фарміруецца тыпалогія "расстралянага Адраджэння".

Тэкст рэцэнзіі В. Гермайзе – з разуменнем значнасці зробленага В. Ластоўскім як гісторыкам – выключна паказальны. Паколькі ж з часу сваёй першапублікацыі гэтая рэцэнзія нідзе, ні ў Беларусі, ні ва Украіне, не передрукоўвалася, лічым мэтазгодным падаць яе тут поўнасцю.

***Осип Гермайзе. Власт. Кароткая гісторыя Беларусі.***

*Без знання минулого не можна свідомо ставитися до проявів сучасного» – це загальновідома істина, з якою тепер ніхто не буде сперечатись. Для свідомих білорусів вже давно потреба підвести рахунки своєї історії, подивитись на життя білоруського народу з об'єктивно-історичного погляду, стала необхідною потребою. Добродій Власт пішов на зустріч цим бажанням і тому його праця, навіть не дивлячись на її якість, можна тільки вітати, хоч би як першу спробу обняти все минуле життя Білорусі. Але треба зауважити, що і якість його книжки бездоганна. Даючи повний по можливості фактичний матеріал історії Білорусі, добродій Власт зумів гарно освітлити його, дати чимало влучних, хоч і коротеньких, характеристик видатніших періодів і схематично показати, як змагався білоруський народ за свою національність, як упав, занедбаний своїми кращими синами і як ізнов піднявся, щоб збудувати собі краще життя, щоб здобути право на свій національний розвиток.*

*Всю історію Білорусі автор поділяє на п'ять періодів. Перший період – це світла сторінка в житті білорусів, період самостійності і незалежності. У цей період Білорусь має своїх князів, які керують землею, але змагання з могутнім Києвом примушує їх втекти в Литву, потім знов вернутися і попасти зрештою під владу нової держави – Литви. З цього починається другий період білоруської історії – литовсько-руський, в який білоруси, підпавши під політичну владу литовців,*

*держуть цих останніх під владою культурною. Білоруська мова стає урядовою мовою. Нею пишуть офіційні декрети, її ж вживають при дворі. З кінцем другого періоду, після смерті Вітовта, починається вікове бідування білорусів. Білорусь стає «лакомим кусочком», на який заздрісно дивляться сусіди, спершу Польща, а за нею і Москва. До цього ще прилучаються внутрішні безпорядки – релігійні суперечки литовсько-руських бояр, частина з яких прийняла католицтво і тим придбала собі деякі привілеї у католицького уряду Польщі. Великий релігійний рух XVI ст. – реформація, який захопив усю Західну Європу, не перейшов повз землі литовсько-руської держави і мав гарний вплив на активність національної боротьби з поляками, які почали вже робити заходи до спольщення країни.*

*«Рух цей, – каже Власт, – примушував людей пильніше дивитись у життя, братися до науки і ширення просвіти, а разом з тим будив і національні думки». І не дивлячись на таку силу реформаційного руху, білоруси діждались так званої Люблінської Унії. Увесь четвертий, передостанній період можна схарактеризувати як передсмертну агонію Білорусі. Люблінська унія зробила те, що процес спольщення вищих верств народу почав іти дуже інтенсивно. Народ, аби зберегти свою національність і віру, почав злучатись у братства, і вони деякий час уявляють з себе міцні національні фортеці, але занадто тяжко було змагатись з єзуїтами і католицьким урядом. І релігійна Брестська Унія ще збільшила процес полонізації. Народ кинувся до козацьких повстанців, які в цей час панували на Україні. Антін Небаба збирає селян та міщан, озброює їх і приєднується до Богдана Хмельницького.*

*Відомо, чим скінчилося це повстання. Білорусь спинилась у повній владі Польщі, потім з поділом Польщі перейшла під владу Росії, і її становище змінилось тільки тим, що замість спольщення почалось русифікаторство.*

*Це коротенький зміст «Гісторыі...»*

*Із історії рідного краю, повної такого глибокого трагізму, Власт робить дуже оптимістичний, бадьорий висновок: «Білоруський народ прокинеться від віковічного сну і сам піде за культурними здобутками, сам збудує собі кращу долю і сяде в сім'ї слов'янській як рідний і рівний брат».*

*Дешева ціна дасть можливість поширитись книзі не тільки серед білоруського, але і серед українського громадянства, бо свідомий українець знайде в ній багато чого цікавого і повчального.*

Беларусіка В. Гермайзе налічвае дзясяткі прац гістарычнага, культуразнаўчага, літаратуразнаўчага характару. Так, у часопісе "Українська Хата" былі надрукаваны яго змястоўныя нататкі адносна выдання «Беларускі каляндар "Нашай Нівы" на 1911 год» (1911, №1, с. 64). Аўтар, у прыватнасці, высока ацэньваючы першыя раздзелы календара, матэрыял якіх скіраваны на паляпшэнне практычнай дзейнасці беларуса-вяскоўца, выказвае шкадаванне, што складальнікі мала ўвагі прыдзялілі пытанням развіцця беларускага прыгожага пісьменства. Крытык заўважае: *«Можна було б подати хоч коротенькі біографійки білоруських «песняроў». Торік була уміщена така стаття, і відсутність її тепер являється кроком назад. Потім ще один закид! Чом не продовжена білоруська бібліографія? В торішньому календарі вона була доведена до XIX ст. і припинена завдяки браку місця. Чого ж не скінчили її, тим більше, що вона була б цікава не тільки для простих верств народу, але й для інтелігенції».*

Найбольшай дакладнасцю, прафесійнасцю, шырынёй аналізу вызначаецца рэцэнзія В. Гермайзе на зборнік Якуба Коласа "Песні жальбы", апублікаваная ў тым самым нумары "Української Хати" (там сама, с. 61-62). Прааналізаваўшы кожны з пяці раздзелаў зборніка, Гермайзе даў у цэлым яму высокую ацэнку. Пры гэтым крытык падкрэсліў, што творы большасці беларускіх паэтаў – "патрыятычныя творы", а муза ці не кожнага беларускага паэта "апяваець няволю, апяваець нядолю і грыміць свабодна, што жыве край родны". Што датычыць менавіта творчай манеры Коласа, то "*його пісні не мають у собі войовничих елементів, його муза –*

*не муза «мести и печали». Колас не обурюється, він тільки сумує, але, сумуючи, він певно знає, що його брати «усё ж такі хоць некалі, але праўды дапытаюцца*".

У гэтым жа, аглядным па сваёй сутнасці, матэрыяле Гермайзе піша і пра Ластоўскага–Власта як аўтара мастацкіх твораў, ставячы яго побач з Максімам Багдановічам: *«Гарним прикладом високої, так званої чистої поезії, можуть бути твори Власта, Максима Богдановича і інш.»* Публікацыя Гермайзе канчаецца публіцыстычным пасажам:

*«Хочеться промовити разом з автором:*
*...Быць ня можа,*
*Каб не грэла цёпла сонца:*
*– Блісне свет і к нам ў аконца!»*

Прафесійны аналіз, прапаганда літаратурных здабыткаў адраджэнцкай Беларусі, як бачна, суправаджаліся ва Украіне выразным аптымістычным акампанементам.

Характэрнай адзнакай украінска-беларускіх літаратурных стасункаў пачатку XX ст. з'яўлялася цесная сувязь паміж усходнеўкраінскім і заходнеўкраінскім друкам. Супольную зацікаўленасць беларусікай выяўляла перыёдыка Кіеўшчыны і Львоўшчыны. Пра беларускую літаратуру пісалі не толькі ўкраінскамоўныя выданні, але і выданні, што выходзілі на ўкраінскіх землях на польскай мове. Так, тэму адраджэння Беларусі актыўна распрацоўвалі побач з выданнямі "Рада", "Українська Хата" яшчэ і кіеўскі "Przegląd Krajowy". Нямала беларусазнаўчых допісаў змяшчаў і львоўскі "Руслан". Так, у прыватнасці, калі ў "Нашай Ніве" пачалі друкавацца допісы пад сталай рубрыкай "Лісты з Украіны", "Руслан" перадрукоўваў іх, суправаджаючы цікавымі рэдактарскімі заўвагамі (1909, №№ 77, 85, 115). Ад імя "Рэдакцыі" "Руслан" адзначаў: "*Добре було б, шоб і українці познайомились ближче з білоруським видавництвом, а годилося б також книгарні Наукового товариства у Львові виписувати сі видання, щоб і тутейші русини знайомилися з білоруським рухом*" (1909, № 77). Апрача таго, "Руслан" амаль рэгулярна інфармаваў пра ўсе ўкраінскія матэрыялы, якія з'яўляліся на старонках беларускай перыёдыкі, у прыватнасці адгукаўся на беларускамоўныя пераклады асобных навел Васіля Стафаніка. Не абмінуў увагай часопіс і імя Ластоўскага. Адзін з «русланаўскіх» матэрыялаў, прысвечаных Ластоўскаму, з'яўляецца, па сутнасці, люстэркавай рэакцыяй на беларусазнаўчыя матэрыялы з выдання «Українська Хата», аўтарства якіх належыць В. Гермайзе і якія разгледжаныя намі вышэй (гл.: Руслан, 1910, № 218).

У сувязі з заяўленай тэмай узнікае пытанне, ці перакладаліся ў той час творы Ластоўскага на ўкраінскую мову? Біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі" не дае на гэта пытанне адказу, не месціць ніякай інфармацыі. Нам удалося знайсці апублікаваны ў "Руслане" пераклад твора Ластоўскага "Разбойнік". Літаратурная апрацоўка легенды, як пазначана, месціць *"цікавы аповед пра палачан з часоў полацкай зямлі крывіцкага перыяду"*. Пераклад захоўвае і аўтарскія лірычныя адступленні, паказальныя для арыгінала. Прывядзем урывак з украінскамоўнага "Разбойніка", які выдатна характарызуе як добры ўзровень мастацкага ўзнаўлення беларускага тэкста, так і тагачасныя праблемы перакладу.

У В. Ластоўскага: *"Дзіўны ты, сказе народны, вольны ты птаху! Ты ўміг пралятаеш ад сучаснасці да мінулых вякоў... Ты мёртвыя камяні ажыўляеш і кладзеш ім у вусны думы свае, павяраеш ім скрытыя надзеі і жаданні... Не для цябе, сказе народны, тораны шляхі, дзеляны межы! Не знаеш ты вострага зубу ўсёпажыраючага часу, ані згладжываючага цалунку смерці. Ты мёртвае ажыўляеш, забытае ўваскрашаеш, і волен тварыць дзівы. А калі дзе смерцю ўсне дух народны, там ты камяні ажыўляеш, і адараеш іх прарочым голасам, і кажаш ім ісці будзіці пабітых на духу, мервякоў хадзячых..."* (Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мінск, 1997, с. 146). Украінскі пераклад гэтага ўрыўка: *«Дивний ти, народний переказе, вольний ти птаху! Ти на хвилю прилітаєш від сучасного до минулого віків... Не знаєш ти*

*острого зуба всепожираючого часу, ні нищівного поцілунку смерті.... А коли смертію засне народний дух, там ти каміння оживляєш і обдаровуєш їх пророчим голосом, і кажеш їм іти будити прибитих на дусі, ходячих мертв'яків...»* (Руслан, 1913, № 284).

Заўважым, што беларускі пераклад у першыя дзесяцігоддзі XX ст. знаходзіўся ў стане свайго станаўлення, украінскі меў ужо значныя поспехі, шмат замежных еўрапейскіх аўтараў яшчэ на працягу XIX ст. пачалі атрымліваць новую, украінскую прапіску. На жаль, імя перакладчыка "Разбойніка" ў выданні не пазначана, зрэшты, публікацыя творчага перастварэння беларускага арыгінала дае падставы для тыпалагічнага абагульнення перакладазнаўчых высноў. "Украінскі Ластоўскі" засведчыў і станоўчае ў тэхніцы ўкраінскага перакладу, і такія адмоўныя моманты, як літаралізм ці, наадварот, адвольнасць у перадачы паасобных рэалій арыгінальнага тэксту. Аднак нельга не прызнаць, што ў выпадку з Ластоўскім асноўная думка, ідэйная насычанасць літаратурнай версіі народнай легенды, спецыфіка мастацкага мыслення беларускага творцы перададзены паспяхова.

Такім чынам, і праз асобу В. Ластоўскага ўкраінскія чытачы далучаліся да выразна дэмакратычнай скіраванасці новай беларускай літаратуры, да багацця яе выяўленчых сродкаў і форм. Беларускі нацыянальна-вызваленчы пафас успрымаўся на ўкраінскіх землях і праз полацка-крывіцкую канцэпцыю беларускай дзяржаўнасці, якую актыўна распрацоўваў Вацлаў Ластоўскі...

Гартаючы старонкі выдання В. Ластоўскага "Выбраныя творы" (1997), пераконваемся, што беларускі адраджэнец так ці іначай быў заўсёды звязаны з украінскай праблематыкай. Гэта, у прыватнасці, засведчана яго нататкамі пра паездку ў Кіеў на развітанне з С. Палуянам, заўвагамі пра выданне часопіса "Киевская старина", матэрыяламі пра гісторыю ўкраінскіх друкарань, згадкамі пра ўкраінскіх пісьменнікаў М. Крапіўніцкага, В. Стафаніка і інш...

Асобна тут варта спыніцца на інфармацыі, пададзенай Я. Янушкевічам у яго даследаванні "Вацлаў Ластоўскі". Як сведчыць Я. Янушкевіч, "паводле ўласнага сцвярджэння Ластоўскага", ён "выбіраўся членам-карэспандэнтам Украінскай Акадэміі грамадазнаўства ў Празе (абраны ў 1926 г.)". Найперш удакладнім назву Акадэміі, якая тут падаецца з памылкай. Патрэбна: Украінская гаспадарчая акадэмія. Імкнучыся разабрацца ў сутнасці гэтага кароткага, але вельмі важнага паведамлення, мы выйшлі на тэму ўзаемаадносін беларуса Вацлава Ластоўскага і ўкраінца Мікіты Шапавала. І калі біяграфія Ластоўскага "нашаніўскага" перыяду больш-менш паддаецца рэканструкцыі, то 20-я гг. XX ст. у летапісе яго жыцця і творчасці пазначаны па-ранейшаму "цьмянымі кропкамі". Больш шырокае знаёмства з асобай Мікіты Шапавала можа дапамагчы ў расшыфроўцы асобных старонак жыццяпісу Ластоўскага.

Асабістае знаёмства гэтых двух знакамітых дзеячоў нацыянальных культур адбылося яшчэ ў 1910 г. Мікіта Юхімавіч Шапавал (1882-1932) – ён жа паэт *Микита Сріблянський,* аўтар зборнікаў "Лісові ритми" і інш. – выступаў разам з Ластоўскім на пахаванні С. Палуяна, прачытаў над магілай сябра свой развітальны верш. Пазней Ластоўскі змясціў гэты верш (відавочна, ва ўласным перакладзе на беларускую мову) на старонках "Нашай Нівы". Кантакты калег мелі працяг праз шматлікія творчыя здзяйсненні. Цікава, што Шапавал як журналіст пачынаўся ў 1907 г. у газеце "Рада", з 1909 г. ён сумяшчаў працу карэктара ў газеце з выдавецка-рэдактарскай дзейнасцю ў часопісе "Українська Хата". З 1910 г. і да закрыцця выдання Шапавал поўнасцю быў звязаны з калектывам часопіса. Менавіта з пачыну энергічнага, ініцыятыўнага, таленавітага рэдактара і публіцыста, крытыка і палітыка Шапавала зарадзілася тэндэнцыя да згаданых палемічных дыялогаў паміж "радзянамі" і "хацянамі". Арганізоўваючы ўкраінскіх аўтараў на асэнсаванне сутнасці нацыянальнай ідэі, Шапавал заклікаў іх выхоўваць мастацкім словам "нацыянальнага чалавека яскравай індывідуальнасці", змагаўся з абмежаванасцю ва ўсіх яе праяўленнях.

На працягу ўсяго жыцця М. Шапавал, які паводле сваёй першай адукацыі быў інжынерам-лесаводам, паглыбляў свае веды ў розных сферах жыцця грамадства. Чалавек шырокай эрудыцыі (яшчэ ў школьныя гады яму прарочылі будучыню М. Ламаносава), Шапавал становіцца спецыялістам у розных галінах грамадазнаўчых навук. У 1917-1918 гг. Шапавал – дырэктар лесатэхнічнага эканамічнага аддзелу Ляснога дэпартамента, старшыня Усеўкраінскай лясной школы. Апынуўшыся ў 1919 г. у эміграцыі, украінскі адраджэнец М. Шапавал сваю энергію скіроўвае на стварэнне Украінскага эміграцыйнага народнага камітэту і ўзначальвае яго дзейнасць. Заручыўшыся падтрымкай Ураду Чэхаславаччыны, М. Шапавал арганізоўвае ў 1922 г. у мястэчку Падзебрады паблізу Прагі (старажытны замак XV ст. чэшскага караля Юрыя Падзебрадскага) Украінскую гаспадарчую акадэмію. Акрамя таго, дзякуючы М. Шапавалу, у Празе былі адкрыты Вышэйшы педагагічны інстытут імя М. Драгаманава (1923), Украінскі сацыялагічны інстытут (1924). Сам М. Шапавал – доктар сацыялагічных навук, сацыялогію вучоны разумеў як адзінае цэлае, што комплексна даследуе нарадазнаўства, гаспадарства і тэхніку, сацыялогію і палітыку.

Падкрэслім высокі статус Украінскай гаспадарчай акадэміі (УГА), буйной вучэбнай і навуковай установы. Першым рэктарам яе стаў І.А. Шаўгеніў, добра знаны яшчэ ў царскай Расіі спецыяліст з воднай гаспадаркі і меліярацыі, бацька знакамітай украінскай паэтэсы Алены Тэлігі, вядомай у Беларусі праз пераклады Алеся Траяноўскага. З 1922 па 1935 гг. ва УГА функцыянавалі тры факультэты: аграрна-лясны (меў 19 кафедраў), эканамічна-кааператыўны (з 20 кафедрамі), інжынерны (з 20 кафедрамі). Навукова-практычную, вучэбную працу выкладчыкаў і студэнтаў забяспечвалі 33 профільныя кабінеты, 14 лабараторый, 2 фермы, лясны заказнік, метэаралагічная станцыя, культурна-этнаграфічны музей, фундаментальная бібліятэка. Першыя гады УГА прымала студэнтаў з заходнеўкраінскіх зямель. Пачынаючы з 1926 г., сярод навучэнцаў – моладзь і іншых нацыянальнасцей, найперш выхадцы з Беларусі.

Прафесарска-выкладчыцкі калектыў УГА складаўся з выдатных вучоных, якія актыўна ўдзельнічалі ў міжнародным навуковым жыцці (кангрэсы, канферэнцыі). За час існавання УГА было апублікавала 698 навуковых прац, у тым ліку 229 манаграфій і падручнікаў.

Паказальным для ўкраінска-беларускага кантэксту з'яўляецца наступны факт. У 1925 г. у акадэміі ствараецца тэрміналагічная камісія па складанні агранамічнага і ляснога слоўнікаў, пачынаецца праца па падрыхоўцы нямецка-ўкраінскага "Лесатэхнічнага слоўніка". Узначальвае камісію прафесар Б. Іваноўскі, спецыяліст у агра-леса-меліярацыі, дэндралогіі, батаніцы. Як вядома, у гэты час В. Ластоўскі таксама актыўна працуе над складаннем слоўнікаў. У 1923 г. Ластоўскі, у суаўтарстве з К. Душ-Душэўскім, выдаў "Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў", у 1924 г. надрукаваў капітальны для свайго часу "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік", што месціў даведнікі асабовых імёнаў, арніталагічных, батанічных, вайсковых тэрмінаў. Заўвагі Я. Янушкевіча пра перапіску ў 1925 г. беларускага вучонага з канцылярыяй прэзідэнта Чэхаславакіі, што была выклікана працай Ластоўскага як мовазнаўцы, можна лічыць пацвярджэннем таго, што менавіта ў гэты час імя Ластоўскага ўжо "ўпісана" ў навуковую атмасферу Прагі. Як ужо заўважана, у 1926 г. В. Ластоўскі становіцца членам-карэспандэнтам УГА.

Відавочна, М. Шапавал, што знаходзіўся ў пастаянных кантактах з прэзідэнтам Масарыкам, быў адказны за дзейнасць акадэміі, у тым ліку і за падбор яе навуковых кадраў, усяляк спрыяў беларускаму адраджэнцу. Прыгадаем, што В. Ластоўскі ў 1918 г. стаяў ля вытокаў Беларускай Народнай Рэспублікі, узначальваў Кабінет Міністраў БНР. Месцам пражывання В. Ластоўскага ў сярэдзіне 1920-х гг. стала Літва, і, верагодна, сувязь з Прагай для яго ў гэты час не павінна была абмяжоўвацца

спецыяльнымі афіцыйнымі забаронамі. Так, В. Ластоўскі наведаў Чэхаславакію ў 1921 г. як удзельнік Першай Усебеларускай канферэнцыі, што адбылася ў Празе. В. Ластоўскі не мог не працягваць у Празе свае кантакты з тымі ўкраінскімі дзеячамі, што былі яго нядаўнімі калегамі па грамадска-палітычный дзейнасці. Сярод іх – М. Шапавал, які стаяў ля вытокаў Украінскай Народнай Рэспублікі (1917-1920), уваходзіў у склад Генеральнага Сакратарыята УНР. Зразумела, над ацэнкай палітычных платформаў М. Шапавала і В. Ластоўскага яшчэ будуць працаваць спецыялісты. Тут жа звяртаем увагу найперш на магчымасць іх навукова-філалагічных перакрыжаванняў.

У Каўнасе Ластоўскі на працягу 1923-1927 гг. выпускаў літаратурна-навуковы часопіс “Крывіч”. М. Шапавал разам з П. Багацкім, тым самым, з якім у Кіеве выдаваў часопіс “Українська Хата”, з якім цесна ў сярэдзіне 1910-х гг. супрацоўнічаў М. Багдановіч, выдаваў у Празе змястоўны штомесячнік “Нова Україна” (1922-1928). Якімі былі кантакты Ластоўскага са сваімі колішнімі калегамі ў галіне літаратуры і мастацтва, ці з’яўлялася беларуская праблематыка на старонках “Нової України” – пытанні, якія яшчэ чакаюць высвятлення. Аднак, зразумела, Шапавал, Багацкі і Ластоўскі як пісьменнікі, як журналісты-публіцысты, як арганізатары нацыянальнага друку займалі блізкія ідэйна-эстэтычныя пазіцыі, сугучнымі былі іх погляды на задачы мастацтва, навукі.

Лёсавызначальнымі для абодвух дзеячаў нацыянальнага адраджэння лічым і наступныя акалічнасці. У сучасным украінскім друку пра Шапавала пішуць як пра энергічнага лідара ўкраінскіх эсэраў. У Ластоўскага адносіны з партыяй эсэраў, як прынята лічыць, мелі “сваю дыяграму”: ад актыўнага членства – да выхаду з яе складу. Знаёмячы грамадства з роздумамі эмігранта Шапавала пра статус Украіны і Беларусі ў складзе Савецкага Саюза, навукоўцы прыводзяць цытату з яго працы “Більшовизм і Україна”: “Замест дыктатуры ў СССР павінна прыйсці *міжнародная дэмакратыя*, адбыцца ўраўнанне ў правах народаў, выявіцца іх новы статус, новыя іх узаемадачыненні, на гэтых падставах павінны здзяйсняцца і новыя формы інтэграванасці, інтэграванасці новых і незалежных грамадска-палітычных фарміраванняў”. Звернем увагу: выданне Шапавала ўбачыла свет у тым жа 1926 г., у той жа Празе, калі і дзе Ластоўскага абіраюць членам-карэспандэнтам УГА. Аднак падобна, што пазіцыю Шапавала, яго меркаванні, адзначаныя вышэй, Ластоўскі ўспрыняў як рэальную перспектыву бліжэйшага часу. У 1927 г. ён прымае прапанову ўрада Савецкай Беларусі і пераязджае з Каўнаса ў Мінск...

Сталася так, што змены палітычнага клімату ў СССР у канцы 1920-х – 1930-я гг. XX ст. спрычыніліся да трагічных падзей як ва Украіне, так і ў Беларусі. Імёны многіх знакамітых дзеячаў нацыянальных культур апынуліся на доўгія дзесяцігоддзі пад забаронай. Сёння ідэалагічнае табу афіцыйна знята з дзейнасці і В. Ластоўскага, і М. Шапавала. Аднак увыразніць для сучаснікаў творчыя воблікі гэтых заслужаных перад сваімі народамі людзей – праца не з лёгкіх. Існуе велізарны архіў М. Шапавала-Срыблянскага, матэрыялы якога вельмі каштоўныя, захавалася яго перапіска з выдатнымі дзеячамі часу. І цалкам верагодна, што не толькі перад украінскімі, але і перад беларускімі даследчыкамі могуць адкрыцца новыя цікавыя гістарычныя крыніцы...

Вацлаў Ластоўскі меў праз усё жыццё цесныя кантакты з украінскай элітай. Украінскі кантэкст жыццёвага і творчага шляху Вацлава Ластоўскага робіць больш выразным постаць беларускага адраджэнца, напаўняе большай змястоўнасцю гісторыю беларуска-ўкраінскага літаратурна-культурнага ўзаемадзеяння. На доказ гэтага працуюць многія факты і ўскосныя дадзеныя. А таксама – гіпатэтычныя меркаванні, падставы для якіх знаходзім ужо цяпер, але канчатковае і поўнае іх высвятленне, у асноўным, – задача будучага часу.

Валянцін Акудовіч



...здрадзіў каханню

дзеля літаратуры...

# Літаратурны інстытут

***З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"***

Я краў тры разы. Першы і трэці выпадак не дзеля гэтага аповеду. А вось другім, здаецца, будзе ў самы раз распачаць гаворку пра *Літаратурны інстытут.*

Я не памятаю дакладна, калі навучыўся чытаць, аднак, засвоіўшы гэтую справу, чытаў такім спехам, што, здаралася, бегаў у местачковую бібліятэку па два разы на дзень. Бібліятэкарка чамусьці не давала больш за тры кніжыцы адразу, а потым злавалася, што я адно гартаю іх дзеля малюнкаў і зноў скачу ў бібліятэку напускаць холаду.

Натуральна, у мяне не хапала адвагі нагадаць ёй, што хоць я яшчэ малы, але ўжо чытаю некаторыя кніжыцы і без малюнкаў, у чым нескладана пераканацца, пагартаўшы хаця б тыя, што цяпер у яе пад рукой.

Я адно вінавата ўгінаў галаву і думаў, што калі вырасту, дык ажанюся не з жанчынай, а з бібліятэкай. Бо не было ў мяне тады іншага жадання, акрамя як чытаць і самому пісаць кнігі.

Калі б у тую пару мне прапанавалі выбар: быць Уладаром усіх сонцаў і сусветаў ці лядашчым пісакам, нейкі твор якога прачытае ўсяго толькі выпадковы чалавек, я б не вагаўся ні хвіліны, бо тады быў пэўны, што сусвет і людства створаныя адно дзеля таго, каб было аб чым пісаць кнігі.

Што там казаць, мне вельмі карцела і самому далучыцца да гэтай блаславёнай справы. Аднак, перш чым улегчыся ў творыва, патрабавалася вырашыць адну сур'ёзную праблему: чым пісаць? Недарэчна было нават думаць, быццам пісьменнікі пішуць пёркавай асадкай, якой трэба раз-пораз мусова дзяўбсці школьную чарніліцу.

І я скраў у старэйшага прыяцеля аўтаручку...

Але кнігу тады не напісаў, бо бацькі майго прыяцеля (і сябры маіх бацькоў) неяк заўважылі ў мяне скрадзенае.

Было вельмі сорамна – і мне, і маім бацькам. Зрэшты, без таго пякельнага сораму я б ужо і не памятаў, што першую сваю кніжыцу выдаў праз сорак год пасля таго, як пачаў яе пісаць.

***

Напрыканцы семідзясятых я апынуўся ў Мінску, дзе мяне ўладкавалі на маторны завод (токар, слесар, выпрабавальнік рухавікоў, экспедытар). Паміж зменай гэтых прафесій забралі ў войска. Там асколак гранаты трапіў у вока, і пасля шпіталя мяне камісавалі з войска. Тады я зноў вярнуўся ў свой эксперыментальны цэх.

Мой раман з маторным заводам запыніўся на 1975 годзе. Я даслаў на конкурс у маскоўскі Літаратурны інстытут невялічкую аповесць, паспяхова яго прайшоў (казалі пра больш як сто чалавек на месца), і пасля іспытаў мяне запрасілі на вучобу.

Ад шчасця мяне напраўду ліхаманіла, аднак страху было яшчэ болей. Раптам не прыдамся і мяне пагоняць назад у задымлены цэх Мінскага маторнага завода!

Дарэчы, на пачатку сітуацыя яшчэ моцна ўскладнілася адным драматычным сюжэтам. Я ж паступаў на завочнае аддзяленне, толькі адразу пасля апошняга іспыту мяне выклікалі ў прыёмную камісію, дзе прапанавалі перабрацца на вочнае навучанне.

Гэта азначала пакінуць Мінск і на пяць гадоў пераехаць у Маскву. Тут я і разгубіўся, паколькі ў Мінску заставалася маё вялікае каханне.

Хаця варта ўдакладніць: *другое* вялікае каханне. Першае здарылася ў восьмым класе і доўжылася сем гадоў. Гэта было апакаліптычных памераў узрушэнне: неверагодна шчаснае і гэтаксама пакутнае. На выпускным вечары я ўпершыню запаліў цыгарэту, бо ўжо здагадваўся, што ніколі болей не пабачу сваю каханую.

Між іншым, яна і ведаць не ведала пра *пакуты маладога Вертэра*. Мера маёй сарамлівасці ў тую пару была такой, што я і на дыбе не сказаў бы: "Кахаю!"

(Толькі праз гады здагадаўся, чаму хлопцу бывае так складана вымавіць самае галоўнае слова свайго жыцця? Бо спадысподу прыўкраснага слова "Кахаю" маўчыць брыдкае "Хачу".)

Другое маё каханне ўжо было цалкам дарослым з усімі яго сюжэтамі ды атрыбутамі: ад сарамлівых заляцанняў да жарсных пацалункаў і ўсялякага такога падобнага. Мы з дзяўчынай ужо нават пачыналі як бы жартам разважаць пра шлюб...

Агаломшаны, пабег па парады да прыяцеляў, з якімі прысябраваўся падчас іспытаў. Чаго толькі ні пачуў ад іх за бліжэйшыя некалькі гадзінаў: ідыёт, балбес, прыдурак, хворы на ўсю галаву і г.д. і да т.п.

Што праўда, было і колькі рацыянальных аргументаў. Хіба не найбольш важкі – што Мінск зусім не далёка ад Масквы і можна ездзіць цалавацца хоць сабе кожны

ўікэнд... А пяць гадоў са стыпендыяй у сталіцы свету – гэта ж і словаў такіх няма, каб маё шчасце апісаць...

І я здрадзіў каханню дзеля літаратуры. Ну, не зусім здрадзіў, бо і цалавацца ездзіў, і праз нейкі час па вяртанні ў Мінск мы пабраліся шлюбам. Але ў той дзень выбару я ведаў, што здрадзіў.

***

Мае страхі, што буду выгнаны з Эдэму, не спраўдзіліся. Праз колькі месяцаў пачуваў ужо сябе досыць упэўнена сярод аднакурснікаў, а недзе годам пазней нават быў вызнаны як інтэлектуал. Тады да мяне па кансультацыі наконт філасофскай веды пачалі прыходзіць і хлопцы з старэйшых курсаў.

Даволі хутка знайшоўся і блізкі мне хаўрус, з якім па сёння адчуваю сяброўскую еднасць. Спіс кароткі, таму пералічу: Слава Кіктэнка, паэт з Алма-Аты; Юра Андрыянаў, паэт з Уфы; Сяргей Махоцін, дзіцячы паэт і бард з Ленінграда. (Пазней Слава з Юрам стануць галоўнымі рэдактарамі добра вядомых у Расіі літаратурных часопісаў: першы – алмаацінскага "Прастору", другі – уфімскага "Бельскія прасторы".)

Санжын Пурэў з Улан-Батара не быў у нашым хаўрусе, бо пераважна сябраваў з манголамі, але ўсе гады навучання мы з ім пражылі ў адным пакоі. Ён ужо меў пяцёра дзяцей, кніжку прозы і юрту ў сталіцы Манголіі замест кватэры.

У Санжына выявілася толькі адна загана – ён быў фантастычна харошым чалавекам. Таму ці не ўсе маскоўскія манголы, як і манголы, што рушылі праз Маскву ў Еўропу, не стамляліся раз-пораз завітваць да яго ў госці.

"Перманентнае татарска-мангольскае нашэсце на тэрыторыю аднаго пакоя", – весела скардзіўся я сябрам.

Не магу не згадаць хаця б адзін эпізод з той пары нашага жытва. Пасля чарговых вакацыяў Санжын вярнуўся з вэнджанай нагой жарабяці, вышынёй мне амаль па плячо. Ён разгарнуў тоўстую паперу і сказаў: гэта падарунак. Колер вэнджаніны зачароўваў, а ядлоўцовы пах вабіў як сама эсенцыя смакаты. Да таго ж у камплект прэзента ўваходзіла дзве пляшкі элітнай гарэлкі з блішчастымі змейкамі на дне.

Зразумела, мы ў момант селі за стол. Я адрэзаў сабе кавалак каніны, пакаштаваў – смачна...

А праглынуць не змог. Што і не дзіва, бо ў нас ніхто і ніколі не еў каніну. Нават і падумаць пра такое было гідка.

Я прыкрыў рот рукой, і неўзабаве той недажаваны кавалак апынуўся ў кішэні. Толькі што рабіць далей? Чалавек праз паўнеба цягнуў падарунак! І раптам мяне азарыла. "Слухай, Санжын, – прапанаваў я, – гэтак будзе нядобра, калі мы толькі ўдвох нацешымся такім цудам. Давай запросім маіх сяброў".

Санжын ўзрадаваўся, бо любіў частаваць не толькі дабрынёй свайго сэрца, а ўсім, чым толькі мог.

Запрасілі... Што і казаць, двух пляшак гарэлкі на цэлую нагу жарабяці нам не хапіла. Таму яшчэ некалькі разоў бегалі ў краму.

Калі мы сяброўскім кагалам адпраўлялі Санжына ў Манголію назаўжды, дык я плакаў на пероне, як ніколі раней. А Санжын плакаў у вагоне, прыціснуўшыся да шыбіны так, быццам хацеў яе раздушыць. Ну рыхтык два бабры румзалі...

(Пасля "перабудовы" Санжын Пурэў стане Народным пісьменнікам Манголіі.)

***

Першым з нашага хаўрусу не стала Юры Андрыянава. Як такое здарылася, то мяне папрасілі што-кольвек напісаць пра сябра для "Бельскіх прастораў".

На той час я ўжо даўно развучыўся пісаць па-руску, аднак тут адмаўляцца не выпадала.

## Чем ближе к небу, тем холоднее

Юра был высокий! Естественно, речь здесь не о антропометрии, хотя и о ней тоже, но лишь вскользь. Юра был настолько высокий, что ему не хватало собственной высоты. Поэтому его голова всегда была как бы немного запрокинута. Выше, еще выше... Со стороны это виделось как веселое презрение ко всему, что ниже его. А он всего лишь высматривал небо. Помнится, без устали. Вот отчего облака, зори, луны, закаты, рассветы... даже фигуративно присутствуют почти в каждом стихотворении. Отсюда и доминирование «высокого штиля» в его поэзии. Она вся на котурнах пафосной риторики, даже если речь идет о низменном. И временами не совсем уместная дидактика с тех же причин. Впрочем, какой слог, кроме возвышенного, может быть у поэта с запрокинутой головой?

Мне скажет друг: "Зачем невесел ты?.."
Я промолчу – я занят небесами:
Глаза мои наполнены слезами –
Сквозь слезы лучше видятся мечты.

Юра был высокий, а я – обычного роста. Поэтому вместе мы смотрелись, пожалуй, даже несколько пародийно. Но это не мешало нам быть вместе чаще, чем каждому по отдельности.

Утром он заходил ко мне в комнату и мы ехали в институт. За *партой* все пять лет учебы сидели плечо в плечо. Возвращались в общежитие тоже вдвоем. А там неуемные беседы до утра, нередко с вином и шальными песнями (пел он замечательно!).

Кстати, когда мы еще не были друзьями, Юра меня буквально потряс одним своим поступком. В какой-то ночной попойке наш сокурсник (имя опустим) выбросил из окна пустую бутылку, и она разбилась об асфальт. На шум прибежала вахтерша, переписала собутыльников и доложила ректору. А у того за подобные преступления было одно наказание – исключение из института. Тогда Юра и предложил взять вину на себя, мол, он член партии и за это его, возможно, помилуют. Однако ректор, коммунист сталинской формации, был непреклонен.

Но Юра все-таки остался в институте. Кто-то сторонний пересказал ректору, что Андрианов не виноват, он только назвал чужой проступок своим – и высородный порыв моего будущего друга смягчил стальное сердце сурового партийца.

Если в черную,
Черную ночь
Сильный силы своей устрашится,
Слабый сильному
Должен помочь,
А иначе беда приключится.

Кто сказал, что в одном человеке разместился всего один человек? Да в каждом из нас их целая толпа! Прежде всех здесь сексуальный человек, затем социальный, потом религиозный, национальный и так далее, и тому подобное. И они все время конфликтуют между собой. Скажем, сексуальному человеку ясно чего хочется, а религиозный его стыдит: побойся Бога, сегодня же великий пост... Однако ситуация и вовсе невероятно усложняется, когда в этой толпе есть еще и Поэт.

Тот круг общения, с которым мы тесно слились, жил исключительно литературой и дружбой. Но мы были молоды и поэтому иногда случалось всякое. То есть, пусть и редко, но бывало, что в конкуренции за наше внимание литературные героини уступали плотскому очарованию реальных женщин. Однажды и у Юры завязался

роман с высокой, стройной (под стать ему) классической “русской красавицей”. Я откровенно ею восхищался и был рад за друга. Но как-то перед их очередным свиданием Юра попросил меня встретиться с ней и сказать, что он ее по прежнему любит, но они должны расстаться.

– Почему?! – обескураженно удивился я.

Естественно, сегодня мне в точности не пересказать его объяснение и мои увещевания, чтобы выбросил эту дурь из головы. Но простая и трагичная суть сказаного помнится абсолютно ясно.

– Понимаешь – объяснил он, – любовь убивает во мне поэта. Когда я люблю, я не могу писать стихи. Вот расстанемся, и все наладится. Увидишь, все наладится. Я снова буду писать.

Не оттого, что больше не люблю,
Не потому, что сердце тише бьется,
Я расставанье наше тороплю
Затем, что без разлуки не поется.

После только что рассказаного мне не стыдно сказать банальное: Юра не для жизни был создан, а для поэзии. И только в ней видел оправдание своей жизни. Во всякий день он с нетерпением ждал ночи, чтобы устроить под настольную лампу чистый лист и, окунувшись в клуб табачного дыма, до утра ворошить слова и смыслы. Далеко не каждую такую ночь у него получалась хотя б строфа или, на худой конец, стоящая внимания строчка. Но это Юру вовсе не обескураживало. Он любил само погружение в глухую ночь, где из ниоткуда возникала та тишина, за которую ничего нет выше. Потому что только в ней и через неё у него получалось видеть всё, что днем заслоняло слепое солнце (и само солнце тоже). Замечательно про это сказал наш самый близкий литинститутский друг Вячеслав Киктенко: “Не без некоей доли мистики я словно бы вижу это, вижу как шаг за шагом поэт движется сквозь воронки и завихрения, сквозь бури этого мира (очень шумного мира!) к центру самого циклона, где – тишина и покой. Именно *тишина* для этого русского поэта, христианина по вероисповеданию, является истинной жизнедательницей, так же, как для буддиста, к примеру – «**великая пустота**», из которой рождается **«всё»**” **(**«Шаг в тишину»).

А в праздные ночи мы с Юрой любили порассуждать о том, что глазами небо не увидеть. Что его можно лишь реконструировать для себя в глухой тиши безоглядной ночи. Но когда мы слишком увлекались горними высотами духа, я, бывало, возьму и вспомню тревожные слова Дельвига из письма к Пушкину: «Чем ближе к небу, тем холоднее».

Тогда я еще не знал почему меня так захватывают эти вроде как пустопорожние разговоры о бытии. Хотя как раз среди одной из таких ночей решил: если человечество ленится узнать, что такое человек, то это сделаю я. Однако пройдут годы прежде чем я прощусь с художественной литературой, чтобы полностью погрузится в метафизику. Когда Юра умирал, я заканчивал свою «Книгу о Ничто». Понятно, что здесь не было никакой, даже мистической связи. Но когда Юра умер, я много думал о Ничто в связи с моим другом, который больше всего любил тишину глухой ночи, из которой прорастали его лучшие стихи.

Ох уж эта мне ночь! –
ни для птиц, ни для слов.
Эта ночь для встречанья души,
Для шуршанья мышей,
для молчанья часов...
Эта ночь красотой так зовет и страшит,
Что все двери запрешь на засов.

Где-то в самом конце ноября, глубоко заполночь в комнату стремительным шагом входит Юра. Ни слова не говоря, настежь распахивает окно. Я ежусь от холода и ничего не понимаю. Но замечаю, что его глаза горят восторгом. Он вытаскивает меня от стола и подводит к оконному проему.

– Смотри, – говорит торжественно, словно это церемония открытия Вселенной, – первый снег!

Мы долго смотрим, как в желтом свете фонарей никуда не спеша опускается снег.

Насмотревшись, он закрывает окно и заявляет:

– Этого нельзя не отметить!

Ну что ж, первый снег я еще никогда не отмечал. Тем более, что у друга так горят глаза, словно это он сам написал «Блажен, кто посетил сей мир...»

Таким его и буду помнить... Глубокая ночь. На фоне распахнутого настежь окна стоит высокий и красивый человек с восторженным лицом. А за его спиной совсем не спеша опускается на землю большой и белый-белый снег.

Знаю: счастье стороной
Белым снегом мчится.
Ты ли, я ли, мы с тобой,
Нам опять не спится.

Словно два холостяка –
Ветренных два брата,
Выпьем, что ли, за снега,
Что летят куда-то.

***

Нягледзячы на супольнае з Юрам пражыванне літінстытуцкага жыцця, інтэлектуальна, ды экзістэнцыйна таксама, самым блізкім мне стаў Слава Кіктэнка. Калі ён сядзеў глыбока задуменным, дык нагадваў мне мудрага грака. Слава ведаў на памяць тысячы вершаў ды шмат чаго іншага з гісторыі вербальных дыскурсаў. Толькі ён гэтым аніяк не ганарыўся, адно нечакана цытаваў геніяльныя радкі з кожнай прынагоднай сітуацыі.

Ягонае лідэрства не толькі ў нашым хаўрусе, але і на курсе было безумоўным. Разам з тым, ва ўсім, чым ён вызначаўся, дамінавала гранічная простасць. Мяркую, што якраз інтэлектуалізм і простасць злучылі нас на доўгія гады. Хаця ў сяброўстве, як і ў каханні, заўсёды ёсць месца яшчэ нейкай загадкавай тайніцы, якую марна спрабаваць вылічыць.

***ДРУГУ***

Распахнут дом твой, словно рад любой потере.
Заходит в окна листопад, уходит в двери.
Заходит в двери гость, свистит, в окошко глядя,
Там дикий виноград блестит. На винограде
Налились окна докрасна. Пора налиться.
Нальем же красного вина, как эти листья.
Нальем и выпьем же вино, мой друг давнишний,
Пока распахнуто окно и гость не лишний,
И диких ягод поздний стук еще не робок,
И черных – две – всплывают вдруг из наших стопок.
И пусть уже ночная тень все ближе, ближе.
Недолгий век, короткий день благослови же,
Благослови осенний сад и свет последний,
И листопад, и листопад тысячелетний...

Пасля інстытута ў розныя гады мы яшчэ некалькі разоў сустракаліся ў Маскве, у Алма-Аты, у Мінску і асобна іншым разам – на Нарачы, дзе я цэлы сезон працаваў лодачнікам.

Найбольш эмацыйнай была алмаацінская сустрэча. Я наўмысна распрацаваў маршрут па гарах Цянь-Шаня так, каб завершыць яго на знакамітым алмаацінскім возеры Медэа. Скуль адразу тралейбусам можна было даехаць да казахскага Саюза пісьменнікаў, дзе месцілася і рэдакцыя часопіса «Простор».

Абадраны, згаладалы, брудны, зарослы шчэццю да вачэй, я калыхаўся ў тралейбусе і весела думаў, што ніколі такога і блізу не было, каб яшчэ ранкам паснедаць у гарах ля вогнішча, а па абедзе ўжо ехаць у грамадскім транспарце. Звычайна пасля складанага маршруту некалькі дзён трэба было дабірацца да цывілізацыі.

Перад будынінай Саюза пісьменнікаў мяне чакаў яшчэ адзін сюрпрыз. На прыступках ля вялізных дзвярэй стаяў ладны натоўп мужчын ў гарнітурах з гальштукамі. Не ведаючы, як іх абмінуць, я збянтэжана схіліў галаву і рушыў у самую сярэдзіну. Гарнітуры здзіўлена расступаліся, і толькі самы апошні не рухаўся. Я падняў вочы і ўбачыў Алжаса Сулейменава, тады самага знакамітага паэта сярод усіх нацыянальных літаратур (а ў Казахстане ён меў вагу нават большую, чым старшыня Вярхоўнага Савета). Я трохі шмаргануў заплечнікам па гарнітуры Алжаса і неўзабаве апынуўся ў абдымках сябра. А праз якія паўгадзіны ў яго кватэры ўжо адмакаў у балеі і раз-пораз зіркаў на стол з кавуном, дыняй, вінаградам, пловам і featureрознафарматнымі пляшкамі.

Гэта была фантастыка, каб так адразу і ўсё разам: абснежаныя вяршыні за вакном, лепшы сябар побач, балея з гарачай вадой і келіх каньяка ў руцэ...

***P.S.***

Калі быць больш дакладным, дык Алжас Сулейменаў зрабіўся суперзнакамітым не столькі паэзіяй, колькі даследчай кнігай “Аз і Я”, у якой даводзіў, што “Слова пра паход Ігара” напісанае рускай і цюркскай мовамі.

Гэта настолькі абурыла расейцаў, што аўтара ганілі на сходах па ўсім Саюзе: ад Палітбюро да апошняй вясковай бібліятэкі. (На адным з іх я таксама прысутнічаў.)

***

Потым у нейкі час мы на гады згубіліся адзін для аднаго. А як Слава перабраўся жыць у Маскву і ўладкаваўся там настала, то сам знайшоў мяне...

І пачалося ліхаманкавае ліставанне. Нам заўсёды было пра што гаварыць і гаварыць не абы пра што... Але перадусім ён шкадаваў з таго, што ў сваю пару я не застаўся ў Маскве, хаця і меў дзіўную магчымасць. Маўляў, цяпер, як і тады, былі б побач.

Патлумачу *o co chodzi*... Пасля літаратурнай практыкі ў часопісе “Знамя” мне прапанавалі там працу да заканчэння інстытута. А як наспеў час развітвацца, дык пачалі ўпрошваць, каб я застаўся настала рэдактарам у аддзеле прозы. Нават запэўнілі, што дапамогуць з прапіскай у Маскве.

Я шчыра падзякаваў, толькі адмовіўся, хаця ў Мінску нічога мяне не чакала: ні праца, ні кватэра, ні хоць якая перспектыва. Натуральна, на мяне зноў сталі глядзець як на вар’ята. Кінуць адзін з самых прэстыжных літаратурных часопісаў імперыі з неблагім заробкам – і дзеля чаго?!

А каб я ведаў дзеля чаго. Тады ж яшчэ і знаку не было сапраўднай Беларусі.

Дарэчы, можа яшчэ і таму адмовіўся, што гэты горад, пакінуты сябрамі, мне быў зусім без патрэбы. Урэшце рэшт, для мяне ўся *мая Масква,* лічы, без

астачы была запакаваная ў дом Герцена на Цвярскім бульвары ды ў інтэрнат на вуліцы Дабралюбава. І роля апошняга, бадай, была больш значнай дзеля мацавання маёй духовай эманацыі, чым кафедральны досвед уласна інстытута. Колькасць таленавітых хлопцаў і дзяўчат на квадратны метр у інтэрнаце была проста вар'яцкай (ва ўсіх сэнсах). І ўсё гэта таленавітае без спыну прамаўляла, спрачалася, палемізавала...

А яшчэ тут можна было чытаць, чытаць і чытаць – што паводле праграмы, а што ў дадатак ці ўвогуле паўз яе. І за гэта яшчэ атрымліваць стыпендыю. Неверагодна. Зрэшты, уся літаратурная вучоба паводле сваёй сутвы і ёсць ні чым іншым, як чытаннем...

Карацей, я вярнуўся ў Мінск праз нейкае няўцямнае мне самому парыванне і толькі праз гады зразумеў, чаму сюды вярнуўся. З гэтай відушчы некалі напісалася наступнае:

"Я меў ужо амаль сорак гадоў, калі здарылася Беларусь. І толькі пасля таго, як яна здарылася, зразумеў, што да гэтага па сутнасці жыў у *нідзе* і, калі заўгодна, жыў як *ніхто*. Праўда, апошняе зусім не азначае, што я жыў *ніяк*. Паводле мовы тагачасных ідэолагаў, у мяне было "шчаслівае дзяцінства" ў ціхамірным мястэчку Свіслач. А маладосць апынулася яшчэ больш багатай на радасць, бо я атрымаў напоўніцу ўсяго, чаго прагне чалавек у хлапечыя гады – сяброў, кахання, вандровак, ведаў. За тую пару я абножыў, лічы, усе горы "адной шостай часткі зямной сушы" (метанімічны троп Савецкага Саюза), скончыў ці не самы прэстыжны інстытут камуністычнай імперыі (літаратурны ў Маскве) і зразумеў сябе як "трансцэндэнтнага суб'екта" (Кант), гэта значыць, пачуў магутны покліч метафізічнай вусцішы і прыняў яе выклік.

Карацей кажучы, за пару маладосці я займеў сабе ў падставы даволі ўсяго, каб паўнавартасна пражыць астатняе жыццё. І, пэўна, пражыў бы яго не горш за іншых, а пасля сыйшоў бы з дымам у нябёсы праз комін маскоўскага крэматорыя ....

Цяпер, калі я мяркую, што так яно і насамрэч магло збыцца, мне ўмомант робіцца млосна. Як лёгка чалавеку размінуцца з уласным лёсам! І як мала ад самога чалавека залежыць, каб гэтак не сталася. Варта было затрымацца незалежнасці Беларусі, і я ніколі нават не даведаўся б, што насамрэч пражыў сваё жыццё як чужое.

Магчыма, тут шмат хто запярэчыць, маўляў, як бы жыццё ні склалася – яно толькі тваё і з гэтага не можа быць табе чужым. Выглядае слушна, але скуль тады ўсеахопная млосць, калі я падумаю пра сябе без Беларусі?!."

***

Гады ў рады мне ў розных месцах сустракаліся аднакурснікі, пазасталыя ў Маскве, і чамусьці амаль усе яны клікалі вярнуцца. Найбольш кідка (і нечакана) сфармуляваў сэнс майго вяртання Сяргей Іонін, блізкі да нашага курсавога хаўрусу. Ён кудысьці ехаў праз Мінск і завітаў да мяне ў вартаўніцкую каморку. Цягнік быў яшчэ не хутка, таму мы без спеху выпілі "Агдаму" і дасхочу нагаварыліся. На развітанне Сяргей сумна агледзеў маю *канцэптуальна* завэзганую каморку і сказаў: «Возвращайся, Вал! Москва большая, а умных людей мало». (Забыўся сказаць, што ў літаратурным інстытуце мяне інакш, як «Вал», ніколі не называлі.)

Думаю, не памылюся, калі заўважу, што акрамя сяброўскіх сантыментаў Слава таксама хацеў пакарыстацца маёй схільнасцю да крытычных рэфлексій. І не толькі ў літаратурным, але і ў метафізічным дыскурсе. У Расіі метафізіка, акрамя рэдкіх выключэнняў, заўсёды апыналася *за плотам*. З гэтага Славе не было асабліва з кім зазіраць у сутарэнні нябёсаў. А тут якраз выбухнулі ў яго касмаганічныя паэмы, замешаныя на метафізіцы з містыкай ды ідэалогіяй рускага паганства адначасна. Усё гэта мы і пачалі абмяркоўваць праз ліставанне.

Зразумела, было і шмат чаго іншага ў нашых эпісталах, аднак не было ні слова пра палітыку. Ані слоўка!!!

Рэч у тым, што ён быў рускім *шавіністам*, а я беларускім *нацыяналістам*.

Слава ну аніяк не мог уцяміць, на якую халеру Валу беларуская мова і да таго ж яшчэ Беларусь упаасобку ад Расіі. А я не бачыў сэнсу яму тлумачыць, што пакуль Расія такая, якой яна ёсць, не ляснецца (не перафарматуецца ў нешта радыкальна іншае), то датуль "сонца не зазірне ў наша ваконца". Таму мы абодва і маўчалі пра палітыку, як рыба аб лёд, – сяброўства было даражэй.

Напэўна, мы б і па сёння ліставаліся, каб рускія не захапілі Крым.

Натуральна, як і ўсе нармальныя людзі, я быў шакаваны. У дадатак да гэтага калектыўнага шоку мяне моцна вярэдзіла персанальная згрызота: як зараз ліставацца? У сітуацыі *такой* вайны рабіць выгляд, быццам нічога не здарылася, было не проста немагчыма, а брыдка...

Дык што тады рабіць? Анічога. Я проста не стаў адказваць на апошні ліст. Якім было маё здзіўленне, калі праз нейкі час Слава сам напісаў. І напісаў так, як быццам ніякай вайны не было. Відаць, нічога лепшага не прыдумаў, каб выратаваць сітуацыю.

Толькі сітуацыя ўжо нічым не ратавалася. І я адказаў на развітанне: "Табе жадаю дабра, а тваёй краіне – не".

Наастачу атрымаў: "Жадаю дабра табе і тваёй краіне".

***

У 1968 годзе рускія танкі ўпляжылі ў пражскі брук чэхаславацкі "сацыялізм з чалавечым тварам". Пасля гэтага паўмільёна людзей, перадусім інтэлігентаў, звольнілі з працы. Больш як 200 чэшскім і славацкім пісьменнікам было забаронена друкавацца. Іх кнігі павыкідалі з усіх публічных бібліятэк, а імёны выдалілі з падручнікаў гісторыі. Сярод іх быў і Мілан Кундэра, які ўжо ў эміграцыі згадае першую сустрэчу з русскімі салдатамі.

"Ішоў трэці дзень акупацыі. Я ехаў з Прагі ў Чэска-Будзёвіцы (...). Рускія салдаты былі ўсюды: на дарогах, у палях і лясах. Потым мяне спынілі, і трое салдат пачалі абшукваць маю машыну. Пасля гэтай працэдуры афіцэр, які аддаў загад зрабіць вобшук, спытаў мяне: "Как вы себя чувствуете?", гэта значыць "Як вы пачуваецеся? Які ваш настрой?" У яго пытанні не было ні злосці, ні іроніі. Наадварот, афіцэр працягваў: "Усё гэта вялікае непаразуменне. Але ўсё будзе добра. Вы павінны ведаць, што мы любім чэхаў. Мы вас любім".

Пейзаж, зруйнаваны тысячамі танкаў, будучыня краіны, спаскуджаная на стагоддзі, дзяржаўныя дзеячы Чэхаславакіі, арыштаваныя і вывезеныя ў СССР, а афіцэр акупацыйнага войска робіць вам прызнанне ў любові. Зразумейце мяне правільна: ён не выказваўся супраць акупацыі, ні ў якім разе. Усе яны казалі амаль таксама, як і ён. Іх пазіцыя была заснаваная не на садысцкай асалодзе гвалтаўніка, а на іншым архетыпе – архетыпе параненай любові. Чаму гэта чэхі (якіх мы так любім!) не жадаюць жыць разам з намі паводле адной сістэмы? Як шкада, што мы змушаныя скарыстаць танкі, каб навучыць іх любові"...

Я згадаў гэты фрагмент з тэксту Мілана Кундэры пасля таго, як з трывогі за Украіну мяне пачалі пераследаваць усялякія жахлівыя відзежы. І сярод розных адзін быў дакладна такім, як у Кундэры. Акупаваная рускімі Украіна, усюды поўна вайскоўцаў, грукочуць танкі, гудуць бамбавікі, а дарогі спрэс перапярэзаныя блокпастамі. Ля аднаго з іх спыняецца легкавічок з боку Харкава. Адтуль выходзіць – з паднятымі дагары рукамі, – любімы і ў Беларусі пісьменнік Сяргей Жадан.

Пасля вобшуку афіцэр, уздыхнушы з палёгкай, просіць апусціць рукі і нават прабачаецца: "Не пераймайцеся моцна, гэта часовая нязручнасць. Мы толькі

вызвалім вас адрознай навалачы, каб яна не замінала нам любіць адзін аднаго. Мы ж родныя браты на векі вечныя. Ці не так?..”

Сяргей Жадан тут убачыўся, відаць, таму, што кагадзе яго збілі на горкі яблык у родным Харкаве свае ўкраінскія рускія. Зрэшты, сам герой эпізоду тут не істотны. Паколькі гэты мой успамін не пра ўкраінцаў...

Здаецца, упершыню я зразумеў, што рускія любяць вайну на нейкім няйначай як генетычным узроўні, калі познім вечарам калідоры літінстытуцкага інтэрната выбухнулі радаснымі воклічамі: “Вайна! Вайна!” Хлопцы бегалі па калідорах, грукалі ў дзверы і шчасліва гарланілі: “Мы аб’явілі вайну Аўгану!”, “Мы аб’явілі вайну Аўгану!” А пакуль адныя бегалі па калідорах, другія ўжо бегалі па начных крамах, набіраючыся гарэлкі, каб святкаваць вайну да глыбокага ранку.

Толькі я ў тую ноч не частаваўся з сваімі рускімі сябрамі. Між іншым, не я адзін. Тады толькі на нашым курсе акрамя рускіх вучыліся манголы, украінцы, прыбалты, башкіры, каўказцы... І ці не ўсе мы, як мыш пад венік, пахаваліся ад гэтага мілітарнага шалу па сваіх пакойчыках, каб сам-насам думаць пра Трэцюю сусветную вайну і смерць, смерць, смерць...

Цяпер у мяне ладная калекцыя падобных “эйфарыяў”, якая адсылае да сведчанняў з рускіх войнаў розных эпох і стагоддзяў (пачынаючы з войнаў Івана Жахлівага). Вобмацкам выхаплю хаця б адну з пачатку Першай сусветнай вайны, калі ўся адукаваная Расія *ликовала* ад прадчування вялікай крыві. Тады на фронт журналістамі папрасіліся найлепшыя рускія паэты “срэбранага веку” (гэта якраз праз той патрыятычны чад Аляксандр Блок ашчасліviў сваёй прысутнасцю Беларусь). Таму цяперашні мілітарны шал расійскага істэблішменту пасля Крыму не быў навіной – прынамсі, у гістарычнай рэтраспектыве падобных было мноства.

Да месца яшчэ заўважу, што гісторыя Расіі, лічы, не ведае антываенных пратэстаў. Ці не таму невялічкая акцыя дысідэнтаў супраць акупацыі Чэхаславакіі засталася ў гісторыі Расіі маштабнай падзеяй?

Карацей, я ўпэўнены, што рускія натуральна (з характару сваёй натуры) любяць вайну, толькі пакуль ніяк не магу даўмецца: чаму? Можа найперш таму, што гэта іх прыроджаны спосаб засваення прасторы быцця. Бо менавіта вайна была асноўным інструментам у справе разбудовы бязмежнай рускай цывілізацыі ва ўсе часы яе існавання.

Уладзімір Мароз



...у нас ёсць Парыж, які дазволіць не забыцца на каханне, рамантыку, паэзію...

# Спатоленасць Парыжам

***З аповедаў жыцця***

З якога боку ні падступайся – усё адно будзе Парыж!

Калі згадаць, як мы з Вольгай у далёкай маладосці мелі намер на шлюб, то Парыж там прысутнічаў. Бесклапотнага і заможнага жыцця будучай жонцы я не абяцаў, але даклараваў, што ў горад, дзе свята заўжды з табою, выберамся абавязкова. Чаго не наабяцаеш на хвалі ўзнёсласці кахання, калі ўсё жыццё наперадзе?! Праўда, у 1978-м гэта была недасягальная мара. Парыж вабіў адным гэтым словам, за якім для нас было нешта незвычайнае. Мастакі, паэты, класікі літаратуры дзевятнаццатага стагоддзя, помнікі архітэктуры, якія ведаў са студэнцкіх гадоў, нарэшце, французскае кіно. Што тут казаць? Жонка неаднойчы за нашыя сумесныя трыццаць пяць гадоў жыцця папікала мяне – ну, дзе тое свята?

Ці знакамітая “стомленасць Парыжам” майго сябра Леаніда?! Яна з’явілася адначасна з аднайменным эсэ, напісаным у першай палове дзевяностых, што лёгка спраўдзіць, дзякуючы

пунктуальнасці пісьменніка. Надрукавана было ў яго кнігах “Акропаль”, “Стомленасць Парыжам”, “Таспода”, так што і чытач мог ужо стаміцца разам з аўтарам. Сутнасна тут не бяру, рэфлексіі толькі да назвы. Але піяр-розгалас-вобраз – адно, а Парыж – іншае. Не тое, каб я зайдросціў таварышу, але пэўнае шкадаванне было, як быццам ты маеш нейкія асаблівыя правы на гэты горад. Суцяшала хіба, што на Святой Зямлі ніхто з маіх калег не быў і сыходжанне Святога дабрадатнага агню на праваслаўны Вялікдзень не бачыў. Ды і за акіян мой сябар Леанід не дапяў, а я ўжо ўвесь Нью-Йорк абыйшоў пехам. Тым больш Парыж, як і ўсё іншае, стаў даступным, абы грошы. І ў гэтым сэнсе страціў частку сваёй прывабнасці – ехаць туды проста адзначыцца вялікага сэнсу ўжо не мела, тым больш у нас вымаляваліся іншыя (заакіянскія) геаграфічныя прыярытэты ў звязку са старэйшым сынам.

Ці калі зайшоў да мяне высокі хударлявы юнак і на чысцюткай беларускай мове назваўся: Дзмітрый Махамет, рэжысёр. Па твары здагадацца аб такім прозвішчы было праблематычна. “Ды ў нас практычна ўся вёска Махаметы! – як прадчуваючы маё пытанне, патлумачыў хлопец. – На Гродзеншчыне”. Але цяпер Дзмітрый быў з Парыжа. Два гады ён вучыўся ў французскай кінашколе, так пакуль у Францыі і застаўся. Прабіваў свой праект “Цені Нарвілішак” аб беларускім анклаве ў Літве. Сцэнарый яго выйграў конкурс, дзякуючы гэтаму і прадзюсар знайшоўся. Заставалася адно – знайсці грошы, што на Захадзе займае працяглы час, а то і зусім сканчаецца безвынікова. Хлопец мне спадабаўся, у нас ён скончыў акадэмію мастацтваў па манументалістыцы, што было адчувальна па прыгажосці кадра ў яго пакуль нешматлікіх работах. Я спрабаваў неяк дапамагчы маладому рэжысёру, уключыць у план яго фільм аб роднай вёсцы, але не ўдалося. З той сустрэчы падсвядома вярнуўся Парыж як згадка-напамінак аб рамантычнай маладосці.

Ужо свядома пробліск надзеі ўсё-такі трапіць у Парыж мільгануў праз год, калі Дзіма недзе пасярэдзіне лета запытаўся канкрэтна, ці мог бы “Беларусьфільм” увайсці сувытворцам у яго праект аб Нарвілішках? А чаму б і не? Час быў якраз спрыяльны, міністр Латушка дакляраваў аб сумесных праектах. І я (Люба якраз была ў адпачынку) з дапамогаю Аксаны, якая потым і стала дырэктаркай карціны, зрабіў амаль цуд – за месяц аформіў дамову з французскім бокам на наш удзел, які заключаўся ў правядзенні ўсяго здымачнага перыяду. Махаметава прадзюсарка Стэфані акрэсліла нашу долю ў каштарысе на пятнаццаць працэнтаў, але ж я разумеў, што рэальна адзняць фільм – гэта больш чым паўсправы. Да таго ж усё салідна – тры працяглыя замежныя (у Літву ж!) камандзіроўкі ў розныя поры года, усё выдатна (бо здымкі ў пагранічнай зоне) арганізавана Аксанай. Чаго яшчэ жадаць рэжысёру?

Здымачны перыяд прайшоў, але каб з матэрыялу атрымаўся фільм, таксама патрэбны грошы (мантаж, гук, постпрадакшн). Іх зноў жа доўга шукала Стэфані. А мы вымушаныя былі два разы пераносіць тэрміны здачы, што ва ўмовах дзяржаўнага фінансавання было вельмі няпроста. Калі рабілі дадатковае пагадненне чарговы раз, яны даслалі паперу, што на праект атрымалі ад Французскага цэнтра кінематаграфіі шэсцьдзесят тысяч еўра. Дарэчы, гэта стала магчымым дзякуючы ўдзелу ў праекце “Беларусьфільма”, які ведаюць (ну, хоць бы!) па фільму “Ідзі і глядзі”. Тады мне і стукнула ў галаў: могуць жа патраціць з гэтай сумы еўра пяцьсот, запрасіць рэдактара на прагляд мантажнага варыянта? Тым і падзяліўся з Махаметам, не асабліва спадзеючыся на станоўчае вырашэнне справы. Дзіма як выхаваны беларускі хлопец, удзячны мне за дапамогу, аднёсся адэкватна, пагаварыў з прадзюсаркай, і тая дала дабро. Пры тым я адразу ж папрасіў-папярэдзіў, што хачу прыехаць з жонкаю.

Так усё і закруцілася. Парыж з маладосці, няхай і праз тры з паловай дзесяцігоддзі, увасабляўся ў рэчаіснасць. Як той казаў – лепш позна, чым ніколі.

І зноў жа дзякуючы маёй працы ў кіно. Мітрэнгі з візамі было даволі, але неяк без напругі. Самае цікавае, што запрашэнне было на адзін раз, але мы прасілі ў амбасадзе на два – маўляў, трэба будзе ехаць яшчэ здаваць-прымаць фільм. І яны выпісалі нам з Вольгай гадавыя візы. Прыемная неспадзяванка! Цяпер не будзе балець галава з паездкай да Данілы ў Рым. Што заставалася? Сесці раніцай у панядзелак, 21-га кастрычніка, у цягнік да Вільні ды адтуль самалётам у Парыж. Дзве з паловай гадзіны да нашай страчанай сталіцы, адтуль столькі ж самалётам, ды крыху больш гадзіны з далёкага аэрапорта Бовэ да цэнтра сталіцы ўжо французскай.

Зразумела, перад вандроўкаю кожнага разу думаецца, што потым будзе напісаны тэкст. А гэта непазбежна звязана з пошукам назвы, няхай нават аповед і не адбудзецца. Тут назва прыйшла ў першы вандроўны дзень: "Віскі ў Парыжы". Яна спадабалася мне сваёй парадаксальнасцю – пры чым тут віскі? Але мела і канкрэтны грунт пад сабою. У Вільні ў аэрапортаўскай кавярні выпілі з Вольгай па пяцьдзесят грамаў віскі, каб не здоўжыўся пералёт. А ў дзюці-фры, калі прайшлі на пасадку, ужо пляшачку (375 грамаў) купілі з сабою. Такая беларуская ашчаднасць – не пераплачваць жа потым! Калі Дзіма сустрэў у Парыжы і даехалі метро да кватэры, выпілі па кроплі з дарогі за прыезд. Была пры тым і гаспадыня трохпакаёвай кватэркі, француженка Фані, вечная бедная студэнтка, сяброўка Дзмітрыя, якой ён такім чынам (здачай жытла на чатыры дні) дапамагаў атрымаць пэўныя грошы, каб тая магла расплаціцца чарговы раз за кватэру. Сама цікавае, што прыкусіць чым у нас было – батон, масла, кавалак мяса з Мінску і віленскі сыр. Дзіма здзіўляўся – як гэта нам удалося правезці? Проста кінулі ў сумку, тэчку гэтую ў багаж здалі, так і прывезлі. Дарэчы, прыпасу хапіла на лёгкія сняданкі і вячэры зноў жа са сваёй кавай і гарбатай на ўсе дні ў Парыжы. І тую пляшачку віскі дапівалі яшчэ два вечары. Беларус анідзе не прападзе – вось яго ашчаднасць у рэчаіснасці.

Паведамленне Дзмітрыя, што замест гатэля мы будзем жыць у трохпакаёвай кватэры ў цэнтры Парыжа, нам з Вольгай вельмі спадабалася – адчуем водар сапраўднага парыжскага жыцця. Уласна, так і атрымалася. Месца жыхарства было зусім недалёка ад Плошчы Рэспублікі, невялікая вулачка (метраў сто пяцьдзесят у даўжыню) называлася Марыі і Луізы. Дабіраліся з аўтавакзала цёмначы, каля адзінаццатай гадзіны, а жыццё кіпела – людзі сядзелі ў кавярнях, якіх толькі тут было ажно чатыры. І зусім не турысты – мясцовыя жыхары. Што да кватэры – слова "трохпакаёвая" было занадта гучнае. Пакояў было сапраўды тры, але маленькіх, метраў па шэсць-восем. Кухня таксама адна толькі назва – жанчыне з тоўстым азадкам і не ўлезці ў тое закуцце. Такім чынам атрымлівалася, што нашае таксама трохпакаёвае сацыяльнае жыллё ў Мінску – сапраўдная раскоша па плошчы і аб'ёму. Але ці варта гаварыць, што нам з Вольгай было больш чым даволі, утульна і камфортна. Я браў ключы і зачыняў кватэру, вечарам кодам, ключом (з вуліцы) і яшчэ адным ключом адчыняў, быццам мы тут сапраўдныя жыхары. Спаць выбралі пакой, дзе практычна ўсё месца займаў мяккі і зручны матрас, які ляжаў проста на падлозе. Гэта не магло не штурхаць і на інтымнае жыццё. Як жа, быць у такім горадзе, дзе Булонскі лес ды ўсё астатняе вольнага нораву, і не кахацца – хіба ж можна?!

Праўду сказаў Хэмінгуэй аб Парыжы: свята, якое заўжды з табою. Сапраўды, калі ходзіш па парыжскіх вуліцах-вулках, глядзіш на шумную і знешне бесклапотную люднасць у кавярнях, складаецца ўражанне свята. На якое пашчасціла трапіць і нам. Але першы (цалкам) дзень у Парыжы пачаўся пакуль зусім не святочна. У студыі "Артура Міа" (дзе гаспадынямі наша Стэфані з сястрой) сціплы мантажны пакойчык з двума маніторамі – у нас не горш, а то і лепш. Казаў жа я дырэктару кінастудыі, што праца ёсць праца, хоць у Мінску,

хоць у Мухасранску, хоць у Парыжы. Дарэчы, ненарматыўная геаграфічная назва – з рэпертуару якраз дырэктара. Калі я першы раз прыйшоў да яго з лістом ад Стэфані, дзе было напісана, што ўсе выдаткі за кошт боку, які прымае, то ён і выказаўся: маўляў, зразумела, лепш у Парыж, чымся ў Мухасранск. А ў нас пашпарты ўжо ў французскай амбасадзе, ды і ўвогуле, пляваць я хацеў на яго зайдрасць. Урэшце, у мяне тыдзень яшчэ законнага адпачынку, магу ўзяць і ніяк не залежаць ад кінастудыі. Так што паляцім усё роўна, псіхалагічная перавага была на маім баку. Праўда, калі за тыдзень да ад'езду зайшоў другі раз (візы былі ўжо ў кішэні), тон размовы стаўся іншым. Ну, ты ж патэлефануй і зайдзі ў нашу амасаду да Латушкі, прывітанне перадай. Яны на сайце сваім адзначаць, што ў кінастудыі сумесны з французамі праект, што прыязджаў рэдактар. Ім жа піяр таксама патрэбны. Вось зараз і пабягу ў тую амбасаду! Быццам у мяне іншага клопату там няма. А з роднай кінастудыі ўсё ж удалося сарваць дзевяноста еўра сутачных за два дні дарогі.

Матэрыял Дзімы для фільма (колькі змог паказаць за тры гадзіны з дваццаці адзнятых), мне спадабаўся. Будзе фільм, нікуды не дзенецца. Я б з такога матэрыялу за два тыдні склаў карціну – ужо структура стала бачна, паслядоўнасць эпізодаў. Але Дзіма чалавек упарты. Задумаў ён рабіць мантаж з выдатнай французскай мантажніцай, вось і чакае яе. Думаў, што з верасня пачнуць, але тая паехала на два месяцы ў Амерыку працаваць – запрасілі. Спадзяецца, што з лістапада сядуць. Аргумент у яго такі, што яна сваім прафесійным і свежым вокам глане на нязвычны для сябе матэрыял – і гэта дасць пэўны эфект. Рацыя ёсць. Хоць мне зразумела – яму проста пакуль бракуе кінематаграфічнага вопыту. Як зразумела і іншае – першы ў чалавека вялікі фільм (паўтарагадзінны), які можа прагучаць на кінафестывалях, адсюль такія трапяткія адносіны да свайго дзіцяці. Але ж нам (тут, у Беларусі) трэба здаць карціну 26 лістапада, закрыць справу. І ніяк інакш. Любоў Леанідаўна спадзявалася, што я прывязу з Парыжа хоць які варыянт для здачы. Толькі няма яго! Нарэшце і Стэфані падышла, пазнаёміліся. Мілая француажанка, нядаўна нарадзіла сына, а ёй ужо за сорак. Звычайная справа для тамтэйшага жыцця. Я зноў пачаў (выйсця няма!) чаўпець аб тэрмінах. Абяцалі ў адзін голас, што фільм будзе. Будзе дык будзе, што я больш магу зрабіць? Гэта быў аўторак, а на чацвер Сфэфані запрасіла на абед з французскай кухняй. Хто адмовіцца?

А пакуль мы скончылі з праглядам матэрыялу ды выбраліся ў горад. Час абеду, есці хочацца. Дзмітрый завёў у недарагую кавярню, добра паабедалі з мясам і віном. Французская гэта была кухня, ці нейкая іншая – так мы з Вольгай і не зразумелі. Але моцы пабадзяцца па Парыжы дадалося. Памаленьку накіраваліся да Цэнтра Пампіду, па дарозе на ўсе вочы ўбіраючы парыжскае вірлівае жыццё. Да слова, надвор'е на канец кастрычніка было даволі цёплым, мой амерыканскі капялюш і верхняе адзенне пакуль не спатрэбіліся – хадзілі ў пільчаках.

У сам Цэнтр Пампіду не заходзілі, рушылі да Сены. Навідавоку з набярэжнай вабіў Луўр, а праз мост чакаў Нотр-Дам дэ Пары. Сабор сапраўды ўражваў – веліччу, прыгажосцю, дэталямі. Стой, хадзі, разглядвай тыя ж хімеры. Цяпер так не пабудуюць, змізарнела ўсё. Па сутнасці маю на ўвазе, бо па аб'ёму вунь якія небаграі выштукоўваюць! Толькі дэталяў і чалавечых рук там не відаць. А недалеч і чрэва Парыжа. Каля ўваходу вісяць вялізныя фота XIX стагоддзя, каб чалавек мог уявіць тыхчасовы каларыт. Рынак так тут і застаўся, нешта яшчэ робяць, каб той каларыт хоць кропляй перанесці ў наш час. Божа, ты фізічна першы раз тут, а насамрэч усё вельмі знаёмае! Асабліва гэта падмацоўвае Эйфелева вежа, якую бачна практычна адусюль.

Вярнуліся на той бок Сены, дзе Луўр, развіталіся з Дзмітрыем. Пасунуліся ў напрамку музея – для чаго ж мы прыехалі ў Парыж? Але імпэту хапіла ненадоўга,

напаўдарозе павярнулі назад, бо сілы пакідалі, а яшчэ ж і дадому дайсці! Па дарозе натрапілі на невячкую кавярню, дзе кава з круасанам была па адным еўра. Больш танна не бывае, як мы паспелі зразумець. Смакоцце! Асабліва калі згадаеш, дзе ты.

Да Пляца Рэспублікі ішлі простай дарогай – не зблудзіш. А вось потым пачаліся прыгоды, бо сваю вуліцу Марыі і Луізы доўга-доўга не маглі знайсці. Светлавы дзень скончаўся, вечарэла, а потым і зусім стала цёмна, а дадому мы пакуль не трапілі. Звычайна, калі я адзін раз прайшоў па незнаёмым горадзе, то гэты шлях як былы архітэктар-горадабудаўнік запамінаю выдатна – па нейкіх дэталях, дамах, вітрынах, увогуле па пэўнаму адчуванню горада як структуры. Але ўчора мы ішлі позна вечарам, у гэтую пару горад выглядае інакш, арыенціры змазаліся асвятленнем. У мяне была і карта, і прыпынак метро, ад якога недалеч наша вуліца, пазначаны. Якраз яго знайшлі без цяжкасцяў, а вуліца ўсё хавалася. Вольга крыху ведала французскую (школу з французскім ухілам скончыла), і вымаўленне ў яе цудоўнае, як адзначылі дзяўчаты ў офісе Артура Міа, але пытацца накірунак шляху ў мінакоў чамусьці саромелася. Ці проста занадта хвалявалася? Французы ахвотна адгукаліся дапамагчы, хапаліся за свае мабільнікі, уключалі навігатары, паказвалі, у які бок ісці. Але вынік быў той жа – вуліца прапала. Пачалі актыўна згадваць вечаровыя арыенціры (вось па гэтай вуліцы ішлі!), пытацца ў людзей мясцовых, што сядзелі каля кавярняў. Адзін дзядзька паказаў рукою – ды вось там! Сапраўды, прайшліся колькі і патрапілі на сваю вуліцу. Палягчэла, бо ўжо нервавацца пачалі, калі хадзілі кругаля звыш дзвюх гадзін. Дома ўзялі па кілішку віскі ды вырашылі выйсці яшчэ, каб дзе па бакалу віна выпіць. Тут ужо я дарогу запамінаў спраўна. Селі ва ўтульнай кавярні, смакуем па глыточку віно. Потым я зрабіў жэст рукою, што ў нашых мінскіх рэстарацыях азначаў: "разлічыцца". А дзяўчынка прыносіць нам яшчэ віна. Бач ты, у Парыжы гэты звычны для мяне рух мае іншы сэнс – "паўтарыць". То і добра – пасмакуем яшчэ, каб зусім адціснуць нервовае напружанне пошукаў вуліцы.

Назаўтра мы з Вольгай пачалі з Эйфелевай вежы. Можна мінуць Монпарнас, Мулен Руж, у Луўр і Цэнтр Пампіду не патрапіць, але абмінуць вежу было б недаравальным. Дарэчы, Мону Лізу (гэта аб Луўры) у арыгінале я бачыў яшчэ ў 1974 годзе, калі мы студэнтамі-архітэктарамі былі на практыцы ў Маскве. Шэдэўр выстаўлялі ў Пушкінскім музеі. Ці не цэлы дзень стаялі тады па чарзе ў чарзе, але карціну згледзелі на свае вочы. Згадалася, што і Даніла бачыў Мону Лізу, але якраз у Луўры. Як дапёр малы сямікласнік у музей да шэдэўра Леанарда да Вінчы, для мяне па сёння загадка. Гэта было на зваротнай дарозе з Ле-Пюі, дзе нашыя школьнікі былі ў сваіх французскіх сяброў. Вось на прыпынку ў Парыжы Даніла і зрабіў такі ўчынак. Без падману, бо нават на мыльніцу зняў карціну. А Вольга не вельмі пераймалася, што мы не ўбачым Мону Лізу, на імпрэсіяністаў не сходзім – ці паспееш усё за тры з паловай дні?

Цяпер вымушаны былі скарыстацца метро, бо пехатою ўсё ж занадта далёка. Выйшлі мо і не зусім там, дзе трэба, але зноў жа з цікавасцю ішлі па горадзе, пакуль не выкіравалі да вежы. У той час яна была на рэканструкцыі, на самы верх не патрапіць. Купілі квіткі ды ўвайшлі ўнутр. Неяк не змаглі разабрацца адразу, дзе ліфт, таму пачалі падымацца па лесвіцы. "Во дурні! – сказаў бы нехта, – вам жа не па дваццаць і нават не па трыццаць гадоў!" І меў бы рацыю, бо ўжо хутка прыйшло адчуванне, што падымацца ўверх цяжка. Праўда, лесвіца шырокая, можна прысесці на прыступкі для перадыху, не замінаючы падымацца іншым. Не тое, што каменная спіральная лесвіца купала сабора Святога Пятра ў Рыме, дзе двум размінуцца немагчыма, дзе ззаду падпіраюць і таму ты вымушаны не спыняцца пры пад'ёме, хоць ужо ледзьве перастаўляеш ногі. Але якая б высокая лесвіца не была, яна мае канцавую кропку прыпынку. Так і мы ўсё ж дабраліся да агляднай пляцоўкі. Як я ўжо зазначыў, на самы верх з-за рамонту трапіць аніяк,

але і тут, пасярэдзіне вежы, Парыж увесь быў як на далоні. Калі бачыш знаёмыя кропкі з вышыні, зноў жа прыходзіць адчуванне, што ты гэты горад ведаеш даўно.

У абед каля цэнтра Пампіду ў нас мелася сустрэча з другім нашым французскім гідам – рэжысёркай Дашай. Яна вучылася разам з Дзмітрыем у кінашколе і таксама засталася ў Парыжы. Ёй мне якраз удалося ў свой час дапамагчы – яна зняла на нашай студыі "Летапіс" дакументальны фільм "Максім і Дар'я", пабудаваны на рэфлексіях пра Багдановіча. Харошая атрымалася невялікая стужка, адметная сваёй настраёвасцю і нейкім усё ж іншым светабачаннем-светаадчуваннем, чымся ў нашых рэжысёраў, якія не жылі ў Парыжы. Так што нейкім чынам я магу гаварыць, што тут жывуць двое маіх вучняў. Сучасная беларуская дыяспара. Пашукаўшы, мо і яшчэ б знайшліся беларусы маладога веку, якія жывуць у Парыжы. Толькі ж мае землякі не надта жадаюць гуртавацца за мяжой, кожны запаўзе ў сваю норку і ні з кім не хоча знацца – не дай Бог, нешта не так здарыцца ды знойдуць нават тут.

На брукаваным схіле каля цэнтра Пампіду народ вядзе сябе разняволена. Хто сядзіць, а хто і прылёг, балазе, кастрычніцкае сонца яшчэ дазваляе. Дар'я прыйшла без спазнення. Куды рушым? І тут я пачынаю распавядаць нашай спадарожніцы ўсю гісторыю з вуліцай і помнікам Гіёму Апалінэру. Маўляў, у гэтым цудоўным горадзе быў мой калега і таварыш паэт Леанід, пасля чаго напісаў эга-эсэ "Стомленасць Парыжам", дзе згадвае і вуліцу, і помнік нашаму земляку, па маці Кастравіцкаму, работы Пабла Пікаса. Калі эсэіст другі раз быў у Парыжы – помніка не было. Скралі, напэўна, на каляровыя металы. А потым зноў з'явіўся, як нехта з тых, хто тут пабываў, сказаў майму таварышу. Цэлая дэтэктыўная гісторыя, якую мы хацелі скарыстаць у час здымкаў дакументальнага фільма пра Леаніда. Але дырэктар кінастудыі ў Парыж нас не пусціў, выбраліся толькі ў Клайпеду, на Балтыйскае мора. Драматургічна такі эпізод не быў звязаны з асобаю героя, але рэжысёр сказаў, што паэт і мора – гэта файна, вышкталцона. Папраўдзе – на экране атрымаліся эстэтныя мадэрнісцкія кадры.

І як жа я, калі надарылася ўсё ж пабываць у Парыжы, не ўбачу помнік Апалінэру? Гэта сталася галоўным пунктам праграмы. Даша асабліва пра нашага земляка французскага паэта не ведала, тым больш помніка яму не бачыла, таму кінулася шукаць вуліцу ў далькажыку (наватвор Дранько-Майсюка), ці больш правільна, у смартфоне, бо гэта ўжо нешта іншае, чым далькажык. Адразу не ўдалося, але шлях вызначыўся да Лацінскага квартала. Туды мы і накіравалі свой шпацыр, зноў мінуўшы Нотр-Дам дэ Пары.

Што тут скажаш – і Лацінскі квартал ёсць назвай знаёмай, чутай і чытанай неаднойчы. У рэальнасць гэта стары горад з высокімі дамамі і вузкімі пакручастымі вулкамі. Яшчэ адна фарба парыжскай багатай гарадской палітры. Нарэшце Дар'я вуліцу знайшла, проста да гэтага не ўсе словы (ці не тыя) уводзіла ў пошукавік. Выйшлі на пляц, дзе збоку быў храм Сэн-Жармен дэ Прэ. Дык гэта ж тое, што нам патрэбна! Назва адразу ўсплыла ў памяці, як дакляраваў Лёня. Тут і павінен быць помнік, тут ён і стаіць. Праўда, помнікам гэта назваць не выпадае – аб'ёмны бюст на простым круглым стаўпе-пастаменце. Бюст трансфармаваны, больш вобраз, чым партрэт. Анягож, сам Пікаса. Стаяў помнічак у невялічкіх агароджаных прысадах каля храма, але не пакідала адчуванне недавершанасці гэтага маленькага кавалачка Парыжа. Выдавала, што добраўпарадкаванне не даведзена да ладу. Пастаялі, памаўчалі, падумалі каля помніка, які з'яўляецца адным з безлічы напамінкаў аб пакручастым гістарычным шляху Беларусі і драматычных лёсах лепшых яе сыноў.

Наўзбоч відаць была і вуліца Гіёма Апалінэра. Больш правільна, адзін з бакоў плошчы, які быў так названы і меў зусім невялікую даўжыню, дзе і сотні метраў не налічыш. Спрэс кавярні, за столікамі людзі. Здаецца, і нам бы адзначыцца на

вуліцы земляка, калі дайшлі сюды, але чамусьці такі варыянт адпрэчылі. Пайшлі іншым шляхам назад, у свой бок. Даша паказала галоўны будынак Парыжскага ўніверсітэта, знакамітай Сарбоны, самага значнага помніка Лацінскага квартала. Праўда, у Парыжы практычна ўсё, што звязана з вышэйшай адукацыяй, называецца Сарбона. Не дзіва, бо гэтае вызначэнне ўключае трынаццаць універсітэтаў і некалькі вышэйшых школ. Адразу і не разбярэшся. Сапраўды, розных універсітэцкіх будынкаў траплялася шмат. Недзе там натыкнуліся на глухую доўгую агароджу-сцяну, з якой быў выштукаваны дызайнерскі культурны аб'ект. На ёй быў адліты знакаміты верш Арцюра Рэмбо "П'яны карабель". Мо табе і кніга Рэмбо ніколі ў рукі не патрапіцца, але калі згледзіш такое, то хоць адзін шэдэўр паэта прачытаеш. "Выдатная знаходка-прыдумка, вось бы ў Мінску нешта такое..." – падумалася са шкадаваннем, як звычайна, аб беларускай долі.

Час падсілкавацца. Мы спецыяльна блукалі па горадзе, каб дачакацца дзевятнаццаці гадзін – у гэты час пачынаецца вечаровае жыццё парыжскіх рэстарацыяў і кавярняў. Дар'я вяла нас у пэўнае месца, каб пачаставаць стравамі нейкай (дый не памятаю ўжо!) адмысловай кухні. У невялікай харчовай крамцы каля гэтай кавярні купіў двухсограмовую пляшачку кальвадоса, згадаўшы, што ў французаў ёсць свой саракаградусны напой. Вось за вячэрай і зрабіў некалькі глыткоў з пляшачкі, а дзяўчаты пілі заказанае віно. Кальвадос меў акрэслены водар і смак, з якімі трэба было звыкнуцца, але напой чысты і прыемны. Даша заўважыла, што ён мне спадабаўся, потым ў адзін з прыездаў у Мінск прэзентавала паўлітэрку яблычнага напою з Парыжа. А нашыя яблыкі куды прападаюць? Пытанне суправаджала згадка аб самагонцы дзеда Івана, які гнаў у тым ліку і з яблыкаў. У руплівага гаспадара ўсё ішло ў ход. Бяда толькі, што ў Беларусі аніяк не даюць гаспадаром звацца.

У астатні дзень у Парыжы з раніцы часу крыху было, потым чакаў планаваны абед са Стэфані. Таму далёка не пайшлі, а прагуляліся па горадзе, ад плошчы ў іншы, чым учора, бок па шырокай вуліцы. Люблю проста так бязмэтна ісці і ўбіраць вачыма незнаёмы горад з яго вірам ранішняга працоўнага жыцця. Дамы, тратуары, машыны, людзі. Па тварах – сапраўды Вавілон: белыя, жоўтыя, чорныя. Можа быць і так, але мне падабаецца сітуацыя ў Мінску, калі перад вачыма твары спрэс славянскія, беларускія. Больш камфортнае псіхалагічнае пачуванне, ці што? Зрэшты, узрост ужо такі, што ўвогуле часам нікога бачыць не хочацца – хутчэй на свой хутар ды застацца на адзіноце з лесам і цішынёй. Але цяпер ты якраз для таго ў гэтым горадзе, каб больш убачыць, каб вобраз склаўся аб'ёмны і шматаблічны.

Абед са Стэфані адмяніўся, але не сустрэча, якая перанеслася на больш позні час. Таму і з Дзмітрыем дамовіліся ўбачыцца пазней. Кантактаваліся мы са сваімі маладымі парыжскімі сябрамі эсэмэскамі, так што па сувязі праблемаў не было. Ужо далёка па абедзе Дзіма чакаў нас на Пляцы Рэспублікі, адкуль пайшлі ў бок студыі. Сустрэліся з прадзюсаркай, прайшліся недалёка і прыселі ў невялічкай кавярні на ціхай вуліцы. Проста выпіць віна ды пагаманіць. Я вырашыў не падманвацца віном і папрасіў сабе віскі, добра ведаючы, што ў Еўропе цяпер прыносяць па дваццаць грамаў. Што гэта для нашага чалавека? Але ж мы не павінны забывацца, што таксама жывём у Еўропе, і тыя ж дваццаць грамаў можна доўга смакаваць маленькімі глыточкамі пад размову. Праўда, сядзелі даволі доўга, расцягнуць адну порцыю на ўвесь час не ўдалося, таму папрасіў яшчэ адну. А гаварылі проста аб жыцці – як нам было цікава звычайнае французскае жыццё, так і Стэфані нешта пачуць аб невядомай ёй Беларусі, з прадстаўніком якой яна працуе.

Пасля развітання са Стэфані, дзе я яшчэ раз нагадаў, каб мы ўсё ж нейкі мантажны варыянт фільма атрымалі, разыходзіцца было рана, хоць ўжо ўзялося на вечаровую шэрань. Тым больш бакалам віна і глытком віскі арганізм не падманеш,

наадварот, апетыт толькі ўзмацніўся. Кіравалі з Дзмітрыем па вуліцах быццам бязмэтна, але потым аказалася, што ён прывёў нас у кавярню, якая для яго была першай (выпадкова, зразумела), калі ён упершыню трапіў у Парыж. Гаспадаром быў стары мараканец, акром яго ў кавярні быў такога ж веку ягоны сябар. Паміж імі нетаропка лілася гутарка па-арабску. “Гэта вам прыклад дэпрэсіўнай кавярні, – ціха сказаў Дзіма, – моладзі тут не бывае”. Заказалі на вячэру фірмовую страву – “кус-кус”. Усё трэба пакаштаваць дзеля разнастайнасці. Як там смачна было, ці не, але пад’елі, бо і мяса прысутнічала. У келіхах цудоўнае віно, што здзіўлення ўжо не выклікала – мы ж у Францыі!

Мяне такая “дэпрэсіўнасць” не напружвала, але ж наш сябар малады! І хочацца яму, каб жыццё кіпела. Тым больш пасля таго, як два разы прысядалі з напоямі, вандроўка па Парыжы мелася быць прадоўжанай абавязкова – віна тут даволі. “А зараз я пакажу вам пазітыўную кавярню, дзе “тусуецца” творчая моладзь”, – сказаў Дзмітрый, і мы рушылі далей. Ён патлумачыў, што мастакі цяпер збіраюцца ў асноўным не на Манпарнасе, а ў іншым месцы. Вось туды мы і кіруемся наўзбоч вечаровага парыжскага жыцця, якое няспынна віруе на вуліцах у кавярнях. Але тое, што мы ўбачылі ў месцы, да якога ішлі, выходзіла за ўсякія рамкі. Людносці (у асноўным моладзь) тут было адно на адным, увесь шырокі тратуар быў застаўлены столікамі, яблыку, каб і хацеў упасці, то не было б куды. Але нам удаецца знайсці два крэслы, адно яшчэ аднекуль прыцягваем, ды прысаджваемся. Не за столік, проста каля сцяны кавярні. Афіцыянт не прымушае сябе чакаць, запамінае наш заказ і знікае ненадоўга. Як яму ў такім людскім віры ўдаецца нікога не забыць?

Тут сапраўды трывае пазітыўнае энергетыка. Наўкола кіпучыя размовы – аб мастацтве, аб будучых творчых праектах, аб сэнсе жыцця. Не трэба і думаць, аб чым – згадай сябе маладога, калі ў цябе ўсё было наперадзе! Ліецца гамонка і ў нас з Дзмітрыем, ты сам ужо адчуваеш сябе маладым і поўным сілаў на творчыя подзвігі. Згадваеш свае праекты, якія абавязкова трэба ажыццявіць – тэксты, кнігі, фільмы. Дадаюць імпэту і напоі. Здаецца, так бы і сядзеў, але бярэцца начная прахалода. Значыць, час ісці дадому.

Заўтра ад’езд-адлёт, але з раніцы ёсць даволі часу, каб яшчэ дзе-небудзь прагуляцца. У бок выдатнасцяў горада ўжо не глядзім, наадварот, ідзём па недалёкім ад нас бульвары да перасоўнага кірмаша. Гэта Даша падказала нам, што тут ёсць такія кірмашыкі, якія мяняюць сваю дыслакацыю па горадзе. Трэба ж хоць нейкае падабенства шопінгу зрабіць, бо прыехаць з Парыжа з пустымі рукамі няёмка. Дабіраемся – сапраўды тут прадаюць і прадукты, і адзежыну. Нешта купляем. Я для сябе асабіста сувенір – бірульку-рулетку з надпісам “Paris”, дзе літару “A” сімвалізуе Эйфелева вежа, а кропка над “i” ў выглядзе чырвонага сардэчка. Банальная дробязь, але чалавеку прыемна. На гэтай бірульцы нашу ключы і да сёння.

Ад кватэры нас праводзяць і Дар’я, і Дзмітрый. Даша толькі да метро, бо няважна сябе пачувае. А Дзіма – да аўтастанцыі на ўскраіне горада. Уласна, гэта ўжо і не Парыж, а нейкі іншы горад, аддзелены ад сталіцы толькі вуліцай. Справа ў тым, што ў свой час пашырэнне Парыжа абмежавалі, сталіца ўжо даўно не расце. Ускраіны – асобныя гарадкі, мэрам аднаго з іх якраз і быў былы прэзідэнт Францыі Мікаля Сарказі. Яшчэ цікавую дэталь парыжскага горадабудаўніцтва данёс нам малады калега. Існуе закон, згодна якому французскія, як мы іх завём, балконы не павінны паўтарацца. То бок, на кожным доме (злічыце іх у Парыжы!) металічныя агароджы балкончыкаў адметныя, непаўторныя. У нас аб такім і падумаць бы не маглі, “кляпаюць” па тыпавых праектах. Размова аб шматпавярховіках, зразумела.

Аўтобус, аэрапорт Бовэ, самалёт, Вільня, вакзал, дзюці-фры, камфартабельны

цягнік – і ты ў родным Мінску. З поўным адчуваннем спатоленасці Парыжам. Яшчэ ў маладыя гады напісаўся верш, дзе былі словы "нязробленыя справы". Можа, яны былі і не абавязковымі ў тваім жыцці, калі так і заставаліся нязробленымі – не ўсе ж праекты, якія прыходзяць у галаў, ажыццяўляюцца. Але ты ўсё роўна часам згадваў аб тым са шкадаваннем і думкаю, што лепш бы такіх згадак не было. Вось і з Парыжам. Была б пэўная здрада ідэалам бесклапотнай маладосці і нашаму каханню, калі б мы з Вольгай туды не трапілі. Але – трапілі. Таму і завершанасць, і спатоленасць.

Першы мантажны варыянт фільма Дзмітрый неўзабаве даслаў. Мы ўсе з задавальненнем глядзелі вельмі прыгожы з выяўленчага гледзішча фільм, не заўважаючы, што праляцелі паўтары гадзіны. Фармальна для міністэрства вытворчасць закрылі. А рэжысёр дачакаўся мантажоркі з Амерыкі і працягваў работу над карцінай. Сапраўды, свежае вока адыграла сваю ролю, стужка драматургічна акрэслілася больш выразна, да таго ж і падкарацілася – працягласць стала семдзесят восем хвілін. Але ўсё ж нешта згубілася ад першага больш інтуітыўнага паэтычнага аўтарскага варыянта. Канчатковая назва па-беларуску гучала з маёй прапановы як "Мяжа Нарвілішак", а па-французску – нешта накшталт "Забытыя ў Нарвілішках". Фільм быў у конкурснай праграме нашага фестывалю "Лістапад", і я спадзяваўся на адзнаку. Але ў чарговы раз у гісторыі яскрава праявілася нашае беларускае самаедства і кіслятня – ніякага дыплома не далі, нават за выяўленчае рашэнне. Старшынька журы, сваёй гадоўлі кіназнаўца, сказала мне на закрыцці, што ў фільма і рэжысёра Махамета ўсё наперадзе. Дык ты дай яму адзнаку, і тады гэтае "наперадзе" будзе больш светлым! Вось тут поўнай спатоленасці ў мяне не атрымалася – быццам рабіў-рабіў, і ўсё ж нешта не дарабіў. Тым не менш у Дзмітрыя ёсць цудоўны фільм, які сваім існаваннем дапаможа знаходзіць грошы і здымаць новае кіно. А ў нас ёсць Парыж, які сваім ужо рэальным існаваннем у свядомасці дазволіць не забыцца на каханне, рамантыку, паэзію.



Сяргей Кавалёў



...мы апынуліся перад страшнай з'явай, якая замоўчвалася доўгія гады, — разбурэннем культуры нацыі, выцясненнем з ужытку і знікненнем беларускай, роднай для нас мовы...

# "Тутэйшыя": паміж літаратурай і палітыкай

Адметны след у гісторыі беларускай літаратуры пакінула Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя" (1986-1989), якое дало назву цэламу пісьменніцкаму пакаленню. Пра дзейнасць і творчасць "Тутэйшых" пісалі такія вядомыя даследчыкі, як Арнольд Макмілін, Валянцін Акудовіч, Ганна Кісліцына, Ігар Жук, а Аксана Бязлепкіна нават прысвяціла суполцы асобную манаграфію "Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя": Гісторыя. Асобы. Жанры" (Мінск, 2003)[1]. Але, нягледзячы на з'яўленне цэлага шэрагу цікавых публікацый, пісьменнік-тутэйшавец Ігар Бабкоў у выступленні перад студэнтамі-славістамі Люблінскага ўніверсітэта М. Кюры-Складоўскай наракаў, што ўсе крытыкі з суполкі "Тутэйшых" (Сяргей Дубавец, Алесь Бяляцкі, Пятро Васючэнка, Сяргей Кавалёў) "здрадзілі" свайму пакаленню і не пішуць пра творчасць сяброў Таварыства, заняўшыся палітыкай, акадэмічным літаратуразнаўствам альбо драматургіяй. Я вымушаны быў з ім пагадзіцца і, каб хоць неяк зменшыць сваю віну, паабяцаў прысвяціць некалькі артыкулаў феномену

"Тутэйшых", тым больш што многія аспекты дзейнасці і мастацкай творчасці суполкі разгледжаны пакуль недастаткова глыбока, яны заахвочваюць да больш уважлівага аналізу і новых інтэрпрэтацый.

Адным з такіх аспектаў з'яўляецца літаратурна-грамадская праграма "Тутэйшых", выкладзеная ў неапублікаваным "Маніхвэсце..." (1987) і ў шэрагу калектыўных анкет і інтэрв'ю ўдзельнікаў суполкі, што з'явіліся ў друку ў 1988-1989 гг. Прычым, калі "Маніхвэст..." дастаткова падрабязна прааналізаваны і ў вышэйзгаданай манаграфіі Аксаны Бязлепкінай, і ў манаграфіі Ганны Кісліцынай "Культурны градыент: Ідэі, маніфесты, кірункі беларускай літаратуры на мяжы XX-XXI стагоддзяў" (Мінск, 2015), дык калектыўным выступленням тутэйшаўцаў у афіцыйным друку прысвечана незаслужана мала ўвагі[2].

Прадметам разгляду ў гэтым артыкуле будуць наступныя матэрыялы:

1. "Маніхвэст Тутэйшых" (1987). Машынапіс. Асабісты архіў Сяргея Кавалёва.

2. Усё наперадзе: Анкета "Маладосці". "Маладосць". 1988. – №4. – с. 143-56 [На пытанні анкеты адказваюць: А. Бяляцкі, А. Глобус, А. Сыс, Л. Сільнова, С. Шупа, С. Дубавец, Я. Янушкевіч, У. Сіўчыкаў, С. Кавалёў];

3. "Неформалы" – кто вы? "Нёман". 1988. – №6. – с. 159-168 [С А. Семеновой и С. Дубовцом беседуют С. Витушка, В. Вячорка, С. Ковалев, А. Глобус, А. Гурков, А. Костка, В. Мартыненка, В. Ивашкевич];

4. Хто вы, "Тутэйшыя"? "Бярозка". – 1989. – №3. – с. 2-3, 22-23 [Гутарка У. Сіўчыкава з А. Бяляцкім, С. Дубаўцом, В. Мартыненкам, С. Кавалёвым].

У артыкуле не разглядаюцца крытычныя артыкулы, апублікаваныя ў зборніках "Тутэйшыя", "Літаратура-1", "Літаратура-2", якія хаця і адлюстроўваюць погляды сяброў суполкі, але з'яўляюцца не калектыўнымі, а аўтарскімі тэкстамі (напрыклад, артыкул С. Дубаўца "Тут" альбо мой артыкул "Нулявая катэгорыя"). Не разглядаюцца таксама інтэрв'ю і ўспаміны ўдзельнікаў таварыства, апублікаваныя праз шмат гадоў пасля заканчэння дзейнасці "Тутэйшых" (напрыклад, успаміны Алеся Аркуша "Вяртаньне ў 'Тутэйшыя'"[3] або лімаўская гутарка "Ад 'Тутэйшых' да тутэйшых...",[4] праведзеная ў 1998 годзе Людмілай Рублеўскай), бо падобныя тэксты змяшчаюць элементы ацэнкі і пазнейшай інтэрпрэтацыі літаратурна-грамадскіх поглядаў і ўчынкаў маладых пісьменнікаў другой паловы 80-х гг. XX ст.

Безумоўна, асабістая прыналежнасць аўтара артыкула да "Тутэйшых" дае пэўныя інфармацыйныя перавагі, але адначасова стварае праблему суб'ектыўнасці высноў і ацэнак. У кожнага з "тутэйшаўцаў" было сваё разуменне мэтаў і задачаў суполкі, у адпаведнасці з гэтым разуменнем мы выказваліся і паводзілі сябе на сходах, у адпаведнасці з гэтым разуменнем і ступенню інфармаванасці ўяўляем цяпер гісторыю "Тутэйшых": суб'ектыўна і фрагментарна. Але чым болей такіх фрагментаў мазаікі аднойдзецца, тым лягчэй будзе скласці агульную карціну, тым больш будзе шансаў рэканструяваць сапраўдную гісторыю дзейнасці Таварыства.

***

"Маніхвэст Тутэйшых" з'яўляецца самым важным праграмным дакументам суполкі, хаця гэты дакумент ніколі не публікаваўся па-беларуску: толькі ў 1997 г. у Польшчы быў надрукаваны польскі пераклад Мікалая Ваўранюка (*Manifest "Tutejszych"*, 1997, s. 12-13). "Маніхвэст..." быў напісаны ў Гомелі Сяргеем Дубаўцом па просьбе Алеся Бяляцкага і Анатоля Сыса і агучаны апошнім на адным з пасяджэнняў Тутэйшых у Доме літаратара ў Мінску вясной 1987 года як праект калектыўнай літаратурна-грамадскай праграмы суполкі. Трэба адзначыць, што большасць прысутных на тым пасяджэнні тутэйшаўцаў не ведала, кім быў напісаны праект, а большасць адсутных так і не пазнаёміліся пазней з гэтым дакументам. Праект выклікаў бурлівую дыскусію, і ў выніку галасавання было вырашана адкласці яго на дапрацоўку, каб ён не пярэчыў статусу суполкі як Таварыства

маладых літаратараў пры СП Беларусі і яго можна было апублікаваць разам з мастацкімі творамі ў альманаху "Тутэйшыя".

"Маніхвэст..." уяўляў сабой чатыры старонкі машынапіснага тэксту тарашкевіцай і быў падзелены на чатыры часткі і 33 пункты. Падзел на часткі выглядаў досыць умоўным. Першая частка (пп. 1-9) пачыналася з нацыянал-адраджэнскага лозунга "Літаратура – гэта Бацькаўшчына" ("Маніхвэст Тутэйшых", 1987, с. 1)[5] і абвяшчэння Уладзіміра Караткевіча прарокам, а наступныя сем пунктаў змяшчалі абвінавачанні беларускім савецкім пісьменнікам, якія нібыта здрадзілі беларускаму народу і сталіся "прыкарытнымі" пры ўладзе.

*"Прагледзеўшы як сканала мова ў вуснах народу, пагубляўшы ўсе нацыянальныя школы, не падрыхтаваўшы жыцьцяздольнае зьмены, аблуднае «пакаленьне» сыходзіць у нябыт. Па ім – мора запыленых кніжак і поўная дыскрэдытацыя ўсяго свайго, усяго адметна-беларускага, усяго сьвятога, што ёсьць на нашай зямлі"* (с. 1).

У другой частцы (пп. 10-17) пералічваліся канкрэтныя грамадскія задачы, якія ставілі перад сабой "Тутэйшыя": дбаць пра нацыянальную школу, адраджаць родную мову шляхам яе паўсядзённага ўжытку, вывучаць і папулярызаваць нацыянальную гісторыю.

*"Нашая гісторыя – вялікая, багатая, невядомая. Гэта мая школа, якое я не прайшоў. Гэта мае самыя галоўныя ўрокі, якіх я ня меў.* ***Магчыма, прыкарытныя найграна сьмяюцца, "разьвітваючыся са сваёй мінуўшчынай"***[6]*, я ж кіруюся запаветам прарока: "Абыякавы да мінулага ня мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай і таму ёсьць першы кандыдат на маральную, а затым і фізічную сьмерць. Усё адно, хто гэта – чалавек ці народ!"* (с. 3)

Трэцяя частка (пп. 18-21) называлася "Рэанімацыя слова"[7] і развівала ідэі папярэдняй, канкрэтызуючы моўную стратэгію Тутэйшых: адмаўленне рэформы 33-га года, вяртанне мяккіх знакаў і пераднаціскнога "я" ў прыназоўніках, адмаўленне нарматыўных акадэмічных слоўнікаў, вывучэнне мовы па творах Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Уладзіміра Караткевіча, пошук патрэбных слоў у дыялектах і гістарычнай літаратуры.

Чацвёртая частка (пп. 22-33) мела загаловак "Творчасьць" і датычыла непасрэдна літаратуры. Нягледзячы на вялікую колькасць пунктаў, гэтая частка была самай эклектычнай і непераканаўчай[8]. Слушна ставілася задача не паўтараць гатовыя ўзоры, развіваць розныя жанры і стылі ("амплуа"), мабільныя формы прозы (кароткі раман, кароткі гістарычны раман), дбаць пра інтэлектуалізм твора, не паўтараць на беларускай глебе ўсе тыя вышыні, якія прайшла сусветная літаратура (гэта задача перакладчыкаў), а ісці далей. Але ў асобных пастулатах выяўляўся ідэалізм і наіўны максімалізм: *"Кожны мой твор мусіць быць дзівам. Або літаратура абсалютна адметная і непрадказальная – або нелітаратура наогул"* (с. 4). Асабліва цьмянымі былі пункты, прысвечаныя паэзіі, напрыклад, 31-шы: *"Я вымяраю паэзію музыкай. Дзьве гэтыя галінкі спрадвеку ішлі побач: то аддаляліся ў горшыя для паэзіі часы, то набліжаліся ў часы паэтычнага росквіту. У наяўнай "беларускай літаратуры" няма твораў-спадарожнікаў сучаснае музыкі. Хіба толькі творы прарока, творы Разанава..."* (с. 4)[9]

Некалькі важных для літаратурнай творчасці дэкларацый змешчана ў папярэдніх частках маніфеста. Напрыклад, пра барацьбу з засіллем вясковай тэматыкі ў беларускай літаратуры і неабходнасць развіваць урбаністычную культуру: *"Нацыянальнай спецыфікай" прыкарытных з'яўляецца ілжэвяскоўшчына. Жывучы ў горадзе, яны натужна і назольна сьпекулююць на сваім вясковым паходжанні <...> Я – месьціч. Я не камплексую наконт сучаснай масавай гарадской культуры. Я падключаны да яе"* (с. 2).

Сапраўды, пакаленне "Тутэйшых" стала першым пакаленнем беларускіх

пісьменнікаў, у якім колькасць народжаных у горадзе аўтараў не саступала колькасці народжаных у вёсцы, а тыя, хто нарадзіўся ў вёсцы, не ўспрымалі гарадскую культуру як чужую і не ідэалізавалі ў сваіх творах вясковую мараль і гарманічнае жыццё на ўлонні прыроды.

І ўсё ж такі грамадскі, нацыянал-адраджэнскі кампанент у "Маніхвэсце Тутэйшых" выразна дамінаваў над эстэтычным, літаратурна-мастацкім. Чырвонай ніткай праз усе чатыры часткі маніфесту праходзілі паняцці "Бацькаўшчына", "народ", "мова", "гісторыя". Фактычна, у "Маніхвэсце..." была выкладзена праграма цэлага пакалення маладых зрусіфікаваных беларусаў, якія не ведалі ўласнай мовы і гісторыі, якія адчулі сябе беларусамі, дзякуючы творам Караткевіча, і цяпер самастойна вывучылі мову, адкрывалі для сябе рэпрэсаваных у 30-я гг. пісьменнікаў, спрабавалі адрадзіць беларускія народныя абрады і гістарычную памяць нацыі. Пад асноўнымі пунктамі "Маніхвэсту..." маглі б падпісацца не толькі маладыя літаратары, але і маладыя мастакі, тэатралы, журналісты, навукоўцы, проста патрыёты Бацькаўшчыны. У гэтым сэнсе грамадская праграма "Тутэйшых" супадала з праграмамі іншых нефармальных культурна-адраджэнскіх суполак 80-х гг.: "Майстроўні", "Талакі", "Світанку", "Касінера". У вобразе "прыкарытных" маглі пазнаць сябе не толькі старэйшыя пісьменнікі, але і прадстаўнікі іншых творчых саюзаў, якія *"вешаюць на сябе ўзнагароды і ганаровыя біркі "народных", "лаўрэатаў", "заслужаных", хоць заслужылі адно ганьбы свайго народа" (с. 1), а таксама акадэмікі-навукоўцы – "кучка падсьлепаватых сьпяцоў", якія прыўлашчылі сабе мову і гісторыю"* (с. 3).

Аналізуючы "Маніхвэст Тутэйшых", даследчыкі слушна адзначалі яго ідэйную і стылёвую блізкасць да славутага эсэ Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага) "Адвечным шляхам..."[10], падкрэслівалі, што "Маніхвэст..." *"акцэнтаваў неабходнасць нацыянальнага як крытэрыю сталай літаратуры..."*[11], *"мусіў падтрымліваць дух сапраўднага літаратара-патрыёта і быў досыць рамантычным"*[12].

Але дамінацыю ў "Маніхвэсце Тутэйшых" нацыянал-адраджэнскага, патрыятычнага кампанента над эстэтычным нельга разглядаць як свядомую перавагу грамадска-палітычнай дзейнасці над літаратурнай творчасцю ў жыцці суполкі. Проста агульную *грамадскую* пазіцыю лягчэй было сфармуляваць, чым *эстэтычную*. У суполку ўваходзіла больш за паўсотню аўтараў, усіх іх аб'ядноўвала непрыманне камуністычнай ідэалогіі і імперскай палітыкі русіфікацыі, любоў да Бацькаўшчыны і вера ў нацыянал-адраджэнскія ідэалы. Але гэтыя аўтары мелі розныя творчыя крэда, адметныя мастацкія манеры і індывідуальныя стылі (прынамсі, у зародку). Вельмі цяжка (а, можа, і ўвогуле немагчыма) было знайсці для ўсіх іх агульныя творчыя арыенціры, вызначыць агульную эстэтычную платформу.

Напрыклад, "Маніхвэст..." заклікаў змагацца з празмернай пафаснасцю і праявамі высокага стылю ў літаратуры: «*Беларусь, Бацькаўшчына, Радзіма, Айчына, народ, маці, любоў, душа, сэрца, боль, мір, барацьба... Прыкарытны выводзіць гэтыя словы ў мільённы раз, мокрай анучай па школьнай дошцы: ня піша – сьцірае. Я накладаю на гэтыя словы забарону. Толькі ў самай апошняй, выключнай патрэбе, калі буду сьвята перакананы, што не сьцяру, але ацалю такое слова, я наважуся ўжыць яго. Я адмаўляюся ад усялякай высокай "фразеалогіі"*» (с. 3) У процівагу пафаснасці і лозунгавасці прапаноўвалася ўжыванне *"...таго, чаго няма ў прыкарытных – іроніі, горкай іроніі, самаіроніі. Яны наогул не іранізуюць, бо ў іроніі немагчыма схлусіць. Іронія не старэе, яна – просты шлях да трагічнага. Мой гумар – сарказм"* (с. 4).

І сапраўды, калі чытаеш прозу і эсэістыку Сяргея Дубаўца, там не знойдзеш узнёслай рамантычнай патэтыкі і праяваў "высокага стылю", затое ўсе ягоныя тэксты насычаны з'едлівай аўтарскай іроніяй і нават сарказмам.

Але ці можна ўявіць без ужывання слоў "Беларусь", "Радзіма", "Бацькаўшчына", "Айчына", "народ", "маці", "душа", "сэрца" паэзію Анатоля Сыса?

З чаго пачаць?
Пачну з Радзімы.
Так абавязаны пачаць.
Але ў яе ты не адзіны,
навошта ж пра любоў крычаць?

Няхай, няхай я паўтаруся
ў любові тысячу разоў,
затое шчыра ў ёй клянуся,
без фальшу, без падробных слоў[13],

– пачынаецца зборнік Анатоля Сыса “Агмень”.

Уладзімір Караткевіч і Алесь Разанаў як пісьменнікі і грамадзяне карысталіся вялікім аўтарытэтам ва ўсіх тутэйшаўцаў, але не ўсе пагаджаліся з палажэннямі “Маніхвэсту...” пра тое, што ў Караткевіча трэба вучыцца беларускай мове, а вершы Разанава з’яўляюцца эталонам “твораў-спадарожнікаў сучаснае музыкі”.

Не ўсе сябры суполкі гатовыя былі перайсці на тарашкевіцу, некаторыя лічылі дастатковым ужыванне мяккіх знакаў, а іншыя ўважалі разумным трымацца наркамаўкі, пакуль на тарашкевіцу не пяройдуць школы і ўніверсітэты.

Але не эстэтычныя і моўныя пункты выклікалі найбольшую нязгоду пры абмеркаванні “Маніхвэсту...” на паседжанні Таварыства. Нязгоду ў “Маніхвэсце...” выклікала свядомая правакацыя старэйшых калегаў, сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі, якія агулам абвяшчаліся “прыкарытнымі” і на якіх ускладалася галоўная віна за трагічны стан беларускай мовы і культуры ў краіне.

Вобраз статку “прыкарытных” пісьменнікаў, якія дзеля матэрыяльнай карысці прадалі свой народ і нацыянальныя ідэалы, стаўся найбольш яскравым і запамінальным мастацкім вобразам “Маніхвэсту...” і хутка адасобіўся ад тэксту, стаў папулярным сярод тутэйшаўцаў і пайшоў “у народ”. Гэты саркастычны вобраз адлюстроўваў рэальны дысананс паміж прыніжаным становішчам нацыянальнай культуры ў зрусіфікаванай Савецкай Беларусі і высокім сацыяльным статусам і матэрыяльным дабрабытам беларускага пісьменніка, носьбіта гэтай культуры.

Створаны ў “Маніхвэсце...” вобраз “прыкарытных” быў блізкі да цэлай галерэі здраднікаў Радзімы (матылёў, пацукоў, свіней і інш.) з вядомай нізкі тутэйшаўца Алега Мінкіна “Наследаванні Дантэ”:

<...> Ты бачыш палахліўцаў тых,
Што ведалі Радзімы лёс гаротны,
Пакутвалі і спачувалі ўпотай –
Ды ў норах трэсліся, стаіўшы дых.

Тут, змушаны Радзіму катаваць,
Ураз празрэў калісьці невідушчы,
Што ганьба абрастаць у норах тлушчам,
Калі патрэбна бачыць, чуць, крычаць![14]

Меўся ў вышэйзгаданай нізцы Мінкіна і верш “Сьвіньні”, які па цэнзурных прычынах не ўвайшоў у зборнік “Сурма”, але распаўсюджваўся ў рукапісах і быў вядомы многім тутэйшаўцам:

І выйшаў я да ўкопанага ў гной
Вялізнага сьмярдзючага карыта,
Зь якога людзі-сьвіньні жэрлі спрытна,
Штурхаючыся зь віскам між сабой.

І ўбачыў я ў памыях стосы кніг,
І ў сьвіньнях аўтараў пазнаў шматлікіх,

І скалануўся, і ў зьдзіўленьні ўсклікнуў:
“Хто і за што так зьдзекуецца зь іх?”

Пачуў: “Перад табой натоўп пісак,
Якія крыўду абвясьцілі праўдай
І, мову прадзедаў схаваўшы ў спраты,
Піхалі, што ні трапіць, у вальляк.

Яны адзіны клопат мелі там:
Як ухапіць што-болей зяпай ласай,
І тут, як бачыш, стосы кніг уласных
Цяпер глынаюць з гноем напалам!”[15]

Але адна справа – алегарычны вобраз у паэтычным творы, іншая справа – праграмны маніфест Таварыства, якое збіралася на сходы ў Доме літаратара і прэтэндавала на статус маладзёжнай секцыі пры Саюзе пісьменнікаў. З асноўнымі ідэямі “Маніхвэсту...” тутэйшаўцы былі згодныя і старэйшых калег-пісьменнікаў у сваіх выступленнях пастаянна крытыкавалі, але рэзкі стыль “Маніхвэсту...” выклікаў нязгоду:

*“Над карытам літаратуры стаў відаць заклік: “Жарэце, абы не ўсчынялі віску!”* (с. 1).

*“Толькі сыта адрыгваючы*[16]*, яны вешаюць на сябе ўзнагароды і ганаровыя біркі”*[17] (с. 1).

*“Мы не наступнікі прыкарытных. Таму хай яны ўзьненавідзяць нас, так як ненавідзелі ў прароку сябе”*[18] (с. 1).

Многія з сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі падтрымлівалі “Тутэйшых”, напрыклад, Вольга Іпатава, Раіса Баравікова, Яўгенія Янішчыц, Хрысціна Лялько. Мы не разумелі, навошта было абражаць гэтых сімпатычных жанчын і таленавітых пісьменніц. З прыхільнасцю ставіліся да дзейнасці “Тутэйшых” выкладчыкі БДУ, якія былі членамі СП: Алег Лойка, Дзмітры Бугаёў, Вячаслаў Рагойша. Будучы на той час аспірантам кафедры беларускай літаратуры БДУ, я не ўяўляў сабе адносіны са старэйшымі калегамі ў стылі “Маніхвэсту...” А некаторыя з тутэйшаўцаў увогуле паходзілі з пісьменніцкіх сем’яў: браты Адамчыкі (Адам Глобус і Міраслаў Шайбак), Максім Клімковіч, Лявон Вольскі. Як ім было глядзець у вочы сваім бацькам, падпісаўшыся пад “Маніхвэстам Тутэйшых”?

Недаўменне ў большасці тутэйшаўцаў выклікала прапанова “Маніхвэсту...” адмовіцца ад публікацыі твораў у афіцыйных часопісах і дзяржаўных выдавецтвах і заняцца літаратурнай партызаншчынай: *“Я пішу для людзей, а не для цэнзуры і рэдактараў, не дзеля вузкага прыкарытнага кола. Я пішу не дзеля публікацыі ў рэтраградных часопісах і выдавецтвах, дзе самастойная думка лічыцца або памылкай, або палітычным злачынствам. Я пішу ў самаробныя альманахі, начытваю на магніта- і відэамагнітафоны, я чытаю ў кожным мейсцы, дзе зьбіраецца народ”* (с. 2).

Творчыя лідэры Тутэйшых – Анатоль Сыс, Адам Глобус – чакалі выхаду сваіх кніг у выдавецтве “Мастацкая літаратура”, рыхтавалі да выдання зборнікі многія іншыя сябры суполкі: Алег Мінкін, Сяржук Сокалаў-Воюш, Уладзімір Сцяпан, Максім Клімковіч, Алесь Наварыч, на старонках газеты “Літаратура і мастацтва” і часопіса “Маладосць” публікаваліся крытычныя артыкулы Сяргея Дубаўца, Алеся Бяляцкага, Пятра Васючэнкі, у выдавецтве “Мастацкая літаратура” рыхтаваўся да выдання калектыўны альманах “Тутэйшыя”, які паводле першапачатковай задумы мусіў адкрывацца якраз “Маніхвэстам...” Набірала сілу абвешчаная Гарбачовым палітыка *перабудовы, дэмакратызацыі і галоснасці,* і ў той час мы спадзяваліся на рэфармаванне “рэтраградных часопісаў і выдавецтваў”, ператварэнне іх у сучасныя, адкрытыя для маладых аўтараў і цікавыя для чытачоў выданні, а не на падпольнае распаўсюджанне сваіх твораў шляхам самвыдаву.

Згодныя з асноўным зместам “Маніхвэсту...”, з яго нацыянальна-адраджэнскім пафасам і крытычнай ацэнкай стану тагачаснай беларускай літаратуры прысутныя на абмеркаванні праекта тутэйшаўцы былі катэгарычна супраць асобных яго пунктаў і правакацыйнага стылю, які спрыяў канфрантацыі са старэйшымі пісьменнікамі і нагнятанню варожай атмасферы вакол Таварыства. У выніку адкрытага галасавання “Маніхвэст...” не зацвердзілі, а адклалі на дапрацоўку. Спачатку здавалася, што такая дапрацоўка – цалкам магчымая і патрэбная, што дастаткова змяніць стыль, выкінуць некалькі дыскусійных пунктаў, а некалькі іншых пунктаў дадаць і “Маніхвэст...” можна будзе прыняць у якасці калектыўнай літаратурна-грамадскай праграмы суполкі і апублікаваць.

Менавіта з мэтай перапрацоўкі экзэмпляр “Маніхвэсту...” апынуўся ў мяне, і я сумленна спрабаваў гэтую працу зрабіць, пра што згадваў пазней у анкеце для Аксаны Бязлепкінай[19]. У маім асабістым архіве захаваўся тэкст з 1987 г., які з’яўляецца вынікам гэтых намаганяў і адлюстроўвае як сугучча, так і розніцу ў поглядах асобных сяброў “Тутэйшых”. Тэкст ўяўляе сабой тры старонкі машынапісу наркамаўкай (але з мяккімі знакамі), складаецца з дванаццаці пунктаў і дзвюх заўваг. У дзесяці пунктах пераказваюцца асноўныя ідэі “Маніхвэсту...” С. Дубаўца, але ў менш экспрэсіўнай форме і без заклікаў да канфрантацыі са старэйшымі пісьменнікамі. Выглядаў гэты пераказ наступным чынам:

*“Задача нашага таварыства – аб’яднаць маладых літаратараў, якія ўсьвядомілі адказнасьць свайго пакаленьня за далейшы лёс беларускай літаратуры: перад папярэднікамі, якія шмат для яе зрабілі, перад наступнікамі, якія пойдуць далей за нас, перад народам, для якога гэтая літаратура ствараецца. <...>*

*Я разумею, што лёс літаратуры непарыўна зьвязаны з лёсам бацькаўшчыны, таму клопат пра бацькаўшчыну для мяне – клопат пра літаратуру. <...>*

*Я імкнуся да высокага тэхнічнага ўзроўню маіх твораў, без якога немагчыма сёньня выяўленьне глыбокага ідэйнага зьместу. Я адмаўляюся ад пайсядзённай “ілжэвяскоўшчыны” як “псэўданацыянальнай” спэцыфікі. Вёска адна ў неабсяжным коле тэмаў. Я разумею значэньне разьвіцьця ўрбаністычных матываў у літаратуры”*[20].

Два пункты, якія падаліся мне істотнымі – пра крытыку і традыцыі – я дадаў ад сябе:

*“Я імкнуся талерантна ставіцца да творчых пошукаў іншых. Адзінае агульнае патрабаваньне – сумленныя адносіны да літаратуры. Адзіны крытэрый – высокі ідэйна-мастацкі ўзровень. Я вучуся слушна ўспрымаць і разумець крытыку. <...>*

*Я не атаясамліваю цалкам традыцыі духоўныя, якія бліжэй да грамадска-палітычных ідэй, і традыцыі мастацкія, якія бліжэй да паняццяў „школа”, „манера”, „стыль”, не блытаю іх, не падмяняю адно адным. Калі духоўныя традыцыі Янкі Купалы, напрыклад, абавязкова наследуюцца кожным з нас, насьледаваньне яго мастацкіх традыцый зусім не абавязковае для пасьлядоўніка іншага напрамку, іншай школы”*[21].

Заканчваўся тэкст “Заўвагамі”, якія вытлумачвалі яго генэзіс і прызначэнне:

*“**Літаратурныя памкненьні** створаныя з мэтаю папярэдняга аб’яднаньня маладых беларускіх літаратараў на падставе некаторых агульных поглядаў і задач. Погляды і задачы гэтыя ні ў якім разе **Літаратурнымі памкненьнямі** не абмяжоўваюцца. Іх далейшы працяг – у літаратурна-крытычных артыкулах удзельнікаў таварыства, падцьверджаньне і абгрунтаваньне – у мастацкай практыцы.*

*Усе дапаўненьні і заўвагі пішуцца ўдзельнікамі таварыства на наступных чыстых старонках у выглядзе пакуль што прыватных думак, з подпісам прозьвішча і імя”*[22].

Такім чынам, меркавалася, што кожны з сяброў суполкі зможа дапісаць свае прапановы і ў выніку калектыўнага абмеркавання будзе зацверджана афіцыйная літаратурна-грамадская праграма “Тутэйшых”, якая потым будзе апублікавана ў альманаху Таварыства.

Не ведаю, ці такая літаратурна-грамадская праграма, якая б задавальняла

ўсіх сяброў суполкі, увогуле была мажлівая. Але, прачытаўшы свой праект яшчэ раз, я моцна засумняваўся ў патрэбнасці такога кампраміснага, “лагоднага” варыянта Праграмы суполкі. У “Маніхвэсце...” С. Дубаўца былі перабольшанні і правакацыйныя пункты, але прысутнічала моцная энергетыка, яскравая мастацкая форма, быў *драйв,* як кажуць рокеры. У “Літаратурных памкненьнях” былі толькі думкі, якія маглі быць выказаныя ў звычайных літаратурна-крытычных артыкулах, на старонках афіцыйных газет і часопісаў. Я паказаў свой праект Адаму Глобусу, які таксама не прымаў многія пункты “Маніхвэсту...”, і ён пацвердзіў мае сумненні: кампрамісны варыянт Праграмы быў крокам назад, ідэя перапрацоўкі “Маніхвэсту...” аказалася памылковай.

У дзейнасці “Тутэйшых” мне падабалася тое, што памылковыя ідэі аднаго з сяброў выпраўляліся іншымі, аптымізм Бяляцкага згладжваў скептыцызм Дубаўца, рацыяналізм Глобуса ўраўнаважваў стыхійнасць Сыса і г.д., а ўсе найважнейшыя рашэнні прымаліся калектыўна. Параіўшыся на чарговым пасяджэнні, мы вырашылі не зацвярджаць “Маніхвэст...” у якасці афіцыйнай літаратурна-грамадскай праграмы Таварыства, не імкнуцца апублікаваць яго, згладзіўшы “вострыя вуглы”, а пакінуць у першапачатковым выглядзе як таемны, “падпольны” дакумент, з якім мог пазнаёміцца кожны з сяброў суполкі, але ніхто з чужынцаў. Неўзабаве “Маніхвэст...” аброс чуткамі і легендамі, як і сама суполка “Тутэйшых”, а потым увогуле ператварыўся ў міф.

Хаця “Маніхвэст...” меў свайго канкрэтнага аўтара, яго значэнне і сіла заключаліся ў тым, што ў гэтым невялічкім тэксце былі выказаныя ідэі і патрабаванні ўсёй суполкі “Тутэйшых”, усяго пакалення маладых пісьменнікаў 80-х гг. XX ст. На калектыўны характар “Маніхвэсту Тутэйшых” слушна звярталі ўвагу даследчыкі.

*“Можна сказаць, што “Маніхвэст...” – гэта своеасаблівае падагульненне думак, меркаванняў, спрэчак, якімі жылі “Тутэйшыя”. “Маніфест...” не быў абнародаваны перад усімі сябрамі таварыства, але пра яго існаванне было вядома. І міфічны “Маніфест...” пачаў жыць самастойным жыццём, незалежным ад “Маніфеста” сапраўднага”*[23], – піша А. Бязлепкіна.

А Г. Кісліцына адзначае: *“І якім бы наіўным ні здаваўся некаторым зараз дубаўцоўскі “Маніфест”, ён быў вынікам калектыўнага роздуму над лёсам беларускай літаратуры: спробай пазбегнуць памылак папярэднікаў і выкрышталізаваць уласныя творчыя прынцыпы”*[24].

***

Свае літаратурна-грамадскія погляды “Тутэйшыя” выказалі таксама ў шэрагу калектыўных анкет і інтэрв’ю, апублікаваных у афіцыйным беларускім друку ў 1988-1989 гг. Гэтыя выступленні перагукаюцца з многімі пунктамі неапублікаванага “Маніхвэсту...” і пацвярджаюць важнасць выказаных там ідэй для дзейнасці і творчасці сяброў суполкі. Што цікава, “крамольныя думкі”, выказаныя не ў самвыдаўскіх альманахах, у якіх заклікаў друкавацца аўтар “Маніхвэсту...” ў 1987 г., а на старонках тых самых рэтраградных часопісаў, дзе, калі верыць “Маніхвэсту...”, “самастойная думка лічыцца або памылкай, або палітычным злачынствам” (с. 2). Больш таго, у 1988 г. сам Сяргей Дубавец працаваў у адным з такіх часопісаў – “Нёмане” – і разам з Алай Сямёнавай арганізаваў круглы стол пад назвай «“Неформалы” – кто вы?”» Такім чынам, час унёс карэктывы ў літаратурна-мастацкую праграму “Тутэйшых”, якія паспяхова спалучалі грамадска-палітычную і літаратурную дзейнасць, публікацыю сваіх твораў у самвыдаўскіх і афіцыйных выданнях.

За першы год дзейнасць “Тутэйшых” абрасла шматлікімі чуткамі і плёткамі. У адказе на пытанне часопіса “Маладосць” пра адносіны паміж “Тутэйшымі” і Саюзам пісьменнікаў Беларусі Адам Глобус згадвае некаторыя плёткі пра тутэйшаўцаў: *“Фронда, нацюгі, банда, сіяністы і антысеміты, хамы, блазны,*

*варвары, вар'яты... Далёка не поўны спіс мянушак, налепленых на Таварыства, і ўсе абразы ішлі з азначэннямі накшталт: нявыхаваныя, бяздарныя, закамплексаваныя, нахабныя... Мянушкі і азначэнні дарылі нам пісьменнікі – старэйшыя таварышы і браты. ...Плётак столькі, што можна міфічную гісторыю Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР выдаваць"*[25].

Анкету "Маладосці" рыхтавалі Хрысціна Лялько як супрацоўніца часопіса і я як прадстаўнік "Тутэйшых", мы разам прыдумвалі пытанні, якія б дазволілі найбольш поўна прадставіць літаратурна-грамадскую праграму суполкі і развеяць шматлікія чуткі і плёткі. З гэтай мэтай падбіраўся і склад удзельнікаў анкеты, былі змешчаны нашыя фотаздымкі і кароткія біяграфічныя звесткі, з якіх чытач мог даведацца, што суполку ўтварылі не "бандыты, варвары і вар'яты", а аспірант Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, супрацоўнік часопіса "Крыніца", супрацоўнік Беларускага тэлебачання, бібліятэкарка Дзяржаўнай бібліятэкі імя У.І. Леніна, супрацоўнік выдавецтва "Мастацкая літаратура", супрацоўнік часопіса "Нёман", навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, супрацоўнік часопіса "Бярозка", аспірант кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У.І. Леніна[26].

Пытанні маладосцеўскай анкеты датычылі прычынаў узнікнення і мэтаў Таварыства, стаўлення да літаратурнай спадчыны і творчых арыенціраў, арганізацыйных і выдавецкіх праблемаў, узаемаадносінаў з Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

Адказваючы на пытанне пра мэты і задачы суполкі, старшыня Таварыства Алесь Бяляцкі звязваў узнікненне "Тутэйшых" з трагічным станам беларускай мовы, літаратуры, культуры ў грамадстве: *"Творчая справа, вядома, справа індывідуальная, але ўсе мы апынуліся перад страшнай з'явай, якая замоўчвалася доўгія гады, — разбурэннем культуры нацыі, выцясненнем з ужытку і знікненнем беларускай, роднай для нас мовы. ... Старэйшае пакаленне літаратараў (некалькі чалавек выключэнне) не выйшла са стану спакою. Як ні хочацца таму-сяму завуаляваць становішча сучаснай беларускай літаратуры ў цэлым, трэба паглядзець праўдзе ў вочы – яна ў заняпадзе"*[27].

А. Бяляцкі падкрэслівае дамінацыю грамадска-палітычных, нацыянальна-адраджэнскіх ідэй у праграме Таварыства: *"У "Тутэйшыя" ўваходзяць людзі з рознымі мастацка-эстэтычнымі поглядамі на літаратуру, на жыццё. Але можна вызначыць агульныя рысы, што аб'ядноўваюць нас. Літаратура – гэта Бацькаўшчына. Рэалізацыя гэтай ідэі ў творчасці ідзе з аднаго боку праз імкненне да мастацкай праўдзівасці ў адлюстраванні рэчаіснасці, з другога – праз удасканаленне, мадэрнізацыю формы"*[28].

Такім чынам, старшыня суполкі дакладна паўтарае ў сваім адказе на анкету галоўны лозунг "Маніхвэсту..." — *"літаратура – гэта Бацькаўшчына"* — а ў якасці важнейшых эстэтычных прынцыпаў маладых літаратараў называе мастацкую праўду і дасканаласць формы.

Узнікае ў адказе Бяляцкага і тэма "прыкарытніцтва", якая чырвонай ніткай праходзіла праз увесь "Маніхвэст...": *"Нецярпімыя адносіны ў Таварыстве да спажывецтва ў літаратуры, калі пішуць "дзеля кавалка хлеба", не думаючы асабліва, пра што і як. "Прыкарытніцтва" – адна з прычын зніжэння аўтарытэту нашай літаратуры"*[29].

Як сведчаць адказы іншых удзельнікаў маладосцеўскай анкеты, трагічны стан беларускай мовы і культуры ў грамадстве, канфармізм беларускіх савецкіх пісьменнікаў і канфлікт пакаленняў на гэтай глебе з'яўляліся найбольш балючымі пытаннямі для ўсіх тутэйшаўцаў. Крытыка СП БССР у той ці іншай ступені гучыць у адказах большасці тутэйшаўцаў.

Уладзімір Сіўчыкаў адзначае: *"Афіцыйны статус Таварыства – пры "СП БССР". Таму, думаецца, будзе вельмі лагічна, калі найбольш таленавітыя яго ўдзельнікі ўвальюцца ў пісьменніцкую арганізацыю. Агульнавядома, што ва ўзроставым*

*складзе яе склалася дзіўная дыспрапорцыя. Летась з 372 членаў СП толькі сем былі маладзейшыя за 30 гадоў. Затое нямала ў ім людзей, што толькі на паперы існуюць як творчыя адзінкі"*[30].

Справядлівую крытыку беларускіх пісьменнікаў за сервілізм і нізкі ўзровень твораў гэтыя пісьменнікі імкнуцца прадставіць як татальнае адмаўленне моладдзю творчасці папярэднікаў увогуле, пра што гаворыцца ў маім адказе на анкету: *"Непрыманнне мастацкай недасканаласці канкрэтных твораў, непрыманне праяў гігантаманіі і рэкламаванай непагрэшнасці канкрэтных асоб выдаецца такімі асобамі за непрыманне моладдзю старэйшага пакалення ўвогуле альбо і зусім за адмаўленне класічнай спадчыны"*[31].

Далей у маім адказе звяртаецца ўвага на праблему выдання твораў маладых пісьменнікаў на фоне бясконцых перавыданняў сачыненняў мэтраў: *"Пачатковец з хваляваннем чакае сваёй першай публікацыі ў часопісе звычайна некалькі гадоў; для яго такая публікацыя робіцца ці не галоўнай падзеяй жыцця за гэтыя гады. Прызнаны майстар, заклапочаны выданнем свайго выбранага ў Маскве і двух- ці трохтомніка ў Мінску, аддае мімаходзь чарговую падборку вершаў ці новы раман у часопіс і выказвае сваё важкае пажаданне "не зацягваць з публікацыяй". (...) Гляджу ў кнігарні на шматлікія двухтомнікі і шматтомнікі (ходзяць легенды, што на некаторыя з іх падпісалася па ўсёй Беларусі пяць-дзесяць чалавек) і думаю, што толькі а д н а г о з іх хапіла б на тое, каб зняць праблему выдання першых кніг паэтаў і празаікаў на дзесяць гадоў наперад"*[32].

Язэп Янушкевіч у адказе на пытанне пра адмаўленне старэйшых як шлях сцвярджэння сябе выказваецца больш катэгарычна і эмацыянальна: *"Нашая ж эпоха, асабліва тыя дзесяцігоддзі, якія цяпер называюць "застойнымі", дазволіла развівацца ў невядомых раней для беларускай літаратуры памерах прыстасавальніцтву, падхалімажу, пратэктарству, запалоханасці аўтара "ўнутраным" і "знешнім" рэдактарам, каб не апынуцца ў непажаданых "кліматычных умовах" (геаграфічна і палітычна) спарадзілі сумна вядомае "На мой век і сямейны хлеб беларускай мовы хопіць". Тым самым пачаўся працэс раскрадання, падмену духоўных скарбаў нацыі, скарбаў, якія на працягу нялёгкіх стагоддзяў назапашвалі папярэднікі... Шмат каго з прыстасаванцаў у літаратуры (кароткі спіс іх сустракаем у сучаснай ананімнай паэме "Сказ пра Лысую гару") сябры Таварыства маладых літаратраў адмаўляюць не з прычыны, 'каб лягчэй было сцвердзіць сябе', а найбольш з пачуцця прыкрасці і сораму..."*[33].

У "Маніхвэсце..." Прарокам Тутэйшых, адзіным для іх маральным аўтарытэтам сярод сучасных пісьменнікаў абвяшчаўся Уладзімір Караткевіч. І сапраўды, пакаленне Тутэйшых можна назваць духоўнымі дзецьмі Караткевіча. Пра значэнне творчасці Караткевіча для беларускай моладзі 80-х гг. XX ст. гаворыць у сваім адказе на пытанне пра творчыя арыенціры Сяргей Шупа: *"Караткевічава Слова зрабіла найбольшы, вырашальны ўплыў на фарміраванне маёй грамадзянскай і творчай пазіцыі. Адбылося гэта, відаць, таму, што шал нацыянальнага нігілізму на пераломе 70-80-х гг. дасягнуў такой ступені, што стыхійна і аб'ектыўна пачаў спараджаць сваю процілегласць – патрыятызм, цягу да беларушчыны.* ***У моры трыбуннае хлусні****, грубага матэрыялізму і прагматызму* ***творчасць Караткевіча сталася збаўчай выспай*** *шчырасці, чысціні, рамантычнасці і, галоўнае, – гаючай крыніцай нацыянальна-гістарычнай свядомасці"* [вылучэнне маё. – *С.К.*][34].

Каб "закрыць" праблему адмаўлення, літаратуразнаўца Янушкевіч паведамляе, што менавіта тутэйшаўцы падрыхтавалі да выдання творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Баршчэўскага, Ф. Багушэвіча, К. Каліноўскага, М. Карыцкага, І. Канчэўскага, У. Караткевіча, А. Сербантовіча, а перакладчык Шупа называе сярод сваіх творчых арыенціраў творы Я. Купалы, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, А. Разанава, Г. Сянкевіча, Э. По, М. Булгакава, Б. Пастэрнака, А. Камю, Б. Віяна, О. Уайльда, Ф. Тугласа, Ц.К. Норвіда.

Анатолю Сысу дасталося правакацыйнае пытанне: “У сваіх выступленнях некаторыя кіраўнікі таварыства сцвярджаюць, што беларуская літаратура пачынаецца з вас. Няўжо гэта сур’ёзна?” Ад імпульсіўнага паэта можна было чакаць досыць рэзкага адказу на такое пытанне, але замест таго каб раздражняцца і выказвацца ад уласнага імя, Сыс “прадставіў трыбуну” славутым папярэднікам, пісьменнікам і мастакам-мадэрністам XX ст.: Алену Роб-Грые, Сальвадору Далі, Томасу Стэрнзу Эліяту і інш.

Прывяду толькі некалькі цытат А. Сыса на тэму “бацькоў і дзяцей” у анкеце “Маладосці”: *“...Чытач, які ўжо атрымаў намёк, адразу ж уяўляе сабе некалькі маладых людзей з кепскімі манерамі, якія крывосна ўсміхаюцца і падкладваюць петарды пад фатэлі членаў Акадэміі з адзінаю мэтаю нарабіць гвалту і эпатаваць буржуа. “Яны хочуць падпілаваць сук, на якім мы сядзім”, – у душэўнай прастаце прызнаецца Анры Клуар... А паміж тым у сапраўднасці сук, пра які ідзе размова, засох сам па сабе, проста ад часу; і не наша віна ў тым, што ён пачаў гнісці. Усім, хто ў адчаі чапляецца за гэты сук, дастаткова было б хоць раз падняць вочы да вершаліны дрэва і ўпэўніцца, што ўжо даўным-даўно там выраслі новыя галіны – зялёныя, моцныя, поўныя жыцця”* [Ален Роб-Грые].[35]

*“Пакуль чаравікі нам служаць, мы іх носім, калі ж яны зносяцца, стопчуцца, мы іх закінем на гарышча і купім новыя... Якой бы вялікай ні была наша павага да нябожчыка родзіча, пара высветліць: да якой пары мы будзем валачы на плячах ягоны труп, церпячы ўсе стадыі разлажэння? Аддадзім жа яго нарэшце зямлі з усімі ўшанаваннямі і зберажом найлепшыя ўспаміны”* [Сальвадор Далі].[36]

Чытачу няцяжка было правесці паралель паміж даўняй дыскусіяй заходнеўрапейскіх авангардыстаў з класікамі-акадэмікамі і актуальнымі спрэчкамі тутэйшаўцаў з кіраўніцтвам СП БССР, за эпізодам у гісторыі сусветнай эстэтычнай думкі ўбачыць адносіны беларускай літаратурнай моладзі да змярцвелага савецкага канону.

Найбольш радыкальную пазіцыю ў адносінах да СП БССР займаў Сяргей Дубавец, і гэтая пазіцыя выказана ім у адказе на маладосцеўскую анкету рэзка і катэгарычна, без усякіх алегорый і паралеляў: *“Што агульнага ў “Тутэйшых” з СП? Слоўны клопат пра “будучыню нацыянальнае культуры, мовы і літаратуры”?.. Але ж калі першым яшчэ свярбіць рэальнае жыццё, дык другія забарыкадаваліся ад яго ўласнымі тамамі. Калі першыя пачыналі лімаўскую дыскусію пра становішча роднае мовы, другія палітыкавалі ў кулуарах, чакаючы, ці не скончыцца дачасна гэтая дзіўная галоснасць? Калі першыя пайшлі па кватэрах, угаворвалі людзей аддаць сваіх дзетак у беларускія класы, выслухоўвалі глупства і абразы з вуснаў чыноўнікаў ад асветы, другія разразіліся прамовамі, дбаючы, праўда, больш пра ўласнае рэнамэ, чым пра паляпшэнне моўнай сітуацыі, а цяпер і зусім замерлі. ...Можа, яны стварылі літаратурныя школы? Але ж маладыя спрэс вучацца ў Багдановіча, Гарэцкага, Караткевіча, вучацца ў Быкава і Разанава. А чаму можна навучыцца ў сённяшніх наменклатурных ‘імянітасцяў’, дзеячаў СП, у рэдактараў выдавецтваў і перыёдыкі? Што новага яны прынеслі ў літаратуру апроч завалаў у кнігарнях?.. “Пасля нас – хоць патоп”, — так яны лічаць па старой завядзёнцы, якая дасталася ім ад папярэднікаў. Што ж, ім той патоп ужо па горла, але на жыццё хопіць. А нам? **А нам самы час будаваць човен!**”* [вылучэнне маё. – *С.К.*][37].

Другі раз у маладосцеўскай анкеце “Тутэйшых” узнікае вобраз бурлівага мора, варожыя хвалі якога імкнуцца захлынуць мацярык беларушчыны. У Сяргея Шупы гэта было мора трыбуннае хлусні, грубага матэрыялізму і прагматызму, пасярод якога збаўчай *выспай* сталася творчасць Караткевіча, у Сяргея Дубаўца – гэта патоп дэнацыяналізацыі і русіфікацыі, паратункам ад якога мусіў стаць *човен*, збудаваны беларускай патрыятычнай моладдзю. Менавіта такім чоўнам бачыліся Дубаўцу “Тутэйшыя”, адроджаная газета “Наша Ніва” і іншыя нацыянальныя праекты, да якіх ён непасрэдна прычыніўся.

Маладосцеўская анкета 1988-га года з’яўляецца самым поўным выяўленнем

калектыўнай літаратурна-грамадскай праграмы “Тутэйшых” (адказы дзевяці ўдзельнікаў, чатырнаццаць старонак тэксту), прычым у анкеце адлюстравалася не толькі падабенства, але і розніца ў поглядах асобных тутэйшаўцаў на мэты і формы дзейнасці суполкі.

Так, С. Дубавец незадаволены тым, *“...што ‘Тутэйшыя’ ад пачатку прыляпіліся да СП”*[38], а А. Глобуса, наадварот, непакоіць няпэўны афіцыйны статус Таварыства: *“У Таварыстве маладых літаратараў і Саюза пісьменнікаў адносіны цудоўныя, калі не лічыць, што ўсе гэтыя дакументы ніводным дакументам не зафіксаваны”*[39]. Не супраць афіцыйнага статусу Таварыства і А. Бяляцкі, які наракае на адсутнасць штатнага кіраўніцтва: *“Адсутнічае штатнае кіраўніцтва, у кожнага хапае сваіх асабістых спраў: праца, творчасць, імпрэзы Таварыства і г.д. Дзве стаўкі кіраўнікоў, якія б абіраліся Таварыствам, значна аблегчылі б працу, наладзілі б яе, зрабілі б больш эфектыўнай. Такая практыка існуе ў іншых маладзёжных літаратурных аб’яднаннях пры СП – у Маскве, Ленінградзе, Прыбалтыцы”*[40].

Паэтка Людка Сільнова лічыць вельмі карыснымі для творчага росту сяброў суполкі абмеркаванні твораў на паседжаннях: *“Цяпер канкрэтна, што дае нам, як маладым творцам, нашае аб’яднанне. Гэта – магчымасць узважыць свае літаратурныя здольнасці..., больш крытычна аднесціся да свайго літаратурнага ‘прадукта’, а таксама ацаніць узровень сваёй прафесійнай падрыхтоўкі. Традыцыйныя ў нас абмеркаванні творчасці маладых аўтараў праходзяць у даволі жорсткай форме, і прысутнымі звычайна прад’яўляюцца да аўтара вельмі высокія патрабаванні”*[41].

С. Дубавец наадварот лічыць такія абмеркаванні непатрэбнымі: *“Нарэшце, калі быць самакрытычным, дык не падабаецца працяглы нонсэнс нашых пасяджэнняў, дзе чытаюць і абмяркоўваюць пераважна не тое, што мусіць змяніць свет, а тое, што напісалася дзеля пасяджэння, дзеля публікацыі, паводле прынятых застойных устояў. У гэткіх чытках ва ўтулку Дома літаратара блякне сам сэнс існавання “Тутэйшых”. Лепей – творчая групаўшчына і канфрантацыя, чым прытулак для інвалідаў...”*[42].

Адказваючы на пытанне анкеты, А. Бяляцкі заўважае, што *“у перспектыве добра было б арганізаваць кааператыўнае выдавецтва і выпускаць свой часопіс”*[43]. У. Сіўчыкаў у сваім адказе наадварот запэўнівае чытача, што ўдзельнікі Таварыства *“... не збіраюцца ні ўтвараць кааператыўнае выдавецтва, ні займацца самвыдатам, ні, тым больш, друкавацца за акіянам”*[44].

Кідаецца ў вочы, што адны сябры Таварыства свядома называюць сваю арганізацыю “Тутэйшымі”, іншыя – “Таварыствам маладых літаратараў (ТМЛ)”, а некаторыя аб’ядноўваюць дзве назвы ў агульную: “Таварыства маладых літаратараў пры СП Беларусі “Тутэйшыя”. У даным выпадку ў маладосцеўскай анкеце адлюстраваліся два крайнія погляды на статус Таварыства: як нефармальнай суполкі (С. Дубавец) і як маладзёжнай секцыі пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі (А. Глобус). Што датычыцца большасці сяброў Таварыства, яны бачылі ісціну недзе пасярэдзіне. З аднаго боку, легальны статус пры Саюзе пісьменнікаў надаваў большую вагу Таварыству ў грамадстве, дазваляў выступаць ад імя ўсяго пакалення, з іншага боку не хацелася бюракратызавацца і губляць вольналюбівы дух нефармальнай суполкі. Адсюль з’явілася кампрамісная канцэпцыя Таварыства маладых літаратараў пры СП Беларусі “Тутэйшыя”.

Характэрна, што ў пытаннях анкеты “Маладосці” ні разу не ўжываецца назва “Тутэйшыя”, а толькі “Таварыства маладых літаратараў пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі”. Але, адказваючы на першае пытанне, А. Бяляцкі адразу папраўляе: Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР “Тутэйшыя”.[45] Старшыня Таварыства тлумачыць чытачам “Маладосці” паходжанне назвы суполкі:

“Колькі шуму было з-за назову “Тутэйшыя”. Ці не завельмі мы прызвычаіліся да “Сузор’яў” і “Крыніц”? Ды змагліся нашы зоры і крыніцы, зацягнула глеем. Я. Купала пісаў:

Я не чыноўнік і не граф, не князь,
Таксама – я не турак і не грэк
І нават не паляк і не маскаль,
А проста я тутэйшы чалавек!

*А да Беларусі нам трэба зноў і яшчэ дарастаць. Што гэта за нацыя, якая не шануе сваю мову, не гаворыць на ёй?"*[46]

Аднак У. Сіўчыкаў у сваім адказе на анкету не хавае таго факту, што назва суполкі яму не падабаецца: *"... я знарок скрозь ужываю слова "Таварыства", бо, як і некаторыя іншыя члены аб'яднання, не згодны з найменнем 'Тутэйшыя', нягледзячы на тое, што яно і прыжылося"*[47].

Але чытаючы сёння адказы тутэйшаўцаў на маладосцеўскую анкету, бачыш, што агульнага ў выказваннях сяброў Таварыства значна больш, чым розніцы. Рознагалоссе ў адказах "Тутэйшых" вынікала, па-першае, з дэмакратычнай атмасферы ў суполцы, з адсутнасці 'партыйнай дысцыпліны', а, па-другое, тлумачылася непрацяглым часам існавання Таварыства, калі многія дыскусійныя пытанні былі яшчэ не вырашаны. У гэтых адносінах цікава прасачыць як хутка эвалюцыянавалі літаратурна-грамадскія погляды сяброў Таварыства, што адлюстравалася ў пазнейшых выступленнях Тутэйшых у афіцыйным друку.

У чэрвені 1988 г. рускамоўны часопіс "Нёман" у рубрыцы "Литературная критика" апублікаваў матэрыялы круглага стала з удзельнікамі беларускіх нефармальных аб'яднанняў: "Талака", "Тутэйшыя", "Світанак", "Штука", "Няміга", "Касінер". Ад часопіса "Нёман" гутарку вялі Ала Сямёнава і Сяргей Дубавец. Каб апраўдаць з'яўленне крамольнага матэрыяла на старонках часопіса, вядучыя гутаркі ва ўступным слове спасылаюцца на газету ЦК КПСС "Правда", а ў заключным слове выказваюць упэўненасць, што нефармальныя аб'яднанні Беларусі паслужаць *"...утверждению наших социалистических идеалов"*[48]. Мэта нёманаўскага круглага стала заключалася ў тым, каб даць чытачу праўдзівую інфармацыі пра беларускія нефармальныя суполкі, развеяць шматлікія плёткі і чуткі вакол іх (напрыклад, гіпотэзу журналіста А. Майсені, выказаную на старонках "Советской Белоруссии", пра сувязь беларускіх нефармалаў з нейкім заканспіраваным, нікому не вядомым нацыяналістам[49]). Кожны з прадстаўнікоў нефармальных суполак – Сяржук Вітушка, Вінцук Вячорка, Алесь Костка, Алесь Гуркоў, Віктар Мартыненка, Віктар Івашкевіч[50] – імкнуўся як мага больш распавесці пра сваю арганізацыю. Ад імя "Тутэйшых" у круглым стале "Нёмана" ўдзельнічалі Адам Глобус і я.

Зразумела, трэба было выказвацца дастаткова лаканічна і не паўтарацца. Распавядаючы пра спецыфіку дзейнасці "Тутэйшых", я адзначыў: *"В общество входят совсем разные люди: Адам Глобус, у которого подготовлены к изданию две книги, и Анатоль Сыс, у которого тоже написана книга, уже достигли определенного уровня. Другие, младшие, ориентируются на них. В то же время есть и общие для всех ориентиры – творчество М. Богдановича, М. Горецкого, В. Короткевича. Прошел год, и можно заметить, что в Обществе у людей быстрее формируется вкус, причем не по случайным книгам, а более системно, продуманно. Сейчас "Тутэйшыя" подготовили альманах. Замечу, что легче отдать свое произведение именитому писателю и выслушать его замечания, чем предложить произведение для обсуждения в "Тутэйшых". Это самая требовательная аудитория, какую я когда-либо видел"*[51].

Адам Глобус растлумачыў чытачам "Нёмана" сэнс назвы Таварыства: *"«Тутэйшыя» – название ироническое. Пока мы не осознаем себя нацией, народом с самобытной культурой и языком, мы не имеем права называться белорусами. Поэтому мы иронически называем себя «Тутэйшымі» («Здешними»)"*[52].

А. Бязлепкіна ў сваёй манаграфіі слушна звяртае ўвагу на той факт, што асабіста А. Глобус быў супраць назвы "Тутэйшыя", але *"...падчас «круглага стала» ў «Нёмане»*

*не выказаў свайго сапраўднага стаўлення да назвы таварыства, бо, па-першае, там ён быў не як прыватная асоба, а як прадстаўнік таварыства, а па-другое, трэба было рэпрэзентаваць таварыства з лепшага боку, растлумачыць сваю пазіцыю, назву, расказаць пра наробкі, а не выносіць на публіку ўнутраныя праблемы"*[53].

Канкрэтнае пытанне, якое задалі нам вядучыя круглага стала, датычыла ўзаемаадносінаў "Тутэйшых" і СП Беларусі, канфлікту пакаленняў. Адказваючы на гэтае пытанне, я падкрэсліў: *"Мне кажется, что этот конфликт глубже, чем просто конфликт поколений. Многие писатели негативно относятся к «Тутэйшым» из-за того, мол, что мы их не признаем. И это правда – некоторых не признаем. Есть за что. Ведь в том, что у нас мизерные тиражи, а книги простаивают в магазинах по пять-десять лет – есть заслуга тех писателей, которые своим "творчеством" и гражданской пассивностью только дискредитируют родную речь, культуру, национальную самобытность и думают только о деньгах и званиях. Выходит, что у нас с ними совершенно разные, противоположные задачи. В этом конфликт"*[54].

А. Глобус, як і ў маладосцеўскай анкеце, звярнуў увагу на незацверджанасць афіцыйнага статусу Таварыства: *"...Мы объединились в такую организацию, которая уже представляла интересы большинства молодых литераторов и искала поддержки в Союзе Писателей. Союз нам пообещал ее. Но до сих пор никакого статуса, никаких прав нам не дали. Все на словах"*[55].

Далей Глобус назваў канкрэтна тых, хто, на ягоную думку, перашкаджае літаратурнай моладзі і хто дапамагае: *"Какой-то аноним, мифический «Наш. кар.» в ЛіМе мешает. Бюро пропаганды Союза писателей и редакция поэзии издательства «Мастацкая літаратура» мешают. Долго рассказывать, как годами выходят, а точнее – не выходят наши книги. Помог конкретно главный редактор того же ЛіМа А. Вертинский, который напечатал информацию о создании «Тутэйшых» и первую подборку произведений членов Общества. Помог Союз писателей – дал помещение. То есть, как видите, парадокс, кто мешает, тот и помогает"*[56].

Фармат нёманаўскага круглага стала не прадугледжваў падрабязнай прэзентацыі літаратурна-мастацкай праграмы "Тутэйшых", пытанні датычылі агульнага накірунку дзейнасці і арганізацыйных праблемаў нефармальнага руху ў Беларусі. Але нёманаўская публікацыя яскрава прадэманстравала генетычную сувязь "Тутэйшых" з іншымі нефармальнымі суполкамі і ў той жа час паказала спецыфіку Таварыства як напаўлегальнай арганізацыі пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

Наступнае калектыўнае выступленне "Тутэйшых" у друку адбылося ў сакавіку 1989 года на старонках часопіса "Бярозка"[57]. Падрыхтаваў матэрыял пад назвай "Хто вы, "Тутэйшыя"?" тутэйшавец Уладзімір Сіўчыкаў, які на той час працаваў у часопісе. Пачынаўся матэрыял з ліста мінскай школьніцы Ірыны Смірновай у рэдакцыю: *"Зараз шмат пішуць і гавораць пра нефармальныя аб'яднанні ("Талака", "Тутэйшыя" і інш.), але аб'ектыўную ацэнку, як мне здаецца, даюць даволі рэдка. Звычайна, як кажуць, кідаюцца ў крайнасці: або толькі лаюць (як "Вячэрні Мінск"), або толькі хваляць, праўда, апошняе вельмі рэдка. Ад знаёмых чую пра іх пераважна добрае, а ў школе іх вінавацяць ледзь не ў антысаветчыне. Карацей, разабрацца ў гэтым пытанні вельмі цяжка, але, па-мойму, проста неабходна"*[58].

Каб дапамагчы Ірыне Смірновай і іншым беларускім школьнікам "разабрацца", рэдакцыя "Бярозкі" і наладзіла інтэрв'ю з "Тутэйшымі", якіх прадстаўлялі А. Бяляцкі, С. Дубавец, В. Мартыненка і аўтар гэтага артыкула.

На пытанне пра мэты і задачы Таварыства адказваў Алесь Бяляцкі: *"«Тутэйшыя» ўтварыліся два гады назад спачатку як нефармальная суполка. Праз нейкі час, калі таварыства аб'яднала большасць актыўных маладых літаратараў, мы «легалізаваліся» і цяпер лічымся таварыствам маладых літаратараў пры Саюзе пісьменнікаў БССР. Нашае пакаленне добра і голасна заявіла пра сябе ў літаратуры і развеяла той скептыцызм, які яшчэ нядаўна можна было адчуць*

*у размовах старэйшых пісьменнікаў пра моладзь. Нашае існаванне паспрыяла адкрыццю "Бібліятэкі часопіса Маладосць", якая істотна спрасціла выхад першых зборнікаў маладых. Сёлета выйдзе і гадавы альманах "Тутэйшых", але лічым, што* ***нам неабходны свой літаратурна-публіцыстычны часопіс*** *[вылучэнне маё. – С.К.]. Аб'ядноўвае нас агульны клопат пра беларускую мову, якую шмат каму з нас прыйшлося вывучаць па падручніках, клопат пра лёс нашай нацыі, пра яе гарманічнае і ўсебаковае развіццё. Нашая актыўная грамадзянская пазіцыя сыходзіць з традыцый беларускіх класікаў – Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага, якія аддалі сваё жыццё на алтар Бацькаўшчыне"*[59].

У адрозненне ад адказу на маладосцеўскую анкету, А. Бяляцкі не толькі распавядае пра мэты і задачы Таварыства, але і называе некаторыя дасягненні "Тутэйшых" за два гады дзейнасці. У чарговы раз падкрэсліваецца, што сяброў Таварыства аб'яднала грамадская пазіцыя, а не эстэтычныя погляды. Цікава, што ў пачатку 1989 г., калі арганізацыйная дзейнасць Таварыства ўжо амаль прыпынілася, кіраўнік Таварыства яшчэ поўны аптымізму і лічыць неабходным выданне літаратурна-публіцыстычнага часопіса "Тутэйшых".

Адказваючы на пытанне "Ці скажуць 'Тутэйшыя' сваё, адметнае слова ў беларускай літаратуры?", Сяргей Дубавец адзначае: *"На маю думку, гэта наша грамадзянская патрэба: праз асваенне невядомых сучаснаму беларускаму прыгожаму пісьменству кшталтаў (інтэлектуальная і папулярная літаратура), жанраў (дэтэктыў, філасофскі і палітычны раманы, фантастыка, падарожжы і іншае) і тэм (наша гісторыя, урбанізаваны беларус, наша будучыня) адваяваць гэтаму пісьменству належнае месца ў жыцці ўласнага народа. "Цывілізаваць" літаратуру. Ствараць кнігі не для блізіру, а для пэўнага чытача з ягонымі пэўнымі запатрабаваннямі. Словам, засвоіць па-беларуску тое, што ў свеце ўжо засвоена"*[60].

Па просьбе вядучага інтэрв'ю Вітаўт Мартыненка распавёў пра ўдзел "Тутэйшых" і іншых нефармальных суполак у грамадска-палітычным жыцці краіны, я расказаў пра сувязь Таварыства са школьнікамі і дзіцячай аўдыторыяй, а потым адказаў на пытанне "Што вам самім не падабаецца ў вашай дзейнасці і творчасці?" (у маладосцеўскай анкеце на аналагічнае пытанне адказваў С. Дубавец). Напэўна, незадаволенасці ўласнай дзейнасцю назбіралася шмат, бо адказ атрымаўся даволі доўгім: *"За актыўнай грамадскай дзейнасцю, якой вымагае ад нас і іншых беларускіх суполак бурлівы час, мы забываемся пакрысе на творчыя і арганізацыйныя справы. Калі напачатку збіраліся два разы на месяц і абмяркоўвалі чыесьці вершы, апавяданні, то цяпер збіраемся адзін раз на месяц і нічога не абмяркоўваем. Мелі намер скласці літаратурную карту Беларусі, дзе былі б звесткі пра ўсіх маладых аўтараў рэспублікі, – не склалі. Спачатку прымалі ў таварыства кожнага персанальна, разглядалі творы, публікацыі, патрабавалі і давалі рэкамендацыі – цяпер для ўступлення патрэбна хіба што ўласнае жаданне прэтэндэнта. <...> Думаю, што памылковым з'яўляецца і палажэнне нашага Статута, згодна з якім кожны, прыняты ў СП БССР, аўтаматычна выбывае з таварыства. Выходзяць з "Тутэйшых" даволі сталыя літаратары з арыгінальнай творчай манерай, а на іх месца прыходзяць пачаткоўцы. Магчыма, калі б кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў у свой час не адмовіла нам у статусе рэспубліканскай маладзёжнай секцыі на правах іншых творчых секцый СП, – многія праблемы былі б вырашаны. Тутэйшаўцы лічаць неабходным стварыць на Беларусі літаратурны інстытут ці хаця б творчае аддзяленне ў Белдзяржуніверсітэце, падобнае таму, што існавала ў 1931-1941 гадах на літаратурным факультэце пединстытута"*[61].

Трэба адзначыць, што за два гады існавання Таварыства ў Беларусі адбылося шмат важных падзей. Узніклі грамадска-палітычныя арганізацыі "Мартыралог Беларусі" і Беларускі народны фронт "Адраджэнне", у якіх актыўную ролю адыгрываў і Старшыня "Тутэйшых" Алесь Бяляцкі. Па ініцыятыве "Тутэйшых"

30 кастрычніка 1988 года быў праведзены першы масавы мітынг у краіне – "Дзяды" – найбольш гучная грамадская акцыя суполкі[62].

Палітызацыя жыцця краіны адлюстравалася і ў бярозкаўскай анкеце "Тутэйшых", адрасаванай школьнай аўдыторыі. Так, С. Дубавец без эўфімізмаў абвінавачвае рускую мову ў паглынанні беларускай[63], В. Мартыненка выступае за аднаўленне беларускай нацыянальнай сімволікі[64], а А. Бяляцкі выказваецца за вырашэнне праблемаў: *"Цяпер усё болей прыходзіць разуменне, што справа прэстыжу нашае мовы і літаратуры – гэта справа не толькі культурная, але і* ***палітычная*** *[вылучэнне маё. – С.К.]. Толькі курс усёй рэспублікі на беларусізацыю, на ўвядзенне беларускае мовы ў інстытуты, у справаводства, наданне ёй статуса дзяржаўнай мовы зменіць стан рэчаў"*[65].

Падобных радыкальных выказванняў мы не знойдзем ні ў "Маніхвэсце Тутэйшых" 1987-га года, ні ў маладосцеўскай анкеце 1988-га года.

Бярозкаўская анкета 1989-га года стала апошнім калектыўным выступленнем Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя" ў афіцыйным друку. Яшчэ напрыканцы 1988 года тутэйшаўцы Алег Мінкін, Адам Глобус, Анатоль Сыс былі прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі і, адпаведна са Статутам Таварыства, выбылі з яго шэрагаў. Сыход Бяляцкага ў палітыку і ўступленне ў Саюз пісьменнікаў Сыса ды Глобуса фактычна паклалі канец дзейнасці "Тутэйшых" як арганізацыі. Рэгулярныя сходы ў Доме літаратара больш не праводзіліся, рэдкія сустрэчы адбываліся ў інтэрнацкім пакоі Бяляцкага, а потым і ўвогуле прыпыніліся. А. Бяляцкі паспеў яшчэ выпусціць два самвыдаўскія нумары Бюлетэня Таварыства маладых літаратараў "Кантроль" (канец 1988 – пачатак 1989 г.), С. Дубавец падрыхтаваў да друку альманах "Тутэйшыя" (альманах пабачыў свет у дзяржаўным выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1989 г.) і распачаў выпуск самвыдаўскага альманаха "Літаратура" (выйшла два нумары ў 1989-1990 гг.).

Арганізацыйная дзейнасць "Тутэйшых" спынілася ў 1989 годзе, але неўзабаве выйшлі ў свет кнігі ўдзельнікаў суполкі: Анатоля Сыса, Адама Глобуса, Алеся Аркуша, Андрэя Федарэнкі, Алеся Наварыча, Уладзіміра Сцяпана, Максіма Клімковіча, Міраслава Шайбака, Людкі Сільновай, Славаміра Адамовіча, Пятра Васючэнкі, Сяргея Дубаўца, Ігара Бабкова і інш.

Выказаныя ў "Маніхвэсце Тутэйшых" і на старонках афіцыйнага беларускага друку літаратурна-грамадскія ідэі тутэйшаўцаў атрымалі яскравае ўвасабленне ў іх мастацкай практыцы.

---

[1] Навуковыя публікацыі і ўспаміны пра "Тутэйшых" падрабязна разгледжаны мной у артыкуле: Кавалёў С. "Прэпараванне міфа: Таварыства "Тутэйшыя" ў люстэрку крытыкі". Дзеяслоў. – 2013. –№2(63). – с. 307–320.

[2] Даўно наспеў час выдаць зборнік дакументальных матэрыялаў пра дзейнасць суполкі "Тутэйшыя", куды ўвайшлі б архіўныя матэрыялы, інтэрв'ю сяброў таварыства, водгукі ў друку. Сваё пачэснае месца сярод гэтых дакументаў заняў бы і легендарны "Маніхвэст Тутэйшых", які найбольш яскрава выявіў літаратурна-грамадскую праграму суполкі.

[3] Аркуш А. Вяртаньне ў "Тутэйшыя". "Калоссе". – 9 (2001). – с. 115–29.

[4] "Ад 'Тутэйшых' да тутэйшых...". "Літаратура і мастацтва". – 24 красавіка 1998. – с. 6-7.

[5] Тут і далей "Маніхвэст Тутэйшых" цытуецца паводле машынапіснага экзэмпляру з майго асабістага архіва, у дужках пазначаецца старонка. На гэтым экзэмпляры захаваліся праўкі, зробленыя рукою Анатоля Сыса.

[6] У экзэмпляры з майго архіва фрагмент, пазначаны курсівам, выкраслены.

[7] У экзэмпляры з майго архіва папраўлена на: "Ажыўленне слова".

[8] Сімптаматычна, што ў манаграфіях А. Бязлепкінай і Г. Кісліцынай найменш увагі прысвечана гэтай частцы "Маніхвэсту..."

[9] У экзэмпляры з майго архіва папраўлена: "Купала, Караткевіч, Разанаў, Сыс".

[10] Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя". Гісторыя. Асобы. Жанры. Мінск, 2003. – с. 17.

[11] Кісліцына Г. Культурны градыент. Ідэі, маніфесты, кірункі беларускай літаратуры на мяжы XX-XXI стагоддзяў. Мінск, 2015. – с. 83.
[12] Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства “Тутэйшыя”. с. 22.
[13] Сыс А. Агмень. Мінск. – 1988. – с. 5.
[14] Мінкін А. Сурма. Мінск. – 1985. – с. 38.
[15] Мінкін А. Расколіна. Вершы і паэма. Мінск. – 1991. – с. 14.
[16] У экзэмпляры з майго архіва папраўлена на: “Сытыя і задаволеныя”.
[17] У экзэмпляры з майго архіва папраўлена на: “назовы”.
[18] У экзэмпляры з майго архіва папраўлена: “як ненавідзелі Прарока”.
[19] Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства “Тутэйшыя”. с. 17-18.
[20] Літаратурныя памкненьні Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР. Машынапіс. – 1987.– с. 1-3. Асабісты архіў Сяргея Кавалёва.
[21] Тамсама. – с. 3.
[22] Тамсама. – с. 3.
[23] Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства “Тутэйшыя”. – с. 18.
[24] Кісліцына Г. Культурны градыент. – с. 82.
[25] Усё наперадзе: Анкета “Маладосці”. “Маладосць”. – 1988. – №4. – с. 146.
[26] Цікава, што акрамя бібліятэкаркі Людкі Сільновай ніхто з тутэйшаўцаў, якія ўдзельнічалі ў анкеце, не працуе сёння ў дзяржаўных арганізацыях Беларусі; хтосьці знайшоў сябе ў апазіцыйных і прыватных структурах, хтосьці апынуўся за мяжой, а Анатоль Сыс скончыў свой зямны шлях у 2005 г.
[27] Усё наперадзе: Анкета “Маладосці”. – с. 143.
[28] Тамсама. – с. 144.
[29] Тамсама. – с. 145.
[30] Тамсама. – с. 154.
[31] Тамсама. – с. 155.
[32] Тамсама. – с. 155.
[33] Тамсама. – с. 153.
[34] Тамсама. – с. 151.
[35] Тамсама. – с. 147.
[36] Тамсама. – с. 148–149.
[37] Тамсама. – с. 152.
[38] Тамсама. – с. 152.
[39] Тамсама. – с.146–147.
[40] Тамсама. – с. 145.
[41] Тамсама. – с.150.
[42] Тамсама. – с. 152.
[43] Тамсама. – с. 145.
[44] Тамсама. – с. 154.
[45] Тамсама. – с. 143.
[46] Тамсама. – с.144.
[47] Тамсама. – с. 154.
[48] “Неформалы” – кто вы? “Нёман”. – 1988. – №6. – с. 168.
[49] Тамсама. – с.159.
[50] На жаль, траіх з лідэраў беларускага нефармальнага руху ўжо няма на гэтым свеце: Сяргея Вітушкі, Віктара Мартыненкі, Віктара Івашкевіча.
[51] “Неформалы” – кто вы? – с. 162.
[52] Тамсама. – с. 164.
[53] Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства “Тутэйшыя”. – с. 16.
[54] “Неформалы” – кто вы? – с. 162.
[55] Тамсама. – с. 162.
[56] Тамсама. – с. 166.
[57] Хто вы, “Тутэйшыя”? “Бярозка”. – 1989. – №3. – с. 2-3, 22-23.
[58] Тамсама. – с. 2.
[59] Тамсама. – с. 2.
[60] Тамсама. – с. 3, 22.
[61] Тамсама. – с. 23.
[62] Падрабязней гл.: Бяляцкі А. “Дзяды” // Бяляцкі А. Халоднае крыло Радзімы. Вільня, 2014. – с. 95-132.
[63] “Хто вы, “Тутэйшыя”? – с. 23.
[64] Тамсама. – с. 22.
[65] Тамсама. – с. 2-3.

Алесь Бельскі



…не любіла шматслоўнай пісаніны, балбатні, няшчырага красамоўства і разбэрсанасці…

# «Гэты ранак мяне паклікаў…»

***Слова пра Любоў Тарасюк***

Любоў Канстанцінаўна Тарасюк, на той час малады кандыдат навук, была куратаркай нашай першай групы і чытала лекцыі па фальклоры нам, студэнтам-першакурснікам філфака БДУ, дзе я пачаў вучыцца з верасня 1981 года. Мне і маім аднакурснікам не пашчасціла пачуць спевы Ніла Гілевіча ў студэнцкай аўдыторыі, ён ужо больш не выкладаў асноўны курс беларускай вусна-паэтычнай творчасці, а толькі вёў семінары па беларускім фальклоры, у якім, дарэчы, я пазаймаўся літаральна некалькі месяцаў, а потым і ад семінара праз загружанасць у Саюзе пісьменнікаў Ніл Сымонавіч адмовіўся. Прафесар, любімы выкладчык, перадаў сваёй студэнтцы Любові Тарасюк чытанне лекцый па вуснай народнай творчасці. Дарэчы, у 1980 годзе яна паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Фальклорныя традыцыі ў сучаснай беларускай паэзіі». Лекцыі Любоў Канстанцінаўна чытала, як правіла, у 23-й аўдыторыі, якая была ці не самай вялікай у будынку нашага факультэта па Чырвонаармейскай, 6. Голас яе гучаў аднатонна-ціха, аднак раптам набываў задуменнасць, разважлівасць. А калі для гаворкі меўся адпаведны матэрыял, то характар зносінаў з

аўдыторыяй рабіўся жартаўлівы, і яе сур'ёзнасць змянялася радаснай усмешкай. Вось яна прагаворвае словы праклёну, як бы імітуючы голас разгневанай вясковай кабеты, якая, сварачыся, не шкадуе солі з перцам: «Ах, каб цябе ў чыстым полі ды дзверы прыдушылі!» – і чуецца «хі-хі-хі».

На куратарскую гадзіну Любоў Канстанцінаўна прыйшла з паэтычнымі зборнікамі «Узлёт», «Натхненне», «Універсітэт паэтычны», «Вёсны», якія склалі творы ўдзельнікаў літаб'яднання Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта «Узлёт». Апошнія дзве з гэтых кніг я меў: «Вёсны» набыў у цімкавіцкай кнігарні, а анталогію «Універсітэт паэтычны» падараваў брат Анатоль перад маім паступленнем у БДУ, і менавіта ў ёй я прачытаў верш «Прыходжу, быццам бы ў казку...» Любы Тарасюк (такую форму імя выкарыстоўвала паэтка, падпісваючы свае вершаваныя творы). Нашая куратарка распавяла пра гісторыю ўніверсітэцкага літаратурнага аб'яднання, якое дзейнічала на філфаку – дарэчы, яго пасяджэнні я ўжо наведваў з некаторымі аднакурснікамі. Любоў Канстанцінаўна гаварыла пра паэтаў і найперш пра прадстаўнікоў тагачаснага новага пакалення, каб іх імёны мы ведалі, каб яны былі ў нас на слыху, каб цікавіліся тым, што яны пішуць і друкуюць на старонках часопіса «Маладосць». Маўляў, маладыя павінны чытаць маладых пісьменнікаў.

На трэцім курсе пасля чарговай куратарскай гадзіны, прысвечанай летняй сесіі, Любоў Канстанцінаўна папрасіла мяне затрымацца на колькі хвілінаў. Яна сказала, што сочыць за маімі публікацыямі. «За лета падрыхтуйце нізку вершаў – і я прапаную іх у часопіс "Маладосць". Я ж у рэдкалегіі, буду рэкамендаваць вашы творы. Трэба выходзіць на больш салідны ўзровень», – сказала Любоў Канстанцінаўна. Мне здавалася, што неяк нядобра карыстацца пратэкцыяй. «А што скажуць на гэта, калі даведаюцца, аднакурснікі?» – думалася мне, і пачуццё няёмкасці, сарамлівасці перашкаджала ўзяцца за справу, таму на просьбу тую я не адгукнуўся.

І ўсё ж праз некаторы час падборка маіх вершаў рыхтавалася да друку ў часопісе «Маладосць». А было яно так.

У чэрвені 1985 года Цімкавічы наведала паэтка Яўгенія Янішчыц з нагоды 85-гадовага юбілею Кузьмы Чорнага. На свяце прагучаў мой верш «Роздум над дзённікавым запісам», які напярэдадні быў змешчаны ў раённай газеце «Слава працы». Прадэкламавала твор дырэктар школы Зінаіда Іосіфаўна Раманенка. Яўгенія Янішчыц зацікавілася аўтарам, папытала, чаму мяне няма на ўрачыстасці, сказала, каб гэты і іншыя вершы прынёс у рэдакцыю часопіса «Маладосць», дзе яна загадвала аддзелам паэзіі. Тады я праходзіў вайсковыя зборы ў Слоніме і там таксама сёе-тое рыфмаваў...

Увосень Любоў Тарасюк перастрэла мяне пасля лекцыі і паведаміла, што пра маю асобу пыталася Яўгенія Іосіфаўна Янішчыц. Любоў Канстанцінаўна прапанавала падабраць з дзясятак вершаў для «Маладосці», сказала, што нават сама аднясе іх у рэдакцыю. Ужо калі вучыўся ў аспірантуры пры кафедры беларускай літаратуры, Любоў Канстанцінаўна зноў сказала, каб падрыхтаваў творы для «Маладосці». На гэты раз просьбу я выканаў, вершы адаслаў па пошце. Але хуткага адказу не атрымаў. Праз паўгода Любоў Канстанцінаўна Тарасюк сказала, што бачыла Яўгенію Янішчыц, і тая папрасіла, каб я тэрмінова патэлефанаваў або зайшоў у рэдакцыю. Яна адабрала некалькі твораў для друку, але гэтага мала. Яўгенія Іосіфаўна хацела, каб я прынёс штосьці новае. І я даслаў яшчэ пяць ці шэсць вершаў на адрас рэдакцыі, пачаў чакаць публікацыю. І тут агаломшыла трагічная вестка: памерла-загінула Яўгенія Янішчыц... Вершаваная нізка ў друку не з'явілася, папка з творамі пайшла ў архіў. Наважыўся і праз год прынёс у «Маладосць» апавяданне, на старонках першага нумара гэтага часопіса за 1990 г. адбыўся мой дэбют як празаіка. Поспех акрыліў, і я пераключыўся на прозу. «Чаму гэткі псеўданім "Ветах"? Вы ж не стары, а зусім маладзенькі, як маладзічок на небе», – з недаўменнем запытала Любоў Канстанцінаўна, і я ёй патлумачыў матывацыю абранага псеўданіма. «А вершы тым часам не закідвайце», – параіла яна.

Люба Тарасюк уплывала на мяне сваёй творчасцю – і таму я браўся за пяро і штосьці рыфмаваў. Мне вельмі прыйшоўся да сэрца верш «Маме» ў яе першым і адзіным зборніку «Смага ракі» (1983):

...Я, любові тваёй галінка,
Тонка стукаюся ў акно.

Ты пачуеш або прысніцца –
І падхопішся: хто там? як?
І ўспуджанаю сініцай
Затрапеча душа твая.

Выйдзеш, мама,
у настылы ранак,
За начнога цяпла парог, –
Белалобым, густым туманам
Прыпаду я табе да ног.

Мне захацелася гэтак жа душэўна, прачула выказаць свае пачуцці да матулі, і я напісаў верш «Маці для сына – зіхоткая зорка...». Пасля таго, як прачытаў паэтычны твор Любы Тарасюк «Іншасвет Напалеона Орды», яшчэ больш зацікавіўся асобай мастака-вандроўніка. Урэшце напісаўся верш «Напалеон Орда ў Савічах»: «Пакінуў сведчанне мастак вандроўны, // Яго выява – нам нямы дакор. // У сэрцы смутак даўкі, неспакойны // І водгук “Паланэза” соль мінор». Калі я ўкладаў зборнік сучаснай беларускай паэзіі «Галасы вёснаў», які выйшаў у серыі «Школьная бібліятэка» ў 1997 г., мне было вельмі лёгка падабраць нізку паэтычных твораў Любы Тарасюк, паколькі добра ведаў яе творчасць. Зрэшты, у гэтую школьную анталогію можна было ўлучаць ці не кожны яе верш са зборніка «Смагі ракі». Яна імкнулася да мастацкай дасканаласці сваіх тэкстаў, пісала няшмат, але таленавіта, па-майстэрску працавала са словам. З іншымі паэтамі было не так проста: каб выбраць штосьці хрэстаматыйнае, даводзілася па некалькі разоў перачытваць зборнік за зборнікам...

У студзені 1991 г. у Інстытуце літаратуры АН БССР адбылася абарона маёй кандыдацкай дысертацыі па сучаснай беларускай паэзіі. З нашай кафедры беларускай літаратуры мяне прыйшлі падтрымаць Таццяна Шамякіна, Любоў Тарасюк і аспіранты. Пасля вынікаў галасавання і абароны Любоў Канстанцінаўна шчыра, цёпла прывітала, а затым падаравала кнігу вершаў і паэм Ларысы Геніюш «Белы сон», зборнікі паэзіі Ганны Ахматавай, Валерыя Брусава, Барыса Пастарнака, Роберта Раждзественскага, выдадзеныя ў серыі «XX век: поэт и время». «Хай у жыцці з вамі заўсёды будзе паэзія!» – віншуючы, сказала яна.

Любоў Тарасюк праз усё сваё жыццё ішла-крочыла з паэзіяй у сэрцы. Яна была прыкладам у адчуванні, разуменні, асэнсаванні паэтычнай творчасці. Памятаю, якое вялікае ўражанне на мяне зрабіў выдатны артыкул Л. Тарасюк пра паэзію Ларысы Геніюш «Маці Беларуская», змешчаны ў сакавіку 1991 г. на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Што ні артыкул – адкрыццё асобы пісьменніка або арыгінальнае прачытанне класічнай спадчыны, нейкага малавядомага ці забытага твора, пра што засведчылі яе публікацыі «Пра акіян забыцця: паэзія Наталлі Арсенневай», «Боскае і зямное: паэзія Андрэя Зязюлі і Казіміра Сваяка», «Укрыжаваная Беларусь: паэма Я. Купалы “На Дзяды”», «Ад “тутэйшасці” да Беларусі» і інш.

Любоў Канстанцінаўна пісала няхутка, нават марудна, але ўдумліва і глыбока. Заўсёды ясна выкладала думку, дысцыплінавала яе. Не любіла шматслоўнай пісаніны, балбатні, няшчырага красамоўства і разбэрсанасці, калі хтосьці не здатны выказаць галоўнае, сутнаснае. Як прызналася неяк сама Любоў Канстанцінаўна, быць лаканічнай і дакладнай у фармулёўках яе прывучыла праца над тэкстамі энцыклапедычных артыкулаў. Эмоцыі эмоцыямі, а навуковы стыль вымагае скандэнсаванасці думкі, ашчаднага адбору лексічных сродкаў. Дарэчы, для энцыклапедыі «Янка Купала» (1986) Л. Тарасюк падрыхтавала больш за 80 артыкулаў.

Напэўна, з гэтае прычыны і задоўжылася яе праца над тэмай доктарскай дысертацыі. Л. Тарасюк даследавала мастацкія кірункі ў беларускай паэзіі XIX – пачатку XX ст. Яе публікацыі засведчылі пра арыгінальныя аўтарскія ідэі і падыходы,

выводзілі тагачаснае беларускае постсавецкае літаратуразнаўства на якасна новы ўзровень канцэптуальнасці. У літаратурным і навуковым друку з'явіліся артыкулы пра сімвалізм М. Багдановіча, беларускі паэтычны імпрэсіянізм, сінтэтычнасць мастацкай сістэмы Ф. Багушэвіча і інш. У 1999 г. выйшла наватарская праца Л. Тарасюк «Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай паэзіі XIX – пачатку XX ст.». Гэтае выданне, якое змяшчала арыгінальны навукова-рэпрэзентатыўны матэрыял, было адрасавана студэнтам філалагічных факультэтаў як вучэбны дапаможнік. Уласна, ён уяўляў сабой квінтэсенцыю будучай доктарскай дысертацыі. Але здарылася так, што іншыя даследчыкі, калегі Любові Канстанцінаўны, таксама распрацоўвалі падобныя, амаль аналагічныя навуковыя тэмы. Хоць яна лічыла, што прыярытэт тут за ёю. У 2002 г. В. Максімовіч абараніў доктарскую дысертацыю «Тэндэнцыі мадэрнізму ў эстэтычнай ідэнтыфікацыі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя». Пасля зацвярджэння тэмы доктарскай яшчэ адной калегі-прэтэндэнткі сустрэў Любоў Канстанцінаўну на станцыі метро «Плошча Леніна». Яна, здавалася, была ў нейкай прастрацыі, выглядала вельмі разгубленай і бездапаможнай. Высветлілася, яна паехала не ў той бок, таму выйшла з вагона і сядзела на лаўцы, спрабуючы прыйсці ў сябе. Надзвычай усхваляваная, Любоў Канстанцінаўна сказала, што здарылася: ёй у піку зацвердзілі тэму, якая пераклікаецца з тэмай яе доктарскай дысертацыі. Божа! Як ёй было крыўдна, горка, балюча! Роспач і адчай ахапілі гэтую хударлявую, у вялікіх акулярах жанчыну – маю былую выкладчыцу і калегу па філфаку, якая сустрэлася ў навуковым асяродку, як ёй здавалася, з несправядлівасцю, несумленнай канкурэнцыяй. Напэўна, у той дзень яе пазбавілі ці не самай галоўнай мары-надзеі, якой яна жыла ўсе апошнія гады. Зразумела, як мог, супакойваў Любоў Канстанцінаўну, гаварыў, што ёй трэба хутчэй рыхтаваць тэкст дысертацыі да абароны. Маўляў, за нейкага паўгода яна паспее, бо ў яе сур'ёзныя, значныя напрацоўкі па тэме, трэба толькі аформіць тэкст у выглядзе дысертацыі. Казаў, раіў гэта найперш як вучоны сакратар савета па абароне доктарскіх дысертацый. «Не ведаю, не ведаю...» – чулася ў адказ.

Назаўтра я меў гутарку з Міколам Хаўстовічам на кафедры гісторыі беларускай літаратуры, дзе працавала Любоў Канстанцінаўна, і папрасіў, каб той як загадчык паспрыяў ёй, дапамог тэхнічна забяспечыць падрыхтоўку тэксту дысертацыі. Тады яна карысталася друкаркай, а патрэбна было зрабіць кампутарны набор тэксту. Праз некаторы час праца распачалася, Мікола сам далучыўся да падрыхтоўкі тэксту. У выніку атрымалася кніга пра беларускую паэзію «Апалогія красы», якая выйшла ў 2003 г. да 50-годдзя Л.К. Тарасюк. З нашай суседняй кафедры беларускай літаратуры XX ст. (да аб'яднання гэта была агульная кафедра беларускай літаратуры) яна на святкаванне свайго юбілею запрасіла Віктара Каратая і мяне. Магчыма, быў хтосьці яшчэ, аднак не прыгадаю. Пасля ўшанавання Любові Канстанцінаўны ў аўдыторыі імя Міхася Ларчанкі ўжо на сваёй кафедры яна падаравала мне «Апалогію красы» з надпісам: «Шаноўнаму Алесю Іванавічу Бельскаму з удзячнасцю за вернасць і спагадлівасць, за любоў да паэзіі і зычэннем дабра і радасці. Л. Тарасюк. 9 снежня 2003». Гэты яе аўтограф асабліва дарагі і каштоўны для мяне.

Чаму ўскладнялася становішча Любові Канстанцінаўны, чаму яна мела непрыемнасці? Усё тлумачыцца яе сумленнай пазіцыяй, ды, напэўна, і характарам. Экзаменатар на філфаку яна была патрабавальны і строгі. А ведаў у студэнтаў, якія паступілі па блаце, часам бракавала, яны не выяўлялі ні асаблівай стараннасці, ні адказнасці, таму здаць экзамен дацэнту Тарасюк на станоўчую адзнаку не маглі. Пасля таго, як непадрыхтаваны, да таго ж з нізкімі здольнасцямі студэнт завальваўся на іспыце раз-другі, узнікала праблемная сітуацыя, для вырашэння якой падключаліся так званыя апекуны. Надараліся тэлефанаванні на факультэт аднекуль зверху, таму трэба было рэагаваць хутка, неадкладна. Аднак Любоў Канстанцінаўна ўпарцілася, была прынцыповай і незгаворлівай. А начальству гэта не падабалася, такія яе паводзіны выклікалі незадаволенасць, абурэнне, расцэньваліся як непадпарадкаванне. Ліквідаваць двоечніку «хвост»-запазычанасць такім чынам

ўсё роўна не атрымлівалася. Калі не дзейнічалі ўгаворы і загады, тады пачынаўся ўціск на выкладчыцу, яе абвінавачвалі «ў нелюбові да студэнта». Урэшце, стваралася камісія з лаяльных людзей, а ў яе дацэнт Л. Тарасюк не патрапляла, і на іспыце забяспечваўся патрэбны вынік. На свае вочы я пабачыў заяву студэнткі, дзе яна выдала перл наконт выкладчыцы Любові Канстанцінаўны Тарасюк: «Пры адным яе выглядзе я губляю прытомнасць. Прашу прызначыць камісію для пераздачы экзамену». Дацэнт Л. Тарасюк стаічна трымалася, не ішла на кампрамісы з сумленнем, хоць, напэўна, ведала: наступствы для яе будуць сур'ёзныя. Выкруціць прымусам рукі, загадаць ёй дзейнічаць супраць уласнай волі начальства не магло, таму Любові Тарасюк помсцілі: рабіліся «латэнтныя ўколы» з мэтай стварэння адмоўнага іміджу, гучалі адкрытыя павучанні, насуперак яе нязгодзе і пярэчанням зацвярджаліся сінанімічныя, як блізняты, навуковыя тэмы дысертацый і да т.п. Ці любіла яна сваю выкладчыцкую працу? Яна ж была найперш не педагог, а паэтка, навуковец, творчы чалавек. Неяк яна прызналася, што ёй у пакуту хадзіць на службу.

Любоў Канстанцінаўна цяжка захварэла, і розныя мітрэнгі негатыўна адбіваліся на яе здароўі і самаадчуванні. У 2005 г. яна была вымушана пакінуць працу ў БДУ. З Мінска вярнулася на роднае Палессе, у свае Пінкавічы, дзе ў бацькоўскай хаце прайшлі апошнія дні яе жыцця. З ёй мы часта чуліся па тэлефоне. Асобныя тыя гутаркі былі вельмі шчырыя, можна сказаць, спавядальныя. Яна пракручвала ў памяці былое, згадвала пэўныя падзеі і эпізоды з пражытага, пераасэнсоўвала свой лёс. Зрэшты, гаварыла і пра тыя непаразуменні са слабаматываванымі, нядбайнымі студэнтамі, сумнявалася, ці трэба было дамагацца ад іх ведаў і належнай падрыхтоўкі. «Усё роўна вышэй галавы скочыць яны не маглі. Толькі супраць сябе іх настройвала, а тыя сердавалі, гневаліся, а, пэўна, і скялялі. Дык мо праз неразважлівых гора-студэнтак мне і пакаранне такое выпала. Вось і пакутую цяпер...». Дарэчы сказаць, што ніколі ў моцных, здольных і добра падрыхтаваных студэнтаў не было ніякіх праблем са здачай іспыту Л.К. Тарасюк. Я імкнуўся падтрымаць маю былую выкладчыцу ў складаны момант на жыццёвым зломе, падводзіў да таго, што не варта так моцна спапяляць сябе ў душэўных мітрэнгах, спрабаваў адагнаць нядобрыя думкі. Яна адгукнулася на маю прапанову падрыхтаваць публікацыю для настаўнікаў у часопісе «Беларуская мова і літаратура». Маўляў, давайце будзем выводзіць выкладанне нашай нацыянальнай літаратуры на якасна іншы прэзентацыйны ўзровень – гісторыка-эстэтычны. Я адсылаў ёй карэктуры, здымаў асобныя пытанні па тэлефоне. Любоў Канстанцінаўна, ужо аслаблая і зморaная хваробай, адгукалася без асаблівага імпэту. «Усё гэта цяпер лішняе. Я давяраю вам, Алесь...» – казала яна. Аўтарка паспела патрымаць у руках нумар часопіса са сваёй апошняй публікацыяй «Мастацкія кірункі ў літаратуры Беларусі ХІХ стагоддзя» (2006, №5; пачатак у №4). Не стала Любові Тарасюк 16 чэрвеня 2006 г. на 53-м годзе жыцця.

У яе быў першы світальны золак у родных Пінкавічах. Настаў і апошні ранак, які паклікаў на вечны спачын у лона бацькоўскай зямлі. Кожны новы снежань пачынаецца без таленавітай паэткі і самаадданай руплівіцы на ніве беларушчыны. Серабрыстая шэрань зіхаціць на палескіх вішнях і яблынях, замятае снегам сцежкі маленства, акно хаты, з якога яна калісьці ўбачыла белы і чысты свет.

*2017-2018*

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўнага **Алеся Іванавіча БЕЛЬСКАГА** з юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя, душэўнае трываласці,
а таксама – новых твораў ды артыкулаў!

Юлія Бібіла



...Беларусь заставалася ўсе гады ў маім сэрцы,
і я здалёк сачыла за трывожнымі падзеямі...

# “...Прысвяціць сябе справе блізкай, харошай!”

***Успаміны***

*Сшытак 15*

*Заканчэнне. Пачатак у №6 (91) за 2017 год, №1-3 (92-94) за 2018 год.*

*Падрыхтоўка да друку і каментары Тацяны КЕКЕЛЕВАЙ і Арсеня ЛІСА.*

*Аўтарскі правапіс захаваны.*

## Дзяржаўная бібліятэка. 1920-30-я гг. Беларускі аддзел

Калі мне здараецца ехаць па Ленінскім праспекце, заўсёды цягне глянуць на будынак Дома мастацтваў, што стаіць на ўзгорку побач з Домам афіцэраў. Тут увосень 1921 года разгарнула работу Універсітэцкая (з 1922 года Універсітэцкая і Дзяржаўная) бібліятэка.

Бібліятэку ўзначаліў І.Б. Сіманоўскі, якога запрасілі ўлетку 1921 года заняцца арганізацыяй бібліятэкі для Універсітэта, які павінен быў адчыніцца з восені. Гэта быў чалавек з шырокім даляглядам і захапляючымі перспектывамі. Уладкаваўшыся ў Мінску, ён часам наведваў Бабруйск, дзе раней загадваў гарадской бібліятэкай. У той час я працавала ў школе і марыла пра ўніверсітэт. Ведала я І.Б. Сіманоўскага здаўна як улюбёнага

ў сваю справу кніжніка, гатовага падзяліцца сваімі (здавалася для таго часу) неверагоднымі праектамі і задумамі. Спаткаўшыся са мною, пачаў мяне запрашаць на працу ў Мінск у бібліятэку. Ён успомніў спробу арганізаваць у Бабруйскай бібліятэцы краязнаўчы аддзел, як я, захапіўшыся гэтай ідэяй, узялася дапамагаць і нават ездзіла ў Мінск шукаць літаратуры, а вярнулася з пачкамі каштоўных выданняў з уласных збораў... Янкі Купалы. (Гэта было ўвосень 1920 года пасля вызвалення Мінска ад белапольскай акупацыі). І.Б. Сіманоўскі запэўніў, што краязнаўчы аддзел у новай вялікай бібліятэцы будзе шырока разгорнуты, а ён пастараецца зрабіць усё магчымае, каб даць прастор маім краязнаўчым захапленням. Ну як было не захапіцца думкай стварыць нешта вартае на парожнім месцы. Мне прапанавалі працу ў школе, у Наркамасветы – каб вучыцца, трэба было недзе працаваць, бо стыпендыі не давалі. Мяне спакусілі бліскучыя перспектывы краязнаўчай працы ў бібліятэцы, і я вырашыла прыняць яго прапанову.

З верасня 1921 года я ўжо сядзела сярод бібліятэчных паліц на рагу сучасных вуліц Кірава (тады Магазінная, а потым Універсітэцкая) і Чырвонаармейскай. Гэта быў будынак сярэдняй школы, потым тут размясціўся рабфак, цяпер – філфак Універсітэта. Факультэт грамадскіх навук Універсітэта, куды я залічылася на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне, знаходзіўся па вуліцы Кірава (Універсітэцкай), прыблізна на рагу вуліцы Ленінскай у будынку ранейшай школы. Насупраць – незабудаваны пляц – старыя яўрэйскія могілкі. Разгортваць работу Універсітэцкай бібліятэкі ў памяшканні на Чырвонаармейскай вуліцы было немэтазгодна. Шырокія задумы патрабавалі належных прастораў. Скора ўдалося здабыць так званы “Юбілейны” дом на Захараўскай вуліцы (цяпер праспект Леніна) на ўзгорку побач з будынкам, дзе размясціўся Наркамасветы, – былая рэзідэнцыя архірэя. “Юбілейны” будынак таксама належаў духавенству і быў пабудаваны ў 1913 годзе ў гонар 300-годдзя царскай дынастыі Раманавых. Тут адбываліся нарады духавенства і змяшчаўся Царкоўна-археалагічны музей.

Страшнавата было, на зіму гледзячы, перабірацца ў неабжыты, без ацяплення, будынак. Цяпер, пасля рамонту, Дом мастацтваў іначай выглядае – трохпавярховым, а ў той час вокны ніжэйшага паверха глядзелі ў зямлю, былі меншыя, узгорак быў значна вышэйшы, і ён напалову закрываў іх. У гэтым сутарэнні змяшчаліся майстэрні (сталярня, пераплётная), неразабраныя гурбы кніг. Вышэй на паверсе (уваход з ганка) налева – вялікая зала вышынёй у два паверхі з галерэяй. Неўзабаве яе перакрылі, і ўнізе размясціўся кнігасхоў, а наверсе – чытальная зала. Цікавае было прыстасаванне для зносін з кнігасховам. На галерэі, дзе сядзелі дзяжурныя, у падлозе быў прарэзаны чатырохкутнік; пры дапамозе збудавання з дроту і яшчэ сяго-таго значна паскаралася выкананне патрабаванняў чытачоў на кнігі, ды і нагам была палёгка – ня трэба было скакаць па сходах. А часам гэта адтуліна замяняла тэлефон.

Супраць уваходу ў чытальную залу – дзверы ў беларускі аддзел. Гэта быў вялікі пакой з шырокімі вокнамі, пузатымі жоўтымі шафамі. Праз увесь пакой цягнуўся доўгі дубовы стол. Пасярэдзіне – печка-“буржуйка”. Выгінастая труба праз верхнюю шыбу акна выводзіла дым. І доўга яшчэ пасля таго, як удалося наладзіць цэнтральнае ацяпленне, на вонкавай сцяне будынка можна было бачыць чорныя сляды сажы. У канцы пакоя былі адгароджаны фанераю два маленькія пакойчыкі; направа – “габінет” дырэктара, застаўлены шафамі, на стале і крэсле навалены ў бязладдзі кнігі. Месца хапала толькі каб павярнуцца. Праўда, дырэктар туды рэдка калі забягаў. Праз акно залы направа можна было аглядаць брукаваную Захараўскую вуліцу, стромкія сходкі на ўзгорак насупраць уваходу ў Бібліятэку. Справа і злева ад уваходу па ўзгорку віліся сцежкі, па якіх таксама можна было трапіць у Бібліятэку. Другія тры акны пазіралі ў садок, відаць было некалькі яблынь і разлапістыя каштаны. Далей, на рагу вуліцы Чырвонаармейскай,

знаходзіўся 3-х павярховы будынак, які праз нейкі час быў заняты Бібліятэкай. Тут размясцілася канцылярыя, Кніжная палата, чытальная зала прыродазнаўчага і тэхнічнага профілю, а таксама кватэра дырэктара. (Будынак і цяпер захаваўся).

Калі ў апошнія гады І.Б. Сіманоўскі збіраўся пісаць гісторыю ўтварэння Бібліятэкі, мы часта ўспаміналі і ўдакладнялі асобныя падзеі. Успаміналі і пераезд у гэты будынак. Па сходах мы падняліся на другі паверх (цяпер гэта трэці). Адчыніўшы дзверы, І.Б. Сіманоўскі мне сказаў, што тут будзе размяшчацца беларускі аддзел і каб я ўзялася гаспадарыць у ім.

Да гэтага ў "сферах" абмяркоўвалася пытанне пра арганізацыю 2-х бібліятэк – універсітэцкай і асобна краязнаўчай беларускай. Перамагла думка І.Б. Сіманоўскага, які лічыў немэтазгодным распыляць сродкі на арганізацыю розных бібліятэк, а трэба адну з добра арганізаваным краязнаўчым аддзелам. У гэтым пакоі і павінна была пачаць існаванне краязнаўчая бібліятэка, і нават на паліцах ужо ляжалі купкамі невялічкія кніжкі. Працавала Марыя Васілеўна Барашкава. Так пачаў існаваць краязнаўчы аддзел да таго часу, калі атрымаў "папяровае" благаславенне ў 1922 годзе.

У зале аддзела змяшчалася таксама чытальня для навуковых працаўнікоў. На сталах былі разложаны новыя атрыманні навуковай літаратуры – савецкай і замежнай. Аддзел працаваў з 10 да 22 гадзін. Працаўнікоў двое: я і М.В. Барашкава, потым яе замяніла С.Ф. Сяргеева, а далей Д. Мількевіч.

Пасля пераходу Бібліятэкі ў новы будынак у 1932 годзе працавалі: М. Васілеўская, Э. Гольдберг і адна працаўніца (прозвішча не памятаю) на падборцы газет. Між іншым у аддзеле рабіліся выразкі з газет на розныя тэмы.

Умовы працы і побыту былі нялёгкія: і халаднавата, і галаднавата і адзенне не вельмі грэе. Часцей яно было самаробнае, па-майстэрску злепленае і зацыраванае. Я фарсіла ў чаравіках, самастойна змайстраваных на вяроўчаных, або са старога абутку падмётках. Вялікай падзеяй было наладжанне цэнтральнага ацяплення. Ад радыятараў павеяла цяплом! Праўда, яно яшчэ не магло як след абагрэць вялікай залы, але, прымасціўшыся каля акна ў пакойчыку налева, можна было пісаць, скінуўшы з правай рукі паліто і трохі абагрэць ногі. Але паступова з кожным годам умовы працы паляпшаліся.

Бібліятэцы часам не шанцавала на кадры. Прыходзілі выпадковая людзі, і мэты ў іх былі асабістыя. Успамінаецца адзін прыкры выпадак. Беларускі аддзел у новым будынку на Чырвонаармейскай вуліцы займаў другі паверх. Побач быў вялікі пакой, дзе размясцілі абавязковы экземпляр Кніжнай палаты, а мне даручана было прасачыць за ўпарадкаваннем яго. Наогул з Кніжнай палатай у нас працягваўся шчыльны кантакт, як і дагэтуль. Для ўпарадкавання далі нам юнака, які і заняўся даручанай справай. Хлопец спакойны, працавіты, зацікаўлены кнігамі. Аднойчы, мне спатрэбілася энцыклапедыя Бракгаўза і Эфрона, што стаяла ў нашай зале. Я не знайшла патрэбнага мне тома і стала пераглядаць усё па парадку. Мне зрабілася горача, бо не хапала некалькіх тамоў. Сталі пільна сачыць за хлопцам. Ён прыходзіў у бібліятэку з невялічкай фанернай скрынкай – у той час не было кантролю. Выклікалі міліцыю і, калі ён выходзіў, затрымалі. Выносіў некалькі кніг. У яго пад ложкам знайшлі не толькі згінуўшыя тамы энцыклапедыі, але і кнігі з архіва Кніжнай палаты. Судзілі.

Камплектаванне аддзела.

Дырэктар загадаў усім працаўнікам бібліятэкі, каб пры разборы фондаў яны выяўлялі мясцовыя выданні і тыя, што мелі адносіны да Беларусі, і накіроўвалі ў беларускі аддзел. У аддзеле пачалі збірацца выданні на беларускай мове – кнігі, часопісы, газеты, лістоўкі, а таксама матэрыялы, што датычылі так званага Паўночна-Заходняга краю з губернямі, якія ўваходзілі ў яго склад, незалежна ад мовы, часу і месца выдання. Збіраліся і мясцовыя друкі – кнігі, часопісы. Іх знаходзілі ў фондах бібліятэк, у новых атрыманнях (з 1922 г. бібліятэка стала

атрымліваць абавязковы экземпляр). Нямала рэдкіх беларускіх выданняў прыносілі розныя прыхільнікі бібліятэкі – іх было шмат. Часам вандроўкі ў гарады Беларусі (Мсціслаў, Клімавічы, Полацк) давалі папаўненне нашым фондам. У гэтых гарадах былі знаёмыя з даўнейшых студэнтаў, і яны нам шчыра дапамагалі. Былі набыты бібліятэкі Я. Карскага, М. Янчука, П. Жуковіча, зборы кніг Я. Купалы, Я. Дылы і інш.

Успамінаецца мне восень 1921 года, калі я разбірала бібліятэку Духоўнай семінарыі. Яна размяшчалася на Траецкай гары, дзе цяпер Сувораўскае вучылішча (вуліца М. Горкага). Будынак займала нейкая вайсковая ўстанова, пры ўваходзе стаяў вартавы. У вялікім памяшканні на падлозе ляжалі звязаныя пачкі кніг, знятыя з паліц, а шафы, відаць, атрымалі іншае прызначэнне. Тут былі каштоўныя камплекты рускай перыёдыкі, нямала кніг па гісторыі, старадрукаў – славянскіх і замежных, былі і краязнаўчыя выданні. Мне трэба было выбраць неабходныя для бібліятэкі матэрыялы, а астатняе пакінуць. У рабоце мне дапамагалі мышы, якія не лічыліся з маёй прысутнасцю, а ўвесь час з піскам шмыгалі з канца ў канец.

У дублетных фондах Масквы і Ленінграда працаваў супрацоўнік бібліятэкі (Пінскі), якому даручана было адбіраць кнігі для нас; асаблівую ўвагу рэкамендавалася ўдзяляць матэрыялам, якія маглі б папоўніць зборы беларускага аддзела. Шмат увагі аддаваў камплектаванню аддзела І.Б. Сіманоўскі. Ён быў трапным паляўнічым на цікавыя і каштоўныя кнігі. Часта пачынаў ён свой неафіцыйны працоўны дзень корпаючыся ў пыльных напластаваннях у падвальных сховах. І вось запылены, але з трыумфам, сігаючы праз некалькі сходкаў, нясе ён у аддзел якую-небудзь знаходку і ззяе ад задавальнення. Пасля яго наведвання Віцебска і знаёмства з А. Сапуновым аддзел атрымаў "Статут Вялікага княства Літоўскага" 1588 года, "Апокрисис" Хрыстафора Філалета (1599) на старабеларускай мове, накіраваны супраць уніі. Папоўніліся нашы фонды і працамі самога А. Сапунова: тамы "Витебской старины", зборнікі "Полоцко-Витебской старины" і інш., а таксама каштоўнымі выданнямі па гісторыі Віцебска і Полацка.

Сярод старажытных кніг у аддзеле захоўваўся рукапіс у акладцы з драўляных дошчачак, абцягнутых скураю. Праф. У.М. Перац, які ў сярэдзіне 20-х гадоў спецыяльна прыязджаў у Мінск, апісаў нашы зборы ў кнізе "Рукописи библиотеки Московского университета, Самарских библиотеки и музея и Минских собраний" (Л., 1934). Мы ганарымся таксама тым, што мелі некалькі кніг (6–7?) "Бібліі" Ф. Скарыны. Памятаю, гэтыя асобныя кніжкі прынёс у аддзел І. Сіманоўскі і аддаў у мае рукі. Дзе ён набыў іх – не захавалася ў памяці. Гэта было ў 20-я гады ў старым будынку.

Захоўваліся №№ "Мужыцкай праўды", "Pismo Jaski Haspadara z pad Wilni da mużyczkou ziemli Polskoj" і інш. Прыхавалі мы і "Sonety krymskie" А. Міцкевіча з яго аўтографам. У аддзеле меліся першыя выданні беларускіх пісьменнікаў: В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі (і яе вершы-пракламацыі), Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, З. Бядулі, Ц. Гартнага і інш. Добры падбор быў выданняў таварыства "Загляне сонца і ў наша аконца".

Я асабіста мела нядрэнны збор беларускіх выданняў. З іх мне не раз даводзілася дапаўняць тое, чаго не было ў аддзеле або страцілася. На жаль, ад гэтага збору нічога не засталося, не захаваліся і кнігі з дарагімі аўтографамі Я. Купалы, Я. Коласа і іншых. Энтузіясты-добраахвотнікі дапамагалі ў камплектаванні аддзела не толькі сваімі дарамі, але і каштоўнымі падказкамі, дзе кнігі ляжаць без дбайнага гаспадара.

Каталогі, картатэкі, бібліяграфічная праца.

Адначасова з упарадкаваннем фондаў аддзела пачалі складаць каталогі – алфавітны і сістэматычны. Паступова каталогі ўскладняліся. З 1926 г., калі пачаў выдавацца "Летапіс беларускага друку", мы без затраты часу на дубліраванне

маглі ўключыць ў алфавітны каталог дадатковыя карткі на прозвішчы рэдактараў, перакладчыкаў, мастакоў, на выдавецтвы, серыі, калектыўных аўтараў, нават на назвы кніг. У 30-я гг. быў утворан каталог кніг пра асобныя геаграфічныя мясцовасці Беларусі, прабавалі рабіць і прадметны каталог, але ён патрабуе шмат клопату і часу.

Каталогі памагалі даць адказ чытачам, што маецца з кніг у аддзеле, але шмат было і прыхаваных у фондах бібліятэкі матэрыялаў, якія маглі б дапамагчы ў вывучэнні Беларусі, напрыклад, артыкулы ў перыёдыцы і бібліяграфічных даведніках. І трэба было пастарацца выявіць іх. Нябавам (ужо ў 1923 г.) жыццё прымусіла заняцца гэтым. Нашы патрабавальныя чытачы – працаўнікі ўніверсітэта і іншых устаноў, настаўнікі, студэнты чакалі такой дапамогі. Магчымасцяў у нас было малавата, трэба было шукаць выхаду. Выяўленнем літаратуры пра вытворчыя сілы краю зацікавілася такая паважная ўстанова, як Дзяржплан, удалося ад яе атрымаць сродкі, на якія можна было ў пазаштатным парадку арганізаваць прагляд розных бібліяграфічных крыніц.

Звесткі пра Беларусь былі раскіданы па розных бібліяграфічных крыніцах на рускай, польскай і іншых мовах. Працы бібліёграфаў Мягкова, Лямбіных, Фінкеля, Эстрайхера і шмат якіх іншых захоўвалі многа патрэбных нам вестак. Пісалі карткі студэнты Універсітэта і супрацоўнікі бібліятэкі (І. Бараноўскі, Адзярыха і інш.). Успамінаю аднаго пажылага настаўніка, які добра ведаў лацінскую мову. У картатэках захавалася і дагэтуль шмат яго запісаў з ініцыяламі на картках Г.Т. Перагледжаны былі сотні дапаможнікаў, якія рэгістраваліся ў асобным сшытку, а таксама камплекты некаторых рускіх часопісаў. Карыстаючыся асобнымі раздзеламі картатэкі (яна была сістэматызавана), пры спрыяльных умовах можна было выдаць нямала карысных даведнікаў.

Наладжана было супрацоўніцтва з Інстытутам беларускай культуры (Інбелкультам). Утварылася сумесная бібліяграфічная камісія, у якой прымаў удзел І. Сіманоўскі і я. Сумесна з Інбелкультам быў распрацаваны план бібліяграфічнай серыі пад назваю “Матэрыялы да беларускай бібліяграфіі”. (З ім можна пазнаёміцца ў кнізе А. Шлюбскага “Этнаграфія”. Бібл. указальнік. Мн., 1927).

Вось як выглядаў перспектыўны план выданняў:

Т. 1. Прырода і вытворчыя сілы Беларусі.
Т. 2. Народная гаспадарка.
Т. 3. Палітычнае і грамадскае жыццё.
Т. 4. Этнаграфія.
Т. 5. Мова і літаратура.
Т. 6. Мастацтва.
Т. 7. Гісторыя. Археалогія.

Бібліяграфія А. Шлюбскага “Этнаграфія” выйшла як 4 том гэтай серыі. Укладальнік перадаў бібліятэцы працу ў гатовым выглядзе. Справу з друкарняй (змяшчалася ў Доме прафсаюзаў на плошчы Свабоды) мела я, а таксама правіла карэктуру.

У задачу Інбелкульта ўваходзіла рэдагаванне бібліяграфічных прац. На долю бібліятэкі – утварэнне картатэкі, сістэматызацыя яе. Паступова картатэка папаўнялася шматлікімі запісамі па розных галінах ведаў. Згодна падлікаў І. Сіманоўскага, у 1937 г. налічвала да 300 000 картак.

Аднак супрацоўніцтва з Інбелкультам к канцу 20-х гадоў неяк разладзілася, не памятаю па якой прычыне. Бібліяграфія С. Дубінскага “Археалогія” была выдана ўжо АН БССР у 1933 годзе (працаваў над ёю ў 20-я гады).

Хочацца добрым словам успомніць археолага С.А. Дубінскага, які распачаў працу па бібліяграфіі археалогіі. Яму я передала картатэку з запісамі друкаваных матэрыялаў па археалогіі Беларусі. Гэта быў “сыры” матэрыял, які патрабаваў

апрацоўкі *de visu*, удакладненняў і дапаўненняў. Сіваваты, рухавы С.А. Дубінскі ў бібліятэцы быў сваім чалавекам, добра арыентаваўся ў каталогах, самастойна адшукваў патрэбныя матэрыялы. Працаваў ён шмат і шчыра, з паляўнічым азартам. Дзень у дзень можна было яго бачыць у бібліятэцы, дзе ён удакладняў свае запісы, знаходзіў новыя матэрыялы. Калі С.А. Дубінскі праглядаў бібліяграфічныя даведнікі для сваёй мэты, ніколі не мінаў непатрэбных для яго працы, але не лішніх для нашай картатэкі. Цяпер, праглядаючы даўнія картатэкі, я знаходзіла пісаныя яго рукою карткі з ініцыяламі на іх С.Д. У яго было каштоўнае спалучэнне ведаў спецыяліста з "пісьменнасцю" бібліёграфа, чым не ўсе спецыялісты могуць пахваліцца.

У артыкуле В. Тарасенкі пра С.А. Дубінскага ("Полымя", 1968, № 2) адзначана, што С.А. Дубінскі "шырока" выкарыстаў картатэку Спіцына, вучнем якога ён з'яўляўся. Мне цяжка судзіць, як там было, але што ён апрацоўваў раздзел нашай картатэкі, у якую, магчыма, уваходзілі і матэрыялы, змешчаныя ў Спіцына (мы ж к таму часу праглядзелі вельмі шмат крыніц), я гэта пацвярджаю. Бібліяграфія была выдана Акадэміяй навук БССР у 1933 годзе.

З іншых апрацаваных раздзелаў картатэкі ўпамяну ненадрукаваную бібліяграфію "Прырода і вытворчыя сілы Беларусі".

Шмат увагі я асабіста ўдзяліла бібліяграфіі беларускай літаратуры, давялося праглядзець шмат крыніц, газет. Асабліва багатай была персанальная бібліяграфія Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, З. Бядулі, Цёткі. Дапамагалі самі пісьменнікі (Я. Купала, Ц. Гартны) у выяўленні сваіх псеўданімаў, праглядаў запісы і З. Бядуля. Гартаючы картатэкі, ён гаварыў: "Гэта я ўсё напісаў? Нічога ад Вас не схаваеш?"

У зборніку "Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы. Да 20-годдзя яго літаратурнай дзейнасці" (Мінск, 1928) быў змешчаны бібліяграфічны нарыс "Літаратурныя працы Ц. Гартнага". Пісьменнік быў вельмі задаволены, і нават я ад яго атрымала "Сокі цаліны" з надпісам: "Укладальніцы маёй бібліяграфіі".

Займалася я таксама бібліяграфіяй гісторыі беларускага тэатра. Цікавілі мяне паведамленні ў газетах ("Наша Ніва") пра беларускія вечарынкі, якія наладжваліся гурткоўцамі ў розных мясцовасцях (Вільні, Пецярбургу і інш.), а ў савецкі час у самых глухіх кутках. Не абыходзілася без "Збянтэжанага Саўкі", або "Як яны жаніліся". А вандроўнік Галубок з яго трупай чаго варты! А Буйніцкі! Утварылася цікавая картатэка пра першыя крокі і станаўленне тэатральнай справы на Беларусі, пра тэатры 1, 2, 3-ці. Картатэка ў Бібліятэцы захавалася.

У канцы 50-ых гадоў па просьбе І. Сіманоўскага я паслала яму з Саратава свае нататкі-успаміны пра першыя крокі бібліяграфічнай работы. У яго кнізе "Белорусская советская библиография" (Минск, 1965) я знайшла іх сляды. На стар. 24 мяне здзівіла сцвярджэнне, што "даведачная работа вялася аб'яднанымі сіламі бюро і беларускага аддзела", і пералічаны тэмы, якія былі выкананы па заданню розных устаноў і арганізацый. Нешта ў маёй памяці сцёрліся гэтыя асобы з "бібліяграфічнага бюро". Ці не праца гэта аднаго беларускага аддзела? Удзелу "бюро" не адчувалася. А можа аўтар лічыў, што гэта я ў дзвюх асобах – бюро і беларускі аддзел? Пра "бюро" нічога не памятаю.

У сваіх нататках я не ўпаміналa пра публікацыю краязнаўчай бібліяграфіі ў часопісу "Наш край" і далей у "Савецкай краіне". У апошнім раздзеле кнігі, што вышэй упаміналася, падаюцца назвы надрукаванага ў "Нашым краі". Варта іх трохі ўдакладніць.

Успамінаю, як адбылася гэта падзея. У пачатку 1926 года завітаў у беларускі аддзел супрацоўнік Цэнтральнага бюро краязнаўства М.І. Каспяровіч, чалавек энергічны, ініцыятыўны. Мы пачалі гутарку пра тое, як аддзел можа дапамагчы краязнаўчым таварыствам і часопісу "Наш край". Вырашылі, што найлепшай дапамогай будзе бібліяграфія пра асобныя раёны. У нашай даволі значнай у той час картатэцы можна выбраць сёе-тое і, дапоўніўшы, даваць у кожным нумары

часопіса. Праз нейкі час я падрыхтавала карткі і перадала ў рукі М. Каспяровічу. Першая публікацыя з'явілася ў № 2-3 часопіса "Наш край" за 1926 год пад назвай "Геаграфія Беларусі. Падарожжы" з прыпіскай, зробленай М. Каспяровічам: "З картатэкі бібліяграфічнай камісіі Інбелкульта". Трэба заўважыць, што існавала толькі адна картатэка ў нас, асобнай картатэкі бібліяграфічнай камісіі не было. У № 10 за 1929 год выпраўлена была недакладнасць і было надрукавана: "З картатэкі Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі"[1].

Успамінаецца мне вялікая комплексная бібліяграфія, разлічаная на 30 друкаваных аркушаў, складзеная на аснове матэрыялаў картатэкі – "Бібліяграфія беларусазнаўства". Уваходзілі запісы літаратуры за 1917–1927 гг., далучана была літаратура на замежных мовах. Да палавіны 1930 года было надрукавана аркушаў 12–15. Дакладна не памятаю, але перад вачыма ўстае цэлы стос надрукаванага на маім стале. Паводле ўспамінаў М. Улашчыка, надрукавана было не меней 15 аркушаў. Паскаралася друкаванне тым, што друкарні прымалі ў набор карткі без машынапіснай копіі. У картатэцы і цяпер спатыкаюцца карткі са штампам Галоўліта, ніхто з працаўнікоў не мог дагадацца, што гэта азначае. Не па віне бібліятэкі друкаванне было спынена, надрукаванае не захавалася, засталіся толькі наклееныя карткі (частка тыража друкавалася на адным баку старонак).

Успамінаецца, што М. Каспяровіч, пазнаёміўшыся з надрукаваным, прапанаваў пачаць работу па дапаўненню бібліяграфіі А. Шлюбскага, выкарыстаць гэтыя запісы для рабочай картатэкі. Значыць аддзел этнаграфіі і гісторыі ўжо быў надрукаваны.

У дырэктара бібліятэкі былі і намеснікі. У 20-я гады звычайна яны мясціліся ў невялічкім пакоіку беларускага аддзела, што побач з габінетам дырэктара. Сярод іх знайшоўся адзін, які цікавіўся бібліяграфічнай працай – гэта быў У. Пракулевіч. Памятаю яго Скарыніяну, што заўсёды ляжала ў яго на стале. Відаць, збіраў запісы здаўна і, па магчымасці, дапаўняў іх. У часопісу "Савецкае будаўніцтва" пачаў стала змяшчаць бібліяграфію па тэмах, якія цікавілі чытачоў часопіса. Прымаў удзел у падрыхтоўцы да друку "Бібліяграфіі беларусазнаўства", якая была спынена ў палавіне 1930 года.

Трохі пра ўдзел Бібліятэкі ў працы па выданню агульнасаюзнай бібліяграфіі "Навуковая літаратура СССР" (выдавалася з 1928 па 1934 гг.). У складанні рэфератаў і анатацый літаратуры БССР прымалі ўдзел навуковыя працаўнікі розных спецыяльнасцяў. Дублетныя запісы бібліятэка пакідала сабе, мяркуючы з часам выдаць штогоднік "Навуковая літаратура БССР". Аднак, упэўніўшыся, што ў шырокім маштабе падняць працу немагчыма, намерыліся выкарыстаць матэрыял для выдання анатаванай бібліяграфіі "Флора і расліннасць БССР". Сляды гэтай цікавай працы (асобныя пачкі лісткоў) я знаходзіла цяпер у сховах беларускага аддзела. У 1937 годзе яе праглядалі многія спецыялісты, асабліва ўважліва паставіўся да яе аўтар кліматычнага атласа БССР праф. А.У. Кайгародаў.

Па заданню Інстытута гісторыі КПБ былі ўложаны і надрукаваны на ратататары спісы літаратуры па тэме: "Матэрыялы да гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны на Беларусі". Мне цяпер трапіліся спісы №№ 6 і 7, надрукаваныя на ратататары на каляровай паперы. Спіс №7 (літаратура да 1932 года ўключна) мае 656 запісаў, ёсць і замежная літаратура. Для Гістпарта рабіліся таксама на лістках запісы з анатацыямі.

Успамінаецца карпатлівая работа, праведзеная па просьбе Гідралагічнага інстытута (Ленінград). Яны прыслалі некалькі сот картак (600?) запісаў літаратуры па гідралогіі Беларусі з просьбай праверыць па нашых картатэках і дапоўніць. Праграма іх мела шырокі ахоп. Дадаткаў нашых набралася вельмі шмат.

---

[1] Матэрыялы друкаваліся: час. "Наш Край", 1926, №№ 2-3,10-11; 1929, №№ 5-12; 1930, №№ 1-10 і далей у час. "Сав. краіна" 1932, №№ 1-10, 12; 1933, № 1.

Па заданню Белдзяржкіно складзена картатэка рэцэнзій на іх фільмы.

Іншы характар мела праца беларускага аддзела па рэтраспектыўнаму ўліку друкаў БССР і друкаў на беларускай мове з XIX ст. да 1917 г. Уласна кажучы, гэтым павінна была займацца Кніжная палата, але магчымасцей у яе не было. Аднаму працаўніку хапала бегатні па друкарнях і выдавецтву "лавіць" і выяўляць недасланыя выданні, рыхтаваць "Летапіс", займацца статыстыкай друку. Друкарні яшчэ не прывыклі да абавязку здаваць паложаную колькасць экземпляраў усяго, што друкуюць, у Кніжную палату. Працаўнік Кніжнай палаты М.М. Улашчык шмат маладой энергіі і запалу ўклаў у сваю працу, праводзіў яе ў кантакце з беларускім аддзелам. Орган рэгістрацыйнай бібліяграфіі "Летапіс беларускага друку" выйшаў у пачатку 1926 года (№№1–6 за 1925 год). Але яшчэ да ўтварэння асобнага органа друку была зроблена спроба друкаваць весткі пра новыя выданні ў час. "Асвета" (1924, №2, ліпень – жнівень) пад назвай "Летапіс беларускага друку. Апрацавана Кніжнай палатай пры Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы". На самой справе праца была падрыхтавана беларускім аддзелам, а не Кніжнай палатай, індэксы ставіла В.А. Малініна. Не памятаю, ці пачаў працаваць ужо М.М. Улашчык.

На чарзе было заданне выявіць мясцовыя выданні з 1917 па 1924 гг. уключна – да пачатку іх рэгістрацыі ў "Летапісу". У 1927 і 1929 гадах удалося выдаць: "Выданні на беларускай мове", 1917–1924 гг.[1]; "Перыядычны друк на беларускай мове", а таксама "Паасобныя выданні на беларускай мове", 1835–1916. Апошняе выданне было заўважана, выкарыстана і дапоўнена С. Александровічам у кнізе "Пуцявіны роднага слова"(Мінск, 1971), дзе адзначана: "Падрабязная і дакладная бібліяграфія беларускай кнігі дарэвалюцыйнага часу пакуль што адсутнічае. Лепшым даведнікам з'яўляецца "Летапіс беларускага друку". Частка 2. Паасобныя выданні на беларускай мове. 1835–1916 гг., складзены Ю. Бібіла і выдадзены больш за сорак год таму назад (1929), але ў ім ёсць пэўныя недакладнасці і зусім не ўлічаны беларускія выданні айчыннага фальклору".

Не магу ўспомніць, чаму ў бібліяграфію не трапілі фальклорныя зборнікі, размовы былі. Шкада, вядома, але гэта завяло бы нас на завілыя сцежкі.

Каб улічыць дарэвалюцыйныя друкі на беларускай мове, трэба было выкарыстаць крыніцы, дзе маглі б яны быць апісаны. Перш за ўсё гэта "Беларусы" (т.3) Я. Карскага, "Гісторыя беларускай літаратуры" М. Гарэцкага, кнігі У. Ігнатоўскага і інш. Вельмі ўважліва праглядаліся газеты, асабліва "Наша ніва", літаратуразнаўчыя артыкулы. Рэцэнзіраваліся беларускія выданні і ў "Книжной летописи". Тут можна было знайсці весткі і пра тыраж выданняў, а ён рэдка калі прастаўляўся на кнігах. Выкарыстоўвалася і "Статистика произведений печати" за асобныя гады. Трэба мець на ўвазе, што не ўсе беларускія друкі ў "Книжную летопись" траплялі: яны выдаваліся не толькі ў Расіі і не ўсе з благаславення царскай цэнзуры.

У 1928 годзе ў час свайго адпачынку я наведала Ленінград, дзе ўдалося сабраныя запісы праверыць *de visu* па фондах Бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына, якая захоўвала шмат беларускіх друкаў (была пад бокам "Главного управления по делам печати"). На жаль, нельга было так лёгка трапіць за межы Беларусі – у Вільню, а там шмат чаго можна было знайсці.

Для праверкі de visu і выяўлення новых матэрыялаў былі выкарыстаны і прыватныя зборы. Успамінаецца Б. Эпімах-Шыпіла, які ў той час ужо жыў у Мінску. У яго я знайшла цікавыя выданні. Мяне вельмі ўзрадавалі паштоўкі Цёткі, якая пісала Б. Эпімаху-Шыпілу пра сваё падарожжа ў Фінляндыю. Гэты матэрыял я выкарыстала ў сваім нарысе пра Цётку[2].

[1] Гэтыя працы ішлі пад назвай "Летапіс беларускага друку", часткі 2, 3, 4.

[2] Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кн. 2. Працы клясы філёлёгіі. – Мн., 1928. Т. 1.

Хаця ў выданні і маюцца недакладнасці, бо часам весткі браліся з няпэўных крыніц (яны адзначаны ў кнізе * (зоркамі), аднак большасць апісана дакладна, нават з арфаграфічнымі асаблівасцямі. Радуе аднак тое, што і ў такім выглядзе ўдалося выдаць (1929 г.), бо ў наступным векапомным годзе гэта ўжо было немагчыма. Успомнім напалову надрукаваную “Бібліяграфію беларусазнаўства”, следу ад яе не засталося.

Удала праскочыла і бібліяграфія “Беларускі перыядычны друк. Артыкулы з часопісаў і зборнікаў за 1917–1928 гг.” (выд. 1929 г.). У такім выглядзе ў 30-ыя гады нельга было ўжо выдаць. Той, хто перажыў тую пару, можа зразумець усе падводныя рыфы і дыпламатычныя меркаванні. Шмат было прозвішчаў, якія ў той час стараліся не ўспамінаць і чытачу не паказваць.

Працяг працы – артыкулы за 1928 – 1937 (да ліпеня) быў падрыхтаваны ў картатэцы, але пасля вайны не ўдалося адшукаць гэтых матэрыялаў. Давялося бібліятэцы ствараць картатэку нанова. Захоўваецца цяпер картатэка артыкулаў за 1928-1932 гг. (з 1933 г. друкаваў іх “Летапіс”). На жаль, у картатэку не трапіла шмат прозвішчаў і каштоўнасць яе абмежаваная. Напрыклад, няма прозвішчаў А. Чарвякова, В. Кнорына, безліч пісьменнікаў.

Адначасна праводзілася праца па выяўленню мясцовых друкаў да 1925 г. савецкага часу на рускай мове. На польскай і яўрэйскай мовах складалі картатэкі ў польскім і яўрэйскім аддзелах бібліятэкі. Апісваліся тыя выданні, якія траплялі ў фонды бібліятэкі з розных крыніц – мясцовых і дублетных фондаў Масквы і Ленінграда, праглядалася “Книжная летопись”. Але ў тыя бурлівыя гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі шмат чаго з друкаў не трапляла ў “Книжную летопись”; друкарні не вельмі спяшаліся з адсылкай у Кніжную палату абавязковых экземпляраў. Грамадзянская вайна, транспартныя непаладкі таксама не садзейнічалі сваечасовай дасылцы. Для таго, каб мець больш дакладнае ўяўленне аб кніжнай прадукцыі таго часу, давялося шукаць слядоў у выдавецкіх планах і справаздачах савецкіх органаў, дзе даваліся весткі і пра выдавецкую дзейнасць, у перыядычным друку, абвестках на вокладках кніг (“выйшлі з друку”) і г.д. У гэтых крыніцах не заўсёды даваліся дакладныя назвы, не было і іншых патрэбных апісанняў. З цягам часу шмат чаго ўдалося праглядзець de visu, аднак некаторыя запісы засталіся з няпоўнымі весткамі. У картатэцы налічвалася да 1000 назваў за 1917–1924 гг. У параўнанні з “Книжнай летописью” было шмат дадаткаў.

У пачатку 30-х гадоў я наведала Кніжную палату ў Маскве, мне трэба было ўдакладніць некаторыя весткі пра друкі на рускай мове за 1917–1924 гг. Маючы перадрукаваную на машынцы бібліяграфію, звярнулася за дазволам да дырэктара Кніжнай палаты. Пагутарыўшы са мною і праглядзеўшы рукапіс, дырэктар прапанаваў выдаць працу, але наша бібліятэка не згадзілася. А шкада...

Картатэка лічылася загінуўшай, але яна знайшлася, і вось у 1969 годзе Кніжная палата БССР надрукавала яе на ротапрынце, далучаны былі друкі на польскай і яўрэйскай мовах. Карпатлівую работу па праверцы (паўторнай) матэрыялаў *de visu* перарабіла і спіс друкаў на польскай і яўрэйскай мовах дала Ф. Мерына. На жаль, перад друкаваннем мне не паказалі адбіткаў, і я *poste factum* выявіла непрыемныя недарэчнасці.

Быў уложаны і спіс перыёдыкі на рускай мове, але ён не захаваўся.

Трохі пра карысць самаадукацыі... У 20-я гады не толькі моладзі, але і людзям больш сталага веку даводзілася брацца з працу, пра якую мелі вельмі няяснае ўяўленне. Трэба! А калі трэба, то і навучацца трэба. Хто з бібліятэкараў меў спецыяльную бібліятэчную адукацыю? Даводзілася вучыцца на хаду: авалодаць тэхнікай бібліяграфічнай і бібліятэчнай працы і паглыбіцца ў нетры краязнаўства.

Я трапіла ў Бібліятэку не са школьнай лаўкі. У мяне была сякая-такая агульная падрыхтоўка і пяць гадоў настаўніцкай працы. Мне стала, аднак, ясна, што трэба

ўзяцца за авалоданне не толькі тэхнікай, але добра арыентавацца ў літаратуры, якую павінен збіраць і захоўваць аддзел. Памагалі кнігі і спрактыкаванае кіраўніцтва дырэктара І. Сіманоўскага, які не шкадаваў намаганняў, каб з мяне атрымаўся неблагі працаўнік.

Выступаючы на ўрачыстых провадах І. Сіманоўскага на пенсію ў 1961 годзе, я так характарызавала яго ролю настаўніка: "Мы пачыналі працаваць на ніве для нас незнаёмай, а Вы шмат энергіі і цярплівасці ўкладалі, каб навучыць нас, адчыніць перад намі бліскучыя перспектывы. Вы былі патрабавальным настаўнікам, аўтарытэтам для нас у гэтай справе, мы Вам давяралі. Аднак Вашы навучэнцы, бывала, умелі выпускаць і вострыя кіпцюры, нават балюча драпацца, але гэта не перашкаджала агульнай справе. Вашы ідэі, Вашы "фантазіі" (як я называла) захаплялі нас, мы былі перспектыўны, абгрунтаваны. Вы ўкладалі шмат энергіі, багатага вопыту і – галоўнае – энтузіазму і душы ў Бібліятэку. Хто не ведаў Вашага капелюша, бачыўшага шмат нягод, і пажылага партфеля? Ён вандраваў без устанку ад парога да парога і дабіваўся свайго".

Я.Л. Дыла, які добра ведаў ролю І. Сіманоўскага ў арганізацыі Бібліятэкі, так успрыняў "ганаровую" яго адстаўку: "Паважаная Юлія Язэпаўна! Пра "ганаровую" адстаўку Сіманоўскага я даведаўся як з Вашага апошняга ліста, так і праз вестку пра гэта ў лісце да мяне Алега Саннікава. Неяк стала на душы сумна: хоць праводзіны яго былі і публічныя і з адзначэннем яго заслуг па арганізацыі Дзяржаўнай бібліятэкі, аднак аслабанілі ад працы, якой ён аддаваў усяго сябе..." (З ліста ад 17 кастрычніка 1961 г.).

І. Сіманоўскі, відаць, лічыў, што не дарма траціў час на маю бібліяграфічную адукацыю. Мне прыемна чытаць, як ён кваліфікаваў мяне ў сваёй кнізе "Белорусская советская библиография" (Мн., 1965). На стар. 43 чытаю:

"Выросли на работе и кадры квалифицированных ведущих библиографов. Среди них Ю.О. Бибило, организатор и руководитель отдела белорусской литературы и библиографии".

На стар. 16: "...старейший библиограф БССР, по существу зачинательница белорусской советской библиографии Ю.О. Бибило".

Вялікую ўдзячнасць захавала я да шчырых нашых прыхільнікаў і энтузіястаў беларускай культуры, якія дапамагалі арыентавацца ў моры краязнаўчай літаратуры: Я. Дылы, Я. Купалы і шмат каго іншага. Дапамагалі і чытачы, калі звярталіся з якім-небудзь цікавым пытаннем. Успамінаю Е. Міровіча, калі ён ставіў п'есы "Кастусь Каліноўскі", "Машэка". Колькі мне давялося праглядзець розных матэрыялаў! А сівы рэжысёр перада мной натхнённа маляваў сцэны будучых твораў. Гэта была цікавая ўзаемадапамога.

Нізкі паклон, мае паважаныя настаўнікі!

---

Са шкадаваннем успамінаю нашы страты і асабістыя лёсы людзей. Горыч развітання ўвосень 1937 года з блізкай сэрцу працай. Адхілілі ад пасады І. Сіманоўскага, я атрымала адстаўку як "несправившаяся" з работай. Скажу шчыра, што не заслужыла такой ацэнкі, бо не толькі працавала сумленна, але і аддана, і вынікі маёй працы сведчылі пра гэта. Хаця і крыўдна было, што мяне так кваліфікавалі, але прымаючы пад увагу агульную тагачасную сітуацыю, я разважала, што яшчэ добра абышлося, бо так лёгка было атрымаць які-небудзь нечаканы "хвост". Я толькі сказала, што пастараюся ў іншым месцы ўсё ж справіцца з любой работай. І стрымала сваё абяцанне. Цяжкі і трагічны гэта быў час. Я – нязначная адзінка сярод тых працаўнікоў беларускай культуры, якіх злая воля раскідала па розных кутках. Тыя часы чакаюць свайго ўдумлівага і справядлівага даследчыка.

З верасня 1937 года па лістапад 1959 года я працавала ў Навуковай бібліятэцы Саратаўскага ўніверсітэта. Тут я занялася блізкай мне краязнаўчай бібліяграфіяй, толькі трэба было мне нямала папрацаваць, каб пазнаёміцца з асаблівасцямі незнаёмага мне краю. Сабраныя матэрыялы мне ўдалося аформіць на машынцы. Атрымаліся даволі важкія тамы "Материалов для библиографии Саратовской области" (т.1, 500 стар.; т.2, 470 стар. ; 1947, 1957 гг). У супрацоўніцтве з іншымі біблёграфамі прыняла ўдзел у выданні серыі "Библиография Саратовской области" (геаграфія, глебы, клімат і воды і іншыя працы).

Нямала я атрымала розных афіцыйных падзяк і за "безупречную" работу і за "долголетнюю отличную работу в области краеведческой библиографии", "за активное участие в издательской деятельности библиотеки" і г.д.

У развітальным адрасе з прычыны майго выхаду на пенсію сказана: "В Вашем лице библиотека имела библиографа высокой квалификации, автора многих содержательных и обширных библиографических указателей, особенно в области краевой библиографии, а наши читатели – внимательного и хорошо эрудированного помощника и советчика".

Калі зрабіць скідку на некаторую параднасць, якая вымагалася падзеяй, што адбывалася, усё ж нешта застанецца. Вельмі расчуліла мяне прывітанне доктара геаграфічных навук прафесара Н.С. Фралова. Ён, між іншым, у 20-х гадах працаваў у Горы-Горках, а потым пераехаў у Саратаў. Ён пісаў, што часта карыстаўся маёй "компетентной помощью". "Это дало мне возможность оценить Ваше глубокое знание книжных фондов Научной библиотеки, библиографии Саратова и Саратовской области, Нижнего Поволжья и многих других разделов книжных богатств и литературы таких районов нашей родины, как особо любимая Вами Белоруссия".

А вот як прывітаў мяне дырэктар Саратаўскага педагагічнага інстытута П.Н. Пілатаў: "... Мне особенно приятно вспомнить период нашей с Вами и с Елизаветой Христиановной совместной работы над библиографией Саратовской области и от души поблагодарить Вас за великодушно оказанное содействие в работе. ... Не только коллектив библиотеки, но и все мы, рядовые читатели, с чувством глубокого уважения будем помнить Вас всю жизнь. Мы также уверены, что в Саратовскую сокровищницу драгоценных книг, где вы работали долгие годы, её неутомимый директор – Вера Александровна Артисевич, – на место уходящей на отдых гвардии, будет и впредь привлекать таких же как Вы, Юлия Иосифовна, глубокоэрудированных, широкообразованных, высококультурных, обходительных, ласковых людей".

Падчас маёй працы ў Саратаўскай бібліятэцы П.Н. Пілатаў перадаў дырэктару бібліятэкі перадрукаваную на машынцы сваю працу "Библиография географии Саратовской области". Дырэктар перадала мне на прагляд, ці можна друкаваць. Я сказала, што ў такім выглядзе нельга: трэба перарабіць. Са згоды аўтара мы з Е.Х. Бычковай папрацавалі цэлы год. Палавіну выкінулі, вельмі шмат каштоўных прац дадалі. Аўтар са скрухай зазначыў: "Чаму гэта я раней не дагадаўся звярнуцца ў бібліятэку". Ён прапанаваў нам паставіць свае прозвішчы побач з яго, але мы адмовіліся і згадзіліся на "при участии".

У маёй працы мне памагла падрыхтоўка, атрыманая ў Дзяржаўнай бібліятэцы Беларусі. У мяне засталося задавальненне, што не "посрамила" зямлі беларускай, але і жаль, што пры спрыяльных умовах мая праца магла бы даць нешта больш значнае для вывучэння роднай Беларусі. Як справядліва адзначыў праф. Н.С. Фралоў, "особо любимая" Беларусь заставалася ўсе гады ў маім сэрцы, і я здалёк сачыла за трывожнымі падзеямі і пасляваенным будаўніцтвам. Вярнуцца на радзіму мне перашкаджалі цяжкія сямейныя нягоды.

**ВЫСТАЎКІ Ў МАСКВЕ**

## Выхад “у людзі”

У 20-я гады Дзяржаўная бібліятэка БССР з’яўлялася адзіным асяродкам, дзе спецыяльна збіраліся і апрацоўваліся кніжныя матэрыялы для вывучэння краю. Пра гэта ведалі і працаўнікі культуры, і дзяржаўныя ўстановы. А таму, калі патрабавалася дзе-небудзь паказаць краязнаўчую літаратуру пра Беларусь, даручалася гэта Дзяржаўнай бібліятэцы. Успамінаецца некалькі такіх выхадаў “у людзі”, дзе мне давялося прымаць непасрэдны ўдзел.

У 1924 годзе (9-14 снежня) адбывалася ў Маскве 2-я Усесаюзная канферэнцыя па краязнаўству. Беларускаму аддзелу бібліятэкі было даручана падабраць адпаведныя кнігі, якія паказвалі б, што Беларусь – гэта не проста геаграфічная назва, а краіна са сваёй складанай гісторыяй і культурай. З дэлегатаў на канферэнцыю памятаю В. Самцэвіча з Барысава і М. Каспяровіча з Беларускага цэнтральнага бюро краязнаўства. Мы, дэлегаты, наведалі залу, дзе рыхтавалася выстаўка да канферэнцыі, і перадалі нашы кнігі бібліятэкарам. У памяці засталася вельмі гарачая спрэчка з дасведчанымі бібліятэкарамі, якім цяжка было перамагчы свае зняважлівыя адносіны да нейкіх беларусаў. З чаго пачалося – ці ўспомніш? Пахваліцца нам не вельмі было чым, але і зняваги праглынуць нельга было. У нас была маладосць у шырокім сэнсе слова. З гэтай дыскусіі засталіся ў памяці два імя: А. Пушкін і Я. Купала. Так, з імем Я. Купалы мы і рынуліся ў бой.

Сярод народаў – удзельнікаў канферэнцыі – мы адчувалі сябе не горшымі за іншых. Шмат было цікавага і карыснага. Дагэтуль помніцца мне мажная постаць геолага А.Я. Фёрсмана і яго натхнёная прамова.

У лютым месяцы 1927 года ў Маскве адбывалася 3-я сесія ЦВК СССР, дзе была заслухана справаздача Ураду БССР. З дакладам выступаў старшыня Саўнаркома БССР Я. Адамовіч, а таксама старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў. Дзяржаўнай бібліятэцы даручана было наладзіць выстаўку беларускага друку. Гэта была больш багатая выстаўка. На дзесятым годзе Кастрычніка ўжо было што паказаць. Выстаўка змяшчалася ў Георгіеўскай залі Крамлёўскага палаца. Высокія сцены з прозвішчамі загінуўшых георгіеўскіх кавалераў думна высяцца з бакоў калоны. Ззяе пазалота, пераліваецца крышталь у вялізных люстрах. Пры ўваходзе яскрава-чырвоная стужка з надпісам “Беларуская савецкая сацыялістычная рэспубліка”. Апроч літаратуры, на выстаўцы паказаны дыяграмы, фатаграфіі меліярацыйных работ, вялікая карта БССР. Асобны кіёск Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, дзе можна было набыць патрэбныя кнігі. Пасяджэнні сесіі адбываліся ў Андрэеўскай залі, а ў перапынках дэлегаты запаўнялі Георгіеўскую залу і цікавіліся выстаўкай. Я спынілася ў Беларускім прадстаўніцтве пры Урадзе СССР на Малой Нікіцкай. У Крэмль можна было трапіць толькі па пропуску. Мяне кожны дзень прывозілі на машыне, і шафёр каля Спаскіх варот паказваў варце пропуск. Непасрэдныя ўражанні перадаюцца ў маім артыкуле “Беларусь у Крамлі”, змешчаным у газеце “Савецкая Беларусь” ад 2 сакавіка 1927 г. (№ 50).

У артыкуле ўспамінаецца пажылы мастак, на жаль, прозвішча яго не названа. Ён з пачуццём гаварыў: “Я люблю сваю краіну і пакуль жыву, хацеў бы хоць чым-небудзь быць ёй карысным. Я зраблю падарожжа па Беларусі і зарысую яе краявіды – можа мая праца прыдасца”. Папытаўся, ці хутка будзе ў Мінску наладжана выстаўка – ён хацеў бы прыняць у ёй удзел. Паводле маіх меркаванняў, гэта быў наш зямляк В.К. Бялыніцкі-Біруля.

Вельмі добрая фатаграфія выстаўкі не захавалася. Цьмяны адбітак змешчаны ў зборніку “Чырвоны сейбіт” (1927, №10-11, с. 7), але ці той гэта, што ў мяне быў, цяжка сказаць.

У студзені 1931 года Масква знаёмілася з дасягненнямі сацыялістычнага

будаўніцтва БССР. [Пра гэту падзею, пра "Дні беларускай культуры", успамінае Я. Мазалькоў ("Літаратура і мастацтва", 5.12.1968)].

У Палітэхнічным музеі была наладжана выстаўка, у якой прымала ўдзел і бібліятэка. Яна была размешчана ў фае тэатра з незвычайнай назвай "Сэмперантэ" ("Заўсёды наперад"). Наведвальнікі тэатра знаёміліся на перапынках з дыяграмамі, фатаграфіямі, кнігамі і ўзорамі вырабаў нашай рэспублікі. Апроч мяне выстаўку абслугоўвалі адзін працаўнік ад Наркамзема і адзін – ад Наркамасветы. Беларуская дэлегацыя была на прыёме ў М.І. Калініна. Прыёмная змяшчалася на Краснай плошчы супраць Крамля. Адказны прадстаўнік беларускай дэлегацыі вітаў М.І. Калініна, які ў час прывітання паводзіў сябе неяк неспакойна (шмат было ў прамове "славословия"), нарэшце не вытрымаў і сказаў: "Вядома, мы з вамі рады спаткацца, але давайце гаварыць аб тым, што баліць". Я таксама была на гэтым прыёме.

1934 год. Першы з'езд пісьменнікаў Саюза ССР. Парк культуры і адпачынку імя М. Горкага. У павільёнах ладзілася выстаўка літаратур народаў Саюзу. Для беларускай літаратуры быў падрыхтаваны аформлены мастаком стэнд. Але фігура жанчыны на малюнку ў жабрачай світцы выклікала пярэчанні. Сучасную Беларусь у такім вобразе нельга было паказаць. Давялося на дапамогу ў якасці арбітраў паклікаць працаўнікоў з Беларускага прадстаўніцтва пры Урадзе СССР.

Кнігі пісьменнікаў уважліва падбіраліся – і старэйшых, і маладых. Я не чакала адчынення з'езду і, перадаўшы кнігі, выехала. Кнігі так спадабаліся кіраўніцтву, якое намагалася пакінуць іх у бібліятэцы Саюза пісьменнікаў, што доўга адміністрацыя нашай бібліятэкі вяла перапіску, патрабуючы звароту, бо гэта былі экземпляры з фондаў бібліятэкі.

Ад гэтага падарожжа ў мяне засталіся ў памяці дываны кветак, якія запаўнялі парк. Тонкі водар кружыў галаву. Кветкі, кветкі... У той час мы мала іх у такой колькасці бачылі.

## Беларуска-ўкраінскія сувязі

У канцы 20-ых гадоў, праглядаючы ўкраінскі часопіс "Бібліологічни вісти", я зацікавілася бібліяграфіяй, падпісанай Ю. Межэнкам, пра пераклады беларускай мастацкай літаратуры на ўкраінскую мову. Са здзіўленнем я ўбачыла, што аўтар палічыў Крапіву і Крапіўку за адну і тую ж асобу. Паколькі ў канцы працы быў паказан адрас, куды прасілі накіроўваць заўвагі, я неўзабаве напісала пра такое арыгінальнае спалучэнне. Так пачалося ў мяне завочнае знаёмства з вядомым бібліёграфам, нястомным калекцыянерам, палымяным збіральнікам Шаўчэнкіяны – Юрам Аляксеевічам Мяжэнкам. Улетку 1930 года я асабіста з ім пазнаёмілася, а перапіска наша пасля доўгага перапынку ўзнавілася пасля вайны і працягвалася гадоў 20. Памёр Ю. Мяжэнкі ў 1969 г. Сваю Шаўчэнкіяну, якую ён збіраў гадоў 50, перадаў Інстытуту літаратуры АН УССР. Вось у гэтай унікальнай калекцыі, якая налічвае да 15 тысячаў адзінак, ёсць і беларуская кропля.

У лісце ад 11 лютага 1963 г. Ю. Мяжэнка не забывае мне напомніць: "Вы добра ведаеце, што я збіраю "Шаўчэнкіяну", бо Вы самі не раз пасылалі мне розныя матэрыялы для маёй калекцыі. Асабліва шмат я атрымаў ад Вас у 1961 годзе. Вашы добразычлівыя адносіны да гэтай справы дазваляюць мне звярнуцца да Вас і ў гэтым годзе" (пераклад з украінскай мовы). У 1964 г. я атрымала ад Ю. Мяжэнка кнігу з даравальным надпісам: "З глибокою подякою за ласкову допомогу в збиранні Шевченкіани".

У 1947 г. я звярнулася да Ю. Межэнкі з просьбай, ці не мае ён якіх запісаў з украінскай прэсы пра Я. Купалу. Ён мне даслаў спіс таго, што ў яго захавалася з картатэкі, якая шмат пацярпела нягод у час вайны. Я пераслала атрыманае ў Мінск для Музея Я. Купалы.

Успамінаецца мне і камандыроўка ў Кіеў (зіма 1929/1930) для азнаямлення з працай Бібліятэкі АН УССР. Шмат цікавага я ўбачыла і карыснага. Пасля звароту зрабіла паведамленне аб сваіх уражаннях. На сходзе было вырашана пачаць соцспаборніцтва нашых бібліятэк, была ўложана ўмова і паслана ў Кіеў. Далейшы лёс нашага пачынання не захаваўся ў памяці. Відаць, падзеі 30-х гадоў не спрыялі развіццю больш блізкіх кантактаў.

## Клептаман у бібліятэцы

Усялякія прыгоды здараюцца ў жыцці. А ў бібліятэцы бываюць і такія, пра якія адбудзецца гутарка.

Гэта было ў 1929–30 годзе – дакладна не памятаю. У галоўным будынку Дзяржаўнай бібліятэкі, у так званым "юбілейным" доме, папсавалася цэнтральнае ацяпленне. Зіма. У агульнай чытальні яшчэ сяк-так можна было працаваць – народу шмат, сядзелі, утуліўшы насы ў каўняры, абаграваліся духоўным цяплом. А ў Беларускім аддзеле, які змяшчаўся насупраць, было цяжэй. Студэнты сюды звярталіся найбольш па даведкі. А навуковыя працаўнікі прыходзілі зірнуць на новыя атрыманні бібліятэкі і доўга не затрымліваліся. Печка-"буржуйка" ўжо даўно закончыла сваё слаўнае існаванне, толькі след сажы над акном знадворку яшчэ напамінаў пра мінулыя дні. Нас працавала двое, і мы ўмовіліся па чарзе бегаць грэцца ў канцылярыю, што змяшчалася ў будынку на рагу Чырвонаармейскай вуліцы.

Неяк дырэктар прывёў у аддзел чалавека з пашарпаным партфелем, не вельмі элегантна апранутага і адрэкамендаваў яго знаўцам старажытных моў і аматарам старадрукаў. Выгляд яго адпавядаў спецыяльнасці. Дырэктар дазволіў яму карыстацца старадрукамі, якія знаходзіліся ў аддзеле. Яны змяшчаліся ў невялікім пакоі за фанернай загарадкай.

Прайшло некалі дзён. У свае дзяжурства я не спатыкала гэтага чытача. Пытаюся ў супрацоўніка, ці бывае гэты знаўца. Ён кажа, што наведвае, але не затрымліваецца доўга.

Я вырашыла праверыць, у якім стане знаходзяцца кнігі, якія праглядаў чытач. Мабыць паблытаў – думаю. І вось ... ледзь не звалілася з паліцы, так усхвалявалася. Там, дзе павінен быў стаяць каштоўны старажытны рукапіс, якім цікавіўся праф. В. Перац, стаяла толькі абцягнутая скурай драўляная вокладка! Ліхаманкава перабіраю іншыя каштоўныя кнігі, але ці ж адразу выявіш, што яшчэ згінула?

Трэба зазначыць, што ў той час пры ўваходзе кантролю не было, і чытачы праходзілі з партфелямі.

А вось і чытач – лёгкі на ўспамін! Проста накіроўваецца да паліц, але я супыняю, прашу сесці і прапаную падаць на стол кнігі. Ён трохі бянтэжыцца, але садзіцца і скоса на мяне пазірае, няўважліва гартае паданыя кнігі.

На змену мне прыйшоў супрацоўнік, але я засталася чакаць, калі гэты "аматар" збярэцца выходзіць.

Калі ён нарэшце выйшаў за дзверы, я – за ім. Мне не хацелася пачынаць гутарку ў прысутнасці супрацоўніка.

– Аддайце рукапіс! – кажу.

– Вы гэта што? Што за абраза! Здзек!

– Аддайце рукапіс! А не – так пойдзем да дырэктара! Ідзіце наперад!

Відаць, мой выгляд быў такі ўзрушаны, а ў голасе гэтулькі злосці і метала, што ён паслухмяна і пакорліва пакрочыў уперад.

Спускаемся па сходах, затым па адходнай сцежцы да Чырвонаармейскай вуліцы. Бачу на рагу міліцыянера.

– Вось паклічу міліцыянера, няхай ён разбярэцца!

– Не трэба! Не трэба! – просіць, аж рукі злажыў, і губы трасуцца. – Я – клептаман, лячуся ў Маскве ў прафесара. Магу яго адрас сказаць. Даруйце!

– Злодзей Вы і нягоднік! Вядзіце дахаты!

Пайшлі. Ён наперадзе, я – ззаду. Жыў ён недзе каля вакзала. Рукапіс быў знойдзен і яшчэ пачка кніг не толькі з аддзела, але і з неразабранай кучы, што ляжала ў карыдоры побач з канцылярыяй.

Дацягнуў мне гэты незадачлівы "спец" даволі важкую пачку да трамвая і ўсё прасіў, каб я не заяўляла ў міліцыю.

Аб гэтым здарэнні так ніхто і не даведаўся. Мне не хацелася псаваць кроў нашаму даверліваму дырэктару. Калі праз гады, прыехаўшы ў Мінск, я дала прачытаць дырэктару гэту "быль", найбольш яго ўразіла слова "даверлівы дырэктар".

***Сшытак 16***

## Чытачы і прыхільнікі Бібліятэкі

Адчыненне Бібліятэкі было святам для беларускіх культурных сіл, якія групаваліся вакол Інбелкульту (пазней Акадэміі навук), Універсітэта, але не толькі для іх: партыйныя і ўрадавыя ўстановы таксама добра ведалі сцежку ў Бібліятэку! А настаўнікі, краязнаўцы!..

Хто ж нашы наведнікі? Агульная чытальная зала павінна была забяспечваць чытачоў і беларускай кнігай. Да нас жа, у беларускі аддзел, заходзілі навуковыя працаўнікі, настаўнікі – наогул, тыя працаўнікі на ніве беларускай культуры, хто паглыблена цікавіўся асобнымі пытаннямі літаратуры, мастацтва, гісторыі, эканомікі, прыроды роднага краю.

Дасягненні бібліятэкі радавалі, і за імі са спагадай сачылі і дзяржаўныя дзеячы. З цёплым пачуццём хочацца ўспомніць А.Р. Чарвякова, старшыню ЦВК БССР. Вядома, яму быў добра знаёмы няўрымслівы, апантаны наш дырэктар, але ён ведаў і іншых працаўнікоў бібліятэкі. Так, у 1936 годзе, калі наведаў нашу рэспубліку старшыня ЦВК Башкірскай АССР, А. Чарвякоў разам з ім завітаў у бібліятэку. Трэба было бачыць, з якім веданнем справы ён тлумачыў госцю ў беларускім аддзеле пра задачы аддзела і нават сам мяне адрэкамендаваў, як самую "старую" працаўніцу бібліятэкі. Гэта ж трэба было сярод паважных дзяржаўных спраў захаваць у памяці такую дробязь!

З вялікай цікавасцю і хваляваннем чытаю артыкул У. Якутава пра А. Чарвякова ("Полымя", 1971, № 5). Артыкул напісаны не толькі *на основе* сухіх дакументаў, але адчуваецца цёплая нота людзей, асабіста ведаўшых гэтага выдатнага чалавека.

І прыпомніўся мне трагічны дзень ліпеня 1937 года, калі абляцела трывожная вестка, што няма ўжо А. Чарвякова. Гроб з целам быў пастаўлены ў Клубе савецкіх служачых, і пацягнуліся чэргі ўсхваляваных людзей, каб развітацца з ім. Але не ўсім удалося трапіць, бо праз некалькі гадзін доступ быў спынены. Не трапіла туды і я, але калі праязджаў просты гроб па Лагойскаму (Бязбожніка) завулку каля нашага дома на Вайсковыя могілкі, мы далучыліся да тых нямногіх, хто праводзіў у апошні шлях такога вядомага чалавека. Аднак, адвагі хапіла толькі, каб прайсці за труною па тратуару да варот могілак. А душу ахапіла трывога.

Не абмінаў нас і народны камісар асветы У. Ігнатоўскі. Памятаецца майская ўрачыстасць і У. Ігнатоўскі на ганку бібліятэкі. Са мною завязалася нейкая вострая гутарка. Тэма не захавалася ў памяці, толькі праз гады так, здаецца, і чую спакойныя словы і бачу павольныя рухі У. Ігнатоўскага. А мой ваяўнічы запал знік.

Успамінаецца і другі нарком асветы – А. Баліцкі. Перада мною фатаграфія 1926 года. Крым, Ялта, дача былога царскага міністра Сазонава – гэта Дом адпачынку настаўнікаў Беларусі. А. Баліцкі разам з т. Стасевічам, сакратаром Аршанскага райкома партыі, адпачывалі ці то ў Місхоры, ці ў Гаспры. Надумаліся

яны наведаць сваіх землякоў-настаўнікаў. За сталом з бутэлькамі масандраўскага і сакавітымі чарэшнямі адбылося знаёмства. А. Баліцкі мне сказаў, што добра мяне ведае і прозвішча Бібілы таксама, але што гэта адна і тая ж асоба толькі цяпер даведаўся. Было смеху!

Старшыня Савета народных камісараў М. Галадзед не раз прысылаў сваіх сакратароў у аддзел. Яму можна было даваць усё без халадку ў душы: "Апошняе... Ці атрымаеш назад?" Усе ўзятыя кнігі прыносіліся нам у поўным парадку.

Успамінаецца яшчэ адзін зацікаўлены прыхільнік Бібліятэкі, які аддаваў ёй шмат увагі і дапамагаў, чым мог. Пра гэта не раз давялося чуць ад І. Сіманоўскага. Гутарка ідзе пра рэктара Універсітэта У.І. Пічэту. Ён часта бываў у беларускім аддзеле. Ветлівы, далікатны, без зазнайства, умеў пажартаваць. Заўсёды некуды спяшаўся, толькі развяваўся чуб. З У. Пічэтам апошні раз я спаткалася ў 1946 годзе, калі ён прыязджаў у Саратаў у якасці даверанай асобы кандыдата ў дэпутаты Б. Грэкава. Хаця шмат гадоў мінула, ён мяне пазнаў і распытваў пра лёс сваіх вучняў, быў вельмі ўсхваляваны. Я. Дыла мне гаварыў, што ён таксама тады спатыкаўся з Пічэтам у гасцініцы. Абое былі вельмі ўзрушаны і праслязіліся.

Нельга не ўспомніць Язэпа Лявонавіча Дылу, зацікаўленага прыхільніка бібліятэкі і частага наведніка. Шмат яго кніг з ініцыяламі Я.Д. стаяла на нашых паліцах. Неспакойны, заўсёды чым-небудзь захоплены, ён шмат мне дапамагаў арыентавацца ў моры краязнаўчай літаратуры (можа, гэта ён нават сам не ўсведамляў). Цікавіўся гісторыяй, літаратурай, мастацтвам, кааперацыяй – наогул, усімі здабыткамі нашай культуры. З ім так цікава было пагаварыць! Гэта прага пазнання захавалася ў яго і ў 86-гадовым узросце.

Калі я яму паслала бібліяграфію "Русская дореволюционная книга о Белоруссии" (1964), ён адшукаў там кнігі, у якіх, паводле яго меркаванняў, можна было знайсці весткі пра "Слуцкі летапіс".

У лісце да мяне з Саратава ад 19 красавіка 1966 года ён пісаў: "Не дае мне супакою "Слуцкі летапіс". Гімназістам не то 3, не то 4-га класа пачуў я ад бацькоў, што ў бібліятэцы Траецкага манастыра, што ў нас у Слуцку, ёсць "Слуцкі летапіс". Бібліятэка гэта знаходзіцца ў пакоіку, які змяшчаецца ў адной з двух званіц сабора манастырскага, што там жа зложаны старадрукі беларускіх друкарань, сабраныя з вуніяцкіх манастыроў і царквей, зачыненых у час скасавання вуніі". Далей ён піша, што сам трымаў у руках "старэнькую ў вокладцы рукапісную славянскімі літарамі "Слуцкую летопись". Я тады зрабіў сабе выпіскі, але нязначныя, і яны не захаваліся. Пра "Слуцкі летапіс" пісаў і А.К. Снітка".

Гэты малады душою чалавек заслугоўвае ўдзячнай увагі сучаснікаў. У 1970 годзе ў сувязі з 90-годдзем Я. Дылы я паслала яму наступнае прывітане: "Але! Ці чуеце Вы, дарагі Язэп Лявонавіч, галасы сяброў? Гэта я, апантаны краязнаўца і кнігаед, з кім не раз спатыкаліся ў зацішку бібліятэчных сховішч яшчэ ў тыя, зацягнутыя смугой даўніны, 20-я гады. І якім не было Ваша чарговае, вольнае ці нявольнае захапленне: ці то кааперацыя, тэатр або праца ў Інбелкульце, не гледзячы на цяжар службовых абавязкаў, Вы выкройвалі час для азнаямлення з новымі выданнямі. Калі ўбачыш парожнія вітрыны кніжных навінак, так і ведай, што недзе сядзіць Я. Дыла, і толькі чуб відзён над стосам кніг.

Прага ведаць, што робіцца на роднай зямлі, ад якой няўмольны лёс Вас адарваў, жаданне "об'ять необ'ятное" прайшлі праз усе гады. Не так даўно па Вашай просьбе я накіравала Вам юбілейнае скарынінскае выданне і яго прадмовы.

Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах! Няхай ён заўсёды астаецца сухім!

Успамінаюцца жудасныя падзеі ваеннага часу! Ад агульнай і асабістай бяды сэрца кроілася ад болю. Вы працавалі ў "саратаўскім бюро газетных выразак" і мелі пад рукой вялікі асартымент друку і навін. Памятаеце нашы нявольныя сустрэчы ў чарзе ці на рынку? Бачу Вас заклапочанага ў шэрым

кортавым адзенні, з гаспадарчай торбачкай у руках. Адыдзем куды-небудзь, каб не перашкаджаць натоўпу, і доўга не можам спыніць абмеркаванне падзей. А галоўнае, што там дзеецца на Беларусі? Неяк на душы святлее ад гутаркі з родным чалавекам. Заўсёды мяне прываблівала маладосць Вашай душы. Няхай яна заўсёды застаецца такой, нават пад цяжарам гадоў! З пашанай і шчырай прыязню Ю. Бібіла. Красавік 1970 г."

Вучоныя ўніверсітэта... Хто з іх не наведваў бібліятэку?! Паўстаюць у памяці некаторыя постаці.

З захаванай смяшынкай у вачах І. Замоцін, спрактыкаваны лектар. Рыхтаваў да друку творы М. Багдановіча і прыцягваў да гэтай працы сваіх вучняў-студэнтаў. З пяшчотнай ухмылкай М. Піятуховіч, выкладчык беларускай літаратуры. Метадыст А. Вазнясенскі цікавіўся творамі Я. Купалы, беларускім тэатрам. Я. Барычэўскі, захоплены фармалістычнымі плынямі. Неяк, калі ён рыхтаваў кнігу "Тэорыя санету" (1927 г.), чытаў рукапіс сваёй працы і прасіў дапамагчы даслоўна перакласці на беларускую мову адзін з санетаў А. Міцкевіча.

Мужная постаць Я. Лёсіка, добрага прамоўцы, аўтара граматыкі. Нізенькі, маленькі "дыялектык" С. Вальфсон. Кудлаты сацыёлаг С. Кацэнбоген. Колькі нерваў папсаваў ён бедным студэнтам! Гісторык Д. Жарынаў. Між іншым, ён у сціслым гуртку знаёмых чытаў свае вершы. А. Савіч – даследчык гісторыі Беларусі XVI – XVIII стст. Засяроджаны, няўважлівы да навакольнага У. Перцаў.

Гебраіст М. Нікольскі з барадою прарока. Яго цікавыя лекцыі цяжка было слухаць, трэба прывыкнуць да нечаканых узлётаў яго голасу. Фізік Я. Успенскі заўсёды заклапочаны, перагружаны ўсякімі парадамі.

Гісторыяй беларускага мастацтва, скарыніянай займаўся М. Шчакаціхін. Чорная аправа акуляраў, нязменная цыгарка, прыгожа аздоблены кіёк. Для таго часу выгляд меў трохі зухаваты. І. Сіманоўскі ўспамінаў, што калі М. Шчакаціхін прыехаў у Мінск і не было, дзе прыпыніцца, начаваў на доўгім стале ў беларускім аддзеле.

Студэнты з краязнаўчага ўніверсітэцкага таварыства А. Каваленя, С. Шутаў, С. Баркоўскі...

А нізенькі, вусаты музыказнаўца Ю. Дрэйзін. Яго густы, з выразнай дыкцыяй, голас і добрая беларуская мова напаўняла залу, нібы тут адбывалася лекцыя на музычныя тэмы. Залятаў часам імклівы Галубок у прамежку між сваімі падарожжамі. Мы хутка рыхтавалі і давалі яму патрэбную даведку, і ён зноў знікаў. А рэжысёр тэатра Е. Міровіч! Як цікава было слухаць яго імправізацыі будучых тэатральных паказаў! Наведаў бібліятэку і бацька Максіма Багдановіча Адам Багдановіч, калі прывозіў у Інбелкульт рукапісы сына. Успамінаецца вусаты твар і высокая хударлявая постаць.

Частыя госці – палымяныя краязнаўцы: архівіст М. Мялешка, этнограф А. Шлюбскі і таленавіты даследчык, няўрымслівы М. Каспяровіч.

С. Некрашэвіч, шукальнік трапных слоў, аўтар беларускіх слоўнікаў.

Не абміналі нас і вядомыя пісьменнікі, і пачаткоўцы-юнакі.

Як прамінуць нашага слаўнага баяна, незабыўнага Янку Купалу. Мілая ўхмылка, задуменныя вочы, кульбака адмысловага кійка на згібе рукі. Ён быў заўсёды жаданым госцем бібліятэкі, з ахвотаю дзяліўся сваімі ведамі пра кнігі па вывучэнню Беларусі, пра аўтараў беларускіх выданняў.

Мне хочацца падрабязней спыніцца на гісторыі майго знаёмства з Я. Купалам. Адбылося яно ўвосень 1920 года, можна сказаць, на краязнаўча-кніжным грунце. Думка аб стварэнні ў бібліятэках краязнаўчых фондаў насілася ў паветры яшчэ да арганізацыі беларускага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі. Для тых, хто хацеў працаваць на карысць роднага краю, важна было ведаць літаратуру. Але сярод інтэлігенцыі было нямала і такіх, што гаварылі: "Павыдумлялі нейкіх беларусаў. Я ўвесь свой век пражыў тут і нічога пра іх не чуў". Трэба было ўзброіцца

ведамі, каб адбіваць і такія атакі. У бабруйскай бібліятэцы такі фонд надумаў стварыць І.Б. Сіманоўскі, будучы арганізатар Дзяржаўнай бібліятэкі. З ахвотаю я згаджаюся здабываць кнігі і еду ў Мінск. З мандатам аддзела асветы з'яўляюся ў акадэмічны цэнтр Народнага камісарыята асветы БССР (тады ён змяшчаўся ў былым архіерэйскім доме, пасля рэканструкцыі – гэта Дом афіцэраў). Тут я і пазнаёмілася з Янкам Купалам, якога мне рэкамендавалі як знаўцу краязнаўчай кнігі. Казалі, што ён працаваў нейкі час у Вільні ў бібліятэцы, любіў і ведаў кнігу, дый у самога ёсць нямала цікавай літаратуры. Я вельмі рада была пазнаёміцца з аўтарам любімай кнігі "Шляхам жыцця": расказала Купалу пра мэту свайго прыезду. Гэта яго зацікавіла, і ён запрасіў мяне да сябе. Жыў Я. Купала тады на Захараўскай вуліцы, за мостам, у невялікім доме, які патанаў у зеляніне. У дамоўлены час я пайшла туды. Мяне спаткалі вельмі ветліва, і Купала, і яго жонка Уладзіслава Францаўна. Купала звярнуў маю ўвагу на дом, дзе ён жыве, і сказаў, што гэта гістарычны будынак: тут адбыўся І з'езд РСДРП. Потым ён пачаў вымаць з шафы кнігу за кнігай і грунтоўна расказваць пра кожную. У мяне проста вочы разбягаліся. Як я агітавала Купалу цяжка сказаць, але пачак кніг ад яго ўсё-такі панесла. Потым не раз ён успамінаў пра гэта, жартам выгаварваў: "Выцыганіла-такі".

Працуючы над складаннем бібліяграфіі творчасці Я. Купалы, я звярнулася да яго з просьбай дапамагчы расшыфраваць свае псеўданімы. З ахвотаю ён згадзіўся. У час імперыялістычнай вайны 1914 г. Купала быў рэдактарам газеты "Наша Ніва". У той час у газеце з'яўлялася шмат белых плям, на іх звярнуў увагу Купала і казаў, што цэнзар тут шчыра папрацаваў. Гартаючы газеты, ён паказваў мне непадпісаныя перадавіцы і артыкулы і казаў: "Гэта маё... І гэта маё!" Калі часам мне трапляў допіс з невядомым подпісам, але стыль заметкі нагадваў купалаўскі, я пытала: "Ці не Купала схаваўся тут?" Ён з мілай ўсмешкаю пацвярджаў. Тады Іван Дамінікавіч пералічыў усе свае псеўданімы, а я запісала іх з адзнакаю, што паведаміў мне сам аўтар.

Аднойчы адчыняюцца дзверы аддзела і з'яўляецца Купала. Адна рука трымае адмысловы кіёк, у другой – вялікі пачак папер. Перадаючы яго мне, ён сказаў: "Гэта мае рукапісы. У вас яны лепей захаваюцца". Праз нейкі час ён прынёс і другі пачак. Гэта былі рукапісы зборнікаў "Жалейка", "Шляхам жыцця", перакладу "Слова аб палку Ігаравым" і шмат асобных лісткоў з вершамі, акуратна перапісанымі рукою паэта. Рукапісамі карыстаўся ў 30-я гады супрацоўнік АН БССР М.Ф. Мачульскі. Пра лёс Купалавых рукапісаў пісала мне ў лісце ад 26 кастрычніка 1946 г. у Саратаў Алеся Александровіч. Яна мне перадавала, што "рукапісы Я. Купалы, якія захоўваліся ў беларускім аддзеле, былі вывезены ў Германію, але зараз звернуты назад. У канцы ёсць розныя паметы, заўвагі, зробленыя Вашымі рукамі. Цяпер яны захоўваюцца ў нашым музеі. Іх усяго каля сямідзесяці. Якое шчасце, што яны захаваліся!"

Купала добра ведаў дарогу ў беларускі аддзел. То яму спатрэбіцца якая-небудзь даведка, то кніга, то спіс яго твораў для Масквы. Заўсёды ён звяртаўся да мяне. Калі не заставаў у бібліятэцы, то завітваў дадому. Калі мне што-небудзь трэба было ўдакладніць, я звярталася да Купалы. Ён вельмі ўважліва ставіўся: тлумачыў, дапамагаў. Мы не раз наладжвалі ў бібліятэцы выстаўкі, прысвечаныя яго творчасці. У гэтых выпадках мы не маглі абыйсціся без яго асабістых архіўных збораў. А яны былі вялікія і багатыя: кнігі, газеты з артыкуламі пра яго творчасць, фатаграфіі. Купала сам мне казаў, што матэрыялаў у яго набралася шмат, а парадку няма ніякага. Ён хацеў, каб я выбрала калі час і давяла яго паперы да ладу, нібы асабісты сакратар. На жаль, у той час я не магла заняцца гэтай ганаровай і такой цікавай для мяне справай, аб чым зараз вельмі шкадую.

Успамінаецца, як ладзілася выстаўка, прысвечаная 30-годдзю творчасці

Я. Купалы ў 1935 годзе. Я зайшла да Купалы дадому. Ён якраз вярнуўся з Прагі і ў час нашай размовы дзяліўся ўражаннямі ад падарожжа, паказваў чэшскія газеты з артыкуламі пра яго. Затым стаў вымаць з шафы пачкі газет, фатаграфій, пісем, кніг і прапанаваў выбраць усё, што пажадаю.

Выстаўка была наладжана ў вялікай зале побач з беларускім аддзелам. Дэманстраваліся рэдкія фатаграфіі, пісьмы В. Брусава, фотакопія верша Лахуці на персідскай мове, прысвечанага юбіляру. У перакладзе на беларускую мову гучаў: "Рыцар магутны, смелае вока..." Было шмат і іншых матэрыялаў, якія зараз назваць проста цяжка. У юбілейныя дні Купала наведаў выстаўку, а ў бібліятэцы адбылося яго спатканне з чытачамі. Пасля выстаўкі ўсё, узятае ў Купалы, я сама занесла яму назад.

Без хвалявання не магу ўспомніць цёплы ліст Я. Купалы да мяне ў Саратаў. У мясцовай газеце "Коммунист" была надрукавана рэцэнзія на зборнік Я. Купалы на рускай мове. Я паслала яму выразку з газеты, напісаўшы толькі: "Бібліяграфічнае прывітанне з прастораў Волгі" без подпісу. На адрас "Государственной библиотеки" (а такой у Саратаве не было) атрымала наступнае: "Мілая Юлія Іосіфаўна! Я надта ўжо ўсцешыўся, атрымаўшы Вашу запісачку з выразкай. Адразу дагадаўся, што гэта пісала Ваша рука. З нецярпеннем буду чакаць вестачкі больш падробнай аб Вашым цяперашнім жыцці-быцці. Ітак, чакаю. Шчыра Вам адданы Янка Купала. Масква, 10.IV.1941 г."

Следам за Я. Купалам і іншыя пісьменнікі сталі прыносіць свае працы. Прынёс М. Грамыка сваю паэму "Крылан", Ц. Гартны "Сокі цаліны" і яшчэ некаторыя творы, Я. Лёсік "Граматыку беларускай мовы", рукапісы і лісты К. Каганца. Прозвішчаў іншых даравальнікаў не памятаю. Атрыманні былі зарэгістраваны ў агульным сшытку, які не захаваўся. Калі ў 1937 годзе я выяжджала, перадала некаторыя рукапісы намесніку дырэктара (неразб.).

Успамінаецца сталая постаць Цішкі Гартнага і гаворка яго неяк у нос. Калі пачалі рыхтаваць зборнік "Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы" (Мн., 1928), прысвечаны 20-годдзю яго літаратурнай працы, М. Байкоў (відаць, з рэдакцыі зборніка) звярнуўся да мяне з просьбаю даць бібліяграфію прац Ц. Гартнага. Мне давялося не раз сустракацца з пісьменнікам і ўдакладняць яго псеўданімы. Ён быў задаволены і нават падараваў мне "Сокі цаліны" з надпісам "Укладальніцы маёй бібліяграфіі".

У 1965 г. у часопісе "Полымя" (№12) Ніна Ватацы ўзгадвала:

"Цішка Гартны быў частым наведвальнікам Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У.І. Леніна. Асабліва часта прыходзіў ён у аддзел беларускай літаратуры і бібліяграфіі. У 1928 годзе першая загадчыца гэтага аддзела, энтузіястка і пачынальніца краязнаўчай бібліяграфіі на Беларусі Юлія Бібіла рыхтавала да друку бібліяграфію твораў Цішкі Гартнага. Зміцер Тодаравіч цікавіўся гэтай работай і вельмі памагаў сваімі парадамі.

У 1931 годзе Цішка Гартны падарыў бібліятэцы многа сваіх рукапісаў. Сярод іх – аўтограф рамана "Сокі цаліны". У час вайны амаль увесь кніжны фонд бібліятэкі быў разграблены фашыстамі. Усе рукапісы Цішкі Гартнага таксама загінулі, частка іх асталася зусім выпадкова. Шчаслівы выпадак памог знайсці невядомы рукапіс. У адным з аддзелаў бібліятэкі стаяў даўно забыты і нікім не чапаны сейф. І вось не так даўно, калі спатрэбілася перадаць аддзел другому загадчыку, успомнілі пра забыты сейф. Якое ж было дзіва, калі ў ніжнім аддзяленні яго аказаліся рукапісы Цішкі Гартнага. У асноўным, гэта былі рукапісы твораў, напісаных у 1930-31 гадах, але сярод іх аказалася нікому не вядомая аповесць "За сваю волю, за волю краіны", якая прапануецца чытачам. Яна напісана ў 1920 годзе, аўтарам не закончана, але, як нам здаецца, з'яўляецца цікавым мастацкім дакументам часу".

Успамінаецца яшчэ адна вельмі каларытная фігура. Як сёння бачу кучаравую галаву і пукатыя, добрыя вочы гэтага чалавека. Вітаўся ён яшчэ з парога і пачынаў распытваць: “Як маецеся? А што чуваць?” Гэта – З. Бядуля. Звычайна я паказвала картатэку яго твораў. Разглядаючы, ён часта рабіў вялікія вочы, здзіўляўся: “І гэта я пісаў? – гаварыў нам з гумаркам. – Нічога ад вас не схаваеш!”

А колькі маладых паэтаў, маладнякоўцаў і немаладнякоўцаў, бачылі сцены аддзела! Паглядзець выстаўку беларускіх кніг, даведацца, што новага выйшла з друку, атрымаць даведку прыходзілі многія. З чубамі і без чубоў, у расхрыстаных кажушках (верх шыку) і паношаных шынелях... Некаторыя з пачынаючых пісьменнікаў нават нейкі час працавалі ў бібліятэцы. Напрыклад, С. Шушкевіч, Я. Пфляўмбаўм, Ю. Таўбін, Зм. Астапенка.

Сваім чалавекам быў І. Барашка, на той час – супрацоўнік архіва. Вельмі каштоўнымі для нас былі яго падарункі – спісаная ў макулатуру папера, на адваротным баку якой можна было пісаць. Каштоўны дар!..

Заходзілі Я. Пушча, студэнт універсітэта, прыгожы з антычным тварам М. Грамыка. З “заходнікаў”, якія трапілі ў БССР, помняцца: круглатвары А. Салагуб і далікатны У. Жылка. Са студэнтаў – часты госць С. Баркоўскі, які любіў корпацца ў розных картатэках. Працаўнік сельскай гаспадаркі (не памятаю прозвішча) зацікавіў мяне сваімі пошукамі кармавога “салодкага” лубіну. Калі скончылася праца ў бібліятэцы, мы выйшлі разам, і доўга ён мне гаварыў пра сваю ювелірную работу, якой ён з натхненнем займаўся.

Колькі іх было! А ці многа засталося? Шмат каму, хто прыйшоў у бібліятэку шукаць дапамогі ў сваёй працы, хацелася падзяліцца сваімі пошукамі, вынікамі і нават задумамі, калі бачылі спагадныя адносіны і жаданне дапамагчы. Мы адчувалі вялікае задавальненне, калі чалавек знаходзіў тое, што шукаў, калі мы яму нечым дапамаглі.

Міхаіл Рубін



...цяжка верыць

дадзенаму прыродай...

# Бульба і бугі

***Раптоўныя замалёўкі***

**Знікненне фразы**

Перачытваць свае тэксты. Тое, што не памятаеш, схаванае там. І тое, чаго не было, таксама. З'яўляецца магчымасць адрозніць. Можна скарыстацца. Аднак...

Тры дні таму я адчуваў павагу да слова, калі пісаў. Сёння не пішу, і гэта таксама павага да слова.

Нават той, хто разумее мову, будзе прабірацца праз другія-трэція сэнсы, а можа, нават не паспрабуе. У вас розныя мовы – ведае ён. Ты – не.

Весці дзённік са спазненнем – гэта, так ці інакш, літаратура.

Ты запісаў цудоўную, прыгожую фразу. А потым яна знікла. Такім чынам, ты запісаў знікненне фразы. Мабыць, гэта і ёсць паэзія

*7.05.18*

## дарожнае

*

не знайшоў памылку там, дзе яе не было, – і ходзіш стомлены ўвесь дзень. цяжкая праца

*

цягнеш сваё так, быццам усё – тваё. захопнік нейкі

*

можна нічога не рабіць, але тады ці будзе што казаць заўтра?

*

пэўная звычка вымушае шукаць адказы ў цёмным лесе, дзе натоўп такіх, як ты

*

чаму я гэта пішу? дарога надыктоўвае ў запас

*7.05.18*

## пра слова

часам слова робіцца самамэтай, і ты імкнешся гэта давесці: слова, самамэта, слова, самамэта. нават не надакучвае. тэкст усё даўжэе, даўжэе, ён сам кажа за сябе

нейкія абмеркаванні... нейкія спрэчкі... нейкія чуткі... нейкія веды... вось так праз шматкроп'і можна працягваць тэкст... далей, далей

не напішаш дзённік, дык хаця б дасі інтэрв'ю – каб потым нешта раптам пра сябе даведацца

слова як самамэта
вымавіў і не можаш зразумець
складаныя стасункі
з сабой

*9.05.18*

## пра выбар

напрыклад, сёння садзіш бульбу, а заўтра граеш бугі – паўтары гадзіны тымі ж рукамі.

і не скажаш: каму бульба, а каму бугі.

з іншага боку, прыйдзецца ж некалі выбіраць. той, хто не можа зрабіць выбар паміж паэзіяй і музыкай, піша песні.

я нават расстаўлю ўсе коскі, каб вы гэта зразумелі

*9.05.18*

### голас

скажаць свой голас, каб казалі, які шчыры
ён шчыры – у яго ёсць свой голас
чуеце гэтыя апладысменты, гэтае вохканне, гэтыя захопленыя вочы прыхільнікаў пафаснай праўды
цяжка верыць дадзенаму прыродай

*9.05.18*

### тлумачэнні

вялікія літары
за імі хаваешся
маленькія літары
так хочаш каб цябе бачылі
усё вельмі проста растлумачыць

*9.05.18*

### праўда

вось даведаемся праўду і стане лягчэй
вось даведаемся праўду і стане сорамна
трэба памерці каб праўда пра цябе дзесьці захавалася

*9.05.18*

* * *

гэта тычыцца тых, каго ты можаш пакрыўдзіць
гэта тычыцца тых, каго ты можаш зрабіць шчаслівымі
не аднаго дык усіх
закон жыцця

*9.05.18*

### стан

натхненне напачатку здзіўляе
здараюцца немагчымыя рэчы і нават магічныя
потым натхненне бянтэжыць
магічныя рэчы робяцца звыклымі, а немагчымыя звыкла знікаюць
прымроілася нешта, думаеш ты
гэты стан можна пралічыць досыць дакладна

*9.05.18*

### праз стому

трэба было пасадзіць бульбу і ляжаць, каб нешта прыдумаць

мабыць, гэта закон, які палягае вывучэнню
ляжаць і ўспамінаць, што там у мінулым
ляжаць і бачыць праз стому
гэта было магчыма толькі пакуль сон не прыйшоў

*10.05.18*

## маршрут

праязны давязе куды заўгодна
а як згубіш праязны пачынаеш інакш пракладаць маршрут
хоць гэта і немагчыма
але маршрут унутры цябе ўжо іншы
думаеш так і ўсё даруеш

*10.05.18*

## немагчымае

калі прыдумаў мелодыю і назаўтра памятаеш – гэта добрая мелодыя

калі прыдумаў мелодыю і не памятаеш – гэта мелодыя з тых, якія з’яўляюцца толькі аднойчы

другі раз не напішаш тое, што знікла назаўжды

але немагчымае цягне за сабой

*11.05.18*

## веды

яны ўсё ведаюць, але нічога не робяць
калі я нічога не раблю, мне становіцца сумна
я таксама пачынаю ўсё ведаць
не ведаю, што рабіць

*11.05.18*

* * *

вельмі падобна на тое, што гэта не апошняя спрэчка
выказаў думку, чакаю абвяржэнняў
дарослы быццам чалавек
а сядзіць тут ужо другую гадзіну
ніхто не ратуе

*12.05.18*

## тэзісы

напрыклад я прамовіў тое-сёе
асноўныя тэзісы шчырасці
галоўныя пастулаты гонару

з улікам гістарычнай і маральнай перспектывы
а яны кажуць зрабі цішэй тут спяць дзеці

*12.05.18*

## лёс

злітасцівіўся
нічога не казаў пра Бога
пра волю таксама
стаяў агаломшаны, калі выявілася запазычанасць
лёс не падманеш

*12.05.18*

## рэшта

вось кажуць талент
у краме забыў рэшту
піша нешта
спадзяюся адчуць

*12.05.18*

* * *

псіхалагічная дапамога працуе тут і цяпер
учора яна не працуе, бо позна
заўтра яна не працуе, бо рана
гэта вельмі проста не зразумець

*13.05.18*

## пачуцці

мабыць, нават і сумую
ты не чытаеш мае паведамленні
мы так дамовіліся
мы ведаем пра пачуцці ўсё

*13.05.18*

## фільм

другая серыя бульбы
ніякіх фота
ніякіх фота
гэты фільм трэба спыніць годна

*13.05.18*



Леанід Галубовіч



…паэзія – з нікога і з нічога,

але – да некага і нечага…

# “Па-за межамі верша…”

***Сабина Брило. Это буквы. – Минск: Кнігазбор, 2016. – (Библиотека Союза белорусских писателей “Кнігарня пісьменніка”; вып. 87). – 140 с.***

Штуршком для напісання гэтай рэцэнзіі стала не кніга, як тое бывае зазвычай, а сама аўтарка, якую я абсалютна не ведаў, а толькі сутыкнуўся з яе пастамі ў Фэйсбуку. Яны былі больш чым арыгінальнымі. Не зважаючы на пераважную рускамоўнасць, імя запомнілася. Да таго ж Сабіна Брыло аказалася яшчэ і паэткай. Таму мая ўвага да яе асобы абвастрылася. Тым больш, што з яе вершамі сустракацца не даводзілася. Пагартаўшы даведнік Саюза беларускіх пісьменнікаў і натрапіўшы на яе імя, я разгубіўся дарэшты. Аказваецца, чалавек – сябар тваёй творчай арганізацыі, а ты пра яго – ні бэ, ні мя... Ды тут якраз і падаспела гэтая кніжка з лагатыпам “Кнігарня пісьменніка”. У анатацыі да зборніка (не ведаю нават, дэбютны ён ці чарговы, для мяне – першы) напісана, што Сабіна Брыло *“один из наиболее ярких авторов поэтическога андеграунда здесь и сейчас. Трудно сказать, как работают эти несложные, на первый взгляд, тексты, но эффект, который они производят, удивителен”*. І з

гэтым нельга не пагадзіцца, прынамсі, мне. Пры чытанні адбылося нешта падобнае на ўзор вось гэтай філалагічнай страфы аўтара:




казалось бы всего лишь встреча
ничего не произошло особенного
еще вчера было не до тебя
а теперь неважно, что до тебя было

Ну, гэта калі мець на ўвазе саму паэзію. І ўжо зусім як бы маладатычная да зместу рэцэнзіі дэталь. Так супала, што я пішу яе якраз напярэдадні 100-годдзя БНР і запальных рэзанансных спрэчак вакол арганізацыі гэтага свята. Вось, думаю, вельмі дарэчным да такога эмацыйна-апазіцыйнага расплёску быў бы гэты верш (па іроніі заключны ў зборніку) Сабіны Брыло:

—Чего столпились на площади,
граждане-люди?
Казни сегодня не будет,
чего ж вам надо?
– Мы все здесь хотим любви:
большой, настоящей,
невиданной, неописуемой –
разве нет?

Выбачаюся за такі нечаканы адыход ад рэцэнзійнай канвы. А што канкрэтна да кнігі, то яна адразу, па першачытанні, справакавала ўва мне ўнутраны душэўны дыскамфорт і выклікала на своеасаблівы завочны дыялог з аўтарам. І гэта, трэба прызнацца, няпростая задача. Бо **паэтка** (і не толькі калі піша па натхненні, але і жывучы насуперак яму) мае адметны ўласны голас, які сёння вылучаецца ў беларускай паэзіі незалежна ад мовы пісьма, хоць, адзначым, што Сабіна зрэдку практыкуе і па-беларуску. І вось гэты голас, а такіх у нашай сучаснай паэзіі вельмі мала (А. Разанаў, Н. Артымовіч, Дз. Строцаў, Я. Дашына ды Н. Кудасава), адразу западае ў памяць і не зблытваецца ні з чым іншым. Яго хочацца назваць натуральным, а не тым творчым метадам, што падпадае пад вызначэнне сцёбу ці правакацыі. Ва ўсякім разе, у ім адчуваецца свая адметна-ўласная танальнасць і інтанацыя. А на ўсплываючыя пытанні творчага жыцця, якія заўжды падразумяваюцца ў паэтычных падтэкстах, аўтар адказвае амаль па-ахматаўску: *“Поэтому спрашивай меня о незначительном”*, відаць, маючы на ўвазе помнае “класічнае смецце”, з якога растуць вершы. Трэба сказаць, што своеасаблівы нязмушаны стыль паэтычнага пісьма спараджае парадаксальнасць і надломленасць *мастацкага мыслення*, яго вытанчанасць, хоць і не заўсёдную бездакорнасць.

З цяжкасцю на сэрцы падкрэслю, што, на маю думку, рускамоўным вершам С. Брыло дыхаецца вальней і глыбей, чысцей і ўражлівей – метафарычней, разняволеней і мудрэй... Ну што тут скажаш, такі чалавек мае права пісаць па-руску, як на роднай мове. А тое, што і сама адпрыродная мова нацыі і народа яе далёка не адпускае – гэта таксама знак паразумення паміж грамадзянінам і паэтам. Зрэшты, жыццё пад рампай, пад юпітэрам – вядомасць, папулярнасць, слава – усё гэта блякне, калі апынаешся ў звычным цені агульнага людскога свету, дзе пражэктар святла не акцэнтуецца толькі на тваёй постаці – а на ўсім, што вакол і ўнутры цябе: ты гэткая ж пыліна вечнасці, як і ўсе. Званне і прызванне? Так...

Но это иллюзия, потому что там, где кончается свет фар,
Над тобой потешаются те, кого не зовут никак.

Каб выказаць істотнае па-беларуску, аўтару даводзіцца выкарыстоўваць вельмі шмат  неабавязковых слоў, тады як па-руску – наадварот, бо гэтая мова ўжо растварылася ў крыві – і, відаць, чырвоных цельцаў там значна больш, чым белых... Хоць іх суплёт (зродненасць) непазбежны... Кажу гэта, маючы на ўвазе беларускамоўны верш “Два дамы”. *(“Непреодолимый язык – наилучшее средство/ для укрепления наинадежной/ между нами стены”)*. Мімавольна ўспамінаеш Р. Фроста з яго папраўкай плота на мяжы з суседам.

А ўвогуле: *“Сам отвечай за все (особенно за слова!)”*, бо

Ты ведь знаешь
что слова обессиливают
Что после слов наступает
пустота пустосветная

Тым больш, што ў межах паэзіі, а лепш сказаць, у паэтычным бязмежжы – няма часу як такога. Застаючыся без Слова, мы зноў вяртаемся да біблійнага Пачатку – да “зямлі”, якая была “нябачнаю і пустою і цемры над безданню”... Калі гэта спраектаваць на канкрэтнага чалавека (аўтара) і яго душу – то такая праява нечым падобная на акт “беззаганнай нематы”, які ў рэшце рэшт спараджае голас жыцця... І тады незалежна ад нашай волі наступае фаза своеасаблівай творчай рэфлексіі:

За пределами стихотворения
иногда хочется секса
или что-нибудь делать руками
..........................................
Иногда накатывает другое
про него говорят “накрыло”
Тогда все равно: свидетели есть или нету.

Паэзія – з нікога і з нічога, але – да некага і нечага. Яна ёсць існасцю духа.

У творчасці С. Брыло візуальна вызначаная адстароненасць ад класічна-традыцыйнай беларускай паэзіі. Яна як бы піша на “палях” ейных рукапісаў, выбіваючыся ўласна пазначаным пісьмом з агульнага шэрагу. Не маргінальнасцю я гэта назваў бы, а пакутным “путничеством”:

Потеряться в людях страшней, чем заблудиться в лесу.
Так начинаешь бояться, просить и верить.
И если сосны тебе говорят, где север,
То мест, куда указуют люди, – не существует.

Кажучы празрыстай мовай, большасць з таго, з чым чалавек штодзённа сутыкаецца, ёсць яго (не)паразуменнем з усім акаляючым, чаго не можа быць у спрадвечнай Прыродзе, іначай бы разбурылася гармонія светабудовы, у тым ліку і Боскай. Магчымым штуршком для верша магло быць вядомае выслоўе “заблудиться в трех соснах”...

У зборніку шмат вершаў, якія тым ці іншым бокам, а часцей наўпрост, балюча закранаюць тэму кахання і па-мастацку трансфармуюць ролю жанчыны ў сучасным свеце (агукваецца актуальнае сёння гендэрнае пытанне). Але, здараецца, што насуперак усяму пішуцца вершы – як гелевыя паветраныя шары – лёгкія, празрыстыя, высокія, напоўненыя задыханымі эфірнымі пачуццямі, ад якіх і залежыць вышыня душэўнага палёту... Дзе нават узроставае набывае цэнз вечнага:

Хочется старости.
Страсти к цветам:
розам и белому, крокусам (синим).

Хочется шерсти овечьей, огня
в печке,
тебя – еще старше, еще красивей.

Падалося, што аўтар адразу хацела выдыхнуць гэты верш увогуле без слоў – “осязаемым” уяўленнем і непамысным пожадам. Пры чытанні ствараецца насамрэч адсутная імітацыя рыфмоўкі. Усё гэта называецца паэтычным майстэрствам. Не высілена-выпісаным творчым актам, а інстынктыўна выседжаным “птушыным яйкам”... Можа і перабольшваю ў такіх “лётных” характарыстыках, але, сыходзячы з уласнага літаратурнага вопыту, такое вызначэнне намацваецца. Хоць нярэдка праяўляюцца і адваротныя праявы жаночай долі:

Уже на доске разделочной я лежала
и он уже занес надо мной жгучую сталь
.........................................................
Но свеху сказали: хватит!
Ты выдержал испытание
Он опустил сталь виновато
Я подумала: черт, опять эта скука
черт

Сямейны быт, загнаны ўнутр раздрай і адчай існавання, калі ў цябе амаль не застаецца выбару, як у галоднай рыбы перад чарвяком на прынадным кручку... Альбо, як у вершы “Я бы тоже, наверное, прогнала из своего сада”, дзе заўважна высвечваецца перавернутая асацыяцыя з кнігі Быцця: нібыта не яна (жанчына) спакушаецца і есць яблык, а той, на каго яна... “спускает цепных ангелов”. Вось гэтыя анёлы на ланцугу і ёсць тым драбком паэзіі, што растварaецца ў сутве зямной чалавечай прозы і робіць яе жыццястваральнай... Ну, і гэты шэдэўр:

Ён увайшоў да яе, як гусарскі полк:
рондалі, лыжкі, відэльцы –
усё пасыпалася...
Шкварчэў на патэльні тлушч,
пырснуў на грудзі –
яна не адчула болю,
бо пекла – іншае.

Верш цудоўны, адзіны з такіх на беларускай мове, а іх усяго тры ці чатыры; ён гукарадны і па-салдафонску напорысты – словы, як вайсковыя каманды на маршы, аднак канцоўка выратоўвае паэзію ад паразы. Бо, хоць яна штосьці там пякла-смажыла, але ёй **пёк** не *апёк* ад гарачых пырскаў тлушчу, а зусім іншае, яе даставала пакутнае пачуццё, можна нават сказаць, ёй так пякло, што яна пры *ім* адчувала сябе як у Пекле... Часам С. Брыло піша ад першага (уласнага) імя, а нярэдка – ад трэцяга (мужчынскага ці проста мужнага альбо мужняга). Але мне на гэтым не хочацца засяроджвацца, бо я, як кажуць, не ў тэме. Спынюся лепш на чорна-белым калейдаскопе празаічных алюзій, што складваюцца з будзённых праяў, ілюзорных чаканняў ды няспраўджаных пачуццёвых узрушэнняў. Мне цяжка сказаць, наколькі блізкія да біяграфічных тыя ці іншыя паэтычныя пасылы і вектары гэтых метафарычных гісторый. Адчуваецца, што тады як другія займаюцца бытаўладкаваннем і самасцвярджэннем, галоўная гераіня вершаў найперш прагне наладзіць унутраную гармонію жыцця – застыўшы *“перад вакном свету”*, аднак нярэдка апынаецца сам-насам перад устылым ёй сталом, і не перад пісьмовым, а кухонным. Здзіўляешся *востра* выпісанай трывучасцю яе натуры:

...берешь, чтоб нарезать хлеб,
темную деревянную дощечку, купленую на заре семейного бюджета, –

улыбаешься и говоришь ей: а что, родная,
ты еще вполне ничего
после стольких ножей.

Здавалася б, якое можа быць прасвятленне пасля такога бытавога зацьмення, тым больш згадаўшы лядоўную і замарожаныя пачуцці з верша *"я как еда в твоем холодильнике..."*?! А не, гэта чыста-нязводная жаночая лірыка, у якой заўжды напагатове настальгічна-пяшчотная вонкава-абарончая абалонка:

А бывает, с утра до вечера
от одного новолуния до другого
от покупки новой губной помады
до конца ее срока годности
(который приходит к ней, непочатой) –
думаешь об одном человеке

І хоць, на мімаходны погляд, натура паэткі крохкая, схільная да дэпрэсій, аднак, – сам сабе думаеш – і трывуча-моцная, нярэдка псіхалагічна мужная, раз пры такіх памежна-стрэсавых вычуваннях яна піша СЯБЕ менавіта такой, як ёсць. Відавочна, што яе займае пошук любові і паразумення з людзьмі і светам – і гэта галоўны падтэкставы, а то і наўпроставы пасыл яе вершаваных тэкстаў, якія выношваюцца ў арытмічнай напружанасці чалавечага сэрца, дзе хапае месца ўсім, хто туды стукаецца ("Рядом с твоим домом").

*"Порядок, по-моему, понятие тоталитарное"*, – піша Сабіна Брыло. І на гэтым фоне ўсё ж адчуваецца, што гэтыя вершы, гэтая яе кніга не выяўляюць усяго аўтара дарэшты – паэта, творцу – а толькі некаторыя *нявысвечаныя* (нявысветленыя), кутнія, заўважна выпуклыя і выяўныя месцы яго натуры... Ды што казаць, чалавек-творца – як Прырода, калі ён ёсць, то няважна, які ён ёсць, бо ён не валодае тым, што мае, і незалежны ад таго, што губляе (*"А бывает, что ничего у него не осталось..."*).

Пішучы пра чалавечы час і яго зямную сутнасць, С. Брыло кажа, што такое пачуццё –

это не страх, не отчаянье
это усталость и чувство
что стоишь на остановке
а его все нету и нету
но деться-то некуда
и время, по сути, идет
но фактически – не идет
потому что ведь остановка

Класная парадаксальная алюзія на супастаўленні рэальнага і ірэальнага, рэчаіснага і *пазабыццёвага*... Той выпадак, калі філалагічнае мыслярства дацягваецца да філасофіі. Паэтычны зборнік "Это буквы" чытаецца не на адным дыханні, як іншы раз кажуць, жадаючы нешта ўхваліць, а – як кардыяграма, якую сам пацыент не можа *расчытаць* і трывожна чакае яе расшыфроўкі... Аднак і я – не доктар, ды і крытык не зусім прафесійны, а – толькі спецыфічны чытач, які хоча "ўлезці ў шкуру" аўтара... Таму, па сутнасці, чакаю расшыфроўкі паэзіі С. Брыло тым доктарам, які называецца Час... А ў гэтым водгуку на яе зборнік я толькі падзяліўся пэўнымі думкамі ад яго прачытання. Каб не было здзіўлення пра неабходнасць кардыяграмы, наастатку дадам свае крытычныя заўвагі. Скажам, верш *"Кричал, что любит этот салат..."* нагадвае мне верш літоўскага класіка Іманта Зіедоніса *"Я ем вінаград..."*. Ну і, скасаваўшы шэраг неабавязковых вершаў ("Убил тебя сковородкой...", "Она могла бы в кожаной куртке ехать на мотоцикле...", "Опыты", "Вещи", "когда ты

показываешь другому...”, “Тир “Biblio”, “если бы не было необходимости все делать как нужно...”, “напишу-ка эти колготки...”, “Гадзіна пік. Да сваіх нораў...”, “Родные мои! Возьмите меня по кусочкам, съешьте!”, “Хочешь сделать мне весело...”, “Бог даст”, “Помнишь, во времена дефицита...”, “Час сыходзіць”, “двадцать девятое августа кончилось...”, “мыла пол без перчаток...”, “В комнате такой теплый...”), магчыма, гэты зборнік стаў бы больш дасканалым, важкім і натуральным. Зрэшты, мой мастацкі густ даволі суб’ектыўны. Пра ўсё лепшае, а ў кніжцы адмысловых вершаў пераважная большасць, я ўжо сказаў вышэй. Таму ёсць спадзяванне, што нешматлікія чытачы паэзіі глянуць на творчасць паэткі з іншага ракурсу. Бо шырэйшай чытацкай і крытычнай увагі Сабіна Брыло заслугоўвае. А ёй самой, затоена пасміхнуўшыся, калі яна прачытае гэты опус немаладога чалавека, жадаю холадна-адстаронена ўспомніць радкі аднаго свайго верша:

Думаю, однажды один старик
кому- то расскажет и о тебе
...............................................
ты бы по части фактов не согласилась
как минимум с половиной
и на две трети предложила бы
сократить интерпретации.
Тогда б старик возмутился,
сказал бы, что он прекрасно
помнит, что он имеет
дневниковые записи.
Ты бы сказала: ладно,
ведь то, чего больше нету, –
сокращать бесполезно;
рассказывай, как хочешь.

# У пошуках сэнсу

### *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Уладзімер Арлоў. Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; вып. 23). – 252 с.**

Не паспеўшы выйсці, новая кніга Уладзімера Арлова, што нячаста здараецца з кнігамі паэзіі, прыцягнула ўвагу крытыкаў. "Балады Арлова – гэта спрэс асацыяцыяі, сімвалы, шырокая геаграфія, перанаселенасць, і ўсё аздоблена іроніяй... Але найбольш уражвае не эрудыцыя аўтара ці паэтычны досціп, а ўменне ўпарадкаваць хаос, які творыцца наўкол і адбіваецца ў паэзіі Арлова. Здаецца, ён адразу скарыўся хаосу. І хаос адказаў тым жа. Як дзікі звер, які адчуў, што яго не збіраюцца прыручаць, заспакоіўся і дазволіў даследаваць сябе. Ад пухнатай і мяккай грывы – да смертаносных іклаў..." (Наста Грышчук). "Усіх сваіх герояў Арлоў нібыта ўсаджвае за адзін вялікі стол з шырокім алкагольным асартыментам: грапа, франкоўка, тарапака, пазней з'яўляецца гвірабі і кава «з вогником» — атрымліваецца поўны гастракалейдаскоп. Апісанняў ежы ў баладах вобмаль, алкаголю — багата. Усё проста: героі Арлова даўно пераплылі разам з Харонам свой Стыкс, таму ў ежы не маюць патрэбы, а вось выпіць заўжды гатовыя, так весялей..." (Алесь Кіркевіч). То – ласкава запрашаем аматараў выдатнай паэзіі да выкшталцонага пачастунку!




**Алесь Бычкоўскі. У пошуку шчасця. – Гомель: Барк, 2017. – 156 с.**

Алесь Бычкоўскі, добра вядомы як аўтар, які працуе перадусім у рэчышчы фантастычнай прозы (найперш – па кнігах "Горад за 101-м кіламетрам" і "Анамалія"), гэтым разам здзіўляе чытача зваротам да больш рэалістычнай (не блытаць з прыземленай!) матэрыі. Жанравая вызначэнне, якое пісьменнік дадае да твораў сваёй новай кнігі, – "правінцыйныя казкі". Ёсць тут і бытапісальна-дзённікавыя абразкі ("Кроплі"), і пранізліва-лірычныя занатоўкі ("Бабуля", "Апошняе прызнанне"). Месцамі аўтарскі наратыў саступае месца фельетоннай інтанацыі. Але і ад сваёй улюбёнай фантастычнай ці, праўдзівей, – фэнтэзійна-сюррэалістычнай стыхіі – аўтар цалкам не адыходзіць ("Майстра скрыпак", "Вычварэнцы", "Помста"). Выклікае хіба шкадаванне, што гэтай кнігі мы не пабачылі ў поўным спісе намінантаў на сёлетнюю прэмію Ежы Гедройца.

**Пятро Васючэнка. Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; падсерыя “Каляровы ровар”; вып. 23). – 104 с.**



Пабачыў свет працяг прыгодаў культавых для некалькіх пакаленняў дзяцей і іх бацькоў персанажаў – чароўных у сваёй блазнаватасці вызнавальнікаў У-Вэю па-беларуску – паноў Кубліцкага ды Заблоцкага (першая кніга пра паноў выйшла ажно ў 1989 годзе). Як сцвярджае аўтар, усе ягоныя казкі, як ранейшыя, так і новы раман-казка, адрасаваныя шырокаму колу чытачоў, літаральна ад 0 да 99 гадоў. “Пятро Васючэнка стварае для юнага чытача свет менавіта беларускі, балаганна-батлеечны, дзе ёсць збяднелыя шляхцюкі і вандроўныя артысты, Паганы Цмок і пачварная Кура–Шчабятура. Праўда, у сіквеле больш містыкі і готыкі, гумар часам пераходзіць у сатыру” (Людміла Рублеўская).

**Ганна Кандрацюк. Па Прыпяці па Нобель. – Беласток: Праграмная рада тыднёвіка “Ніва”, 2017. – 300 с.**




Гэтая кніга вандроўных эсэ (ці, паводле кіношнай тэрміналогіі, – травелог) нарадзілася ў часе падарожжаў журналісткі беластоцкага тыднёвіка “Ніва” Ганны Кандрацюк да вытокаў Прыпяці. “Чароўнае, казачнае, неверагоднае і абсалютна невядомае нам Палессе агаломшыць вас сваёй фантастычнай рэальнасцю і магічнай аўтэнтычнасцю” (Барыс Пятровіч). “Па Прыпяці па Нобель” – гэта цыкл рэпартажаў, які расказвае не толькі пра мінулае, сучаснае, але і пра будучыню палешукоў. Як адзначае Ганна Кандрацюк, “фактычна, мы ведаем Палессе праз здымкі і праз песні. А рэпартаж – гэта вандроўка па старажытных месцах, як гэтая даліна Прыпяці, якую лічаць прарадзімай славян. А я думаю, не толькі славян. У гэтым найстарэйшым краі можна зразумець, што адбываецца ў наш дзень, што можа прыйсці” (Радыё Рацыя).

**Сяргей Шапран. У пошуках сэнсу: інтэрв’ю і дыялогі са Святланай Алексіевіч. – Смаленск: Інбелкульт, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 106). – 284 с.**




У новай кнізе Сяргея Шапрана змешчаныя інтэрв’ю і дыялогі Святланы Алексіевіч – “пра час і пра сябе, пра Беларусь і Сусвет, пра настаўнікаў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, пра свае кнігі і іх галоўнага героя – маленькага чалавека Чырвонай утопіі – і ёсць зместам гэтай кнігі, якая пісалася-складвалася чвэрць стагоддзя”. Як адзначаецца ў прадмове, тое, што прамаўлялася і дзесяць, і дваццаць пяць гадоў таму, гучыць актуальна і сучасна. “Мусіць, гэта адна з найадметнейшых яе (С. Алексіевіч) рыс – быць надзённай у сваім часе, а яшчэ мець рэдкую здольнасць зазіраць за межы часу”. У зборніку змешчаны рэдкія фотаздымкі, зробленыя Сяргеем Шапранам у розныя гады. Кніга выдадзеная акурат да юбілею Нобелеўскай лаўрэаткі.



# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** — філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Артымовіч Надзея** – паэтка. Аўтарка кніг вершаў «Роздумы», «Сезон у белых пейзажах», «З неспакойных дарог», «Дзверы» (разам з Алесем Разанавым), «Лагодны час», «Адплывае спакойнае неба», «Жоўтая музыка» і інш. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы. Нарадзілася ў 1946 годзе ў Аўгустове, Бельскі павет (Польшча). Жыве ў Бельску-Падляшскім.

**Бабкова Вольга** – літаратарка, гісторык-архівіст. Займаецца даследаваннем і выданнем тэстаментаў беларускай шляхты XVI—XVIII стст. Аўтарка кнігі эсэ па гісторыі штодзённасці ВКЛ «...І цуды, і страхі». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча (2010). Нарадзілася ў Мінску ў 1961 годзе, дзе і жыве.

**Бандурына Крысціна** – паэтка, празаік. Фіналістка конкурсу »Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава (2014). Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2016). Фіналістка конкурсу маладой паэзіі фонда Роберта Боша (2017). Нарадзілася ў 1992 годзе ў Мазыры. Жыве ў Мінску.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Бельскі Алесь** — празаік, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг прозы «Ружовая знічка», «Хроніка смутку», «Сны пра дзяцінства» і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (2000). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў мястэчку Цімкавічы на Капыльшчыне. Жыве ў Мінску.

**Бібіла Юлія** – бібліёграф. Склала бібліяграфію твораў Ц. Гартнага. Апублікавала матэрыялы да біяграфіі Цёткі. У 1930-я гады была рэпрэсаваная і высланая за межы Беларусі. У 1937—59 гг. была галоўным бібліёграфам бібліятэкі Саратаўскага ўніверсітэта. Вярнулася ў Мінск у 1959 годзе. Працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР. Нарадзілася ў 1897 годзе ў мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл.). Памерла ў 1974 годзе ў Мінску.

**Брава Алена** – празаік, журналіст. Аўтарка кніг прозы «Каменданцкі час для ластавак», «Тапіць дзяўчынак тут дазволена», «Змяя, пакрытая пёрамі птушкі сонца», «Імя ценю — святло», «Дараванне». Нарадзілася ў 1966 годзе ў Барысаве, дзе і жыве.

**Бяласін Яўген** – перакладчык, паэт, журналіст. Перакладае з нямецкай, ангельскай і польскай моваў. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Грынявічы на Гарадзеншчыне. Жыве ў Берасці.

**Вайніцкі Сяргей** – празаік. Прафесійны музыка. Навучэнец Беларускага калегіюма. Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** – паэтка, перакладчыца, лінгвістка. Аўтарка кніг «Няголены ранак», «Прысак і пожня», «Сумны суп», «(в)ядомыя гісторыі» і інш. Стыпендыятка міжнародных праграм для пісьменнікаў і перакладчыкаў (Аўстрыя, Нямеччына, Латвія, Швейцарыя), удзельніца шматлікіх міжнародных канферэнцый і літаратурных фестываляў (Славенія, Германія, Чэхія, Швейцарыя, Польшча і інш.). Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Драздовіч Язэп** – мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог. Адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага гістарычнага жывапісу. Пісаў вершы, прозу, вёў дзённікі. У 1923 г. у Вільні была надрукавана першая частка яго аповесці

«Вар'ят без вар'яцтва». Пад псеўданімам Я. Нарцызаў выдаў кніжку «Пабрацімцы і вялікая шышка» (1923). Аўтар навукова-папулярнай брашуры па астраноміі «Нябесныя бегі» (1931). Нарадзіўся ў 1888 годзе ў засценку Пунькі Дзісненскі павет, Віленская губерня, (цяпер Глыбоцкі раён). Памёр у 1954 годзе ў г.п. Падсвілле (Глыбоччына).

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982). Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Кабржыцкая Таццяна** – літаратуразнаўца, перакладчыца. Аўтарка кніг «Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку ХХ ст.», «Слядамі знічкі: Пра Сяргея Палуяна» (у суаўтарстве з В. Рагойшам). Лаўрэатка Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Франко, узнагароджана ордэнам Святой княгіні Вольгі (Украіна). Нарадзілася ў 1941 годзе ў Кіеве. Жыве ў Мінску.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Клімянкоў Іван** — празаік, драматург. Аўтар кнігі «Сеанс гіпнозу», аповесцяў «Званая вячэра», «Паядынак (Фантазія на шахматную тэму)». Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Хляўно на Кармяншчыне. Жыве ў Мінску.

**Мароз Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Плютовіч Ежы** – польскі паэт і эсэіст. Аўтар кніг вершаў «Некалі значыць ніколі», «Пачутае да канца», «Пусты гадзіннік», «Матылёк і камень», «Рака. Цені на вадзе», «Катлавіна», «Забытая вайна (Еўропа пасля дажджу)» і інш. Трохразовы лаўрэат літаратурнай прэміі В. Казанэцкага. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Бельску-Падляшскім, дзе і жыве.

**Райт Кэралайн** – амерыканская паэтка. Першы зборнік выйшаў у 1977 г. Разам з паэтам і мужам Форэстам Гэндэрам была рэдактарскай выдавецтва *Lost Roads Publishers* больш за дваццаць год. З 1983 выкладала ва ўніверсітэце Браўн (Роўд Айлэнд). Узнагароджаная шматлікімі прэстыжнымі амерыканскімі прэміямі ў галіне літаратуры. Нарадзілася ў 1949 годзе ў Маўнтын-Хоўм (Арканзас). Памерла ў 2016 годзе ў Барынгтоне (Роўд Айлэнд).

**Рубін Міхаіл** – паэт, кампазітар. Аўтар кніг вершаў «Книжка с картинками», «Лёгкие намёков», «Голоса с постановкой молчанием», «Каждому», «Пераклад з іншага». У 2016 стаў адным з пераможцаў фестывалю «Бардаўская восень». Нарадзіўся ў 1976 годзе ў Віцебску. Жыве ў прыгарадным пасёлку Руба.

**Сцяпан Уладзімір** — празаік, паэт, мастак. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка», «Настаўнік. Сяргей Пятровіч Каткоў». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Хейдарава-Паўлікава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996). Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Прыступкі да Храма Святога Духа» і інш., драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт». Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

**Чарнякевіч Ціхан** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтар крытыка-біяграфічнага нарыса «Вандроўнік: кніга пра паэта Уладзіміра Някляева». Укладальнік і каментатар кніг «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы» і «Лявон Савёнак "Творы"». Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Пінску. Жыве ў Мінску.

**Чаропка Вітаўт** – празаік. Аўтар гістарычнага рамана «Храм без бога», кніг «Імя ў летапісе», «Уладары Вялікага княства», «Гісторыя нашага імя», «Перамога ценю» і інш., артыкулаў па гісторыі Беларусі. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Ягораў Валерый** – паэт, матэматык. Заснавальнік кампаніі ПУП «Сакрамент IT», якая займаецца распрацоўкамі ў галіне штучнага інтэлекту. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў г.п. Краснаполле на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.